# РАННІ СНЕГ

I

«Што ж за яна? Якая з сябе? Чарнявая ці русявая? Прыгожая ці так сабе?» — думаў Аляксей, збіраючыся ўдарогу.

«Ат, што мне з таго? Прывязу. Няхай пажыве. Пабачым, колькі яна напрацуе»,— адмахнуўся ад надакучлівых думак. Але хіба ад іх адаб'ешся? Пах прыгарэлай бульбы нагадаў дом і маленства, родную хату, маці і сястру, такі ж туманны ранак, ракітнік у пацерках дымнай расы, адзінокую дзічку на выспе пасярод ракі, цёмную віратлівую ваду над калодаю счарнелага дуба, густы аер і сітнік на ўзбярэжжы. Прамільгнулі выпадковыя малюнкі маленства і расплыліся туманным воблачкам ядранай раніцы.

Каля печы гаспадыйя адцэджвала вялікія чыгуны з дробнаю «свіною» бульбаю. Пах той бульбы, бразгат качаргі па прыпечку заўсёды будзілі ўспаміны, вярэдзілі душу шчымлівай тугою па далёкім незваротным маленстве.

Аляксей нацягнуў зялёную, абшмуляную на рубцах целагрэйку.

— Зноў галодны ляціш! Укусіў бы чаго, а то ўчарнеў, не раўнуючы, як той грак,— ушчувала яго гаспадыня.

— Нічога, Дзяменцеўна, на жывой касці цела нарасце. От набегаюся за сваім канём, дык чыгун бульбы ўбяру.

— Ты б яго, гада, стрыножваў. Ну ж і ўдружылі табе падлу! Пакуль не ўперлі яго школе, некалі ўсёю брыгадаю мудрэй за ганчакоў бегалі за гэтаю ваўкарэзінаю. Як абгарэў на пажары, кручаны стаў, людзей баіwца. Куды ж збіраешся?

— У раён. Па новую настаўніцу.

— Абы-якую не бяры. Глядзі, каб баская[1]

— Якая дастанецца,— усміхнуўся Аляксей і, згінаючыся, каб не выцяцца аб вушак, выскачыў з хаты.

За сялом у тумане, як прывіды, цьмелі старыя алешыны і кусты шыпшынніку, цягнула вільгаццю, канапляным духам і прывялым бульбоўнікам. Глуха тупалі і ржалі спутаныя коні, выплывалі і раставалі ў густым тумане галовы і спіны. Коней ніхто не пасвіў: вакол сяла была выгараджана паскоціна — сталочаны выган, але за ноч і на ім трохі наскубваліся каровы і коні. Аляксей хацеў знячэўку ўхапіць свайго каня за грыву і накінуць аброць, але дзе ты яго знойдзеш, калі і за тры крокі нікога не пазнаеш.

---

[1] Баская (сібірскі дыялект) — прыгожая.

Хоць і папахадзіў Аляксей па паскоціне, але ўсё ж знайшоў каня за кустамі шыпшынніку, падпоўз і ўхапіў за грыву. Конь толькі захроп ды сінім вокам бліснуў, скокнуў разы са два, але кароткае пута не дало разагнацца, падрыпаў на месцы, пажмакаў рукаў целагрэйкі. Аляксей сцёр зялёную пену аб вільготную ад туману конскую шыю, накінуў аброць, распутаў, ускочыў на мулкую спіну ў зарубцаваных апёках, крануў абцасамі пад бакі і патрусіў на школьны двор.

Яшчэ звечара ён выпрасіў лёгкі «хадок» у дырэктара дзіцячага дома, падмазаў колы, свежую траву прыкрыў дзяружкаю, каб усё было па-людску. Пад'ехаў да хаты, у якой кватараваў, закінуў лейцы на слупок плота, забег узяць плашч і торбачку з хлебам. Але Дзяменцеўна сілком сунула ў руку гарачую аладку і паставіла кубак сырадою.

— З'еш, кажу! Онь майткі, як на тычцы, матляюцца, глядзець брыдка. Еш, еш, не ўпінайся!

Аляксей пахапаў стоячы, падзякаваў, накінуў гаматны брызентавы плашч, ускочыў у кашоўку, і тольгі заляскацелі па вуліцы колы.

За паскоцінаю туман ужо спаўзаў у нізіны, малінавае сонца пазалаціла зубчастыя верхавіны лесу, замігцела чырвонымі і сінімі іскрынкамі на расе, на пабітым асенняй іржою лісці шыпшынніку і глогу. Абапал дарогі — прыцішаная асенняя тайга: густою чырванню набракаюць асіны; як васковыя свечкі, пажоўклі стромкія лістоўніцы; бляклым золатам адліваюць бярозы; сярод цёмнай зеляніны піхтаў і елак ірдзеюць рабінавыя гронкі, а на ўзлессі адзінока цямнеюць прысадзістыя стагі з парудзелымі віцамі на сцежарах. Аляксей вырас у лясной старане, любіў туманныя світанні ў грыбных барах, пасівелы ад прымаразкаў верас, барвовы ракітнік, пацямнелую густую ваду ў рачных вірах, але такой прыгажосці, столькі адценняў і чыстых фарбаў не бачыў ніколі. Нізінамі сплывае туман, а над галавою — халоднае сіняе-сіняе неба; настылае, аж колкае паветра п'яніць хмелем прывялай лістоты і траў, ад глухаты зачароўвае маўклівую цішынёй. Таямнічая, непаўторная сваёй прыгажосцю тайга агарнула шчымліваю тугою чулую Аляксееву душу. Здаецца, каб былі фарбы і палатно на падрамніку, пастараўся б перадаць усе кодеры і адценні асенняй тайгі, гэтага пранізлівага неба і цішыню адцвітання. Але ні на адной палітры не знойдзеш такіх густых і чыстых фарбаў.

Наўкол маўклівая таямнічая тайга. А недзе там, у гушчэчы, блукаюць ласі, пад вываратамі мядзведзі высцілаюць бярлогі, сігаюць палахлівыя зайцы, цікуюць ахвяру лісы, вавёркі назапашваюць кедравыя арэшкі ды адзінокі дзяцел глуха дзяўбе рыплівую асіну. Дзічыны тут не злічыць, а тайзе няма канца-краю. Яна агарнула вёску

з усіх бакоў, і толькі вузкая ўхабістая дарога прарэзала тайгу роўнаю стралою аж да самага Тарска. Ляскочуць колы на выбоінах, гайдаецца з боку на бок хадок, і так будзеш калывацца ўсе трыццаць пяць кіламетраў — ні хутара табе, ні вёскі, тіі заімкі; бывае, за ўсю дарогу і жывое душы не стрэнеш — тайга і тайга. Крычы, хоць выпрастайся,— ніхто не пачуе, не паможа, і рэха глухне ў цёмнай гушчэчы.

Аляксей, зачараваны асенняю тайгою, грызе сухую былку, жмурыцца ад сонца, і, здаецца, сплылі ўсе клопаты і турботы, душу агарнулі спакой і цішыня.

З прыдарожных чаротаў выпырхнуў вялікі цяжкі касач, распусціў ліраю хвост, залопаў крыламі, бліснуў малінавымі завушніцамі, узляцеў на сук сухое бярэзіны. Аляксей схамянуўся, трэба спяшацца, недзе ў райана чакае маладая настаўніца.

А можа, і не маладая? Маладых сюды і пернікам не заманіш. Хутчэй якая-небудзь векавуха ці развядзёнка наважылася схавацца ў гэтай глушыні. Пажыве зіму-другую і ўцячэ, як уцякалі і да яе.

У лесе пачаліся глыбокія выбоіны, закіданыя launch пэратрушчаным хлудам, суччам і хмызам, шырокія каляіны ад цяжкіх грузавікоў, што буксавалі тут у непагадзь, калі па тутэйшых дарогах ні праехаць, ні прайсці. Тлусты, як масла, чарназём нават пасля кароткага дожджыку раскісае і, як смала, наліпае на колы. Пад конскія падковы набіваюцца стаўбуны туга спрасаванай гразі, і бедная скаціна ідзе, як на хадулях; колы перастаюць круціцца, а коні падаюць, як падсечаныя. Тады распрагай і чакай, пакуль падсохне. Абуты і пехатою не пройдзеш — паадлятаюць падэшвы, засмактаныя тваншо, а гразі наліпае столькі, што боты спаўзаюць з ног. Тады разувайся і, коўзаючыся па чарназёме, хапаючыся за кусты, так-сяк дабрыдзеш да суседняга сяла. А да яго ісці не менш як кіламетраў трыццаць, а то і ўсе сорак.

Брукаваць дарогі тут няма чым. Хто звекаваў у гэтым балотным і таежным краі, зроду не бачыў каменя. У асеннія залевы сёлы адрэзаны адно ад аднаго і ад раённага цэнтра. Добра, калі ўдаецца прывезці пошту хоць раз на тыдзень верхам на раскутым кані.

За лета дарога ўсохла, парэпалася і аж блішчыць, толькі засталіся не зараўняныя глыбокія выбоіны. Рыпіць, тузаецца і валюхаецца з боку на бок вазок.

Аляксей прылёг на мяккае сядзенне, грызе травінку, глядзіць на заінелыя гронкі спелых рабін, на бронзавыя зіхатлівыя лістоўніцы, на цёмныя елкі, адлюстраваныя ў заброснелай вадзе прыдарожных канаў. Паміж таежнай гушчэчы прабіваюцца дымныя слупы сонечнага святла; яшчэ не апала, зіхаціць і пераліваецца сінімі і

бурштынавымі каралямі раса; недзе цвінькаюць сініцы, па разгатым выўвараце прашмыгнуў каланок і шапаціць у сухім чароце. Тайга сцішылася ад летняга птушынага граю, ад гулу і дзынкання вялізных аваднёў і цяжкіх калматых шэршняў, што да крыві зразаюць коней і заядаюць усё жывое. Адзіны ратунак ад іх — намазацца дзёгцем і на аглоблю павесіць кацялок з куродымам.

Легка дыхаецца ранішняй жнівеньскай прахалодай, не трэба хвастацца веццем, абіваць з каня раі аваднёў.

Таму і ўспамінаюцца нейкія дробязі, думаецца нра дарогу, пра ўсё другараднае і неістотнае. А пара б Аляксею падумаць і пра сябе, пра свой далейшы лес, крута яго павярнуць: некаму здаць каня, быкоў, вупраж — словам, школьную гаспадарку — і з'ехаць бліжэй да родных мясцін, не вазіць настаўнікам дровы, а самому вучыць дзяцей. Ён успомніў сваю палескую Ельніцу, далёкае ад бітых шляхоў мястэчка ў квецені веснавых садоў, то прапахлае даспелымі яблыкамі, то прыцішанае і белае пасля начное завірухі. Успомніліся аблічччы і прозвішчы вучняў і Ніна. «Ніна, Ніна! Чаму не забраў з сабою ў атрад? Чаму не выратаваў?» Аляксей да болю сціснуў сківіцы, сілячыся праглынуць камяк, што перахапіў горла.

Здалёк ён убачыў пры дарозе маленькую хатку з адным акенцам, канавязь і копку сена каля яе. Значыць, да раёна засталося шаснаццаць кіламетраў. Аляксей хвастануў лейчынаю каня, заляскаталі на выбоінах колы і пакаціліся весялей. Кіламетры са два грукаталі па няроўнай разбітай грэблі, а там дарога пайшла ўгару, выраўнялася, і конь пайшоў весялей. У спіну прыпякала сонца, за вухам пабег цурочак поту, зліпліся валасы. Аляксей скінуў целагрэйку, ссунуў на патыліцу суконную кепку, скруціў тоўстую цыгарку і са смакам закурыў.

За грыўкаю пабурэлага чароту з карычневымі кіяшынамі тырчаў гарэлы бярэзнік. Апаленае вецце пасохла і асунулася. Па счарнелых ствалах грукалі дзятлы.

Аляксей кінуў у канаву недакурак, ямчэй сеў на сядзенні і доўгім дубцом падагнаў каня. Пад паўдня прыпякала, як летам, плыло павуцінне і казытала па твары, ён сціраў яго рукавом, але пажоўклая, пабарвянелая і прыцішаная тайга пахла гаркаватым прэлым лісцем і нагадвала, што не за гарамі хоць і кароткая, але нудная асенняя слата.

Хацелася ўявіць сабе тую невядомую настаўніцу, па якую едзе. Успаміналіся твары былых аднакурсніц, вясковых і мінскіх знаёмых, самых прыгожых і статных. А што, калі адна з іх чакае яго ў райана?.. Наўрад. Беларусь толькі што вызвалілася. Настаўнікаў не хапае і сабе.

Што і казаць, калі і ў гэтай маленькай таежнай васьмігодцы выкладаюць тыя, хто некалі скончыў педтэхнікум ці курсы, хто дзесяць, а то і дзевяць класаў.

Прасіўся Аляксей хоць у пачатковыя класы. Не бяруць: няма ніякага дакумента аб адукацыі. Двойчы пісаў у Ельніцу. Адзін адказ: «Усе дакументы райана загінулі ў часе вайны». Тое ж адказаў і інстытут. Можа, яно так спакайней: на свежым паветры. Чаго тут бедаваць? Радавацца трэба спакою і міру. Але было ж — смерць працінала цела гарачымі асколкамі, абрывалася тонкая павуцінка пульсу, а ён выцерпеў, выжыў, перамог. Побач былі добрыя людзі, чулыя да чужога болю. Добрых у сто разоў болей, чым кепскіх. Нягодніка заўважаюць усе, а сумленны чалавек робіць дабро непрыкметна і ціха. Яно яму неабходна як дыхание, без яго не пражывеш.

Лес скончыўся. Абапал дарогі маўкліва стаяў алешнік, тырчалі аблезлыя збуцвелыя пні; над заброснелай сажалкай, укрытай вялікімі лапушыстымі лістамі і завялымі гарлачыкамі, пырхнулі, пралапаталі і зніклі за хмызняком дзікія качкі.

Прагрукатаў пад коламі доўгі драўляны мост. Паразыходзіліся на стыках і паправісалі парэнчы, дрыжаць і ўгінаюцца плахі насцілу, тырчаць белыя вострыя стрэмкі. З моста вазок скаціўся сам, і конь ледзь паспяваў пераступаць, каб перадком не пазбівала бабкі.

Старэнькія хаткі пад дзярновымі стрэхамі стаяць побач з шырокімі пяцісценкамі з чэсанага таўшчэзнага бруса пад шатровымі цёсавымі дахамі, з карункамі карнізаў і налічнікаў, але з нізкімі дзвярыма і маленькімі вокнамі. Каб у доўгія суровыя зімы трымалася цяпло.

Раённае сяло раскінулася каля лукі шырокай таежнай Тары. Вада ў ёй цёмная, як густа завараны чай, нізкія берагі зараслі тальнікам. Хаты раскіданы абыяк — кожны будаваўся дзе хацеў, дзе было выгадней і зручней. Пасярод Тарска — пустая пясчаная плошча. У доміку з сінімі аканіцамі — пошта, у доўгай старой стадоле — райземаддзел, а пасярэдзіне ўзняўся высокі двухпавярховы Дом Саветаў, з тоўстага кругляка, з белымі фіранкамі на трох вокнах.

Каля плота доўгая канавязь. Наўкол зямля, прыцярушаная саломай і свежай травою, здратаваная капытамі старшынскіх коней усяго раёна.

Аляксей прывязаў каня, адпусціў церассядзельнік, падкінуў абярэмак травы, ацерабіўся ад пацярухі, абсмыкнуў і ямчэй заправіў зліналую гімнасцёрку, запыленыя боты збольшага паабіваў аб цвёрды рамоннік пад плотам і пайшоў у райана.

Аддзел асветы займаў два маленькія пакоікі ка першым паверсе. У калідоры і ў першым пакоі стоўпіліся настаўнікі. На падлозе ляжалі

звязаныя стосікі падручнікаў, скруткі картаў, стаялі новенькія глобусы. Мужчын было мала. І тыя — пераважна кульгавыя, аднарукія, у паношаных кіцелях і шынялях, у кірзавых і хромавых ботах, хто з ордэнамі, а хто з планкамі на грудзях. Курылі самасад і горкую бійскую махорку. Затое поўна было жанчын у даваенных плюшаўках, у доўгіх плаццях, у кашміроўках і канаплянках, твары загарэлыя і абветраныя, каля вачэй светлыя зморшчынкі. Відаць, большасць удовы. Лета яны прыхапкамі касілі сена для сваёй кароўкі, гадавалі свінчо, абшывалі і абмыхвалі сыноў і дачушак. А з восені вучылі дзяцей.

Аляксей вясковых настаўніц пазнаваў адразу: нястачы ваенных і першых мірных гадоў зраўнялі іх з усімі, але ў кожнай заставаліся пэўныя прыкметы інтэлігентнасці, нейкія адзнакі прафесіі — трошкі незвычайна завязаная хустка, белы каўнерык на плацці, манера трымацца і гаварыць.

Цяпер яны засталіся пасля канферэнцыі, каб паскардзіцца загадчыку райана, што мала ў школе дроў, што не хапае лямпаў і сшыткаў, прасілі перавесці ў суседнюю школу, бліжэй да мамы, каб было на каго пакінуць дзяцей. Усе тут ведалі адзін аднаго, хоць школы былі ў розных канцах раёна. А Тарскі раён, казалі, займае плошчу, большую за Данію і Галандыю. Але спрадвеку лічылі, што ў Сібіры сто вёрст не адлегласць, а трыццаць градусаў не мароз.

Вось і гаварылі ў калідоры і ў «прыёмнай» кожная пра сваё, спачувалі адна адной, раілі, як лепш упрасіць Міхала Міхалавіча, каб памог.

Яго «кабінет» быў у маленькай баковачцы за тонкаю паркалёваю фіранкаю.

Аляксей павітаўся і пачаў выглядаць новенькую. У гэтым аднастайным натоўпе свежага чалавека пазнаеш адразу. Яна ж павінна быць з чамаданамі і нейкімі рэчамі. У калідоры чамаданаў не відно. Ён падняўся на дыбачкі, выцягнуўся на ўвесь свой ледзь не двухметровы рост і праз галовы зазірнуў у пакой, поўны жанчын. Іх галасы зліваліся ў адзіны гул. З-за фіранкі даносіўся голас загадчыка:

— Таварышы, цішэй! Нельга ж працаваць.

Калі выходзіла адна, ёй на змену за фіранку шмыгала другая, а гэтую засыпалі пытаннямі, што і як.

— Абяцаў, калі будзе, даць і дроў і газы. А калі тое будзе?

— Ці варта столькі чакаць, каб пачуць абяцанку? — бубнеў высокі круглатвары мужчына з пустым рукавом, заткнутым за папругу.— Хадзем да самога ў райком.

— А дзе райком табе возьме, калі няма? — пярэчыў суxенькі настаўнік у кіцелі і ў картовай кепачцы.

У куточку «прыёмнай» Аляксей заўважыў некалькі чамаданаў і тоненькую вастраносую дзяўчынку з чорнаю грыўкаю. Ён праціснуўся да яе, павітаўся і сказаў:

— Каторы ваш чамадан? Паехалі.

— Прабачце, куды паехалі? — замітусілася дзяўчына.

— У школу, вядома.

Аляксей нагнуўся, каб забраць рэчы, і быў упэўнены, што настаўніца прыехала толькі да іх, і гэтае дзяўчо з грыўкай яна і ёсць.

— А вы з якой школы? — запытала дзяўчына.

— Вядома, з Біязінскай.

— Павезлі б якраз у другі бок. Гэта Вера да вас. А мне ў Троіцкую.

— А вы хіба не Вера Рыгораўна?

— Не-е... Я Ліна Лушнікава. Будзем знаёмы,— яна працягнула тоненькую халаднаватую далоньку.— А вам батанік або хімік не трэба? Вазьміце мяне. Ну, калі ласка. Мы хацелі разам з Верай.

— Схадзіце,— Аляксей кіўнуў на фіранку,— папрасіце добра, і паедзем разам.

— Прасіла. І гаварыць не даецца. А вас паслухае. З дырэктарамі ён іначай гаворыць.

— Дык то з дырэктарамі.

— А вы хіба не дырэктар?

— Маю тры пасады адразу,— усміхнуўся Аляксей.— Конюх, заўхоз і проста хто куды пашле.

— Вера чакала-чакала і пайшла ў сталоўку. Там знойдзеце яе. Высокая прыгожая бландзінка ў клятчастым жакеце. Пазнаеце адразу,— сказала Ліна і адвярнулася да акна, расчараваная, што ўсё ж прыйдзецца разлучыцца з Вераю і ехаць у Троіцк.

Сталовая была непадалёк ад плошчы. Доўгая стадола з незасланымі столікамі, з фікусам у вялікай кадзі і з «Мядзведзямі на лесараспрацоўках» на сцяне. Прыбіральшчыца збірала міскі, два настаўнікі з афіцэрскімі планшэткамі дапівалі піва, а ў куточку сядзела светлая нейкаю нетутэйшаю чысцінёю дзяўчына. Пасма пшанічных з падпалінкаю валасоў падала на белы лоб, шэры ў вялікую клетку жакецік туга сціскаў выразны стан.

Аляксей ледзь не страявым крокам падышоў да яе.

— Добры дзень, Вера Рыгораўна. Прыемнага апетыту.

— Добры дзень,— заспяшалася і памкнулася ўстаць.— Вы па мяне? А я зачакалася. Думала, не прыедзеце. Ужо хацела прасіцца ў другую школу.

— Дапівайце чай. Я пачакаю.

Аляксей адышоўся да буфета, узяў куфаль піва і тузіну ракаў. У Тары іх было процьма. Цягалі іх сюды хлапчукі торбамі.

Новая настаўніца ўжо чакала каля дзвярэй.

Яны выйшлі разам. Сонца хавалася ў рэдкіх аблоках, а над лесам навісла цёмная хмара з барвовымі закрайкамі. Усё сцішылася і паблякла.

— О-о, трэба спяшацца. Калі гэтая хмара зліТуецца, можа, да ночы і дабяромся.

— Што, і да вас такая дарога, як сюды? Колькі жыву, так мяне ніколі не трэсла.

— Каб жа такая! Нездарма кажуць: «Да Біязы не дабярэцца чорт з лазы».

— Што азначае Біяза? Нейкая дзіўная назва,— спытала Вера Рыгораўна.

— Жыве ў нас цікавы чалавек, сасланы сюды пры

цару. Мясцовы гісторык, краязнаўца і вынаходца. Дзеці яго так і завуць дзед Архімед. Ён мне неяк тлумачыў. Біяза ад татарскага ці асцяцкага слова «біяда». Па-іхняму гэта млын. Млына даўно няма, а слова зрабілася назваю сяла, мабыць, недзе з часоў Кучума... Біяда нагадвае бяду. Каму ж ахвота жыць у бядзе? Вось і паправілі на Біязу.

— Вы філолаг? — зацікавілася Вера.

— Як вам сказаць... Я толькі школьны заўхоз. А філолаг, здаецца, вы.

Вера паглядзела на Аляксея. Ці не жартуе? Можа, проста тлуміць ёй галаву. Прыгожы твар, натуральная далікатнасць і вельмі ж правільная мова. Яна яшчэ ў інстытуце прывучылася ўслухоўвацца ў кожны сказ, у кожнае слова, у думках падкрэсліваць памылкі, а ў блізкіх сяброў далікатна папраўляць іх. А гэты ўсяго заўхоз. Дзіўна.

Яны зайшлі ў райана. У калідоры людзей паменела. Ліна вынесла чамаданы і нецярпліва чакала сяброўку. Па яе прыехаў сам дырэктар.

— Верачка, нарэшце! Я ледзь не паехала не развітаўшыся. Усё тваё тут. Напішаш? — І да свайго дырэктара: — Які гэта ваш сельсавет?

— Пацюканаўскі,— адказаў немалады ўжо дырэктар у рудым плашчы.— А можа б, і вы да нас надумалі? — спытаў ён у Веры.— З мовазнаўцамі зарэз. Мяне Міхал Міхалавіч не паслухаў, можа б, вы ўгаварылі. Усё весялей было б разам.

— А ў нас хто будзе вучыць рускай мове? — крышку паблажліва спытаў Аляксей,— Каторыя вашы рэчы, Вера Рыгораўна? Трэба ўцякаць, а то яшчэ вас пераманяць.— Ён узяў пукаты, з абшмулянымі бакамі чамадан і ў паласатым чахле мяккі пакунак з пасцеллю.

Сяброўкі абняліся. Конь троіцкага дырэктара стаяў у двары, а Вера з Аляксеем пайшлі да канавязі.

Тым часам неба зацягнулі густыя аблокі. Аляксей укінуў Верыны рэчы ў перадок, хуценька падцягнуў церассядзельнік, далікатна памог дзяўчыне сесці ў хадок, сам лёгка ўскочыў на сядзенне, звесіў нагу і з месца пагнаў каня трухою.

Сяло праехалі моўчкі. А калі пад імі загрукатаў і захадзіў насціл моста, Вера загледзелася на шырокую цёмную раку, на пажоўклы ракітнік, на зарэчныя лугі з шаломамі стагоў, на замглёныя таежныя далі.

— Якая дзікая, маўклівая і прыгожая рака. І ўся прырода такая — загадкавая і суровая. А такіх яркіх фарбаў асенняга лесу я зроду не бачыла,— загаварыла настаўніца.

Аляксей памаўчаў, пацмокаў на каня, падварушыў яго дубчыкам і, калі скаціліся з моста, сказаў:

— Кіламетраў за дзвесце адсюль стаіць горад Тара. У ім некалі па дарозе ў Вілюйскі астрог спыняўся Радзішчаў. І, мабыць, таксама любаваўся берагамі гэтай ракі. А ў суседнім з Біязою сяле ў першыя гады рэвалюцыі жыў Павел Бажоў. Бачыце, літаратурная геаграфія побач.

— Прабачце, як вас зваць? Вы адразу не сказалі, а я спытаць не здагадалася.

— Завуць Аляксей, прозвішча Буевіч.

— А па бацьку?

— У нас толькі настаўнікаў ды старых завуць па бацьку. А я проста Аляксей. Так і завіце.

— Не магу,— настойвала Вера.— Ну як? Іванавіч, Пятровіч, Сідаравіч? Можа, Ферапонтавіч — засмяялася яна.— Я ледзь стрымалася ў райана: аднаго пажылога настаўніка звалі Арыстарх Фемістоклавіч.

— Гэта кержак. Іх тут багата. Тут сустрэнеце Флягонта, Аглаю і яшчэ мудрэйшыя імёны.

— Што гэта за кержакі? — павагаўшыся, спытала Вера.

— Памятаеце, у Мельнікава-Пячэрскага апісаны раскольніцкія скіты на Кержанцы? Частка старавераў уцякла ў Сібір. Праўда, цяпер уся моладзь бязбожнікі, але жэняцца толькі са сваімі і бытавыя традыцыі захоўваюць дзедаўскія.

Вера маўчала. Мельнікава-Пячэрскага ні ў школе, ні ў інстытуце яны не праходзілі, пра раскольнікаў і Кержанец нічога не чула, і ёй было няёмка паказваць сваю недасведчанасць. Яна сумелася і з трывогай падумала: калі такі школьны заўхоз, дык які ўжо там

дырэктар? І каб толькі не цягнулася няёмкае маўчанне, вярнулася да ранейшага:

— На маё пытанне вы так і не адказалі. Як вас усё ж па бацьку?

— Калі так настойваеце, самае распаўсюджанае: Іванавіч.

Ён хвастануў каня. Хадок заскакаў з выбоіны ў выбоіну, седакоў кідала з боку ў бок, Вера праваю рукою ўхапілаея за драбінку, але ўтрымацца не магла, усё ж прыпіралася да Аляксеевага пляча і адхіналася зноў.

Аляксей раз-пораз азіраўся назад, нібы за ім хто гнаўся. Ён глядзеў на цёмную хмару, што зацягнула паўнеба. Наперадзе дарогу засцілаў сіняваты морак, тайга спахмурнела і заціхла, толькі вялікі крумкач драў глотку на аблузанай сухой асіне.

«Відаць, дажджу не мінуць»,— думаў Аляксей і паганяў цягавітага каня.

Распытваць у новай настаўніцы, адкуль яна, дзе вучылася і жыла, не стаў: лічыў нетактоўным, нават абразлівым адразу «запаўняць анкету». Ён прывык раскрываць незнаёмага чалавека паступова, павесці гаворку так, каб той сам ахвотна расказаў. Любіў назіраць і адкрываць характар збоку. Ды і нецікава дазнавацца пра ўсё адразу. Чалавек заўсёды павінен быць хоць невялічкай загадкай і тайнай.

Аляксей разумеў, што і Веры карціць распытаць пра сяло, пра школу, настаўнікаў, ці ёсць клуб, дзе ёй давядзецца жыць — пра ўсё, што цікавіла б кожнага, хто едзе на новае месца. Але маўчала і яна. Відаць, здарожылася, замаркоцілася і прыціхла.

Хадок то завальваўся ў глыбокія калдобіны — здавалася, вось-вось перакуліцца,— то ўз'язджаў на сухое ламачча, некалі накіданае на дарогу шафёрамі. Вера ўздрыгвала і інстынктыўна хапалася за Аляксееў рукаў, прасіла прабачэння і адхіналася зноў. А ён паглядаў на яе мяккую ружовую ручку з доўгімі кругленькімі пазногцікамі, адгадаванымі для манікюра. Даўно ён не бачыў такіх прыгожых рук, даўно не сядзеў поплеч з такою дзяўчынаю.

У лесе пачало цямнець, змоўк і крумкач на асіне, толькі ў прыдарожных канавах шамацеў падсохлы чарот і на выгарах гайдаўся пабурэлы скрыпень. Аляксей ведаў, што да дажджу ім дамоў не даехаць. На твары ён адчуў першыя кроплі, неўзабаве яны зашлопалі па вадзе ў канавах, пабеглі кругі і паплылі бурбалкі. Вера насунула стрэшкаю хустачку на лоб і падняла каўнер лёгкага светлага палітончыка. Аляксей з перадка выцягнуў цубкі брызентавы плашч і падаў Веры.

— Што вы, што вы! Апранайце самі! — запярэчыла яна.

Аляксей спыніў каня, злез з вазка.

— Устаньце на хвіліначку.

Вера паслухмяна паднялася. Ён нацягнуў на яе плашч, а калі села — на галаву насунуў капюшон, зацягнуў шворачкі, як у кісеце, каб не спаўзаў, і загадаў зашпіліцца. Ускочыў у хадок і пагнаў каня.

Дождж барабаніў і дробнымі пырскамі адскокваў ад плашча. Дарога намокла і зрабілася слізкая. Мокры пласт наліпаў на колы, і яны пачыналі буксаваць. Змерклася адразу. Толькі шамацеў дождж па яловых лапах і апалым лісці. Аляксей пусціў лейцы, ведаючы, што конь сам выбера зручнейшую каляіну, а завярнуць няма куды: абапал дарогі — канавы, а за імі тайга і багна. «Шлях для сляпога,— падумаў Аляксей.— Але хоць бы як-небудзь дацягнуцца да хацінкі». Ён адчуваў, што колы ад наліплай гразі сталі мяккія і тоўстыя, як гумовыя шыны. Пярэднія яшчэ так-сяк круцяцца, а заднія, вылазячы з выбоіны, цягнуцца і буксуюць. Конь цяжка дыхае і ўсё часцей спыняецца. А роўны спорны дождж сыпле і сыпле. На дарозе, апрача іх,— ні душы: ніхто не едзе ні насустрач, ні следам. Ды і каму ехаць? Самая гарачая пара цяпер: дажынаюць пшаніцу, малоцяць, людзі дзень і ноч на таках веюць і сушаць збожжа. Як толькі падшэрхне дарога, пойдуць у «глыбінкі» калоны грузавікоў па збожжа. Загудзе гэты шлях, асветлены дзесяткамі фараў, загамоніць галасамі вясёлых шафёраў. А цяпер цёмна, мокра і пуста.

— А ваўкоў тут няма? — спытала Вера.

— Ваўкоў няма, а мядзведзі цягаюцца... Не тут, праўда, на дзесятым кіламетры ад сяла іх рэзідэнцыя.

— Калі ж мы даедзем, Аляксей... Іванавіч?

— Задайце лягчэйшае пытанне. На яго цяпер адказаць нельга... Но-о-о!.. Відаць, заначаваць прыйдзецца.

— У лесе? — спалохалася Вера. І, памаўчаўшы, дадала: — Можа, гэта і цікава, рамантычна. Але ж дождж. Вы і так прамоклі да ніткі.

— Сібіракі ніколі не гавораць «лес». Лес — гэта нешта несур'ёзнае, нязначнае.

— А як жа?

— Тайга, а такая непраходная глушэча, як тут,— урман. Кедроўнік і наогул чырвоны лес завуць рам. Прывыкайце, Вера Рыгораўна.

— Пастараюся, падвучуся,— усміхнулася Вера.

Аляксей напружваў зрок, каб не прамінуць таежную старожку, бо пэўна вырашыў да раніцы перасядзець у ёй.

Праз нейкіх паўкіламетра конь рэзка гхавярнуў управа, ледзьве вылезлі колы з глыбокіх каляін. Хадок скаціўся з дарогі на мяккую лугавіну і стаў.

— Вось і прыехалі! — весела сказаў Аляксей і саскочыў з калёс.

Вера прыгледзелася і ў цемры заўважыла нешта чорнае і нерухомае. Падумалася, што гэта стог. Але запахла адсырэлаю закуранаю цэглаю і няўлоўнымі пахамі жытла. Бразнула клямка, рыпнулі дзверы. Аляксей чыркнуў запалку, і Вера ўбачыла яго постаць у праёме нізкіх дзвярэй нейкай хацінкі.

— Хвіліначку пачакайце,— сказаў ён.

У цемрадзі засвяцілася маленечкае акенца. Адразу пацяплела на душы, захацелася хутчэй схавацца пад дах, дацягнуцца да святла. Аляксей, не зачыняючы дзвярэй, падышоў да Веры. У няроўным хісткім святле яна разгледзела каня і густы ельнік, зіхатлівы і мокры ад дажджу Аляксееў твар. А далей была прорва цемені, толькі шапацела ад кропель ігліца і сухое лісце ды са страхі ў поўную вады ямку сцякаў і барабаніў цурок. Вера не разумела, дзе яны, што гэта за хатка ў тайзе, як заставацца з незнаемым мужчынам у гэтай глушыні.

— Заходзьце, калі ласка, у хату. Камфорту не абяцаю, а суха і цёпла будзе,— спакойна прапанаваў Аляксей, выцягнуў з-пад мокрай травы ў перадку яе чамадан і пакунак з пасцеллю, панёс у хату і забавіўся.

А Вера насунула капюшон, тужэй захінула плашч і сядзела ў нерашучасці. Пачакаўшы, Аляксей выглянуў з дзвярэй і здзівіўся, убачыўшы Веру на возе.

— Чаго ж вы мокнеце? Заходзьце. Вось толькі распрагу каня, запалім з вамі ў печы, вады нагрэем і да раніцы як-небудзь перабудзем.

Ён выпраг каня, прыпнуў яго на доўгія лейцы і ўнёс у хату мокрую вупраж. Следам увайшла Вера і стала ў парозе.

— Скажыце, куды вы мяне прывезлі? Што гэта за хата? — запінаючыся, зашаптала яна.— Я нічога не разумею.

Толькі цяпер Аляксею стала ўсё ясна. Ён бесклапотна засмяяўся, ускінуў на печ мокрую целагрэйку і шапку.

— От не думаў, што вы такая нерашучая, палахлівая і так кепска падумалі пра мяне. Здымайце плашч і ўсё мокрае, сядайце і супакойцеся.— Аляксей пачаў кідаць у печ дробна наколаныя сухія смалякі.

Вера агледзелася. Хатка была маленькая, з нізкаю столлю з асінавых плашак, закураныя неабчасаныя сцены, зграбненькая нябеленая печ, стол з тоўстых дошак, паміж сцяною і печчу — палок. На ім — некалькі скручаных саламяных матаў. У парозе — драўлянае вядро з лазоваю почапкаю. На палічцы мільгае бляшаны каганец, стаіць берасцяны туясок, шкляны паўлітровы слоік, пучок сухога шыпшынніку і акрайчык ссохлага хлеба.

— Калі супакоіліся, адкажу на вашы пытанні,— стрымана і нават суха загаварыў Аляксей.— Хатка гэта ўсіх і нічыя. Стаіць яна на паўдарозе ад Тарска. У завіруху ці ў такую непагадзь тут і ратуюцца падарожнікі, як мы з вамі. Бачыце, сухія дровы. Мы іх спалім, а раніцаю трэба накалоць новых і пакласці на месца, калі заўтра некага загоніць нягода, каб было чым адагрэць душу. Вось так, паважаная... Вера Рыгораўна. Такі закон тайгі... І людзі тут суровыя і адкрытыя... як гэтая хатка.

Вера хуценька распранулася, і адразу зрабілася ўтульна і цёпла. Па страсе бубнеў дождж, звінеў цурок за дзвярыма, чутно было, як тупае і пазвоньвае цуглямі конь. А тут ціха, суха і цёпла, Зырка ўспыхнулі ў печы смалякі і залілі хатку густым хісткім бляскам. Аляксей упраўляўся, як добрая гаспадыня ў сваім доме: апаласнуў закураны вялікі чайнік, наліў повен вадою, паставіў у печ, дастаў з палічкі пучок сухога маліннiку і шыпшыны, чыркнуў запалку і зазірнуў пад палок.

— Вы не супроць гарачай бульбы? — трошкі мякчэй спытаў Аляксей і выграб на хату некалькі вялікіх бульбін. Вера адчувала сябе вінаватай, і ей хацелася хутчэй згладзіць няёмкасць, што раптам узнікла між імі. І толькі па яе віне. Калі б ён ведаў, што яна надумала пра яго некалькі хвілін назад!

— А нож у вас ёсць? — ускочыла яна з услончыка.

— Тут усё ёсць,— Аляксей намацаў на палічцы ножык, насаджаны на драўляную калодачку, выцягнуў з-пад лавы чыгунок і хацеў пачаць абіраць бульбу.

— Дайце мне. Гэта не мужчынская работа,— пацягнулася, каб узяць у Аляксея ножык.

— Цяпер у рабоце сцерліся традыцыйныя грані,— запярэчыў Аляксей.— Тут кожная жанчына косіць, арэ і пілуе дровы, а любы мужчына ўмее падаіць карову. Ці варта вам пэцкаць рукі? Паслязаўтра ваш першы ўрок. А бульба адмываецца кепска.

— Ну, дайце, прашу вас.— Узяла ножык і пачала здымаць тоненькую шалупінку. Полымя з печы асвяціла яе твар, заіскрыўся залацісты пушок над верхняю губою, зардзеліся шчокі. Яна адчула сябе ў нейкім другім, неверагодным свеце, нібы трапіла ў казку. Усе, што было так нядаўна, здавалася, засталося недзе далёка-далёка, за цемраю гэтай ночы; з'явілася такое адчуванне, што ёсць толькі гэтая лясная закураная хацінка, ноч і дождж, што шуміць па даху і сцяне. І яна збоку, як у кіно, глядзіць на сябе і на ўсё, што вакол яе. І не верыць, што гэта яна, што недзе ёсць залітыя агнямі вялікія гарады, людзі, мітусня, шумныя вакзалы, сябры, з якімі развіталася на

выпускным вечары. А што наперадзе? Ці прывыкне да гэтага суровага і глухога краю? Колькі прабудзе тут? Як складзецца яе дзявочы лёс?

Аляксей выйшаў паглядзець каня, унёс і павесіў на печ дзяружку з сядзення. Чыгунок ужо булькаў на вуголлі, з рыльца адсунутага на прыпечак чайніка струменьчыкам пыхкала пара. Вера сядзела на ўслончыку каля печы, сашчапіўшы тонкія пальчыкі, і задуменна глядзела на агонь. Аляксей прывык тут бачыць калматых, прапахлых жывіцаю і потам таежных лесарубаў і паляўнічых, гаманкіх шафёраў і трактарыстаў у блішчастых ад мазуту целагрэйках. А такой чысціні, прыгажосці, як гэтая дзяўчына, ніколі тут не было. Ён глушыў захапленне, хацеў здавацца абыякавым, суровым і афіцыйным, але нешта трымцела і тахкала ў грудзях, а ў скронях звінелі маленькія малаточкі.

— О-о, у гаспадыні ўсё гатова! Толькі трэба пакласці заварку.— Узяў пучок сухога маліннiку і некалькі зморшчаных ягад шыпшыны і ўкінуў у чайнік. Змёў далонню стол, апаласнуў рукі і пачаў развязваць торбачку. Разам з адсырэлым хлебам дастаў шклянку з маслам і сам здзівіўся.

— Ну і маладзец мая Дзяменцеўна! Нібы ведала, чым пачаставаць госцю.— Твар яго палагаднеў і засвяціўся добрай усмешкай.

— Гэта вы жонку завяце Дзяменцеўна? — ажывілася Вера.

— Жонкі ў мяне, на жаль, няма, а гаспадыня, бачыце, здагадлівая і добрая.

— А хіба вы не тутэйшы?

— Не, не тутэйшы. Наезджы, як кажуць. Бульбу я выцягну сам, а вас прашу за стол.— Ён кароткаю качаргою выцягнуў чыгунок, адцадзіў і паставіў на стол, накроіў хлеба, каля Веры паклаў свой сцізорык, дастаў з палічкі. газету, разаслаў на стале.

— За сервіроўку прабачце, будзем абыходзіцца як ёсць.— Ён ножыкам абскрабаў гарэлікі, прысольваў, намазваў маслам. У яго сапраўды з раніцы, апрача куфля піва, і макавае расінкі ў роце не было.

У печы выгарала, і ад гарачага вуголля на сцяне дрыжала толькі малінавая пляма, а кволы агеньчык каганца ледзь асвятляў стол. Зрабілася цёпла і ўтульна. А за сцяною шумеў дождж і шоргала па страсе вецце старое елкі; чуваць было, як мякка тупае і ўздыхае прыпнуты конь.

— Усё гэта так незвычайна. І хатка гэтая, і вы нейкі загадкавы. Можа, я нават трошкі напалохалася.— Яна дакранулася да яго рукава, так шчыра, так добра ўсміхнулася і паглядзела Аляксею ў вочы, што ён нават крышку разгубіўся.

— Што вы, што вы, Вера Рыгораўна! Вы ўжо прабачце, калі што не так. А вас я добра разумею і магу запэўніць, што ўсе трывогі дарэмныя... У вас яшчэ ўсё наперадзе. Калі прыжывяцеся тут, не ўцечаце... Адным словам, будзе добра. І загадак сабе ніякіх не загадвайце — усё на свеце прасцей, як мы думаем і ўяўляем...

Аляксей дастаў з палічкі два гліняныя кубачкі, наліў чаю, паставіў Веры і сабе.

Яна кінулася да чамадана, адзін замок доўга не адчыняўся, пакорпалася, дастала злінялы халацік, а на стале разгарнула паперку ад сшытка з ружовымі зліплымі «падушачкамі».

— Бярыце, калі ласка,— падсунула паперку бліжэй да Аляксея.

Яны пілі, шумна студзячы і сёрбаючы гарачы чай. Запахла духмяным малiннікам і гаркаватай шыпшынай.

Пасля вячэры Аляксей памыў чыгунок і паставіў сушыцца на прыпечак, прыбраў на стале. На палацях раскруціў саламяную мату, другую кінуў на падлогу.

— Паслаць у вас ёсць што. Кладзіцеся і спіце як дома, а я схаджу паглядзець каня, бо, барані божа, сарвецца, дык прыйдзецца нам тупаць пехатою.

Ён накінуў распараную на печы целагрэйку і выйшаў з хаты. Вера хуценька дастала просціну, маленькую падушачку, паслалася на маце, зняла плацце і панчошкі, накінула халацік. Хацела ўсё схаваць пад падушку, але сукенка памнецца. Паклала побач на палацях, закруцілася ў коўдру да самае шыі. Хоць было мулка, але адразу адчула цяпло і прыемную стому.

Праз некалькі хвілін пастукаўся Аляксей і зайшоў у хату. Зняў целагрэйку, аб парог сцягваў мокрыя боты. Праз адчыненыя дзверы выразна пачуліся хлюпанне і шум дажджу, шорганне веццяў.

— На чым жа вы будзеце спаць? — запытала Вера.

— Не турбуйцеся: салдат умее спаць і стоячы.

Аляксей паглядзеў на акуратна складзеную шэрую сукенку: па падушцы рассыпаліся светлыя Верыны валасы, ад іх ішоў слабы пах парфумы.

Усе гэтыя дробязі хвалявалі Аляксея, будзілі даўно прыглушаныя пачуцці радаснай пяшчоты і замілавання. Вера заплюшчыла вочы, але, відаць, не спала. У хаце было горача.

Аляксей фукнуў на газоўку, хуценька зняў кашулю і пачаў умошчвацца на маце, кінутай на падлогу, накрыўся нагрэтым на чарані, але яшчэ вільготным плашчом.

За печчу зацвынькаў, затрашчаў цвыркун. Па страсе шумеў дождж, за дзвярыма хлюпалі буйныя кроплі.

Як толькі патухла газнічка, Вера інстынктыўна сціснулася ў камячок, прыслухалася да роўнага Аляксеевага дыхання і аднастайнай цвыркуновай песні. Павекі зліпаліся і шчымелі, як ад ветру, але яна адольвала сон, пакуль не засне Аляксей. На памяць наплывалі ўспаміны. То бачыла на пероне заплаканую маму, домікі і дахі далёкага пасёлка, высозны комін гуты, то плыў і гайдаўся тлумны і цесны вагон, поўны дэмабілізаваных вайскоўцаў з бліщчастымі ордэнмі і медалямі на новенькіх гімнасцёрках, з акардэонамі і губнымі гармонікамі. Усю дарогу ў вушах звінела:

Синенький скромный платочек
Падал с опущенных плеч,
Ты говорила, что не забудешь
Ласковых радостных встреч...

Успомніўся чарнявы марачок, што да самага Кунгура не даваў ёй праходу, а, развітваючыся, усё прасіў адрасок. Адраса яна не ведала і сама — ехала ў распараджэнне Новасібірскага аблана. У памяці мільгалі сівыя, падобныя на патрэсканыя абрэзы старасвецкіх фаліянтаў Уральскія горы з адзінокімі бярозамі і рабінкамі, што ўхапіліся карэннем за голыя камяні, але жылі і зелянелі.

Успаміны круціліся, як вялікае, размаляванае жывымі карцінамі кола, і закалыхвалі яе.

Аляксей чуў, як часам уздыхае і варочаецца Вера. Мабыць, не спіцца на мулкіх нарах. Ён стараўся нічым не напомніць пра сябе, не застагнаць, калі заныла прабітае плячо. Нацягнуў на галаву плашч, каб хутчэй заснуць.

А за печчу не сціхаў цвыркун.

II

Вера ішла ў школу па доўгай гразкай вуліцы. Толькі па баках трошкі прывялі сцежачкі ў адзін след. Чэрствая гразь наліпала на чаравікі, як смала. Доўгая нуліца цягнулася па высокім беразе вузкай пакручастай рачулкі, якая булькала на перакатах недзе далека ўнізе. На другім крутым гліністым беразе стаяла пекалькі хат пад дзёрнавымі стрэхамі, калматых ад іielяніны. На адной страсе нават гайдаўся спелы сланечнік.

Ідучы вуліцай, Вера заўважала, што на яе глядзяць з усіх вокан, сустрэчныя саступаюць сцежку і ўсе вітаюцца, а потым стаяць і глядзяць услед. З левай рукі грукала і звінела калгасная кузня. Над ёю тырчала невысокая пажарная каланча. Каля кузні ляжалі бароны, стаялі конныя граблі і тапталася чарада авечак. У шырокіх дзвярах стаяў высокі замурзаны каваль у доўгім скураным фартусе і старой

кубанцы. За кузняю ў невялікім свіронку — сельмаг. На ганку сакатала некалькі маладзіц. Яны здалёк заўважылі Веру, павярнуліся да яе і разглядалі з ног да галавы. Калі падышла, павіталася першая. Адышоўшы некалькі крокаў, пачула:

— Баская вучыцелька.

— Відаць, гарадская.

— Палянь, палянь, якія боцікі. А?

— Што ж ты хочаш, каб у чырках хадзіла?

— Ці надоўга толькі?

Насупраць у вялікім доме пад цёсавым дахам быў сельсавет. Каля канавязі стаяла некалькі фурманак.

Школу Вера ўбачыла здалёк на голым узгорку. Яе здзівіляла, што ў сяле амаль не было ні прысадаў, ні дрэўца ў гародах, толькі там-сям у палісадніках пазвешвалі галовы пабітыя дажджом і раннімі прымаразкамі жоўтыя вяргіні. Успомніла, што сады тут гінуць ад марозаў, таму іх не садзяць.

Школа абгароджана нізкім парканам з доўгіх жэрдак, а трошкі воддаль стаіць дом з пабеленымі рамамі. Падыходзячы бліжэй, Вера захвалявалася. Як яе сустрэнуць? Што за людзі, з якімі прыйдзецца працаваць? Нават узяў страх — здалося, што яна нічога не ведае і не помніць. Ці будуць слухацца дзеці? Што скажа завуч пра яе першыя ўрокі? Сэрца тахкала, як перад самым адказным экзаменам.

На двары яна ўбачыла Аляксея Іванавіча і ўзрадавалася. Каля нізенькай старой завозні Аляксей стругаў аглоблю. Без шапкі і папругі, з расчырванелым тварам, ён быў нейкі асабліва ладны і інтэлігентны ў кожным руху. Вера адчула, што і ён заўважыў яе, але ад работы не адарваўся, а калі падышла — весела ўсміхнуўся і паказаў чорныя і ліпкія ад смалы далоні, нібы прасіў прабачэння, што не можа падаць рукі.

Павітаўся і спытаў, як адпачывала, ці ўсё добра ў яе пакоі.

— Дзякуй. Усё добра. Толькі б дастаць якую вешалку і хоць маленькую тумбачку.

— Скажыце Анатолю Паўлавічу. Чалавек ён уважлівы і добры... Чакае вас, і настаўнікі ўсе ў зборы.

Вера хуценька прабегла двор, узышла на шырокі ганак. Сцены з тоўстага. кругляка парэпаліся доўгімі вузкімі расколінамі, сукі заплылі жоўтымі кропелькамі засохлай смалы. У маленькім тамбуры стаялі вёдры і дзеркачы на доўгіх кіях. Толькі што вышараваная ў калідоры падлога яшчэ не прасохла. Вера прайшла па ёй на дыбачках і пастукала ў дзверы настаўніцкай. Некалькі галасоў адказала «можна». Яна ўвайшла, павіталася і спынілася ў парозе. За доўгім сталом,

накрытым чырвоным, сядзела некалькі жанчын, і ўсе глядзелі на яе. З-за століка каля акна падняўся невысокі мужчына з зачэсанымі набок светлымі валасамі, у кіцелі, і выйшаў ёй насустрач.

— Рады вас бачыць, Вера Рыгораўна! — падаў руку і назваўся: — Пуцінцаў Анатоль Паўлавіч. Дырэктар.— Падвёў да стала.— Знаёмцеся. Наш завуч Наталля Іванаўна Быкова.

Высокая чарнявая жанчына з доўгім смуглявым тварам і маленькімі вочкамі, з расчэсанымі на роўны прабор валасамі, стрымана ўсміхнулася і падала моцную сухую руку. Каля яе сядзела бялявая кабеціна з вялікім круглым тварам, светлымі вачамі і жаўтаватымі валасамі, закручанымі на патыліцы ў вялікую куксу.

— Варвара Іванаўна,— сказала яна і падала круглую мяккую руку з кароткімі пальцамі.

Віталіся з ёю яшчэ чалавек пяць жанчын розных узростаў, з рознымі абліччамі. На канапе, збітай з дошак, з высокаю выразанаю спінкаю сядзеў сціплы бялявы, яшчэ малады, мужчына ў чорнай кашулі і наглянцаваных юхтовых ботах — Міхал Іванавіч Акунёў.

Не ўсе імёны і прозвішчы расслухала і запомніла Вера і збянтэжылася, што можа іх пераблытаць. Шчокі заліліся чырванню, яна прымасцілася на краёчку канапы.

Дырэктар сеў на сваё месца.

— Шкада, што вы не былі на раённай канферэнцыі і наогул затрымаліся. Вось ламаем галаву над раскладам, а заўтра першы званок. Якія класы вы хацелі б весці?

Вера ў яго голасе пачула папрок, у горле заказытала, яна сашчаміла пальцы і моцна сціснула рукі. Заўважыла, што ўсе жанчыны ўважліва і з цікавасцю разглядаюць яе. Адна, што сядзела спіною, павярнулася і, прыжмурыўшы вочы, учэпіста сочыць за ёю. Значыць, трэба апраўдвацца.

— Прабачце, Анатоль Паўлавіч, але раней прыехаць не магла. У мяне вельмі цяжка хварэла мама. Шэсць дзён я дабіралася да Новасібірска ды там два дні прасядзела, пакуль накіравалі сюды. Хацелі пасласць у Сузунскі раён, а я папрасілася ў самую глыбінку. А да вас дарога... самі ведаеце якая. А класьк.. глядзіце самі. Апрача інстытуцкай практыкі, вопыту ў мяне — ніякага. Тут такія спрактыкаваныя настаўнікі... Я папрасіла б што-небудзь лягчэйшае. Ну, там пяты, шосты клас.

— У вас жа не будзе поўнай нагрузкі.— Наталля Іванаўна разгарнула вялізны ліст раскладу і сказала:

— Будзеце весці пяты, сёмы і восьмы класы. Пяты выключна дзетдомаўцы...— Яна памаўчала, спадылба зірнула на Веру.

— Але вы справіцеся з імі,— азваўся дырэктар.

— Там большасць другагоднікі. Ну, і дысцыпліна... самі разумееце...

— Калі не спраўлюся, папрашу вашай дапамогі.

Дырэктар устаў з-за стала, нячутна прайшоўся па пакоі.

— Значыць, так, таварышы,— Вера Рыгораўна бярэ пяты, сёмы і восьмы класы. Аўдоцці Мітрафанаўне даём два шостых. Гэта дванаццаць гадзін. Маляванне ў пятых і шостым класах тры гадзіны — пятнаццаць, і тры гадзіны чарчэння. Якраз нагрузка. Ну, праверка сшыткаў, класнае кіраўніцтва. Па-мойму, крыўдзіцца няма падстаў. А ўсё астатняе застаецца па-ранейшаму.

— Што я буду мець з гэтае нагрузкі з вашым чарчэннем і маляваннем? — зардзелася высокая жанчына з колкімі вачамі, што нядаўна так пранізліва глядзела на Веру.— Няхай малюе, хто ўмее. А я не ўмею.

Анатоль Паўлавіч нахмурыўся, памаўчаў і памяркоўна сказаў:

— Ну, пастаўце, скажам, збан. Няхай малююць. Потым у збан — галінку. Хопіць на два ўрокі. А вы сядзіце сабе і правярайце сшыткі. Абы не крычалі. Ніхто ад вас не патрабуе выхаваць Рэпіных.

— Не трэба мне вашай ласкі. Дайце мне, што належыць,— раскрычалася Аўдоцця Мітрафанаўна.

Вера Рыгораўна ўстала.

— Прабачце, Анатоль Паўлавіч. Мне вельмі няёмка, што ў некага забіраю нагрузку. Я магу аддаць адзін клас, а сама дагрузіцца другараднымі прадметамі.

— Я ведаю, што раблю. Вы чалавек новы, нашых умоў не ведаеце. Зацвердзім нагрузкі і расклад на педсавеце. Пакуль адпачывайце да сямі гадзін. А вы, Вера Рыгораўна, на хвілінку затрымайцеся.

Жанчыны ўсталі, пачалі збіраць журналы, сшыткі з планамі.

Наталля Іванаўна згарнула расклад.

— Закончу дома. Пайшлі, бабанькі.

За ёю рушылі ўсе. Патаптаўся, папоркаўся нечага на этажэрцы маўклівы Міхал Іванавіч і ціха выйшаў. Дырэктар зірнуў у акно, убачыў, што ўсе мінаюць двор, сеў на крэсла насупраць і, нібы просячы прабачэння, ціха загаварыў:

— Не прымайце толькі ўсё да сэрца. Я тут працую другі год. Бяда, што працаваць няма з кім. Завуч у 1936 годзе скончыла педтэхнікум. Муж яе да вайны быў тут дырэктарам. Яна і ўкаранілася камандзірам. Аўдоцця Мітрафанаўна некалі ледзьве-ледзьве скончыла восем і педкурсы, а выкладае мову і літаратуру. Талковы настаўнік Міхал Іванавіч, але занадта ціхі, вядзе матэматыку і больш нічога ведаць не

хоча. Адным словам, працаваць пакуль што цяжка. Былі тут, кажуць, некалі добрыя настаўнікі. Многія не вярнуліся з вайны, некаторыя яшчэ служаць, а моладзь сюды пакуль яшчэ зацягнуць не ўдаецца. Ды і мала яшчэ выпускаюць. Усе мае спадзяванні на вас. Вы маладая, адукаваная і, калі сапраўды любіце дзяцей і школу, не ўгакінеце нас так хутка. А дзеці? І тут ёсць здольныя і нават таленавітыя. гэта так, для інфармацыі. Скажыце, як вы ўладкаваліся. Толькі шчыра. Пакой вялікі, хоць і не вельмі ўтульны. Дрывамі забяспечым, на пачатак можам даць трохі бульбы з прышкольнага ўчастка, а там, можа, і мэбляю якою разжывёмся. У крайнім выпадку пазычым у дзіцячым доме. Дык як?

— Вы ж самі ведаеце маю кватэру. На першым часе трэба было б хоць трохі газы, якую-небудзь тумбачку і хоць бы самую прымітыўную вешалку.

— Добра. Скажу заўхозу, і ён, чым зможа, забяспечыць. Пакуль адпачывайце, а ў сем гадзін прашу на педагагічны савет. Першы ў вашым жыцці.

Вера паднялася, падзякавала за шчырасць і выйшла з настаўніцкай. Яна павольна спускалася з ганка, глядзела на ўсе бакі, ды Аляксея не было. Каля завозі! стаяла абструганая жэрдка, валялася ружовая кара.

З узвышша школьнага двара Вера ўглядалася ў наваколле. За аселіцаю на грудку ў полі бялелі тонкія бярозы ў залацістым лісці. Відаць, могілкі. А далей, куды ні зірнеш, зжатае поле, амёты саломы, пажоўклыя пералескі акантавала густая тайга. Такіх сакавітых і яскравых фарбаў Вера ніколі не бачыла. Аж сэрца зайшлося ад прыгажосці. Зблізку відны галіны, лісты, калматае вецце лістоўніц і елак. Вера запаволіла крок, зачараваная прыгажосцю наваколля. Раз і другі азірнулася, потым адагнала думку пра Аляксея, спрабавала апраўдацца звычайнай цікаўнасцю да нейкай загадкавасці гэтага чалавека. А ён, відаць, чалавек разумны, разважлівы і шчыры.

Вера выйшла за вароты і пачула гулкі тупат. З палявой дарогі ў вузкую выгарадку паміж школьным дваром і платамі гародаў імчаўся табун маладых, неаб'езджаных коней. Гарэзлівыя, выгуляныя за лета жарабяты ціснуліся адзін да аднаго, задзіралі галовы, угіналі шыі, насядалі на пярэдніх, з-пад капытоў ляцелі камякі гразі. Праляталі ўспененыя храпы, грывы ў калючках дзядоўніку, здзічэлыя вялікія вочы. Вера прытулілася да плота, прыціснутая спуджанай віхурай шалёных коней.

Раптам з-за канцавой хаты ў сіняй доўгай сукеначцы маленькая дзяўчышка выскачыла наперарэз табуну.

— Ай-й! — прарэзліва, не сваім голасам закрычала Вера і кінулася за коньмі. Яны ляцелі проста на дзяўчынку. Яшчэ раз мільганула сіняя сукеначка і знікла ў пырсках гразі, за нагамі і крупамі табуна. Вера сілілася крычаць, але ніводзін гук не вырваўся з яе вуснаў. Усё было як у сне — бязгучны крык і гэтае жахлівае відовішча.

Калі прамільгнуў апошні конь, пасярод дарогі стаяла заляпаная гразёю, напалоханая дзяўчынка і брудным кулачком расцірала слёзы. Вера кінулася да яе, агледзела з ног да галавы, але нідзе — ні крывінкі, ні драпінкі. Настаўніца цяжка дыхала, ногі ледзь яе трымалі. Яна ўзяла за руку дзяўчынку і адвяла на сухое. Усё здавалася неверагодным: пранёсся такі табун і не крануў дзіця.

Коні тым часам перабеглі вуліцу і зніклі за доўгім свірнам у прырэчнай лагчыне.

Вера не магла вымавіць ні слова. А дзяўчынка падняла брудны прыпол сукеначкі і зарумзала галасней:

— Усю сукенку заляпалі... Цётачка, скажыце маме, што гэта не я, а Федзькавы жарабяты.

Вера дрыготкаю рукою гладзіла шорсткую рудую галоўку.

— Не плач, усё добра, усё добра,— нарэшце яна авалодала голасам.

— Добра, до-о-бра! Вунь як сукенку ўрабілі!..— зарумзала дзяўчынка.— Мамка будзе біцца...— заплакала галасней.

— Як цябе завуць? — нагнулася Вера.

— Фенька.

— Дзе ты жывеш?

— Тутака,— паказала пальчыкам у вуліцу і адразу сціхла.

Вера ўзяла дзяўчынку за руку, і яны пайшлі разам. Падсохлая сцежачка была вузкая, Фенька пабегла паперадзе, толькі мільгалі заляпаныя гразёю босыя ножкі. Вера ледзьве паспявала за ёю. Сустрэчныя саступалі дарогу, віталіся і, не тоячыся, разглядалі ноиую настаўніцу.

Дзяўчынка прывяла Веру ў вялікі, закіданы трэскамі двор. На дзвярах у хату клямка замест замка заткнута драўлянаю лыжкаю.

За хатаю на градах з пасохлаю націнаю гарбузніку і агурэчніку корпаецца маладая высокая жанчына. Яна выпрасталася, відаць, хацела накінуцца на дачку, але ўбачыла незнаемую дзяўчыну, сумелася і загаварыла мякчэй:

— Дзе гэта цябе носіць нялёгкая? Усё гулі табе! Бяры нож ды абразай буракі.— Глянула на брудную сукенку, пляснула рукамі.— А божа ж ты мой! Дзе ж ты так выкачалася? Ну, пачакай... Я табе пакажу, як лётаць, неслух.

— Я да дзядзі Лёшы бегла,— адказала дзяўчынка.

Жанчына падышла, павіталася з Вераю. Тая адразу заступілася за Феньку.

— Не сварыцеся. Яна не вінавата. Табун коней яе ледзь не растаптаў. Я ўжо думала... Аж стаіць, толькі сукеначку трохі запэцкалі.

— Хоць ты прывяжы яе...— ужо мякчэй азвалася маці.— Коні перадам ніколі чалавека не зачэпяць, а дзіця і подаўна. Соннага заўсёды абмінуць. Ра-азумная скаціна... Вы, можа, гэта і ёсць тая новая настаўніца? Бабы казалі ў сяльпе, што прыехала. Свежага чалавека ў нас усе бачаць. Многа ў той школьнай кватэры перавярнулася. Зіму павучаць —толькі іх і бачылі. Глуха, кажуць, у нас. А мы лепшага не ведаем, дык і тут добра. Дзякаваць богу. Гітлера таго дабілі, дык, можа, цяцер хоць уздыхнем трохі. Зямля наша без гною родзіць. Пшаніца, як гай, шуміць, а ў вайну і мы набедаваліся. А куды дзенешся? Трэба было фронт карміць і з тылам дзяліцца. Там, пад немцам, страху пад бомбамі нацярпеліся, а тут адны бабы пласталіся дзень і ноч ды над пахаронкамі галасілі.— Горка ўсміхнуўшыся, дадала:—Мужыкі цяпер, як пеўні, адзін на чараду... А вы ж здалёку?

— Да вайны жылі каля Гомеля. У вайну з мамаю заехалі за Яраслаўль. Там і вучылася... На дзевачку толькі не вельмі сварыцеся. Яна і так перакалацілася. А сукенка адмыецца.

— Каторы год таго мыла ў вочы не бачылі. Сіняю глінаю рукі мыем, ды ў жлукце лугам з попелу бялізну парым. А як там жывецца?

— Дзе прайшлі немцы, засталіся адны галавешкі ды магілы. Наступалі — нішчылі ўсё, адступалі — яшчэ горш.

— Мой казаў, колькі гора прынялі. Увесь пабіты вярнуўся, але, дзякуй богу, хоць жывы. Жалеззе і цяпер у ім сядзіць. Але ўжо так-сяк з кіёчкам клыпае.

Дай яму бог здароўя, хазяйсцвеннік школьны Ляксей Іванавіч прывёз яго нехадзячага дадому. На хронце і ў лазарэце яны сільна падружыліся. І прыехалі разам. У таго, беднага, нікога і нічога пасля германца не засталося, дык ён тут неяк прыжыўся. Вучаны чалавек. Але дыплома вытрабаваць не можа. Кажа, згарэла ўсё. Дык з канём ды з быкамі петуецца. Нам трохі памагае. Залаты чалавек.

Вера адчула, што чырванее, пагладзіла па галоўцы сцішаную дзяўчынку і сабралася ісці.

— Можа, малачка возьмеце збанок? — прапанавала жанчына.— На лепшае выбачайце. А кароўка яшчэ трохі доіцца. Калі трэба, прыходзьце. І Фенька можа прынесці.

Вера падзякавала, сказала, што ўжо ўзяла ў гаспадыні, развіталася і пайшла.

Яшчэ ўсё трымцела і калацілася ад страху, перажытага за некалькі імгненняў, пакуль ляцелі коні, пакуль не падбегла да дзяўчынкі. Спакой і разважлівасць Фенінай мамы супакоілі і яе, а тое, што яна расказала, здзівіла і нікольні не памагло зразумець заўхоза. Яна так і падумала — не Аляксея Іванавіча, а заўхоза, і да драбніц убачыла яго адкрыты, абветраны твар, моцныя рукі і ладную постаць. Дзіўна! Быў у шпіталі, прывёз параненага мужа гэтай жанчыны і цяпер памагае яму, хоць і сам часам крывіцца ад болю, але ніколі не паскардзіцца.

Яна спахапілася, што зноў думае пра яго. Чалавек як чалавек. Відаць, адукаваны, тактоўны і далікатны.

Доўгая хата на дзве палавіны цягнулася з узгорка ў лагчынку, таму Верын пакой стаяў на высокіх падрубах і з высокім стромкім ганкам. Такі ж, толькі на пекалькі прыступак ніжэйшы, ганачак быў на гаспадарскай палавіне. Там жыла сухенькая бабка Трахімаўна, з дачкою-векавухаю. Звалі тую Яўхім'я. Цяпер яна рабіла на таку, вярталася дадому ўся ў асцюках і ў пыле, але, не заходзячы ў хату, хапала на ганку ражку з сечаным зеллем і бегла ў хляўчук, дзе заходзіўся піскам худы, аж гарбаты, парсюк.

Паўхаты ў Трахімаўны яшчэ да вайны адкупіў сельсавет для настаўнікаў. Колькі іх тут перавярнулася за гэтыя гады! Жылі і дзяўчаты і хлопцы. Усіх і не запомніла старая. Некаторыя сталаваліся ў яе. Але тады яна была маладзейшая, ды і жылі раскашней. Вайна ўсё падгрэбла, а потым і падмяла, і цяпер старая з дачкою перабіваліся бульбай, груздамі ды малаком. Малака хапала, хоць кожны дзень насілі на малаканку, выконвалі план.

Пра гэта ўсё Веры ў першы ж дзень расказала Трахімаўна і паабяцала прадаваць ёй па літру сырадою. А калі настаўніца захоча што зварыць, можа прыставіць гаршчочак у іхняй печы.

Так адразу ўсталяваліся адносіны з гаспадыняй, але як будзе сталавацца, Вера яшчэ не ведала і сама. Пры першай жа гаворцы Трахімаўна, хітра ўсміхнуўшыся, сказала:

— Бачу, і ты ненадоўга. Як у той даўнейшай песні: «Прыляцяць увесну гусі, а я ў дарожаньку збяруся». У той бок, адкуль прыляцела. Там тваё шчасце, у горадзе. А тут што? Дзевяць месяцаў зіма, лета блісне — і няма. І хлопца да цябе не дабярэш. Баская вельмі ды белая. А без мужыка бабе ніяк не абысціся. Онь мая Хімка — таўкач таўкачом засталася. Усё выбірала, чакала нечага. На табе, дачакалася! Баб цяпер хоць гаць гаці. Мо дзесяць на аднаго прыходзіцца. За кожнымі, шануючы вас, порткамі бегаюць. Аж брыдка. Колькі іх чапілася да Архіпавага фацыранта, таго, што цябе прывёз! А ён і

вухам у той бок не вядзе, усё хаханькамі адбывае. Самастаяцельны мужчына. Дык яны яго манахам празвалі.

Вера слова ў слова прыпомніла ўчарашнюю размову з гаспадыняю, спахапілася, што зноў думае пра Аляксея. Дзіўна. Ніхто не абмінае яго ў гаворцы, Выходзіць, у кожнага навідавоку. I ніводзін благога слова не сказаў. Толькі ён усю дарогу пра сябе і не азваўся.

Каб адбіцца ад гэтых думак, Вера дастала праграму, разгарнула сшытак, прыклала вокладку граматыкі, адлінавала палі, запісала: «Тэма ўрока, мэта ўрока»,— і задумалася. «Якая ж мэта ўрока?» Вокны ў яе пакоі не завешаныя і даўно не мытыя. Відна гразкая вуліца, хаты насупраць, рэдка праходзяць людзі, тады-сяды прагрукоча фурманка. Паваt дзяцей мала відно. Устала, выцягнула з чамадана газету і завесіла сю адно акно.

У дзверы пастукалі.

— Калі ласка,— голасна адказала Вера і аж уз^ дрыганула, калі на парозе ўбачыла Аляксея. Ён трымаў у руцэ невялікую вешалку, з кішэні тырчаў малаток. Вера ўстала з-за стала, у суконных тапачках і ў тым жа халацiку, што была ў таежнай хацінцы.

— Дзень добры, Вера Рыгораўна,— весела загаварыў Аляксей.— Дзе тут будзе ваш гардэроб? Анатоль Лаўлавіч загадаў пакуль што прыбіць вешалку, а там, можа, і шафу расстараемся. Я ўжо нагледзеў, дзе можна дастаць.

Вера падсунула табурэтку і запрасіла сесці.

— Расседжвацца няма калі. У мяне ж гаспадарка — конь і два быкі. А іх дагледзець трэба.

Паміж сцяною і грубкаю былі пабеленыя з тоўстымі філёнкамі дзверы. Да іх Аляксей і прыклаў вешалку на шэсць калочкаў.

— Паглядзіце, па-мойму,— самае зручнае месца.

— Можна трошкі вышэй. Я дастану.

Аляксей выняў з кішэні некалькі цвікоў, пасаваў вешалку, каб было роўна, і крыкнуў праз дзверы на гаспадарскую палавіну:

— Трахімаўна, не палохайцеся, я тут трохі пагрукаю.

— Грукай, грукай, сынок, але не вельмі, каб з бажнічкі святыя не пасыпаліся,— азвалася з-за сцяны гаспадыня.

Аляксей некалькімі ёмкімі ўдарамі прыбіў вешалку да верхняе ліштвы дзвярэй, адышоўся глянуць, ці роўна.

— Дзверы трэба чым-небудзь запнуць, каб не бралася пабелка да адзежы. Пакуль што хоць бы газетамі.

Вера дастала чахол ад пасцелі і падала Аляксею. Ён прыклаў яго да дзвярэй і папрасіў патрымаць адзін ражок. Калі прыбіваў, Вера не

адпускала руку, і незнарок іх далоні дакрануліся, але яна не прыняла сваю, толькі даверліва і ласкава зірнула яму ў вочы...

— А вы сапраўды добры гаспадарнік. Мне здаецца, усё ўмееце і робіце легка і хутка. Вялікае вам дзякуй.

— Ну, як вам спадабаліся новыя калегі?

— Пераконваю сябе, што першае ўражанне памылковае. Хаця ўпэўнена — дырэктар разумны, уважлівы і адукаваны чалавек. А настаўніцы... здаецца, я іх яшчэ не разумею.

— Якія вам далі класы? — перавёў размову Аляксей.

— Пяты, сёмы і восьмы. Як вы лічыце, спраўлюся? Толькі шчыра. Мне ж, апрача вас, няма з кім параіцца...— Спахапіўшыся, удакладніла:— Вы тут мой першы знаёмы. Хоць, шчыра кажучы, нічога не ведаю пра вас. Прабачце. Калі вам непрыемна, можаце нічога не гаварыць.

Аляксей горка ўсміхнуўся.

— Дзяцей я ведаю добра, дзетдомаўскіх асабліва. Яны мне ахвотна памагаюць, давяраюцца і ўсё расказваюць. Кожны з іх — асоба, характар, але з глыбокаю свежаю траўмаю. Выраслі без мацярынскай і бацькоўскай ласкі, бачылі столькі гора і жахаў. Словам, дзеці вайны. Востра адчуваюць боль, незаслужаную крыўду, няшчырасць і несправядлівасць. І пратэстуюць адкрыта, як вожыкі, натапырваюць іголкі. А павераць — палюбяць, аддана і непадкупна, друга не падвядуць ніколі. Будзеце з імі шчырая і справядлівая — пойдуць за вамі, і вы іх палюбіце. Сарвяцеся, незаслужана пакрыўдзіце — кепска будзе і вам і ім.

Вера склала рукі, апусціла галаву і слухала ўважліва, як школьніца.

— Гаворыце, як Макаранка. Вы ж педагог, Аляксей Іванавіч, а стругаеце жэрдкі, прыбіваеце вешалкі, возіце дровы. Ніч-чога не разумею. Упэўнена толькі, што педагог.

— Усё прасцей, чым вам здаецца.— Аляксей усміхнуўся.— Пакуль бывайце здаровы. Шафу я вам прывязу. Калі што спатрэбіцца, кажыце, пастараюся памагчы. Пасуда ў вас якая-небудзь ёсць? Бо купіць тут нічога не купіце. Можа, я дастану што-кольвек.— Ён узяўся за клямку.

Вера падбегла да Аляксея і дакранулася да рукава пацёртай салдацкай ватоўкі.

— Я спадзяюся на вашу падтрымку і дапамогу, калі хочаце, на парады і кансультацыю. У мяне ж ніякага вопыту... і такі клас! Хочацца паспрабаваць свае сілы, паверыць, што і я педагог. Добра? — Яна працягнула мяккую ружовую далонь Аляксею.

Ён далікатна абхапіў яе сваёю загарэлаю шурпатаю рукою і паглядзеў у твар. Вера, апусціўшы галаву, чакала адказу.

— Чым можна будзе, памагу. Але кожная сустрэча можа кінуць цень на ваша добрае імя. Гэта ж вёска...— Ён пацісну ў руку і выйшаў за дзверы.

Вера падалася да завешанага газетаю акна і глядзела праз верх, як размахваючы малатком, ішоў па сцежцы Аляксей. Вярнулася да стала і зноў узялася за планы.

Пахла газаю ад бляшанай пяцілінейнай лямпы. На сцяне чэкалі старыя ходзікі, з іржавым замком замсст пры.

Анатоль Паўлавіч гартаў свежыя інструкцыі і загады аблана і райана.

За сцяною прыбіральшчыца Мінадора совала парты, бразгала вядром і хлюпала мокраю анучаю. Часам ціха напявала нешта цягучае і сумнае. Шлёпалі босыя ііогі, і зноў шоргалі парты, барабаніў ножкамі стол.

Чытаў дырэктар інструкцыі, не паглыбляючыся ў сэнс, перагортваў агульную частку, спыняўся на радку «Загадваю...». Дачытваў да канца, прабягаў зрокам наступную старонку, знаходзіў істотнае, але яно было даўно вядомым: «Усімі сродкамі павышаць паспяховасць вучняў, даваць грунтоўныя веды асноў навук. Усе прадметнікі абавязаны змагацца за адзіны арфаграфічны рэжым... Асаблівую ўвагу звярнуць на выхаваўчую работу, разгарнуць дзейнасць піянерскай і камсамольскай арганізацый школ раёна...»

Лёгка загадваць, а паспрабуй усё гэта выканаць. Гэта тое самае, што загадаць «узяць вышыню». А як яе возьмеш, калі не хапае снарадаў, калі ў разліку засталося па два чалавекі?.. І закруціліся свежыя, яшчэ балючыя ўспаміны. Замільгалі твары сяброў, пахавапых пад Вязьмаю і Валакаламскам, налёты авіяцыі.

Вайну Анатоль Паўлавіч прайшоў у артылерыі, ад падносчыка снарадаў да наводчыка. Нашывак за рапенні ў яго больш, чым ордэнскіх планак. Ёсць «Чырвоная Зорка» і «Айчынная» другой ступені. Выразна ўспомніліся медсанбаты, пах карболкі і ёдаформу, санітарныя цягнікі пад бамбёжкай.

Ён сціснуў скроні далонямі, сіліўся адагнаць успаміны, але адна жахлівая карціна змяняла другую. Ратаваў яго невысокі рост. Але ўсё ж асколак трапіў. Пакуль выцягнулі ды залячылі, і вайна скончылася. Перамогу адзначалі ў шпіталі. Плакалі сляпыя і бязногія, а ён на мыліцах скакаў «Падгорную» ў цесным праходзе палаты. Потым вярнуўся ў сваё Калыванава. А два браты не вернуцца ніколі. Толькі

пажоўклыя здымкі пад шклом вісяць каля бажніцы ды дзень пры дні ціха плача ссівелая і здрабнелая маці. Здаецца, каб плакала ўголас, было б лягчэй, а то аплывае і чахне, як свечка. Не вытрываў болю і жалобы ў матчынай хаце, яшчэ з кіёчкам паехаў у Новасібірск, знайшоў свой факультэт, нават сакратарка яго пазнала, аформіў перавод на апошні курс завочнага гістфака. І вось табе — дырэктар. Загад «узяць вышыню». А з кім? Вайна праглынула настаўнікаў, якімі некалі ганарылася Біязінская школа, эвакуіраваныя ў гэтую глушэчу не даехалі, вось і... Але ёсць і першая ластаўка. Сапраўды ластаўка. Як яе толькі зберагчы, утрымаць тут? Хоць і настаўніцкі, але ўсё ж інстытут, свежыя веды, адчуваецца выхаванне і такт. Стварыць умовы? Але як? Нічога ж няма. Хоць бы атуліць увагай і клопатам. А тут яшчэ падсунулі такі клас. Хоць бы не сарвалася ў першы ж дзень. Можа, схадзіць з ёю на ўрок? Пагаварыць асобна з дзецьмі? Мяне ж яны слухаюцца. Можа, таму, што дырэктар, што франтавік, што часам расказваю пра вайну. Як яны тады слухаюць! Ніхто не варухнецца, толькі часам уздыхне.

На калідоры пачуліся цяжкія крокі. Анатоль Паўлавіч зноў прачытаў «Загадваю...». У настаўніцкую ўвайшла Наталля Іванаўна. У доўгім, адглянцаваным за многія гады плаццi, у жакецiку, перашытым з мужчынскага пінжака, і гумовых ботах, канапляная хустка з'ехала ледзь не на патыліцу.

Яна села за доўгі стол і разгарнула свае паперы, расклад, перапісаны на двух склееных аркушах у клетку.

— Прыйшлося вам у панядзелак і ў чацвер паставіць па дзве фортачкі. Іначай не выпадала. Ды і на ўрокі вам трэба хадзіць часцей да маладых настаўнікаў.

— Мне ўсё роўна сядзець тут ад цямна да цямна. Так што можна і фортачкі. А маладых у нас толькі адна. Пакуль што хадзіць да яе неварта. Няхай прывыкне, адчуе ўпэўненасць, авалодае класам. Я не збіраюся і вам не раю.

— Маладых і трэба якраз з першых крокаў папраўляць. Фанабэрыі ў іх многа, ды толку мала. А гэта Барышава, відаць, стрэмка добрая. Глядзіце, каб не села на шыю і вам. Дарадчык у яе ўжо ёсць. Хітры, як чорт.

Анатоль Паўлавіч аж здзівіўся ад нечаканасц:,

— Што вы гаворыце, Наталля Іванаўна?

Ёй здалося, што ў пытанні, поўным папроку і перасцярогі, прагучала звычайная цікаўнасць, і жанчына пасыпала, як з малатарні.

— Знюхалася з гэтым вашым хвалёным саўхозам. Ноч удваіх начавалі ў старожцы. Што, вы думаеце, яны ў карты гулялі ці чыталі

байкі Крылова? І ночы было ім мала — прыехалі ў паўдня. А бачылі, хто яе сустрэў, як ішла ў школу? Як яны ўсміхаліся каля завозні! Ужо збегала пазнаёміцца да бабы яго дружка, да Параньки Усцігавай. А чаго, як думаеце?

Дырэктар здзіўлена пацісnуў плячыма і развёў рукамі.

— Эх, Анатоль Паўлавіч, малады вы і нічога не бачыце. Дзе ім сустракацца? У Архіпа ён спіць на ўслончыку, у яе — у кожнага навідавоку. От і будуць хадзіць да Усцігава. А той за свайго дружка гатовы ў вір галавою. Разумееце?

— Нічога не разумею! — з абурэннем сказаў Анатоль Паўлавіч.

— Зразумееце, як пачнуць нашу школу скланяць у раёне за бытавое разлажэнне. А чый недагляд? Наш. Дазволілі маладому спецыялісту з першага дня скаціцца ў балота.

— Наталля Іванаўна, вы ж жанчына, маці.

— Таму і гавару! Гадзіну назад сама бачыла, як бег ад яе і азіраўся, а яна газеткай завесіла акно і паглядала ўслед.

Анатоль Паўлавіч перапыніў яе:

— Гэта я пасылаў заўхоза прыбіць вешалку. Трэба ёй яшчэ дастаць шафу, завезці бульбы, дроў. Так што не дзівіцеся, калі яго там яшчэ не раз убачыце. А ў хацінку хіба ніколі вас не заганяла непагадзь?

— Што вы раўняеце! — ускочыла Наталля 1ванаўна.— Яны ж былі ўдваіх. Удваіх, разумееце!

— А вы ведаеце, што на фронце нам даводзілася спаць пад адным шынялём і з радысткамі і з санітаркамі? Мы іх аберагалі, як сясцёр.

— Добрыя сябры пад адным шынялём! — зларадна засмяялася Наталля Іванаўна.— То фронт, а тут зусім іншае. Гэты хлышч на селавых баб і глядзець не хоча, а гэтую ружовую «падушачку» прыбраў адразу. Вы як хочаце, а мой абавязак папярэдзіць. Каб пасля ўсім не было сорамна, як пачнуць скланяць.

Анатоль Паўлавіч выйшаў з-за стала, прабегся па настаўніцкай, ускудлаціў чубок светлых валасоў, стаў насупраць Наталлі Іванаўны і, стрымліваючы хваляванне, загаварыў выразна, нібы дыктаваў кожны сказ:

— Наталля Іванаўна, я вас вельмі прашу, вельмі. Няхай тое, што вы сказалі, назаўсёды застанецца тут, паміж намі. Каб вашых неабгрунтаваных здагадак больш не чула ніводная душа. Вы нікому больш не казалі? — утаропіўся ў яе дырэктар.

— Я ж там не была. А мне ўжо тры чалавекі казалі. Бачылі, як ён выходзіў ад яе.

— Вы разумееце, што робіце? Працаваць няма каму. Прыехала першая адукаваная дзяўчына. Замест таго каб хоць трошкі прытуліць

яе, стварыць мінімальныя ўмовы, падтрымаць, мы адразу... Як ёй тут заставацца? Плюне і паедзе. А паспяховасць будзе ўзнімаць Аўдоцця Мітрафанаўна? Наце,— ён падбег да стала, ухапіў некалькі паперак, паклаў перад завучам,— чытайце апошні загад аблана. Хіба вы не ведаеце сваіх кадраў? Адзіная, на каго можна абаперціся, а вы яе бэсціце...

— А мы хіба зломкі? Дзесяць гадоў стажу і чатыры падзякі райана — гэта вам не за карыя вочы. І Варвара Іванаўна, хоць і без дыплома... Вопыт... вопыт не забывайце, Анатоль Паўлавіч. А гэтыя з дыпломамі паспытаюць нашага хлеба і самі лататы дадуць...

— І пра заўхоза вы дарэмна. Я ўпэўнены, што ён партызаніў, ваяваў, не раз паранены. Прывёз зусім бездапаможнага таварыша, памагаў, пакуль той не стаў на ногі. Нарэшце, ён вельмі адукаваны чалавек, несумненна, педагог. А што дыплома няма — не вялікая бяда. Веды не ў кішэні і не ў папцы, а ў галаве павінны быць. А там, у іх не толькі дакументы,— гарады сцерлі з зямлі. Адновіць дыплом, і будзем рады працаваць з ім, калі захоча.

— Ну-у-у, тут вы мяне зусім здзівілі, Анатоль Паўлавіч. Невядома чаго прыбіўся сюды, а строіць з сябе ліха ведае што.

— Думайце што хочаце, гэта ваша справа, толькі, калі ласка, Веру Рыгораўну прашу нават позіркам не зневажаць. І жанчын пераканайце, што ўсё гэта паклёп, што нехта злосна пажартаваў.

— Ну глядзіце, Анатоль Паўлавіч, я папярэдзіла.— Наталля Іванаўна рэзка села і ўткнулася ў расклад.

У пакоі спахмурнела. Зашыпеў, а потым бомкнуў старасвецкі гадзіннік у шкляным футарале. Стрэлкі паказвалі палову сёмай.

— Наталля Іванаўна, напішыце, калі ласка, расклад званкоў для тэхнічак. Вялікі перапынак дзесяць хвілін, звычайныя — пяць. І так баюся, ці хопіць газы праводзіць усе ўрокі. Апошнімі ставім вусныя прадметы. Гісторыю, літаратуру і батаніку з горам папалам можна расказваць і ўпоцемку. А на будучы год калгас абяцае паставіць рухавік і генератар. Тады зажывём.

На фронце ў Анатоля Паўлавіча выпрацавалася тонкае адчуванне. Ён азірнуўся ў акно. Праз двор ішлі настаўніцы на педсавет. А насустрач ім заўхоз верхам гнаў каня. Мабыць, пасвіць.

Аляксея нешта гнала з двара. Ён упершыню так балюча занудзіўся па любімай рабоце, па званках, па школьным тлуме. Распірала жаданне расказаць пра ўсё, што ведаў, хацелася ўліць душу ў кожнае слова, натхнёна чытаць вершы, каб ніхто нават не паварушыўся, слухаючы радкі вечнай паэзіі.

Яшчэ раз азірнуўся на асветленае акно настаўніцкай, а конь сам павярнуў на паскоціну і ходка пайшоў, матаючы галавой. У змроку звінелі і бразгалі «боталы» на конскіх шыях, хрумстала сталочаная дробная траўка, тупалі спутаныя капыты. Неба загусла і замігцела нізкімі зіхатлівымі зорамі, з нізін пасмамі паўзлі халодныя подыхі ядранай ночы, а з-за кустоў часам напльывалі павевы дёплай вільгаці. Аляксей павярнуў у дробны алешнік, на мякчэйшую і не так збузаваную траву. Ехаў і ўсю дарогу думаў, што яму рабіць, куды падацца. Пакуль дабярэшся на родныя папялішчы, паўзімы міне. Куды там прыткнешся? Яшчэ на непагадзь смыляць і ныюць раны. А тут неяк пераб'ешся на хлебе і бульбе з малаком, а прыціснуць маразы — і скаромнінаю разжывешся, акрыяеш — не сорам знаёмым будзе паказацца, каб не войкалі і не спачувалі. Ды і Мішу зімою прыйдзецца памагчы дрыўмі і сенам.

Аляксей спутаў каня, закінуў на плячо аброць, прайшоў некалькі крокаў і наступіў на лоўжык сухога ламачча. Ён з маленства любіў сядзець у апусцелым асеннім полі каля маленькага трапяткога агеньчыка. Пры хісткім святле добра думаецца, успамінаецца і марыцца. Пра што марыць? Вядома, пра будучае.

Але трэба перацярпець да вясны, загартавацца пасля шпітальнай лежкі, надыхацца смольным духам тайгі. Да таго ўсё збольшага ўсталюецца, хто застаўся жывы, вернецца на сваё селішча.

Аляксей прыкурыў цыгарку, прыгнуўся, падаткнуў запалку ў сушняк маленькага лаўжа. Затрашчала, скруцілася пажоўклая ігліца, ухапілася полымем сухое лісце папараці, аранжавыя язычкі пабеглі па тонкім суччы, загуў, затрапятаў агонь, рассунуў настылы змрок, дыхнуў белым дымком і цяплом на рукі і твар, выхапіў з цемры конскія спіны і кусты алешніку. Усё здалося чырвоным і хісткім, а за кругам святла прасціралася цёмнае асенняе поле і бязмежная тайга. Прыткнуўся Аляксей на аблыселы, паточаны шашалем пяньчук, прасцёр рукі да кастра. Здалося — пасля паходу на «жалезку» грэецца недзе ў гушчары Сінягоўскага бору. Прыпомніўся камандзір брыгады Сцяпан Ларыёнавіч Сямашка, з чорным колцам непаслухмянага чуба, з круглымі арлінымі вачамі і шчарбінкаю на пярэднім зубе. Дзе ён цяпер? Калі жывы, пэўна, вялікім начальнікам стаў. Вайсковым наўрад ці. Сеяць і будаваць, лашчыць далонню рубчастую пшаніцу, падлічваць у коласе зярняты, узвышаць людскія душы — яго талент. Сакратар райкома. Сапраўды першы. Першы ва ўсім.

Ён першы ўставаў у раёне і золкімі світаннямі тросся ў старэнькай «эмцы» ў дальні калгас, першы быў на суботніку, калі садзілі местачковы парк, а на пачатку вайны склікаў партыйны актыў,

сабраў у ваенкамаце і ў асавіяхіме сякія-такія вінтоўкі і наганы і паўсотні надзейных мужчын павёў у лес.

Успомнілася, як доўга і разважліва ён гаварыў з ім, маладым настаўнікам, калі прапанаваў застацца ў мястэчку, уцерціся ў давер да немцаў, каб усё перадаваць сваім. Папярэджваў, як гэта будзе рызыкоўна і цяжка. Не настойваў, не ўгаворваў, толькі пытаўся, ці хопіць вытрымкі і сілы. А потым у атрадзе клапаціўся пра яго, як родны бацька: выклікаў самалёт і адправіў у тылавы лазарэт.

Касцёр зырка ўгарэўся, асела ламачча, закруціліся ў цемені іскры. У хісткім святле Аляксей убачыў высокую постаць чалавека з дубальтоўкаю ствaламі ўніз. Выхаплены святлом вогнішча твар здаваўся высечаным з цагліны.

— Хто гэта, думаю, тут качагарыць? Аж вунь хто. Здарова, паря! — загаварыў увесь аброшаны ляснік Пётра Анціпаў. Зняў з пляча дубальтоўку, прысеў на кукішкі, прыжмурыўся ад святла, залубянелы плашч закурыўся струменьчыкамі пары.— Чаго адзін вечаруеш? Нікуды не дзенецца твой «стаеннік». Ваўкоў у нас, дзякаваць богу, не чутно, а мядзведзям часу няма — будуюцца на зіму.

— Я не пільную. Наступіў на ламачча — дай, думаю, спалю. Чакаю, пакуль дагарыць, каб, чаго добрага, на сухі шыпшыннік агонь не пераскочыў ды не выкаціў усё гэтае кушчэўе.

Пётра дакурыў самакрутку, цыркнуў праз зубы на агонь.

— Каб так усе думалі, не трэба было б да цёмначы цягацца па тайзе ды прынюхвацца, адкуль дымам цягне. Лайдакі думаюць — тайзе канца-краю няма, на яго век хопіць. Кінуў такі ахламон вогнішча ў сушняку або цыгарку затаптаць паленаваўся — і загуло, і зайграла. Колькі лесу дымам пайшло! Ды якога лесу: кедрач, як звон, лістоўніцы табе, што тыя свечкі. І ўсё — прахам, адны галавешкі тырчаць. А колькі дзічыны гіне!..

От такая, брат, мая работа. Кругом ляснік вінаваты. Ты ў баране, а той варначына, што плюнуць на недакурак паленаваўся, у старане. Думаеш, за жалаванне да ночы з урману не вылажу? Шкада дабра такога, і хараства шкада.

Тут у нас гадоў пяць балота гарэла. Тарфы, лічы, да самае пупавіны зямлі залеглі. Снегу зімою ў мой рост наваліць — ну, думает, захлынуўся агонь. Дзе ты бачыў! Пад снегам і пад попелам, не раўнуючы, пекла кіпіць. А зверху роўна, гладка, пароша блішчыць — і не падумаеш. Да вайны было: пайшоў адзін кержак на собаля. І трэба ж, занесла яго нялёгкая на тое балота. Я-ак шуснуў — ні следу ні знаку. Чакалі-чакалі — няма. Выправіліся па лыжні шукаць. Дайшлі

да канца. Бачаць — шапка каля проламкі ў снезе ляжыць і дымок над ёю круціцца.

Старыя казалі, некалі з коньмі і саньмі ў такое пекла правальваліся. Так што, калі зімаваць збіраешся, асцерагайся па балацінах цягацца, можа, там ад цара Гароха тлее.

Тым часам вогнішча ачахла, вуголле ўкрылася белым трапяткім попелам, Аляксей з лесніком прысыпалі прысак вільготным пяском з крацінага стажка, прытапталі, выцерлі аб вільготную траву рукі і пайшлі ў сяло.

— А ў цябе, праўда, ні роду ні плоду не засталося? — мабыць, каб толькі не маўчаць, спытаў Пётра.

— Праўда... Перазімую, а вясною падамся ў родныя мясціны.

— Яно так. Дзе б ні быў, свая старана мудрэй за магніт цягне. Да вайны на дзяйсцвіцельнай службу я пад Херсонам і панадзіўся да аднае хахлушачкі, Дзеўка, я табе скажу, як абняць, а сэрца — што воск, мяккае. Вінаград з паркана сам у рот лезе, кавуны, як гіярэстыя кормнікі, на баштане качаюцца. Еш, пі, чаго душы заўгодна. Ад'язджаць прыйшла пара — плача, каб застаўся. Адпрасіўся старых адведаць і праўда думаў — вярнуся. А прыехаў — не адарвацца. Што ў нас? Урман, камарэча, груздзы ды горкая чаромха — і ўвесь фрукт; бураны з маразамі, гразь па вушы, а мне лепшага і не трэба.

Налазішся па тайзе, наслухаешся, нагледзішся касачоў на такавішчы. А ласіны гон! От дзе рык, от дзе сіла, от дзе любошчы! А з мядзведзем стрэнешся — страх і радасць, што не ты, а ён цябе баіцца і прэцца ў валежнік... Чуеш, як ціха? Дзе яшчэ так ціха, а?

На селавой вуліцы яны развіталіся.

— Заходзь вечарам паталкаваць. А часам прыжывешся — лесам паможам і зрубім хату талакою.

Аляксей падзякаваў і пайшоў па пругкай сцежцы. У хатах было цёмна, толькі з вокан пяцісценкі Наталлі Іванаўны на вуліцу і ў двор падала святло, чулася гамана, у двары стаяў нечы выпражаны конь. Да Быковых часта заязджалі раённыя ўпаўнаважаныя і рэвізоры: муж Наталлі Іванаўны пасля фронту не вярнуўся ў школу, а ўзначаліў куставую кантору спажывецкай кааперацыі.

Ціхманы чалавек і цяпер часта хварэе, а гандлем фактычна камандуе Наталля Іванаўна. У магазіне яе слова — закон. Яна ведае, каму што даць, каму не даваць, каму якія карткі, з каго спагнаць пай, да якога тавару дадаць «нагрузку». Яна прыходзіць у кантору, садзіцца за мужаў стол і пачынае: «Ягор Кірылавіч кепска сябе адчувае. Адпусціце сягоння Ульяне ў магазін яечны парашок, макаронаў і манкі. Надзі выпішце корту і паркалю». Калі трэба было

падпісаць ведамасць або нарад, каб не турбаваць мужа, яна часам гаварыла: «Роспісь у нас аднолькавая, давайце сюды»,— і падпісвала акурат як Ягор Кірылавіч.

III

Гаспадары ўсёю сям'ю спалі на вялікай, разасланай на падлозе кашме. На чыстай палавіне хаты стаяў драўляны ложак, засланы стракатаю саматканаю посцілкаю з высокаю пірамідаю падбітых падушак. Але на ложку ніхто не спаў. Пакуль цёпла, слаліся на падлозе, а ў вялікія маразы лезлі на палаці. Аляксеева месца было на шырокай лаве каля дзвярэй. Клаліся, як толькі змеркне, бо скупа было з газаю, а ў такую далеч па бездаражы не навозішся, ды не вельмі яе і выстарчала тады.

Аляксей толькі ўмасціўся на сенніку, заплюшчыў вочы, каб заснуць, як нехта пастукаў у дзверы. Ён падхапіўся, выскачыў у сенцы.

— Буевіча ў сельсавет,— адказаў жаночы голас.

— А хто выклікае, цётка Настасся? — па голасуназнаў Аляксей суседку.

У сельсавеце начамі дзяжурылі па чарзе: выклікалі, хто быў патрэбен, адказвалі па тэлефоне, а часцей драмалі над сталом да рання.

— З раёна нейкі новенькі. Загадаў, каб сей мінут быў,— і патупала па рыплівых прыступках ганка.

Аляксей, не спяшаючыся, апрануўся, скруціў на дарогу цыгарку і ціха выйшаў за дзверы. Была ядраная ноч. Вялікія зоры ўсыпалі цёмнае неба, наўскаеяк светлаю паласою працягнуўся Млечны Шлях, недзе на другім канцы, падвываючы, брахаў сабака. На цёмнай вуліцы там-сям мільгаў слабы дрыготкі агеньчык, і толькі з вокан Верынага пакоя яркае святло кідала цень ад аконнай рамы на гразкую дарогу. Пахла вялым, гаркавата-салодкім бульбоўнікам і кропам, свежае, аж колкае, паветра казытала ў носе і халадком абдзімала шчокі. Аляксей цаляў ступаць па тугой вузкай сцяжынцы, каб не ўцерабіцца ў гразь, а душу смактала прадчуванне чарговай непрыемнасці. Ён ведаў, што вакол яго снуюць нейкія плёткі. І сапраўды, дзіўна — адукаваны чалавек круціць быкам хвасты, возіць дровы недавучкам. Даўно трэба было плюнуць на ўсё, паехаць дадому, хоць дома таго і няма, напэўна, засталіся людзі, якія помняць і ведаюць яго. Што яго тут трымала? Міша Усцігаў. Яго бяда, жаданне памагчы таварышу трохі агледзецца. Спадзяваўся папрацаваць, каб збольшага акрыяць, стаць на ногі і вярнуцца ў свой зруйнаваны раён.

Святло з вокан сельсавета падала на пажоўклыя кусты ў гародчыку. Дзверы на ганку расчынены насцеж, у пярэднім пакоі

каля жоўтай скрынкі тэлефона за маленькім столікам сядзела цётка Настасся і драўляным кручком спрытна вязала тоўстую рукавіцу. Аляксей аж зажмурыўся пасля цемнаты, агледзеўся і толькі хацеў спытаць, каму ён патрэбен, як дзверы ў пакой старшыні адчыніліся, з іх выткнуўся тонкі, зусім яшчэ маладзенькі чалавек. На ім тапырыўся, відаць з чужога пляча, кіцель, з шырокіх кірзавых халяваў выдзімаліся шырокія галіфэ. Дробныя рысачкі твару адразу і не запомніш.

На Аляксеева прывітанне ён адказаў папрокам:

— Колькі ж можна чакаць? Ну і дысцыплінка! Заходзь.

У пакоі прыезджы падкруціў кнот у лямпе, прысунуў шэры мармуровы прыбор, сеў за стол, Аляксею паказаў на табурэтку каля дзвярэй. Памаўчаў. Адсунуў шуфлядку, пагартаў у ёй нейкія паперкі, выцягнуў чысты аркуш, падумаў, увагнуўся і даволі доўга нешта пісаў.

— Назавіце ваша прозвішча, імя і па бацьку.

— Раз выклікалі, значыць, ведаеце. А хто вы? І навошта я вам ноччу спатрэбіўся?

— Памочнік райпракурора Пушанкоў. А цяпер адказвайце на пытанне.

— Ну, Буевіч Аляксей Іванавіч.

— Без «ну». Год і месца нараджэння?

— 1918, веска Заполле, Ельніцкага раёна, БССР.

— Дзе вас, Буевіч, захапіла Вялікая Айчынная вайна?

— Там жа, у Ельніцы працаваў настаўнікам.

— І да немцаў на службу адразу пайшлі?

— Ах, вось вы аб чым? — павесялеў Аляксей.— Не, не адразу. Толькі праз месяц па загаду падпольнага райкома. Уласна кажучы, чым выкліканы ваш інтарэс?

— Пытанні задаю я. Ваш абавязак адказваць і гаварыць толькі праўду,— пачырванеў Пушанкоў.— А якое задание вам далі, калі перакінулі ў Савецкую Армію?

— Не шкадуючы сіл і жыцця змагацца з нямецкімі захопнікамі,— спакойна адказаў Аляксей.

— Тут не цырк! Не прыкідвайцеся дурнем! Немцы якое задание далі?

Аляксей сціснуў кулакі і прашыпеў:

— Вы хоць трохі думайце, што гаворыце. Я выконваў задание партызанскай брыгады. Райком загадаў улезці ў нямецкую ўправу, даваць не толькі весткі, але і перапраўляць бланкі «аўсвайсаў» і іншых неабходных дакументаў.

— Што гэта за «асвайцы»? — перабіў следчы.
— Пашпарты нямецкія. У нас было моцнае маладзёжнае падполле, а калі гестапа натрапіла на след, па загаду камандавання брыгады я ўліўся ў атрад. Рвалі чыгунку каля Барысава і Смалявіч. У чэрвені 42 года асколкам авіябомбы мне прабіла плячо,— Аляксей дакрануўся да яго рукою.— Самалётам перакінулі пад Маскву, у ваены шпіталь. А калі трохі ачухаўся, з забінтаванаю рукою папрасіўся на фронт.
Пушанкоў папярэдзіў, каб гаварыў павальней, і ўсё запісваў.
— А чаму не вярнуўся назад у партызанскую брыгаду? — перабіў ён.
— Цягнікі туды не хадзілі, аэрафлот не абслугоўваў, а пехатою далекавата,— злосна пажартаваў Аляксей.
— А дзе вы вучыліся да вайны? — нібы не пачуўшы адказу, запытаў Пушанкоў.
— У Мінскім вышэйшым пецінстытуце. Скончыў у саракавым і год працаваў выкладчыкам у Ельніцкай сярэдняй школе.
— А чаму адразу не пайшлі ў армію?
— Раён быў адрэзаны на пятыя суткі вайны. Мяне выклікаў першы сакратар райкома таварыш Сямашка і загадаў астацца на месцы. Пакінулі і загадчыка ашчадкасы. Ціхага і адданага чалавека.
— Каму адданага? — нерабіў следчы.
— Вядома, не немцам. Мужнасці і вынаходлівасці гэтага чалавека хапіла б на дзесяцярых. Яго прызначылі старастам управы, а потым ён мяне ўзяў сакратаром. Доўга цягнуў, адмаўляўся для прыклёпу, прыкідваўся, што правярае.
— Як яго прозвішча?
— Якаў Спірыдонавіч Самцэвіч,— адказаў Аляксей.
— Дзе ён цяпер?
— У брацкай магіле каля вёскі Хвасцінічы. Гестапа схапіла яго на ганку ўправы, мучылі гарачым жалезам, а потым яго і яшчэ трох падпольшчыкаў павесілі на іЙіошчы. Сярод іх была дзяўчына. Разумееце, калі ён мне загадаў у лес уцякаць, я ўпрошваў і яго ісці разам. Не паслухаў, спадзяваўся паспець выканаць задание. Самае важнае. Думаў, пратрымаецца. Аж нейкі гад выдаў. Мы здагадваліся хто, але пэўна не ўстанавілі.
— Хопіць байкі расказваць, Буевіч. Гаварыце па сутнасці,— перабіў Пушанкоў. Ён то абсмыкваў кіцель, то расшпільваў і зашпільваў каўнер.
— Гэтыя «байкі» напісаны крывёю! — бліснуў вачыма Аляксей.— Пытайцеся. Але помніце, байкі, якую вы хочаце пачуць ад мяне, не будзе. Дзіўна. Вы паверылі нейкаму паклёпніку, можа, нават затое-

наму ворагу, а не верыце франтавіку і людзям, з якімі я ваяваў,— амаль крычаў Аляксей.

— Лепш раскажыце, як правалілі падполле і з якім заданнем перакінулі немцы.

— Вы што ж, хочаце з мяне зрабіць нямецкага шпіёна? Няўжо ў вас няма больш сур'ёзнага занятку, таварыш памочнік пракурора? — ужо спакойна спытаў Аляксей.

— Таварыш вам шэры воўк,— папярэдзіў Пушанкоў.— А чым займацца, самі ведаем.

— Прабачце, хоць я і не арыштаваны, але таварышам абяцаю вас больш не называць.

— Арыштоўваць пакуль што няма патрэбы. Ды і куды вы дзенецеся? На поўнач — тайга і непраходная дрыгва, у Тарск і з раёна адзіная дарога. Тут кожны чалавек, як на сподачку.— Пушанкоў уздыхнуў і безнадзейна развёў рукамі.— А сведак, што вас пакінулі выконваць спецзадание, няма. Разумееце, ня-ма. Факты ўпартая рэч, Буевіч.— Пушанкоў абмакнуў пяро і пачаў пісаць. Потым прачытаў:— Пытанне: чаму вы са шпіталю не паехалі дадому?

— Зноў скажаце, што расказваю байкі. Вы ж у вайну, мабыць, у пяты клас хадзілі. Адкуль вам ведаць, што такое франтавое брацтва і дружба, чым пахне порах і кроў, змешаная з зямлёю і талым снегам? — з болем загаварыў Аляксей. Пушанкоў памкнуўся ўскочыць. Аляксей перапыніў яго рухам рукі, што азначала: «Сядайце, памаўчыце», і працягваў: —А па сутнасці... запісвайце. На фарміраванні ў горадзе Кімры я трапіў у 284 сібірскі стралковы полк. Адбівалі немцаў пад Масквой і гналі на захад. У нашым узводзе служыў ціхі, але адважны хлопец Міша Усцігаў. З першага дня спалі побач і пасябравалі з ім, а ў баі пад Смольняю снайперская куля мне прабіла правае лёгкае. Я страціў прытомнасць. Як апынуўся ў палявым медсанбаце, хто вынес з поля бою, доўга не ведаў. ТольКі калі адпраўлялі ў тыл, знаёмы санітар сказаў, што падабраў мяне Міша Усцігаў. Сустрэць яго калі-небудзь я ўжо і не марыў. Але давялося-такі. Убачыліся зімою сорак пятага ў Новасібірскім шпіталі. Ён ляжаў з прастрэленай рукою і разбітым правым бядром. Я ўжо быў хадзячы і стаў яго, можна сказаць, персанальным санітарам, хоць і сам яшчэ кашляў крывёю...

Пушанкоў яго перабіў:

— Я пытаюся, чаму прыехалі іменна сюды, а вы ўхіляецеея ад прамога адказу, пятляеце, як заяц, і зноў расказваеце пра вайну і пра бамбёжку.

— Добра,— дзёрзка адказаў Аляксей.— Пішыце. Праводзіў са шпіталю цяжка параненага франтавога таварыша Міхаіла Усцігава.

Застаўся на некаторы час, каб дапамагчы яго сям'і ўправіцца з прысядзібным участкам. Калі даведаўся, што мая вёска дашчэнту спалена і нікога з радні не засталося, вырашыў часова пабыць тут, папрацаваць, падтрымаць баявога таварыша. І самому хоць трохі адысці пасля ўсяго перажытага.

— Вы сцвярджаеце, што маеце вышэйшую асвету, а чаму пры вострай нястачы настаўнікаў працуеце заўхозам?

— Я адсюль звяртаўся ў сваё аблана з просьбай прыслаць мой дыплом. Нядаўна зноў адказалі, што ўсе архівы аблана і інстытута загінулі ў часе акупацыі. Людзі там цяпер новыя і пакуль што нічым памагчы не могуць.— Аляксей дастаў з кішэнькі кароценькае паведамленне і падаў Пушанкову. Той толькі зірнуў і адсунуў убок.

— Гаворыце вы складна, Буевіч, а вось з работай на немцаў няўвязачка: сведкі вашы або нябожчыкі, або неіснуючыя асобы. Дзе той ваш...— ён зірнуў у пратакол,— Сямашка? Хто можа яшчэ пацвердзіць, што вы служылі ва ўправе па заданні райкома?

— Начальнік разведкі брыгады былы ўпаўнаважаны райаддзела НКВД Піліп Васільевіч Юркевіч.

— Дзе ён цяпер?

— Каб жа я ведаў! Вайна раскідала людзей па свеце. Калі жывы, напэўна, недзе працуе.

— Па-шш-укаем, па-шш-укаем,— прамармытаў Пушанкоў і запісаў прозвішча.— Канечне, каб вы прызналіся ва ўсім, было б лягчэй і вам і нам,— уздыхнуў ён.— Службу ў немцаў вы не адмаўляеце, правал падпольнай арганізацыі таксама. Што ж выходзіць? Чатырох павесілі, а з вас і валасок не зваліўся. А? Лепш не круціце, Буевіч. Чыстасардэчнае прызнанне змяншае меру пакарання,— мякка ўгаворваў следчы.

Аляксей ускочыў з табурэткі.

— Гаварыце ды не загаварвайцеся! Каго вы хочаце абвінаваціць? Вы ніколі не нюхалі пораху, не ведаеце, што такое вайна і акупацыя. Толькі такі і можа паверыць паклёпу нейкага замаскіраванага ворага. Пакажыце мне гэты данос.

— Сядзьце! — ускрыкнуў Пушанкоў і ўстаў сам.— Бач ты, чаго захацеў! Пакажы яму... і не данос, а заяву сумленнага савецкага чалавека. Вось...— ён патрос пакамечаным канвертам.

— Калі так, паедзем і ўсё высветлім на месцы. Толькі вам будзе вельмі сорамна.

— Мы і самі разбяромся. Падпішыце пратакол.

Аляксей узяў два доўгія лісты, пачаў чытаць пытанні і свае адказы. Па сутнасці яны былі правільныя, хоць і не такія катэгарычныя,

як даваў Аляксей. Следчы ў пачатку адказу звычайна пісаў «Гр-н Буевіч сцвярджае...» Настаўніцкая звычка сачыць за арфаграфіяй і тут не пакідала Аляксея. Ён тактоўна заўважыў: «Филипп» пішацца праз два «п», а ў слове «фашистский» суфікс «ст». Вось тут трэба коска». Пушанкоў пачырванеў і апраўдаўся: «Гэта дробязь, апіскі», акуратна папраўляў іх. Паклаў пратакол у папку і сказаў:

— Ідзіце і падумайце. Будзе вам і мне лягчэй.

— Вам, можа, і лягчэй, а я ў гэтай камедыі не ўдзельнік.

Аляксей ляпнуў дзвярыма і, не развітаўшыся, выбег з пакоя. Сяло даўно спала. Схіліўшыся над сталом, драмала цётка Настасся. Вецер варушыў пажоўклую чарэмшыну пад акном. Сцежка пацвярдзела ад начнога прымаразку.

«Дурань бесхрыбетны»,— лаяў сябе Аляксей. Упэўнены ў сваёй невінаватасці, унутрана ён быў спакойны, ведаў, што разбяруцца, можа, нават дадуць па хвасце гэтаму порсткаму юнаку. Але хто б мог прысланаць гэты паклёп? Вядома, нехта знаёмы. Але хто? Чаму? За што?

Аляксей уяўляў, як усё магло атрымацца: ён некалькі разоў пасылаў запросы ў раён і ў сельсавет. Там шукалі яго радзію. Напэўна, калі прыйшло пісьмо, нехта дазнаўся, дзе ён, і вырашыў «накапаць». Але навошта? Каб пазбавіцца ад яго, каб не вярнуўся дадому. Значыць, яго нехта баіцца. А можа, напісаў занадта «пільны» чалавек, які бачыў яго ва ўправе, але і не ўяўляў, хто туды паслаў маладога настаўніка, дзе ён быў пасля. Або так? Або гэтак? Але ж яго не арыштоўваюць. Значыць, няма падстаў. Прыйшла заява, а заяву трэба разглядаць. Вось і стараецца гэты маладзён, але не разабрацца, а толькі абвінаваціць. Што б рабіў я на яго месцы?

Аляксей ведаў, што ўсе з раёна заязджаюць да Наталлі Іванаўны. Яна першая дае ўсім характарыстыкі і інфармацыю. Відаць, і Пушанкоў з ёю паспеў пагаварыць.

Аляксея Наталля Іванаўна ўзненавідзела з першых дзён яго работы ў школе: за ім талакою хадзілі дзетдомаўскія самыя «адорвы» і слухаліся яго, як не слухаліся нікога. Лавілі яму «Смажанага», падмазвалі колы, разам ездзілі па сена. Заўхоз ім расказваў пра партызанаў і пра вайну, пра кніжкі, якіх прачытаў, мабыць, тысячы. На ўроках хлапчукі задавалі настаўніцы такія пытанні, падкідалі такія задачкі, што не кожная магла адказаць і рашыць.

Вось і ўз'елася на Аляксея Наталля Іванаўна. «Падбухторваеце дзетдомаўскіх хуліганаў. Падсоўваеце ім правакацыйныя пытанні і задачкі, каб падарваць аўтарытэт выкладчыкаў!» Ён звычайна адказваў, што аўтарытэт нельга ні падняць, ні падарваць. Ён залежыць ад

настаўніка. А дзеці вельмі дапытлівыя, яны ўсё хочуць ведаць, ва ўсім разабрацца і з нявырашанымі пытаннямі прыходзяць да яго. Аднойчы параіў быць да іх больш уважлівымі і ласкавейшымі.

«Вы лепш прывязіце дроў Аўдоцці Мітрафанаўне, а з выхаваннем мы самі ўправімся»,— адсекла яна. У тоне Пушанкова яму чуліся інтанацыі Наталлі Іванаўны. Відаць, па сакрэту ўжо сказала сяброўкам, што ім зацікавілася пракуратура, і папаўзлі па сяле шэпты: заўхоз служыў немцам, схаваўся ад кары ў іх глухім сяле, але яго і тут знайшлі.

Пакуль ішоў дадому, усё гэта прамільгнула ў Аляксеевай памяці. Начны халадок астудзіў лоб і шчокі. У дварах лена пабрэхвалі сабакі, пазяхалі і адыходзілі ад варот. Толькі ў адной хаце яшчэ гарэла лямпа. Не спала Вера Рыгораўна.

Аляксей прамінуў свае весніцы і праз вуліцу паглядзеў у яе акно. На сцяну падаў яе павялічаны цень. Вера ўстала, прайшлася па хаце, нагнулася, відаць, рассцілала пасцель. У завешаным газетаю акне паказаўся яе профіль, рукі высмыкнулі заколкі з пышных валасоў, крутнула галавою, і на плечы рассыпаліся пакручастыя пасмы. Лямпа патухла.

Аляксей пастаяў яшчэ некалькі хвілін, ціха шапнуў: «Дабранач» і паволі паплёўся на свой тапчан.

У сельсавеце яшчэ доўга свяцілася акно. Пушанкоў быў незадаволены размоваю з Буевічам. І пратакол складаў так, дзеля большай важнасці. Пракурор даручыў пагаварыць, а не дапытваць, але як тут утрымаешся, калі чалавек не адмаўляе сваю працу ў немцаў. Многае супадае з заяваю. Ён яшчэ раз выцягнуў яе, прачытаў, прыгледзеўся да канверта — ні адраса, ні прозвішча аўтара няма, і штэмпель не Ельніцы, а зусім другога горада. Можа, баяўся помсты? Але ж факт ёсць, значыць, трэба высвятляць. Ён усю дарогу сюды пераконваў сябе, што на пасадзе школьнага заўхоза хаваецца фашысцкі паслугач, вырашыў «раскалоць» яго і здзівіць пракурора, які не вельмі давяраў ананімшчыкам.

Пушанкоў закурыў, прайшоўся па пакоі, паклікаў дзяжурную і загадаў схадзіць па Міхаіла Усцігава.

— Не ведаю, як небарака даграбецца па такой багне. І днём ён ледзьве клыпае. А ў гэткую цемень сунецца ў канаву, і костачкі не збярэш. Ён жа ўвесь з кавалачкаў злеплены.

— А ты прывядзі яго. Адна нага тут, другая — там!

— От, каб вы маладыя ногі пазычылі,— ляпнула дзвярыма кабета.

Настасся ледзьве дастукалася да Усцігавых. Паранька запаліла бляшаны смаркачык, затуліла рукамі абвіслыя пад кашуляю грудзі і з трывогаю паглядзела на дзяжурную.

— Уставай, Мішачка, нейкаму начальніку спатрэбіўся,— у парозе ўздыхнула Настасся.

— Ці дня яму мала? Ноччу калеку цягае! Скажы — няздолее... Хворы, бязногі. За прыгон і то жонка водзіць,— запрычытала Паранька.,

— Што яму трэба? — Сеў на ложку ўскудлачаны, худы, аж сіні, гаспадар. Толькі блішчалі глыбока запалыя вочы ды ўздрыгвалі тонкія ноздры.

— Хіба ж ён скажа? Прывядзі, і ўсё тут,— прыперлася да вушака Настасся.— Дык чакаць ці ісці? — і, памаўчаўшы, дадала: — На дружка твайго, Ляксея, усё нешта крычаў, а цяпер кажа Усцігава падавай.

Міхал рвануў коўдру і пагробся на край ложка, зняў з біла зацухмоленыя штаны. «Э, не, брат, хоць ты і начальнік, Аляксея не чапай»,— аж заскрыгатаў зубамі. Паранька памагла нацягнуць ватнікі і мяккія старыя бродні. Міша накінуў целагрэйку, задам наперад уздзеў салдацкую шапку, спрытна падаткнуў пад паху мыліцу.

— Хадзем, Настасся. А ты, Паранька, кладзіся паспі яшчэ,— ляпнуў дзвярыма і пачыкільгаў.

У пакой Усцігаў увайшоў без стуку.

— Выклікалі?

— Садзіцеся, таварыш Усцігаў,— далікатна запрасіў Пушанкоў.

— Мне толькі стаяць або ляжаць. Сядзець, зараза, не дае,— паляпаў разбіты клуб.

— Пагаварыць з вамі хацеў...

— Калі да дня не церпіцца, пагаворым,— буркнуў Міхаіл.— Пытайцеся,— закінуў нагу на нагу, абапёрся на мыліцу і павіс, як на плоце.

Пушанкоў пабарабаніў пальцамі па стале, думаючы, як пачаць далікатней, але доўга трымаць стоячы пашчапанага франтавіка не выпадала.

— Дзе вы пазнаёміліся з Буевічам?

— Вайна пазнаёміла і душу, як панчоху, вывернула. Адразу скажу, таварыш... як вас там... Аляксея не чапайце. Ведаю, як самога сябе. З жонкай бывае век у адной пасцелі пракачаешся, а яна вазьмі ды байструка прынясі, а на вайне ні галаву, ні душу не схаваеш. Калі б усе ваявалі, як Буевіч, ардзяноў не хапіла б. А тое, што партызанам быў, не сумнявайцеся. Усе даведкі — у яго на целе. Няхай раздзенецца, паглядзіце — пячатка на пячатцы. Я яго каля мястэчка Смольня нежывога вынес. Думаў, хоць у зацішку закапаю ды магілку прымечу. А ён вазьмі ды замармычы, сказаць нешта сіліцца, але крывёю

захлынаецца. Бачу, не ў хвойнік, а ў медсанбат трэба. Не думаў, што пабачымся калі. Аж не, шчасце ў няшчасці звяло: у Новасібірскім лазарэце сустрэліся, і цяпер ужо ніяк не разлучыцца. Ён жа вучаны-перавучаны. Дзве галавы складзі — проці яго аднае не дакажуць. А ён мяне, сівалапага чалдона, як малое дзіця, у хату прынес, Параньку суцешыў. Соткі ўзараў і пасеяў, Феньку няньчыў, казкі ёй расказваў і мяне пелянаў, пакуль сукравіцаю сыходзіў. Кажа: «Міша, друг, не пакіну, пакуль «Падгорную» не ўрэжаш». І не кідае. А ты такога чалавека — памыямі. За што? Скажы, ты сібірак?

— Алтайскі,— нехаця адказаў атарапелы Пушанкоў.

— Што ён падумае пра нас, сібіракоў, калі ні за што ні пра што ў чыстую душу плюнеш?

Усцігаў расчырванеўся, вочы гарэлі дзікім бляскам, па разорах апалых шчок цуркамі сцякаў пот. Ён выцер твар шапкаю і заківаў галавой.

— Эх ты, сысунок. Ага, сысунок. Я цябе не баюся. Я ўвесь тут,— і ён расхінуў худую, рабрыстую грудзіну...

Пушанкоў закіпеў, але стрымаўся.

— Прашу не абражаць пры выкананні абавязкаў... — і кінуў свой галоўны козыр: — А вам вядома, што Буевіч быў прыслужнікам у фашыстаў, сам схаваўся, а падпольшчыкаў павесілі? А? Што вы на гэта скажаце, Усцігаў?

Следчы спадзяваўся аглавушыць заступніка нечаканай навіной, а той зарагатаў:

— А як жа, ведаю. Увесь наш узвод ведае, як ён немцаў за нос вадзіў, як дакументы партызанам перадаваў. Ці раз расказваў! І ў смершы пра гэта ведалі. У самую хітрую разведку толькі яго і пасылалі. Прыкінецца, што ні адзін арціст не дакажа.

— Во, во, сапраўды артыст. Ён і цяпер прыкідваецца, а ты і вушы развесіў. Дакументы ў нас ёсць на яго.

— Часам не па-нямецку пісаныя?

— Не разумею,— паціснуў плячыма і развёў рукамі Пушанкоў.

— Дзе-е табе! Відаць, непанятлівы. А яшчэ ўпаўнамочаны,— расцягнуў апошняе слова Усцігаў.— Варажына нейкая падкінула той дакуменцік, а ты і клюнуў, абы за лытку пашкуматаць. Ці мала яго шкуматалі! Адчапіся. Так і скажы начальству. Калі ёсць за ім хоць от такая парушынка,— ён вялікім пальцам ткнуў у кончык мезенца,— скажы, Усцігаў на сябе ўсё бярэ. Толькі прашу, адступіся!

— Супакойцеся, таварыш Усцігаў. Вы франтавік, і вам трэба быць больш прынцыповым. Буевіча ведаеце нядаўна. Пра яго дзейнасць пры немцах мяркуеце толькі з яго слоў. Так? А сведак няма. Не

хвалюйцеся. Разбяромся, усё высветлім, і калі не вінаваты ваш Буевіч, няхай жыве на здароўе, а калі праўда, што пішуць, і ваша істэрыка не паможа.— Памаўчаўшы, спытаў: — Значыць, сцвярджаеце, што Буевіч Аляксей Іванавіч згадзіўся даставіць вас дадому і памагчы абрабіць прысядзібны ўчастак? Так я вас зразумеў?

— Так. Чалавеку няма куды галаву прыхінуць. Вы ведаеце, што там засталося пасля немцаў? Каміны ды галавешкі. Я бачыў. А ў яго ні хаткі, ні маткі. Хай тут трохі акрыяе на малацэ ды на бульбе. А там яшчэ і прафесарам стане.

Пушанкоў устаў з-за стала і хацеў правесці Усцігава з ганка.

— Я сам. Не трэба,— крутнуў рукою, абы-як накінуў шапку, хітра ўсміхнуўся.— Добрай раніцы вам,— і застукаў мыліцаю па ўсходцах.

IV

Вера прачнулася рана і адразу не магла ўцяміць, дзе яна: пустая неатынкаваная хата патыхала халадком, на стале, пакладзенай унахлёст, паабсыпалася пабелка, і пралысіны здаваліся дзіўнымі ўзорамі і малюнкамі, як у дзяцінстве летнія кучаравыя воблакі.

Вылазіць з-пад коўдры не хацелася. Яна яшчэ пахла домам. Хоць і той дом быў чужы і не вельмі ўтульны, але там, дзе маці, там і дом, а цёплы, саладкаваты дух абжытага кута яшчэ доўга не вытыхаецца з рэчаў і з памяці.

Шыбіны затуманіліся і пакрыліся буйнымі кроплямі, на вушаку ламаўся халодны чырвоны прамень. Толькі акно на вуліцу было запнута газетаю, а ў астатнія, здавалася, мог кожны зірнуць на яе аголеныя плечы і рукі. Вера, седзячы на ложку, дакранулася босымі нагамі да настылай падлогі, не здымаючы з каленяў коўдру, нацягнула зліняжую паркалёвую сукеначку ў белыя гарошыны.

За сцяною ўжо даўно бразгала качэргамі Трахімаўна, ляскалі дзверы, пад ганкам радасна сакатала курка.

Вера прыгнулася перад маленькім люстэркам на сцяне — прычасаць хвалістыя валасы — і падумала, што трэба будзе нанач завязваць хусцінку, каб яны не так блыталіся, збіваліся. Зірнула ў акно і здзівілася ядранаму, чыстаму і ціхаму ранню. Туман курыўся над прырэчным лазняком і высокім гліністым берагам, пасмамі слаўся ўскрай лесу, а барвовае сонца ломкаю чырванню заліло стракатыя верхавіны тайгі, пажоўклыя бярозавыя грывы ў прыцінтаным полі. Халаднаватая празрыстасць вераснёвай раніцы, здавалася, трымціць шкляным звонам.

Суцэльнае кола тайгі агінала навакольныя палеткі. Паміж цёмнай хвоі стромкімі свечкамі залаціліся лістоўніцы, чырванню набрынялі

купы асін, іржавеў рабіннік, трапяткой пазалотай на ўзлессі свяціліся бярозы.

Старанна прычэсваючыся, Вера глядзела ў гэтыя дзівосныя таежныя прасторы. На ганку пачуліся мяккія павольныя крокі, і, не стукаючыся, увайшла Трахімаўна ў кажушной безрукаўцы, зграбных, хоць і даўно ношаных, чырках, падпяразаная крамным зацыраваным фартушком. Сухенькая і рухавая, яна нечым нагадвала маці, але была старэйшая і цямнейшая за яе.

— Дык прыходзьце снедаць, Верачка. Хоць невялікія прысмакі ў нас, але лепш, як нічога. У вас жа ні гаршка, ні міскі. Так што пасталуйцеся, як не грэбуеце, з намі. А пабагацееце ды разжывяцеся — як сабе захочаце. Прыходзьце, пакуль не прастыла.

Вера аж пачырванела ад такога нечаканага запрашэння. Яна яшчэ і сама не ведала, як будзе харчавацца. Самой варыць складана і доўга. Сталоўкі ж ніякай у сяле няма. Думала, але набівацца ў сталаўніцы да Трахімаўны не адважылася. Таму і ўзрадавалася, што ўсё так проста выходзіла.

Трошкі затрымалася, пакуль прыбірала ў пакоі, засцілала ложак, нацягвала зацыраваныя на ступаках панчошкі. Трахімаўна настукала ў забітыя дзверы паміж пакоямі. Вера чакала гэтага стуку; бянтэжачыся, не вельмі смела, зайшла на яе палавіну. Увесь кут займала вялізная печ з палацямі пад столлю, пры сцяне стаяў драўляны ложак з тарою падушак, шырокая лава, каля яе стол, засланы кужэльным абрусам. Пасярэдзіне зіхацеў пукаты тульскі самавар, з краю стаяла патэльня з падсохлай яечняй, цэлая, падсмажаная перад полымем, пакарабачаная, з хрусткімі падпалінамі, бульба, у місцы — скрылі кіслага малака. Яго чамусьці Трахімаўна звала прастакішай.

Гаспадыня фартухом сцерла лаву.

— Садзіся, Верачка, з'еш, што бог паслаў,— проста і натуральна перайшла Трахімаўна на «ты».— На лепшае выбачай.

— А вы чаму не ясце? Садзіцеся.

— На мяне не зважай. Назбіралася, пакуль тупала каля печы. Дзень у мяне вялік, пакручуся трохі ды і падзяўбу чаго-кольвек. Колькі старому трэба? Еш, еш, галубка. Табе ж у школу бегчы. Зранку будзеш хадзіць ці па абедзе?

— У другую змену. А сёння дырэктар прасіў усіх зранку прыйсці,— адказала Вера.

— Ну і добра, калі па абедзе. Уга, як выспацца можна. А то ў нас пазалетась дзве жылі, дык да першых пеўняў сляпіліся і ўпоцемках у школу ляцелі. А зімою задзьме, замяце ды закруціць — свету божага

не відаць. Калоцяцца, па пахі грузнуць, а ідуць.— Памаўчаўшы, спытала: — Пімы ў цябе хоць ёсць?

— Няма,— адказала Вера.

— Без пімоў і не думай зімаваць. Э-э, не! У гэтых панчошках ды боціках ногі ў першы мароз паадлятаюць.

— А што такое пімы, Трахімаўна? — пачырванела Вера.

— От табе і на! Пімоў не ведае. Ну, катанкі па-вашаму. Як чобаты, толькі з воўны бітыя. Без пімоў, галубка, толькі на печы сядзець. Старайся к зіме. Каб воўна была, Архіп і скатаў бы. Ну, паразіт, і майсцер. Як улье, ніхто не дакажа!

— Напішу, можа, мама прышле.

— Не-е, тыя не выдзюжаць. Архіп у кожны насок, можа, паўхунта воўны кладзе і абцасікі робіць. Адным словам, лялькі. Тры зімы дзюжаць, а там і падшыць можна. А мамка твая служыць дзе ці як?

— На гуце ў лабараторыі працуе, а бацька майстрам. У яго з грамадзянскай вайны вока паранена, дык у гэтую ўжо не ўзялі. Да вайны мы пад Гомелем жылі. Там вялікая гута была. Эвакуіраваліся за Яраслаўль і цяпер там жывём. Але бацькі ўсё назад збіраюцца...

Вера падзякавала за снеданне і пачала прыбіраць са стала.

— Няхай стаіць. Сама ўпраўлюся. Табе ж бегчы трэба. Абед у гэтым чыгунку будзе і на патэльні. Калі часам куды выскачу, дык сама ўпраўляйся. Замок пацягні, і адчыніцца. Так, для прыклепу вісіць. У нас тут зладзеяў няма. Усе свае. Трэсачкаю прабой заткні — ніхто не зойдзе. Ну, бяжы.

Вера хуценька адзела шэрае гладкае плацце з белым каўнерыкам, накінула лёгкі жакецік у клетку, зірнула ў люстэрка, папраўіла валасы. Праз акно паглядзела на вуліцу: сцежачкі пацвярдзелі і падсохлі. Абула лёгкія чорныя лодачкі і пабегла ў школу.

Па вуліцы ішлі натоўпы дзяцей. Хто босы, хто ў маленькіх чырочках на голых нагах, дзяўчынкі ў доўгіх злінялых сукенчачках і хустачках, хлопчыкі ў штоніках і расхлістаных кашулях. Валасы за лета павыгаралі і бялелі, як маленькія сланечнікі-самасейкі.

Вера была адметная ад усіх, нават нейкая таямнічая сваёй нетутэйшасцю. Да астатніх настаўніц усе даўно прывыклі. Яны былі мясцовыя: летам басанож палівалі грады, даілі кароў, разам з усімі хадзілі ў ягады. А новая — зусім незвычайная, з горада. А плацце якое! А лодачкі! Дзяўчынкі глядзелі як зачараваныя. Смялейшая падбегла да Веры, павіталася.

— Вы нас вучыць будзеце?

— А ў якім ты класе? — спыталася Вера.

— У чацвёрты перайшла.

— Тады толькі ў наступным годзе.

— Вы і на той год будзеце ў нас?

— Абавязкова.

Дзяўчынка адстала ад Веры і шапнула сяброўкам «будзе». Вера пачула і азірнулася. Хлопчыкі і дзяўчынкі весела ўсміхаліся і падтыкалі адно аднаго локцікамі. Кніжкі і сшыткі неслі ў руках, некаторыя ў палатняных торбачках, некалькі хлапчукоў важна размахвалі вайсковымі сумкамі, ішлі ў бацькоўскіх шапках з чырвонымі, сінімі і чорнымі аколышамі. На маленькім хлопчыку быў танкісцкі шлем з тугімі рэбрамі.

Вера ўспомніла, як некалі да вайны хадзіла ў школу сама. Усе дзеці беглі на першы ўрок у новенькіх касцюмчыках і суконачках, рыпелі і паблісквалі чаравічкі і партфелі. Калі гэта вернецца зноў? Вайна многіх асірацiла і ва ўсіх адабрала радасці дзяцінства, і сюды, за тысячы кіламетраў, яна дакацілася агульным горам і нястачамі.

Каля веснічак стаяла рудзенькая рабацiністая Фенька, маці ёй нешта наказвала і ківала пальцам. Прыхінуўшыся да плота, стругаў лыжку бледны мужчына з мыліцаю пад пахаю. Паранька павіталася з Вераю, як з даўняю знаёмаю, і загарэлы абветраны твар засвяціўся ўсмешкаю.

— Унь колькі вы назбіралі, Як гусяняты, тэпаюць следам. Гэта ж і наша школьніца першы раз ідзе.

Да веснічак падышоў Феньчын бацька і пакланіўся Веры:

— Прывествуем вас і праздраўляем, таварыш педагог! Гвардыі яфрэйтар у запасе Міхаіл Усцігаў,— прыклаў руку да шапкі.

Жонка пяшчотна штурхнула яго ў плячо:

— Ой, гвардзіі яхрэйтар! Тожа мне, трыногі камандзір. Ну, бяжы, дачушка, з усімі. Глядзі ж мне, каб слухалася!..

Вера ўзяла Феньку за руку, і яны павярнулі на ўзгорак. Дзеці абкружылі настаўніцу і вялікім натоўпам увайшлі на школьны двор. Там ужо бегалі, даганялі адзін аднаго, круціліся на турніку і весела смяяліся вучні.

Сонца добра прыгравала і кідала ад будынкаў і платоў доўгія цені. За школьным гародам яшчэ зелянеў невялікі луяадк з купкаю парудзелага алешніку, а за ім да самага лесу паблісквaў на сонцы жнеўнік і стаялі сцірты свежай саломы. З палёў веяла асеннім сумам.

Вера пайшла ў настаўніцкую. У калідорах было пуста. На чыста вымытай падлозе яшчэ не ўсе прасохлі маснічыны, на табурэце сядзела чарнявая тэхнічка з вялікім званком на каленях.

За доўгім сталом настаўніцы ўтрасалі свае класы, пакуль што ў сшыткі ўпісвалі новых вучняў.

Вера ціха павіталася і села на доўгую драўляную канапу. На другім канцы яе сядзеў невысокі крутаплечы дзед з дагледжанаю светлаватаю барадою, у сіняй сацінетавай касаваротцы і доўгім чорным пінжаку. Ён нешта расказваў Міхалу Іванавічу Акунёву, той толькі ўсміхаўся і час ад часу ківаў галавою. На двары бегалі і крычалі дзеці.

Дзверы прачыніла тэхйічка, зірнула на гадзіннік і голасна спытала:

— Ці не пара званіць, Анатоль Паўлавіч?

— Звані, Мінадора. Пакуль збяруцца, якраз будзе палова дзевятай.

Тэхнічка выйшла і ўдарыла ў зычны звон.

— Ну, пайшлі, таварышы! — звярнуўся дырэктар да настаўнікаў, абсмыкнуў даўгаваты пінжачок, і ўсе следам за ім рушылі на ганак.

Тэхнічка ішла па двары, трасучы вялікім званком, вучні пераскоквалі цераз платы, хлопчыкі штурхаліся, даганялі адзін аднаго, тузалі дзяўчатак за косы, сцягвалі хусцінкі. Дзяўчаткі адбіваліся ад нахабнікаў і беглі да ганка. Наталля Іванаўна «камандавала парадам» : меншых ставіла наперадзе, большых — за імі. Натоўп гаманіў і ніяк не мог супакоіцца.

Дырэктар падняў руку, і ўсе пачалі сціхаць.

— Дарагія дзеці! Мы пачынаем другі пасляваенны навучальны год. Савецкі народ пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі перамог фашызм, прынёс вызваленне і мір Еўропе. Многія салдаты не вярнуліся з франтоў Вялікай Айчыннай вайны, многія з вас не дачакаліся сваіх бацькоў. Яны аддалі жыццё за вашу свабоду, за ваша шчасце. Паміраючы, яны верылі, што іх дзеці вырастуць сапраўднымі савецкімі патрыётамі, будаўнікамі камунізма, а каб будаваць камунізм, кожны павінен авалодаць усімі ведамі, якія набыло чалавецтва.

Мы спадзяёмся, што вы будзеце старанныя і дысцыплінаваныя, паслухмяныя і дружныя, ніколі не будзеце забываць ленінскі запавет — «Вучыцца, вучыцца і вучыцца!».

Вучні дружна запляскалі ў далоні.

— Слова мае стары бальшавік, партызан грамадзянскай вайны Андрэй Андрэевіч Жураўлёў.

Наперад выйшаў дзядок, якога Вера ўпершыню ўбачыла ў настаўніцкай. Лёгкі ветрык варушыў яго светлую бараду і рэдзенькія валасы.

— Таварышы! — пачаў ён.— Што мы мелі ў нашай Біязе да рэвалюцыі? Нічога мы не мелі. Ніякай культурнай жызні мы не ведалі. Суседзямі нашымі былі мядзведзі ды сахатыя. Апрача ўрмана, нічога мы не бачылі. Школа была царкоўна-прыходская на чатыры класы і два настаўнікі. Цяпер у нас восем класаў і вунь колькі настаўнікаў. А

хутка будзе і ўсе дзесяць класаў. Калгас на будучы год абяцае электрыку пусціць. От тады мы зажывём! За гэта мы біліся ў грамадзянскую вайну з бандамі Калчака і іншай белай навалаччу. За гэта вашы бацькі паміралі і ў гэтую вайну, Панятна?

— Панятна! — азвалася некалькі галасоў.

— Нас некалі настаўнік на гарох ставіў і лінейкаю «лапу» даваў. Крыўдна было, але памагала. Цяпер вас не б'юць, дык і вы будзьце людзьмі. Дадумаўся ж нейкі варначына Варвары Іванаўне на крэсла шкурат з цвічкамі падкласці. Што выйшла, самі разумееце. Панятна?

— Панятна! — зарагаталі вучні.

— А раз панятна, глядзіце ў мяне, каб бацьку ў сельсавет не выклікаць! Я скончыў! Ура, таварышы!

Дзіцячая рознагалосіца падхапіла дзедава «ўра!». Ён задаволена разгладзіў бараду і адышоў убок. Вузлаватыя пальцы дужых рук прыкметна дрыжалі ад хвалявання.

— Ці-ха! — звычна крыкнула Наталля Іванаўна.— Першая змена, разбярыцеся па класах і разам з настаўніцамі ідзіце займацца. Толькі арганізавана і ціха. Старэйшыя класы прыходзяць у гадзіну дня. Званок у гадзіну трыццаць.

Дзеці замітусіліся. Аднакласнікі пачалі клікаць адзін аднаго, настаўніцы падштурхоўвалі іх і ставілі парамі.

Вера сышла з ганка і стала ўбок. Яе адразу абступіў натоўп дзяўчатак у аднолькавых карычневых сукеначках, у хлапчуковых чаравіках, з аднолькавымі банцікамі ў косках. Гаваркія і несарамлівыя, яны з ног да галавы разглядалі настаўніцу з непрытоенай цікаўнасцю, заўважалі кожную драбніцу ў яе адзенні і засыпалі пытаннямі: «Вы нас вучыць будзеце?», «Па якім прадмеце?», «А як вас завуць?», «Адкуль вы прыехалі?» Вера адразу здагадалася, што гэта выхаванкі дзіцячага дома і ўсе пераросткі. У іх постацях і тварах праступала дзявочая прывабнасць, і трымаліся яны падкрэслена незалежна і смела. Падбегла і стала за дзяўчынкамі некалькі хлапчукоў, астрыжаных машынкаю, бо галоўкі вясковых дзяцей былі ў «драбінках» ад нажніц.

— У Маскве вы былі?— запытаў чарнавокі расчырванелы ад беганіны хлапчук.

— А Крэмль бачылі?— запытала кірпаценькая прыгожая дзяўчынка.

— Месяц назад была ў Маскве і бачыла Крэмль. Я жыла і вучылася недалёка ад сталіцы.

— Вера Рыгораўна, раскажыце, раскажыце,— падскокваючы на месцы, прасілі дзетдомаўскія дзяўчынкі.

— Мільія дзяўчаткі, яшчэ раскажу вам пра Маекву, і пра Крэмль, і пра Волгу. Год толькі пачынаецца, і мы з вамі нагаворымся пра ўсё, можа, і паспрачаемся, але давайце дамовімся ніколі не сварыцца і не крыўдзіць адно аднаго. А цяпер ідзіце дадому, і я пайду рыхтавацца да заняткаў.

Гурт дзяўчатак праводзіў Веру Рыгораўну да вуліцы. Калі яна павярнула налева, спыніліся, памахалі ёй услед і пабеглі зноў на школьны двор.

А Вера ніяк не магла зразумець, чаму яе палохалі вучнямі з дзіцячага дома, чаму гэтых смелых, гаваркіх і цікаўных дзяцей пабойваліся вопытныя настаўніцы. Яна хвалявалася, як пройдзе першы дзень. Страціш кантакт з класам, не зацікавіш вучняў, пакажаш слабасць перад свавольнікам — і, лічы, пра пала ўсё. Дысцыпліна -— гэта павага да настаўніка. А каб цябе паважалі, трэба быць аднолькаваю да ўсіх, справядліваю і цярпліваю, добраю і неадступнаю ў сваіх прынцыпах і патрабаваннях. Вера ўспамінала парады інстытуцкага выкладчыка педагогікі. Яго паважалі і любілі ўсе, яму зайздросцілі калегі, а ён з кожным быў натуральны і шчыры. У яго сорамна было праваліць экзамен або залік, таму і вучылі, таму і здавалі, хоць і «ганяў» ён бязлітасна. Як няпроста быць натуральным і шчырым!

«Ці змагу хоць трошачкі быць падобнай на яго?» — думала Вера, ідучы ў свой пусты і не вельмі ўтульны пакой. І адразу адчула сябе вельмі адзінокай. Калі б нехта блізкі падтрымаў добрым словам, развеяў сумненні — здаецца, смялей і цвярдзей пераступіла б парог класа, і сэрца не білася б так часта, і рукі не дрыжалі б, як дрыжаць цяпер, хоць да першага ўрока яшчэ застаецца некалькі гадзін. О, каб побач была мама, добрая і ласкавая, што мала гаворыць, а ўсё разумеў, што ўмее адным словам суцешыць, падтрымаць! Дзе яна цяпер, што робіць? Няйначай, думае пра яе. Глядзіць, як бягуць па пасёлку першакласнікі з букецікамі кветак, і думае пра сваю дачушку, што паехала за свет у далёкую невядомую Сібір. Але мама далека, мама не скажа нічога.

Зноў успомніўся Аляксей... Іванавіч. Ён мог бы сказаць добрае слова, падтрымаць, суцешыць, нарэшце, падзяліцца сваім, хоць невялікім, вопытам. Вера ўбачыла яго такім, як пры першай сустрэчы, далікатным, уважлівым і натуральным. Яна ні ў адной яго інтанацыі не пачула фальшу, ён не стараўся здавацца лепшым, разумнейшым і цікавейшым, чым ёсць.

«Чаму я думаю пра яго? Чаму, падыходзячы да школы, хвалююся, спадзеючыся сустрэць, і шкадую, калі не пабачу хоць здалёк? Няўжо закахалася? Што я, здурнела?! Не-е, вядома, ніякага кахання і быць

не можа. Усё ад адзіноты, ад исадання, каб побач быў добры чалавек, якому можна адкрыць душу, які ўмее падтрымаць і суцешыць». Такім Веры здаваўся Аляксей.

Яна адганяла думкі пра яго і непрыкметна вярталася да іх зноў.

Дома не сядзелася, і Вера прыйшла ў школу задоўга да пачатку свайго ўрока. У апусцелай, пранізанай пабляклым асеннім сонцам настаўніцкай быў толькі дырэктар. Ён гартаў пашарпаны падручнік «Старажытнай гісторыі» і прыслухоўваўся да кожнага гуку ў класе за сцяной і на калідоры. Здавалася, ён нічога не прапускае ні зрокам, ні слыхам. Вера сцішана сядзела ў куточку канапы, гартала то граматыку, то хрэстаматыю і пазірала на доўгія, як коп'і, стрэлкі гадзінніка. Яны рухаліся хутчэй, чым хацелася, а званка яна чакала як самага страшнага і адказнага ў жыцці экзамену.

Часам здавалася, што яна нічога не ведае і не памятае, усё знямела і страціла лагічную сувязь. Аж гарачыня шуганула ў твар.

З-за стала выйшаў Анатоль Паўлавіч. Вочы добрыя, светлыя і разумныя.

— Хвалюецеся, Вера Рыгораўна? — усміхнуўся дырэктар і спыніўся насупраць яе.

— Хвалююся. Вельмі. Здаецца, усё выскачыла з галавы. Баюся разгубіцца на першым уроку. Заўважаць дзеці няўпэўненасць — і, лічы, усё прапала.

— Такое адчуваў, мабыць, кожны пачынаючы педагог. Я, памятаю, ад хвалявання замест «канвент» сказаў «канверт» і разгубіўся яшчэ больш,— засмяяўся Анатоль Паўлавіч.— А вы лепш не думайце і не палохайце самі сябе.— Ён падышоў і сеў воддаль на канапе.— Умовы ў нас пакуль што вельмі цяжкія. Самі бачыце. А дзе яны лёгкія? Вайна. Хоць тут не рваліся бомбы, не палалі вёскі, не рушыліся гарады. Сібір усё аддавала фронту. Ведаеце, што тут елі людзі гэтыя чатыры гады? Бульбу і піканы. Піканаў вы не ведаеце? Растуць у тайзе такія салодкія дудкі, жанчыны іх прыносілі мяхамі. Дзеці хрумсталі сырыя, з піканаў варылі поліўку і рабілі густую кашу. А пшаніцу, мяса, масла аддавалі арміі. Калі хочаце, і дзеці працавалі на перамогу. Дзеці ў нас харошыя, сумленныя, працавітыя, хочуць усё ведаць. Вось мы і павінны даць ім радасць хоць маленькіх адкрыццяў, захапіць навізною ведаў, адагрэць душы ўвагаю і добрым словам.— Ён памаўчаў і паглядзеў на Веру яснымі вачамі.— На вас у мяне вялікая надзея, Вера Рыгораўна. Вучняў трэба захапіць, каб яны з радасцю беглі ў школу. Можа, арганізаваць нейкі цікавы гурток, праводзіць вечары, нават паспрабаваць паставіць п'есу?

— Якія ў вас гурткі працавалі раней?

Дырэктар махнуў рукою:

— Былі ўсялякія. Нават справаздачы пісаліся, а каб працавалі, нешта не помню.

Вера забылася пра сваю нядаўнюю трывогу і ўжо думала, як збярэ драматычны гурток, як будзе ставіць першы спектакль.

Зазвінеў званок. Вера замітусілася на месцы, пачала перакладаць кніжкі, але ранейшая боязь прытухла ўжо, не так калацілася сэрца, не палалі шчокі, не торгала ў скроні.

Наталля Іванаўна, нібы кап'ё, трымала пад пахаю доўгую ўказку і выцерты, з чарнільнымі разводамі глобус. Яна выкладала геаграфію, батаніку, заалогію. Апрача матэматыка, магла замяніць любога настаўніка.

Уваходзілі настаўніцы, узрушаныя, клалі на стол сшыткі, падручнікі, кавалачкі цвёрдай шараватай крэйды: і яе не хапала ў першы пасляваенны год. Іх сустракаў Анатоль Паўлавіч пытаннямі: «Ці многа адсутнічае? Як паводзілі сябе пяцікласнікі?»

Адсутнічалі многія: пасвілі авечак і коней, веялі збожжа на таках, выбіралі бульбу, падмянялі матак на фермах. Да зімы кожнаму хапала больш пільнай работы, чым хадзіць у школу.

— Што рабіць з гэтым Тартынам, Анатоль Паўлавіч? Увесь урок нешта стругаў. Куча смецця пад партаю. Я ўжо яго не чапала, каб іншым не перашкаджаў,— абуралася чарнявая Соф'я Міхайлаўна.

— А ў мяне Коўган з Кармачовым пабіліся за пяро. Ледзьве разбараніла,— жалілася Аўдоцця Мітрафанаўна.

«Што рабіць, калі зачнуць бойку ў мяне?» — аж сцепанулася Вера.

Зазваніў званок. Па калідоры жвавей затупалі абутыя і босыя ногі, заляпалі дзверы, але гармідар не сціхаў.

На школьным двары апрача асноўнага будынка стаялі яшчэ два невялікія дамы з тоўстага кругляка, сцены абмазаны глінаю і так-сяк пабелены. Іх адны звалі «заімкамі», другія — «хутарамі». На такі «хутар» праз двор ішла Вера на свой першы ўрок. Яе пераганялі дзеці і крычалі: «Ідзе! Ідзе!» З калідора выглядалі дзяўчаткі, а як толькі Вера ўзышла на ганак, усе сыпанулі ў клас і зачынілі дзверы. Сэрца затахкала зноў, здавалася, яго ўдары гучаць у апусцелым калідоры, а скрэмзаныя крэйдаю дзверы ўяўляліся прорваю, у якую трэба сігануць і не разгубіцца, перамагчы няўпэўненасць і страх, сціснуць усю волю ў кулак і не паказаць хвалявання. Здзівіла цішыня ў класе, напружаная, насцярожаная, трывожная. Як толькі адчыніла дзверы, усе стаялі за партамі, а заднія цягнуліся на дыбачкі, каб лепш разгледзець яе. Вера паклала на стол падручнік, крэйду і сшытак, што

замяняў класны журнал, спакойна і ціха павіталася. Клас дружна адказаў.

— Сядайце, дзеці,— з усмешкаю сказала настаўніца.

Заляпалі вечкі старых, зрэзаных імёнамі і літарамі партаў.

— Перш за ўсё давайце пазнаёмімся. Завуць мяне Вера Рыгораўна. Я буду называць прозвішчы і папрашу кожнага падняцца, каб ведаць і вас. Добра? — яна разгарнула сшытак і пачала выклікаць усіх па алфавіту.

Ускоквалі стрыжаныя хлапчукі, дзёрзка паблісквалі чорныя і блакітныя вочы, усмешкамі расплываліся вусны. Спакойна падымаліся за партамі старанна зачэсаныя дзяўчынкі з беленькімі каўнерыкамі, з аснічкамі ў валасах.

Па прозвішчах і па абліччах Вера заўважыла, што сярод яе выхаванцаў ёсць татары і чувашы, украінцы і беларусы, нават адзін асцяк. На перадапошняй парце сядзела рослая дзяўчынка з доўгаю грыўкай над шыракаватым пунсовым тварам. Яна прыкметна згіналася, каб не вытыркацца над усімі і не замінаць хлапчуку, што сядзеў за ёю. Веры запомнілася яе прозвішча — Аня Анікеева.

Калі апошні вучань сеў на месца, Аня падняла руку.

— Што, Анікеева? — спытала Вера.

Вучні пераглянуліся, здзіўленыя, што настаўніца ўжо ведае іх прозвішчы.

— Вам схлусілі, Вера Рыгораўна. Замест Тартынскага падняўся Бойка, а Тартынскі замест яго.— Аня пагразіла пальцам хлапчукам, што сядзелі ў куце на апошняй парце.

Вера Рыгораўна прайшла па праходзе, паклала руку на плячо хлапчуку з дробным тварам, густа ўсыпаным рудымі рабацінкамі.

— Віця проста пажартаваў. Праўда? Я раней ведала, які ён вясёлы, і адразу пазнала ў класе.

Тартынскі апусціў галаву і вінавата ўсміхаўся.

Чарнявы хлапчук тузаў ззаду Анікееву і сыкаў на яе: «Шпіёнка, ябеда!»

Вера бачыла ўсё і разумела, што сваволнікі, як кажуць, «робяць прыстрэлку»: разгубіцца настаўніца — будуць чаўпці, што захочуць, паставіць сябе цвёрда, праявіць волю — будзе гаспадыняй у класе.

Але як паставіць сябе? Як знайсці неабходны такт? Перагнеш — зломіш, недагнеш — цябе ж па лбе хвастане дубец.

Вера павольна падышла да стала, абвяла позіркам клас і ціха сказала:

— Я прывыкла верыць людзям. А схлусіць хто — тады ўжо не верыш, калі ён і праўду скажа. З хлусам ніводзін салдат не пойдзе ў

разведку. Чаму? Таму што хлус — самы апошні баязлівец, хлуснёю ён прыкрывае свой страх. Лепш горкая праўда, чым салодзенькая хлусня. Дамовімся гаварыць толькі праўду. Добра?

Клас маўчаў.

— Калі маўчыце, значыць, згодны,— знайшлася Вера, каб толькі парушыць маўчанне.

Вера раскрыла хрэстаматыю, правяла рукою па старонцы, загаварыла спакойна, але выразна, бо памятала: каб слухалі, ніколі не трэба крычаць.

Яна расказала пра народныя песні і быліны. Спыталася, чаму Ілью завуць Мурамец.

— Таму, што ён здаровы, як мур,— адказаў ціха Сцёпа Альхімовіч.

Клас засмяяўся. Усміхнулася і Вера:

— Ты з Беларусі, Сцёпа?

Пачырванелы хлопчык кіўнуў і нагнуўся над партаю.

— Дык чаму Ілью звалі Мурамец, хто скажа?

Руку падняў надзьмуты, з вузкімі вочкамі хлапчук з апошняй парты.

— Таму, што ён нарадзіўся каля горада Мурама.

— А дзе гэты горад?

— У Расіі,— адказала Аня Анікеева.

Вера коратка расказала пра лясны прыокскі край, пра старажытны горад, сказала, што ён упамінаецца ў летапісе пад 862 годам. Нават дату запомніла. Потым чытала быліну. Выразна, усхвалявана.

У класе было ціха. Вера часам адрывалася ад кніжкі, бачыла то іскрыстыя, то задуменныя вочы, падбародкі, падпёртыя кулачкамі ў чарнільных плямах; на адной руцэ заўважыла намаляваны пяром якарок і рулявое кола. Падумала — могуць з'явіцца татуіроўкі, трэба будзе тактоўна пагаварыць з хлопчыкамі. На апошняй парце Тартынскі паклаў шчаку на вечка, толькі паблісквалі рудыя вочы. Відаць, не хацеў адразу паказаць сваёй скоранасці новай настаўніцы. Яна паглядзела доўгім дакорлівым паглядам, хлапчук лена выпрастаўся, заклаў рукі за спіну, парта прарэзліва рыпнула. Нехта сыкнуў: «У-у-у, Тартын!»

— Хто раскажа змест быліны? — спытала настаўніца.

Амаль усе цягнулі рукі адзін за другога вышэй. Не падняў толькі Тартынскі, але глядзеў на Веру Рыгораўну так, нібы нечага прасіў.

— Ты, Віця, не хочаш расказаць? — падышла яна да апошняй парты.

Хлапчук павольна падняўся.

— Можна і расказаць,— памаўчаў, паглядзеў на настаўніцу.

— Калі ласка, расказвай,— і па вузкім праходзе пайшла да століка.

— Значыць, так: Ілья Мурамец сядзеў на печы трыццаць гадоў. Еў, піў, нават у школу не хадзіў. Ой, пашанцавала мужыку! — Вера ўсміхнулася, а па класе пракаціўся рогат.— Ну, што тут смешнага? Хіба не праўда?

— Расказвай, Віця, далей.

Рудыя вочкі хітра заблішчалі.

— Прыйшлі да яго тры старцы. Кажуць: «Жраць ахвота».

Вера спакойна паправіла яго.

— Гэта, Віця, вельмі грубае слова. Як сказаць больш далікатна?

Хлопчык, унурыўшыся, маўчаў. Паднялося некалькі рук. Віця спадылба зірнуў на іх.

— Ну, папрасілі парубаць. Ілья кажа, што не можа ўстаць. Дзяды былі чараўнікі і вярнулі Мурамцу сілу вялікую. Такую, што ён дубы з каранямі, як моркву з грады, выдзіраў... — Усміхнуўся, крутнуў стрыжанаю галавою.— Каб мне такую сілу, я паказаў бы...

— Што б ты зрабіў? — спытала Вера.

— Немцаў лупіў бы і... не паддаўся б нікому.

— Ілья Мурамец рабіў людзям дабро, бараніў іх ад Салаўя-Разбойніка. А ты?

— Я паказаў бы таму Салаўю!— сціснуў кулачок Віця і далей пераказваў быліну хоць і па-свойму, але захоплена і падрабязна. Настаўніца паставіла Віцю чацвёрку.

— О-го-го! — уздыхнула Аня Анікеева.— Тартыну чацвёрку!

Вера не звярнула на яе ўвагі, зірнула на гадзіннік: да званка заставалася дзесяць хвілін. Можна яшчэ падняць аднаго-двух вучняў, каб адказалі на пытанні па змесце, і даць заданне на дом — з палёгкаю падумала яна. Першы ўрок у самым небяспечным класе, здаецца, прайшоў гладка. Мабыць, таму, што яшчэ но прывыклі да яе, не прыгледзеліся, не ўведалі ўсіх слабасцей. Прыглядаюцца.

Вера слухала адказы вучняў, папраўляла іх жаргонную мову, але думала пра сваё: як утрымаць клас так, як сягоння? Празмерная дабрата можа абярнуцца супроць яе, сухая патрабавальнасць выкліча злосць і супраціўленне дзяцей, якія даўно адвыклі ад матчынай ласкі...

Толькі задала на дом, як празвінеў званок. Хтосьці паспрабаваў ускочыць, але яго ззаду асмыкнулі. Вера вытрымала паўзу, абвяла ўсіх добрым позіркам.

— Урок скончаны,— сказала яна.

Усе ўсталі, загаманілі, заляскалі вечкамі. Хлапчукі рвануліся ў дзверы, штурхаючы і шлёпаючы адзін аднаго па плячах. Дзяўчынкі абкружылі настаўніцу.

— Мяне заўтра выклічаце?

— Раскажыце нам пра Маскву.

Дзяўчынка з прыгожым ружовенькім тварыкам ціха спытала:

— А ў вас мама ёсць?

— Ёсць у мяне мама,— неяк вінавата адказала Вера.

Над галавою праляцеў папяровы галубок, стукнуўся ў дошку і ўпаў. Вера спакойна адказала на пытанні, склала сшыткі, выйшла за дзверы. Дзяўчынкі праводзілі яе праз увесь двор, перабівалі адна адну, запрашалі прыйсці да іх у дзіцячы дом.

— Памідоры ў нас даспяваюць. Прыходзьце, праўда! — гаварыла Аня.

У настаўніцкай Вера села ў куточку доўгай канапы. Яна адчувала, як палаюць шчокі, як тахкае ў скронях. Па засмяглых вуснах яна непрыкметна правяла языком.

— Ну, як вам спадабаўся пяты клас? — гучна спытала Наталля Іванаўна, чакаючы скаргаў і папрокаў.

— Клас як клас. Харошыя, кемлівыя дзеці. Можа, трошкі іхнія душы зачарсцвелі без цеплыні і ласкі. Вось і тапырацца некаторыя, як маленькія вожыкі. Напускаюць на сябе абыякавасць. І свавольства ў іх паказное, хутчэй гульня ў адвагу. Калі і далей так будзе, лепшага і не трэба.

— Дзіўна, дзіўна! — пакруціла галавою Наталля Іванаўна. — Пабачым, што вы праз тыдзень заспяваеце.

V

Туманная раніца густа прысыпала золкаю расою прымятыя травы і лапушыстае лісце дзядоўніку. Кропля за кропляю скочваліся з набурэлай рабіны і жоўтых вяргіняў. У туманным полі трывожна крычалі гусі. Можа, чулі ў высокім небе шэлест крылаў сваіх вольных родзічаў, трубную тугу жураўліных ключоў, што адплывалі ў вырай з таежных балацін і прырэчных плёсаў. Гусі лапаталі крыламі, а ў неба падняцца не маглі.

Асеннія туманныя раніцы заўсёды агортвалі Веру шчымлівай тугою па далёкім дзяцінстве, па цеплыні бацькоўскай хаты і матчынай ласцы. Здавалася, і яе клікалі гусі ў далёкі вырай, да мілых сяброў, што разляцеліся па свеце ў невядомыя вёскі і школы, хацелася вярнуцца да студэнцкай мітусні.

Вера хуценька адзела старэнькае сацінетавае плацце ў белы гарошак, завязала стракатую касыначку, абула гумовыя боцікі.

На ганку мякка затупалі чыркі Трахімаўны. Яна ніколі не стукалася. Наогул у сяле не было такой завядзёнкі — кожны заходзіў у суседаву хату, як у сваю. Трахімаўна стала на парозе, хукнула — з рота паплыло лёгенькае воблачка пары.

— Прапаліць трэба было звечара, а то адубела, мабыць?

— Не, нічога,— адказала Вера,— у халадку здаравей.

— Днём горача будзе. А з раніцы хапае за плечы. Дык во адзявай.— Трахімаўна паклала на табурэтку старэнькую, але чыстую целагрэйку.— Не глядзі на форс, абы цёпла было. А тут перакусіць табе.— На целагрэйку яна паклала маленькі клуначак у паркалёвай хусцінцы. Вера разгубілася, аж пачырванела ад такое ўвагі і клопату.

— Дзякуй, Трахімаўна. Не трэба. Дайду ў плашчы, на рабоце будзе горача.

— А дарогу ты знойдзеш? — Яна падышла да бакавога акна.— Онь, каля сялъпа павернеш на левую руку ў вулачку, пярэйдзеш масток, а за паскоцінаю бярыся ўправа. Узыдзеш на ўзгорак і ўбачыш амёты саломы. Там і ток. Ат, няма чаго рабіць гэтаму Малярэвічу...— бурчала старая.

— Чаму б у выхадны дзень і не размяцца трохі? — заступілася за старшыню Вера і пачала збірацца.

Яна спяшалася, каб не спазніцца.

Гаспадыня сілком накінула на плечы Хімчыну целагрэйку, сунула ў руку клуначак. Вера загарнула яго ў газету, узяла пад паху і выйшла з хаты.

На вуліцы з ёю віталіся старыя і малыя. Усе ведалі новую настаўніцу, бо ў кожнай хаце дзеці толькі і расказвалі, як яна апранута, як цікава вучыць.

За мастком Веру нагналі Паранька Усцігава і дзябёлая маладзіца з трохражкоізымі віламі на плячы.

— І вы малаціць? — павітаўшыся, запытала Паранька.— Сёння брыгадзір усіх павыпорваў са сваіх баразён. Адны дзеці на гародах длубаюцца.

— Лаві дзень пагодны, каб год не быў галодны,— сказала бялявая жанчына са скуластым тварам.

Вера глядзела на іх ладныя постаці. Мякка ступаюць зграбныя чырочкі з загнутымі вострымі насамі (успомнілася, што на Гомельшчыне іх называюць маршчакамі), на маладзейшай злінялы афіцэрскі кіцель шчыльна аблёг шырокія клубы, на галаве — блакітная паркалёвая хустачка, вочы сінія-сінія.

Яны ўзышлі на ўзгорак. У нізінах курыўся і раставаў туман. Ад нізкага асенняга сонца туман ружавеў і залаціўся. З узгорка адкрываліся прасторы зжатых палёў, стагі і доўгія амёты саломы, палоскі парудзелага лубіну, пажоўклыя бярозавыя гайкі. Хацелася нагбом піць халаднаватае прасрыстае паветра, слухаць звонкую цішыню асенніх палёў.

Аж сэрца заходзілася ад хараства і невыказнай тугі, ад пачудця адзіноты, ад жадання некаму адкрыць душу, расказачь усё, што думаеш і адчуваеш. Але каму? Успомнілася Ліна. Так дагэтуль і не напісала ёй. А што было пісаць? Толькі ўсталёўвалася, прыглядалася, і прыглядаліся да яе. Увечары вырашыла абавязкова напісаць у Троіцк.

Жанкі заўважылі, што наетаўніца задумалася, і змоўклі. Веру заўсёды здзіўлялі непасрэднасць і такт тутэйшых жанчын. Спачатку трохі бянтэжыла, што Трахімаўна не стукаючыся заходзіць у яе пакой, але мацярынскія клопаты гаспадыні, адчуванне, калі патрэбна яе ўвага, дапамога ці парада, суцяшалі і падтрымлівалі Веру. З Трахімаўнаю яна не адчувала сябе такою адзінокаю ў пустой хаце. Трэба нечым захапіцца, быць так занятай, каб не заставалася часу на адзіноту і сум.

Ішлі пакручастаю сцяжынаю над самаю рэчкаю. Зарослая непралазнымі кустамі ракітніку і глогу, яна недзе ўнізе плюскатала і булькала пад бервяном, перакінутым з берага на бераг; паміж веццяпаблісквала халодная вада, а наўкол цьмелі ў туманнай смузе падпаленыя першымі асеннімі прымаразкамі бяскрайнія лясы.

Каля шырокага тарпа збажыны тупала некалькі чалавек, пыхкаў, пастрэльваў і не заводзіўся трактар.

— У-у, падла,— лаяўся маладзенькі трактарыст і з усяе сілы тузаў зверху ўніз ручку. Убачыўшы жанчын, ён выпрастаўся, тыльным бокам далоні правёў па змакрэлым ілбе. Паранька Усцігава весела зарагатала:

— Каб яшчэ табе, Гошка, хвост, ну — чысты чорт!

— Памажы, цётка Параска, цябе ён паслухае, а я газану.

Жанчына кінула граблі, паставіла ў салому торбачку з полуднем, расшпіліла палапленую целагрэйку, паплявала на далоні і ўзялася за ручку. Крутнула раз, другі, крыкнула Гошку: «Газані!» Трактар чмыхнуў чорным дымком, лена, а потым весялей замармытаў, здрыгануўся і засакатаў на малых абаротах.

— Злазь, лапавухі!

Паранька ўскочыла на Гошкава месца, патузала адзін, другі рычаг, трактар загуў спакойна і роўна.

— Няхай прагрэецца.

Вера глядзела на Параньку з нейкаю асаблівай павагаю і замілаваннем.

— Як гэта ў вас усё выходзіць? — здзівілася яна.

— Я на гэтым калеку ўсю вайну на полі сноўдалася. Дзень і ноч круцілася. Як ён др.сюль не рассыпаўся, сама дзіўлюся.

— Сазнацельны,— усміхнулася маладзіца ў кіцелі,— ведае, што няма каму цягнуць, от і слухаецца. Бабскую ласку і трактар любіць... Ты і свайго калеку часцей грэй, дык ён яшчэ...

— Сараматніца, хоць бы настаўніцы пастыдалася,— абурылася Паранька.

— Хіба ж не праўда? Жывому жывое наўме. А настаўніца хіба з другога цеста?

Вера пачырванела і адышлася. Па сцежцы ішлі жанчыны і некалькі мужчын. Здалёк яна пазнала дырэктара, у вылінялай гімнасцёрцы Аляксея Іванавіча і настаўніц.

Калі падышлі, Вера заўважыла, што няма толькі завуча. Хоць яна не баялася Наталлі Іванаўны, але адчувала кожны яе пагляд. З першай сустрэчы Вера адчула непрыязнасць ганарлівай жанчыны, што лічыла сябе ледзь не першай асобай не толькі ў школе, але і ў сяле. У яе маленькіх чорных вачах заўсёды паблісквалі агеньчыкі прытоенай злосці. Цяжка было яе ўявіць пяшчотнаю з мужам і дзецьмі. Часам Вера хацела пераканаць сябе, што памыляецца, што гэта першае зманнае ўражанне, хацела апраўдаць колкі характар Наталлі Іванаўны доўгай нервовай працай, асаблівасцямі яе нялёгкай пасады. І ўсё ж без яе было вальней, спакайней і лягчэй.

Настаўнікаў і некалькі калгасніц прывёў брыгадзір, высокі, як сланечнік. З-пад цеснай. ссунутай на патыліцу пехацінскай фуражкі выбіваўся залацісты чуб, шырокі бязбровы твар усыпаны рудымі вяснушкамі, свяціўся спакойнай дабратою.

— Здаровы, ударнікі! — весела ўсміхнуўся ён.— Што ж ты дарэмна газу пераводзіш, га? — накінуўся ён на трактарыста.

— Праграваю, а то ён, падла, не заводзіцца,— апраўдваўся Гошка.— Заглушыш, а тады да абеду шарманку круці. Вы ж яго характар ведаеце, Васіль Сцяпанавіч.

— Калі тут Паранька, не баісь. Яна не толькі трактару, любому дасць рады. Ну, давайце: раней пачнём, раней кончым. Аксення, станавіся каля цапоў,— звярнуўся ён да маладзіцы ў кіцелі.

— А мужчынам не брыдка будзе, што баба іх работу робіць? Калі ў сяле і штанамі не пахла, ламалі спіну, і цяпер падстаўляй... Бач ты іх, прывыклі за бабскімі гарбамі аціраццa,— тарахцела гучней за трактар Аксення.

— Гэтыя мужыкі, чаго добрага, пальцы паадмалочваюць, а мне адказвай. Давай, не ўпінайся.

— Не бойся, Васіль Сцяпанавіч, не паадмалочваем. Я стану каля цапоў. Сапраўды, работа не жаночая,— спакойна сказаў Аляксой.— Начнём.

Ён насунуў на лоб старую кепку, вышэй закасаў рукавы.

— Хто будзе разразаць перавяслы і падаваць на стол?

Памагаць Алякеею сталі Паранька з Аксеннякю. Анатоль Паўлавіч з Акунёвым палезлі на торп, жанчыны разбіралі граблі і вілы — адкідаць салому. ТольКі Вера не ведала, што ёй рабіць.

На кола малатарні накінулі пас, і яна загула прарэзліва і звонка.

— А мне што рабіць? — спытала Вера ў брыгадзіра.

— Пакуль што каля рэчкі пазбірайце ажыну, а трохі намалоцяць — архаваць будзеце.

Як толькі малатарня глынула першы сноп і басавіта загула, Вера ўзялася за вілы і пачала адкідаць салому. Яна хацела быць разам з усімі, рабіць, што робяць яны. Хацелася ўзяцца за нешта цяжэйшае і адказнейшае — палёгкі і скідкі на яе няўменне і слабасць крыўдзілі яе.

Аляксей завіхаўся каля цапоў, нібы ўсэ жыццё толькі і рабіў гэтую работу. Цяжкі сноп, нібы пучок залацістых промняў, рассыпаўся пад яго рукамі і выліваўся з барабана градам буйных зярнят і дажджом зіхатлівай саломы. Зярняты глуха біліся аб вялікі залатаны брызент. З малатарні ляцела воблака пылу. Жанчыны завязвалі хусткі да самых вачэй, а густы пыл пакрываў шчокі і бровы. Туман даўно некуды сплыў, у спіну пачало прыпякаць сонца. Яно вісела ў зліняльм небе, а белыя аблачынкі праплывалі побач не засцячы яго.

Вера крадком пазірала, як дырэктар шпурляе снапы адзін за адным, як іх спрытна хапае Аксення, а Паранька рэжа перавяслы. Самы доўгі пагляд спыняўся на Аляксею. Яго загарэлыя рукі роўна рассцілалі сноп на стале і падсоўвалі ў цапы. Засяроджаны, ладны, здавалася, ён усё ўмее, усё ведае, да ўсяго здатны. Вера лавіла сябе на тым, што ўсё часцей думае пра яго, пазірае на яго абветраны, загарэлы твар і добрыя светлыя вочы пад высмаленымі сонцам бровамі, разумее яго лепей, чым іншых, і ён для яе застаецца самаю неразгаданаю загадкай. А салома шапаціць, іскрыцца на сонцы зламанымі промнямі, пахне гаркаватымі вятрамі і недапечаным хлебам. Вера хапае пярэбірак на коўзкія вілы, а ён рассыпаецца і падае пад ногі. Адзін, другі навільнік — і налаўчылася, пацвярдзелі да трымцення рукі, расчырванеўся твар, па шыі пабеглі тонкія струменьчыкі.

Гурбу перамяшанай з мякінай калянай пшаніцы вёдрамі пераносяць да веялкі. Значыць, трэба ісці туды. Вера бярэцца за корбу, але спачатку круціць не ў той бок, мякіна струменьчыкам вылятае з каша. Соф'я Міхайлаўна становіцца побач, і яны разам круцяць доўгую, адпаліраваную далонямі корбу. Смачна чвакаюць зубцы масляністых шасцяронак, гул веялкі зліваецца з грукатам трактара і выццём малатарні.

Сонца па-летняму смаліць. Ні шолаху, ні ветрыку ў агіусцелым полі. Пачынаюць смылець далоні — відаць, павыскоквалі вадзяністыя пухіркі. Пыл вісіць слупом, асядае на твар і плечы, рукі пакрыліся залацістымі лусачкамі мякіны.

Мужчыны на тарпе паскідалі кашулі, змакрэлыя спіны льсняцца на сонцы. Сціртa пшаніцы асядае і шырэе, а каля веялкі становяцца ў рад тугія мяхі цёплага буйнога збожжа. Стомленасць змешваецца з пачуццём радасці суладнай працы. Вера ўпершыню бачыць, як з коласа выходзіць зерне, што неўзабаве стане духмяным боханам. Яна ўявіла, што Сібір усю вайну карміла фронт і тыл, аддавала горы хлеба воінам і сталяварам, у тайзе збірала саладкаватыя дудкі. Успомніліся расказы Трахімаўны, як жанкі і дзеці працавалі на полі ўсю вайну.

Вера заўсёды думала. У дзяцінстве яе фантазія будавала паветраныя палацы, насіла на лёгкіх воблаках у казачную «Краіну райскай птушкі», у юнацтве марыла пра незвычайнае, поўнае радасцей жыццё ў самым прыгожым горадзе. Тады таемна затевала першыя вершы ў запаветны сшытачак, і сэрца заходзілася ад салодкай шчымлівай тугі. Разам з аднакласнікамі хадзіла ў шпіталь — дэкламавала параненым вершы і тоненькім галаском спявала «На позицию девушка провожала бойца», бачыла, як вільгатнеюць вочы маладых і пасівелых байцоў у гіпсавых панцырах і белых марлевых фесках, як параненыя стараліся непрыкметна пакласці ў кішэньку яе фартушка драбочак рудаватага цукру.

Круціла корбу і думала, колькі яна тут прабудзе. Куды яшчэ занясе яе лес? З кім сустрэнецца? А недзе ж ёсць чалавек, што назаўсёды стане адзіным, неабходным і самым блізкім. Дзе ён? Які ён? Хоць бы прысніўся калі. Успомніўся суседскі цыбаты сарамяжы Колька. Ён на два класы быў старэй за яе. Але кожную раніцу тупаў каля свае брамкі, пакуль не выйдзе Вера, ішоў назіркам да школы, потым абганяў і першы ўзбягаў на ганак, нібы і не бачыў яе. Гэтая хітрасць здзіўляла Веру. Многія хлопчыкі і дзяўчынкі хадзілі разам, гаманілі, смяяліся, штурхаліся, кідаліся снежкамі. А Колька то цікаваў яе, то пазбягаў на людзях, нібы нечага баяўся, і чырванеў, калі яны выпадкова сустракаліся. І ў харавы гурток запісаўся толькі таму, што

на спеўкі хадзіла Вера. Пасля заняткаў адразу знікаў і, як здань, з'яўляўся каля яе за першым ад школы паваротам. Успомнілася, як ён першы раз пацалаваў у шчаку кароткім вільготным пацалункам, пабег, нібы нешта ўкраў, і баяўся, каб не адабралі, а потым тры дні пазбягаў яе. Успомніла Вера, як праводзіла Кольку ў ваеннае вучылішча і крадком выцірала скупыя слязінкі. Вайна грымела на захадзе. Недзе на чужым полі падалі такія ж, як Колька, хлапчукі, а ў хаты пасёлка пахаронкі прыносілі галашэнне і слёзы.

Вера ішла з вакзала глухімі завулкамі і глытала даўкія цёплыя слёзы. Яна не ведала, ці кахае Кольку. Проста прывыкла: выходзіла і ведала, што ён ужо чакае яе, ідзе следам, пяшчотна дакранаецца да рукі і сарамліва маўчыць. Ці кахала яна наогул? Па-сапраўднаму, мабыць, не. Падабалася некалькі хлапчукоў, а зніклі — яна не нудзілася і не шукала.

Верыны думкі перапыніла цішыня. Трактар і малатарня раптам сціхлі. Жанчыны выбівалі хусткі і ацярэбліваліся ад пылу. Ад мякіннай пацярухі Аляксеева гімнасцёрка стала залаціста-рудая, пыл асеў на бровы і шчокі, мокрая чупрына пабялела. «А на каго падобна я?» — надумала Вера. Зняла хусцінку, каб выцерці распараны работаю і сонцам твар і сухія засмяглыя вусны.

— От даў копаці хадзяйственнік! Аж з кожнай валасінкі закапала,— выекалілася разапрэлая, як з лазНі, Аксення.

Вера павольна пайшла да рачулкі. Яна адчувала, што гумовыя боцікі хлюпаюць ад вільгаці, кофтачка прыліпла да цела, і так захацелася хоць трошкі ахалонуць каля рэчкі, апаласнуць твар і стомленыя ногі.

Спуск быў круты, густа зарослы ўчэпістымі кустамі шыпшынніку і глогу. Вера інстынктыўна ўхапілася за галінкі і ледзь не закрычала ад болю: вострыя, нібы касцяныя, калючкі ўпіліся ў далонь, пакрытую шчымлівымі пабялелымі пухірамі. Яна высмактала і сплюнула саланаватыя крывінкі, зацiснула ранкі запыленым пальчыкам і пачала асцярожна прадзірацца праз колкія гуетыя зараснікі. Каля ног віравала і булькала цемная вада, пахла свежай вільгаццю і завялым смародзінавым лістом, на мокрым пяску ляжалі даўно апалыя чорныя ягадзіны. Сярод пабурэлых лістоў Вера сарвала некалькі буйных смародзін, ад густога кіслага соку аж скрывілася, скінула боцікі і запыленыя панчохі. Падкацілася ласкавая хваля і прыемным халадком абдала стомленыя ногі. Вера да костачак увайшла ў рэчку, азірнулася і, зачарпнуўшы поўныя прыгаршчы іскрыстай вады, апаласнула запыленыя гарачыя шчокі і вусны, памыла шыю глыбей выразу на кофтачцы.

Вакол аголеных ног віравала настоеная на карэнні, аеры і травах рудаватая вада. Яна ўжо не здавалася такою халоднаю, як спачатку. Хацелася скінуць з сябе ўсё запыленае і прагхацелае і хоць на хвіліну ўскочыць у імклівую плынь гэтай маленькай буркатлівай рачулкі. Казалі, што па ўсім рэчышчы б'юць крыніцы, і яна не замярзае нават у самыя вялікія маразы. А за кіламетр ад сяла цячэ шырокая паўнаводная Тара ў крутых берагах, зарослых лесам, тальнікам, кустамі глогу. Рака, відаць, яшчэ не астыла пасля гарачага лета, і можна будзе пасля работы акунуцца ў яе хвалях.

Зверху чуліся гамана і смех. Вера ўзаткнула на босыя ногі боцікі і, хапаючыся за голле, палезла па стромкім беразе.

Усе сядзелі кружком на саломе. Аксення з хрумстам кусала салёны агурок. Убачыўшы Веру, Паранька яе запрасіла да сябе.

— Дзе гэта вы згубіліся? Хутка і паужын[1] кончыцца.

Вера ўзяла свой пакуначак і села побач. Паранька працягнула ёй свежую шаньгу з тварагом.

— Пакаштуйце нашага печыва.

Вера засаромелася, але пачастунак узяла і разгарнула хустачку з полуднем. Трахімаўна паклала кавалачак адваранай бараніны, дзве недаспелыя памідорыны і кавалачак падвяленага сыру сваёй работы.

— Частуйцеся, калі ласка,— падсунула Вера разасланую на саломе хустачку.— А нажа ў вас няма?

— Не бабскі гэта струмант,— усміхнулася Паранька.— Не трэба, я ўжо назбіралася трохі.

Аляксей ляжаў на саломе, падклаўшы пад галаву рукі і зажмурыўшыся ад сонца. Пачуўшы размову жанчын, ён падняўся, падышоў да іх і падаў Веры бліскучы сцізорык з касцянымі тронкамі. Яна ўсё пакроіла на тры роўныя часткі і. падала Параньцы і Аляксею.

— Дзякуй, Вера Рыгораўна, я ўжо наабедаўся, ды і нічога не абагуліў у ваш калгас,— адказаў ён з натуральнаю ўсмешкаю на сухім, засмаленым сонцам твары.

Вера зірнула на яго ласкавым паглядам, ад якога не адвернешся і не адыдзеш.

— Не ламайся, Аляксей, бяры шаньгі. Міша і на тваю долю паклаў,— адсунулася Паранька, даючы месца паміж сабою і Вераю.

Ён сеў насупраць, узяў шаньгу і кавалачак бурага, з зелянцою, памідора. Елі моўчкі. Аляксей час ад часу пагдядаў, як далікатна адкусвала Вера шэрую шаньгу, заўважыў, якія ў яе тонкія і ласкавыя рукі, а пагляд задуменны і адсутны, утароплены ў палявую далеч.

[1] Паужын — сібірскі полудзень.

«Пра што яна думае? Што ўспамінае?» — хацелася дазнацца Аляксею. Але праўду кажуць: «Чужая душа — цёмны лес», тым болей — душа прыгожай і разумнай дзяўчыны.

Пад сціртаю саломы Аксення голасна заспявала:

Не вдова и не жена,
И сама не знаю:
Мужика взяла война,
Я по нем страдаю.

Жанкі падхапілі прыпеў:

Ох, страданье, ох, страданье,
Ты мое страдание,
Провались ты навсегда
С Гитлером, Германия.

У прыпеўках гучаў сум і боль спакутаванай жаночай душы. Галасы перапляталіся суладна, гучалі надрыўна і звонка. Але над усімі верхаводзіў высокі і моцны Аксеннін голас. Яна спявала без напружання, лёгка і натуральна, з тонкім адчуваннем сэнсу і настрою кожнага слова — то ўзнімаючы яго ў самы зеніт, то пераходзячы на шэпт.

Гэтая ніколі не чутая прыпеўка ўразіла Веру не столькі мелодыяй і простымі, часам не вельмі ўдалымі словамі, колькі шчымлівым болем выканання. Песня, нібы падбітая ластаўка, то ўзлятала ў вышыню, то прыпадала да самай зямлі.

Закончыла Аксення вясёлымі прыпеўкамі, устала, прытупнула на мяккай саломе.

— Канчай загараць, мужыкі! Заводзь сваю шарманку, Гошка! — гарэзна крыкнула яна.— Каб кончыць ды хутчэй дадому.

Зноў загудзела малатарня, зашастала салома; як град, пасыпалася з веялкі пшаніца. Вера адчула, што ныюць плечы і рукі, на твар асядае едкі пыл.

Сцірту дамалацілі, калі сонца павісла над лесам. Жанкі адразу заспяшаліся дадому: пераняць і падаіць карову, занесці сырадой на малаканку, зварыць вячэру, пакарміць дзяцей і парсюка. Хто не мае ні сям'і, ні гаспадаркі, засталіся затарваць намалочанае збожжа. Вера з дырэктарам трымалі мяхі, Аляксей спрытна насыпаў іх вялікім шуфлем.

Калі скончылі работу, сонца яшчэ кідала доўгія цені і вісела вялікім чырвоным кругам над вяршалінамі далёкага лесу. Вера збольшага ацерабілася ад пылу і падышла да Аляксея.

— А дзе тут Тара, Аляксей Іванавіч?

— Онь за тымі кустамі. Я якраз іду туды паглядзець, ці не распутаўся наш конь. А то заўтра яго да паўдня не зловіш.

— Абавязкова праверце,— параіў дырэктар, — Заўтра зранку трэба прывезці вазы са два гліны. У калідоры ўмажам кацёл, каб на зіму была гарачая вада мыць падлогі. А вы хіба не стаміліся, Вера Рыгораўна? Ішлі б дадому.

— Стамілася і прапылілася. Хачу трохі апаласнуцца ў рэчцы. Бо тут мелка,— яна кіўнула на імклівую Біязінку,— і вада ледзяная. Бывайце здаровы, Анатоль Паўлавіч! — Перакінула на руку целагрэйку і легка пайшла па цвёрдай, зарослай запыленым трыпутнікам і рамонкамі сцежцы.

Аляксей яшчэ пагаварыў з дырэктарам пра гаспадарчыя справы і пайшоў следам. Нагнаўшы, спытаў, каб не маўчаць:

— Не баіцеся прастудзіцца? Бо тут гэта небяспечна. Бальніца толькі ў Тарску, а наш фельчар Ніна Пятроўна ўсе хваробы лечыць выключна вітамінамі: ад грыпу — жоўценькія, ад жывата — ружовенькія, ад галавы — зялёныя.

— Я загартаваная. Дома купалася з мая да самых замаразкаў... А вы часам бываеце злосны.

— Але пра Ніну Пятроўну гавару не ад злосці, а хутчэй ад спачування хворым і ёй. Веды ў яе, відаць, слабенькія, вопыту яшчэ не набыла. А вітаміны — надзейны сродак ад любой хваробы: калі не памогуць, дык і не нашкодзяць.

— Цікава, што вы скажаце пра мяне, калі давядзецца пачуць урок?

— Магу сказаць цяпер,— ён усміхнуўся і хітравата прыплюшчыў вочы.— Сказаць?

— Што вы можаце сказаць, нічога не ведаючы пра маю работу?

— Ведаю, што з вас выйдзе сапраўдны педагог, калі хопіць дабраты, цярплівасці і натхнення. Дзеці вас палюбілі з першага ўрока, паверылі вам, чакаюць вашага слова. Цяпер самае важнае — не патушыць іх веру, не расчараваць, не сарвацца. Такі «цяжкі» хлапчук, як Віця Тартынскі, хваліць вас. За што? За павагу да яго асобы. А кожнае дзіця — асоба, чалавек. Асабліва чулыя да дабраты дзеці вайны. Вы гэта заўважылі на першым уроку. Так?

—Адкуль вы ведаеце?

— Ад сваіх сяброў з дзіцячага дома. Дзіўна, праўда? Яны мне раеказваюць усё. Прыходзяць з радасцямі і горам.

Вера маўчала. Яны падышлі да крутога берага шырокай паўнаводнай ракі. Паміж густога кушчэўя тамсям працярэблены і пратаптаны сцежкі, прырэчны пясок здратаваны вострымі авечымі капыткамі. Сонца закацілася за лес, і ў вадзе адбілася гарачая чырвань неба.

— Вось, калі ласка, і Тара. Толькі не заплывайце за тую луку. Там віры і поўна калод. Ну, шчасліва.— І Аляксей знік у надбярэжных зарасніках. Вера бачыла, як гойдаюцца верхавіны тальніку і чарэмшаніку — усё далей і далей цішэе і глухне яго спакойнае: «Коськоськось!»

Вада здавалася нерухомаю, толькі каля берага варушыліся ад плыні травінкі і кружыліся апалыя лісты. Вера зайшла за вялізны куст, што навіс над ракою, агледзелася, прыслухалася і, азіраючыся, пачала распранацца. На збуцвелай калодзе ўбачыла маленькі змылачак. Каля берага было мелка. Яна ступіла ў ваду, халадок і гусіныя пупышкі пабеглі па целе. Акунулася і прысела, схаваўшыся ў вадзе па шыю. Ад мыла і пылу вада памутнела. Здавалася, сплывае стома з усяго цела. Адштурхнулася і паплыла, па-мужчынску, сажонкамі, дно знікла з-пад ног. Вярнулася і адчула, як імклівая і пруткая плынь гоніць на стрыжань, а ногі дакранаюцца да глыбіннага холаду. Нават зрабілася страшна, што можа скурчыць ногі і не хопіць сіл даплысці да берага. Ірванулася з усяе сілы, адштурхоўвалася нагамі, крута адграбалася ад стоенай плыні, пакуль не дакранулася да слізкага дна. Па мелкім дапаўзла на руках да берага, азірнулася, прыслухалася і толькі тады за бегла за разлапісты куст. Далонямі сцірала струменьчыкі вады з пахаладзелага цела, з рук і ног страсала кроплі, і яны, як буйныя дажджынкі, скочваліся на пясок. Па целе прабягалі дрыжыкі ад асенняй вады, ядранага надвячорку і імгненнага страху. Хуценька апранулася і пабегла на круты адхон берага. Спынілася і паглядзела на задуменную, таямнічую Тару, на гнуткае вецце тальніку, нахіленае да самай вады, на затканыя сіняватай смугою лясы.

У нізінах курыўся туманок, недзе недалёка ржалі і тупалі коні, на старой алешыне кігікала нэйкая вячэрняя птушка. Ад адзіноты зрабілася сумна. Падсвядома азірнулася на ўсе бакі, некага шукаючы. І зразумела, што шукае Аляксея. Зашпіліла целагрэйку, але дрыжыкі час ад часу пацепвалі плечы. Пайшла хутка, ледзь не подбежкам, і ўбачыла знаёмую постаць над кустамі лазняку. Убачыла, і затахкала сэрца. Нават спалохалася радасці: «Няўжо здурнела? А чаму?» — запярэчыла сама сабе. Ён ужо ішоў насустрач.

— Калі б з лазні, сказаў бы «з лёгкім парам»... Але ж вы дрыжыце.

Вера заўважыла яго мокры чуб, пасвяжэлы твар і вільготны каўнерык кашулі.

— Ану, пабеглі. Уцякайце, сагрэйцеся.— І ён, як хлапчук, затупаў на месцы.

— Я не змерзла. Трошкі спалохалася: ледзь справілася з плынню.— Глянула на Аляксея, усміхнулася і пабегла, а ён усё яшчэ тупаў на месцы, даючы ёй адбегчыся. Потым пабег следам, не скарачаючы дыстанцыю. Вера двойчы азірнулася і запаволіла бег, а калі зусім блізка пачула тупат, павярнулася Аляксею насустрач і весела засмяялася.

— Аж горача стала. Практычны вы чалавек. Заўсёды ведаеце, што рабіць.

— Каб жа так! Звычайна думаеш, што робіш найлепш, знаходзіш самы правільны крок, а выходзіць — памыліўся зноў. Добра, калі ў дробязі, калі можна выправіць памылку. А калі памылка каштуе жыцця, і не аднаго? Нават дробны пралік каштаваў вялікай крыві... Па сваёй дурасці страціў маці і сястру, а мог вывесці ў партызанскую зону... Яны мне сняцца, нібы папракаюць, што я жыву, а іх няма. Выратаваць наўрад ці здолеў бы, але і не ўсё зрабіў, каб папярэдзіць. Думаў, як лепш, а яно выйшла наадварот. А вы кажаце, заўсёды ведаю, што рабіць...

Вера слухала, апусціўшы галаву. Спынілася, паглядзела ў твар Аляксею.

— Ведаю, што вас нешта гняце.— Дакранулася да яго далоні: — О, якія ў вас цёплыя рукі!

— А вашы — як ледзяшы.— І ён пачаў хукаць на ружовыя, у пухірах далоні. Кроў абодвум ударыла ў скроні, яны спыніліся. Аляксей пяшчотна трымаў яе рукі і хукаў, хукаў, дакранаючыся вуснамі да тонкіх пальчыкаў. Вера глядзела вялікімі вачамі і неяк вшавата ўсміхалася. Поле ахутваў змрок. Толькі вузкая палоска журавіннай чырвані распаўзалася па небасхіле.

VI

Вера зажмурылася ад мяккага белага святла. Нібы сцены і столь пасвятлелі. Яшчэ ўчора цёмная падшэрхлая вуліца раптам раздалася і пабялела. «Няўжо такі ранні снег?» — здзівілася яна. Басанож падбегла да акна, адхінула ражок марлевай фіранкі. Наўкол чыста, свежа і бела: на платах, на стрэхах, на счарнелым бадыллі ў гародчыку ляжаў першы снег.

За ноч ён заваліў глыбокія каляіны, прыцерушыў груды замёрзлай гразі, на калы і шулы надзеў снежныя стаўбуны. Усё здавалася празрыстым, прыцішаным і светлым. «Які ранні! А ў нас яшчэ восень, імжаць дожджыкі, пахне прэлым лісцем, на пясчаных узлессях збіраюць зялёнкі і масллкі»,— успомнілася далёкае. Але зайшліся ногі, зябка ўздрыгвалі плечы, яна шмыгнула пад цёплую коўдру, скурчылася, каб

сагрэцца. Усё ж добра другая змена. Можна хоць выспацца, адлежацца ў цяпле.

Ад снежнага святла пакой здаўся прастарнейшым і халаднейшым. Некалі першы снег прыносіў радасць першых снежак, свісту палазоў саначак, звонкай свежасці ранніх замаразкаў. А цяпер — адны клопаты: трэба добра паліць у хаце, неяк расстарацца гэтыя — ну, як іх там? — пімы, бо без іх, кажуць, паадлятаюць ногі. І яшчэ прыйдзецца пакруціцца з гэтым драмгуртком, што даручылі на апошнім педсавеце. З чаго пачынаць? Што рабіць? Нічога ж няма, дзеці зроду не бачылі тэатра. Трэба ж нейкія дэкарацыі, касцюмы, грым. А пра іх і сама толькі чула. Вера зусім упала ў роспач, што ўсё праваліць і пачнуць яе «скланяць» на педсавеце.

Але колькі ні думай, адразу нічога не прыдумаеш; колькі ні ляжы, а ўсё ж трэба ўставаць, пісаць планы, правяраць сшыткі.

Пакой, здавалася, яшчэ больш настыў. У злінялым паркалёвым халаціку Вера выскачыла ў сенцы. Замест умывальніка на ланцужку вісеў гліняны чайнік з доўгім вышчарбленым рыльцам. На рукі пабег струменьчык колкай вады і забарабаніў па зашэрхлым дне невялічкай балеі. У шчыліны і ў маленькае акенца пратачыліся і застылі змейкі снегу. Ад сцюдзёнае вады расчырванеліся шчокі і вушы, колкая свежасць казытала ў горле і праганяла сонную млявасць. Пасля сянец хата здалася цяплейшаю. Вера прычасалася, адчыніла дзверцы ляжанкі і ўбачыла сухенькія бярозавыя паленцы з падаткнутаю берасцінкаю. Трахімаўна, відаць, паклапацілася яшчэ звечара.

Вера адсунула юшку, чыркнула запалку. Скруцілася, затрашчала берасцінка, загуло ў печы. Бокам паклала табурэтку, села на вузкую ножку і растапырыла пальцы перад адчыненымі дзверцамі. Цёплы струмень ахінуў рукі і калені. Зрабілася ўтульна і добра. Яна доўга глядзела, як скачуць аранжавыя, сінія і залацiста-барвовыя язычкі агню, а на паленні праразаюцца малінавыя клавішы вугольчыкаў.

На агонь можна глядзець бясконца, марыць і ўспамінаць толькі прыемнае і светлае. Напэўна, гэтая цяга да агню засталася чалавеку ад старажытных продкаў. Відаць, каля вогнішчаў нараджаліся першыя песні і казкі, надзеі і летуценні.

Вера паклала на калені стосік сшыткаў. Заўважыла, што амаль увесь клас напісаў «лошедь» і «Томара». Трэба ўсё папраўляць.

Разгарнула пацёрты неахайны сшытак і здзівілася — зверху і ўсярэдзіне вокладкі былі малюнкі, малюнкі, малюнкі: палалі падбітыя нямецкія танкі, з-пад касак глядзелі суровыя вочы байцоў. На апошняй вокладцы было некалькі дзявочых галовак, і сярод іх Вера пазнала свой профіль. Вельмі падобны. Хто ж гэта так малюе? Адгарнула

першую старонку... Віктар Тартынскі. Вось які ён, гэты колкі, як вожык, свавольнік! Яго затузалі папрокамі, выклікамі ў настаўніцкую, скаргамі дырэктару дзіцячага дома. А ў хлопчыка жывая душа, а магчыма, і талент. Вось хто можа спатрэбіцца ў драматычным гуртку.

Вера задумалася, з чаго пачынаць. Галоўнае — захапіць дзяцей, каб яны самі прыдумлялі, шукалі, стараліся, жылі сваім захапленнем. Трэба паставіць цікавую казку, яскравую, з незвычайным сюжэтам, прыгожымі касцюмамі і дэкарацыямі. Але дзе гэта ўсё ўзяць, калі нідзе не дастанеш і метра паркалю ці марлі? А фарбы? Нават карабка акварэлі ў школе няма. У вайну не да паркалю і фарбаў было. А марлі не ставала на бінты. Колькі яе пайшло за чатыры ваенныя гады, колькі і цяпер ідзе на раны знявечаных калек! Відаць, яшчэ не да спектакляў. Але рабіць нешта трэба. Можа, дзеці падкажуць. Яны вынаходлівыя. Яна механічна выпраўляла памылкі, ставіла адзнакі і старанна пісала парады: «Пішы разборліва», «Вывучы § 37», «Перапішы практыкаванне», «Выпішы ўсе словы правільна»,— а сама думала пра сваё, успамінала, з якім хваляваннем некалі разгортвала свае сшыткі з практыкаваннямі і дыктантамі.

Клубочак успамінаў каціўся далей і далей, у маленства, сагрэтае гарачым летам, ахутанае водарам яблыневых садоў, бесклапотнай лёгкасцю першых радасцей і хваляванняў. Як гэта ўсё было даўно! Як усё далёка цяпер ад яе! Вайна, відаць, спапяліла ўсё дарагое яе сэрцу: і ўтульны жоўты дом каля завода, і школу, і сад на ўзбярэжжы ракі. Можа, няма на свеце яе школьных сяброўак, што не паспелі выехаць у тыл. Там жа тры гады дзень і ноч бамбілі, стралялі і палілі. Колькі яна выплакала, чытаючы пра жахі ў Гомелі, Касцюкоўцы, Навабеліцы і Добрушы. Хоць бы пабываць калі там, хоць бы што-небудзь знайсці з дарагога маленства.

Зарыпелі, расчыніліся вароты, за акном заківалася галава каня, пачуўся знаёмы голас Аляксея: «Тпр-р-ру!» Загрукала сухое звонкае паленне. Вера замітусілася. Хуценька нацягнула сукенку, абула боты, накінула паліто і выбегла на ганак.

Замецены снегам, з пабялелымі бровамі, Аляксей складаў пад паветкаю дровы. Твар аж пабурэў ад сцюжы, а вочы ўсміхаліся ветліва і добра.

— Вы толькі скіньце, Аляксей Іванавіч, а я сама складу,— сказала Вера і, правальваючыся ў мяккім снезе, зайшла пад паветку.

— А хто ж вас лячыць будзе ад запалення? Зараз жа ідзіце ў хату.

Але Вера не паслухалася. Яна голымі рукамі брала настылыя плашкі і клала ў паленніцу. Пальчаткі, прывезеныя з дому, шкадавала.

— Вера Рыгораўна, старэйшых трэба слухацца і не замінаць ім,— знарок сурова сказаў Аляксей.— На пімы вы так і не разжыліся? Што ж вы сабе думаеце? А як ударыць сорак, а?

— Можа, як абыдуся... І дзе іх узяць, не ведаю.

— А ў каго вы пыталіся?

— Ні ў кога.

— Які нумар носіце?

— Трыццаць шосты. А што?

— Значыць, пімы трэба трыццаць восьмы. Пакуль абуем, бяжыце хутчэй у хату і не замінайце, калі ласка.

— Хіба і абуваць уваходзіць у вашы абавязкі?

— Уваходзіць.— Ён узяў Веру за плечы і далікатна выправіў з-пад паветкі.

— У мяне паліцца ляжанка. Заходзьце пагрэцца. Абавязкова.

— А з канём можна? Яму ж таксама холадна,— пажартаваў Аляксей.

— Можна і з канём,— з ганка сказала Вера і пайшла ў хату. Згарнула галавешкі, падгрэбла жар, але больш не села да ляжанкі. Праз акно пазірала, як спрытна Аляксей парадкуе дровы. І зрабілася шкада яго. Настылы, абсіверaны, робіць нялёгкую работу.

Пад сэрцам трымцела нейкая тоненькая струна, самі сціскаліся пальцы. Вера чакала. А навошта? Што яна скажа? Лавіла сябе, што хоча бачыцца, гаварыць з ім, і адразу ж апраўдвалася: «Параюся пра драмгурток. Ён жа ўсё ведае, усё ўмее. Можа, згодзіцца памагчы. Я ж бачыла сцэну толькі з залы, а як там усё робіцца, і не ўяўляю».

Аляксей склаў дровы, падцягнуў церассядзельнік і завярнуў каня. Вера спалохалася, што так і паедзе, і пастукала ў шыбіну. Аляксей кіўнуў галавою, закінуў лейцы на калок ад прызбы, абабіў рукавіцамі з вялікіх падшытых валёнак снег, патупаў па ўсходцах і ціха пастукаў. Вера адчыніла насустрач дзверы.

— Праходзьце, калі ласка, я ж вас сама паклікала.

Аляксей спыніўся на дзяружцы, пасланай у парозе.

— Не, дзякуй. Насляджу вам. А калі паклікалі, слухаю.

Вера загадзя падрыхтавала першы сказ:

— Хацела з вамі параіцца, а можа, і папрасіць дапамогі.

Аляксей паблажліва ўсміхаўся, нібы гаварыў з маленькай дзяўчынкай.

— Калі здолею — памагу. Такі ўжо мой лёс, каму-небудзь памагаць. Што ў вас за клопат?

— Разумееце, на педсавеце мне даручылі драмгурток. А я ж нічагусенькі не ведаю і не ўмею. Спектаклі бачыла толькі некалькі разоў...

— Гэта тое, што тут неабходна дзецям і вам.

— Добра вам казаць. Я не ўяўляю нават, з чаго пачынаць.

— Усё пачынаюць спачатку.

— Вам лёгка жартаваць. А што мне рабіць? Хочацца нечага цікавага.

— Падбярыце цікавую п'есу, пастановачную, з незвычайным сюжэтам, касцюмамі, эфектамі, захапіце дзяцей і пачынайце рэпеціраваць. Калі дазволіце, памагу аформіць. Тэатральную кухню трохі ведаю. Калі вучыўся, вечарамі часам зарабляў у тэатры. Быў рабочым сцэны, памагаў дэкаратарам і бутафорам... Хоць і цяжка будзе, але можна закаціць такі спектакль, што ўсе ахнуць. Бярыцеся, Вера Рыгораўна.

Вера адразу павесялела і засмяялася:

— А факірам вы часам не былі? Вы, здаецца, усё ўмееце і ўсё ведаеце.

— Вы хочаце сказаць — тыповы дылетант... Не, факірам і дрэсіроўшчыкам тыграў быць не даводзілася... Прабачце, трэба ехаць. Галоўнае, не хвалюйцеся.— І ён узяўся за клямку.

— Калі з вамі можна параіцца падрабязней?

— У любы час пасля работы.

Яна падышла да Аляксея, кранулася яго рукі, паглядзела ў вочы і ціха сказала:

— Прыходзьце сёння. У мяне толькі чатыры ўрокі. Буду чакаць,— і кіўнула галавою, нібы пыталася згоды.

Аляксей нічога не сказаў, выйшаў, сеў на сані, зацярушаныя карою, хвастануў ляйчынаю каня і заспяшаўся да школы.

Вера некалькі хвілін стаяла ў зняменні, думала — прыйдзе ці не прыйдзе, паможа ці не? Хацелася, каб прыйшоў, каб параіў, памог. Адчувала, што прыемна быць з ім, слухаць яго, і бянтэжылася пры ім, была трохі скаваная і ненатуральная.

У ляжанцы датлелі, укрыліся белым трапяткім попелам галавешкі. Вера пабіла іх кароткім жалезным прутам, засунула юшку, прыхінулася да гарачага боку ляжанкі і зноў адчула адзіноту, уявіла заснежаныя таежныя прасторы, завірушныя стэпы і тоненькую рабінку на голай уральскай скале. Тугі, казыткі камячок падкаціўся да горла. За вокнамі падаў і шапацеў густы снег.

Верыны ўрокі канчаліся на змярканні. У класе стаяла лямпа без шкла, каб менш выгарала газы, бо яе давалі пайшчыкам толькі раз на месяц, а школе і настаўнікам адпускалі па спісу.

У такія шарыя гадзіны Вера расказвала пра дуэль Лермантава, чытала па памяці вершы, тлумачыла сэнс незнаемых слоў. Яна

станавілася каля акна, каб відно было, што яна ў класе, а часам пазірала праз шыбы на шэры вечаровы снег, на голыя чорныя дрэвы, на жэрдкі платоў, якіх раней не заўважала, на рэдкія цёмныя постаці на вуліцы. Глядзела на ўсё, як на нейкую даўно знаёмую гравюру ў раме школьнага акна.

На такіх уроках у класе было ціха. Слухалі зацікаўлеяа і ўважліва, бо расказвала яна з уздымам і захапленнем, нават не хацелася перапыняцца, калі за дзвярыма бразгаў вялікі званок з надпісам славянскаю вяззю: «Даръ Валдая».

Калі ён звінеў на самым цікавым месцы, дзеці прасілі: «Ве-е-ра Рыго-раўна, расказвайце далей, мы пасядзім перапынак!» Часам ускокваў «Тартыи» і казаў: «А мне трэба выйсці».— «Калі ласка, ідзі, Віця»,— адказвала Вера, і ён садзіўся на месца. Калі б не дазволіла, пайшоў бы насуп§рак, бегаў бы і крычаў па калідоры...

Пасярод настаўніцкай гарэла лямпа са шклом. Вера ажно жмурылася ад яе бляску. На сваім месцы смактаў махорачную цыгарку Анатоль Паўлавіч і паспешліва гартаў распухлы падручнік гісторыі. Наталля Іваіiаўна правярала журналы, выпісвала ў сшытак «двойкі». Зірнула на Веру.

— У вас у пятым класе ўчора не запісаны ўрок. Што, яго не было?

— А калі запішу «гулялі ў жмуркі», вас задаволіць? — адказала Вера.

— Толькі са мною не гуляйде ў жмуркі. Я ведаю, вас абураюць нашы цяжкасці. Ну, няма, няма газы. Дзе яе ўзяць? Сама пісала нарад на базу, і муж званіў. А не нашы настройчыкі пакіньце пры сабе. Можа, гэта і ў класе гаворыце?

— Не ведаю вашых настройчыкаў, а я настроена працаваць як трэба. Мая сяброўка, напрыклад, піша з Троіцка, што ў іх па дзве лямпы гараць у кожным класе. Яны хіба не з тае ж базы атрымліваюць? А мы слепім дзяцей толькі таму, што нехта лянуецца павярушыцца.

Наталля Іванаўна ўскочыла і ляснула журналам па стале.

— Паклёп! За такія размовы — ведаеце, чым пахне?

Да яе падышоў дырэктар, далікатна дакрануўся да локця.

— Супакойцеся, Наталля Іванаўна, сядзьце. Вера Рыгораўна запіша, а з газаю сапраўды трэба нешта рабіць: у Бергулі і ў Асцяцку хапае, вось, кажуць, у Троіцку ёсць, а ў нас усё цяжкасці.

— Не лезьце і не супакойвайце, Анатоль Паўлавіч. Тут справа прынцыповая. Бач ты іх, распанелі, журнал не запаўняюць, адзнакі не пастаўлены, усім незадаволены ды яшчэ бэсцяць сумленных работ-

нікаў... На педсавеце пастанавілі стварыць драмгурток, а плана няма,— гарохам сыпала Наталля Іванаўна.

Вера схілілася над журналам і моўчкі запісвала тэму сённяшняга ўрока.

Дырэктар толькі пакруціў галавой, узяў падручнік і ўказку і выйшаў з настаўніцкай.

Усталявалася напружаная цішыня. У Веры дрыжала рука, пяро драпала паперу.

Вера сабралася і, не развітаўшыся, выслізнула з настаўніцкай. Сцяжынку замяло, за халяўкі боцікаў набіраўся снег. Ад холаду і ад хвалявання працінала дрыжыкі, а шчокі гарэлі, і тахкала сэрца, шэры снег парыпваў пад нагам.і.

Яна завярнула ў вуліцу. Там-сям мільгалі кволыя агеньчыкі, бялела наезджаная дарога. У рагавой хаце светла гарэла лямпа, а ў двары чулася гамана. «Гэта ж хата Усцігавых!» — успомніла Вера, пазнала Аляксееў голас і запаволіла хаду. Рыпнула брамка, захрупаў снег за некалькі крокаў за ёю. Вера не азірнулася. Аляксей дагнаў яе і пайшоў побач.

— Ну, як працавалася?

— Як вам сказаць... На ўроках часам была шчаслівая, захаплялася сама, бачыла, як гарацъ вочы дзяцей, як яны ўважліва слухаюць, а ў настаўніцкай завучу не спадабаўся мой план. Вельмі лаканічны. Пішы ёй падрабязны канспект. А навошта? Іншы раз у план і не зазірнеш.

— Дзетдомаўскія хлапчукі вельмі траппа празвалі вашага завуча...

— А мяне як ахрысцілі?

— Вас яны завуць Верачка. Не крыўдуеце? Вам варта сходзіць да. іх, паглядзець, як жывуць, як рыхтуюць урокі. Яны будуць рады. Дык што ўсё ж адбылося, калі не сакрэт?

— Калі не спяшаецеся, зойдзем да мяне. Раскажу. Вы ж абяцалі параіць, што рабіць з драмгуртком.

— Спяшацца мне няма куды. Гаспадароў няма дома: прапіваюць сёння дачку. Засядзелася яна ў іх. Яшчэ нядаўна тут былі цэлыя асцяцкія паселішчы, нават нацыянальны асцяцкі сельсавет. Усе яны паляўнічыя на собаля, на вавёрку, на каланка. А цяпер зняліся і рушылі далей, на поўнач, за Васюганскія балоты. Адзін Іван застаўся. Вось і ўсваталі яму Ленку.

— Навошта кпіце?.. Хіба яна не мае права на сваё шчасце, на сям'ю, на мацярынства?

— Кожны чалавек нараджаецца для шчасця, хоць не ўсім яно даецца. Чалавек чалавеку павінен прыносіць радасць, узаемна быць падтрымкаю і апораю, а, на жаль, мы яшчэ часам атручваем жыццё

адзін аднаму. І без дай прычыны. Вось вам сапсавала Наталля Іванаўна настрой, а за што? Навошта?

Вера апусціла галаву і толькі паціснула плячыма. У небе задрыжалі буйныя зоркі, а на поўначы яснелі і знікалі водбліскі блакітнага святла.

— Што гэта мільгаціць на небасхіле? — спытала Вера.

— Часам даходзіць і сюды святло паўночнага ззяння.

— Усё вы ведаеце!..

На Трахімішынай палавіне міргала газоўка, у астатніх чорных вокнах дрыжалі зоры. Аляксей прамінуў сваю хату, а каля Верыных веснічак спыніліся.

— Зойдзем на хвілінку, я вас доўга не затрымаю.— Яна дакранулася да рукава Аляксеевай целагрэйкі.

— А раптам дазнаецца завуч? — горка ўсміхнууся Аляксей.

— Яна сама сказала, што я непалахлівая. Хадзем!

Змрок дыхнуў сухім цяплом і пахам бярозавых дроў. Аляксей чыркнуў запалку. Яна дагарала ў пальцах, пакуль Вера здымала паліто і сцягвала мокрыя боты. У ляжанку Трахімаўна наклала тонка наколатых дроў і падаткнула берасцінку. Вера адсунула юшку і папрасіла запаліць у печы. Весела загуло, зашугала полымя, кідаючы на сцяну мяккае святло. Аляксей прычыніў дзверцы, каб лепей угарэліся дровы. Праз дзірачкі на падлозе і на сцяне заскакалі трапяткія аранжавыя зайчыкі. Вера не спяшалася запальваць лямпу.

Аляксей павесіў на цвік вільготную целагрэйку і шапку, падсунуў да печы табурэтку.

— Даверыце пакачагарыць?

— Калі ласка. Я з дзяцінства люблю сцюдзёнымі вечарамі ў паўзмроку глядзець на полымя ў печы, моўчкі падумаць, памарыць. Вы не супроць?

Аляксей зразумеў, што Вера пабойваецца, каб пры святле не ўбачылі іх разам, і сказаў, што таксама любіць вечараваць каля запаленай печы. Дровы ўгарэліся. Аляксей адчыніў дзверцы, змрок адпоўз у куты, а пакой загайдаўся ад хісткага святла. На канфорку ў ляжанцы Вера паставіла бляшаны чайнік, укінула ладны кавалачак цвёрдага брыкету «Фруктовага чаю», працерла гліняны кубачак і рубчастую шклянку, зазірнула ў гладышку, што стаяла на стале.

— Трахімаўна ў мяне як родная маці. Бачыце, дроў наклала, хлеб на мяне палучыла, малака паставіла. О, а тут яшчэ і шаньгі з нейкаю цёмнаю начынкаю.

— Пэўна, з чаромхаю,— сказаў Аляксей.

— Як з чаромхаю?

— І я першы раз здзівіўся. Чаромха тут вясною па берагах Біязінкі — як сумёты снегу. Наламаў я аднойчы вялізны букет, іду па сяле. Жанчыны ківаюць галовамі і папракаюць: «Дарослы чалавек, а зглуміў столькі дабра». Якое дабро? Нічога не разумею. Прынёс дадому, а Дзяменцеўна мая як ускінецца: «Гэта ж столькі ягад загубіў!» Потым толькі зразумеў. Пад восень на чаромхах даспяваюць буйныя, як нашы вішні, ягады. Іх збірае кожная сям'я. Сушаць, мелюць у жорнах на муку. Вараць кісель, начыняюць пірагі і шаньгі. Пераканаецеся, што гэта смачна. А калі забаліць страўнік — самыя радыкальныя лекі.

Вера павярнула набок табурэтку, села на яе перад адчыненымі дзверцамі і сашчапіла на каленях рукі. У яе вялікіх вачах скакалі чырвоныя і сінія агеньчыкі, пышныя валасы свяціліся залацістым німбам.

— Але ж вы мяне запрасілі не пра чаромху расказваць. Кажыце, чым памагчы?

— З прыемнасцю слухаю і пра чаромху. Драмгурток у мяне. Ужо сёння Наталля Іванаўна патрабавала план работы. А што планаваць? З чаго пачынаць? Хоць забіце — не ведаю. Адна надзея — на вас.

— Любы спектакль пачынаецца з п'есы. Вы яе ўжо знайшлі?

— Ёсць у мяне зборнічак казак для лялечнага тэатра. Глядзела, але ўсё, здаецца, складанае: каралі, баяры, рыцары, змеі, царэўны...

— Цудоўна! Такую рэч і трэба ставіць. Дзе гэтая кніжка?

Вера падала тонкі сіненькі зборнічак. На вокладцы — рассунутая заслона. Аляксей пагартаў яго, зазірнуў у змест, знайшоў патрэбную старонку, прачытаў дзейныя асобы.

— Вось тое, што трэба: «Мікіта Кажамяка і Змей Гарыныч». Можна зрабіць такі спектакль — прагрыміць на ўсю вобласць.

— Можна... Але як? — безнадзейна спытала Вера.

— Спытайце, хто хоча іграць. Падбірайце тых, што выразна дэкламуюць. Прачытайце з імі п'есу. Размяркуйце ролі, няхай кожны перапіша свой тэкст і вучыць яго на памяць. Рэпетыцыі пачынайце, седзячы за сталом. Кожны гаворыць свае рэплікі як мага натуральней.

Потым рэпеціруйце мізансцэны, рухі, жэсты. Пра дэкарацыі, касцюмы і бутафорыю падумаю я. А рабіць будзем разам, усім гуртком.

— З чаго? Як? — развяла Вера рукамі.

— З чаго і як, пакуль не ведаю. Трэба параіцца з дзецьмі.

— А змея як зрабіць?

— Ну, гэта проста. З пап'е-машэ. Так што пішыце план і не разводзьце безнадзейна рукамі.

На чайніку заляскала накрыўка, з рыльца пыхкаў струменьчык пары. Аляксей нацягнуў на далонь рукаў гімнасцёркі і перанёс чайнік

на лаўку каля парога. Чай з малаком і шаньгамі пілі ўпрыкуску. Ад полымя печы і гарачага пітва абое расчырванеліся, палагаднелі, а ўтульны чырванаваты паўзмрок настройваў на шчырасць і натуральнасць адносін.

Аляксей расказваў пра свае падпольныя прыгоды, як цяжка іграць падвойную роль: быць сакратарам управы і люта ненавідзець немцаў; як трэба было гнуцца перад фашысцкім начальствам, калі хацелася схапіць за сыты карак і прыдушыць кожнага з іх. Самае горкае і крыўднае — цярпець дакорлівыя позіркі, абразлівыя папрокі сваіх былых вучняў і іх бацькоў, прыкідвацца глухім і нямым, не маючы права ніводным учынкам расшыфраваць сябе. Успомніў, як перадаваў «аўсвайсы» партызанскім сувязным, ёд, бінты, скальпелі, розныя парашкі і таблеткі. Расказваў пра Якава Спірыдонавіча Самцэвіча, які заўсёды ўмеў суцешыць і памагчы, хоць самому было цяжэй за ўсіх, хоць часта пагражалі местачкоўцы ў патаемных пісульках, якія знаходзіў то ў сябе пад дзвярыма, то прылепленыя да брамкі. Усё зразумелі і каяліся, калі з пятлёю на шыі сівы камуніст паспеў крыкнуць: «Мы пераможам. Біце праклятых вора...»

Менш за ўсё Аляксей расказваў пра сябе. Веры нават здалося, ці не тоіцца ён часам. А можа, не хоча Еярэдзіць самае балючае?

Па вуліцы набліжаліся звонкія дзіцячыя галасы. Дзеці нешта дружна крычалі, адсякаючы кожнае слова. Аляксей усміхнуўся:

— Ну вось, жывая рэклама,— і прыслухаўся.

За вокнамі ўжо было выразна чуваць:

«На кіно ў клуб! Карціна гукавая «Нябесны ціхі ход»! Дарослы па рублю, дзіцячы пяцьдзесят капеек!» Зноў і зноў паўтаралася адно і тое з канца ў канец доўгай вуліцы. Вера адхінула фіранку. Пасярод дарогі, па-салдацку размахваючы рукамі, ішлі два хлапчукі і крычалі на ўсю моц, а за імі кацілся сабачы перабрэх.

— Не пазнаяце сваіх вучняў? Гэта лепшыя крыкуны раённага кінамеханіка. Зарабляюць права паглядзець фільм. Праўда, бывае, што сеанс расцягваецца на два вечары.

— Чаму? — спытала Вера, не адыходзячы ад акна.

— Заглухне рухавічок, поркаюцца, поркаюцца ўпоцемках на марозе і адкладаюць на заўтра. Кінамеханік тут фігура! Самі пабачыце. А як яго імя, ніколі не здагадаецеся: Молат. Праўда, Молат Дзмітравіч. Самае індустрыяльнае імя ўляпілі бацькі на ўсё жыццё.

— Жартуеце...

— Гэта яго бацькі жартаўнікі.

— А як яго звалі маленькага?

— Жонка і цяпер яго заве ласкава — Моля. Схадзіце, абавязкова схадзіце ў кіно. Бывае яно рэдка, так што спяшайцеся.

— Не да кіно, калі столькі работы. Ды і карціны ўсё старыя. Глядзела па некалькі разоў... Аляксей Іванавіч, а што гэта за яскравая зорка?

— Каторая? — Аляксей падышоў да акна.— Гэтая? Венера. Можа, памятаеце: «Зорка Венера ўзышла над зямлёю...»

— «Светлыя згадкі з сабой прынясла»,— падхапіла Вера.

— «Помніш, калі я спаткаўся з табою, зорка Венера ўзышла». А мелодыя якая! Я некалі яе спяваў у студэнцкім хоры. Уявіце сабе, са-а-лі-раваў.

— Праспявайце ціхенька-ціхенька. Я так яе люблю і так даўно не чула. Са школы. Мы таксама часта спявалі.

— Тады давайце разам.

Вера ўзяла Аляксея за руку, падвяла да ляжанкі і села зусім побач. Дровы перагарэлі. Ад гарачага вуголля дрыжала малінавае святло і твары іх здаваліся чырвонымі, як з медзі. Аляксей ціхенька заспяваў густым, трошкі прастуджаным і пракураным голасам. Але столькі ў ім было пачуцця, шырокага дыхання, а ў паўзах — шматзначнага сэнсу. Пасля першай страфы ён ціха папрасіў: «Памагайце»,— і яны заспявалі разам:

З гэтай пары я пачаў углядацца
Ў неба начное і зорку ніукаў,
Ціхім каханнем к табе разгарацца
З гэтай пары я пачаў.

Пранікнёны Верын голас, як чысты струменьчык, уплятаўся ў нізкія ноты, узлятаў вышэй, вёў за сабою і зноў сцішваўся да шэпту. Аляксей хацеў скончыць, але Вера падхапіла апошнюю страфу і з асаблівым акцэнтам, амаль рэчытатывам, заспявала:

Глянь іншы раз на яе — у расстанні
Там з ёй зліём мы пагляды свае...
Каб хоць на міг уваскрэсла каханне,
Глянь іншы раз на яе...

Яны моўчкі глядзелі на зыркае вуголле, што начало абрастаць сіватым прыскам. Аляксей рэзка ўстаў і, усміхнуўшыся, працытаваў:

— Але расстацца нам час наступае. Бо так можна да першых пеўняў праспяваць.

— А чаму б і не? — гарэзліва кінула Вера, павольна паднялася з перавернутай табурэткі, абсмыкнула пакамечаную спаднічку і стала каля Аляксея.— Каб вы ведалі, як мне адзінока і маркотна. Так і гаварыць, чаго добрага, развучышся. Адна радасць — у класе. Калі

слухаюць цябе, ловяць кожнае слова, пытаюцца, нават калі трошкі сваволяць. Заходзьце хоць часам да мяне. Ведаю, вам цяжэй, як мне, але вы ўмееце трымацца... Не сумуйце, от пабачыце, будзе добра,— і працягнула Аляксею абедзве гарачыя мяккія далоні. Ён іх моцна сціснуў. Хацеў пацалаваць, але стрымаўся.— Не зможаце прыйсці, хоць паглядзіце на Венеру. Я цяпер яе знайду адразу. Добра?

Аляксей моцна сціснуў Верыны рукі, кіўнуў галавою, пажадаў добрай ночы і ціхенька, каб не рыпелі настылыя ўсходцы, сышоў з ганка. Спыніўся каля брамкі, паглядзеў у абодва канцы, перайшоў на другі бок вуліцы і заспяшаўся па хрусткай падмёрзлай сцежцы. Азірнуўся: у Верыных вокнах загарэлася святло. «Што яна думае цяпер? Што адчувае? Не, гэта, вядома, не каханне. Яна проста пакуль што адчувае сябе адзінокаю. Вось і цягнецца да мяне».

І Аляксей выразна ўбачыў яе вільготныя вочы з бляскам гарачых вугольчыкаў, даверліва працягнутыя пяшчотныя рукі і прагныя, з прыпухлінкаю, вусны, што спрабавалі нешта прашаптаць, ды так і не адважыліся. Ён хацеў разабрацца ў сваіх адносінах і пачуццях да Веры, прызнаўся, што часта думае пра яе, радуецца, калі хоць здалёк убачыць. А сёння... хоць і думаў не ісці да яе, ашукваючы сябе самога, зайшоў да Усцігава, раз-пораз пазіраў у акно, некага чакаючы, і, зірнуўшы на вялікі трафейны гадзінак, выйшаў, калі ў яе павінны былі закончыцца ўрокі, Знарок у двары загаварыўся з Параськаю, некага цікуючы. Усё было падобна на хованкі з самім сабою.

Ён глушыў і адганяў свае пачуцці, а яны прарасталі ўсё настойлівей і настойлівей. Успомнілася Ніна. Ён да болю сцяў зубы. Гэта ж знявага яе памяці!.. «Няўж,о насіць усё жыццё жалобу? І яна б не дазволіла. Што я кепскага зрабіў? Думаю пра Веру. Толькі думаю. А мог бы пайсці напрасткі, прызнацца, што шукаю, чакаю яе, што яна напоўніла жыццё новымі спадзяваннямі і сэнсам. Можа, яна і ёсць тая пакуль што недасяжная зорка Венера? Чым недасяжней, тым лепш: у трапяткім чаканні — свая асалода і радасць»,— разважаў Аляксей і думаў, што трэба паехаць у Мінск, знайсці людзей, з якімі вучыўся ці працаваў, адшукаць партызанскіх сяброў.

Разважаючы сам з сабою, Аляксей увайшоў у замецены чыстым іскрыстым снегам двор.

У хаце цёмна. Значыць, яшчэ гуляюць «запоіны». Клямка на дзвярах заткнута трэсачкаю. Гэта заўсёды кранала Аляксея: ніхто ў сяле ні днём, ні нанач не замыкаў дзверы — усе ведалі адзін аднаго, ніхто староннi не заязджаў у такую далеч, а чужую рэч як ні хавай, усё адно нехта ўбачыць. Так і жылі спрадвек з незамкнутымі дзвярыма, жылі адкрыта і проста, гаварылі ў вочы тое, што думаюць, часам

грубавата, але заўеёды шчыра. Калі чалавек прыйшоўся да душы, казалі «паглянуўся» і дзяліліся з ім апошняй скарынкай і сардэчнаю ласкай. А «не паглянуўся» — не гневайся: скажуць у вочы, як нажом адрэжуць. І бывай здароў назаўсёды. Разумение сібіракамі людскіх характараў заўсёды здзіўляла Аляксея.

Наіўная шчырасць і бескарыслівая адданасць, пэўна, і прывязалі Аляксея да Мішы Усцігава на фронце, а потым у шпіталі. Здавалася, ніякія духоўныя інтарэсы не маглі іх зблізіць. А вось сышліся, пацягнуліся адзін да аднаго. Аляксей і цяпер дзівіўся простай мудрасці Мішавых разважанняў, яго назіральнасці, веданню людскіх характараў, дакладнасці і дасціпнасці ацэнак. Таму часта хадзіў да яго адвесці душу.

А Міша апошнім часам адчуваў сябе вінаватым, што завёз сюды сябра, што яшчэ ў шпіталі вельмі ж расхвальваў сваё сяло і сваю хату. Цяпер сам бачыў — усё трохі не такое, як здавалася здалёк. І апраўдваўся, нібы прасіў прабачэння:

— Ты, Ляксей, таго-гэтага, не вельмі гневайся на мяне, што зацягнуў сюды. Калі не глянецца ў Архіпа на тапчане гнуцца, пераходзь да нас. Хіба х.ата малая? А прыжывешся, па сваёй спецыяльнасці-кваліфікацыі рабіць пойдзеш, збяром помачы і хату табе як ляльку адгрукаем.

Спачатку Аляксей не ведаў, што гэта за «помачы», пакуль не ўбачыў, як самыя цяжкія работы сібіракі дружна робяць талакою.

Рубіць чалавек у лесе хату, каб лішніх трэсак у двор не вазіць. Размеціць бярвенцы і кроквы, «шумне» радні і суседзям: «Прыходзьце на помачы». Кожны кідае сваю работу, а на помачы ідзе.

Пакуль раніцаю мужчыны закопваюць штандары, глядзіш — цэлы абоз ужо вязе разабраны зруб. Жанкі і дзеці завіхаюцца, як мурашы,— хто носіць, хто насцілае мох, паспявай толькі класці вянец на вянец. Следам падганяюць падлогу, акасячваюць вокны і дзверы. І ўсё з жарцікамі ды прыпеўкамі. Пад вечар і дах накрыты. Стаіць хата як звон. А ўсярэдзіне ўжо «вуглы абмываюць» свежаю бражкаю, рыпае гармонік, песні і гамонка не сціхаюць да поўначы. За дзень і хата гатова. Зашклі вокны, складзі печ і жыві на здароўе.

Талакою адзін аднаму косяць і стагуюць сена, рэжуць дровы, а зімовымі вечарамі сыходзяцца жанкі рабіць пельмені: качаюць цеста, чаркаю рэжуць кружочкі, спрытна начыняюць і ставяць гатовыя «пельмешкі» на мароз. Праз гадзіну яны бразгацяць, як каменьчыкі: ссыпай у мех або ў дзежку, і няхай стаяць усю зіму. Зайшоў госць — праз паўгадзіны і пачастунак гатовы. А колькі перагаворáць, колькі пераспяваюць на «помачах»!

І на калгасным полі ніхто не агінаецца. Змалку лютыя да працы сібіракі. Ні сабе, ні суседу палёгкі не даюць.

«Паглянуліся» Аляксею тутэйшыя норавы, хацелася і сябе паспрабаваць на нялёгкай рабоце. І ён суцяшаў Мішу:

— Што ты, браце! Я тут вунь як акрыяў. Перазімую, а там відаць будзе. А то быць у Сібіры і сапраўднай зімы не пабачыць — тое самае, што наогул не быць.

Міша лагодна ўсміхаўся і круціў галавою:

— Хітры ты. Мяне шкадуеш, а сябе ніколечкі...

Усё гэта ўспаміналася Аляксею па дарозе ў пустую Архіпаву хату.

Ён упоцемку распрануўся і запаліў газнічку. На стале стаяў шкляны слоік малака, накрыты скібкаю хлеба. Каўтнуў некалькі глыткоў, каб прагнаць махорачную гаркоту ў роце, прынёс з сянец свой тапчан, прыткнуў яго да лавы, распрануўся і лёг.

Але доўга не мог заснуць. У настылае акно цадзілася снежнае святло, у верхняй шыбіне падміргвалі сінія зоркі. Ён яшчэ адчуваў цяпло Верыных рук, пах яе валасоў і тугое гарачае плячо, калі яны ціха спявалі ў паўзмроку.

Потым усё змеркла ў глыбокім сне.

Яго разбудзіла аднастайнае рыпанне гармоніка, несуладныя прыпеўкі і гамана ў двары. Па рыплівым ад марозу ганку затупала мноства ног, нехта доўга шукаў клямку ў хату, і цераз парог увалілася вясёлая, добра падпітая талака людзей. Дыхнула настылым паветрам, перагарам бражкі, кажухамі і дохамі з сабачых шкур.

Полы шоргалі па яго твары, цяпло хаты захістала падлітых гасцей, яны ўпоцемках апіраліся на Аляксея, намацвалі рукамі сцены, і пакуль Дзяменцеўна шукала на прыпечку сярнічкі, як сляпыя, натыкаліся на тубурэткі і ўслоны і лаяліся без злосці.

Калі засвяцілі лямпу, Аляксей праз шчылінку прыжмуранага вока разгледзеў хісткія постаці людзей. У адзінага ў сяле гарманіста, глухога Лёнькі, на адным плячы целяпаўся расцягнуты гармонік; расчырванелая Аксення ў ружовай блішчастай кофце без дай прычыны сакатала гарэзлівым смехам, а яе дробненькі кладаўшчык чыркаў нагою каля жонкі. Рудая барада Архіпа Кузьміча пры слабым святле здавалася агністачырвонаю. Ён мітусіўся, запрашаў «госцейкаў» на чыстую палавіну.

Над Аляксеем навешалі кажухоў і світ, на ногі ўзвалілі цяжкую даху, накідалі хустак. Ён ляжаў як замураваны. Гаспадар хацеў пабудзіць кватаранта, але Дзяменцеўна спыніла: «Чалавеку рана ўставаць. А яго доля нікуды не дзенецца». Яна выкаціла з-за печы вялізны бітон і медзяным карцом налівала ў гладышкі жаўтаватую пенную бражку.

У хаце запахла свежымі дражджамі і хмелем. Занесла Дзяменцеўна лямпу і гладышкі на другую палавіну і шчыльна прычыніла дзверы.

Чуліся прыглушаныя галасы і смех, разы са два рыпнуў гармонік і сціх. Не было толькі маладых. Відаць, Ленка засталася ў Івана, а можа, там дагульвала яго радня. Аляксей хацеў заснуць. Ён далічыў да ста і паплыў у змрок, усыпаны дробненькімі зорачкамі, а гамана за сцяною здавалася водгуллем далёкай кананады.

Праз сон Аляксей чуў, як здымалі кажухі, як палегчалі ўгрэтыя ногі, грукалі дзверы, у твар шугала марозная пара. Нарэшце патухла святло, улегліся свае, а нехта з гасцей расцягнуўся на падлозе ў кухні, стагнаў, кректаў з бульканием і пераліўным свістам і заснуў. Аляксей зноў праваліўся ў чорную прорву сноў.

Кожную ноч для яго ўсё яшчэ грымела і палала вайна. Ён поўз па мёрзлай зямлі, змешанай са снегам, бег і падаў, часам нылі старыя раны, ён заціскаў іх, каб суняць кроў, сіліўся крыкнуць, а голасу не было; бачыў збоку сябе і таварышаў, якіх даўно не было на свеце. Яны смяяліся і гаварылі, а ён нічога не чуў. З полымя і дыму над полем выплыла дзявочая поста ць у доўгай белай кашулі, з распушчанымі валасамі, ружовыя ножкі не датыкаліся да зямлі. Твар быў затканы чырвоным дымам разрываў, а калі наблізілася і прасцерла да яго рукі, пазнаў Веру. Ён цягнуўся, каб затрымаць, і не мог скрануцца з месца, хацеў паклікаць, хапаў паветра, а гукі не маглі вырвацца з горла.

У сон зноў уварваўся грукат на ганку, хляснулі дзверы, за клубамі пары ў хату ўсунулася нейкая капа. Цубкія халодныя саломінкі казыталі твар, Аляксей прахапіўся і адразу нічога не мог разабраць. Нехта сеў яму на ногі. Аляксей спіхнуў яго.

Той ледзьве ўскараскаўся з падлогі і прамармытаў:

— Спі, спі, ляшак.

Але яго зноў павяло да сцяны, ён адсунуў Аляксеевы ногі і прымасціўся на краёчку насцелі.

— Што трэба, мужчыны? Ану, марш адсюль! — абурыўся Аляксей.

— Ц-ц-ц-с-с! Не шумі, салдат.— Пазнаў знаёмы голас заўсёды маўклівага і лагоднага каваля Грышы. Ніхто ў наваколлі так не ўмеў паляваць на мядзведзя, як ён. Лісу, каланка ці вавёрку не лічыў за дзічыну і шкадаваў на іх шрот. Толькі на мядзведзя ставіў хітрыя загарадкі, да пнёў прыкручваў ланцугамі двухпудовыя пасткі з прынадаю. Казалі, аднойчы мядзведзь зашчаміў лапу, тузаў, тузаў капкан, нарэшце сам сабе адгрыз лапу і пачыкільгаў на трох нагах. Кожную восень Грыша прывозіў трох-чатырох мядзведзяў, саліў мяса, вырабляў шкуры. Выпраўляючыся зімою ў далёкую дарогу, у каваля пазычалі мядзведжыя футры, а ў іх кладзіся на снег і спі ў

саракаградусны мароз. І Аляксей не раз хадзіў да яго ў пазычкі, таму і памякчэў:

— Хлопцы, дайце спакой, ідзіце дадому або вунь кладзіцеся на сваю салому і спіце.

— Не-е-е, на с-са-ломе мы не прывычныя,— азваўся ляснік Петра Анціпаў.— Пакліч Дзяменцеўну.

— Не трывожце, спіць Дзяменцеўна.

Каваль з леснікам, як валачобнікі, заспявалі:

— Га-рыць, Дзяменцеўна, гарыць, давай, хадзяйка, чым тушыць!

— Га-рыць, гарыць, а чым тушыць?

З каморы пачуўся кволы гаспадынін голас:

— Каб ты ў смале гарэў, язві цябе, Грышачка. Ані кроплі болей няма. Дзе ж цябе насіла нялёгкая?

— Ну дай, не шкадуй,— прасіў Грыша.

Бліснула запалка, Петра паднёс яе да саломы, кіну-

тай на падлогу. Усхапіўся і пабег агеньчык.

— Вы ж хату спаліце, мужчыны! — абурыўся Аляксей.

— Спа-лім! А табе чаго, салдат, баяцца? — спакойна адказаў каваль і так прыціснуў коўдру, што і не паварухнешся. А Пётра адчыніў дзверы на другую палавіну:

— Дык чым тушыць? А, гаспадыня? Бачыш, гарыць!

Не здолеючы ўстаць, без асаблівага страху завойкала Дзяменцеўна:

— О-о-й, і праўда, ірады хату спаляць. Няўжо вам у Івана мала было? Наліліся ж па саменькае рыльца.

Адсырэлая, перамешаная са снегам салома ўгаралася марудна, але ў хаце рабілася светла і дымна.

— Хлопцы, чалавека спаліце. Там жа нехта ляжыць,— занепакоіўся Аляксей.

— Толькі абсмалім, як парсюка,— хіхікнуў Грыша, а калі ўбачыў, хто ляжыць, здзівіўся: — Гэта чалавек? Пацук амбарны! Няхай смажыцца.

Пакуль гаманілі, салома ўгаралася весялей. Выразна былі відны чырвоныя ад агню твары і распатланыя валасы, на Грышу — пацягнуты салдацкім сукном паўкажушак, Пётра — у падпяразаным зялёным бушлаце.

Не ўстаючы з кашмы, Дзяменцеўна закрычала:

— За печчу фляга. Пасмакчыце, язві вас, ц'яўкі няўпойныя, ды агонь затоптвайце, а то, чаго добрага, і праўда, згарым. Аляксейка, паглядзі, каб хоць затупалі, бо я ж не здолею.

— Даўно б так. А то гарыць усярэдзіне, а тушыць не даеш,— засмяяўся Грыша.— Валачы, Пётра! — і пачаў зэ.топтваць валёнкамі агонь. Ляцелі іскры, распаўзаўся дым, а ён скакаў і скакаў па саломе ў хісткім танцы.

Аляксей засвяціў газнічку, зачэрпнуў карэц вады і лінуў на зажалелую падлогу. Кладаўшчык сеў, не расплюшчваючы вачэй, чухаўся і нешта мармытаў. А Пётра чэрпаў бражку, смактаў сам, перадаваў Грышу. Той адпіў, тыцнуў пад нос кладаўшчыку:

— Глыні, пацук, можа, калі на працадзень болей адважыш.

Кладаўшчык патузаўся з боку ў бок, паматаў галавою і зваліўся на абгарэлую салому.

— Давай, Аляксей, як цябе там па бацюшку, «выпьем и снова нальём»,— праспяваў Грыша.

— Хопіць, мужыкі, прыдурвацца! Дасмоктвайце, і марш па хатах!

— Цы-цы-цы, ш-ш-шы! Ого, камандзір! На нас хай лаеш, а са-а-м баішся, а? — агрызнуўся Пётра, ускараскаўся з падлогі, паківаўся, пераступіў кладаўшчыка:— Хадзем, Грыша, тут нас не ра-зу-ме-юць. Цемната! Ніх фэрштэен.

Яны абняліся, патузаліся, пакуль праціснуліся ў дзверы, упусцілі воблака пары, некатары, мацокаючыся, загрымеў з ганка.

Аляксей зашчапіў дзверы і лёг на свой тапчан. У замеці на ўсю вуліцу гарланілі закадычныя сябры:

Какая ель, какая ель,
Какие шишечки на ей.

VII

Паштальёна ў сяле не было: кожны па пісьмы і пераводы заходзіў у вузкі і доўгі пакойчык пошты і з надзеяй пазіраў на Васіля Пракопавіча. Ён заўсёды памятаў, што каму прыйшло. Калі не было нічога, звычайна суцяшаў: «Усё яшчэ піша. До-оў-гае пісьмо. Заходзь другім разам». А калі пэўна ведаў, што нешта ёсць, усміхаўся, павольна гаварыў: «Паглядзім, можа, што і прыйшло». Накульгваючы, ішоў да доўгай скрыні, перабіраў не вельмі гнуткімі пальцамі трыкутнічкі і канверты, глядзеў на штэмпелі і падаваў пісьмо.

Ён ведаў, дзе хто служыць, дзе жыве, у якім шпіталі адлежваецца сын або муж. Бадай усе пісьмы даводзілася чытаць яму. Адны прасілі, бо недабачваюць, другія не разбіралі «дробны почырк». У Васіля Нракопавіча збіраліся ўсе селавыя навіны, а пра што няможна было ведаць староннім, і родная жонка не магла дапытацца.

Вярнуўся ён на другім годзе вайны без ступака. Сам выстругаў бярозавую падпорку пад калена і так налаўчыўся бегаць, што не

кожны на дзвюх угоніцца. З Мішам Усцігавым яны разам раслі, а ў сілу ўвабраліся — у адной брыгадзе варочалі, і на прызыў разам пайшлі, таварышавалі і цяпер — адна бяда ў абодвух.

У дні выплаты пенсіі любіў Міша патаўчыся на пошце, павыскаляцца з Васілём, дазнацца навіны, газетку пагартаць, каб потым пераказваць Параньцы. Васіль Пракопавіч даў Мішу распісацца і пачаў угаиорваць, каб хоць пяцёрку паклаў на кніжку:

— Па-першае, процант расце, выгада,— ён загнуў яшчэ палец,— грошы не будуць без дзела ляжаць, а пойдуць у абарот: казне карысць. Выкананне плана па мабілізацыі сродкаў: мне плюс. Бачыш, колькі выгады ад тваe пяцёркі. Давай, Міша, не туляйся.

— А хто туляецца?

— Дык давай!

— Калі ж бо гэтую хітрую кніжку баба хавае. Няхай другім разам.

— Грошы запішу ў картку, а ў кніжцы другім разам адзначу. Не верыш?

— Э-э-э, разумны! Ты ў кніжку цяпер упішы, а грошыкі другім разам возьмеш. А-а, баішся? Сам не верыш? А табе вер!

— Я ж дзяржаўная ўстанова. Пошта і ашчадкаса. Набярэцца патрэбная сума, касіра назначаць. А чаму ж і цябе не ўзяць? Работа якраз па табе: сядзі, паплёўвай на пальцы ды лічы купюры. Давай, Міша, кніжка ў цябе в-у-у-нь, з патайное кішэнькі тырчыць.

— Ну, скажы... праз кажух бачыць! І праўда, ліха на яе, тырчыць. Пішы. Дзесятку. Не думай, што Усцігаў несазнацельны.— Ён дастае з-за пазухі кніжку, і абодва смяюцца.

Зірнуць збоку — не іначай, сварацца, а даўнія сябры заўсёды пакепліваюць і пацяшаюцца адзін з аднаго. Міша далікатна разгладжвае ружовыя трыццаткі і чырвонцы, хавае за пазуху, насоўвае шапку, ямчэй иадмошчвае мыліцу і скача з прыступкі на прыступку. Ён з кожнай пенсіі купляе Феньцы «падушачкі», часам прыносіць Параньцы паркалёвую хустачку ці крамніны на кофту.

Толькі параўняўся Міша з сельсаветам, дай, думае, зайду, закіну старшыні пра касірства. Можа, і не зашкодзіць. Успомніць, калі дойдзе да таго, глядзіш — і пры дзеле буду.

Зайшоў, стаў у парозе, шапку падмасціў пад мыліцу — так мякчэй і рукі вольныя.

— Праходзь, садзіся,— прапанаваў старшыня.— Ну, як жывеш?

— Жыву, хлеб жую. Адно кепска — нудна без дзела. От каб работу якую па маёй сіле, весялей было б, і — глядзіш, да пенсіі капейчына набегла б.

— Якую ж табе работу?

— Васіль Пракопавіч казаў — яму касір хутка спатрэбіцца, дык я падышоў бы па ўсіх стацця́х. Сам жа недаеш, як я некалі задачкі лузаў і табліцу зверху ўніз і знізу ўверх назубок помню. За мільёны не бяруся, а сотням дам рады.

— Васілю аднаму драмаць абрыдла, дык напарніка шукае.

— Кажа, не паложана ўсё ў адных руках трымаць.

— Калі тое будзе, можа, і цябе падтрымаем.

Старшыня сеў за стол, пабарабаніў пальцамі па краёчку, адсунуў шуфляду. Міхаіл прыгледзеўся, як ён зблажэў. Жыватом пакутуе чалавек. Таму і на фронт не ўзялі. Пасланяўся ў тылавых інтэндантцтвах, і адтуль спісалі па здароўі. Так усю вайну тут і камандаваў бабамі ды падлеткамі. Паглядзеў старшыня на Мішу і пытае:

— Скажы ты мне, Усцігаў, што за ён, гэты твой дружок, што ў школе заўхозам робіць?

— А што?

— Калі пытаюся, значыць, трэба.

— Мяне ж гэты, як яго там, ну, пракурораў пісьмавадзіцель пытаў.

— Стажор? Пушанкоў?

— Стажор, кажаш? А вантробы мудрэй за ніткі матае. Хацеў я пасла́ць яго... але прыкусіў язык, вось яго шануючы,— Міша паказаў на сцяг, што стаяў у куце.— Ты мяне ведаеш? Паручыцца можаш? Ці, можа, і я пераапранутьз фашыст? Га?

— Ну які з цябе фашыст? — зарагатаў старшыня, змераўшы поглядам Усцігава.

— От так і я за Лякcея галаву гатовы пакласці. А што ў цябе за клопат пра яго? Ты ж у пракурорах не служыш.

— Ты, Міхаіл, не вельмі хайлай за свайго дружка і галаву зазра не кладзі.— Абрамаў пакорпаўся ў шуфлядзе, выцягнуў самаробны канверт, пачухаў патыліцу.— Панімаеш, бумага прыйшла. Далжон я ёй ход даваць ці, па-твойму, пад сукно сунуць? Як бы ты зрабіў на маім месцы, га? Паслухай, што пішуць з яго стараны. Во, адсюль: «Як стала вядома, у вашай дзярэўні пражывае нехта Буевіч Аляксандра I. Сабшчаю, што вышэйуказаны Буевіч А. I. і. пры немцах служыў у Кльніцкай управе (БССР), насіў пры сабе пісталет і выдаў гестапу патрыётаў-падпольшчыкаў. Затым Буевіч уцёк за лінію фронту і хаваецца ў вас ад законнай кары.

Як сумленны савецкі грамадзянін даводжу да вашага ведама, каб перадалі гэтага Буевіча А. I. надежным савецкім органам на мястах.

*К сяму савецкі патрыёт тав. ........*

Абрамаў паднёс ліст да вачэй:

— Пад капірку пісана, а подпіс не разабраць: кручкоў і загагулін цэлы азярод. Упачатку ні то пэ, ні то нэ... Ну, што скажаш, яфрэйтар? От твой «святы»!

— А скажу, таварыш старшыня, блясна, а не жывец. Клюнеш і павіснеш на ёй: ні пракаўтнуць, ні выплюнуць. Хто пісаў, ведаеш?

— Ліха яго разбярэ.

— Адрас гэтага «сумленнага грамадзяніна» ёсць?

Старшыня так і гэтак агледзеў ліст і пакруціў галавою.

— На канверт паглядзі, што за пячатка на марцы.

Аляксандр Іванавіч уздзеў акуляры, каб разгледзець паштовы штэмпель.

— Сэтэ. Ла-за-в... а далей расплылося.

— Пакажы сюды.— Усцігаў скокнуў да стала.— Ну, канечне, Лазавая. Ведаеш, дзе гэта?

— Ну, дзе?

— У Данбасе. А Ельніца? У-га! Каля Мінска. Якая ж гэта яго старана? Падобна, што гэты самы «патрыёт» сам пяты падмазвае.

Старшыня задумаўся.

— А ты, Усцігаў, вушлы. Табе б не касірам быць.

— Я ў разведцы носам за вярсту чуў, чым вораг учора вячэраў. Тушонкаю і каваю ікае — афіцэра ўпалюю, а галетамі — салдат. Так што не сумлявайся: блясну закінуў... Ла-за-ва-я... Ах ты, гад, каб з цябе самога лазу дралі! Ты ўсякаеш, куды гне? Піша туды і сюды, бытта іх некалькі даносчыкаў, а гэта ж адна шэльма. Баіцца, каб самога не папуталі. Думае, хай ад цябе «сігнал» пойдзе. Сельсавет трывогу заб'е. Каб яго падучая біла.

Старшыня задумаўся і спахмурнеў.

— Што ж рабіць?

— Кінь у печ, і ўся работа.

— Не маю права: зарэгістравана ў кнізе ўхадзяшчых. Трэба даваць ход, а які — ліха яго ведае.

— Пісаць адказ няма каму: ні адраеа, ні прозвішча няма. Адна дарога — у печ, і нікому ні гу-гу. Каб толькі бабы на языкі не падхапілі. А Буевічу пра ўсё скажу. Ты нікому гэтую «фількіну грамату» не паказваў?

— Табе паказаў. Дай, думаю, распытаю. Ты ж яго прывёз сюды. Каму, як не табе, ведаць лепей? І свой ты чалавек, савецкі з галавы да пят. Наталлі Іванаўне паказаў. Яна ж школьнае начальства, як ні кажы.

— Тут прамашку даў. Ёй паказаць — што на слуп прыляпіць, Скажы — так і так, дзела сакрэтнае, каб не званіла. А паперку гэтую

аднраў не ў раён, а каму трэба ў Мінск. Там на месцы разбяруцца, дакапаюцца, хто піша. А ў нас, у раёне, не дадуць рады. Хто ім што скажа? Напішы: паступіў гэты самы данос, а чалавек з вашае стараны, разбярыцеся і паведаміце. От «ухадзяшчае» стане «ісхадзяшчым», і клопату мала.

— Слухай, дзе ты так падкаваўся? Мудрэй за адваката сячэш!

— А ты думаў — Усцігаў вахлак вахлаком? Я, брат ты мой, франты прайшоў, самому генералу дакладаў, у асобым аддзеле каравульную службу нёс. Так што будзь спакойны, яфрэйтара таварыша Усцігава на пальцы не падсмажыш! Аднаго прашу: Аляксея не руш. І гэтай сакатусе скажы, каб хоць трохі памаўчала.

Міхаіл устаў, выцер шапкаю ўзмакрэлы твар.

— Ну, пайду, а ты, Аляксандра Іванавіч, рабі, як казаў. Лепей не прыдумаеш.

— Можа, у раён таварышу... гэтаму, Пушанкову, адаслаць. Няхай разбіраюцца.

— Адсюль разбірацца — што грузды, седзячы на печы, шукаць.— Усцігаў насунуў шапку, казырнуў на развітанне і паскакаў на мыліцы.

Дадому прыйшоў маўклівы і задуменны. Калі ўбегла Фенька, паманіў яе да ложка, даў «падушачак» і наказаў, каб дацікавала Аляксея і сказала, што конча патрэбен.

— Дзядзька Алёша ў завозні хамут перавязвае.

— Скокні, дачушка, пакліч.

Да змяркання прыслухоўваўся Міхаіл, калі рыпнуць весніцы і на ганку пачуецца знаёмы тупат, смаліў цыгарку за цыгаркай і пазіраў у акно.

Аляксей зайшоў, як добра звечарэла. Залубянелы на ветры і сцюжы твар пабурэў, зашэрхлі губы, а вочы іскрыліся ўсмешкаю. Ад яго пахла свежасцю і сырою бярозаваю карою. Ён пацешна казырнуў, ляснуў падборамі і адрапартаваў:

— Па вашаму загаду з'явіўся.

— Вольна. Сядай,— сур'ёзна адказаў Міхаіл і пачаў грэбціся на край ложка. Аляксей памог яму сесці, расшпіліў куфайку і хацеў прымасціцца побач.

— Распранайся. Справа ёсць.

— Ой, як сур'ёзна. Выкладай, што ў цябе.

Міша марудна скручваў цыгарку з жоўтай паперы ад махорачнага пачка, доўга жмакаў краёчак, зацягнуўся, папыхкаў і запытаў:

— Адкуль цяпер возіш дровы?

— З павароткі на шостым кіламетры. А што?

— Сахатыя не пападаюцца?

— Увесь асіннік стаўклі. Ці не на паляванне збіраешся?

— Хто ж такою парою на сахатых пойдзе? От як улежыцца метровы снег ды заледзянее зверху пальцы ў тры, тады ідзі, не прамахнешся... Я, брат, сваё адхадзіў,— уздыхнуў Міша.— Даўней, калі іх ніхто не лічыў і забароны не было, і я не аднаго зваліў. Пасля каляд, туды пад вясну, ходзяць на іх. Днём сонца прыгрэе, снег растае, ноччу мароз ціскане, і ўсё ледзяною скарынкаю бярэцца: як шкло, чырым блішчыць, любога трымае. Але без лыжаў далека не зойдзеш. Падшытыя ласёваю шкураю лыжы як па вадзе плывуць — заяц і той не пачуе. А трэба замерці на месцы — тузанеш назад. Поўсць натапырыцца, і стаіш, дзе спыніўся... Думаў пра цябе.— І Міша расказаў усё, што было ў сельсавеце. Слова ў слова расказаў. Аляксей пакусваў ніжнюю губу, не перапытваў, не перабіваў. Даслухаўшы, загаварыў:

— Значыць, некаму замінаю. Ка-му ж? Робіць ход канём: капае не туды, куды трэба, ідзе абходным манеўрам: няхай сельсавет, афіцыйны орган улады, «сігнал» падасць, а ён і тут убаку. Значыць, недзе жыве юда, дрыжыць за сваю шкуру, замеет сябе другога хоча падаткнуць. Разумееш, Міша?

— Я адразу ўсёк і тое ж самае Абрамаву сказаў.

— Выходзіць, трэба ехаць. І так заседзеўся не на сваім седале. Можа, там дзе яго знайду. А знайсці абавязаны! — Аляксей прайшоўся па хаце. Фенька, высунуўшы язычок, пісала слупкі лічбаў.

— Дзядзя Лёша, а ў мяне правільна выходзіць?

— О, дык ты малайчына! Ага, так, так, усё правільна.

— А ў цябе ўсё няправільна, Аляксей,— азваўся Усцігаў.

— Чаму?

— Відаць, у гарачай вадзе маленькага купалі ці на чаране нарадзіўся. Ты паедзеш, а што падумае Абрамаў? Уцёк, сляды замятае. Значыць, вінаваты. І мне вочы пачнуць пароць: «Усцігаў хаваў». Можа, даганяць пачнуць. А мне тут лыпай. Ты пацярпі: сельсавет пашле туды, у вашае міністэрства, а там адразу разбяруцца. І сам напішы, не лянуйся. А то два разы паслаў і лапкі склаў. Так што, братце, на мой дурны розум, астынь, падумай. А цяпер давай вячэраць. Паранька, што там у цябе?

З сянец убегла з даёнкаю Паранька.

— Калі нагаварыліся, садзіся, Алёшачка, садзіся. Толькі працаджу. І дранікі з раніцы ў печы прэюць, хоць на алеі, але смачныя. І смятанка ёсць.

— Эх, дзе наша не прападала! Давай дранікі... Саламонава галава ў цябе, Міша. Як па пісаным сячэш. Ло-о-гіка! Каму ж замінаю? Трэба ўспомніць.

Фенька пасунулася на ражок. Паранька загрымела засланкаю.

Ад рэзкага сухога ветру трымцела і дзынкала шыба, недзе ў сцюдзёнай цемрадзі захлынуўся сабачы брэх.

VIII

Высокае халоднае неба звісала над заінелаю аблямоўкаю тайгі. Ружовыя слупкі дыму стромка цягнуліся ўгору і раставалі ў вышыні. Снег іскрыўся россыпам мігатлівых зорачак і да слёз сляпіў вочы. Далёкія лясы, здавалася, адлітыя з паружавелага срэбра, застылі ў дзівосным зняменні. Кожная былка, кожны дубчык укрыліся бухматым зіхоткім інеем, рыпелі і наблісквалі каляіны, наслізганыя паламі. Усё наваколле здавалася белаю іскрыстаю казкаю, ахутанаю цішынёю і сонцам.

Веры хацелася выскачыць на вуліцу, упасці ў пульхны снег, надыхацца колкай марознаю свежасцю. Пасля ўчарашняга вечара не хацелася думаць пра дробныя крыўды і складанасці быту, а калі будзе вельмі цяжка, прытуліцца да пляча дужага, разумнага і добрага чалавека. Яна ўсё часцей і часцей думала пра Аляксея, чакала сустрэчы з ім, адчувала патрэбу ў яго парадзе і падтрымцы. «Няўжо закахалася?» — спахоплівалася яна і суцяшала сябе: «Не, гэта ад адзіноты!»

Яна паспешліва напісала планы ўрокаў і работы драматычнага гуртка, склала кніжкі і пайшла ў дзіцячы дом. Зноў Аляксей... Іванавіч. Гэта ён параіў схадзіць да сваіх выхаванцаў, паглядзець, дзе і як яны жывуць.

Пад цубкімі ад марозу боцікамі пахруствала сцежка, сустракаліся людзі з пабеленымі інеем бровамі, стрэшкамі хустак і шапкамі. Усе далікатна віталіся. Часам жанкі пыталі: «Ну, як там мой сарвігалава?» Называлі прозвішча і клас, бедавалі, што няма калі налягаць на ўрокі: дома яшчэ чатыры раты, кароўка і парсючок. Усіх трэба накарміць і дагледзець. Ён жа большанькі. А сама на «фірме» ці на таку.

Вера толькі пасміхалася і ніколі не скардзілася на дзяцей, хоць часам і трэба было, а пахваліць ці скажа няпэўнае: «Нічога, так сабе». Яна адчувала, як дзеці цягнуцца да яе, вераць і паважаюць.

Дзіцячы дом етаяў на канцы сяла за высокім парканам. Чатыры вялікія будыніны пад шатровымі дахамі, з выразанымі карункамі маляваных наличнікаў былі не падобны на вясковыя хаты. Каля брамкі Веру сустрэла маленькая чорненькая дзяўчынка з рэдзенькаю грыўкаю, вострым носікам і разумнымі хітрымі вочкамі.

— Добры дзень. А я вас ведаю. Вы Сцёпкава настаўніца, Вера Рыгораўна. Вы да дырэктара ідзяце? — лепятала дзяўчынка.

— Да дырэктара. Як жа цябе завуць?

— Яніна. А ўсе завуць Аня. Васіль Сцяпанавіч у кабінеце. Ідзіце, не бойцеся. Ён у нас добры,— і ўзяла Веру за руку.— Я вас завяду.

— Дзякуй, Яня. Я не баюся.

— Мяне так толькі Сцёпка заве, як мама звала. Сцёпка ў вас вучыцца. Альхімовічы мы... Здалёку-здалёку, з-пад Баранавіч. Можа, чулі?

У акне паказаліся знаёмыя твары яе вучняў. З дзвярэй выбеглі распранутыя Аня Анікеева, Шура Іволіна і кінуліся, як да чаканай госці, заскакалі ад радасці, кожная запрашала ў сваю груду. Але Верыну руку моцна трымала Яня.

— Хадзем са мною. Я завяду да Сцёпкі,— і пацягнула за сабою.

— «Хадзе-ем, хадзе-ем»!.. — перадражнілі дзяўчаткі.— Вера Рыгораўна — наша настаўніца. А ты сваю вадзі.

Але Яня не адступалася. Як маленькі павадыр, вяла Веру на прыступкі, упусціла ў маленькі калідор і прывяла ў пакой, дзе вучылі ўрокі пяцікласнікі і яе брат Сцёпка. Усе ўсталі і голасна павіталіся.

— Сядайце. Займайцеся, дзеці, а я пагляджу. Можа, каму памагчы трэба? — Яна ўбачыла выхавацельку, маладую прыгожую дзяўчыну, і спахапілася, што нешта сказала нетактоўнае. Тая і сама, калі трэба, паможа. Падышла да яе, ціха папрасіла прабачэння і растлумачыла, што проста зайшла паглядзець, як жывуць і займаюцца дзеці.

Яня прыперлася да вушака, нібы нечага чакала. Да яе падышоў брат, нешта хуценька зашаптаў, паківаў пальцам, паправіў хустачку, аддаў сваю не вельмі чыстую насовачку і выправіў за дзверы.

Дзеці пісалі, вучылі, ківаючыся над падручнікамі, раз-пораз пазіраючы на Веру. А выхавацелька Марына Раманаўна ёй шэптам расказвала, як хто стараецца, што каму цяжка даецца, які ў іх тут парадак. З месца падняўся Віця Тартынскі:

— Можна спытаць?

— Падыдзі сюды,— адказала Марына Раманаўна.

— Не, мне ў Веры Рыгораўны. Што такое «волхвы не боятся могучих владык»?

— Я ж вам тлумачыла ў класе.

— Тлумачылі, тлумачылі,— раздаліся галасы.— У-у, Тартын! Галава, як рэшата.

Вера падышла да яго і ціха пачала расказваць, хто такія волхвы, кудзеснікі, уладыкі і заўважыла на Віцевай левай руцэ прыгожа намаляванага хімічным алоўкам рыцара на кані.

— Навошта ты малюеш на руках?

— Больш няма на чым. На корачках сшыткаў не дазваляюць...

— А ты вельмі любіш маляваць?

— Люблю. От каб фарбы ці алоўкі розныя.

— Хутка будзе ўсё: і альбомы, і алоўкі, і фарбы. Пацярпі трошкі. Да свята падрыхтуем спектакль, дык і табе будзе работа.

— На артыста я не здатны.

— Будзеш маляваць. Ну, вучы, вучы, Віця.

— А вы ў нашы спальні зойдзеце?

— Абавязкова.

Марына Раманаўна адпусціла на кароткі перапынак, але амаль усе засталіся ў пакоі: запрашалі Веру ў свае спальні, у сталовую, у майстэрню, у ленінскі куток.

— Вы займайцеся, а мне ўсё пакажа Марына Раманаўна. Толькі ж сядзіце ціха.

Марыну Раманаўну яна часам сустракала на педсаветах, у настаўніцкай, але гаварыць даводзілася толькі па справах. Ведала, што жыве яна за ракою, кіламетры за два адсюль, у невялікай вёсачцы з назваю Барысаўшчына.

Цяпер яны прыгледзеліся адна да аднае бліжэй. Выхавацелька вадзіла Веру па доўгіх спальнях. Зайшлі ў сталовую. Там дзяжурылі дзяўчаткі ў халаціках і каўпачках. Пахла квашанаю капустаю і бульбаю. Марына Раманаўна расказвала, як цяжка працаваць з крыўдлівымі, часам упартымі і свавольнымі дзецьмі. Як іх шкада, як на шчырую ўвагу і ласку раскрываюцца іх душы, як часам дзеці цішком плачуць, успамінаючы бацькоў і родны дом.

— А вы, здаецца, родам з Беларусі? — нечакана спытала Марына Раманаўна і ўдакладніла: — Сцёпа Альхімовіч казаў, як вы заступіліся за яго беларускае вымаўленне. У нас у сяле ўсе так гавораць, а бабка мая рэжа толькі па-свойму. Перасяленцы ўсе з-пад Барысава. Яшчэ да імперыялістычнай вайны пераехалі.

Хоць я там ніколі і не была, але, выходзіць, мы зямлячкі.

Вера прыгарнулася да яе, абняла за плечы:

— Не толькі зямлячкі...— і не знайшла патрэбнага слова.— Сумна мне адной. З жанчынамі ў школе агульнага мала. У іх свае клопаты. А мы ж маладыя. І пасумаваць лягчэй удзвюх. Заходзьце да мяне.

— Лепш вы да нас збярыцеся. Старыя і песні даўнейшыя спяваюць, і казкі расказваюць пра нейкага смока, і стравы гатуюць не так, як тутэйшыя, ну, карэнныя сібіракі, ці, як часам завуць, чалдоны. Хоць я і сама чалдонка: нарадзілася тут, вырасла, і звекаваць, мабыць, прыйдзецца.

— Што ты,— вырвалася ў Веры,— прабачце, што вы...

— Правільна. Ты — прасцей. Мы ж амаль аднагодкі. Добра? — усміхнулася Марына,

— Ага. Я хацела сказаць, што ў жыцці яшчэ будзе столькі нечаканасцей, столькі дарог, што і не прысніцца. Хіба я калі думала трапіць сюды? А вось жыву, працую.

— І шкадуеш, вядома?

— Як сказаць!.. Пакуль што жывецца нялёгка, няўтульна. А каму цяпер легка? Да самага Падмаскоўя ўсё спалена, зруйнавана, адны коміны стаяць, галаву няма куды прыхінуць. А тут людзі добрыя, шчырыя, адкрытыя. Мая Трахімаўна як маці даглядае. А хто я ёй?

У расчыненыя вароты на добрым заінелым кані, у лёгкіх саначках ехаў мужчына ў доўгім чорным кажусе і пакіраваў да стайні.

— З райфінаддзела прадстаўнік,— кіўнула ў яго бок галавою Марына,— цяпер усім хопіць работы ператрасаць старызну. Ну, пайду,— і павяла Веру да брамкі. На развітанне спытала: — Дык прыйдзеш да мяне? Ну, хоць у нядзелю?..

Вера ішла ў школу агародамі па сцежцы, пратаптанай дзетдомаўскімі вучнямі. На душы было легка і добра, што бліжэй пазнаёмілася з мілаю дзяўчынай. Бачыла яе і раней, а сысціся неяк адразу не магла. Гаварылі ў настаўніцкай, на калідоры пра агульных вучняў, пра адзнакі, паводзіны, а пра сябе — ні слова. А тут адразу перайшлі на «ты». Вось і сяброўка будзе.

І зноў успомніўся Аляксей. Гэта ж ён параіў схадзіць у дзіцячы дом. Можа, цяпер не такая патрэба будзе ў ім? Калі што, Марына параіць, паможа. Але зноў захацелася ўбачыць яго абветраны твар, зазірнуць у добрыя стомленыя вочы, адчуць цеплыню яго шурпатых рук.

Да званка яшчэ было далека. Каля круглай, акаванай чорнаю бляхаю грубкі тэхнічка вязала маленькую панчошку. Цікаў гадзіннік, ад сонца і снегу ў настаўніцкай было асабліва светла. Яна ўпершыню здалася такою ўтульнаю і ціхаю. Вера прывыкла да старое сасновае канапы з выцертаю фарбаю, да чырвонага настольніка з чарнільнымі плямамі, што нагадвалі то Чорнае мора, то абрысы Афрыкі, то вялікага васьмінога. Вера перакінулася некалькімі словамі з цёткаю Мінадораю, паклала на завучаў столік план работы драмгуртка і ўзялася за сшыткі.

— Каму гэта вы ўляпілі двойку? — ад печы спытала Мінадора.— Распісвацца, дзякуй яму, Анатоль Паўлавіч навучыў. Кажа, школьнаму работніку няможна ў ведамасці крыжыкі стаўляць. А па руцэ пазнаваць, што каму ставяць, даўно налаўчылася. Праўда, як толькі

нанялася сюды, ніяк не разбірала на гэтым гадзінніку палачкі і крыжыкі. Ну і званіла як папала — то раней адпушчу, то пераседзяць. Цяпер ве-едаю,— устала, падаткнула пад хустачку прысоленыя сівізной валасы, паглядзела на гадзіннік, нешта пашаптала і пайшла званіць.

На калідоры затупалі, забегалі, загулі дзеці. У настаўніцкую дзяжурныя прыносілі табліцы, глобус. Вярталіся настаўнікі: з указкамі, журналамі, крэйдай, віталіся з Верай Рыгораўнай, толькі Наталля Іванаўна загаварыла з Соф'яй Міхайлаўнай і не заўважыла яе.

Анатоль Паўлавіч разгарнуў скрутак шпалераў і паказваў усім, як здорава Тартынскі намаляваў карту Кіеўскай Русі і надпісы зрабіў славянскімі літарамі.

— Канечне, дырэктара баіцца,— заныла Аўдоцця Мітрафанаўна,— а ў мяне ён усю дошку заляпіў папяровымі ашмёткамі. Толькі нахілішся над журналам — лясь, лясь. Падхопішся, а ён так сядзіць, што і не падумаеш. І ўсе яго абараияюць. Артыст. От каго ў дрг.змгурток трэба.

— Ён і будзе ў нас за мастака,— адказала Вера Рыгораўна і зірнула на завуча.

— Вы што, Вера Рыгораўна, мудрэй нічога прыдумаць не маглі? Трэба ж дадумацца ставіць нейкага «Змея Гарыныча»! Да свята трэба патрыятычная п'еса, рэвалюцыйныя, а тут на табе — змей.

— Гэта і ёсць патрыятычная. Дабро перамагае зло,— спакойна адказала Вера.— Пачытайце і пераканаецеся. А іншых п'ес пакуль што няма. Вось адзін зборнічак казак.— І яна паклала на стол тоненькую сінюю кніжачку.

— Вы дарэмна, Наталля Іванаўна,— умяшаўся дырэктар,— сапраўды, рэч патрыятычная. Адсек савецкі народ галаву фашысцкаму змею, а там, як яго, ну, гэты самы Кажамяка сілу рускую ўвасабляе. Толькі як вы, Вера Рыгораўна, усё гэта зробіце? Ну, змея скажам?

Вера адразу ажывілася:

— Калі вельмі захочам, зробім. Думаю, што атрымаецца. Сёння хачу правесці першую рэпетыцыю.

— Нельга! — адсекла Наталля Іванаўна.

— Чаму нельга?

— Субота. Лазні напальваюць. Пара было б ведаць.

Вера ўспомніла, што тут у суботу не праводзяцца ні сходы, ні пасяджэнні, нават у раскладзе меней урокаў. А з паўдня з кожнае лазні валіць густы дым, гаспадыні цягаюць ваду і дровы, здымаюць з гарышчаў венікі.

Пра лазню яна падумала з пакутаю і страхам. Але нідзе не дзенешся — Трахімаўна зацягне.

Празвінеў званок. Хутка прабягалі ўрокі. Веры ўсё не хапала часу — хацелася яшчэ нешта прачытаць, расказаць, шчыра пагаварыць з вучнямі. У суботу нават скарачаліся перапынкі — кожны спяшаўся. Толькі Веры не было куды бегчы. Яна знарок затрымалася ў класе і прыйшла ў настаўніцкую, калі там заставаўся адзін дырэктар. Ён з раніцы да ночы прападаў у школе: чытаў, пісаў планы, складаў справаздачы ў райана. Кватараваў ён і сталаваўся ў бабкі Марчыхі.

Доўга тая не хацела выносіць бажнічку з яго баковачкі: «Не замінае табе, Паўлавіч, і есці не просіць. Спрадвеку вісела, няхай сабе вісіць». Як ні тлумачыў, што дырэктару нягожа, каб над галавою віселі абразы, а яна сваё: «Не павуты, не з'ядуць. У мяне, вунь, і так цэлы кут. Гэтым і месца няма. А тут жа і Мікалайцудатворац і Ягоры Пабеданосец. Ха-а-рошыя багі! Пацярпі, прывыкнеш. За імі я і зёлкі трымаю — карэнні-марэнні, чаромхавую кару, рамонкі, маліну сушаную. Барані божа, каб спатрэбілася, а калі што якое — жывот хопіць ці ў грудзях часам закладзе — пап'еш, і як рукою здыме».

Не ўгаварыўшы бабку, Анатоль Паўлавіч завесіў бажнічку. Скасавурылася Марчыха, падцяла губы: «Запнуў-такі! А-я-я-й, і не грэх!»

На другі дзень перанесла абразы да сябе і паставіла ў куце на лаве. Анатоль Паўлавіч часта раеказваў, як «перамог» бабку, і смяяўся.

Цяпер ён нешта дапісаў, прайшоўся па настаўніцкай.

— Вы не вельмі перажывайце, Вера Рыгораўна. Я вось толькі думаю, як вы справіцеся з касцюмамі і дэкарацыямі. У нас жа нічога няма. Хацелася б хоць прыблізна нешта людскае зрабіць. Можа, варта папрасіць нашага заўхоза. Ну, Аляксея Іванавіча. Ён чалавек бывалы, у горадзе жыў, многае ўмее.

— Праўда, папрасіце, Анатоль Паўлавіч.

Выйшаўшы са школы, Вера азірнулася. На замёрзлых шыбах асветленага акна калыхаўся схілены цень дырэктара.

А сяло прапахла лазневым духам: цягнула адсырэлым дымам і распаранымі венікамі. У сутонні відно было, як з нізенькай лазні выскоквалі босыя, у адных сподніках, распараныя мужчыны і, не спяшаючыся, ішлі па хрусткім міезе. У Аляксеевым двары ў прыліплай да цела доўгай кашулі, з распушчанымі падшэрхлымі валасамі Ленка спакойна перабірала навіны з суседкаю, якую запыніла па дарозе да студні. Ад такога відовішча Веру навылёт праціналі дрыжыкі: у боціках і лёгкім гарадскім паліто і так ніколі не было горача.

За сцяною стагнала і крактала распараная Трахімаўна. Пачуўшы, як бразнулі дзверы, гукнула:

— Ідзі, Верачка, парыцца. Газнічка на акне, і вады поўненькая балея. Калі горача, можаш прачыніць дзверы. Ага, там жа табе абноўку прынеслі. Памерай. Ну, змей, і адпаяў жа Архіп. Ідзі, ідзі. О-ох, і ўхвасталася — усе костачкі заходзяцца.

— Дзякуй, Трахімаўна. Схаджу.— І ўбачыла каля ложка новенькія зграбненькія валёначкі, з абцасікамі і шчыгульнымі кірпатымі наскамі. Яны пахлі прыпаленай воўнай, а гладкія, абсмаленыя, каб не калмацілася поўсць, халяўкі аж рыпелі. Падняла валёначкі і разгубілася: «Гэта ўжо занадта! Не, аддам назад! Вось чаму ён пытаў пра памер абутку!.. Узяць — значыць, быць нечым абавязанай, залежнай. Не, не, не вазьму». Але валёначкі былі такія лёгенькія і прыгожыя, такія неабходныя ёй, што закарцела памераць, а калі адчула ўтульную цеплыню, не захацелася здымаць.

Яна прайшлася па пакоі, паставіла на падлозе люстэрка і пакруцілася перад ім. Нават прыгожа! «Ну, што ж, заплачу колькі трэба і буду насіць. Ён проста паклапаціўся, каб не мерзла, і заказаў свайму гаспадару-пімакату напавер. Што тут, нарэшце, такога? Звычайная людская ўвага».

Веры было прыемна ад гэтай увагі, як і кожнаму, хто адчуе клопат пра сябе. І зноў захацелася ўбачыць Аляксея, але ведала, што ён сёння не прыйдзе. У «лазневыя» дні звычайна чужыя не хадзілі да суседзяў, бо з парнага пекла выскоквалі ў адных кашулях, пілі чай і астывалі неапранутыя. А Трахімаўна хвасталася так, што ледзьве ўпаўзала ў хату, клалася на кашму пасярод падлогі, стагнала і вохкала ад задавальнення, пакуль не засынала.

Хоць і страшна было лезці ў напаленае да трэску і шыпення пекла, Вера распранулася, накінула паліто, узаткнула на босыя ногі халодныя боты і пайшла ў лазню. Перад дзвярыма стаяла некалькі жэрдак, прыкіданых бульбоўнікам. За імі распраналіся і сігалі ў гарачы сухі дух з рэзкім пахам дыму і напаленага да чырвані жалеззя. Пры трапяткім святле газнічкі Вера адважылася ўзлезці на палок і асцярожна пахвастацца духмяным бярозавым венікам. Прыемна ныла і казытала цела, гарэлі вушы і рукі, адчувалася лёгкасць шчымлівай стомы, тоненькія малаточкі звінелі ў скронях. Хацелася папялёхкацца ў вадзе, але яе было мала. Сібіракі ў асноўным парыліся і ў канцы абліваліся адным-двума карцамі вады, а то выскоквалі, качаліся ў сумёце і зноў лезлі на палок.

Пасля лазні на палавіне Трахімаўны Вера піла завараны маліннікам чай. Хімка худою, падобнаю на вароніну лапу, рукою трымала вялікі сподак, дзьмухала і шумна сёрбала. У яе абліччы было нешта птушынае: доўгі сухі нос звісаў у сподак, тонкія губы выцягваліся

дзюбкаю, а потым распаўзаліся вузкаю шчылінаю. Яна часцей маўчала, а ў глыбока запалых вачах жыла свая неадольная думка, мабыць, туга па даўно страчанай маладосці, адчуванне адзіноты, без радасцей, без ласкі і ўцех. Вера заўсёды шкадавала яе, была ўважлівая і далікатная, спрабавала разгаварыцца, але чула толькі кароткія адказы: «Ага», «Не», «І так добра». Хімка з нейкай зайздрасцю пазірала на Веру, на яе прыгожую маладосць.

Трахімаўна астывала на кашме і з вялікай глінянай міскі сёрбала чай. Падзьмула, адставіла:

— Гарачы, змей!.. Хадзейственнік улягае за табою. Ні разу не прайшоў, каб не зіркнуць на вокны. Я-то ба-а-ачу! А пімы так ці за грошы прынёс? Ты бяры. Не збяднее. Грошай у яго мех і на кніжцы яшчэ дзержыць. 1м з Усцігавым у лазарэце багата далі. А купляць не вельмі што купіш. Куды яму тыя соценныя?

Вера яшчэ больш залілаея чырванню, але на адкрытасць праста-душнай Трахімаўны нельга было крыўдаваць. Яна заўсёды гаварыла, што думае.

— Не, я заказвала гаспадару Аляксея Іванавіча і прасіла прынесці, як толькі зробіць,— схлусіла Вера і адразу спахапілася, што цяпер, хоць бы і хацела,— назад не вернеш. А Трахімаўна — сваё:

— Чаго ж? Мужык відны, і совесны, і рабацяшчы. Чым не пара? А то даперабіраешся да сівых валасоў, як мая,— яна дакорліва кіўнула на Хімку.— Цяпер бы рада хоць за казла, а бы дома не была, а той рыла верне ды на ярачку аблізваецца. Мая нявеста як сядзела, так і сядзіць. А ззамаладу — дзе там, і яна хвастом круціла: «Таго не ха-ачу, за гэтага не пайду!» Даперабіралася. Хоць бы які зносак, абы ў штанах. Глядзіш, дроў навазіў бы, сена агораў, па карку, дурніцу, натоўк бы — усё лягчэй жылося б.

Хімка маўчала, нібы і не пра яе гаворка, толькі зласней студзіла чай, аж пырскі разляталіся, і чмыхала носам. Вера крадком зірнула на яе твар, валасы, на жылаватую шыю, доўгія рукі, і зрабілася так шкада гэтую спрацаваную і пакорлівую жанчыну, што, не расцвіўшы, завяла. Відаць, маці не раз дакарала, і яна наперад ведала, што тая скажа.

— Ат, няма пра што гаварыць. Трэба мне тыя мужыкі, як у мосце дзірка. Хоць спакойна жыву, а то цягала б якога п'янчугу з-пад плота, ды яшчэ сінякі насіла б,— адгрызнулася Хімка.

— Дурная насіла б, а разумная любога мужыка зацуглянага водзіць. Цяперашнім часам на дзесяць баб добра калі адзін калека застаўся. Колькі іх, бедных, перабілі! Страх! Можа, тысячы тысяч. За вайну дзеўкі, як ласіцы, разгадаваліся. А да каго прыхінуцца? Так

што, Верачка, не круці носам, бо і такога не дастапецца. Не думай — старая абы-што вярзе. Я-то ведаю: трэцюю вайну перагаравала.

— Ай, што вы, Трахімаўна! Я і не думаю пра гэта,— азвалася Вера.

— А ты думай. Думай, дзеўка, каб позна не было. Лазню ты хоць добра зачыніла? Пойдзеш, калком прыпры, каб вецер не расчыніў. Буран будзе: сабакі звечара качаліся.

Вера ўзрадавалася, што кончылася непрыемная размова, падзякавала і пайшла ў свой пакой.

На вуліцы сапраўды мяло. Паўзлі белыя змеі пазёмкі, з даху вецер сыкаў доўгімі языкамі снегу. Месяц, засланы хмарамі і снежнаю крутаверцю, здаваўся мурзатым і шэрым. У прамыінах воблакаў сямтам мільгалі і зноў хаваліся зоры. Па пустой вуліцы з гулам ляцелі слупы белага пылу. Недзе бразгала пустое вядро і нехаця, лена брахаў сабака. Усё было ў калэ-мутным хісткім святле: яно то яснела, то цьмела зноў.

А ў пакоі чыста і цёпла, ён пачынаў здавацца сваім і ўтульным. Спаць яшчэ не хацелася, але пасля лазні і чаю па ўсёй істоце разлілася прыемная млосць, хацелася легчы, укрыцца і слухаць за вокнамі гул завірухі і трымценне незакітаванай шыбы.

Вера да ложка прыставіла тумбачку з лямпай, легла і разгарнула томік Пушкіна. Многія раздзелы з «Анегіна» ведала на памяць, але калі находзіў летуценны настрой, адгортвала на любой старонцы і чытала, нібы сабе самой спявала натхнёную песню, зноў сустракалася з даўнімі знаёмымі і наперад ведала, што яны скажуць. Хто ў яе ўзросце не марыў пра чыстае і ўзнёслае каханне Таццяны, хто не пакутаваў яе пакутамі? І тут жа ўспомніла Аляксея. Яна яшчэ ў душы папракала яго за нечаканы клопат, што ставіў яе ў залежнаець, да нечага абавязваў, і было прыемна, што ён дбае і думае пра яе.

Вера павярнулася тварам на падушку, падбародкам абаперлася на разгорнутую кнігу і ўтаропілася ў акно. Знізу абмёрзлыя шыбіны замяло снегам, а ў чыстым зубчастым куточку мігцела вялікая сіняя зорка. Мабыць, Венера?..

Раніцаю завіруха аціхла, наўкол на сонцы іскрыўся чысты пульхны снег. Куды ж дзець выхадны дзень? Хацелася доўга ісці па заснежаных прасторах, дыхаючы празрыстым колкім паветрам, або прамчацца ў санках па наслізганай дарозе. Вера прымерала сваю абноўку, але зняла: пакуль не заплочана, яна нібыта не твая, а ў ботах далека не пройдзеш.

Яна наважылася схадзіць у Барысаўшчыну, зайсці да Марыны, а з ёю наведаць некалькі сваіх вучняў. У плане выхаваўчай работы гэта запісана, значыць, трэба выконваць.

Каторы раз лавіла сябе Вера, што часам сама з сабою вядзе дыпламатычную гульню: кожнае жаданне спрабуе разумна апраўдаць і пераканаць сябе ў неабходнасці нейкага ўчынку, хоць і ведала, што жаданне ўзнікла нечакана, а яна апраўдвалася і трошачкі хлусіла сама сабе.

І цяпер ёй хацелася сустрэць Аляксея, папракнуць, потым падзякаваць за клопат і, галоўнае, разлічыцца, каб не адчуваць сябе віннай. А за што папракаць? Сама ж сказала памер абутку і падсвядома спадзявалася, што дастане ёй пімы. Але так хутка і такіх прыгожых не чакала.

А чаму б проста не зайсці і не разлічыцца? Не-е, каб хто другі, так бы і зрабіла, а тут Аляксей... Убачыш яго, і затахкае сэрца. Чаму? Можа, сапраўды лес зводзіць людзей? Розумам працівілася, а сэрца цягнулася да яго.

Рыпнулі ўсходцы. Стук у дзверы перапыніў яе думкі. Ведала, што Трахімаўна і Хімка ніколі не стукаюцца, і адказала не адразу.

На парозе стаяў Аляксей, ружовы, чыста паголены, з беленькім падкаўнерыкам, у зграбным кароткім кажушку, загаварыў проста і натуральна:

— Не застаў вас учора і пакінуў, каб памералі, пімы. Архіп Кузьміч скатаў прадаўшчыцы, а ёй у халяўках цеснаваты. Можа, думаю, вам падыдуць. Мералі?

— Аляксей Іванавіч, ну навошта вы? Мне проста няёмка.

— Дык добра ці не?

— Яшчэ як добра, але...

— Калі добра, дык якое можа быць але? Абувайце і насіце, бо ў вашых боціках толькі гуляць па асфальце.

— Скажыце, колькі я вам вінна?

— Мне нічога. За дастаўку не бяру,— пажартаваў Аляксей.— А Кузьмічу аддасцё, як будуць вольныя грошы. Абуйце, калі ласка, хоць паглядзець, як выглядае абноўка.

Вера паслухмяна абула пімікі і прайшлася ў іх па пакоі.

— Ну, віншую. Цяпер сапраўдная сібірачка. Можаце спакойна зімаваць.

Вера сказала, што збіраецца ў Барысаўшчыну да сваіх вучняў і Марыны Раманаўны.

— Слаўная дзяўчына. Сціплая, разумная... і прыгожая... Прыгожым чалавека робіць добрая душа. Яна свеціцца ў вачах, у кожнай рысе твару. Між іншым, таксама з нашых землячак, хоць і ніколі не была ў Беларусь Там ёсць вельмі цікавыя людзі — першыя хадакі, можна сказаць, Калумбы гэтых мясцін.

— Калі ж мы пачнём рыхтаваць нашу прэм'еру?

— Заўтра пачынайце рэпетыцыі, а я буду думаць, як аформіць.— І ўсміхнуўся: — Вы — рэжысёр, я — дэкаратар. Нешта зробім. Дарогу хоць вы ведаеце?.. Выйдзеце за сяло і нікуды не зварочвайце, бо можаце выйсці да стагоў. Сёння ўсе рынуліся па сена. Міняце хмызняк пяройдзеце мост цераз Тару, за ім на ўзгорку і Барысаўшчына. Справа Марыніна трэцяя хата.

— Вы ведаеце нават, хто дзе жыве.

— Не першы дзень тут. І партызанская прывычка засталася ўсё прыкмячаць і запамінаць.

— Пра партызаншчыну я так нічога і не ведаю. Раскажаце? Добра?

— Як-небудзь другім разам. Ну, шчасліва. Апранайцеся толькі цяплей.

Вера падала яму руку і накрыла другою далонню, ласкава зірнула ў вочы:

— Вялікае вам дзякуй.

— За што? — здзівіўся Аляксей.

— За клопат, за ўвагу, за дабрату вашу.

— Пра каго ж мне клапаціцца? Ведаеце, у кожнага чалавека ёсць патрэба пра некага дбаць...

— Толькі таму? — вырвалася ў Веры. Яна спахапілася і пачырванела.

— Думайце як хочаце.

Ён пагладзіў Верыну руку і выйшаў з хаты.

Праз шчылінку ў замеценым акне яна доўга глядзела ўелед. Ад сонечных промняў ільдзінкі пераліваліся аранжавымі, чырвонымі, сінімі іскрынкамі — здавалася, Аляксей ідзе ў вясёлкавым святле па ружовым зіхатлівым снезе. І самой захацелася ісці, ісці па мяккай сцежцы, слухаць цішыню празрыстага дня і дыхаць снежным пылам, што асыпаўся з кустоў і прысадаў.

Яна ішла не спяшаючыся па доўгай селавой вуліцы, адглянцаванай палазамі і прыцярушанай пахкім мурагом. У гародчыках на каноплінах гойдаліся чырванагрудыя гілі, па снезе скакалі даўгахвостыя сарокі, патыхала дымком, над комінамі гайдаліся ружовыя слупкі і раставалі ў халодным сінім небе.

За парканам дзіцячага дома чуліся смех і вясёлыя галасы. Хлапчукі адкідалі снег, дзяўчаткі размяталі сцежкі. Дзеці заўважылі яе:

— Вера Рыгораўна, заходзьце да нас!

— Вера Рыгораўна, ну, калі ласка! — наперабой крычалі хлопчыкі і дзяўчаткі, а маленькая Яня прасунула смуглявы тварык паміж штакецін:

— Цёця, чаму вы Сцёпку паставілі тро-ойку?

— Бо нарабіў, Янечка, памылак.

— Ён не паспеў праверыць і зноў «каня» не так напісаў,— апраўдвала брата Яня і рассмяшыла Веру.

З варот на маладым буланым жарабку, у лёгкіх санчках выехаў дырэктар дзіцячага дома.

— Вы да нас, Вера Рыгораўна? Ведаю, што прыходзілі, але я быў заняты з інспектарам райфа. А так трэба было пагаварыць.

— Не, Васіль Сцяпанавіч. Хачу ехадзіць у Барысаўшчыну да сваіх вучняў.

— Тады прашу, сядайце. І я ў той бок.— Ён пасунуўся на сядзенні, накрытым старою коўдраю, нацягнуў Веры і сабе на. калені сабачую даху, тузануў лейцы. Конь бліснуў сінім вокам і памчаўся, шпурляючы ў перадок тугія камякі снегу.

Васіль Сцяпанавіч нечым нагадваў Макаранку: выразныя задуменныя вочы за шкельцамі акуляраў, гімнасцёрка з высокім стаячым каўняром, падпяразаная шырокаю папругаю, падцягнуты, скупы на слова. «А можа, ён знарок апранаецца і трымаецца «пад Макаранку»?» — падумала Вера.

— Усё хацеў у вас запытаць, чаму ніколі не скардзіцеся на нашых дзяцей.

— Няма за што,— адказала Вера і, памаўчаўшы, дадала: — Калісьці я заўпарцілася і ледзь не давяла настаўніцу да слёз. Разумею, што была вінаватая, а скарыцца не магла. Пакутавала сама, хацела папрасіць прабачэння, але не дазваляў дурны гонар. Назаўтра яна выклікала бацьку і нагаварыла, што было і чаго не было. Ну, ён, вядома, узяўся мяне па-свойму выхоўваць. На яго я не крыўдзілася, а настаўніцу ніколі больш не паважала. Не за тое, што бацькаваю рукою карала, а за слабасць. Скардзяцца толькі слабыя, няздольныя самі падзейнічаць на дзіця, зразумець яго, у самым маленькім паважаць чалавека, яго характар.

— Гэта новыя, цікавыя разважанні,— крутнуў галавою Васіль Сцяпанавіч.— А ў нас як што якое — адразу бягуць да мяне і бэсцяць гэтае беднае дзіцяня. Трэба рэагаваць. Нічога не зробіш. Угаворваеш, уздзейнічае калектыў, а іншыя бацькі яшчэ сваіх дзяцей папружкаю «выхоўваюць».

— Разважанні мае старыя, як свет, але ў запале мы пра іх забываемся, спрабуем паднящь свой аўтарытэт і трацім яго канчаткова. Калі дзеці баяцца нас — значыць, не паважаюць.

— Вас яны паважаюць і любяць.

— Пакуль няма за што. Я ж толькі другі месяц працую і стараюся ўсе канфлікты ўладжваць сама. Клас — гэта вялікая сям'я, а ў сям'і смецце за парог не выносяць.

Яны памаўчалі. Вера жмурылася ад сонца і іскрыстага снегу, ад лёгкага ветрыку, што біў у твар. Мільгалі заінелыя кусты, вывернутыя карчы здаваліся казачнымі белабародымі дзядамі ў стаўбунаватых шапках. За кустамі паказаўся доўгі драўляны мост з абвіслымі парэнчамі, рыплівым і дрогкім насцілам. Конь заківаў галавой і пайшоў павальней, грыва і поўсць на крыжы ўкрыліся марознаю сівізною, пасівелі бровы і ў Васіля Сцяпанавіча.

— Да каго вас падвезці?

— Спачатку зайду да Марыны Раманаўны. Яна пакажа., дзе хто жыве.

— Вунь яе трэцяя хата.— Васіль Сцяпанавіч крута павярнуў каня ўправа.— А мне яшчэ кіламетраў дваццаць ехаць. Даклад у Мядзведжанцы рабіць. Вы абавязкова заходзьце да нас. І часцей з добрымі весткамі. Яны важней за скаргі.

— Дзякуй. Буду заходзіць. Шчаслівай дарогі, Васіль Сцяпанавіч.

Дырэктар хвастануў каня ляйчынай, і толькі пыл закурэў з-пад палазоў.

У Барысаўшчыне не было земляных стрэх — усе хаты як званы, з тоўстага кругляка, пракідаліся і з чэсанага бруса, зрубленыя ў так званы нямецкі вугал, з маляванымі аканіцамі, з лавачкамі і гародчыкамі ад вуліцы. Яны нагадвалі знаёмыя з маленства сёлы на Гомельшчыне, з рыпучымі жураўлямі пры студнях, з прысадамі абапал дарогі. У іншых сібірскіх сёлах часам не было ані дрэўца. «А навошта яны? — здзіўлялася тая ж Трахімаўна.— Кругом урман, і так ад камароў і павутоў не адбіцца. Калі якая дзеравіна самасеем і вырасце — ссякуць, каб заядзь не заводзілася». А тут раслі галінастыя бярозы і стромкія рабіны — мабыць, як некалі там, дома.

І пад акном невялікай хаты Марыны Раманаўны на заледзянелым голлі невялічкай рабінкі пырхалі, узляталі, цвінькалі і садзіліся зноў шустрыя, з чырвонымі грудкамі, гілі. Марына ў матчынай безрукаўцы і галёшах на босую нагу выскачыла на ганак еустракаць.

— Я ўжо і не спадзявалася, што прыйдзеш. От малайчына! Дзе гэта цябе Васіль Сцяпанавіч падхапіў?

— Дзеці мяне запынілі каля вашага дома, а ён якраз з варот выязджаў і прапанаваў падвезці.

— Заходзь у хату. Ого, якія ў цябе пімікі. Відаць — Кузьмічова работа?

— Ага.— Вера ўзялася дзеркачом абмятаць валёнкі.

Хата, перабітая дошкамі на дзве палавіны, дыхнула цяплом і нечым вельмі знаёмым. Ложак за печчу засланы недзе даўно бачанаю посцілкаю, кужэльны ручнік, вышываны чырвонымі і чорнымі ніткамі, печ з ямкаю для запалак і люстэркам, умазаным над чалом, нагадвалі далёкае і роднае.

Марыніна маці, невысокая, з прыкметамі нядаўняй прыгажосці, пры акне латала зрэбны мех. А загаварыла зусім так, як і Вера гаварыла ў маленстве. Адарвалася ад работы, выцерла фартухом табурэцік і запрасіла садзіцца.

— Скідайце пімы, няхай пагрэюцца на прыпечку,— і падала Веры атопкі, адрэзаныя ад старых валёнак.—Марынка мне казала, што новая настаўніца недзе з нашага боку прыехала. Дык гэта вы і ёсць? Далека ж вас, дзеткі, заслалі. Хоць яно цяпер па зялезнай дарозе, можа, не так і далека, а даўней колькі месяцаў дабіраліся. Тата, га, тата, колькі вы першы раз сюды ехалі?

На печы зашамацела сухая лучына, звесіў босыя ногі, а потым ускудлачаную галаву дзябёлы чырванашчокі дзед з сівой барадою.

— Звіняйце, барышня, прыдрамаў на чаране, застыў, халера, трохі з раніцы,— заракатаў густым басам дзед і спрытна шуснуў з печы.

— Ат, няма чаго рабіць, дык лісіц пасе па лесе,— без злосці ўпікнула Марыніна маці.— Пытаюся, колькі вы ехалі тады?

— Чуў, дачушка, чуў...— Выцягнуў з кішэні круглую бляшаную баначку, учэпістымі карычневымі пальцам! скруціў доўгую цыгару з карэньчыкаў самасаду. Зацягнуўся, папыхкаў.— Ехаў, ехаў сабе і людзям на пацеху. Што і казаць? Хіба цяпер так ездзяць, як даўней? Лёг сабе ў вагоне пан панам, а цябе вязуць — цёпла, добра і мухі не ядуць. А мы на сваіх дваіх дабіраліся. Недарма хадакамі звалі. І праўда, хадакі. Ох, і нахадзіліся. Чаму б і не? Малады быў, рэзвы, не раўнуючы, стаеннік. Праўда, ад дабра дабра не шукалі. Гора вяло, бяда паганяла. Адных у ланцугах гналі, другія самі ішлі. Маразамі, не раўнуючы, як мухі, сыпаліся... А выехаў, каб не схлусіць, адразу пасля вялікадня. У Камянцы ў нас пяскі сыпучыя. Свірэпа толькі і радзіла, а жыць жа неяк трэба было. От і надумаў у Сібір падацца. Многія тады з месца зрываліся...— Дзед пасмактаў дыгарку, пусціў клубы пякучага дыму.

— Ой, гэтай гавэнды да вечара хопіць. Мoжа б, свежых дранічкаў перакусілі? — кінулася да прыпечка Марыніна маці.

Вера аднеквалася, дзякавала, але на стале з'явіўся макотрык румяных, залітых тукам дранікаў. Яны так пахлі, што ўпінацца ніяк не выходзіла.

— Ешце, ешце на здароўе, а я дагавару. Ага, паехаў і я шчасця шукаць. Бацька, царства яму нябеснае, сальніку кабанчыка прадаў, даў мне нейкую злыбеду на дарогу і выправіў з богам. Ехаў дзе бокам, дзе скокам, дзе падвязухць, дзе падбягу. Аж на тройцу да Шадрынска прыбіўся. За душэго ані шэлега. Прыйшлося да самастаяцельнага хадзяіна наймацца, каб хоць трохі акрыяць. Паробіш трохі — і далей, і далей. Я і ў Краснаярскім быў. Дзе мяне нячыстая сіла не насіла? Толькі на другі год прыбіўся ў Дарафееўку. Цяпер Тарскам завуць, а даўней — Дарафееўка. Дарафей тут быў, купец пярвейшы. Кедрач па Тары сплаўляў, баркі свае ганяў, пшаніцу і масла дзежкамі вывозіў. Даўней сібірскае масла на ўвесь свет славілася. Ён і гроб аберуч. Але, казалі, апіўся, У самы траскунываліўся з кашавы і, не тут казана, карчом трухлявым замёрз. А пры мне ўжо сын яго ўсім правіў. Пракоп. Ой, порсткі ды круты мужык быў, не давядзі гасподзь. Зіркне цыганскім вокам — умлееш. А кругом — урман і ўрман. І цяпер яму канца-краю няма, а тады — уга, кедрач да самае Тары як звон стаяў. Пракоп той наставіў заімак у тайзе, сяліў у іх такіх хадакоў, як я, харчы даваў, пілы, сякеры і стрэльбу. Валіце, карчуйце і біце дзічыну. Што раскарчуеш — дзве часці яму, трэцюю сабе. А маразы-маразы тады стаялі! Не-е, цяперашнія не дакажуць! Бывала, плюнеш — лядыш падае, вароны на ляту замярзалі. Цяпер што? Хіба гэта маразы? От тады, праўда, Сібір была! Людзей унь колькі — дыхаюць, печы паляць. Яно і цяплей,— сказаў і хітра прыжмурыўся.

Колькі разоў Марына памыкалася перапыніць дзеда, а той ад недакурка прыпальваў новую цыгарку і толькі махаў рукою:

— Маладая. Няхай паслухае, як колісь было. Не зашкодзіць. Каб граматнейшы быў, апісаў бы ўсё чыста, хай бы людзі ведалі, як жылося ды былося. Але дзе там — цемната. Можа, таварыш настаўніца калі апіша: так і так, дзед Максім Слюсарэвіч пераказваў, родам з дзярэўні Камянкі Барысаўскага павета Мінскай губерні — сібірскі парцізан. Пры самым Крывашчокаве састаяў. Ага. Не перабівай, унучка, а ты еш, дзетка, і слухай, адно другому не зашкодзіць... Ага, дык гэты Пракоп, каб яму пуста было, Дарафеевіч, мудрэй за бандзіта вычвараў. Пластаюцца на карчах тыя хадакі-гарэтнікі, цярэбяць-цярэбяць, барану на сабе цягаюць, а як уробяць зямельку — падпаўзе, аспід, затоіцца ў карчэўі, падцікуе, лясь, лясь з дубальтоўкі — па

жакану загоніць паміж лапатак, і бывай здароў, памінай як звалі. На валакушы зацягне ў вываратнік і кіне мядзведзям разгаўляцца. Уласці тут ніякае не было. Ураднік ці станавы з Кайнскага раз у пяць гадоў наязджалі. Залье ім Пракоп зіркалы спірытусам, сабаліных шкурак, як сушаных грыбоў, на шыю наніжа і сам у горад завязе. А былі людзі ці не, ніхто ні сном ні духам не ведае. Спытаюць, бывала, у самога, ці былі хадакі. «Была, была, кажа, гультаеча. Абпілі, аб'елі, па два карчы выдралі і пабеглі недзе лёгкага хлеба шукаць». А сам арэ ды пшанічку грабе з гэтых лядаў. Так яно было, дзеткі.

Ага, прачуў я, што на чалавекаў палюе, гад, ды ходу. Куды пойдзеш? Спераду ўрман, і ззаду ўрман, злева і справа ўрман. Адважыўся, пайшоў прадзірацца па вываратах ды ламаччы. Добра, што ўдвух былі. З-пад Вязьмы от такі мужычок, але страх які вёрткі і ў рабоце едкі. А совесны, прасці госпадзі цяжкі грэх, сам Хрыстос не дакажа. Удвух яно весялей і спадручней. Пабралі сякеры з піламі, запас, які быў, і падаліся. Па-а-бдзіраліся — адны, шануючы вас, транты матляюцца. Дзень ідзём, а нанач вогнішча распалім. Адзін спіць, другі з сякераю — напагатове. Мядзведзі, ваўкі, рысі так і шастаюць, так і шастаюць. На рачулку набрылі. Давай берагам пойдзем. Пайшлі. Яна нас на дарогу вывела. На масток узбіліся. Бачым, сяло недалёчка. А як зайсці? Чыстыя варнакі, і сораму няма чым прыкрыць. Далібог, лапухамі абапнуліся, але ў сяло не пайшлі, на задах паселі, чакаем, мо хто падыдзе. Аж бачым, парсюка пераймае от такенечкі хлопчык. Убачыў і аслупянеў, хацеў назад лупянуць. А мой дружок, царства нябеснае, Юстын, можа, ведаеце ўнука яго — пабіты, патрушчаны на вайне, Міша Усцігаў, у першай хаце ад школы жыве...

Вера кіўнула галавой, сказала, што ведае і яго і Параньку.

— Ага, ага! Дык дзед гэтага самага Мішы пачаў хрысціцца і бажыцца, што і пальцам не кранём. Адважыўся-такі, падышоў той хлопчык, але не вельмі блізка. Юстын і пытаецца, як сяло завецца. «Біяза»,— кажа. «Кіргізскае ці татарскае?» — «Ёсць, кажа, усякія, а больш рускія».

Потым мы ўжо асвойталіся з людзьмі, на маслабойні ў купца Гальцова трохі парабілі. Гэта яго хата, дзе сельсавет цяпер, а самога, як Саветы прыйшлі, за балота справадзілі.

Нараілі нам добрыя людзі — за Тару падаліся, заімку скідалі, пралысіну дзесяціны на тры знайшлі, прыкарчавалі, на каняку аднавокую ўзбіліся, разжывацца пачалі. А зямля тут: яйка кінь — певень выскачыць. Сваім прапісалі: так і так, прыязджайце. Ну, і паехалі. Больш за паў-Каменкі рушыла. Да самае тае, мікалаеўскае,

вайны ехалі. Лесу колькі хочаш: валі, будуйся. Цяпер онь якое сяло вымахала. А ты пытается, колькі ехаў. Вы ці даўно з нашага краю?

— У вайну звакуіравалася,— адказала Вера.

— Пісалі, сільна выкаціў немец Беларусь. І людзей палягло — не давядзі гасподзь...

Вера падзякавала, што ён расказаў такую цікавую гісторыю.

— Гэта што! Пятае цераз дзесятае. Яны,— з папрокам зірнуў на жанчын,— усё маргалі ды ківалі. Калі збольшага расказваць, дня і ночы будзе мала.

— Задурыў вам стары галаву. Можа б, малачка яшчэ выпілі? — спыталася Марыніна маці.

Вера падзякавала і пачала збірацца. Стары ўзаткнуў валёнкі, накінуў кажушок, і праз якую хвіліну на дрывотні зазвінела сякера, загрукалі дровы.

Вера з Марынаю заходзілі ў хаты да вучняў. Скрозь ёй былі рады, частавалі, упрошвалі пасядзець. Адны скардзіліся на сваіх неслухаў, другія хвалілі старанных сыноў і дачушак, распытвалі, як яны там у школе, гразіліся маўклівым і збянтэжаным хлапчукам: «Ты ж глядзі, каб слухаўся! А вы ўжо, калі што якое, мне накажыце, а я рады дам. Шоўкавы будзе».

Вера супакойвала мацярок і разумела, як цяжка, калі не хапае газы, сшыткаў і падручнікаў, а ў вучняў няма свайго століка ці хоць бы сталага куточка. Таму сшыткі часта ў бульбе і ў сале, скрэмзаныя малодшымі дзецьмі.

У кожнай хаце патыхала нечым знаёмым і родным з маленства — посцілкі, ручнікі, абрусы з прошвамі і карункамі, просціны з падзорамі, печы з прыпечкамі і ямкамі — акурат такія, як заломніліся здаўна. І гаворка, пявучая, як ручаінка, вобразная і дасціпная. Слухаеш — і забываецца, што далека ад родных мясцін. Веру захапіла моўная плынь, і яна не заўважыла, як сама загаварыла па-беларуску.

Гэта здзіўляла барысаўшчанскіх жанчын, і яны расцвіталі светлымі ўсмешкамі:

— Ого, дык і вы па-нашаму мажэце. Ці не з нашае стараны? Усе селавыя ў нас так гаворваць. Многія і не бачылі тае Беларусі, а ўсё адно ад дзядоў ды ад бабак навучыліся, і ніяк іх не перакруціш.

Маці Колі Бароўскага, дзябёлая прыгожая маладзіца, вядомая ў раёие даярка, расказвала, што некалі іх тут і ў школе вучылі па-беларуску. Гады са тры настаўніца была з Мінска, маладзенькая ды прыгожая, Зінай звалі, а як па бацьку, і забылася.

— Коля, пашукай, сынок, тую кніжку, што па-нашаму пісана,— звярнулася яна да сына.

Коля з палічкі, на якой некалі стаялі абразы, дастаў зашмальцаваную, з адбіткамі пальцаў усяго сяла, з падпалінамі ад самакрутак «Біблію» Кандрата Крапівы.

— Ой і смешная ж кніжка, бакі парвеш, і ўсё пра багоў. Як начыталася, абразы яшчэ да вайны на вышкі пазакідала.

Вера гартала кніжку, чытала асобныя старонкі, і ўсе весела смяяліся. Асабліва Марына. Яна прызналася, што такую «Біблію» бачыць упершыню.

— Калі ўсе чыталі, ты ў лялькі яшчэ гуляла, а ў вайну не да смеху было.

Да надвячорка хадзілі з хаты ў хату Вера з Марынаю. І наслухаліся, і нагаварыліся. Цяпер Вера ведала не толька вучняў, ведала бацькоў і матак, як хто жыве, што ў каго ёсць, а чаго няма, чаму адным лягчэй, а другім цяжэй вучыцца, напісала ўдовам некалькі заяў на пенсію.

Калі на захадзе неба налілося барвова-малінавай чырванню і абапал сонца сталі дымныя, з вясёлкавымі пералівамі слупы, Вера не магла адарвацца ад ніколі не бачанага дзіва.

— На вялікі мароз,— сказала Марына.— Ну, цяпер заначуеш у мяне.

Яны вячэралі ў цёплай утульнай хаце. Дзед Максім расказваў даўнейшыя байкі. На прыпечку на трынозе сквірчэла яечня, елі чырвоныя скрылёчкі ўвэнджанай вяндліны і ружовага сала.

Пасля вячэры дзяўчаты перайшлі на другую палавіну. Пры лямпе на кухні ўпраўлялася маці, а яны запалілі грубку і паселі каля яе ў паўзмроку вялікага чыстага пакоя з лапушыстым фікусам у кадоўбчыку, нікеляваным ложкам з гарою падушак у прошвах і вышыўках.

Марына расказвала, як у вайну вучылася ў педтэхнікуме невялічкага гарадка, як дадому хадзіла ў старых чырочках аж за восемдзесят кіламетраў. І пра дзіцячы дом расказвала, як там бывае цяжка, але як яна любіць і шкадуе сірот, і самі яны, нібы тыя каршучаняты, адно за аднаго заступаюцца. І Васіля Сцяпанавіча ўспомніла.

— Гэта ён здаецца суровым і сухаватым, а душа до-о-обрая,— прашаптала Марына.— Відаць, сумна яму дома. Варвара яго хутчэй гыркне, чым добрае слова скажа. Чацвёра дзяцей у хаце. Ён і ўцякае. Часам начуе ў кабінеце. Толькі ты глядзі — нікому.

А Веры мігатлівы агонь у печы, паўзмрок хаты, закаваныя марознымі ўзорамі шыбіны нагадвалі той вечар, калі от так сядзелі з Аляксеем. І ні з таго ні з сяго яна запытала:

— Марынка, а ты ведаеш, дзе Венера?

— Чаму ж не? Астраномію вучыла. Звечара яна заўжды на небасхіле. А што?

— Так, успомніла адну песню. Напісаў яе беларускі паэт. Максім Багдановіч. Памёр зусім малады, далека ад радзімы, а песня засталася. І якая песня!

— Праспявай, ціхенька-ціхенька.

— Наўрад ці добра выйдзе. Слухай.— Вера адкашлялася і пачала спачатку няўпэўнена, занадта высока, потым трапіла ў тон і заспявала натхнёна і ўсхвалявана, памагаючы сабе лёгкімі ўзмахамі рукі.

Хутка і Марына пачала падпяваць, без слоў, але нрыгожа і дакладна ведучы мелодыю грудным сакавітым голасам. Калі даспявалі, доўга моўчкі глядзелі на полымя.

— Я нядаўна выпадкова пачула яе, але слоў не запомніла. Спішаш? Ціха, сам сабе, мармытаў адзін чалавек. Толькі матыў урэзаўся ў памяць. Вельмі прыгожы, душэўны... Ты ж яго ведаеш...

— Ведаю. Давай будзем спаць.

Яны леглі на адным ложку і доўга яшчэ шапталіся пад чэканне ходзікаў і спеў цвыркуна. Сцены патрэсквалі ад марозу, і ціха трымцелі шыбы.

IX

У самым вялікім класе позна гарэла святло. Кожны дзень пасля заняткаў рыхтавалі спектакль. Ахвотных было больш чым трэба. Нікога не хацелася пакрыўдзіць, і Вера тактоўна пераконвала: «Табе тут няма ролі, а ў наступнай п'есе будзеш іграць абавязкова. Толькі гурток не пакідай, глядзі, як іграюць другія».

Часам прыходзілася замяняць артыстаў, і новыя выканаўцы стараліся, як маглі, каб не замянілі іх. Мікіту Кажамяку іграў рослы прыгожы васьмікласнік Коля Астанін. Хадзіў ён за пяць кіламетраў з суседняе вёскі. А калі рэпетыцыі зацягваліся ці мяла завіруха, нанач аставаўся ў школе, рыхтаваў урокі, прыстаўляў лаўку да цёплай грубкі і да раніцы спаў.

Паміж юных артыстаў усталёўвалася асаблівая дружба, былі свае інтарэсы і сакрэты. Ніхто не прызнаваўся староннім, каго ён іграе, каб часам не пазналі, калі выйдзе на сцэну. Стараліся змяняць галасы і смешна раўлі на самых нізкіх нотах.

Вера дамагалася натуральнасці рухаў і інтанацый, але ёй гэта не заўсёды ўдавалася. Яна сама захапілася будучым спектаклем і пра яго толькі і думала.

— А як з мяне зробяць Змея?

— У што адзенуць цара?

— І агонь з рота будзе вылятаць? — дапытваліся дзеці.

Яны ўжо жылі ў казцы, былі яе героямі і стваральнікамі, марылі пра дзівоснае відовішча, хоць ніхто дакладна не ўяўляў, якое яно будзе. Больш за ўсіх трывожылася Вера, хоць і не паказвала свае трывогі дзецям. Уся надзея была на Аляксея. Ён спакойна ўпраўляўся са сваімі гаспадарчымі абавязкамі: ранічкай прыбіваў вечкі да партаў, у мароз і ў завею вазіў дровы ў школу і настаўнікам, увечары карміў і паіў каня і быкоў, чысціў стайню, закладаў нанач сена ў яслі. Часам заходзіў на рэпетыцыю, далікатна і непрыкметна даваў парады, а то і сам паказваў, як трэба іграць. На калідоры яго чакалі дзетдомаўскія хлапчукі Віця Тартынскі, Ваня Бойка і Сцёпка Альхімовіч. Яны прыносілі ў вёдрах гліну, дошчачкі, планкі, потым разам з Алякееем Іванавічам зачыняліся ў кладоўцы, дзе тэхнічкі хавалі мётлы і анучы, нешта ляпілі, стругалі і клеілі. Што яны там робяць, нікому не паказвалі.

Аднойчы да заняткаў на школьны двор прыбег ВІця Тартынскі, знайшоў Аляксея Іванавіча, нешта яму пашаптаў, паказаў у бок дзіцячага дома і пабег. Праз паўгадзіны дзетдомаўскія хлапчукі, куляючыся праз платы, загрузаючы ў сумётах, беглі да школы, і кожны валок перад сабою абярэмак мокрых, з абгарэлымі канцамі ануч. У той жа кладоўцы звалілі вялікую кучу старых прасцірадлаў, абрусаў, фіранак, дзіравых коўдраў і ўціральнікаў. Прытапталі абгарэлыя канцы, каб часам не зажалелі, і паказалі Веры Рыгораўне.

— Што гэта? Навошта? — здзівілася яна.

— Касцюмы будзем шыць,— спакойна адказаў Віця.— З Тарска прыехаў нейкі начальнік, усё гэтае барахло спісаў, склаў на двары і падпаліў. А мы падцікавалі, наляцелі з розных бакоў, пахапалі, хто колькі здолеў, прытушылі снегам і гайда сюды. З гэтага можна чаго захочаш нарабіць. Швейныя машынкі ў нас ёсць, дзяўчынкі шыць умеюць, нашыем, чаго трэба.

Вера збянтэжылася:

— Хіба ж можна чапаць без дазволу? Гэта ж ліха ведае што! Нясіце ўсё назад!

— Каб папаліў? Ён жа і летась, і пазалетась паліў. Не-е, не панясём, — цвёрда адказаў Віця.

— Тады я сама панясу.

— Не трэба, Вера Рыгораўна. Спаліць, от пабачыце, спаліць. Вы толькі пагаварыце з ім.

Вера накінула паліто і пабегла ў дзіцячы дом. На гародзе дагаралі нейкія рызманы, пабітыя табурэткі, каля іх з кійком стаяў той самы

прадстаўнік райфа, якога бачыла Вера, як толькі прыехаў. Ён махаў рукою і крычаў Васілю Сцяпанавічу, нібы той недачуваў:

— Я не падпішу акт, пакуль усё, усё да ніткі не прынясуць назад. Гэта ж, гэта ж... бандытызм, калі хочаце. Саранча. Ну і выхаванне!

Васіль Сцяпанавіч толькі пацiскаў плячамі:

— Не разумею, навошта ім спатрэбіліся гэтыя транты. Нашлю прыбіральшчыц, каб усё прынеслі.

Убачыўшы Веру, упаўнаважаны зласліва ўсміхнуўся:

— Можа, прадстаўнік школы растлумачыць, як яны выхоўваюць дзяцей і навошта ім спатрэбілася спісанае «вешчдавольсцьвіе».

Вера далікатна павіталася і спакойна адказала:

— Калі вас цікавіць, як мы з Васілём Сцяпанавічам выхоўваем дзяцей, калі ласка, прыходзьце на заняткі да нас. А навошта спатрэбілася спісаная старызна, я вам растлумачу.

І Вера расказала, як дзеці захапіліся тэатрам, як ім хочацца паказаць цікавы спектакль, як яны стараюцца нешта добрае зрабіць, а рабіць няма з чаго.

— Я спачатку сама не зразумела, навошта яны ўсё гэта прыцягнулі, а цяпер бачу, што без гэтага рыззя нам не абысціся. Калі ласка, не забірайце, пакіньце яго нам. Ну, спаліце, з попелу ніякай карысці, а дзецям і дарослым будзе радасць паглядзець цікавы спектакль. Першы ў сяле.

— Не магу. Ёсць інструкцыя. У параграфе чацвёртым гаворыцца: «Усё спісанае «вешчдавольсцьвіе», пасуду і мэблю знішчаць у прысутнасці прадстаўнікоў фінансавых органаў». А чаму, ведаеце? Каб гаспадарнікі не ашуквалі дзяржаву. Вось, напрыклад, мы спісалі і не спалілі, а яны гэтую старызну — назад у кладоўку. Новенькае — налева, а рэвізіі зноў тыя ж транты падсунуць. І ўсё ў ажуры — колькасць сыходзіцца. Так? Бачыце, як усё проста.

Вера ўсміхнулася:

— Спісанага ў дзіцячым доме няма. Лічыце, што яно знішчана. У інструкцыі сказана знішчыць, а не абавязкова спаліць. Мы яго знішчым. Сёння ж пры вас парэжам, перакроім і пачнём шыць царскія і баярскія касцюмы. Не пазбаўляйце дзяцей святочнай радасці. Вельмі прашу вас.

— Як, Васіль Сцяпанавіч? — палагаднеў прадстаўнік.— Будзем лічыць, што ўсё спалена. Нарушаю інструкцыю... але ў парадку выключэння толькі для вас... ну, і для падняцця культуры сяла, вядома.

Вера горача падзякавала.

— Бачыце, як усё добра ўтрэслася,— усміхнуўся Кеменеў.— Вера Рыгораўна за добрую справу ўзялася — самых крутагаловых нібы падмянілі. Раней гарцалі, як з ланцуга сарваныя, а цяпер усе нечым занятыя. Калі што трэба будзе, Вера Рыгораўна, кажыце, паможам. У нас ёсць добры сталяр і швачка неблагая. Так што смялей звяртайцеся.

Каля школы Веру чакалі хлапчукі.

— Ну як? Не забяруць? — пытаўся Віця.

— Не забяруць. Угаварыла.

Вера пахваліла хлопцаў і пайшла ў настаўніцкую, а там ужо кіпела Наталля Іванаўна:

— Школу ператварылі ў звалку каравак. Чаго добрага, яшчэ вошы распаўзуцца. Дзеці бандытамі растуць...

— Ты, Наталля, гавары, ды не загаварвайся,— ускінулася расчырванелая Варвара Іванаўна,— дзе ты бачыла тых вошай у дзіцячым доме? Там чысцей, як у цябе на ложку...

Пачуўшы такое ад лепшай сяброўкі, у завуча на імгненне адняло мову, але яна знайшлася:

— Усё свайго Кеменева аберагаеш, хварэеш за дзіцячы дом!

— За справядлівасць хварэю. Вось як!

— Тава-ры-шы, як не сорамна? Дзеці пачуюць,— падняўся дырэктар,— і наогул непрыстойна сварыцца ў школе. Давайце дамовімся: прынцыповыя пытанні

вырашаць на педсавеце, а хто хоча сварыцца, няхай сварыцца дома,— і павярнуўся да Веры:

— Скажыце, калі ласка, Вера Рыгораўна...

— Гэта і ёсць прынцыповае пытанне,— стукнула кулаком па стальніцы Наталля Іванаўна, але дырэктар не звярнуў на яе ўвагі.

— Скажыце, калі ласка, Вера Рыгораўна, навошта яны нанеслі гэтых старых... н-у-у, рэчаў?

Вера расказала ўсё, як было. Анатоль Паўлавіч слухаў і смяяўся.

— Вельмі смешна,— буркнула Наталля Іванаўна і гукнула тэхнічку.

Тая заслухалася Веру, ускочыла. Званок скаціўся з прыпола.

— А ліхачка! Празявала, варона,— і, трасучы званком, выбегла з настаўніцкай.

Работа ў кладоўцы адразу закіпела.

Аляксей з Тартынскім з газет рабілі выкрайкі самых незвычайных касцюмаў, дзетдомаўскія дзяўчынкі ў вольны час шылі іх, хлопцы выстругвалі мячы і стражніцкія сякеры, гліняныя балванкі абклейвалі кавалачкамі паперы са старых сшыткаў, газет, шпалераў, і выходзілі

рыцарскія шлемы. Такім жа спосабам ляпілі тулава Змея, кароны і дзівосныя гербы з арламі.

А ў нядзелю школа ператварылася ў майстэрню: стругалі, збівалі «трон», развешвалі гатовыя касцюмы. Але ўсе яны былі брудна-белыя або шэрыя. Дзеці з дому прыносілі кавалачкі люстэрка, саскрабалі з іх блішчастую амальгаму, таўклі і пасыпалі намазаныя крухмальным клеем мячы, палашы і кароны, выразалі медалі і ордэны.

Аляксей так захапіўся гэтаю работаю, што да паўночы праседжваў у кладоўцы, ператворанай у тэатральную майстэрню. Ён з воўны рабіў парыкі, мяшаў парцяную фарбу з авечым лоем, і выходзіў грым. У фельчара выпрасіў чырвонага стрэптацыду, жоўтага акрыхіну і расфарбаваў камзолы і накідкі, пасыпаў блёсткамі ад люстэрка. «Артысты» ахвотна прымяралі касцюмы і радаваліся, як ніколі не радаваліся ў жыцці. Накрухмаленыя і адпрасаваныя ўборы здалёк выглядалі як сапраўдныя. Вера і Аляксей радаваліся разам з дзецьмі.

Яны часта апошнімі выходзілі са школы, замыкалі дзверы, хавалі ключ у шчыліну пад ганкам і павольна ішлі, стомленыя і шчаслівыя. Аднойчы, ідучы па цёмным калідоры, Вера спынілася каля асветленага месяцам акна. Шыбы зіхацелі і іскрыліся дзівоснымі блакітнымі ўзорамі. Яна пачала хукаць на шыбіну. Аляксей спыніўся побач. Стаялі і маўчалі. Не паварочваючыся, Вера сказала:

— Вы нават не ўяўляеце, як я вам удзячна, як я вам абавязана.

— За што, Вера...— і не паспеў сказаць «Рыгораўна», як яна рэзка павярнулася і сціснула яго абедзве рукі.

— За ўсё, за ўсё. За ўвагу, за клопат, дапамогу. Скажыце, толькі шчыра, усё гэта вы робіце дзеля мяне?

Аляксей памаўчаў.

— І дзеля дзяцей...

— Калі б за гурток узялася, скажам, Наталля 1ванаўна, вы рабілі б гое самае?

— Вядома, не. А калі хочаце шчыра — мне заўсёды хочацца бачыць і чуць вас. Не адважваюся сказаць, што гэта, але, мабыць, тое, чаму «пакорлівыя ўсе ўзросты»,— нахіліўся і асыпаў пацалункамі яе цёплыя рукі.

Вера прытулілася да яго, адкінула галаву і заплюшчыла вочы, з-пад белай ваўнянай шапачкі выбіліся залатыя кудзеркі. У святле месяца яны здаваліся срабрыста-блакітнымі, а прыплюшчаныя павекі ўздрыгвалі, як у сне. Аляксей упіўся ў падатныя гарачыя вуспы, прагиа цалаваў шчокі, вочы, лоб.

— Вар'яты, што мы робім? — прастагнала Вера, адхінулз/ся і з усмешкаю сказала: — От каб убачыла Наталля Іванаўна, было б нам!

— і загаварыла яе інтанацыяй і голасам:— «У шко-о-ле, у храме навуу-кі Барышава вядзе сябе непрыстойна...»

— І падумаць толькі з кім! — у тон ёй працягваў Аляксей.— А вы сапраўдная артыстка! Не будзем успамінаць яе хоць цяпер.— Ён моцна абняў Веру і горача зашаптаў, гледзячы ў вочы з блакітнымі іскрынкамі:— З першай сустрэчы вы перавярнулі маю душу, а можа, і жыццё. Дзе б ні ішоў, што б ні рабіў, бачу толькі вас, спяшаюся, шукаю, каб хоць убачыць здалёк. Мілая, ніколі нікога я так не чакаў...

— А некага іначай? — перабіла Вера.

— Былі юнацкія захапленні. Вы ж не паверыце, што не было. Былі яны, напэўна, і ў вас, але сёння не будзем пра гэта. Добра?

Яны яшчэ доўга стаялі ў блакітным квадраце акна, залітага роўным святлом месяца.

— Звар'яцець можна,— прашаптала Вера. Паправіла пад шапачкай валасы.— Хадзем, хадзем хутчэй. Позна.

Яны яшчэ пацалаваліся каля ганка, замкнулі дзверы і памалу пайшлі па хрусткай сцежцы. Над імі ў вялікім туманным коле плыў блакітны месяц.

На маленькай сцэне сельскага клуба, перарobленага з драўлянай царквы, з раніцы Аляксей са сваімі памагатымі ставіў дэкарацыі, развешваў заднікі, намаляваныя на склееных шпалерах, ставіў папяровыя кулісы. Хлапчукі прынеслі з кладоўкі загорнутага газетамі змея. Дробненькі, з усыпаным вяснушкамі тварам, Міша Пшанічны залазіў у прапахлае кіслым клейсцерам тулава, прымяркоўваўся так хадзіць, каб не паваліць папяровыя дрэвы і дамы. Вучыўся гаварыць і раўці басам, падскокваў, круціўся на месцы, выскаляў кракадзілавую пашчу. У некага з франтавікоў выпрасіў электрычны ліхтарык, замазаў шкло чырвонаю фарбаю і калі бліскаў ім, здавалася, з вачэй і ноздраў выбіваецца полымя.

Хлапчукі снавалі, як мурашы: лазілі, прыбівалі, выпраўлялі цвікі, забыліся, што не абедалі і не былі дома. Больш за ўсіх завіхаўся Аляксей і аж сам дзівіўся сваёй вынаходлівасці: з кансервавых бляшанак на лямпы паставілі рэфлектары, прыладжвалі расфарбаваныя шкельцы. Ён раз-пораз саскокваў у залу паглядзець, як выглядае сцэна, і камандаваў: «Віця, падцягні... так, так, добра. Сцёпка, прыбівай, трошачкі нахілі на сябе!»

У перапынках і ў часе «фортачак» забягала паглядзець Вера, усхваляваная і ўзрушаная, як перад першым адказным экзаменам. Яна з Аляксеем адыходзіла ў самы канец залы і дзівілася: «Як прыгожа! Ну сапраўдны тэатр. Гэта ж трэба! З нічога такое зрабіць»,— і непрыкметна паціскала Аляксею руку.

«Артыстаў» адпусцілі з урокаў, каб паабедалі і раней сабраліся ў клубе. Гэта было самае вялікае свята ў іх жыцці, яны яго чакалі. Са школы бегма беглі ў клуб паглядзець, як усё выглядае. Аляксей выпраўляў дадому, каб хутчэй прыходзілі грыміравацца. У гэтым новым слове была асаблівая таямнічасць, кожнаму хацелася як найбольш намазацца, каб не пазналі.

Аляксей тлустымі фарбамі наводзіў бровы, маляваў вусы, ставіў на шчоках «мушкі», пудрыў зубным парашком, нацягваў парыкі. Радасцю і хваляваннем артыстаў жыў і ён. Вера нервавалася больш за ўсіх. Яна была рэжысёрам, суфлёрам і вядучым спектакля.

— Вы мне можаце не падказваць, Вера Рыгораўка, я ўсё ведаю на памяць,— выхвалялася Ніна Груенка.

— А я, каб і хацеў, нічога не пачую ў гэтым тулаве. Глухата, як у танку,— гаварыў «Змей».

Дзеці ўжо называлі адно аднаго не сваімі імёнамі, а імёнамі персанажаў п'есы. Раз-пораз праз шчылінку ў заслоне паглядалі ў залу, ці прыйшлі свае, хто дзе сядзіць.

У клубе ўжо было поўна народу: жанчыны ў кажушках і плюшаўках, у вялікіх клятчастых хустках, мужчыны — у шынялях і зялёных бушлатах, лузгалі кедравыя арэшкі, чмякалі зубамі піхтавую «серу», смяяліся, жартавалі і голасна гаварылі. У першым радзе, заціснуўшы каленямі мыліцу, сядзеў Міша Усцігаў: хацелася паглядзець, што там навычвараў яго дружок.

Перад спектаклем была ўрачыстая частка. Стол, засланы чырвоным, паставілі перад сцэнай. За сталом паселі старшыня сельсавета Абрамаў, ганаровы дзед Жураўлёў і Васіль Сцяпанавіч Кеменеў.

Аляксей быў асабліва ўзрушаны: расчырванеўся, прыкметна дрыжалі рукі. Гэта заўважыла Вера, падышла і прашаптала: «Не хвалюйся. Усё будзе добра». Аляксей міргнуў, матнуў галавою і зноў замітусіўся, папраўляючы касцюмы і грым.

Даклад пра дваццаць дзевятую гадавіну Вялікага Кастрычніка рабіў Васіль Сцяпанавіч. Яму часта пляскалі, уставалі, шумна садзіліся і ўставалі зноў.

Ад духаты адзіная ў зале лямпа міргала і ледзь свяціла, бо на сцэну знеслі ўсе лямпы з сельсавета і школы.

Пасля старшыня абвясціў:

— А зараз, таварышы калгаснікі, рабочыя і служачыя, вучні нашай школы пакажуць канцэрт,— і засмяяўся.— Канцэрт не канцэрт, адным словам — прадстаўленне. Што яны, значыцца, пакажуць, скажа вам таварыш Барышава,— і пapляскаў далонямі.— Просім!

Для Веры гэта было неспадзявана, і яна ў першую хвіліну разгубілася.

— Што мне гаварыць? — зардзеўшыся, прашаптала Аляксею.

— Ідзі, ідзі. Скажы пра гераізм рускага народа, пра яго перамогі, раскрый ідэйную сутнасць казкі.

У зале нецярпліва зашумелі і там-сям запляскалі.

Вера стала перад заслонаю, агледзела залу. У першым радзе сядзелі настаўнікі, старшыня сельсавета і ў святочным пінжаку з чырвоным бантам Андрэй Жураўлёў, а далей — бацькі і мацяркі яе вучняў. Уздоўж; сцен стаялі дзяўчаткі і хлопчыкі.

Вера памаўчала, пакуль сціхнуць, поглядам знайшла сваю мілую Трахімаўну і, нібы звяртаючыся да яе, загаварыла горача і натхнёна:

— Таварышы, мы святкуем Вялікі Кастрычнік, акрыленыя слаўнай перамогай савецкага народа над фашысцкай Германіяй. Нашы продкі білі захопнікаў на Чудскім возеры, пад Палтавай, грамілі напалеонаўскіх марадзёраў на Барадзінскім полі. Пра гераізм рускага народа складзена шмат песень, былін і казак. Адну з іх, пад назваю «Мікіта Кажамяка і Змей Гарыныч», зараз пакажа драматычны гурток нашай школы.

Зноў заспляскалі ў далоні. Вера, ўскочыла на сцэну і схапілася далонямі за расчырванелыя шчокі:

— Што я там нагаварыла, сама не помню.

— Ой, Вера Рыгораўна, як вы хораша гаварылі! — падбегла «царыца» — Ніна Груенка.

Вера ўсміхнулася, здзівіўшыся яе прыгажосці. Доўгае, пашытае з марлевых і цюлевых дзетдомаўскіх фіранак плацце, усыпаная люстранымі бліскаўкамі карона рабілі яе дарослай.

Аляксей паляпаў у далоні:

— Усе на месцы! Падрыхтаваліся! Заслона!

Яе рассунулі два дзетдомаўскія хлопчыкі. Пазакручваліся ў мультановыя полкі, толькі тырчалі хітрыя тварыкі ды паблісквалі вочы.

Зала загула ад нечаканасці. Усё на сцэне здавалася незвычайным. Асветленыя блакітным і чырвоным святлом дэкарацыі выглядалі як сапраўдныя. Калі з'яўляліся ў нябачаных дагэтуль уборах артысты, нават бацькі не адразу пазнавалі іх, і ў зале раз-пораз перапытвалі:

— А вой, а чыя ж гэта?

— Няўжо Ніна? А-я-яй! Ну, каралева!

— Паглянь, паглянь, ці не твой гэта?

Нават нехта ўскрыкнуў, калі на сцэну з бразгатам, бліскаючы вогненнымі вачамі, вылецеў змей.

— Адкуль жа гэта такое страхоцце? А божа ж мой! — чуліся галасы.

Гэта падбадзёрвала артыстаў, і яны стараліся, як толькі маглі.

Калі ў «цара» адляпілася барада, ён яе прыціснуў рукою і загаварыў як прыдушаны, па зале пракаціўся смех.

— Ціха вы! — прашыпела Наталля Іванаўна.

Вера старалася суфліраваць, але артысты апярэджвалі яе і часамі без запінкі. «Каб гэтак адказвалі ўрок!» — падумала яна і радавалася, што ўсё ідзе так добра, што іх уважліва слухаюць, глядзяць і шчодра апладзіруюць.

Калі Мікіта ў чырвонай кашулі і скураным фартуху, пазычаным у каваля дзядзькі Грышы, шырокім бліштчастым мечам ссек змяіную галаву, пачуліся галасы з залы:

— Дабівай фашысцкага гада!

— Коля, Коля, а вунь другая лезе!

— Па кумпалу яго!

А змей круціўся, падаў і ўставаў, махаў кажановымі крыламі, над ім, як паходныя, як сцяг, палымнела чырвоная кашуля і маланкаю бліскаў меч. Артыстаў заглушалі шум і выкрыкі ў зале. Веры, як на ўроку, хацелася крыкнуць: «Таварышы, цішэй!» — але, зразумеўшы, што старыя і малыя жывуць падзеямі на сцэне, усе ўдзельнічаюць у спектаклі, супакоілася.

Калі апошні раз закрылася заслона, воплескам і крыкам: «Малайцы!», «Пакажыце яшчэ!», «А хто змей?» — не было канца.

Артысты скакалі ад шчасця, гатовыя паўтарыць усё спачатку. Вера сказала, каб выйшлі на край сцэны і пакланіліся. Выходзілі некалькі разоў, Маленькі канапаты Міша Пшанічны кожны раз цягнуў доўгае, шэра-зялёнае тулава змея, усміхаўся сваёй маці, а хлапчукі, што сядзелі проста на падлозе, крычалі:

— Мі-і-ша, пакажы другую галаву!

— Зараві змеем!

— Вера Рыгораўна, дзе вы? Пакажыцеся!

Яна выйшла радасная і збянтэжаная, кланялася і пляскала ў далоні.

Да сцэны падышоў Андрэй Жураўлёў і падняў руку, каб сціхлі. Барада трэслася ад хвалявання, ён абсмыкваў крысо картовага пінжака.

— Таварышы! А таварышы! Дайце сказаць два словы! Толькі што мы з вамі ў нашай Біязе бачылі дзіва. Радаваліся, і не верылася, што нашы дзеці здатныя на такое. Яны вунь што паказалі! Ты, Палагея,

яшчэ ўчора з хлудзінаю ганялася за сваім хлопцам і на гэтую самую падгатоўку не пускала...

— Калі ж ад рук адбіўся, ляціць і ляціць, хоць ты яго спутай,— апраўдвалася Мішава маці.— А божухна, дык ён на змея вучыўся! І праўда, змей упарты!

— Ён можа артыстам не абы-якім стаць. А Коля, што за Мікіту быў? Ніна Аніссіна чым не царыца? Адным словам, усе — таленты. А што б з іх было, каб не Савецкая ўласць? Цёмныя сланяліся б, як авечкі. Дзякуй нашай партыі...— Зала заглушыла апошнія словы воплескамі і ўстала.— І вам вялікае дзякуй, Вера Рыгораўна, што так падрапяцілі нашых дзяцей, ад усіх калгаснікаў і ад старых бальшавікоў дзякуй! — Ён павярнуўся да сцэны і пакланіўся разгубленай і ўзрушанай да слёз Веры.

Гэта быў, бадай, самы шчаслівы дзень у яе жыцці. Дзеля яго можна было слепнуць над газаваю лямпаю, недасыпаць, каб толькі адчуць, што ты прынёс людзям радасць, што ты патрэбен ім. Але каб не Аляксей, не было б такой радасці, не было б такога святочнага настрою.

Хлопчыкі разам з Аляксеем складалі дэкарацыі і касцюмы, драўляныя мячы, кардонныя кароны. Некаторыя не хацелі адлепліваць вусы, а дзяўчынкі сціраць румяны, так і хадзілі «артыстамі». Веры карцела падысці да Аляксея, сказаць нешта добрае, але на сцэну зайшоў старшыня сельсавета, пахваліў школьнікаў, адвёў Аляксея ўбок, нешта пашаптаў на вуха і пайшоў.

Аляксей задумаўся, пастаяў хвіліну і ўзяўся парадкаваць саматужны рэквізіт. Сказаў хлапчукам, каб усё занеслі ў школьную кладоўку.

Дзецям так падабаліся новыя словы «рэквізіт», «кулісы», «заднікі», «падугі», што яны іх паўтаралі калі трэба і калі не трэба.

Вера заўважыла нейкую перамену ў настроі Аляксея і, калі разышліся апошнія «артысты», дакранулася да яго рукі:

— Што з табою, Алёша?

— Радуюся твайму поспеху.

— Не прыкідвайся. Гэта хутчэй твой поспех. І ўсе ведаюць пра гэта... Што табе казаў Абрамаў?

— Абрамаў? Казаў, каб заўтра зайшоў у сельсавет. Ёсць нейкая тэрміновая справа.

— А што, не сказаў?

— Думаю, недзе адгукнулася тая ананімка... Трэба было адразу самому паехаць і ўсё вывесці на чыстую ваду. Дык не, цягнуў нечага. Не хацелася кідаць усё гэта,— ён кіўнуў на цёмную сцэну,— ды... і з табою цяжка было разлучацца.

Яны сышлі ў пустую залу з перавернутымі лаўкамі. Вера гукнула кульгавага вартаўніка, каб замыкаў клуб, і сама з Аляксеем пайшла пасярод наезджанай вуліцы, залітай млявым святлом вышчарбленага месяца. Сям-там у вокнах яшчэ тлелі агні, а ў хаце Наталлі Іванаўны было людна і светла, на замёрзлых шыбах мітусіліся цені.

— Хадзем да мяне. Павячэраем, пагаворым... Добра?

Аляксей памаўчаў.

— А плётак не баішся?

— Можа, табе страшна? Іх і так хапае. Тут бачаць кожны крок. Няхай глядзяць. Мне няма чаго хавацца... Астацца адна не магу: столькі перахвалявалася за гэты вечар, трымціць кожная жылка. Здавалася, вось-вось выскачыць сэрца, і цяпер не суняць. Усё ж малайцы дзеці Коля і Нінка! А Мішка, маленькі, рабаціністы, адкуль у яго той бас прарэзаўся? Часам самой рабілася страшна.

— Слаўныя дзеці! Бадай усе пераросткі. То не было ў чым, то не было як у вайну хадзіць у школу. Мы ў такім узросце дзяўчатам запісачкі пісалі. Ды і яны не маленькія. Пабачыла б, як Коля Ніну за ручку лавіў за кулісамі.

— Усё ты бачыш, усё ведаеш! А мне непрыемна чуць пра сваіх вучняў.

— Дарэмна. Не станавіся педагагічнаю ханжою, класнаю дамаю. Не ператварайце натуральныя чыстыя пачуцці ў забароненую тэму. Яны прыходзяць раней, чым нам здаецца. Мы проста, стаўшы за настаўніцкі стол, забываемся, якія былі самі ў такім узросце, што думалі, што адчувалі, як радаваліся і пакутавалі ад першых пачуццяў, колькі было таямніц. Бяда, што нам іх адкрывалі не старэйшыя тактоўныя і разумныя таварышы, і ў першую чаргу настаўнікі, якіх мы дужа саромеліся.

— Што ж ім, выкладаць тэорыю кахання?

— Не спрашчай і не перабольшвай. Яны вывучаюць батаніку, розныя там тычынкі і песцікі, заалогію, чытаюць раманы, нарэшце, жывуць сярод дарослых людзей з вельмі простымі ўзаемаадносінамі, многае чуюць, бачаць з нездаровай цікаўнасцю, а мы, праходзячы «Капітанскую дачку» або «Дуброўскага», не выхоўваем натуральных і чыстых адносін да жанчыны, не гаворым, што каханне ўзвышае чалавека, наЕат вядзе на подзвіг. Па-мойму, гэта вялікі пралік нашай педагогікі.

— «Ах, боже мой, что станет говорить княгиня Марья Алексевна?» — засмяялася Вера.— Зноў лекцыя па педагогіцы?

— Ваша Мар'я Аляксееўна абурыцца і забароніць, Верачка. Проста думкі, якія можаш прымаць ці не прымаць.

— Прымаю, прымаю. І дзіўлюся, адкуль у цябе такі вопыт у такой далікатнай справе? Бо тэорыя грунтуецца на практыцы.

Аляксей памаўчаў, глыбока ўздыхнуў, закурыў на хаду, прагна зацягнуўся.

— Схлусіць, што нікога не кахаў,— не паверыш, праўда? Кахаў. Горача і моцна. І яна кахала... Цяпер усё, як сон...

— Дзе не яна цяпер? — з прытоенай трывогай спытала Вера.— Вядома, калі не сакрэт.

— Не, не сакрэт... Няма яе. Даўно няма. Яе павесілі разам з маім сябрам. На плошчы...— Голас дрогнуў, Аляксей прыкусіў губу і змоўк.

— Прабач, калі ласка... Я не ведала, не хацела кранаць тваё асабістае і балючае... Наогул, так мала ведаю пра тваё жыццё, пра цябе. Сам не расказваеш, а распытваць не адважваюся, каб не параніць, як цяпер. Ну, вось і прыйшлі.

Аляксей спыніўся каля веснічак.

— Няўжо ты пакінеш мяне адну з усімі загадкамі і думкамі? Заўтра свята. Дзверы не замыкаюць, пасядзім гадзінку, і пойдзеш.

Яны ціха, каб не вельмі рыпелі ўсходцы, увайшлі у цёплы пакой. На падлозе касымі светлымі квадратаМі адбіліся аконныя рамы, залітыя святлом месяца. Аляксей хацеў чыркнуць запалку.

— Пачакай хвіліначку і адвярніся. Хачу пераапрануцца.

Аляксей чуў, як шалясцела плацце, і глядзеў у замураванае дзівоснымі ўзорамі акно. Вера падышла ў чырвоным мультановым халаціку ў вялікія жоўтыя і белыя рамонкі.

— Распранайся. Здаецца, Трахімаўна нешта паставша на стале.

Аляксей падхапіў яе на рукі, прытуліў, як малое дзіця, і цалаваў, цалаваў, аж кружылася галава, аж займала дух.

— Пусці... Табе ж цяжка,— шаптала Вера, але моцна трымала за шыю мяккаю гарачаю рукою.— Запалі лямпу...

Ад бляску запалкі зажмурыліся абое, паселі за стол. Вера наліла ў кубкі малака, пакроіла хлеб, напал разламала шаньгу з тварагом, пакінутую ёй Трахімаўнай. Елі моўчкі. Кожны думаў сваё, і агульнае — адно пра аднаго.

— Вось яно як выйшла. Хацелі супакоіцца пасля такога напружання, парадавацца поспеху, а толькі развярэдзілі душы і маўчым.

— З табою добра і памаўчаць. Даруй. Сама вінаватая. Палезла з пытаннямі. Каб не думалася, ты мне ўсё раскажаш?

— Як-небудзь другім разам. Ды і позна ўжо.

— Пабудзь яшчэ трошкі. Ну, хоць памаўчы...

У пакоі старшыні сельсавета сабраўся ўвесь актыў, каб разам ісці на святочны мітынг. За дзвярыма чуліся гамана і смех, нехта крычаў у тэлефонную трубку.

Аляксей прыпёрся да сцяны ў пярэднім пакойчыку і не ведаў, ці зручна заходзіць цяпер.

Па вуліцы з гармонікамі і песнямі ехалі на свята калгаснікі з далёкіх брыгад: на дугах пазвоньвалі шамкі, на санях мільгалі квяцістыя хусткі, кажухі, рудыя і пярэстыя дохі.

Загледзеўся Аляксей і падумаў, што ўпершыню Кастрычніцкае свята сустракае зімою, з іскрыстым снегам, санным рыпам і звонкім марозікам, а там, дома, шуміць аналае лісце, імжаць дожджыкі, а часам перападаюць і сонечныя дні.

З пакоя выйшаў Андрэй Жураўлёў, падаў Аляксею жылаватую руку.

— Ну, парадавалі ўчора. Ну, малайцы! Трэба ж так усё ўштукаваць.

Аляксея, відаць, па голасу пазнаў старшыня сельсавета і гукнуў, каб заходзіў. У дзвярах з ім павіталіся дырэктар школы і старшыня калгаса.

Аляксандр Іванавіч, у кароткай паддзеўцы, з патухлаю люлькаю ў зубах, стаяў пасярод кабінета.

— Тут такая размова да вас. Званілі ўчора з раёна. Таварыш Пушанкоў паведаміў, што вас неадкладна выклікаюць у горад Мінск,— ён дастаў з шуфляды кавалачак паперы і падаў Аляксею,— вось па гэтаму адрасу. Дарогу, казаў, аплоцяць на месцы. Анатоль Паўлавіч ужо ведае і чалавека знайшоў на ваша месца. Так што здавайце ўсё, што за вамі лічыцца.

— Што там здаваць? Конь, два быкі, хамут ды трое саней.

— Казённую і загваздку трэба здаваць па акту. Ну, шчасліва! Пабягу. Там ужо людзі сабраліся.

Яны разам выйшлі на вуліцу, але Аляксей запаволіў крок, каб сабрацца з думкамі.

Насупраць, на ганку крамы, тоўпіліся пераважна ўдовы ў зграбных кажушках, плюшаўках з буфамі, у квяцістых шыліноўках і пімах. У магазіне ішоў святочны гандаль — давалі пячэнне і «падушачкі». Павесялелыя жанкі прытупвалі на ганку. У цэнтры з недапітаю чацвярцінкаю цётка Анісся выводзіла звонкім голасам:

Мой миленочек, зазноба,
Хоть кривой, да смотрит в оба.
Я кривова не хочу...

І, угледзеўшы Аляксея, на ўсю сілу выгукнула:

К Алексею укачу!

Жанкі гарэзліва падхапілі прыпеў:

Алексей, Алексей,
Мне еще муки насей.
А изладили пельмешки,
Потрясем с тобой орешки... И-х-х!

Анісея закрычала праз вуліцу:

— Іваныч, а Іваныч, не пагрэбуй з бабамі радасць дапіць і гора ўтапіць. Сваіх мужыкоў не дачакаліся, хоць ты нас выручы.— Яна падбегла і за рукаў пацягнула яго на ганак. Аляксей аднекваўся, упінаўся. На дапамогу Аніссі падскочыла чырванашчокая маладзіца. Яны з абодвух бакоў падхапілі пад пашкі і павялі да крамы. А на ганку з надрывам прыгожым сакавітым голасам зацягнула Аксення:

Фашистская Германия,
Проклятая, немила,
Меня с миленком Ванею
Навеки разлучила.

У Аляксея да горла падкаціўся тугі камяк, ён адчуў усю глыбіню гора гэтых спрацаваных прыгожых маладзіц, чые мужы не вярнуліся з вайны. Магілы іх засталіся недзе на ўзбярэжжах Віслы і Одэра. Успомніліся скрываўленыя, пасінелыя аблічча параненых і забітых аднапалчан. Можа, гэта былі мужы гэтых нязломных карміцелек фронту х тылу?

Аляксей адпрошваўся, казаў, што не п'е, што забаранілі дактары.

— Сёння і сам доктар вып'е. А занядужаеш, венічкам пахвошчам, як рукою зніме,— угаворвала Аніcся. Аляксей здаўся.

— За вас, жанкі, за шчасце вашых дзяцей.— Пляшка пайшла з рук у рукі.

— Бабы, а бабы! — крыкнула Анісся.— Пракоцім салдаціка, заступнічка нашага!

Жанкі сыпанулі з ганка, ухапіліся за аглоблі парожніх саней, што стаялі каля брамы, падцягнулі да прыступак, сілком звалілі Аляксея, побач села і моцна ашчаперыла яго Анісся. Як Аляксей ні прасіўся, як ні адбіваўся, але выкруціцца не змог. З рогатам і піскам жанчыны павезлі іх па вуліцы.

Ледзьве выцерабіўся Аляксей з жаночага палону. А яны, расчырванелыя, з пазбіванымі на патыліцу хусткамі, смяяліся і сакаталі каля яго. А ён, збянтэжаны і разгублены, вінавата ўсміхаўся і дзякаваў за такі гонар.

— Табе дзякуем, Ляксей Іванавіч. Унь, як учора папрыбіраў нашых дзетак. Далібог, я сваю Нінку адразу не пазнала. Гляджу і не веру,

адкуль што ўзялося,— дзеўка, хоць ты пасаг збірай. Колькі жывём, такога не бачылі.

Сяк-так адпрасіўся Аляксей, развітаўся з жанчынамі і ходка пайшоў да клуба, дзе канчаўся мітынг.

Насустрач, абняўшыся, хістка ішлі тры хлопцы. З пасінелым страшным носам Лёнька рыпаў на гармошку, яго падтрымліваў кучаравы прыгажун Гошка. Расхлістаная грудзіна і твар чырванелі, як пасля лазні. Трэцяга Аляксей не ведаў. Відаць, з тых «сватоў», што нядаўна ая^анілі Лёньку з прыгожаю, тоненькаю, як трысціначка, Кацяю. Цяпер яе чорныя, з татарскаю раскосінкаю вочы пабляклі і вінавата апускаліся пры сустрэчы. «Вось чым трэба было б заняцца таму ж Пушанкову,— падумаў Аляксей.— Але ж у яго заявы няма.— І ўспомніў, як нядаўна адны спачувалі Каці, а некаторыя цынічна рагаталі, расказваючы падрабязнасці Лёнькавага сватання.

Каця жыла ў суседняй вёсцы са сляпою бабкаю. У калгасе пласталася дзень пры дні і дома ўпраўлялася з гаспадаркаю. Заваліліся да іх прыгажун Гошка з дружкам і Лёнькам-гарманістам. Паставілі два паўлітры на стол, далікатна бабку ссадзілі з печы і пачалі сватаць яе ўнучку за Гошку. Якая дзеўка адмовіць такому?! Прыгожы, рабацяшчы, хата, як звон, гаспадарка свая спраўная, а маці старая, і болей нікога няма.

Разгубілася, расчырванелася Каця, сама не верыць свайму шчасцю. А Гошка такі ласкавы, такі далікатны, так і пяе, так і пяе: «Даўно прыглядаюся, жыць без цябе не магу»,— і ўсё падлівае бабцы, Каці і сабе. Ён-то і вядро выжлукціць можа, а дзяўчына і старая ўпіліся з другое шклянкі. Парыпаў Лёнька на гармоніку, патапталіся па хаце. Дурнічка так і павісла ў Гошкі на шыі. Што далей было, не памятае. Толькі прахапілася раніцаю, аж побач у ложку — страшны, глухі і знявечаны Лёнька, а тых і след прастыў. Параўла, пагаласіла і, зняслаўленая, пайшла за яго. Праўда, ён і бабку забраў, даглядае. На Кацю, як на абразы моліцца, а яна маўчыць і чэзне ад вялікае крыўды.

Падвучвалі бабы, каб на суд падала. Яна і не блізка. Кажа: «Сама вінаватая. Трэба гараваць. А ён мяне шкадуе і бабку не крыўдзіць. Можа, прыцярплюся». Аляксей з вялікім жалем глядзеў на Кацю. Ён адразу сэрцам прырос да адкрытых і простых людзей сяла, ведаў, хто як і чым жыве, любіў і шкадаваў дзетдомаўскіх дзяцей, а Вера ўвайшла ў яго душу як светлы праменьчык. Таму, мабыць, і не хацелася так нечакана кідаць усё і ехаць невядома куды. Чаму невядома? Ён спадзяваўся знайсці хоць каго-небудзь з ранейшых знаёмых, сяброў па атрадзе, выкладчыкаў ці выпускнікоў інстытута.

Не можа быць, каб усе загінулі, каб усіх параскідала вайна. І ўсё ж наперадзе была невядомасць. Ці вернедца, ці сустрэнецца з Верай? Як ёй усё растлумачыць, як супакоіць? Ён выразна адчуў і зразумеў, як яна неабходна яму не толькі цяпер, а назаўсёды.

На парэпчах клубнага ганка вецер гайдаў сцяг. Старшыня калі аса, заглядаючы ў перагнуты сшытак, гаварыў, колькі намалочана і надоена, застагавана і вывезена сена. Пад шумныя воплескі паабяцаў да Новага года пусціць «лакамабіль» і даць электрыку на фермы і ў школу, а вясною і ў хаты калгаснікаў.

У натоўпе грэліся, хто як мог. Вера з Марынай Раманаўнай зводдаль заўважылі яго, і Марына кіўнула, каб падышоў.

Павітаўшыся, яна зашаптала:

— Аляксей Іванавіч, як скончыць Малярэвіч, хадзем да нас. Паабедаем, пасядзім, паспяваем. Вера згодна.

Аляксей памаўчаў і з жалем у голасе сказаў:

— Хацелася б, але... не змагу.

— Сёння ж свята,— здзівілася Марына.

— А ў мяне неадкладныя справы.

Вера ссунула бровы і з трывогай паглядзела на яго:

— Што-небудзь здарылася?

— Асаблівага нічога...— расцягваючы словы, пачау Аляксей.— Заўтра мне прыйдзецца ехаць.

— Надоўга?

— Відаць, надоўга.

Якраз Малярэвіч закончыў прамову, і ўсе пачалі разыходзіцца. Анатоль Паўлавіч неяк вінавата зірнуў на Аляксея, падышоў, павітаўся, павіншаваў дзяўчат са святам і, пазіраючы некуды ўбок, ціха сказаў:

— Шкада, канечне, што Аляксей Іванавіч нас пакідае. Але яму будзе лепш. Так што давайце, не адкладаючы, зойдзем у школу, афармім акцік.

— Добра. Я зараз падыду.

Прытрымліваючы ад ветру полы шыняля, Анатоль Паўлавіч нацянькі пайшоў у школу. Памаўчаўшы, Аляксей загаварыў:

— Вось так яно ў жыцці і бывае. Раніцай думает адно, плануеш на тыдзень наперад, а выходзіць зусім другое, і ўсе твае планы ляцяць дагары нагамі...

Вера паглядзела на яго з жалем і трывогай.

— Адным словам, заўтра трэба ехаць. Думаю, усё будзе добра. Не ведаю, калі пабачуся з вамі, Марына Раманаўна, дазвольце вам пажадаць самага-самага найлепшага.— Ён моцна паціснуў яе руку ў стра-

катай рукавічцы.— Да пабачэння, Вера Рыгораўна. Калі дазволіце, зайду развітацца...

У школе ўжо чакаў Анатоль Паўлавіч. Тут жа сядзеў і смактаў самакрутку камлюкаваты Сяргей Гапонька.

— Ну вось, схадзіце ў завозню, паглядзіце, што там ёсць, а я тым часам падрыхтую акцік,— сух-а звярнуўся Анатоль Паўлавіч.

Новы загадчык гаспадаркі лічыў аброці і хамуты. Сані стаялі навідавоку, калёсы пазамятала снегам.

— Вось і ўся гаспадарка,— развёў рукамі Аляксей.

— Я і не хацеў...— буркнуў Гапонька,— але ўгаварылі Анатоль Паўлавіч і брыгадзір. Кажуць: «Да вясны за грошы парабі, а там відаць будзе». Яно і не зашкодзіць якую капейчыну агорацць,— нібы апраўдваўся Гапонька,

Акт афармілі хутка. Аляксей расказаў, калі карміць быкоў і каня, з якой дзялянкі вазіць дровы і дзе асталіся стагі.

— Ведаю, ведаю ўсе вашы стагі: тры ў раме, два за лажком, у аднаго яшчэ верх з'ехаў. Так што я сёння накармлю, і каб жалаванне з сённяшняга дня ішло.

— Добра, добра,— супакоіў Анатоль Паўлавіч,— ідзіце.

Дырэктар памаўчаў, наглядзеў на Аляксея і ціха
сказаў:

— Вялікае вам дзякуй за ўсё. Разумею, што займаліся не сваёю справаю, у класе ад вас было б болей карысці, але... не ад нас залежыць. Часам фармальнасці вышэй логікі. Упэўнены — усё ў вас будзе добра, а нас не памінайце ліхам. Калі не маеце крыўды, у любы час прыязджайце, разам папрацуем. Некаму ж і тут трэба вучыць дзяцей. Я мог паехаць у любы горад вобласці, у Калывань і ў Сузун прапаноўвалі, а папрасіўся ў самую глыбінку. Цяжка, няма чаго казаць, але не шкадую. Там і цікава, дзе цяжка. Можа, на будучы год падкінуць хоць парачку такіх настаўнікаў, як Вера Рыгораўна. Чулі, Малярэвіч абяцаў электрычнасць даць. Так што гадоў праз пяць тут нічога і не пазнаеце. Я сур'ёзна. Надумаецеся, прыязджайце. І дзеці вас любяць. Дзетдомаўскія так следам і снуюць...

— Вы аптыміст, Анатоль Паўлавіч, хоць Пушанкоў, відаць, вам зусім іншае гаварыў,— спакойна заўважыў Аляксей.

— Малады, надта порсткі і праяўляе залішне ініцыятыву. Яму вучыцца трэба, а ён старых хоча вучыць. Разумнага і сумленнага Андрэя Андрэевіча Жураўлёва папраўляе. Праўда, той аднойчы паставіў яго на месца. Кажа: «Сынок, твая мамка яшчэ дзеўкаю была, я тут Савецкую ўладу на ногі ставіў. Не агіціруй мяне, калі ласка». Так што вы асабліва да сэрца не прымайце.

— Я і не прымаю. Дарэмна вы мяне суцяшаеце. За мною нічога няма, а непаразуменні, дзе іх не бывае. Спадзяюся, мы яшчэ з вамі сустрэнемся.— І Аляксей устаў.

— Вам жа за некалькі дзён належыць заработная плата, дык напішыце каму-небудзь даверанасць.

— Ат, глупства, дробязь. Калі не цяжка, атрымайце і аддайце маёй гаспадыні.

Аляксей пацісну дырэктару руку і выйшаў з настаўніцкай.

Нялёгкае было яго развітанне з Мішам Усцігавым. Той на лаве, апрануты, у шапцы, дасмоктваў цыгарку, відаць, збіраючыся некуды ісці. Убачыўшы на парозе Аляксея, ускочыў:

— А я па цябе выправіўся. Чакаў-чакаў. Няўжо, думаю, у такое свята не зойдзе? З кім жа франтавыя сто грам выпіць? А? Пар-а-анька! Варушыся, галубка. Садзіся,— Міша адсунуўся на лаве,— расказвай, што там было каля клуба. Хацеў даклыпаць, на людзей паглядзець, дык вунь гэты мой камісар,— кіўнуў на жонку,— не пускае. Яно і праўда, качарга мая на сцюжы, як свіны хвост, мерзне.

Паранька паставіла міску крамяных гуркоў, тварог, гліняную карчагу бражкі, «чакан» гарэлкі і рубчастыя шклянкі.

— Пітакі мы з табою, як пеўні. Ну, давай!

— Пачакай, Міша,— перапыніў Аляксей.

— І так чакаў. Вып'ем, тады гавары. Ну, са святам!

Чокнуліся, Аляксей пакруціў шклянку, прыгубіў, скрывіўся, але падскочыла Паранька:

— Да дна, да дна! Хто не выпіў, той зло затаіў. Я баба, і то...— Яна кульнула налітую ёй злыбеду, крактанула і захрумстала агурком.

— Развітацца да вас зайшоў,— спакойна сказаў Аляксей.

— Куды гэта ты? — устрапянуўся Міша.

— Выклікаюць. У Мінск еду. Відаць, паслухаў цябе Абрамаў.

— Раз выклікаюць, трэба ехаць,— сказаў Міша.— А калі што якое, я спатрэблюся, дай толькі знаць: да каго хочаш дайду. Не глядзі, што такі. Усцігаў — о-г-о-го, прабіўны!

— Думаю, Міша, за мяне хадзіць не прыйдзецца. Як толькі прыеду, напішу.— Аляксей падняўся.

— Ужо ляціш? Пасядзі, пагавары са мною!

— Трэба ж сабрацца. Дарога далёкая.

— Якія ў салдата зборы? А на чым паедзеш?

— Да Тарска з паштаром, а там заготзярноўскія машыны на станцыю ідуць. Да каго-небудзь упрашуся.

Паранька з сянец унесла ладны кавалак застылай адваранай бараніны, загарнула ў чыстую анучку і працягнула Аляксею.

— Вазьмі на дарогу. Хто цябе там накорміць? А гэта сваё, свежанькае.

Як ні адбіваўся Аляксей, але прыйшлося ўзяць.

Моцна абняліся франтавыя сябры. Міша прыпаў да пляча і зашморгаў носам. Аляксей гладзіў яго па спіне і суцяшаў, як толькі ўмеў. Паранька працягнула шурпатую далонь і па-бабску ўсхліпнула. Падбегла і Фенька.

— Вы яшчэ прыедзеце да нас, дзядзя Алёша?

— Прыеду, прыеду, Фенечка,— гладзіў яе Аляксей па галоўцы,— а ты расці хутчэй, добра вучыся і слухайся тату з мамаю.

— Я слухаюся, усё раблю, што загадаюць.

Міша правёў Аляксея да веснічак і доўга яшчэ глядзеў услед.

Увесь вечар Аляксей прабыў з Вераю. Каб не вярэдзіць сабе і ёй душу, жартаваў, смяяўся, запэўніваў, што ўсё будзе добра, адновіць дыплом і абавязкова вернецца сюды.

— Там табе дадуць добрую работу, і забудзеш пра нас.

— Толькі не пра цябе. Радней і даражэй у мяне нікога няма. Уладкуюся там, і ўсё роўна прыеду па цябе.

— Я ж павінна адпрацаваць два гады. Ды і не змагу на паўдарозе кінуць дзяцей, да якіх так душою прыліпла, а яны, здаецца, да мяне.

— Ёсць акалічнасці, якія даюць права на выключэнні.

— У нашым жыцці выключэнняў і выпадковасцей больш, як правіл, але імі не заўсёды трэба карыстацца.

— Не трэба, Вера, філасофскіх разважанняў і абагульненняў. Спадзяюся на лепшае і веру ў Веру.

За вечар было столькі перадумана і перагаворана, столькі планаў закрэслівалася і складалася. Доўга развітваліся ў парозе. Вера ледзь стрымлівалася, і толькі калі сціхлі на рыплівай сцежцы крокі, уткнулася ў падушку і дала волю слязам.

X

На паштовай фурманцы Аляксей выехаў з сяла на світанні. Сінелі снягі, лёгкі марозны туманок змешваўся з дымам каміноў і раставаў над сялом. Стары фурман перасунуў у перадок паштовы мех, закруціўся ў доўгі кажух і шуснуў у палукашак, засланы сенам. Аляксей на целагрэйку ўсцягнуў каляны шынель, схаваў пад сена торбачку з немудрашчымі рэчамі і прыпасам, што сабралі яму Дзяменцеўна з Паранькай.

Буланы жарабок з месца рвануў лёгка і спорна, аж сані не паспявалі матануцца на слізкіх раскатах. Аляксей узяў пругкія лейцы, звітыя з конскай валасні, і час ад часу падвясельваў буланчыка.

Тайга сцішылася, укрытая густым інеем. Сібіракі яго завуць куржаком. «Якое прыгожае і дакладнае слова,— падумаў Аляксей,— сапраўды, дрэвы прыбраліся ў белыя карункі. А выблісне сонца, паружавеюць і замігцяць вясёлкавымі пералівамі, на світанні і ў вечаровым змроку тайга здаецца блакітнаю».

Заваленыя снегам вываратні ўяўляліся дагістарычнымі пачварамі, пры дарозе тужліва шамацелі сухія чараціны і парудзелая куга. Сям-там са снегу выпырхвалі беленькія курапаткі, ледзь сінелі радочкі заечых слядоў ды глуха стукаў дзяцел па заледзянелай кары.

Аляксея закалыхвала таежная цішыня, але пад сэрцам нешта шчымела, як пры кожным развітанні з дарагімі ўспамінамі і людзьмі. «Калі цяпер пабачу Веру? — непакоіла неадчэпная думка.— Хоць ты вярніся, каб зірнуць, каб сказаць нешта важнае, не выказанае раней».

На паўдарозе конь запаволіў крок, пачаў цяжка дыхаць і храпці. Фурман перахапіў з Аляксеевых рук лейцы, спыніў жарабка і саскочыў з саней.

— Што там, дзед?

— Дай хутчэй з перадка пугу.

— На такога каня пуга не трэба,— сказаў Аляксей, падаючы кароткае пугаўё з кручаным шкурацікам на канцы.

— Не паганяць, ратаваць трэба. Чуеш, як сапе?

— Чую. Няхай сабе сапе.

— Эх, галава! Праз паўвярсты затхнецца,— і дзед пачаў выкалупваць з конскіх ноздраў вялікія ледзяныя коркі.— Бачыш, пазатыкалі. У такі мароз застывае пара і забівае храпу. Жывёліна задыхнецца і прападзе. Так што ў дарозе каня глядзі лепш як сябе.

Буланы пабег весялей, у перадок загрукалі камякі зляжалага снегу.

Пад заледзянелаю навіссю веццю паказалася таежная хацінка і нагадала першую сустрэчу з Верай. Снег наўкол быў зрэзаны паламі, сталочаны капытамі, прыцярушаны саломаю і сенам. Маленькае акенца заткаў мароз зіхатлівым і колкім узорам.

Аляксею захацелася зайсці, пастаяць у парозе, развітацца з гэтым прытулкам людской дабрыні, цеплыні і ўвагі. Ён схлусіў дзеду, што хоча напіцца. Заскочыў на хвілінку. Каля печы смольна пахлі свежыя ружовыя трэскі, на месцы ляжалі скручаныя маты, у вядры плаваў празрысты ледзяшок.

Трэба было спяшацца, каб паспець на які-небудзь грузавік.

Да бліжэйшай станцыі сто восемдзесят кіламетраў. Туды кожны дзень вязуць збожжа. Машыны ідуць калонаю: ніводзін шафёр не адважыцца ехаць адзін — перамяце дарогу, папсуецца матор — і

«загінайся» ў тайзе, пакуль хто-небудзь не выручыць. А разам спакойна — ніхто таварыша ў бядзе не кіне. Так і паўзуць па сумётах і выбоінах машына з машынаю. А заб'е дарогу снегам — паперадзе трактар цягне клін з тоўстага бярвення з акутаю жалезам востраю дзюбаю. За ім паўзуць заінелыя, замеценыя машыны.

Аляксей умасціўся ў настылую кабіну пярэдняга грузавіка, пахукаў на заледзянелае шкло. Нудна і аднастайна цягнулася бясконцая тайга: пад цяжкімі пластамі снегу звісала яловае веццё, у заледзянелых панцырах маўкліва стаялі лістоўніцы і асіны. У святле фараў лес здаваўся дзівоснай дэкарацыяй, што ўвесь час мянялася і наплывала.

Побач з Аляксеем сядзеў немалады маўклівы шафёр.

— Махра ёсць? Скруці мне, хлопча, цыгарку, а то вочы зліпаюцца, хоць ты іх калком падпірай. Трэція суткі ў дарозе.

Аляксей падаў яму запаленую цыгарку.

— Колькі ж цяпер будзеце адпачываць? — пацікавіўся ён.

— Разгружуся і так, як ёсць, завалюся на суткі, а там зноў у рэйс,— пасмактаў, папыхкаў і павесялеў.— А куды гэта ты ў такую халадэчу выправіўся?

— Дадому, у Беларусь сабраўся.

— Чаго цябе туды нясе? Праязджаў я з Дрэздана цераз Брэст і, як іх там, Баранавічы — лічы, да самай Вязьмы адны закураныя коміны, як помнікі на пагосце, тырчаць. Беднай Беларусі больш за ўсіх дасталося — спляжылі ўдоўж і ўпоперак. Чаго цябе нясе? Прытуліўся б да якой удавы з кароўкаю ды свінчом, а там відаць было б. Чаго-чаго, а ўдоў — як зярнят у кузаве... Не скажу, не ўсе да нашага брата падкія. Ёсць — ого-го! — Ён крутнуў галавою і ўсміхнуўся, нешта ўспомніўшы.— Тут у нашай калоне ездзіць Васька. Прыедзем, пакажу. Зух — на тры раёны адзін. У буран дацягнуў неяк да вёсачкі і папрасіўся ў першую хату. Не пускае маладзіца, пасылае да суседзяў, а ён — ну, арціст! — прыкіпуўся казанскаю сіратою і ўмалёгаў-такі. Чакан спірту дастаў. Грэецца і гаспадыню ўгаворвае. А тая — ані ў зуб. Хлопчык у яе гадоў з шэсць. Маленькі яшчэ. Як лямпу патушылі, счакаў Васька і шкрэб-шкрэб да гаспадыні. А маладзіца была вушлая — качалку выхапіла ды як урэжа... Вылецеў Васька ў адных споднiках у сенцы, а яна дзверы лясь на зашчапку, і будзь здароў. Ну ж і папаенчыў, ну ж і паскакаў на марозе! Схапіла маладзіца Васькава ўсё абмундзіраванне і недапітую чакушку прыхапіла,— шусь за дзверы і зноў — на зашчапку... Так да раніцы ў сенцах і праляскаў зубамі... З тае пары ўся шафярня, як чорт ладану, баіцца тае хаты. Так што, брат, усякія бываюць бабы. Адны самі лістам сцелюцца... а як тая, Васькава

хросная,— качалкаю. Усё яшчэ чакаюць. Чаго, адкуль — не ведаюць, а чакаюць.

Аляксей маўчаў. Перад фарамі, як змеі, паўзлі і круціліся белыя языкі пазёмкі, машына павольна перапаўзала з сумёта на сумёт, снег забіваў ветравое шкло і праз шчыліны працэднсваўся ў кабіну.

— Не спі толькі. Гавары што-небудзь, каб мяне не павяло. Дзе ваяваў, як гараваў, дзе хрысціўся, як жаніўся. Толькі не маўчы,— прасіў шафёр.

Аляксей гаварыў пра франты, раненні і шпіталі.

Выходзіла, ваявалі яны побач, хадзілі і ездзілі па адных дарогах. Ці мала перавазіў шафёр параненых да франтавых шпіталяў і цяплушак! Можа, і непрытомнага Аляксея калі вёз.

— Ну, кіламетраў праз дзесятак пагрэемся,— пацёр шафёр рукі,— запахла Пацюканавам.

Грузавікківаўся з боку ў бок, парыпвала настылая расхістаная кабіна, святло ад задніх машын то паўзло ўгору, то некуды правальвалася і павольна выпаўзала зноў. Аляксей адчуваў, як сціскаецца ад холаду цела, як гусінее скура на твары, як пачынае дробна калаціцца ніжняя сківіца. А дарога яшчэ доўгая-доўгая.

У замеці мільгануў хісткі жоўты агеньчык. Фары выхапілі сцены прысадзістай шырокай хаты. Кал я яе стаяла некалькі замеценых снегам парожніх грузавікоў. Да хаты падрульвала і спынялася ўся калона. Шафёр вытыркнуўся з кабіны і голасна крыкнуў:

— Глушы маторы праз адзін і накрывайце капоты!

Аляксей выскачыў на слізкую сцежку, здранцвелыя ногі распаўзліся, і ён ледзь утрымаўся.

У хаце накурана і парна. Кажухі і целагрэйкі звалены ў кут, пасярэдзіне ўсхліпвае закураная лямпа, з-пад ног коцяцца белыя клубы пары і засцілаюць пакой. Як у тумане, калываюцца шапкі і ўскудлачаныя галовы шафёраў.

— Здаровы, хлопцы! Ну, як грэемся?

— Варка, засыпай пельмені!

— Не вельмі перамяло?

— Што там у Барабінску новага?

— Зачыняйце, чайную выстудзіце,— крычыць тлустая дзябёлая буфетчыца.

Шафёры мосцяцца за сталы, накрытыя калянымі цыратамі.

— Васька, як начавалася? — нехта кпіць з маладога шафера.

— Парадак,— адказвае шыракатвары з рудым чубам Васька.— Кульну дзве чаркі і пайду да Варкі,— выскаляецца ён і цягне руку да буфетчыцы.

— Прыходзь, прыходзь. У мяне пад коўдраю чыгунны кантар ляжыць,— весела агрызаецца Варка, накладае ў алюмініевыя міскі пельмені, перчыць, палівае воцатам. Мужчыны нацягваюць на далоні рукавы, каб данесці гарачую пасудзіну, рагочуць, жартуюць, пад'юджваюць адзін аднаго.

Аляксееў шафёр, відаць, у калоне за старшага. Устаў, зашпіліў пінжак:

— Закругляйся, хлопчыкі. Пагрэліся і — па конях!

Хоць і неахвотна, збіраюцца шафёры, трэба ехаць. Васька яшчэ павыскаляўся каля буфетчыцы, закурыў, нацягнуў паўкажушок, лапавухаю шапкаю крутануў нязграбны рэверанс і знік у воблаку пары.

На цёмным небе высыпалі буйныя зоры, мяцеліца пацішэла. Загулі матары, і зноў паплылі машыны з сумёта на сумёт, выхопліваючы фарамі прыдарожныя слупкі, укрытае наледдзю вецце елак і кедрача, яшчэ нейкіх дрэў.

Далека за поўнач змораны Аляксей увайшоў у невялічкі людны вакзал. Скрыгаталі настылыя дзверы з прывязанаю, замест спружыны, цаглінаю. На лаўках і на падлозе сядзелі і ляжалі людзі з чамаданамі, куфэркамі і клункамі, туліліся каля выцертай грубкі, бразгалі бляшаным кубкам. Пад столлю слабым накалам тлелі дзве лямпачкі.

Прыткнуцца не было дзе. Аляксей прашыўся бліжэй да печы. Тут было зацішней: не так свістала з дзвярэй, што раз-пораз з грукатам адчыняліся і дыхала белымі клубамі пары.

За сцяною грукаталі таварныя цягнікі, у застылых вокнах мільгалі чырвоныя агеньчыкі апошняга вагона, і зноў усё сціхала. Аляксея з маленства трывожылі паравозныя гудкі, пах антрацытавага дыму, сіпенне пары, чыгуначная мітусня і спешка. Яны манілі і клікалі ў невядомыя далячыні, абяцалі сустрэчы з нябачанымі гарадамі і краявідамі, новыя знаёмствы і сум расставання.

Значыць, ведаюць, што ён рабіў у часе акупацыі, калі проста выклікаюць і абяцаюць аплаціць праезд па чыгунцы.

І зноў закруцілася кола ўспамінаў. Прыгадаліся тыя жахлівыя месяцы ў Ельніцы, калі трэба было іграць самую адказную і цяжкую ролю ў жыцці, прыкідвацца, сачыць за кожным крокам. Усе ведалі, што былы настаўнік, камсамолец Аляксей Буевіч, пайшоў у «паслугачы» да немцаў, і касавурыліся на яго, з'едліва папракалі. Ніхто толькі не ведаў, што ён робіць, на каго працуе. І нікому не скажаш. Аляксею да болю яскрава ўспомніліся тыя дні: сорамна было глядзець у вочы ўчарашнім вучням і іх бацькам, сустракаць знаёмых, гаварыць не тое, што думает і адчуваеш, прыкідвацца не тым, хто ты ёсць. Адною

ўцехаю і падтрымкаЮ быў Якаў Спірыдонавіч. Разважлівы і спакойны, ён заўеёды паўтараў: «Цярпі, казак, атаманам будзеш». І цярпеў...

...Немаладая кабета ў кажусе зняла з лаўкі клуначак, пасунулася і кранула Аляксея за рукаў:

— Хоць з краёчку прыткніся. Настаішся яшчэ.

Аляксей падзякаваў, прымасціўся на кончыку лаўкі, падпёр рукамі шчокі і заплюшчыў вочы. Але надакучлівыя думкі не давалі заснуць. Тахкала ў скронях, праплывалі карціны далёкага і нядаўняга мінулага, як у тумане, з'яўлялася і знікала дарагое аблічча. Вера то ўеміхалася, то маркотна глядзела, як у апошнюю хвіліну развітання, то раптам здавалася далёкаю і недасяжнаю.

Цемра размякла, аглухла, і Аляксей паплыў у хісткую бездань забыцця. Грукат цягнікоў здаваўся далёкаю кананадаю, а лясканне дзвярэй — блізкімі разрывам!. Усё сціхала ў цёмным і хісткім снэ.

Нехта паляпаў па плячы. Аляксей ускочыў, яшчэ не расплюшчыўшы вачэй, і не адразу ўцяміў, дзе ён. Мітусіліся людзі з мяхамі, куфэркамі і чамаданамі, штурхаліся, крычалі. Натоўп вынес на замецены перон. Свістаў і закручваў снежную крутаверць ледзяны вецер, пасля соннага цяпла ўсё цела праціналі дрыжыкі, сцюжа і вецер засцілі слязою вочы. На зорным небе мігцела зялёнае вока семафора, а з цемрадзі каціліся тры агеньчыкі паравоза.

У вагоне не было дзе прыткнуцца. На ніжніх лаўках, прытуліўшыся адзін да аднаго, седзячы спалі людзі.

Аляксей праціснуўся ў цёмны кут, сяк-так прымасціўся і задрамаў, але чуў, як спыняўся цягнік, як гаварыла праваднiца, а подыхі марознай свежасці. нагадвалі пах настылай залубянелай бялізны, якую некалі маці прыносіла дасушвацца нанач у хату.

З партызанскіх і франтавых часоў Аляксей спаў трывожна і чуйна. Вярзлося нешта то лрыемнае, то трывожнае, даходзілі галасы і гамана людзей — ява напластоўвалася на сон, сон — на яву. У вагоне мяняліся людзі, за акном грукаталі і мільгалі агнямі сустрэчныя цягнікі. Ён зноў заплюшчваў вочы і нібы плыў на арэлях у неглыбокім сне.

Міналі станцыі і паўстанкі. Кароткія шэрыя дні змяняліся доўгімі начамі. Каля Петрапаўлаўска садзіліся немаладыя казахі ў стаўбунаватых лісіных шапках і доўгіх сабачых дохах, голасна гаманілі пасвойму і сыходзілі недзе на маленькіх стэпавых паўстанках. Ехалі з сібірскіх шпіталяў франтавікі з мыліцамі і кіёчкамі.

Наперадзе была доўгая дарога...

## XI

На педсавет пазніліся дырэктар і выхавацельніцы дзіцячага дома.

Анатоль Паўлавіч смаліў махорачныя самакруткі і нешта выпісваў з класных журналаў. Настаўніцы за доўгім сталом правяралі сшыткі, Вера Рыгораўна прымасцілася ў куточку доўгай драўлянай канапы і засяроджана чытала «Раман-газету». Наталля Іванаўна нешта шаптала Соф'і Міхайлаўне, а тая ад здзіўлення толькі круціла галавою.

У калідоры пачуўся мяккі тупат валёнак.

— Ну, нарэшце ідуць,— узрадаваўся дырэктар і зірнуў на гадзіннік. Дзверы шырока расчыніліся. Васіль Сцяпанавіч у парозе пачаў праціраць запацелыя шкельцы акуляраў, расчырванелая Марына Раманаўна адразу падбегла да Веры і села побач.

— Ну, таварышы, пачнём,— падняўся дырэктар.— На парадку дня ў нас два пытанні: вынікі навучальнай чвэрці і стан выхаваўчай работы. Па першым пытанні слова мае Наталля Іванаўна.

Яна павольна паднялася за сваім маленькім столікам, што стаяў пры сцяне, рукою разгладзіла справаздачную ведамасць, уздыхнула і пачала:

— Радавацца нам няма чаго. Паспяховасць за мінулую чвэрць 78 працэнтаў, 22 працэнты двоек мы паставілі самі сабе. Кепска працавалі, таварышы. Найбольш адстаём па мове і матэматыцы...— і пайшла пералічаць па класах, колькі ў каго двоек. Яна распалялася з кожнаю хвілінаю, смуглявыя шчокі пакрыліся чырвонымі плямамі. Наталля Іванаўна папракала настаўнікаў і выхаваўцаў дзіцячага дома. Пра адных гаварыла рэзка, даўніх сваіх сяброўак абыходзіла, не называючы прозвішчаў.

— Дзіўная рэч, па літаратуры амаль усе выдатнікі, а па мове — двойка на двойцы едзе і двойкаю паганяе. Можа, таварыш Барышава з Тартынаў хоча зрабіць Пушкіных ці Маякоўскіх, а правільна навучыць пісаць «коллективизация» не можа.

Вера памкнулася нешта сказаць, але Марына стрымала яе.

Свой даклад Наталля Іванаўна закончыла катэгарычна:

— Далей такога становішча цярпець нельга. Калі ў бліжэйшы час у працэнтных адносінах не будзе рэзкіх зрухаў, давядзецца рабіць арганізацыйныя вывады!

У настаўніцкай застыла прыгнечаная цішыня. Васіль Сцяпанавіч нешта чыркаў на прамакатцы. Міхась Іванавіч Акунёў разглядаў наскі сваіх пімаў, шыракатварая Варвара Іванаўна ўтаропілася вачамі ў завуча, глыбока ўздыхнула і спакойна спытала:

— З каго ж пачнеш разганяць, Наталля... Іванаўна? А?

— Вынікі наступнай чвэрці пакажуць...

І тут загаманілі ўсе разам:

— Ну, так можна ўсіх разагнаць...

— Захочуць пазбавіцца ад каторага і пачнуць хапаць двойкі.

— Трэба гультаёў прымусіць вучыцца.

— А як ты іх прымусіш?

— Цацкаемся залішне...

— Цішэй, таварышы, цішэй. Давайце па парадку. Хто хоча сказаць? — запытаў Анатоль Паўлавіч.

Нечакана для сябе паднялася Вера і загаварыла, ледзь стрымліваючы хваляванне.

— Тут больш за ўсё абвінавачванняў было мне.

— Гэта яшчэ не абвінавачванні,— перабіла яе Наталля Іванаўна.

— Ну, няхай будуць заўвагі ці папрокі. Сапраўды, атрымліваецца дзіўна: многія вучні, што летась паспявалі, за гэтую чвэрць атрымалі двойкі. Выходзіць, не навучыліся, а развучыліся правільна пісаць. А дайце ім сёння такі дыктант, які яны пісалі раней, усе напішуць на чацвёрку. Будзе ў ведамасці стопрацэнтная паспяховасць, толькі не будзе ведаў. Я знарок ставіла павышаныя патрабаванні, каб мабілізаваць увагу дзяцей, каб яны адчулі свае слабасці і вучыліся больш старанна. Не буду звальваць на некага віну, але мушу сказаць, што многіх прыходзіцца перавучваць. У іх агульныя памылкі, і вучні сцвярджаюць, што іх памылкамі не лічылі.

— Яны нагавораць... Слухай іх толькі,— азвалася Аўдоцця Мітрафанаўна і вінавата заморгала.

Вера не звярнула ўвагі на яе рэпліку і гаварыла далей з прыкметным хваляваннем:

— Тут прапанавалі больш жорстка патрабаваць з вучняў. Але жорсткасць заўсёды выклікае зацятае супраціўленне. Не прымушаць, а зацікавіць трэба дзіця. Каб кожны ўрок быў для яго радасцю адкрыцця нечага невядомага, новага, цікавага і светлага. Каб вучэнне было не пакутаю, а шчасцем.

— Па-мойму, замест прызнання сваіх недапрацовак, вы спрабуеце зваліць віну на некага і пачынаеце вопытным настаўнікам чытаць лекцыі па педагогіцы,— ускінулася на Веру завуч.

— Я думаю, Вера Рыгораўна вельмі правільна сказала. Зацікавіць дзяцей мы яшчэ не ўмеем, а яна ўмее,— спакойна і разважліва загаварыў Васіль Сцяпанавіч.— Я мяркую па нашых выхаванцах. Самыя непаслухмяныя цягнуцца да сваёй настаўніцы, слухаюцца і паважаюць. Толькі і чуеш: «Вера Рыгораўна сказала», «Вера Рыгораўна прасіла зрабіць»,— і спяшаюцца, каб не спазніцца на яе ўрок. А спектакль, які і мы з захапленнем глядзелі, хіба не заслуга Веры

Рыгораўны? Вось тое выхаванне, якога не хапала ў нашай школе. І за двойкі на яе не крыўдзяцца. Ставіць яна іх ласкава, з вераю ў магчымасці вучня...

І тут усхапілася Наталля Іванаўна:

— Ну, пра ўсе «спектаклі» таварыш Кеменеў яшчэ не ведае. Не хацела гаварыць, але вымушана. Хто рабіў спектакль за спіною Барышавай, мы з вамі ведаем. І няма чаго ёй прыпісваць чужыя заслугі. Ды і рабілася гэта дзеля прыклёпу, каб зручней было сустракацца з гэтым... што некуды спешна выклікалі. Вось тут, у школе, у іх сапраўды былі «спектаклі». Калі на тое пайшло, раскажу. Тут усе свае...

— Наталля Іванаўна, не трэба выносіць плёткі,— перапыніў яе дырэктар.

— Плёткі-і-і? Гэта, па-вашаму, плёткі? Калі б сама не бачыла, не гаварыла б. І мая Жэнька ў артысткі падалася. Чакаю: 10 гадзін — няма, палова адзінаццатай — няма. Дай, думаю, схаджу паглядзець, дзе там яна. Дайшла да рогу, аж чую — ідуць, сакочуць. У адным класе святло гарыць. Пытаюся: «Чаму так позна?» — «Рэпеціравалі»,— адказваюць хорам. Я іх адправіша, а сама падышла да варот. Стаю, чакаю. Агонь патух, а са школы ніхто не выходзіць. З паўгадзіны памерзла — нікога. Што ж, вы думаеце, яны ўпоцемках у даміно ці ў шахматы гулялі? І так кожны вечар. Я не раз бачыла, як яны каля Трахімішынай брамкі пакалываюцца і ў хату знікаюць. А ўжо апошнім часам і не хаваліся. Да раніцы гэты майстра на ўсе рукі прападаў у вашай хвалёнай настаўніцы. А пачалося гэта там, у хатцы на семнаццатым кіламетры, калі ўдваіх начавалі. Вось вам прыклад дзецям, вось вам маральнае аблічча і прынцыповасць камсамолкі Барышавай.

Усе прыціхлі, як аглушаныя. Кожны крадком пазіраў на скамянелую Веру Рыгораўну. Шчокі яе палалі, як у ліхаманцы, невідушчыя ад слёз вочы ўтаропіліся ў Наталлю Іванаўну. Усе маўчалі.

— Да-а, дзялы! — выдыхнула Варвара Іванаўна.— Можа, ты трохі і перахапіла, Наталля, але факт застаецца фактам. І факт непрыемны. Што скланяюць нас за нізкую паспяховаць, даўно прывыклі. А такога яшчэ не было.

— Дык і няма нічога такога,— ускочыла Марына Раманаўна.— Абвінавачванні Наталлі Іванаўны — толькі здагадкі, а фактаў няма...

— Чаго захацела! Фактаў. Не маленькая, сама ведаеш...

Старэйшыя настаўніцы заўсміхаліся. Хоць адносіны Веры з Аляксеем ні для кога не былі навіною, «па сакрэту» іх малолі па дарозе дадому, заходзячы адна да аднае, але ніхто не думаў выносіць іх на

абмеркаванне. Ну — гуляюць, няхай гуляюць. А Наталля Іванаўна вунь як павярнула!

З канапы павольна ўстала Вера Рыгораўна. Усе заціхлі і павярнуліся да яе.

— Я дарослы чалавек і маю права на асабістае жыццё. Каго кахаць і каго ненавідзець, разбяруся сама, без абмеркавання на педсавеце. Усе абвінавачанні завуча — злосны паклёп хваравітай фантазіі. Здзіўляе і тое, адкуль у немаладой, вопытнай жанчыны столькі злосці і непрыязнасці. Гэта я адчула з першай сустрэчы з вамі, Наталля Іванаўна, але такога не чакала нават ад вас. Калі ў вас яшчэ ёсць сумленне... Цяпер, Анатоль Паўлавіч, дазвольце мне пайсці. Тут вельмі душна.

— Хвіліначку, Вера Рыгораўна,— падняўся ўзрушаны, расчырванелы дырэктар.— Тое, што сказала Наталля Хванаўна, яе асабістая справа, якая не мае нічога агульнага з адносінамі да вас калектыву, кіраўніцтва школы.

— А я што, прыйшла з вуліцы? — ускочыла Быкова.— Я не маю дачынення, па-вашаму, да кіраўніцтва? Хто адказвае за вучэбны працэс? Нізкая паспяховасць хіба не вынік бытавога разлажэння? Так што не вельмі абараняйце, Анатоль Паўлавіч.

Вера таропка накінула хустку, доўга не магла знайсці рукаў паліто і, нічога не сказаўшы, выскачыла з настаўніцкай. Марына Раманаўна папрасіла ў свайго дырэктара дазволу і пайшла следам за Вераю. На вуліцы волкі вецер гнаў і круціў лапушысты мокры снег. Марына ледзьве разгледзела Веру ў шэрай снежнай крутаверці. Дагнала, прасунула руку пад пашку:

— Верачка, супакойся, не трэба. Ну не плач...

XII

З Беларускага вакзала на Брэст цягнік адыходзіў на змярканні. На пероне хлюпаў раскалочаны нагамі мокры снег, пашарэла зямля, было ветрана і золка, а сапраўдная зіма, звонкая і чыстая, засталася недзе там, за Уралам. Як гэта цяпер далека! А да родных мясцін усяго — адна ноч.

Аляксей з порцыяй марожанага на тоненькай лучынцы праціснуўся ў вагон. Адкусваў патрошку, але так і не ўспомніў, калі апошні раз яго каштаваў.

Праміналі гарады Падмаскоўя. На шэрым снезе, як прывіды, чарнелі руіны дамоў і заводаў, а замест вакзалаў стаялі вагончыкі або збітыя з дошак буданчыкі.

Аляксей амаль усю ноч прастаяў каля акна. Пад млявым святлом месяца чарнелі закураныя печы, абгарэлыя сцены, падбітыя, прыцярушаныя снегам танкі, перакуленыя ў кюветы, патрушчаныя вагоны. «А колькі пад гэтымі хвойкамі адзінокіх і брацкіх магіл, колькі крыві і слёз пад гэтым счарнелым снегам?» У горле перакочваўся тугі камяк, да болю сціскаліся сківіцы.

Ён чуў, як праязджалі Смаленск, ушчэнт разбітую Оршу. Мільгалі коміны на папялішчах колішніх вёсак.

Раніцаю яшчэ здалёк Аляксей пазнаў Мінск па шыракаплечым гмаху Дома ўрада, і на сэрцы зрабілася радасна і трывожна. Што яго чакае тут? Скрозь руіны. Абапал дарогі — патрушчныя нямецкія танкі, перакуленыя машыны, вагоны бронецягнікоў, сям-там бялеюць свежымі дошкамі баракі, курацца зямлянкі, з сутарэнняў разбітых дамоў тырчаць бляшаныя трубы. Ад вакзала амаль нічога не засталося. Слёзы засцілалі вочы.

З прывакзальнай плошчы ён убачыў закураныя карпусы. Абапал вуліцы ледзь ліпелі патрэсканыя сцены, пустыя каробкі дамоў, вецер на сценах шкуматаў паабрываныя шпалеры, на пакручаных жалезных бэльках паправісалі абгарэлыя маснічыны, на сцяне — рамка з абгарэлай карцінай.

Аляксей ледзь пазнаваў знаёмыя вуліцы і дамы. Чорнаю пашчаю зеўрала разбітае крыло галоўнага корпуса Універсітэцкага гарадка. Там была самая вялікая, 308-я аўдыторыя. Колькі разоў там Аляксей слухаў зводныя лекцыі, колькі было перагаворана і перадумана ў калідорах і чыталках, ад якіх і знаку не засталося.

Нібы на выпускным здымку, прамільгнулі аблічы аднакурснікаў і буйным планам — выкладчыкі: мілы Іван Іванавіч Замоцін заўсёды перасыпаў лекцыі дасціпнымі жартамі, запрашаў студэнтаў дадому, даваў рэдкія кнігі са сваёй вялікай бібліятэкі...

Паміж ацалелых усходцаў знаёмага ганка тырчалі пасохлыя сцябліны крапівы і палыну, у расчыненых дзвярах вестыбюля вецер круціў шматкі паперы.

Раптам Аляксей спыніўся. Немец! Сапраўдны немец, у брудна-зялёным шынялі і нацягнутай на вушы пілотцы вёз тачку з бітаю цэглаю. За разбуранаю сцяною дома гергеталі і білі ламамі замёрзлы друз палонныя.

Аляксей шмат перабачыў немцаў, але цяпер яны ўжо былі не страшныя.

Плошчу Свабоды Аляксей здалёк пазнаў па разбітай вежы з гадзіннікам. Пастаяў, агледзеўся, пакруціў галавою і пайшоў па заваленай цэглаю і тынкам Ленінскай вуліцы.

Аляксей увайшоў у доўгі пракураны калідор. Слабое святло лямпачак пад столлю нагадвала ноч або позні вечар. А за вокнамі быў шэры туманны дзень з калюжынамі і мокрым снегам, з галчыным граем у парадзелым скверыку. Аляксей паглядзеў на ацалелы Дом прафсаюзаў, на руіны гасцініцы «Еўропа» — пазнаваў і не пазнаваў мілы з юнацтва горад. Некалі сотНі людзей ведаў у твар, здагадваўся, дзе хто працуе і жыве.

А цяпер прайшоў ад самага вакзала — і ніводнага знаёмага аблічча.

Аляксей пастукаўся і ўвайшоў у невялічкі пакойчык, павітаўся, зняў шапку і стаў у парозе. З-за стала падняўся малады статны капітан з рудаватым чубам над залысінамі высокага лба, падаў руку і неяк загадкава ўсміхнуўся:

— Капітан Асокін. Сядайце, калі ласка, Аляксей Іванавіч,— і паказаў на крэсла побач са сваім.— Ну, як дабраліся? Дарога далёкая і нялёгкая: з эвакуацыі, са шпіталяў усё яшчэ вяртаюцца людзі.

— Звычайна. Ехаў, як і ўсе.

— Доўга мы вас шукалі. З Ельніцы адказвалі: «Пасля вайны не з'яўляўся».

— Я ж туды ў райана двойчы пісаў,— здзівіўся Аляксей.

— А мы пісалі ў іншы аддзел. Добра, што ў вас там старшыня сельсавета кемлівы чалавек: «скаргу» на вас пераслаў непасрэдна сюды.

Зазваніў тэлефон.

— Слухаю, таварыш палкоўнік. Так, так. Прыбыў. У мяне. А можа, да вас? Нічога сабе выглядае,— падміргнуў капітан Аляксею.— Слухаю. Чакаем,— і паклаў трубку.— Вы і не здагадваецеся, хто пра вас пытаўся. Казаць не буду. Зараз пабачыце. Ён асабліва настойліва шукаў вас. Паспрабуй цяпер знайсці чалавека, калі ідзе такое перасяленне: бацькі дзяцей шукаюць, дзеці — бацькоў.

У пакой увайшоў невысокі палкоўнік. Аляксей памкнуўся яму насустрач.

— Ну, нарэшце! Рады цябе бачыць, прапашчы ты Аляксей.— Ён моцна абняў Буевіча, патрос за плечы.— Нічога, нічога, хоць латаны, але малады і дужы. Не шкадуеш, што выцягнулі з таежнай бярлогі? І занесла ж цябе!

— Што вы, Піліп Васільевіч! Рады, што з вамі сустрэўся, а то і не спадзяваўся сваіх адшукаць.

— Спадзявацца трэба заўсёды на лепшае,— сказаў палкоўнік.

Аляксей заўважыў, як ён змяніўся, густа прабілася сівізна. А гадоў пяць назад у Ельніцы быў малады вясёлы ўпаўнаважаны райаддзела.

У брыгадзе ўзначальваў Піліп Васільевіч разведку і не раз Аляксея пасылаў на самыя адказныя і рызыкоўныя заданні. Ён распрацоўваў неверагодныя па прастаце і дзёрзкасці планы і выконваў іх спакойна, з розумам і вялікай вытрымкай.

— А дзе вы былі пасля злучэння з арміяй? — пацікавіўся Аляксей.

— Паматала і мяне па свеце. Польшча, Усходняя Прусія, прыморскі гарадок Пілаў. Там і сваю Валянціну пахаваў. Помніш?

Аляксей толькі паківаў галавою і да хрусту сашчапіў пальцы.

— Падарвалася на заржавелай міне... Нядаўна назначылі мяне сюды, і адразу трапіла справа Ельніцкай падпольнай групы. Доўга шукалі канцы. І ты як у ваду знік... Цяпер усё ясна. Застаўся фармальны бок. Але справаю зоймецца капітан. Таварыш Асокін пакуль што цябе ўладкуе ў нашым інтэрнаце на Нямізе, забяспечыць пайком,— ён агледзеў Аляксея з галавы да мокрых валёнак,— і прыадзецца табе паможам. Ага. Хвілiначку,— палкоўнік набраў нумар тэлефона.— Сцяпан Ларыёнавіч? Прывітанне. Не памыліўся. Я, я. Ну, як кіруеш? Запарка з вывазкай лесу?.. Які ў нас транспарт?

Пачуўшы знаёмае імя, Аляксей выцягнуўся на крэсле.

— Тут у мяне адна прапажа знайшлася. Якая? Мы з табою днямі ўспаміналі. Не, не ўгадаў. Вось тут сядзіць і ззяе, як жаніх на покуце. Бу-е-віч... Так, Аляксей. Адкуль? Доўгая гісторыя. Зойдзе, сам расказа. Добра. Пасля дзвюх? Спадзяюся, паможаш яму. Сам ведаеш: страха над галавою і ўсё астатняе. Перадам. Бывай.

— А дзе Сцяпан Ларыёнавіч? — запытаў Аляксей.

— Намеснік старшыні аблвыканкома. Узрадаваўся, што ты знайшоўся. Прывітанне перадае. Чуў? У дзве гадзіны чакае цябе. Але салаўя байкамі няма чаго карміць. Ідзі ў нашу сталоўку, паснедай, адпачні трохі і не забудзься зайсці да Сямашкі. Ну, пакуль. Яшчэ пагаворым. У цябе і ў мяне ёсць што ўспомніць. Бывай!

...Пасля снедання Аляксей прайшоўся па плошчы, уражаны і ўсхваляваны такімі сустрэчамі. Адразу камандзір і начальнік разведкі знайшліся. Не знайшліся, а яго знайшлі.

З галін парадзелага сквера зрываліся і шлёпалі ў лужыны камякі мокрага снегу. Скрыгатаў і з крутой вулачкі Бакуніна павольна ўпаўзаў на плошчу старэнькі трамвай. Двойка. На ім некалі Аляксей ездзіў у інтэрнат і на Старажоўку купацца пасля экзаменаў. Цяпер ад руін пахла мокраю глінаю і цэглаю, ляжаў закураны друз і скруткі ржавага жалеззя, зарослыя пабітымі марозам сцяблінамі скрыпеню і палыну. Горада амаль не было. Грукалі ламы і кіркі — разбіралі завалы, абскрабалі закураныя і апаленыя цагліны. Куды ні зірнеш — вышчарбленыя парэпаныя сцены з правіслымі бэлькамі і агрызкамі

лесвічных прыступак. Аляксей ведаў, што горад разбіты, але такога разбурэння не ўяўляў. Дзе-нідзе ўзвышаліся рыштаванні, закладваліся падмуркі, рассоўваліся вуліцы. У самым цэнтры на невялічкіх лапіках, абгароджаных гарэлымі жалезнымі ложкамі, з-пад снегу тырчаў сухі бульбоўнік.

Цудам уцалела старая Няміга. За тоўстымі сценамі прысадзістых будынін не відно было руін, і Аляксей на нейкую хвіліну адчуў сябе ў жывым горадзе сваёй маладосці, пазнаваў цёмныя дворыкі і шырокія вароты пад дамамі, заглядаў у іх: на вяроўках гайдалася мокрая бялізна, дзіцячыя кашулькі, па вузкіх тратуарах спяшаліся людзі.

Аляксей знайшоў інтэрнат, у які яго накіравалі. Зайшоў у вялікі пакой з мноствам ложкаў, заняў месца каля акна. У калідоры памыўся пад доўгім карытцам умывальніка і адразу адчуў бадзёрасць і свежасць. Ад узрушэння гарэў твар, стукала ў скронях. Мокрыя валёнкі прыткнуў да круглай жалезнай печы, пераабуўся ў пацёртыя салдацкія боты, змяніў гімнасцёрку і выйшаў на вуліцу. Па бруку вялікі калматы конь цягнуў на калёсах дашчаную скрыню з пахкім гарачым хлебам, у двары крычалі і смяяліся дзеці, насустрач ішла статная дзяўчына з падфарбаванымі вуснамі.

Хоць Аляксей і ведаў, як знайсці Сямашку, але вельмі ж захацелася хоць з кім-небудзь загаварыць, і ён спытаў у дзяўчыны, як знайсці аблвыканком. Яна вярнулася назад, паказала, як выйсці на Савецкую і куды ісці далей.

— Цяпер тут і старому мінчаніну нялёгка што-небудзь знайсці,— усміхнулася яна і пайшла сваёй дарогай.

Аляксей паблукаў па некалі знаёмых вуліцах, падышоў да Дома ўрада, насупраць яго пазнаў колішні Дом металістаў, за ім між разбітых карпусоў Універсітэцкага гарадка стаяла некалькі доўгіх баракаў. Ён прыглядаўся да твараў сустрэчных, але так нікога і не пазнаў. Часцей сустракаліся людзі ў шынялях, з пагонамі і без пагонаў, на мыліцах і з нустымі рукавамі.

Роўна ў дзве гадзіны ён падымаўся па прысыпанай патрушчаным тынкам лесвіцы на другі наверх ацалелага старога будынка. У прЫёмнай немаладая сакратарка з пасівелымі скронямі спытала, да каго ён і па якой справе. Аляксей назваў сваё прозвішча і сказаў, што Сцяпан Ларыёнавіч прасіў зайсці. Пачуў праз адчыненыя дзверы знаёмы голас, забілася сэрца. Па кабінеце з доўгім сталом для пасяджэнняў насустрач яму ішоў высокі, шыракаплечы, з непаслухмяным чорным чубам, перасыпаным сівізною, Сцяпан Ларыёнавіч Сямашка, колішні сакратар райкома і камандзір брыгады. На ім быў цеснаваты кіцель без пагонаў, з трыма радамі ордэнскіх планак, і белыя

закасаныя буркі. Яго прыгожы твар свяціўся добраю ўсмешкаю, а дужыя рукі моцна сціснулі Аляксеевы плечы.

— Ну, расказвай, дзе прападаў, куды загнала нялёгкая? Шукалі тут цябе. Грэшным дзелам, думалі — загінуў дзе-небудзь. Ну, ну, слухаю.— Сямашка ўсадзіў Аляксея ў глыбокае крэсла, сеў насупраць, падпёр шчаку рукою.

Аляксей коратка, як пішуць у анкетах, расказаў пра свае франтавыя і шпітальныя прыгоды, не абмінуў і ананімку з абвінавачаннем у супрацоўніцтве з немцамі:

— Разумееш, органы цяпер разбіраюць заявы на былых падпольшчыкаў, якіх мы закідалі ў паліцыю, управу, пасылалі працаваць перакладчыкамі. Бачылі, што працуюць у немцаў, а што выконваюць заданні партызан і разведкі, ніхто і не здагадваўся. Вось і прыходзіцца цяпер разбірацца, выяўляць падпольшчыкаў, сувязных, выдаваць ім адпаведныя дакументы, каб людзі не скардзіліся і не абражалі «нямецкімі паслугачамі». Пачынаеш разумець, як ім было цяжка і балюча.

Успомнілі сяброў па падполлі: мілага, заўсёды далікатнага Якава Спірыдонавіча. А які́м цвёрдым і вынаходлівым ён стаў у акупаванай Ельніцы, колькі выратаваў людзей, колькі звестак і бланкаў дакументаў перадаў партызанам. І маладзенькую, заўсёды вясёлую выкладчыцу нямецкай мовы Ніну Кавалеўскую ўспомнілі. Якою трэба было быць мужнаю і трывалаю, каб не расплакацца на допытах, калі фашысты заганялі іголкі пад пазногці яе сяброў і аднадумцаў. А яшчэ, мабыць, цяжэй было цярпець нянавісць і абразы блізкіх людзей. Знявечаная, яна смела падышла да шыбеніцы і паспела крыкнуць з апошніх сіл: «Мы пераможам, біце праклятых людаедаў!»

Успамінаючы, Аляксей ледзьве стрымліваў слёзы, кусаў губы і змаўкаў на паўслове.

— А ты што думаеш рабіць? — спытаў Сямашка.

Аляксей паціснуў плячыма і, памаўчаўшы, дадаў:

— Трэба ў школу. Але, перш за ўсё, аднавіць дыплом. З райана адказалі, што ўсе дакументы загінулі, у інстытуце таксама нічога не засталося.

— Гэта лёгка паправіць.

Сцяпан Ларыёнавіч набраў нумар тэлефона:

— Таварыш Макарэвіч? Сямашка. Мяне цікавіць парадак афармлення дакументаў на былых выпускнікоў, у якіх загінулі дыпломы. Та-а-ак! Тры пацверджанні. А хто з даваенных выкладчыкаў у вас працуе? Хвіліначку, запішу. Тут да вас зойдзе таварыш Буевіч. Пры мне ён працаваў у Ельніцкай школе, быў падпольшчыкам, партызаніў

у маёй брыгадзе, ваяваў на фронце, словам — наш добры таварыш. Памажыце, калі ласка. Так, Буевіч Аляксей Іванавіч. Дзякую.— Сямашка падаў Аляксею паперку з прозвішчам яго былых выкладчыкаў:
— Ведаеш іх? А яны цябе помняць?

— Думаю, не забылі. Я ж быў актывіст: і ў камсамоле і ў самадзейнасці,— адказаў Аляксей.

Сямашка расказаў, як знайсці пецінстытут каля клінічнага гарадка. На бланках напісаў дзве запіскі і падаў Аляксею.

— Па гэтым адрасе зойдзеш на склад і падбярэш сабе што-небудзь з адзежы. Ты ж малады і халасцяк яшчэ, мабыць? Так што не саромейся. А па гэтай паперцы ў гандлёвым аддзеле гарсавета атрымаеш карткі. Пакуль агледзішся, пажыві пад дахам Піліпа Васільевіча, а там, можа, знойдзем які куток. Сам бачыш, што ад горада засталося. Баракі лепім, людзі ў зямлянках жывуць.

Развітваючыся каля дзвярэй, Сямашка ўспомніў:

— Мы ж цябе да ўрадавай узнагароды прадстаўлялі. Не атрымаў? Схадзі на Бакуніна ў ваенкамат. Павінна быць. Калі што спатрэбіцца, заходзь, чым здолеем — паможам.

Капітан Асокін адразу не пазнаў Аляксея ў ладным касцюме, жоўтых чаравіках і ў светлай кашулі.

— Таварыш Буевіч, пастарайцеся ўспомніць усе акалічнасці апошніх тыдняў дзейнасці вашай падпольнай групы,— дзелавіта папрасіў Асокін.

Аляксей пацёр лоб, задумаўся і пачаў расказваць, як па заданні сакратара райкома таварыша Сямашкі быў пакінуты ў Ельніцы, як назначаны старастам управы былы начальнік ашчадкасы Якаў Спірыдонавіч Самцэвіч прапанаваў яму пасаду сакратара, а Ніну Аляксандраўну Кавалеўскую ўзяў перакладчыцай.

— З Нінаю мы сябравалі перад вайною, таму і пры немцах я часта заходзіў да яе, а яна да мяне, але на лірыку часу не заставалася. Яна мне спехам расказвала, калі немцы рыхтуюць аперацыі на партызан, каго завербавалі ў агенты, як трымаюцца на допытах арыштаваныя патрыёты. Словам, пра ўсё, што ёй удавалася пачуць і падглядзець, пра што здагадацца. Я ўсё пераказваў Якаву Спірыдонавічу, а ён праз сваіх людзей перадаваў у лес. Выпісвалі мы прапускі, аўсвайсы і розныя пасведчанні і пераправулялі партизанам.

— Праз каго пераправулялі?

— Усіх сувязных я не ведаў. Да старасты заходзілі па «справах» розныя людзі, а ў канцы рабочага дня Якаў Спірыдонавіч хітра ўсміхаўся і шаптаў: «Усё ў парадку, Алёша».

— Не памятаеце, хто перад правалам часцей да яго заходзіў?

— Працаваў у нас у раёне нарыхтоўшчыкам такі Прахор Калістратавіч. Ездзіў ён па ўсіх сёлах, ведаў ледзь не кожнага. Майстра быў лавіць рыбу і варыць юшку. Ніводная раённая маёўка без яго не абыходзілася. Калі што каму трэба, з-пад зямлі дастане. І ў вайну ў яго астаўся каапературскі конь. Неўзабаве выдалі яму пасведчанне, і зноў паехаў Прахор Калістратавіч па сёлах скупляць прадукты для афіцэрскай сталоўкі, а больш пра сябе дбаў.

— А прозвішча яго як? — пацікавіўся Асокін.

— Пархімчук ці Пархімчык. Па прозвішчы яго ніхто і не зваў. Прахор Калістратавіч, і ўсё. І вось гэты Прахор Калістратавіч апошнім часам панадзіўся да Самцэвіча. Бачу, і той да яго вельмі прыхільны. Я неяк напомніў Якаву Спірыдонавічу, што стрыечны брат жонкі нарыхтоўшчыка служыць у паліцыі, і не радавым, а камандзірам аддзялення.

«А нам гэта і на руку»,— адказаў Якаў Спірыдонавіч.

— А хто вам прапанаваў ісці ў атрад?

— Выклікаў мяне Самцэвіч, бледны, разгублены, чаго з ім ніколі не было, і кажа, што за ім сочаць, правяраюць у яго адсутнасць стол, а ноччу ў садзе заўважаў нейкія постаці, і сабаку яго атруцілі. Тады ён і загадаў ісці ў лес, выпісаў камандзіроўку ў самую далёкую вёску і наказаў, каб выпраўляўся, не заходзячы дадому. «А вы?» — спытаўся я. «Пратрымаюся. Тут яшчэ адну справу трэба ўладзіць. Ды і кінецца ў вочы, што абодва зніклі».

Я хацеў захапіць з сабою Ніну, але Якаў Спірыдонавіч забараніў. «Не чапай. Яна патрэбна тут. І немцы ёй пакуль што давяраюць». Тады я запярэчыў: «Мяне не будзе, дык за яе адразу возьмуцца. Яны ж ведаюць пра нашы адносіны». «Мы ўсё прадугледзелі. У Заракушы цябе «арыштуюць» партызаны, звяжуць рукі, можа, і кухталёў для прыклёпу надаюць і павядуць у лес «расстрэльваць» як нямецкага пасобніка. Ты толькі трымайся разумна: плюй ім у вочы, супраціўляйся. А ў раён данясуць, што партызаны схапілі сакратара ўправы і звязанага пацягнулі ў лес. І стрэл будзе. Не хвалюйся толькі. Даставяць цябе куды трэба. Можа, гэтая аперацыя і з нас здыме падазрэнне. Перадай Сцяпану Ларыёнавічу, няхай рыхтуюць разгром гарнізона, тады яны і нас «арыштуюць», а карэньчыкі свае тут пакінем...»

Я сеў на веласіпед і, не спяшаючыся, выехаў з мястэчка. Усё было, як задумаў Якаў Спірыдонавіч. Хлопцы з атрада мне тады, праўда, добра намялі рэбры, а потым у лесе рагаталі і прасілі прабачэння. А праз тыдзень мы дазналіся, што Самцэвіча, Ніну, Васю Нічыпарука і Косцю Туркевіча павесілі немцы на плошчы,— Аляксей нізка апусціў галаву і змоўк.

Асокін дакладна запісаў яго расказ, папрасіў прачытаць і распісацца на кожнай старонцы, набраў па тэлефоне нумар і папрасіў прывесці да яго арыштаванага з васемнаццатай камеры.

Пакуль чакалі, Аляксей расказваў, дзе які дом стаяў на Савецкай вуліцы, дзе быў іх інтэрнат, як весела жылося ў студэнцкія гады.

У дзверы пастукалі. Падцягнуты маладзенькі салдацік увёў у пакой высокага, даўно не голенага чалавека з панурай галавою і закладзенымі за спіну рукамі. Ён лена нешта буркнуў і сеў на табурэтку пры дзвярах, а калі падняў галаву — аж пахіснуўся. І Аляксей здрыгануўся ад нечаканасці. На яго спадылба глядзелі знаёмыя чорныя вочы. Бледны твар асунуўся, абвіслі некалі сытыя, зарослыя асцюкаватаю шчацінаю шчокі.

— Вы ведаеце гэтага чалавека? — звярнуўся да Аляксея Асокін.

— Здаецца, Прахор Калістратавіч Пархімчык.

— Здаецца, ці на самай справе Пархімчык?

— Хоць і змяніўся, але ён.

— А вы, Пархімчык, ведаеце гэтага грамадзяніна? — паказаў Асокін на Буевіча.

— Ве-е-даю нямецкага прыхвасня.

— Назавіце прозвішча.

— Аляксеем Іванавічам звалі. А прозвішча настаўнікаў мала хто і ведаў. Буйкевіч ці Буйневіч, нешта такое.

— Што вы можаце сказаць пра дзейнасць Буевіча ў часе акупацыі?

— Ведаю, што служыў пісьмавадзіцелем управы, казыраў і прыслужваў немцам. Казалі, што ў Заракушы яго схапілі партызаны і расстралялі. Дзіўна, як ён выкруціўся.

— Сядзьце да стала і напішыце тое, што вы сказалі. — Асокін падсунуў аркуш паперы і ручку.

Пархімчык няўклюдна прашлёпаў расшнураванымі чаравікамі, падцягнуў штаны, сеў да стала, доўга думаў, пакуль пачаў пісаць. Калі закончыў, вярнуўся на сваё месца.

— На мінулым допыце вы сцвярджалі, што Самцэвіч вам даваў заданні распаўсюджваць лістоўкі, даручаў сувязь з партызанамі. Пацвярджаеце гэта?

— А як жа! Можа, сотні тых паперак раздаў людзям. І запольскаму лесніку перадаваў шпулькі нітак.

— Навошта шпулькі?

— Шпулькі? Пад ніткамі пісулькі былі.

— А дзе той ляснік?

— Не ведаю,— паціснуў плячыма Пархімчык.

— Можа, успомніце.

— Я і бачыў яго разы са два, не болей...

Аляксей уздыхнуў і заварушыўся на крэсле.

— Вы нешта хацелі сказаць, Буевіч? — павярнуўся да яго Асокін.

— Дубінчыка застрэліў паліцай Крэсік каля самай леснічоўкі, калі той спрабаваў уцячы...

— А Крэсіка вы ведалі, Пархімчык?

Ён злосна зіркнуў на Аляксея, адвярнуўся і прастагнаў:

— Хто яго не ве-е-е-даў?!

— Кім ён вам даводзіўся?

— Ат, хіба гэта даводзіўся? Жончын стрыечны брат. Адзін гарэў, а другі, шануючы вас, зад грэў — от і ўся радня.

— Скажыце, як вы даведаліся, дзе пасля вайны жыве Буевіч?

— Зайшоў у сельсавет. А старшыня ў нас чалавек наезджы, былы акружэнец, з партызанаў выйшаў, ён і пытаецца, ці не ведаю такога. Чаму, кажу, ведаю, у нямецкай управе служыў і нібыта партызаны застрэлілі. А ён мне пісьмо тыц пад нос. Зірнуў — праўда, жывы.

— І вы адразу туды ў раён напісалі?

— Навошта мне пісаць? Сельсавет адпісваў.

Асокін працягнуў Пархімчыку тоненькую папку.

— Вы пісалі? Пазнаяце?

— Нібыта я.

— А дакладней?

— Ну я, я пісаў. Што, няпраўда хіба? Служыў? Служыў. Як сумленны савецкі грамадзянін, абавязаны быў напісаць.

— Чаму ж вы схлусілі адразу, што не пісалі? — Пархімчык зірнуў на Аляксея.

— Ён жа тут сядзіць, паголены, чаравікі зашнураваныя, і штаны не падаюць, як мае...

Асокін нахмурыўся:

— Як сумленны савецкі грамадзянін, вы і гэта пісалі? — Ён дастаў з шуфляды зашмальцаваны спісаны аркуш з вучнёўскага сшытка з нямецкімі пячаткамі на ражку.

Пархімчык аслупянеў ад нечаканасці, сківіца адвалілася, ён пачаў хапаць паветра:

— Гэта, гэта не я... не сам... далібог, не сам... прымусілі... як дыктоўку пісаў. П'яны быў, не ў сваім розуме.

— Хто прымусіў?

— Швагер, гэты самы Крэсік, каб яму свет клінам. Прыплёўся п'яны, як гразь. Просіць дабавіць. Хрыстом-богам малю, няма. Палез у торбу, з якою я па сёлах ездзіў, і — трэба ж было! — намацаў там от

такенечкую лістовачку. Як усшалеў! У хаце да сценкі ставіць і спуск на ўзводзе трымае. Прашуся-малюся, што на дарозе падняў. Не верыць, вісус, у рот наган пхае. А каму ахвота паміраць? Дзе дзенешся? Бачу — не смешкі... Прызнаўся! У яго і хмель прайшоў. Кажа, калі хочаш жыць, ратуйся. А як ратавацца? Я табе, кажа, памагу. Выдраў паперку з сынавага сшытка. Кажа, пішы, а я далажу каменданту, што сам данёс, па сазнацельнасці і адданасці «новаму парадку». Дзе дзенешся? Напісаў. Як тут не напішаш: баба на карачках поўзае, лямантуе, яго, гада, за халявы хапае, мяне ўпрошвае дзіця не сіраціць. Хацеў я папярэдзіць Якава Спірыдонавіча, каб ратаваўся і ўсіх сваіх ратаваў, ды не змог. Гэты аглаед мяне жывасілам ноччу з мястэчка выпер. Кажа, едзь, каб ніхто і не падумаў на цябе. Не было — і ўсё. Паверыў, што праўда, пра мяне дбае. І паехаў, дурань. А вярнуўся — позна ўжо было...

Пабралі іх не адразу. Мабыць, правяралі ды высочвалі. Так сам на сябе пятлю накінуў і зашморгнуў. Можа, хлопца майго, Аляксей Іванавіч, пабачыце, хоць яму не кажыце...

Пархімчык зарумзаў, пачаў біць сябе па галаве кулакамі.

— Кіньце, Пархімчык, агідна і позна! Вы двойчы спазніліся. Першы раз тады, другі цяпер. Вы і нам хлусілі, выкручваліся, паклёпнічалі на сумленных людзей.

Тут жа дакладна напісана прозвішча Буевіча. Тады ведалі, а цяпер забыліся. Мы спадзяваліся, што самі ўсё раскажаце і заслужыце палёгку. А цяпер... Засталося аформіць пратакол.

XIII

Аляксей кожны дзень забягаў на пошту, выстойваў чаргу каля акенца з надпісам «Да запатрабавання» і часцей панура адыходзіў ні з чым. Верыны лісты ішлі марудна і доўга. Аляксей уяўляў замеценыя дарогі, трактар цягне шырокі клін з тоўстага бярвення, а следам завіруха забівае сумётамі толькі што працярэбленую ў снежным цаліку дарогу. Успаміналася ўсё да драбніц: Верын пакойчык з настылымі шыбамі, завалены снегам двор, вузкая сцежка паміж сумётаў, і яна з расчырванелымі на марозе шчокамі або схіленая над вучнёўскімі сшыткамі; чуў знаёмы голас, бачыў радзімую плямку над трапяткою жылкаю на шыі і светлыя добрыя вочы, адчуваў пах валасоў і цяпло рук.

Першы ліст аглушыў Аляксея. Вера падрабязна пісала пра той незвычайны педсавет, пра пагаласку, што пакацілася па сяле, пра насцярожанасць некаторых настаўнікаў. «А вучні да мяне цяпер асабліва горнуцца, нібы шкадуюць. Гэта кранае да слёз»,— пісала Вера.

Хацелася хутчэй збавіць яе ад непрыемнасцей. Ліст будзе ісці доўга. Атрымае і, вядома, нікому не пакажа. І Аляксей тут жа адбіў тэлеграму на адрас школы, бо ведаў — раней за ўсіх яе прачытае завуч: «Усё вельмі добра. Узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі і партызанскім медалём, аднавіў дыплом, прапануюць некалькі пасад. Вясною ўбачымся. Твой Аляксей». І, падумаўшы, дапісаў прозвішча. Бо Наталля Іванаўна можа сказаць: «Ці мала на свеце Аляксееў. Можа, які другі знайшоўся».

Ён некалькі разоў перачытваў ліст і з усімі падрабязнасцямі ўяўляў той бурны педсавет, разгубленасць Анатоля Паўлавіча.

Першае жаданне было адразу паехаць туды, усё паставіць на месца. А што далей? Веру сярод навучальнага года ніхто не адпусціць, і куды яе прывязеш? Ды і спраў яшчэ многа. Трэба з'ездзіць у Ельніцу і ў Заполле, хоць паглядзець на папялішча роднай хаты, пастаяць над матчынай магілаю.

За ўсе гады партызаншчыны і вайны Аляксею выплацілі немалыя грошы. Але без працы ён не мог. Сцяпан Ларыёнавіч раіў ісці інспектарам аблана, дырэктарам школы, даўні інстытуцкі таварыш Валодзя Вярбовіч выкладаў у інстытуце і запрашаў асістэнтам на кафедру беларускай літаратуры, нават абяцаў выпрасіць пакойчык у студэнцкім інтэрнаце. Аляксей шчыра прызнаваўся, што за вайну многае забылася, трэба ўсё аднаўляць і перачытваць. Хацелася агледзецца, знайсці пэўнае месца ў жыцці.

Разбіты, зруйнаваны горад глядзеў чорнымі правалам!, вышчарбленымі, гатовымі вось-вось асунуцца, сценамі, патыхаў куродымам і звільжэлаю сажай пажараў. Было няўтульна і пуста ў цёмных завулках, не ўсюды яшчэ гарэла электрычнасць, чадзілі керагазы і прымусы. У запушчаных за вайну школах замярзала чарніла, не хапала падручнікаў і сшыткаў... Так было скрозь, і лепшага Аляксей не шукаў — вайна і партызаншчына прывучылі да ўсяго. Але душою адчуваў, што наўрад ці стане гараджанінам, Ён любіў лясы і палявыя дарогі, ціхія, зарослыя аерам рэчкі, зорныя вечары, стракатанне конікаў у траве, марыў пра ўтульны пакойчык з рыплівымі маснічынамі, з цёплаю грубкаю і духам бярозавых дроў.

Вырашыў ні з кім не раіцца, а пайсці ў Міністэрства асветы і папрасіцца ў любую, дзе знойдзецца месца, школу.

Над Домам урада, над цэнтральным пад'ездам, у шэрым хмарным небе трапятаў на ветры чырвоны сцяг. Аляксей нрайшоўся па плошчы, паглядзеў на галоўны корпус пецінстытута, успомніў, як у веснавыя дні яны ўсёю групаю лазілі на самы верх, абгароджаны жалезнымі парэнчамі, загаралі і вучылі палітэканомію і антычную

літаратуру. Успамінаў аднакурснікаў. Дзе яны? Куды раскідала вайна?

У пакоі аддзела кадраў шчыльна стаялі сталы. Дзяўчаты і маладзіцы гарталі і перапісвалі паперкі, немаладая жанчына ляскала на машынцы. За сярэднім сталом невысокі мужчына ў суконнай гімнасцёрцы крычаў у тэлефонную трубку.

Аляксей здагадаўся, што гэта і ёсць загадчык, і спыніўся каля яго стала. Той паказаў на вольнае крэсла, працягваючы некага пераконваць:

— Няма, разумееце, няма. Фізікаў тым больш. Пашукайце на месцы. Можа, працуюць не па спецыяльнасці. Ёсць, ёсць такія. Паведаміце нам... Пры першай магчымасці прышлём. Абавязкова. Разумею, разумею. Ну, усяго добрага.

Аляксей здагадаўся з размовы, што і ў сярэдзіне навучальнага года не стае настаўнікаў, і ён зможа выбраць месца па душы.

Загадчык паклаў трубку і павярнуўся да Аляксея:

— Слухаю вас, таварыш... таварыш Буевіч? Рады вас бачыць.

— Так, Буевіч, але, прабачце, нешта не прыпамінаю... Нібыта сустракаліся, але дзе? — збянтэжыўся Аляксей.

— Дзе вам усіх помніць? Я вучыўся на гістфаку курсам маладзей. Слухаў вас на камсамольскіх сходах, бачыў на вечарах, а нас рэдка заўважалі старэйшыя. Шарупіч мае прозвішча. Вось адразу пасля вызвалення пасадзілі ў гэтае крэсла і кручуся як Марка ў пекле. Школы адкрылі, а вучыць няма каму. З раніцы да вечара толькі і чуеш: «Давай, давай матэматыкаў, славеснікаў, географаў». А дзе іх узяць? Наадкрывалі настаўніцкіх інстытутаў у Бабруйску, у Баранавічах, у Пінску, у Полацку, і яны не ўкамплектаваныя. Калі вас цікавіць работа, вось на сцяне карта, выбірайЕіе любое месца. Чакайце, чакайце, адразу магу прапанаваць Брэст. Там у педвучылішчы няма славесніка. Працавала жонка афіцэра. Яго перавялі. А мне ламай галаву, кім замяніць. Давайце адразу ў Брэст. Харошы, утульны горад, амаль не разбіты. З першых дзён немцы грамілі крэпасць, а горад знішчыць не паспелі. Пішыце заяву, і адразу афармім.

— Шчыра кажучы, я не вельмі імкнуўся ў горад. Мне прапаноўвалі некалькі пасад. Падумаў, падумаў і адмовіўся. Люблю вёску або хоць бы мястэчка. Там больш самастойнасці, і сельскіх дзяцей лепш разумею.

— Павел Пятровіч, можа, пазнаёміць з «хадакамі» з Парэцкай школы, што зранку заходзілі да вас? — спытала маладая чарнявая дзяўчына за суседнім сталом.

— І то праўда. Пашукайце, калі ласка. Яны недзе тут.

Шарупіч расказаў Аляксею, што вымушаны былі закрыць дзесяты клас, бо няма выкладчыка з вышэйшай адукацыяй. Дзяцей перавялі ў райцэнтр за 35 кіламетраў, жыць ім няма дзе, прадукты вазіць далека, вось і прыехала дэлегацыя прасіць настаўніка. Пасёлак, праўда, напалову спалены, школа размясцілася ў некалькіх прыстасаваных будынках, але мясціны вельмі маляўнічыя і пры самай чыгунцы.

— Тым больш, недалёка ад майго раёна,— сказаў Аляксей.— Але пакуль што вяртацца туды не магу. Вельмі многа страт і балючых успамінаў будзе вярэдзіць душу і замінаць у працы. Агледжуся трохі, перабаліць, можа, і назад у Ельніцу пераеду.

Ён падышоў да карты, паглядзеў, як туды даехаць, прыкінуў, што не больш, як кіламетраў за восемдзесят ад яго родных мясцін, і згадзіўся. Яму стала шкада дзяцей: ведаў па сабе, як няпроста жыць у чужых людзях.

Следам за дзяўчынаю ўвайшлі тры хлопцы, усе ў бахілах. На чарнявым, з ледзь прыкметнымі вусікамі, перашыты шынель. Другі ў кажушку, са зведзенымі да пераносся бровамі і ўпартым віхром над высокім ілбом; самы меншы, белы, як свежая пшанічная аладка, у залацінках вяснушак і з саламянаю стрэшкаю даўно не стрыжаных, аж пазакручваных валасоў.

— Вось, хлопцы, пазнаёмцеся з таварышам Буевічам. Калі ўгаворыце, адкрыем ваш дзесяты клас,— з усмешкаю паказаў Шарупіч на Аляксея. А хлопцы тапталіся з нагі на нагу, камечылі шапкі.

— Ну, чаго маўчыцё? То пагражалі міністрам, а калі трэба — цяляты языкі аджавалі.

— Як тут угаворваць? — падняў галаву хлопец у шынялі.— Школу нашу спалілі, цяпер вучацца ў трох прастарнейшых у пасёлку дамах, многія яшчэ жывуць у зямлянках, але вас мы прыстроім у самую лепшую кватэру, папросім бацькоў, каб памаглі. Паедзем да нас, не пашкадуеце.

— Праўда, праўда,— падхапілі абодва яго таварышы.

Аляксей распытваў, якая там рэчка, ці блізка лес, колькі настаўнікаў, як далека да станцыі.

— У нас і бровар ёсць,— як апошні козыр, кінуў бялявы хлапец.

Аляксей засмяяўся:

— Гэта не для мяне. Што ж, бадай, угаварылі. Вы калі дадому?

— Калі вы згодны, сёння паедзем,— адказаў чарнявы,— а не, будзем яшчэ дамагацца.

— Згодзен. Што трэба, таварыш Шарупіч?

— Заява, дыплом і запоўніць анкету. Хоць я вас і ведаю, але дакументы аформіць неабходна.

Аляксей на краёчку стала пачаў запаўняць анкету.

— Дык калі вас можна чакаць? — спытаў смялейшы, у перашытым шынялі.

— Дні праз чатыры буду. Заеду ў райана, здам загад і прыеду.

Хлопцы падзякавалі начальніку аддзела кадраў, развіталіся і выйшлі з пакоя.

— Як тут не паедзеш? Такія хлопцы! Перарослі ўсе, а да вучэння, відаць, лютыя.

— Перарослі ў кожнай школе. У першы клас адразу пасля вызвалення дзесяцігадовыя ішлі,— растлумачыла дзяўчына, што прыводзіла «хадакоў».

На Аляксея навалілася безліч клопатаў. Галоўны — падручнікі. Знайшоў на рагу Камсамольскай і Нямігі маленькую крамку, перакапаў усе паліцы, упрошваў загадчыцу, але так нічога і не знайшоў. Тая толькі параіла пашукаць на Камароўскім рынку: там часам прадаюць старыя падручнікі. І праўда, сім-тым разжыўся ў нейкага дзядка. Забег да Валодзі Вярбовіча, выпрасіў граматыку, бо ўвесь час лавіў сябе на тым, што пазабываўся правілы.

Даўні інстытуцкі таварыш выслухаў яго і толькі паківаў галавою:

— Дурнем быў, дурнем і застаўся. Ідэаліст. Так ты да скону дзён не выб'ешся. Абсядуць жонка, дзеці, завядзеш карову, парсюкоў, будзеш сляпіцца над сшыткамі, бегаць на дзесяцідворку, падпісваць на пазыку і на газеты, і ніякай перспектывы. А тут можна аформіцца ў аспірантуру, заняцца навуковаю работаю, з тваімі здольнасцямі да прафесара дацягнуць. Ка-адраў жа няма, Адумайся, Аляксей.

— Хочаш сказаць: на бязрыб'і і рак рыба? Не хачу быць такою кадраю. Паспрабую, чаго я варты ў школе, а там будзе відаць.— Падзякаваў за падручнікі і, стрымана развітаўшыся, пайшоў.

З раённага цэнтра ў Парэчча Аляксей прыехаў у кузаве грузавіка на змярканні. Дапытаўся, як знайсці школу, і пайшоў пасярод забрукаванай вялікім каменнем вуліцы. Канчаўся снежань, а зямля была голая і гулкая ад марозу, толькі сям-там каля платоў бялелі прыцярушаныя лагчынкі. У вокнах гарэлі лямпы, на пустках тырчалі прывіды закураных каміноў, шумеў пасохлы палын і адзінокія каноплiны. Ён адчуў цёплы дух хмельнай брагі і ўспомніў, што хлопцы гаварылі пра бровар, а недзе побач і школа.

Сярод парадзелага саду стаяў доўгі прысадзісты дом, у двары вецер хвастаў валейбольную сетку, тырчалі пахіленыя шулы без варот. У слаба асветленых вокнах Аляксей убачыў схіленыя над партамі галовы вучняў. З другога канца ўзышоў на ганак і здагадаўся, што тут

нехта жыве: плакала дзіця, мітусілася постаць жанчыны. У цёмных сенцах намацаў клямку і пастукаўся.

— Адчынена. Заходзьце,— пачуўся жаночы голас.

Аляксей увайшоў і зажмурыўся ад святла лямпы.

Ён не памыліўся: у невялікім пакойчыку пры школе кватараваў дырэктар. Пасля прывітанняў пацікавіўся, дзе можна пабачыць Івана Пракопавіча.

— Зараз прыйдзе,— адказала невысокая прыгожая і крамяная маладзіца, запрасіла распранацца і пачакаць.

Аляксей павесіў на цвік паліто і сеў на доўгую лаву. З-за сцяны даходзіў гул класа, а ў калысцы плакаў хлапчук гадоў двух.

— Сціхні, неслух, бо папругі заробіш! — сунімала гаспадыня сына.

Аляксей выцягнуў з кішэні паліто цукерку ў тонкай абгортцы, падышоў да хлопчыка, хацеў пагладзіць па галоўцы, але той адхінуўся і засланіўся ручкамі.

— Цукеркі ты любіш?

Хлопчык кіўнуў галавою і ўсміхнуўся, але адразу не ўзяў, яшчэ трохі пабычыўся, а неўзабаве ўжо сядзеў у Аляксея на руках і смактаў ружовую цукерку.

У сенцах грукнулі дзверы, нехта затупаў, бразнулі дужкі вёдраў. У сенцы выскачыла гаспадыня.

— Там цябе чалавек чакае.

У хату ўвайшоў высокі мужчына ў кароткай паддзеўцы з шынельнага сукна, у бурках з бахіламі і ў кубанцы, выцер рукі аб трапкач і ветліва павітаўся з Аляксеем.

—Другі дзень чакаем вас... Здаецца, таварыш Буевіч?

— Так, Аляксей Іванавіч. Затрымаўся ў райана, ды і выехаць да вас не так проста. Цягнік ходзіць праз суткі, а машыну ледзьве знайшоў.

— Мне ўжо шафёр сказаў, што новага настаўніка прывёз, і дзесяцікласнікі вушы пратрубілі. Добра, што прыехалі. А то якая гэта дзесяцігодка без дзесятага класа? Ды і вышэйшая адукацыя толькі ў мяне ды ў матэматыка.

За сцяною зазвінеў званок, пачуліся гул, крыкі і тупат, гоман і галасы вучняў.

— Вось так і вучымся. Гэта былы папоўскі дом. Перагарадзілі і вучымся, і яшчэ дзве хаты займаем. А да вайны якая тут была школа! На тры паверхі, кабінеты такія не ў кожнай мінскай знойдзеш. Цяпер толькі падмурак астаўся. Двойчы прыязджаў інжынер з аблана, глядзеў, мераў. Мо.жа, калі і пабудуемся, а пакуль што... Дзяцей жа

неяк трэба вучыць. За вайну перараслі, многае пазабывалася, ды і з настаўнікамі не густа. Па трыццаць гадзін некаторыя маюць.

— Першы клопат у мяне, Іван Пракопавіч, стаць дзе-небудзь на кватэру, хоць невялічкі пакойчык зняць.

— О-о-х,— уздыхнуў дырэктар,— гэта самае складанае. Палавіна людзей — у зямлянках, а ў хатах па тры сям'і. Але нешта знойдзем. Бачыце, як сам жыву. Каб было дзе прыткнуцца, клас размясцілі б. Сямейных ніхто не хоча, а вы ж, мабыць, пакуль што адзінокі?

— Пакуль адзінокі.

— Нашы маладзіцы ды ўдавіцы скора акруцяць, і кватэра гатовая будзе,— засмяяўся дырэктар.

— Хіба што на кватэры ажаніцца,— пажартаваў Аляксей.

Успомнілася перасцярога Валодзі Вярбовіча пра дзяцей і парсюкоў. Але ж так не можа быць доўга. Няпраўда, акрыяем, адбудуемся, станем на ногі. І сам сябе папракнуў: «Бач ты, заныў! У вайну толькі і думалі, каб як перамагчы, каб не рваліся снарады і не падалі бомбы. А цяпер ужо мулка, захацеў на гатовенькае. Хто ж яго, гатовенькае, дасць, калі не самі?» Суцешыўся і павесялеў.

А на прыпечку ўжо сквірчэла яечня, на стол гаспадыня паставіла міску шаткаванкі і заткнутую газетаю запацелую пляшку. Іван Пракопавіч пайшоў «па класах». За сцяною прыбіральшчыцы совалі парты, бразгалі вёдрамі, малады голас спяваў «На позицию девушка провожала бойца». Гаспадыня пастукала ў сцяну. Песня сціхла.

— Кожны вечар малому спаць не дае,— паскардзілася расчырванелая пры печы гаспадыня, выйшла ў сенцы, гукнула: — Ваня, ідзі, вячэра стыне.

Дырэктар разліў спірт-сырэц у рубчастыя шклянкі.

— Ну, за сустрэчу, знаёмства і ўсё добрае.

Выпіла і гаспадыня. Аляксей толькі прыгубіў і паставіў шклянку. Жонка з мужам узяліся яго ўгаворваць, ён яшчэ трошкі адпіў.

— Ні ў партызанах, ні на фронце, ні нават у Сібіры не прывучыўся да гэтага зелля.

— А вы і ў Сібіры былі?

Аляксей коратка расказаў пра свае партызанскія і франтавыя прыгоды, успомніў Мішу Усцігава.

Начаваў ён на канапе пад тонкаю посцілкаю, а калі прачнуўся, адразу не ўцяміў, дзе ён і як сюды трапіў. Дырэктара ўжо не было. Аляксей хуценька адзеўся, апаласнуўся, а як палез у кішэню па грабянец, падбег маленькі Воўка.

— Дай ясцэ,— працягнуў далоньку.

Пасля снядання дырэктар павёў Аляксея ў настаўніцкую «знаёміць з калектывам». У маленькім пакойчыку вісела некалькі геаграфічных картаў, стаяў невялічкі глобус, на акне — альяс. Па раскладзе вадзіў пальцам невысокі падцягнуты чалавек з голенаю галавою, у накінутым на плечы афіцэрскім шынялі.

— Наш выкладчык фізкультуры,— пазнаёміў дырэктар.— Міхась Адамавіч, там, каля вас, не знойдзецца пакойчыка для таварыша Буевіча?

— У кожнай хаце людзей... Каля пошты адна развядзёнка шукае нежанатага кватаранта, і хата добрая, уся ў сурвэтачках ды накідачках, але раіць баюся...

— Чаму? —здзівіўся Аляксей.

— Ажэніць...— усміхнуўся Міхась Адамавіч.

— Мне б у якой бабулькі пасяліцца, каб і зварыла, і кашулю памыла.

— Хіба да Францусі схадзіць, а, Іван Пракопавіч? Яна ж адна паўхаты займае, хоць і бурклівая, але паладзіце. У мяне дзве гадзіны фортачка, магу завесці,— прапанаваў Міхась Адамавіч і пайшоў з Аляксеем наймаць кватэру.

На ўзгорку за школаю бялела вялікая будыніна бровара. Каля бровара выгіналася нешырокая рачулка, зарослая парудзелым аерам, зашклёная тонкім лядком, у прамыінах віравала чорная вада.

— Да вайны наша Парэчча было амаль курортным пасёлкам. Дачнікі нават з Ленінграда наязджалі. А лясы ў нас якія! От пабачыце. Рынак ажно ўгінаўся ад дабра. Грыўня — вядро яблык...

Каля чыгункі тырчалі стрэшкі зямлянак з дзіравымі вёдрамі і чыгунамі замест каміноў, на пагарэлішчах стаялі закураныя печы, а справа, ад ракі, трапляліся добрыя дамы з ганачкамі, верандамі і садкамі. Ад марозу дзе-нідзе патрэскалася зямля, вецер гна$ і круціў пясок, хвастаў голым веццем.

У вузкім завулку зайшлі ў хату з прыбудоўкаю з новага бярвення.

Палавіна, на якой жыла бабка Франуся, яшчэ была не атынкаваная, з пазоў тырчаў мох і сухі чарнічнік. Высокая, з доўгім тварам, чорнымі вачамі гаспадыня нешта латала, еедзячы на ложку. Не адрываючыся ад работы, яна пачала ставіць умовы:

— Чыгункоў у мяне толькі два, так што на прысмакі няхай не разлічвае. Калі згодзен, няхай жыве,— гаварыла Франуся, а потым звярнулаея да Аляксея: — Гарэлачку не вельмі? А то жыў у мяне адзін, от нацярпелася: ледзьве выправіла.

— Гарэлкі зусім не п'ю, ад прысмакаў адвык, грошы вазьміце наперад, а там будзе відно.

Гаспадыня акінула Аляксея позіркам, усміхнулася.

— Відаць, дзелавы. Калі ж пяройдзеш?

— Зараз прынясу ад дырэктара чамадан. Вы нікуды не пойдзеце?

— Куды мне ісці? Падлогі ў лясніцтве досвіта мыю ды ўвечары недакуркі вытрасаю.

Аляксей падзякаваў Міхасю Адамавічу, распытаў, дзе пошта, і пайшоў па доўгай пясчанай вуліцы ў другі канец пасёлка.

У тэлеграме Веры напісаў, што прыступіў да працы, паведаміў свой новы адрас і прыпісаў: «Хвалююся, чакаю лістоў».

Снег толькі пасля Новага года прысыпаў пагарэлішчы і глыбокія выбоіны на дарогах, усё наваколле заіскрылася хрусткім сняжком. Аляксей рана ўставаў і позна клаўся, хоць і бурчала цётка Франуся, што дарэмна пераводзіць газу, копціць махоркаю хату і не шануе сябе. Яна варыла яму капусту і тушыла бульбу, пякла пульхны хлеб, а суботнімі вечарамі мыла кашулю, каб у чыстай ішоў у школу.

У класе ён забываўся пра ўсе нягоды, захапляўся сам і бачыў, што вучігі яго слухаюць з іскрынкамі ў вачах, дапытваюцца, даходзяць да сутнасці, пасля званка доўга затрымліваюць пытаннямі, а то і спрачаюцца, так што не заўсёды ўдавалася забегчы ў настаўніцкую перакурыць і занесці журнал: Аляксей перадаваў яго настаўніку, які прыходзіў на змену. Асабліва падабаўся дзесяты клас: дарослыя хлопцы і дзяўчаты разважалі і трымаліся па-даросламу, і ён гаварыў з імі проста і шчыра пра ўсё, што іх хвалявала і цікавіла. Гаварылі пра сумленнасць, пра сяброўства і каханне, якое ўзвышае чалавека, робіць яго адважным, лепшым, таленавіцейшым і чысцейшым.

У настаўніцкай прыгожая чарнявая «геаграфічка», што заглядалася на Аляксея, сустрэла яго смехам:

— Ну, скачыце, Аляксей Іванавіч, а то не аддам.— Яна паказала з-за спіны канверт і схавала зноў.

— На вялікі жаль, не ўмею. Дайце, калі ласка, ліст.

— Можам навучыць, калі захочаце. Скачыце, як умееце.

Аляксей ледзь не ўзлаваўся.

— Ладна. Цешцеся лірыкаю свае сібірачкі,— і яна падала канверт.

Аляксей яго спрытна сунуў у кішэню. Да канца ўрокаў так і не ўдалося прачытаць. Толькі дома ён, хвалюючыся, разарваў канверт.

«Мой дарагі Алёшачка!

Як я рада, што ўсё ў цябе так добра склалася, што знайшоў сваё месца ў школе. Вядома, у інстытуце было б цікавей, але чалавек фармуецца за партаю. Акадэмікі і хірургі, паэты і маршалы — усе былі вучнямі, іх таленты разбудзіў просты вясковы настаўнік. Будзь настаўнікам і ты, а інстытут нікуды не дзенецца.

Ты пытаеться, як жыву. Дзень падобен на дзень: дом — школа, школа — дом. Але ў кожным дні нешта ёсць сваё, непаўторнае. Добра прайшоў урок, уважліва слухалі дзеці, задавалі пытанні, прасілі расказаць яшчэ — вось і радасць, а пройдуць заняткі так сабе — і дзень шэры. Пасля тваёй тэлеграмы Наталлю Іванаўну і не пазнаць. Робіць выгляд, што нічога і не адбылося, нават усміхаецца часам. А на апошнім педсавеце пахваліла мой урок.

Вечарамі слухаю завею і як патрэскваюць ад марозу вуглы, знаходжу зорку Венеру і думаю — можа, і ты глядзіш на яе. Але наўрад: у нас ноч, а ў вас яшчэ вечар. Ох, як далёка ты! Нават сонца нам свеціць у розны час, але я з ім заўсёды пасылаю табе прывітанні і адчуваю, як ты мне неабходны. У думках дзякую таму інспектару аблана, што паслаў мяне сюды. Мы ж маглі ніколі не сустрэцца.

Нядаўна ў сяло прыбыў новы фінагент, малады, фарсісты, і з тыдзень усё «выпадкова» сустракаў мяне то каля школы, то каля сельсавета, загаворваў, праводзіў, набіваўся ў госці. Я яму аднойчы і выпаліла: «Пашкадуйце свае валёнкі. У мяне ёсць муж. Не верыце? Спытайце ў Наталлі Іванаўны — яна ўсё ведае». Што ты думаеш? Адстаў.

Ты прабач, што сказала так. Проста каб адчапіцца. А надоечы мне трапіла кніжка Уолта Уітмена. Ты яго, вядома, чытаў і раней. Спачатку ніяк не магла прызвычаіцца, што гэта вершы, а ўчыталася, і адкрыўся цэлы свет думак і пачуццяў. Адзін радок уразіў асабліва: «Я без ваганняў пайду за тым, хто загаварыў са мною голасам праўды». Са мною так загаварыў ты. За табою гатова ісці хоць на полюс. Калі ж мы сустрэнемся?

Шлюць табе прывітанне Анатоль Паўлавіч і настаўнікі, асобна Віця Тартынскі і ўсе драмгурткоўцы. Мы рыхтуем п'есу «Чырвоны гальштук» і адчуваем, што нечага, а дакладней некага, не хапае.

Міша скардзіцца, што рэдка пішаш. Скарджуся і я. Пішы часцей. Кожны дзень пішы. Чуеш? Будзем чакаць вясны!

Цалую. Твая Вера»,

Аляксей захадзіў па пакоі. Бабка пайшла ў лясніцтва, і ён быў рады адзіноце.

«За што яна гатова ісці хоць на полюс?» Падышоў, паглядзеўся ў люстэрка. На скронях паблісквала некалькі серабрынак. «Няхай. Хоць і ранавата сівець, але нікуды не дзенешся».

За акном круціўся і шамацеў па шыбах густы снег.

## РУДАБЕЛЬСКАЯ РЭСПУБЛІКА

### Частка першая

I

За вокнамі шорсткая сіверная ноч — ні агеньчыка, ні знічкі. На прыпынках вецер сячэ дробным пяском у вагонныя шыбы. Састаў з цяплушак і цялятнікаў гайдаецца з боку на бок, тузаецца на стыках і сяк-так паўзе ў цемрадзь: прыпыніцца, адсапецца, залапоча з шырокай, як халява, трубы параю, скранецца і зноў тузаецца і валюхаецца далей.

У закураных ліхтарах перамірґваюцца, датляваюць свечкі. Многіх у вагоне не бярэ сон: хто ўздыхае, хто нешта мармыча, нехта разважае ўголас:

— От тыя бальшавікі кажуць: зямля — мужыку, хвабрыкі — масцеравым. Сказаў, як звязаў, а паткніся ўзяць тую зямельку, і вокам не міргнеш, як, чаго добрага, зноў у кутузку павалакуць, і сілу дарам уваб'еш, і насенне, як у пельку, боўтнеш. Усё парушылася, нічога не дзержыць. Прадзярэш вочы, і няма ў каго спытаць, якая сённячы ўласць. Раніцаю адны, ноччу — другія. Пасеяць пасееш, а хто жаць будзе, от вапрос. І вокам не міргнеш, як урэжуць па сухарэбрынах, не раўнуючы за панам Іваненкам.

— Онь што ўспомніў! Калі тое было? Тады ж тую слабоду па Мікалашкавым дзякрэце давалі шомпалам ды бізуном. А цяпер, шчытай, слабода праўдзешная — без цара і без пана.

— От пацеха, браце, скажу табе, у Бабруйску была. На Казначэйскай, ак-к-к-урат процi чайной, падыходзіць куды большы за цябе зда-а-ра-віла да гарадавога, казырнуў дзеля пацехі ды як храсне па рылу от такім, з добры чыгунок, кулаком. Хоць бы той азваўся, выцер жменяю юшку, лахі пад пахі ды — ходу.

Упоцемку не відно, хто гаворыць, толькі галасы то хрыпатыя, то густыя бухалі, як у дзежку, гулі, перакочваліся ў пракіслым ад кажухоў і даўно прапацелых зрэбнікаў вагоне.

— Гэта за Мікалаем яны смелыя, а цяперака не раўнуючы як пацукі ад кацінага духу ў норы шыюцца. А як ты скажаш, зямля наша ці не? — не адставаў салдат з пшанічнымі вусамі і закручанаю брудным бінтам рукою. У ліхтары затрашчаў, угарэўся агарак, і трохі можна было агледзецца ў вагоне.

— Бытта яна і наша, але ці будзе з таго каша? — сумняваўся маленькі, як сушаны казляк, дзядок з рудзенькаю бародкаю на пераараным глыбокімі разорамі твары. На дзядку была выцертая

шарачковая світа, на тоўста накручаных анучах стаптаныя маршчакі. У правале бяззубага рота храгіла і свістала счарнелая люлечка. Ён не вельмі пярэчыў, але і не вельмі верыў і ўсё перапытваў: «А ці праўда? Ці так яно будзе?»

Гаманіў увесь вагон. Варта аднаму пачаць, як разварушацца ўсе. У дыме самакрутак то знікалі, то выплывалі аблічча, перакрэсленыя чорным ценем.

Да гаворкі суседзяў прыслухоўваўся салдат у шынялі без пагонаў і ў стаўбунаватай прапаленай шапцы. Ён сядзеў у куточку, сціскаючы каленямі вінтоўку, прыслухоўваўся, што кажуць паранены салдат і дробненькі дзядок. Відаць, абодва з іхняй воласці, калі ведаюць пана Іваненку і памятаюць тую дзяльбу, што кончылася казацкімі бізунамі. Свае-то свае, але дзе ты пазнаеш праз столькі гадоў у густым пракураным змроку?

— Скажы ты мне, а ці доўга прадзержыцца тая ўласць? — не сунімаўся дзядок.— Дом Раманавых стаяў трыста гадоў, а Керанскі і паўгода не выцягнуў. Праўду ці не кажуць, у бабскай спадніцы ад таварышаў драла даў.

Чалавек у шынялі высунуўся на святло, прыгледзеўся да старога:

— Ці не з Карпілаўкі часам будзеце?

— А ты чый такі ўгадчык? Пастой, пастой, лічнасць, здэцца, тутэйшая. Эге, ці часам не Раманаў хлопец сыскаўся? Толькі каторы, а?

— Праўда, пазнаў. Большы. Ляксандра Я.

— Я то і думаю, ці не Раманаў гэта латышок?.. У водведкі, а можа, і насаўсім?

— Пара насаўсім. Наваяваўся за сябе і за ўнукаў, калі суджана. Час за зямлю брацца. А яна, дзед, наша. Крывёю чынш заплацілі і купчую сам таварыш Ленін падпісаў.

— А можа, ты кантужаны, Сашка, што ні мяне, ні старога не прызнаў? — павесялеў салдат з перавязанаю рукою.

— Тады і ты, выходзіць, кантужаны. От цяпер бачу, што Анупрэй. Ну, здар-р-оў! — ляпнуў Аляксандр салдата па плячы.— Дзе ж цябе, чорта, пазнаеш. Завусацеў, перапаў, толькі нос ды пашчэнкі тырчаць. Як гэта табе собіла нарвацца на дурную кулю?

— Эт, ерундовіна. Кукса гэтая ў мяне за пропуск служыць, каму ні тыцну,— дарогу дае. Цяпер дадому па чыстай. Тры гады са смерцю ў жмуркі гуляў. Перахітрыў бязносую.

— А я, брат, сёмы год як з дому,— памаўчаўшы, уздыхнуў Аляксандр.— І хрэн яго ведае, дзе цяпер той дом.

— Ха, чашы праменька ў Харомнае. Стары з Ганнаю ды Марылькаю да-а-ў-но туды пераехалі,— сказаў дзядок.— Пан яго з Хлебавай

паляны ментам прапёр. А колькі ён там, небарака, карэнняў пападраў. Зямлю на пух вырабіў, а пачала радзіць, каленам пад зад — і ўвесь табе лад. Дык ён цяпер у Гатальскага з траціны петуецца. З дачкою ўпрэгліся, а сыны за веру, цара і ацечаства ў акопах крываваю юшкай умываюцца.

— Цяпер і я бачу, што гэта дзядзька Цярэшка. Змарнелі ж вы нешта. Каб так дзе сустрэў, дык, хоць забі, не прызнаў бы.

— Дзіва што змарнеў. Не з вяселля, браце, еду. Дзесяць месяцаў вошы ў бабруйскай цюрме прудзіў. Баланды з тараном пасёрбаеш, сухара згрызеш, а дровы цэлы дзень рэж.

— За што ж гэта вас? — запытаў Аляксандр.

— Каб жа ведаў за што! Ат, за пусты мех, а ў мяху смех. Прысукаўся Урангелеў гіцаль з двара, бытта хвойку ў панскім лесе спусціў, каб з яго сукравіцу пускалі. І павалаклі Цярэшку ў казённы дом. Каб жа сядзець! Пасядзеў бы ўжо, хоць аддыхнуў бы за свой век. Дзе ты бачыў! Трасцу ўседзіш — ускочыць у камеру стражнік і давай сашкаю ад патыліцы да галёнак хвастаць. Дальбог, мужчынкі, не пры вас кажучы, шкура, як на сабаку, трашчыць, хоць на бубен нацягвай. І трэба ж такое шчасце! Якраз перад тым, як Мікалашку скінуць, упяклі аж на тры гады. Тых, што проці цара гаварылі і афішкі падкідалі, павыпускалі, а мне кажуць: «Сядзі, зладзюга». От і сядзеў.

— Хто ж цябе выпусціў, дзед? — запытаў Аляксандр.

— Хто? Хто? Дай ім бог здароўечка, бальшавікі. І трэба ж якраз сну прывярэціся. Ні з таго ні з сяго гарачымі аладкамі запахла і бытта старая снедаць катурхае. Ускочыў, аж дулю пад нос — цюрма, братачка, цюрма. Ні аладак, ні бабы. Ужо і вывіднела, а падъёму не звоняць, пайку не даюць і на работу не гоняць. Паўставалі, у дзверы гасім — хоць бы табе жывая душа азвалася. Чуваць толькі — бегае нехта па калідоры. Пагрукалі крапчэй, аж завала — бразь. Ускаквае ў камеру нейкі чорненькі, от такенькі, не больш за мяне, у хромавым каптаніку і шапка ўся шкураная. Ага, дальбог, не брашу. Ускаквае і кажа, дай яму доўгі век, выходзьце, кажа, з вяшчамі. Слабода, кажа, таварышы. Новы пераварот у Піцеры. Самы глаўны бальшавік, бытта, бумагу выпусціў, што слабода ўсім. І яшчэ праўда ці не, але казаў, што зямля — мужыку без усялякага там выкупу, а хвабрыкі — масцеравым за так аддадуць. Ета, казаў, Савецкая ўлада завецца. А цэрквы і цюрмы, кажа, трэба зраўняць з зямлёю. Ну, цюрмы я сам бы ўсе папаліў, а што ім цэрквы зашкодзілі? Без бога, як той казаў, ні да парога. Без веры чалавек, як гавяда бязрогая.

Аляксандр засмяяўся. Ён паклаў руку на плячо старому:

— Царква, дзядзька Цярэшка, тая ж цюрма для душы чалавека. А колькі зямлі папоўскай па ўсёй Расіі! Чыя яна? Наша! На фронце равуць грывастыя стаеннікі з крыжамі ў руках, забіваць бласлаўляюць, на смерць жывых саборуюць, а за што? От і мазгуй, чыя вера лепшая.

У ліхтары дагарала свечка. Вагон стукаў і рыпеў, зыбаючыся на стыках і стрэлках. За акном чарнела асенняя ноч. Аляксандр на самай верхняй паліцы ўгледзеў шчыгульныя хромавыя боты, што вытыркаліся з-пад афіцэрскага шьгаяля, цёмную патыліцу, а вуха і твар былі прыкрыты вайсковай фуражкай без какарды.

— Нейкае ваша благароддзе едзе ў наш бок,— кіўнуў на паліцу.

— Садзіўся аскубаны афіцэрык без палетаў, і гузікі сукном паабшываныя. Здэцца, з Ермаліцкай пароды. Як зашыўся ў Бабруйску, дык дасюль не чхнуў ні разу. Відаць, не ў свой вагон сеў,— адказаў стары Цярэшка.

Цягнік спыняўся каля нейкіх слабенькіх агеньчыкаў, чухкаў паравоз, знадворку чутна была лаянка асіплых галасоў. За акном праплывала жоўтая пляма ліхтара, спалохана вішчаў гудок, і зноў павольна ляскалі колы, калыхаўся састаў і поўз у цемрадзь.

У вагоне храплі, чухаліся і мармыталі спрасоння. Стаяў цяжкі дух разапрэлыхануч і аўчын, пякельнага самасаду і дзёгцю. У цёмных кутках дзядзькі гаманілі пра надзелы, пра казённы і панскі лес, пыталіся адзін у аднаго, ці надоўга тая слабода, ці не боязна дзяліць зямлю, каб потым гэта бокам не вылезла.

Аляксандр прыткнуўся на краёчку лаўкі, прыплюшчыў вочы, але не спаў. Ён прыслухоўваўся да ўсяго, пра што гаманілі. Сялянскія трывогі і няўпэўненасць былі зразумелыя яму: людзям не верылася, што зямля можа быць іхняй — скінулі цара, а паны як былі, так і асталіся, і той жа стражнік з мешалкаю пры боку хадзіў па сяле і не аднаго такога Цярэшку ні за панюх табакі загнаў у кутузку. От і баяцца яшчэ. А яны ж цяпер самі — сіла. Толькі адкрый ім вочы, каб паверылі ў сябе, каб зразумелі, што стрэслася ў свеце.

Аляксандр успамінаў усё, што бачыў і перажыў за гэты тыдзень. Няўжо прайшоў толькі тыдзень? Ён зірнуў на свае каляныя чаравікі. Здавалася, з іх яшчэ не атросся пыл петраградскіх вуліц, а шынель пахне дымам кастроў, што палалі ля Смольнага і на плошчы перад Зімнім. Ён бег разам з матросамі і салдатамі па гэтай плошчы, лез праз чыгунныя вароты, туліўся да шурак дроў, да мокрых сцен. Потым па мяккіх дыванах ступаў з прыступкі на прыступку, усё вышэй і вышэй, у такім бляску, што аж сляпіла вочы. Бачыў, як матросы выводзілі напалоханых чырванамордых міністраў у расшпіленых

мундзірах і накінутых на плечы палітонах, як салдаты ў вялізных залах, у пераходах, калідорах і цёмных бакоўках шукалі Керанскага.

Круцілася ў галаве кола ўспамінаў: даўжэзныя гаманлівыя, поўныя салдат і матросаў калідоры Смольнага. Здавалася, ён і цяпер чуе бразгат вінтовак і кацялкоў, грукат падкаваных ботаў каравула. Запомнілася, як з вялікіх дзвярэй, трымаючы ў руцэ доўгую тэлеграфную стужку, выставіўшы наперад плячо, нібыта разразаючы тугі вецер, прабег па калідоры невысокі з лысінаю чалавек. Усе расступіліся, давалі яму дарогу. Ён з некім вітаўся, нешта гаварыў, і так, як з'явіўся, нечакана знік за высокімі дзвярамі. Услед за ім каціўся шэпт: «Ленін, Ленін пайшоў! Бачыў Леніна? Гэта ж ён».

Зноў нарастаў грукат пріікладаў і крокаў. Аляксандр прахагіўся. Стукалі колы. Насупраць, скурчыўшыся, як малое дзіця, спаў дзядзька Цярэшка. Храплі і мармыталі ў сне мужчыны і кабеты. Прыткнуўся шчакою да жалезнага прэнта і роўна соп Анупрэй. Толькі круціўся на мулкай паліцы «аскубаны» афіцэрык. Убачыўшы Аляксандра, ён прыкінуўся, што спіць.

Аляксандр прыхінуўся да акна, хацеў пазнаць, дзе яны едуць. Да чорнай шыбіны папрымярзалі снежныя крупы, пашарэла зямля, і больш нічога не было відно.

Так болей ён і не заснуў, аж пакуль не прыехалі ў Ратміравічы. Далей цягніку не было куды ісці — тупік.

Загуў, замітусіўся, загаманіў вагон. Свечка даўно дагарэла. Спрасонку ўсе таўкліся, штурхаліся, тыцкаліся, як сляпыя. З-пад ніжніх лавак сунуліся нечыя ногі, на іх наступалі тыя, што праціскаліся ў праходзе, спатыкаліся і лаяліся на чым свет стаіць, зверху на галовы спаўзалі клункі, лубяныя каробкі і торбы, ссоўваліся спіны ў кажухах і світках.

— Параска, га, Параска, дзе ты там? Ці не ў цябе мая торба?

— Куды прэш, каб табе паўлазіла!

— Мірон, уставай, прыехалі!

— От даваяваліся, што няма і свечкі,— гугнявіў сіпаты голас.

— І скоўдаемся, як тыя авечкі,— у лад яму адказала бойкая жанчына.

Але хутка ўсе агледзеліся: на дварэ сінеў халодны ранак, а ў акно свяціў жоўты станцыйны ліхтар.

Аляксандр пачапіў мяшэчак на адно плячо, перакінуў вінтоўку і, калі схлынуў натоўп, йадаўся да дзвярэй. За ім выйшлі Анупрэй і Цярэшка.

Гразь падшэрхла. На страхах і ў разорах бялеў першы кволы сняжок, нібы хто прысаліў зямлю. Пасля вагоннай цеснаты і распаранай

духаты цела калаціла дрыжыкі, вецер ва ўсе бакі раздзімаў тонкі выцерты шынель.

Аляксандр падперазаўся і азірнуўся: вагоны апусцелі, у парадзелым змроку людзі разыходзіліся хто куды. Не відно было толькі афіцэрыка з верхняй паліцы.

Цярэшка здагадаўся, каго выглядае Аляксандр.

— Будзіў гэтага Ермальчука, а ён бытта апруцянеў.

— Дзе ты бачыў! Яму з намі не па дарозе. Хадзем, мужчынкі.

Размінаючы пругкія грудкі стылай гразі, яны ўтрох звярнулі на сцежку і спорна пайшлі праз густы ракітнік, што рос адразу за станцыяй. Пад нагамі шамацела хрусткае лісце.

Над вёскаю падымаліся белыя стаўбуны дыму, а ў акенцах пагойдвалася і дрыжала няроўнае святло — палілі ў печах. Крычалі пеўні, вішчалі парсюкі, рыпелі пры студнях вочапы. Пачынаўся сінявата-шэры ранак позняй восені.

Усе гэтыя гукі, гаркаваты пах дыму і прыгарэлай бульбы, нізкае неба і прыцярушаная першым сняжком зямля былі Аляксандру да шчымлівага болю знаёмыя і родныя. Ён успамінаў гэтыя краявіды ў акопах пад Перамышлем, у балотах Піншчыны, у Царскасельскім шпіталі. Яны мроіліся яму бяссоннымі начамі ў Смольным, і часам не верылася, што зноў давядзецца хадзіць па родных сцежках.

Сем гадоў ён не быў дома, сем гадоў нічога не чуў пра бацьку і Марыльку, пра добрую і чулую мачаху. Усіх мачах звычайна лаюць і клянуць, а цётка Ганна была як родная маці — чатырох выгадавала. Яго, Петрыка і Косціка выправіла ў салдаты. Успомнілася, як праводзіла яго ажно да Парыч, усё нешта пхала-ў торбу і галасіла, як па родным сыне.

Да вайны Аляксандр служыў у Гатчыне, у кавалерыйскім палку, і тады-сяды палучаў ад бацькі кароткія пісьмы. Стары бедаваў, што цяжка адрабляць арэнду: Косцік яшчэ слабаваты, Марылька хоць пруткая і добра ўлягае ў работу, але ж вельмі маладзенькая, і яе шкода залыгваць у ярмо, а Петрыка забралі ў салдаты. Пісаў, што Рагуля ацяліла бычка з белаю лысінкаю і яны збіраюцца яго гадаваць. Бацькавы пісьмы пахлі роднаю хатаю, нагадвалі маленства ў Хлебавай паляне, цесную зямлянку на ўзлессі. Тады яшчэ жыла мама. Статная, бялявая і зусім маладая. Тата яе зваў Лавізаю. Сынок часам папраўляў яго:

— Не Лавіза, а Луіза наша мамка.

— А хіба не адно і тое? Лавіза яшчэ лягчэй.

Мама гаварыла па-латышску, спявала латышскія калыханкі і расказвала дзецям казкі далёкай Курляндыі. Часам заходзіў адведаць

дзед. Высокі, крыху сагнуты, вусаты Крышан Якшэвіч. Ён зімою і летам насіў камізэльку з казловае кажушыны. Садзіўся на парозе цьмянай зямлянкі і моўчкі курыў. Відаць, нудзіўся па сваёй Курляндыі, шкадаваў, што дачку ззамаладу абсел і дзеці, што б'ецца яна ад цямна да цямна на панскіх лядах, а дастатку і шчасця не відно.

Стары Крышан шанаваў свайго зяця Рамана за працавітасць, цвярозасць і сумленне. Любіў ён і ўнукаў, але нейкаю стрыманаю маўклівaю любоўю.

Аляксандру ўспаміналася, як вечарамі каля камінка бацька латаў хамут ці аброць і расказваў дзецям пра сваю маладосць, пра тое, як адразу пасля жаніцьбы пайшоў да панскага ўпраўляючага Ганса Хрыстафоравіча Мухеля сказаць, што кончылася яго і Луізіна парабкоўства. Ён папрасіў на першы час за адработкі, а як разжывуцца, у арэнду кавалачак зямлі.

— Зэмля нужна сдэлать,— адказаў сухапары немец.

Раман не разумеў, як можна «сдэлать» зямлю, і толькі моўчкі лыпаў вачамі.

— Рубіт лес, вірывайт корні, как его, пэнькі, пэнькі. Там — зэмля, хлебный зэмля, будэт хлебный паляна. Панімайт?

Так і згадзіліся. Раману за балацінаю адвялі кавалачак лесу. Удваіх з маладой жонкаю выкапалі зямлянку, накалолі плашак, абклалі імі сцены, з гліны збілі печ, яловай карою і дзёрнам прыкідалі страху і пачалі жыць. Валілі сосны, палілі лаўжы, хадзілі закураныя і паабдзіраныя, як чэрці. Падсякалі, абкопвалі, доўгімі вагамі выдзіралі пні, па некалькі разоў капанічылі кожны лапік дзірвану. Плуга ж не ўваб'еш у тое ламачча. А ўвосень пасеялі пуды са тры жыта. Першыя чатыры гады, пакуль карчавалі, арэнды Мухель не браў. На пяты год Раман збіраў па капейцы, па залатоўцы, каб аддаць Мухелю пяцьдзесят рублёў, на тосты — сто, а на сёмы — усе паўтары сотні.

Ступаючы ўскрай дарогі, Аляксандр глядзеў на заінелыя лугі і балаціны, на далёкія і блізкія лясы і думаў: «Цяпер гэта ўсё наша». З ім параўняўся дзядзька Цярэшка. Відаць, старому карцела пагаварыць, бо гамонячы ісці весялей і не так дарога сцягваецца. Ён кіўнуў галавою на абвіслы мяшэчак, што целяпаўся за Аляксандраваю спіною:

— Служыў, служыў, кажаш, хлопча, ваяваў, ваяваў і ў самым Піцеры быў, а торбачка, як вымя ў ялаўкі, матляецца.

— Тут, дзядзька, такое багацце — цаны яму няма. Усім хопіць.

Цярэшка падбег бліжэй, азірнуўся і шэптам спытаў:

— Няўжо золата?

Аляксандр толькі ўсміхнуўся.

— Можа, і праўда ў царскіх пакоях наадкалупваў? Там жа, мабыць, і завесы і клямкі залатыя. Нааддзіраў бы з дзесятак, от бы і было на разжытак. Брэшуць ці не, што ў цара Мікалая гаршчок пад ложкам і той залаты быў.

— Брэшуць, дзед. Усё золата Мікалашка на снарады пераліў ды на генеральскія крыжы.

— А ты хоць які крыжык заслужыў?

— Заслужыў... Добра, што не бярозавы. Два «Георгіі», чатыры кулі і тры медалі заслужыў. От і ўвесь мой набытак за сем гадоў царскай службы.

Дзед Цярэшка адстаў і пайшоў следам. Ён усё пазіраў на зашмальцаваную торбачку і думаў: «Ніхто і не змікіціць, якое багацце чалавек нясе. Дзіва што і стрэльбу з сабою ўзяў. Калі што, дык бараніцца ёсць чым. А ў мяне? Жменю вошай на волю нясу, мех ануч ды арыштанцкую міску з кубкам. Не кідаць жа дабро ў пустой камеры».

Ішлі моўчкі. Вецер працінаў бок, ляскаў крысамі шыняля, сек у шчокі дробнаю колкаю крупкай.

На загонах палегла схопленая першымі замаразкамі рунь, сінелі прыцярушаныя нясмелым сняжком папары, над пацямнелымі стагамі крычалі вароны і садзіліся на стромкія сцежары. Такога прастору, такой цішыні ў Аляксандравым жыцці даўно не было. Ад хуткай хады ён расчырванеўся і расшпіліў каўнер шыняля. А думкі, успаміны, абрыўкі далёкага і блізкага мінулага не давалі спакою. Можа, таму, што за апошнія гады не было калі ўспамінаць і думаць пра родныя мясціны: тры гады ў ав:опах, у гразі і ў крыві, заўсёды на мушцы. Толькі і ведаў тады: зараджай, страляй, ляці ў атаку, адступай, поўзай у акопе, дыхай парахавым дымам і прэллю сырой зямлі, гарачай крывёю і потам. Часам так хацелася ўзлезці на цёплую чарэнь бацькавай печы і моцна заснуць пад спеў цвыркуна і гоман ветру. Але ўсё гэта было такім далёкім і недасяжным, што не хацелася дарэмна вярэдзіць душу. Цяпер ён даў волю сваім думкам.

У кожнага чалавека ёсць патрэба час ад часу ўспамінаць сваё жыццё з маленства і да сённяшняга. дня. Адны ўмеюць складна расказваць пра пhousing, ёсць здатныя прыхлусіць, ды так, што самі вераць у тое, чаго ніколі не было. А негаваркія людзі, ідучы ў далёкую дарогу ці едучы на возе, неўпрыкметкі ўспамінаюць даўняе мінулае, думаюць, што трэба зрабіць заўтра, як жыць далей. На тое і чалавек, каб думаць.

Дарогаю дадому ўспамінаў Аляксандр Салавей сваё дзяцінства і маладыя гады. І так усё выразна ажывала ў памяці, што часамі здавалася, ці не ўчора гэта было.

Ён бачыў Хлебную паляну — лапік зямлі, раскарчаванай бацькамі сярод дрымучага лесу. Хлапчуком ён баяўся ваўкоў і страшыдлаў, што кігікалі то савою, то раўлі крумкачом. Потым адважыўся і пайшоў па сунічных узгорках, па грыбных баравінах, па цупкім брусьнічніку і багуне. Лес быў таямнічы і ласкавы. Успаміналася бясхлебіца кожнай вясны, недароды і нястачы. Але ніколі ў сваёй хаце ён не чуў ні папрокаў, ні сварак. Калі так-сяк скідалі хату і трохі разжыліся, бацька выпісаў газету і вечарамі чытаў уголас усёй сям'і, хоць маці і яны, малыя, кепска разумелі тое, што ён чытаў: усе, апрача бацысі, гаварылі на матчынай мове.

Некалі ў Рудабелку аж з Курляндыі пераехала сямей сорак латышоў. Адны былі парабкамі ў пана Іваненкі, другія арандавалі такія ж ляды, як і ягоны бацька, трэція бандарылі, стальмахавалі, рабілі на бровары ці ў млынах.

Увосень нанялі латышы паўхаты і стары Трэйзін пачаў вучыць дзяцей. А ў нядзелю сюды збіраліся мужчыны і кабеты, каб памаліцца богу.

Чатыры зімы адхадзіў у гэтую школу Аляксандр. Ён добра чытаў і пісаў, складаў і памнажаў, але больш за ўсё любіў кніжкі пра расліны. Іх даваў яму настаўнік і часта казаў: «Вырасцеш, навучышся і будзеш аграномам». Аляксандр і сам марыў уведаць сакрэт. каб зямля добра радзіла, каб не было недародаў, каб не пухлі з голаду дзеці. Яму так хацелася абдурыць пана і збіраць на сваіх лядах столькі жыта і бульбы, што ні Мухелю, ні Іваненку і не снілася.

Але дзе там яму было да таго аграномства!

Увярэдзілася, варочаючы калоды ў лесе, маці. Паенчыла, пастагнала з тыдзень і згарэла, як свечка. А бацька толькі што выплаціў арэнду, і ў хаце не было болей ані шэлега, каб наняць папа і адслужыць па нябожчыцы малебен. Не было грошай і ў дзеда. Прыйшлося ўпрасіць айца Серафіма, каб хоць за адработкі правёў гаротніцу на вечны спакой. Потым усю вясну Аляксандр араў і баранаваў папоўскія маргі...

Яму зрабілася маркотна і горка ад гэтых успамінаў. Ён павярнуўся назад, счакаў, пакуль дагоніць Цярэшка, і запытаў у яго:

— А Пракоп Гошка яшчэ жывы?

— Гэта каторы Пракоп, мо Півавар?

— Але, Півавар,— усміхнуўся Салавей.

— Што яму адходзіць? Ніякая трасца не бярэ.

Аляксандр зноў пайшоў спорнаю хадой і ўспомніў,

як некалі Пракоп на сваім хутары на хрэсьбіны варыў ніва. А яно так усхадзілася, што выбіла шпунт. І трэба ж было, каб той шпунт

якраз уцэліў Пракопу ў лабаціну, ды так лупянуў, што той аж звіўся. Паўдня адлівалі няшчаснага. Пра ўсё гэта напісаў Аляксандр заметачку і паслаў у Рыгу, у латышскую газету «Dienas Lapa»[1] Праз колькі тыдняў прыйшла тая газетка ў Рудабелку, прачыталі спачатку латышы, а потым пераказвалі кожнаму рудабельцу. Ну ж і парагаталі тады з Пракопа. Ад таго і пайшло — Півавар і Півавар. Аж дасюль не забыліся, і дзяцей, мабыць, піваварамі завуць.

Калі добра вывіднела, узышлі на халопеніцкі мост. На берагах пасівеў няскошаны сітнік, на голай лазе дрыжаў доўгенькі чырвоны лісцік. Завівалася на вірах цёмная вада.

Спыніліся перадыхнуць. Аляксандр паставіў каля парэнчы вінтоўку, дастаў кісет і пачаў частаваць фабрычнаю махоркай.

Стары доўга цмокаў люлькаю, а як добра ўгарэлася, сеў на брус, прыжмурыў хітранькія маленькія вочкі і пачаў распытваць:

— Скажы ты мне, Ляксандра, хто ж цяпер намі камандаваць будзе? Цара скінулі, міністраў разагналі, гэты аблакацік, кажаш, у спадніцы ўцёк. А без галавы ды без аброці народ, як чарада авечак без барана, разбрыдзецца куды каторы. Дык як яно будзе, а? Без уласці неяк непрывычна.

— Уласць, дзядзька, у народа цяпер. Саветы будуць усім кіраваць. Рабочыя, сяляне, салдаты выбіраюць сваіх дэпутатаў, тыя збіраюцца і рашаюць, што і як рабіць. Саветы цяпер усяму галава.

— А хто ж будзе самы глаўны над тымі Саветамі, каб слухаліся яго, ну... можа, часам пабойваліся. Бо дай чалавеку волю, каб ён рабіў што захоча, папераграызаюць адзін аднаго. Скажам, табе захочацца ўхапіць лепшую валоку панскай зямлі, і я на яе прыцэліўся, от і счэпімся загрудкі — каламі не разбароніш. Не, браце, улась трэба, каб парадак быў.— І стары сціснуў брудны жылаваты кулак.

— На тое бальшавікі і рэвалюцыю рабілі, каб мы самі гаспадарамі над усім былі.

— А хто яны, тыя бальшавікі, скажы ты мне, хлопча? Кажуць, бальшавікі, бальыявікі, хоць бы аднаго пабачыць, што за ён.

— Паглядзі на мяне, дзед.

— І на мяне,— разгладзіў пшанічныя вусы Анупрэй.

Цярэшка палыпаў вачыма, павярнуўся да аднаго, да другога, нібы бачыў іх першы раз, устаў, пачапіў на плечы мяшэчак і першы сышоў з моста.

— А я тады хто? Меншавік? — агрызнуўся ён.

Да дому аставалася вёрст восем.

---

[1] «Штодзённы лісток». Адзін час газету рэдагавалі Ян Райніс і Пятро Стучка.

2

Хутар Сераброн стаяў у лесе, як у вянку. Наўкруг яго было валок дзесяць дагледжанай і добра ўробленай зямлі. Сярод саду — вялікі дом пад бляшаным дахам, цераз дарогу — абора і доўгі свіран з часанага бруса.

Да веснічак пад'ехала фурманка. З воза саскочыў той самы «абскубаны афіцэрык», якога так і не дабудзіўся Цярэшка ў Ратміравічах, ён счакаў, пакуль усе выйшлі з вагона, забраў свой чамадан і пайшоў наймаць фурманку, каб даехаць дадому. Доўга таргаваўся з упартым дзедам, якімі грашамі яму плаціць. Мікалаеўскіх той не браў, думскіх і керанак за грошы не прызнаваў і ўсё казаў: «От каб золатам, можна было б і падвезці. Гэта ж вярстоў са дваццаць, калі не болей, будзе».

Ледзьве ўмалёгаў яго Казік Ермаліцкі і такі прыехаў да бацькавага дома. Ён ацерабіўся ад саломы, забраў свой куфэрак і моўчкі пасунуўся да форткі.

З будкі выскачыў велічынёю з добрае цяля руды ваўкадаў і, звонячы па напнутым дроце ланцугом, кінуўся насустрач Казіку. Той адскочыў і прычыніў брамку. Сабака станавіўся на дыбкі, кідаўся з боку ў бок, выскаляючы вялікія жоўтыя іклы, ашыйнік падымаў на хібе цупкую поўсць.

— Пірат, Пірат, што ж ты, дурненькі, сваіх не пазнаеш! — улагоджваў яго Казік. Гэта быў не той Пірат, якога ён некалі гадаваў шчанюком, другі — страшнейшы і большы. Але Казік ведаў, што ўсіх сабак, якія вяліся ў іх двары, бацька інакш не зваў, як Пірат.

І гэты крутнуў хвастом, пераетаў кідацца, але ўсё яшчэ вурчэў і выскаляўся.

У акне нехта паказаўся ў белай хусцінцы і знік. Але з хаты ніхто не выходзіў.

Пірат гыркаў і мітусіўся каля самай форткі. Возьмецца Казік за клямку, а сабака — зноў на дыбкі і заліваецца брэхам.

Ляпнулі і шырока расчыніліся дзверы, на ганак выйшаў бацька. Здавалася, ён паменшаў, раздаўся ў плячах, зусім аблысеў.

— Пірат, на месца! — Сабака ўтуліўся і нехаця пасунуўся ў будку.— Што васпану трэба? — спытаў стары, не сыходзячы з ганка.

— Ці не тут жыве Андрэй Ермаліцкі? — захацелася пажартаваць Казіку.

— А каб цябе бог любіў! Няўжо сынок! Анэта, чуеш! Барзджэй сюды! — І стары кінуўся сыну насустрач.

Ён паказытаў Казікаву шчаку калючай барадою, ухапіў цяжкі куфэрак і панёс да ганка. Выціраючы аб фартух рукі, насустрач бегла

маці. Яна слізкімі губамі патыцкалася ў сынаву шчаку і ў цупкія падкручаныя вусікі, пачала смаркацца і выціраць фартухом слёзы.

— А дзіцятка ж маё! Матчыны малітвы дайшлі да ўсявышняга! Дзякаваць богу, што цэлы вярнуўся!

У доме ўсё было так, як і да Казікавага ад'езду. Стаялі два вялізныя, акаваныя жалезнымі шынамі куфры, сточаны шашалем камод, доўгая дубовая канапа. Толькі разлапушыліся фікусы і пазасланялі вокны. Маці бегала ў клець, мітусілася каля прыпечка. На трынозе цвырчэла яечня, бацька кроіў чырвоную, добра завэнджаную паляндвіцу.

Казік у сподняй кашулі плёскаўся і фыркаў над вялікаю мядніцай. Потым доўга прычэсваўся перад счарнелым аблузаным люстрам, падбіваў рукою густыя каштанавыя валасы, падкручваў кароткія вусікі.

— А дзе ж Гэлька? — успомніў ён пра сястру.

— Ат, скруцілася дурніца. Ніякага зладу з ёю няма. Можа б, ты паўшчуваў. Я ўжо і лейцамі гразіўся, і замуж хацеў за Невяроўшчыка аддаць, дык і ні блізка. Ушалопалася ў нашага парабка. Можа ж, помніш Івана Кандратавага з Кавалёў? Бясштанік з галадранцаў, а так сабою відны, чубаты і не гультай. Хацеў яго яшчэ да Юр'я прагнаць, дык ушчала так! лямант;

«І павешуся, і ўтаплюся...» Чаго добрага, думаю, і праўда, рукі на сябе, дурніца, наложыць, сораму не абярэшся. І так усім наша дабро вочы коле. А сёння досвіткам у млын разам паехалі. Як ведаў, што шатровачка на блінцы спатрэбіцца. Гэта ж такі госць чаканы і неспадзяваны,

Казік спахмурнеў. Сястру ён пакінуў цыбатым падлеткам, а цяпер, выходзіць,— паненка. Хітры, відаць, гэты парабчук — зачмурыў ёй галаву, а сам на бацькаў хутар аблізваецца. Думаў, больш наследнікаў няма, жывым хацеў пахаваць.

— Парабчука гэтага, тата, каб і духу тут не было,— закамандаваў Казік.— А баіцеся — сам з ім упраўлюся.

— Памажы табе божа, сынок.

Маці заслала велікодны кужэльны абрус, расставіла талеркі, унесла запацелую бутлю вішнёўкі, дастала з палічкі прысадзістыя рубчастыя чаркі.

Сына пасадзілі на кут пад абразы. Побач з Мікалаем-цудатворцам вісеў партрэт «імператара і самадзержца ўсея Русі Мікалая другога». Казік сядзеў у расшпіленым мундзіры. Бацька, наліваючы ў чаркі, не зводзіў з сына вачэй.

— За яго імператарскую вялікасць і ўсю царскую фамілію,— устаўшы, апаражніў Казік сваю чарку. Бацька падняцца не здагадаўся, перакуліў кілішак, крэкнуў і занюхаў мякішам хлеба.

— Сярдзітая, халера, спірытус з панскага бровара.— Стары ўторкнуў на відэлец тоўстую празрыстую скварку і пачаў жагаць. Маці толькі прыгубіла чарку і выскачыла ў кухню.

— Дык што гэта будзе, скажы ты мне, Казічак? Як жыцьмем?

— А што? Жыцьмем, як жылі.

— Рэзрух нейкі пайшоў. Не разбярэш, што да чаго. Рудабельскія галадранцы плявузгаюць, што ўжо і Керанскага скінулі. Якія ж грошы цяпер будуць, скажы ты мне? Кацярынкі ляснулі, керанкамі хоць падатрыся, а я тыя і гэтыя берагу. Пойдуць, няпраўда, і яшчэ ў якой цане будуць.

— Керанскі Аляксандр Фёдаравіч праспаў Расію на царыцыных пярынах, і грошы яго можаце спусціць, пакуль не ўсе йедаюць. А царбацюшка яшчэ пакажа сябе. Генералы прыдушаць гэты цёмны зброд. Сілу збіраюць вялікую. І нам тут няма чаго драмаць у шапку.

Бацька падліваў у чаркі і не прапускаў ніводнага сынавага слова: ён то ўсё ведае. Ахвіцэр! Не раз, мабыць, у ахвіцэрскім сабраніі з генераламі разам сядзеў, чуў, што разумныя кажуць.

Маці тупала каля стала і не зводзіла з сына вачэй. Аж не верылася, што гэта той самы Казічак, што на залатуху хварэў і шчыглоў увосень лавіў на каноплях.

— Дзе ж цяпер наш пакутнічак цар-імператар з наследнікам, Аляксандраю Фёдараўнай ды з вялікімі княжнамі?.. Няўжо ж і праўда недзе бедненькі пакутуе ў цюрме?

— Гэта ўсё бальшавіцкія выдумкі, мама. Яго так схавалі, каб ніхто і не пазнаў, і пераправілі ў Францыю. Там ён жывы і здаровы. Як толькі раздушым бальшавіцкую нечысць, «калі ласка, ваша імператарская вялікасць, займайце прастол». От тады зажывём. А скуру з гэтых «таварышаў» на барабаны нацягваць будзем.

— Што ж ты зноў збіраешся нас пакінуць, Казічак? — спалохалася старая.

— Хіба тут няма гэтай погані? Ехаў са мною ў поездзе Салаўёў сынок з нейкім рудабельскім зладзюгам. Наслухаўся я іх! От і будзем душыць, каб юшка пацякла. Вешаць свалату трэба. Гэты, пэўна, дзякрэцікаў бальшавіцкіх навёз. На чужую зямлю ласы. Тры аршыны ім адмераем і асінавы кол загонім.

— Твая праўда, сынок. Гэтыя рудабельскія зрэбнікі яшчэ ў японскую вайну бунтавалі. Зямлю панскую наважыліся дзяліць, дзве пуні ў двары спалілі. Ну ж і ўрэзалі тады ім казакі, і цяпер чухаюцца.

А самых заядлых у Сібір пазаганялі, адкуль крумкач і касцей не прыняее. Дай ім толькі волю, дык яны з глоткі выдзеруць.

Выпілі яшчэ па кілішку, Казік прагна еў і хваліў палядвіцу. Маці ўсё падсоўвала і падкладала яму тлусцейшыя кавалкі. Ён пацягнуўся да хрусту ў касцях, пахістваючыся ўстаў з-за стала.

— А цяпер спаць.

— Я ўжо табе паслала, сыночак, ідзі ў камору.

— Што я дома, нікому ні гу-гу. Калі хто бачыў, скажыце, на дзень прыязджаў і зноў у часць вярнуўся.

Шынель схавайце. А парабчука гэтага... Каб і смуроду яго тут не было!

Няроўна ступаючы, Казік пайшоў у камору, пакрактаў, сцягваючы хромавыя боты, і хутка захроп.

Андрэй Ермаліцкі нізка звесіў галаву, утаропіўся ў стальніцу і доўга яшчэ думаў пра ўсё, аб чым толькі што гаварылі з сынам. Пальцы нервова качалі маленькую галачку з хлеба.

Было чуваць, як шашаль точыць старую шафу.

3

Здалёк убачыў Аляксандр дым над комінам бровара, верхавіны старых ліп у панскім садзе — усё тое самае, што бачыў сем гадоў назад, калі ішоў у Парычы на прызыў. Толькі раскусціўся пры дарозе ракітнік, падраслі хвойкі на пясчаным узгорку.

Дзень шэры і зябкі. Палі прыцярушыў лёгкі сняжок, толькі рудзеюць сцежка, пратаптаная клетачкамі лапцей, ды каляіны, поўныя каламутнай вады і тонкіх патрушчаных ільдзінак.

Вось і вялікі панскі сад. Апалае лісце пазграбана ў кучкі, на іх ляжыць зрэзанае сухое суčча. Відаць, збіраюцца паліць. Жалезная брама на чырвоных мураваных слупах замкнута, дарожка, што вядзе да панскага белага палаца, падмецена, у вокнах пакояў бялеюць фіранкі.

Выходзіць, тут нічога не змянілася: параконкі вязуць к бровару доўгія скрыні з бульбаю, ідуць парабкі, дурманіць востры пах гарачай брагі. Відаць, па-ранейшаму ўсім камандуе панскі ўпраўляючы. У яго цяпер новы гаспадар — зяць былога царскага камергера,— барон Урангель. Паны дрыжаць і туляюцца недзе ў віратлівым Петраградзе, а тут падразаюць сад, падмятаюць дарожкі. Мабыць, і не ведаюць рудабельцы, што ўлада цяпер належыць ім, што панская зямля, бровар і гэты палац ужо іхнія. «Добрую школу можна зрабіць у пакоях»,— падумалася Салаўю.

Калі мінулі грэбельку праз Нератоўку, хлопцы развіталіся з Цярэшкам і пайшлі вуліцаю, абсаджанай старымі парэпанымі вербамі. З вокан маленькіх хат пазіралі кабеты, спыняліся і доўга глядзелі салдатам услед дзеці. З веснічак выскачыла маладзіца ў падранай на плячы кофце, з закасанымі мокрымі рукавам!.

— Салдацікі, а салдацікі, можа, дзе пра майго што чулі? Кавалевіч Амяллян завуць. От кінуў поўную хату дзяцей, і душыся тут з імі, а пра самога ні слуху Ні духу.

Салдаты спыніліся. Паглядзелі адзін на аднаго.

— Не, Параска, не чулі пра твайго Амялляна.

Жанчына пляснула рукамі.

— А божачкі, ці ж не Ляксандра Раманаў гэта. І Анупрэй, здэцца. Аво-о-ой! Дзякуваць богу, што хоць жывыя, з рукамі ды з нагамі вярнуліся. А мой ужо недзе, мабыць, зямельку парыць. Ой няшчасная мая галованька,— загаласіла так, як, відаць, галасіла часта, чакаючы і ўспамінаючы свайго Амялляна.— На пабыўку ці саўсім? — размазваючы слёзы, усхліпнула Параска.

— Адваяваліся, хопіць,— уздыхнуў Анупрэй.

— А стрэльбу нашто валачэш? Няўжо яшчэ не наняньчыўся з ёю?

— Прывык. Хай будзе, можа, яшчэ і спатрэбіцца,— усміхнуўся Аляксандр.

— Не плач, Параска, калі жывы, прыйдзе твой Амяллян.

— Каб жа даў бог! — І пабегла ў двор.

У канцы Карпілаўкі Анупрэй спыніўся.

— Мне сюды.— І працягнуў Аляксандру руку.

— Што, бальшавік, рабіць збіраешся? — спытаў Салавей.

— Што ўсе, тое і я. Савецкую ўласць рабіцьмем.

— А вінтоўку не ўзяў. Тут, брат, рэвалюцыю яшчэ толькі пачынаць трэба. Ты ж вельмі не прысыхай да бабы. Прыходзь у воласць. Збярэмся, падумаем, з чаго пачынаць.— Салавей паправіў на плячы вінтоўку і пайшоў, шастаючы апалым лісцем.

На валасным ганку ранейшай шыльды з двухгаловым арлом не было. На зашчытку, дзе яна вісела, відзён квадрат светлых дошак. Гэта ўжо спадабалася Аляксандру. Ён падняўся па прыступках і ўвайшоў у вялізную пустую зборню. У кутку на доўгай лаве сядзела старая жанчына і жавала кавалак падгарэлага скавародніка.

— Добры дзень, цётка!

— Эге ж, здароў, салдацік,— адказала яна.

— Хто тут цяпер правіць намі?

— А бог іх разбярэ, хто кім правіць. Нашы, селавыя, кажуць, сядзяць, Пракоп з Максімам Архіпавым. Калі тутэйшы, дык павінен ведаць.

— Гэта ж каторы Пракоп?

— Зубарэвіцкі, Малаковіча Дзяніса сынок. Там яны усе, у іх і пытай.— Яна паказала на дзверы, за якімі раней сядзелі пісары; адтуль чуваць былі прыглушаныя галасы.

Салавей шырока адчыніў дзверы, паставіў у кут вінтоўку, доўга ціснуў і трос рукі ўсім, хто быў у пакоі, паглядаў кожнаму ў вочы. А тут было чалавек шэсць. За канцылярскім сталом з ададранымі, пазакручванымі ўгору ражкамі зялёнага сукна сядзеў высокі, з бялявым віхарком на лбе Пракоп Малаковіч. З паперкаю ў правай руцэ побач стаяў чарнявы і тонкі Максім Ляўкоў.

— Сядай, расказвай, гаспадзін унцер, хто ты і што ты ёсць,— насупіў бровы Пракоп.— Ведалі цябе як добрага нашага гарапашніка, а цяпер не разбярэш, каго куды матанула.

— Зараз дaложым.

Аляксандр расшпіліў заношаную салдацкую гімнасцёрку, запусціў руку глыбока за пазуху і доўга корпаўся, нешта дастаючы з патайнай кішэні. Потым важна выцягнуў пацёртыя картонныя корачкі і падаў Малаковічу.

Усе прысутныя сачылі за яго тварам. На Пракопавым ілбе разгладжваліся маршчынкі, шчокі паступова круглелі. Ён дачытаў да канца.

— Цяпер слухайце ўсе:

«Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

Бабруйскі уком РСДРП(б). Мандат. Таварыш Салавей А. Р., член партыі бальшавікоў, накіроўваецца ў Рудабельскую воласць для стварэння валрэўкома, арганізацыі савецкіх органаў і правядзення палітыкі Камуністычнай партыі бальшавікоў.

Старшыня укома., Сакратар»

Распісваюцца так, што не разбярэш. Але пячатка стаіць.

— А ты яго гаспадзінам унцерам аблаяў,— засмяяўся Ляўкоў.

— Гэта не ўсё,— падняўся з лаўкі Салавей. Ён скійуў з пляча мяшэчак, доўга развязваў лямкі. Выцягнуў скрутак, загорнуты ў наперу. Малаковіч зубамі разарваў суравую нітку і на стале разгарнуў доўгае чырвонае палотнішча.

Дзядок у аблавухай заечай шанцы, што моўчкі сядзеў у кутку, хіхікнуў:

— Хвацкая спадніца будзе Пракопісе.

— Не плявузгай, дзед, абы-чаго,—узлаваўся Малаковіч.— Цяпер у нас ёсць свой савецкі сцяг.— Ён разгладзіў вялікай далонню палотнішча.— Заўтра от такой парою збярэм усё вобчаства на сход. Трэба загадаць па сёлах, каб прыходзілі.

— Кавалёўскіх я прывяду,— сказаў Максім.

Збянтэжаны дзядок паабяцаў наказаць руднянскім, астатнія мужчыны ўзяліся загадаць у Карпілаўцы, Лаўстыках і Смузе.

— Цяпер расказвай, што добрага чуваць на свеце,— папрасіў Малаковіч.

— Трэба ж неяк да сваіх дабрацца. Кажуць, яны недзе ў Харомным асталяваліся. А заўтра раніцай прыйду, тады і пагаворым.

4

З раніцы трохі адпусціла. Памякчэла зямля, раставаў першы кволы сняжок, толькі там-сям бялелі разоры і прыдарожныя канавы, з голых кустоў і прысадаў крэплямі зрывалася расталая наледзь. Паміж нізкіх калматых хмар часам прабівалася сонца і хавалася зноў.

Па дарогах, па сцежках, пратаптаных у полі, нацянькі праз гароды і пералазы ішлі мужчыны, кабеты і дзеці. Жанчыны надзелі святочныя андаракі, абулі лапці на беленькія кужэльныя анучы, а ў каго былі, нацягнулі каляныя высокія чаравікі на гузіках, завязалі стракатыя хусткі. Ішлі да воласці, як на фэст.

— Куды гэта так прыбралася? — пыталася суседка ў суседкі.

— Сама ж кашміроўку завязала, а яшчэ пытае.

— Што ж там у воласці будзе?

— Пабачым. Нешта скажуць.

— Мой плявузгаў — зямлю дзяліць будуць.

— А дзе яе ўзяць, каб дзяліць?

— Раманаў сын у торбе з хронту прывёз.

— Хіба што ў торбе.

Перакідаліся пытаннямі і жарцікамі, ідучы з Кавалёў, Карпілаўкі і Рудні, з лясных хутароў і выселкаў. З Харомнага ішлі ўтраіх: Раман Салавей, Аляксандр і яго маладзенькая сястрычка Марылька. Стары зранку пагаліўся сынавою брытвай, уздзеў новую світку сваёй работы, насунуў шапку з блішчастым казырком,

Яны ледзь не да раніцы прагаварылі з сынам. Раман па некалькі разоў чытаў і перачытваў «Известия Центрального Исполнительного Комитета и Петроградского Совета рабочих и солдатских депутатов» і невялічкія афішкі, аддрукаваныя на тонкай паперы.

— Што ж цяпер будзе, сынок? — дапытваўся стары.— Кажаш, зямлю раздадуць мужыкам. А хіба ж гэтыя выжлятнікі так яе аддадуць? Гатальскі глотку перакусіць за сваё.

— У тым і штука, тата, што не іх яна, а нашая. Таму, хто арэ і сее, належыць зямля. На тое і рэвалюцыю рабілі, і паміралі, каб жывым добра, па праўдзе жылося.

— Я думаю так, што яшчэ пабіцца з імі прыйдзецца, крыві нямала праліць, пакуль нашаю яна будзе.

— І паб'ёмся. Біцца мы навучаныя. Цара скінулі — не пабаяліся, Керанскаму ґіа загрыўку далі і з гэтымі ўправімся.

Марылька ледзь паспявала за братам. Ёй хацелася ісці побач з ім, глядзець на абветраны твар, на тонкія вусікі, на прыгожы, з гарбінкаю нос, на цёмныя, глыбока запалыя вочы.

Як ён змяніўся за гэтыя гады: сустрэла б дзе-небудзь і не пазнала б. Свой, блізкі і нейкі чужы, так мала знаёмы. Калі ўспамінала раней, дык толькі такога, якім быў да прызыву: паслухмяным і добрым. Ён слухаўся бацьку, араў з ім і касіў, капанічыў ляды ў Хлебнай паляне, а калі падраслі і падужэлі Пятрок з Косцікам, на луг за татам ішлі тры касцы. Зайздросцілі людзі Раману, што такіх дубоў выгадаваў. Петрака болей ніколі не ўбачыць Марылька. Успомніла брата, і заказыталі слёзы ў горле. А быў жа такі прыгажун і весялун. Калясачку ёй, маленькай, некалі зрабіў, на поле вазіў на жніво, на гармоніку вечарынкі граў, дзеўкі за ім чарадою хадзілі. А цяпер і магілкі яго нідзе не знойдзеш. Яна. выцерла вочы.

— Ты чаго, Марылька? — зірнуў на яе Аляксандр.— Можа, пакрыўдзіў хто?

— Не, вецер у вочы.

Каля воласці было поўна народу. Стаялі купкамі, гаманілі. Мужчыны курылі на ганку. Кабеты ў чырвоных, зялёных і сініх андараках, у суконных кабацікаах і зграбных світках сядзелі і стаялі ў зборні і на валасным двары. Расказвалі, калі чыя кароўка ацеліцца, хто колькі капусты нашаткаваў, бульбы ў капец насыпаў.

— Пагляньце, пагляньце, бабачкі, ідзе ж Раман з сынам,— сакатала Параска.— Пыталася ўчора ў яго пра свайго Амяльяна, думала, мо бачыў дзе.

— Вайна вялікая, маладзіца, людзей, як мурашак. Дзе там знойдзеш твайго Амяльяна,— уздыхнула высокая, худая, з сівымі пасмамі жанчына.— Трох сыноў аддала, як у пельку боўтнула. Германец ерапланамі б'е і, кажуць, нейкім смярдзючым дымам душыць.

Раман астаўся з мужчынамі, Марылька падбегла да дзяўчат, Аляксандр павітаўся з усімі і пайшоў у воласць.

А людзі ўсё падыходзілі і падыходзілі. Ужо быў повен двор, стаялі на вуліцы, сядзелі, дзе хто прымасціўся. Чакалі, што ім скажа Раманаў сын. Гэта ж прыехаў з самога Петраграда, свет бачыў, законы нейкія новыя прывёз, зямлю, кажуць, раздаваць будзе па тых бальшавіцкіх законах. Пра вайну, каб яна спрахла, нешта скажа.

На ганак вынеслі стол. Усе адразу памкнуліся бліжэй. Заднія станавіліся на дыбачкі, хлапчукі ў аблавухіх бацькавых шапках, у матчыных каптанах з доўгімі рукавамі паўзлазілі на платы і ўглядаліся ў адчыненыя дзверы.

— Ідуць, ідуць! — закрычалі хлапчукі.

Да стала падышоў Пракоп Малаковіч, за ім —

Максім Ляўкоў і Аляксандр Салавей. Людскі натоўп прыхлынуў яшчэ бліжэй і пачаў сціхаць.

Наперад выйшаў Пракоп у саматканым суконным фрэнчы, перацягнутым шырокай папругаю, у высокай салдацкай папасе, збітай на патыліцу. Ён падняў руку. Гамана сціхла.

— Гражданы і ўсё вобчаства! — выгукнуў ён.— Вы ведаеце, што крывапіўцу-цара народ екінуў яшчэ пасля каляд, а ў сераду, дваццаць пятага чысла, прагнаў Керанскага і яго хеўру. У Петраградзе рабочыя, салдаты і матросы зрабілі пераварот. Вальшавікі ўзялі ўлась у свае рукі.

— А хто яны, тыя бальшавікі, скажы ты нам? — нехта крыкнуў з натоўпу.

— Бальшавікі?.. Як тут панятлівей сказаць...— Пракоп трошкі памаўчаў.— Ну, гэта лгодзі, якія хочуць, каб гарапашнаму народу жылося добра, каб усю зямлю раздаць мужыкам, а заводы і фабрыкі— рабочым, каб болей ніколі не ваяваць...— і крыху цішэй растлумачыў:—Ну от я — бальшавік, і Максім — бальшавік, і Ляксандра Салавей бальшавік, Анупрэй Драпеза і Лявон Адзінец. Гэта толькі тут, а па ўсёй Расіі бальшавікоў вялікія тысячы. Дык я і кажу, Бабруйскі уком партыі бальшавікоў прыслаў таварыша Салаўя, каб ён усё растлумачыў, што да чаго, як далей жыць нам і ваабчэ. Га в ары, Раманавіч.

Салавей выйшаў наперад. На ім — суконная зялёная гімнасцёрка з вялікімі кішэнямі на грудзях, на галаве — салдацкая шапка. Шапку ён зняў, абвёў поглядам натоўп.

— Таварышы! — упершыню пачулі гэтае слова мужчыны і кабеты. Так раней ніхто да іх не звяртаўся. Людзі глуха загулі.

— Таварышы,— паўтараў Салавей.— Не ўсе, мабыць, яшчэ чулі, што Часовы ўрад скінуты. У Петраградзе ўладу ўзялі рабочыя і сяляне, створаны Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Тут пыталіся, хто такія бальшавікі і чаго яны хочуць. Міру хочуць, справядлівасці і

дабра тым, хто гне спіну на фабрыкантаў і паноў. Няма цяпер болей ні паноў, ні фабрыкантаў.

— А дзе ж яны дзеліся? Хіба чорт на хворму схапіў? — выкрыкнула з натоўпу нейкая кабета.

— Ага, дзеткі, іх ніякая трасца не бярэ. Камандаваюць. А прыляціць панаў зяцёк, Урангель той, зноў мужчынам азадкі спаласуе,— падтрымала яе старая жанчына.

— Таварышы бабы,— падняўся Малаковіч,— памаўчыце трохі, дайце сказаць чалавеку.

— Папрывыкалі языкамі, як церніцамі, ляскаць,— загуў глухі бас.

Усталявалася цішыня. Салавей загаварыў зноў:

— Цяпер у нас Савецкая ўласць. Што гэта значыць? Збіраюцца разам рабочыя, сяляне і салдаты і савет дзержаць, як і што лепей зрабіць. Знайшоў савет месца цару з царанятамі і часовым міністрам знайшоў, знойдзе і гэтаму барону Урангелю. Так што можаце быць спакойныя, таварышы жанчыны! Але голымі рукамі паноў не возьмеш. Каму ахвота аддаваць нажытае мужыцкім мазалём? Так што рэвалюцыя перамагла, а барацьба толькі пачынаецца — з панамі, царскімі афіцэрамі і засцянковаю шляхтай. Калі ў каго ёсць ЯКЗ.Я зброя, трымайце яе, а няма — прыдбайце. Яна нам яшчэ спатрэбіцца. А зараз, таварышы, я прачытаю першыя законы нашага рабочага і сялянска-салдацкага правіцельства.— Ён разгарнуў даволі вялікую газеціну, склаў яе, каб зручней было трымаць, і пачаў голасна чытаць:— «Дэкрэт аб міры, прыняты аднагалосна на паседжанні Усерасійскага з'езда Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў 26 кастрычніка 1917 года.

Рабочы і сялянскі ўрад, створаны рэвалюцыяй 24-25 кастрычніка і які абапіраецца на Саветы рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў, прапануе ўсім народам, што ваююць, і іх урадам пачаць неадкладна перагаворы аб справядлівым дэмакратычным міры».

— Якім, якім, ты кажаш, міры? — перабіў высокі мужчына з люлькаю ў зубах.— Можа, гэта хочуць нас пад германца аддаць.

— Не, дзядзька Кандрат, дэ-ма-кра-тыч-ны, гэта такі, каб народу добра было,— супакоіў яго Аляксандр.— Далей пра ўсё напісана.

Ён дачытаў дэкрэт да канца. Натоўп загуў, закалыхаўся. Запрычыталі кабеты:

— А дай жа, божачка, каб гэтае ўбіўства кончылася! Можа ж, і мой сыночак вернецца, абы жывенькі толькі быў.

— Татка прыйдзе, татка прыйдзе,— падкідала на руках дзяўчынку маладзіца з вачамі, поўнымі слёз.

Загаманілі мужчыны.

— Чуў, замірэнне на тры месяцы, а там дагаворацца саўсім не ваяваць.

— Башкавітыя гэтыя бальшавікі. Бач, як складна апісалі.

— Хоць і не ўсё адразу зразумееш, а, відаць, праўда чыстая.

Калі трохі ўгаманіліся, Салавей загаварыў зноў.

— І яшчэ, таварышы, адзін самы важны для нас, сялян, дэкрэт. «Дэкрэт аб зямлі,— пачаў чытаць ён,— з'езда Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў, прыняты на паседжанні 26 кастрычніка ў дзве гадзіны ночы. Першае! — ён памаўчаў. У натоўпе стала так ціха, быццам перад воласцю нікога і не было.— Уласнасць паноў на зямлю адмяняецца неадкладна без усялякага выкупу. Другое! — яшчэ мацней выгукнуў Салавей.— Панскія маёнткі, так, як і ўсе землі ўдзельныя, манастырскія, царкоўныя, з усім іх жывым і мёртвым інвентаром, сядзібнымі будынкамі і ўсімі прыладамі пераходзяць у распараджэнне валасных зямельных камітэтаў і павятовых Саветаў сялянскіх дэпутатаў, аж да Устаноўчага сходу...»

Ён чытаў пра тое, што забараняецца псаваць панскую маёмасць, якая цяпер належыць усяму народу, што права прыватнай уласнасці на зямлю адмяняецца назаўсёды, што зямлю нельга ні прадаваць, ні купляць, ні аддаваць у арэнду, што зямля пераходзіць у карыстанне ўсіх тых, хто працуе на ёй. І закончыў:

— «Зямля радавых сялян і радавых казакоў не канфіскуецца. Старшыня Савета народных камісараў Уладзімір Ульянаў (Ленін), 26 кастрычніка 1917 года».

Скалануўся, загуў натоўп, загаманілі ўсе разам.

— Калі будзем дзяліць?

— Па колькі на душу прыпадзе?

— Панскіх коней трэба раздаць!

— От праўда! Каб хоць дроў навазіць.

— А чым карміць будзеш?

— І сена забяром!

Малаковіч гхаляпаў далонню па стале.

— Бабы, мужчыны, сціхніце вы! — спрабаваў ён перакрычаць разварушаны, гаманлівы натоўп. А людзі не суніmaліся. Яны першы раз сабраліся ўсе разам і пачулі такое, што ўчора яшэ і не снілася. Адны верылі ў новыя законы Саветаў і ўжо бачылі свае надзелы і добрага каня з панскай стайні, другім не верылася, што так можа быць: каб такі закон напісаў які-небудзь цар, і то наўрад ці паверылі б, а то нейкі Савет! Што ён можа? Якая ў яго сіла? Хто паслухаецца таго Савета?

Аляксандр Салавей падняў руку. Голас яго губляўся ў гуле натоўпу, але людзі пакрысе змаўкалі і сунімалі другіх.

— Тут пытаюць, як і што, па колькі зямлі даваць будуць? К вясне падзелім панскую і шляхецкую, каб пасеяцца. А каб усё зрабіць па-людску, па закону, па совесці, трэба выбраць сваю ўласць — валасны рэвалюцыйны камітэт. Выбірайце таго, каму верыце. А хто хоча што сказаць, хай выходзіць сюды на ганак.

— Што там казаць! — пачуліся галасы.

— І так ясна!

— А я от што скажу,— пачаў праціскацца наперад чорны худы стары.

— Што ён там скажа?

— Зноў пра турэцкую вайну байку адпаліць.

— Хай гаворыць!

Натоўп пачаў расступацца.

Дзед узышоў на ганак, зняў выцертую авечую шапку, скамечыў у руках.

— Усё ета добра, што саветы напісалі. Без зямлі мужык, як рыба без вады, задыхнецца. А от зачнем дзяліць тую зямлю, і кожан захоча сабе большы і лепшы загон ухапіць. За чубы счэпімся, каламі галовы адзін аднаму парасквашваем. Праўду кажу, мужчыны? Значыцца, трэба некага аднаго слухацца. Кажуць, власнгл, як яго там, гэты самы мікіцет трэба. Хай будзе мікіцет, але каб добра змікіціў. І яшчэ вам скажу на свой дурны розум: лепшага за Ляксандру Раманавага нам не знайсці. Што да граматы ці там да справядлівасці, адным словам, совесны чалавек. Хай будзе Салавей!

Ён надзеў шапку задам наперад і пад згодны гул сышоў з ганка. За сталом падняўся Пракоп Малаковіч.

— Хто за тое, каб старшынёй рэўкома быў Салавей Ляксандра, падніміце рукі.

Адразу шуснулі ўгару сотні абсіверaных чырвоных рук, і пакацілася гамана.

— Хай будзе!

— А што, хлопец добры!

— Сваіх у крыўду не дасць.

— Самастаяцельны і наш чалавек.

А иейкая маладзіца крыкнула:

— Ажаніць спярша трэба.

У пярэдніх радах пракаціўся рогат.

— Сам не маленькі.

Расчырванелая Марылька пазірала з натоўпу на брата і ўпершыню за свае дваццаць гадоў была такая шчаслівая. Ёй зайздросцілі сяброўкі і не зводзілі вачэй з ладнага, прыгожага Аляксандра. Мабыць, кожная бачыла сябе з ім побач і хацела, каб ён прыкмеціў яе, усміхнуўся ёй.

Раман стаяў сярод мужчын, і старому не верылася, што гэта яго родны сын, той самы Алесь, з якім яны столькі пагаравалі па чужых кутках, на шляхецкіх загонах, на здзірванелых лядах. Думы старога перабіў знаёмы голас:

— Дзякую вам, таварышы, што давяраеце мне. Кажу тут пры ўсіх, што не пашкадую сіл і жыцця за Савецкую ўласць, за партыю бальшавікоў, за рэвалюцыю. А цяпер нам трэба выбраць яшчэ сакратара і членаў рэўкома. Кажыце, каго б вы хацелі.

— Максіма Архіпавага!

— Анупрэя Драпезу!

— Малаковіча Пракопа!

— Лятзона Адзінца! — выкрыквалі з натоўпу.

Зноў паднімаліся задубелыя рукі, калыхаўся і гуў натоўп. Толькі што абраныя члены рэўкома выходзілі на ганак і станавіліся за сталом. Аляксандр Салавей узяў у рукі доўгі, гладка абструганы кіёк. Верх яго быў абкручаны нечым чырвоным. Усе глядзелі і не ведалі, што гэта ён трымае. Тады старшыня рэўкома выйшаў на самы краёчак ганка, высока паДняў кій і пачаў яго раскручваць. Над галовамі ўскалыхнулася чырвонае палотнішча.

— Таварышы рудабельцы,— загаварыў Салавей.— Гэта наш чырвоны сцяг, сцяг рэвалюцыі. На ім кроў тых, што загінулі за простых людзей, за шчасце і свабоду. З сённяшняга дня ён будзе вісець над рэўкомам.

Там, дзе чырвоны сцяг, там Савецкая ўласць. Трэба, каб у кожным сяле, на кожным бядняцкім хутары былі такія сцягі. Няхай паны, шляхта і ўсе ведаюць, што да нас прыйшла рэвалюцыя, што цяпер наша ўласць!

— Калі ж бо краму няма. З чаго іх зробіш? — выкрыкнула з першага рада Параска.

— Хто захоча, той знойдзе,— спакойна адказаў Салавей і раптам угледзеў, што па вуліцы да воласці бяжыць нейкі маленькі дзядок і размахвае сякераю.

— Людцы, памажыце спаймаць! — крычаў чалавек з сякераю.

«Гэта ж Цярэшка,— пазнаў Аляксандр.— Што ён, здурнеў, ці што?»

Цярэшка прашыўся каля самае сцяны, узгробся на ганак і, задыхаючыся, закрычаў тоненькім галаскам:

— Трымайце яго, гада печанага, унь туды па загуменні ў алешнік лупянуў, відаць, на футары падаўся. Дзе ж мне, старому, такога бугая залыгаць. Як свістануў, толькі яго і бачыў. Сякераю папусціў, дык ён выкруціўся, смоўж смярдзючы.

— Каго лавіць? Толкам кажыце, дзядзька,— умяшаўся Салавей.

— Як каго? — здзівіўся стары.— Выйшаў я гэта на дрывотню, думаю, бабе падпалкі нашчаплю ды пабягу на субранне, аж бачу: валачэцца ад папа здаравіла нейкі. Водзіць яго з боку на бок каля плота. Сам у кажушку, а халявы блішчастыя. Прыгледзеўся — морда чырвоная і рудыя вусы тырчаць — дальбог, стражнік Мініч. Я за сякеру ды за ім. Стой, крычу, гад печаны. Цяпер народ цябе судзіць будзе. А ён як лупяне цераз плот, ды па раллі, ды па раллі, а я следам. Да самай грэблі гнаў. Памажыце, мужчынкі, забрытаць, ды павесім яго на варотах усім вобчаствам, каб ведаў, як здзекавацца з мужыка. Гэта ж я за яго ласку вошай парыў і унь як аташчаў.

Некаторыя гатовы былі бегчы лавіць стражніка, другія пасміхаліся з Цярэшкі.

— Няхай пабегае. Ад закону ён нідзе не дзенецца,— спакойна загаварыў Салавей.— Зловім і будзем судзіць па ўсёй форме. А сякерка ваша, дзядзька, нам якраз і трэба.— Ён узяў у старога невялічкую лёгкую сякерку. Хлопцы прыставілі да ганка драбіну. Максім падаў цвікі. Трымаючы ў адной руцэ сцяг, у другой сякеру, Аляксандр узлез на самы верх ганка.

Вецер падхапіў, разгарнуў чырвонае палотнішча, яно напялася, затрапятала і загуло ў пахмурым восеньскім небе. А калі выбліснула сонца, сцяг пасвятлеў, па ім пабеглі густыя ярка-чырвоныя хвалі.

Людзі, задраўшы галовы, глядзелі на трапяткое, Нібыта язык вялікага полымя, палотнішча.

У Рудню і Кавалі, у Лаўстыкі і ў Новую Дуброву разыходзіліся вясёлымі гаманлівымі купкамі. Паважна, з кійкамі ішлі дзяды. Верылася і не верылася, што так будзе, як казаў Раманаў сын. Некаторыя сумняваліся.

— Хто напісаў тыя законы, бог яго ведае. Мікалай быў, што ні загадае, хочаш не хочаш, а мусіш спаўняць; які б там ні быў, а ўсё ж цар. А тут — Савет. Што за сіла ў таго Савета, яшчэ пабачым. Царскія ж генералы з ахвіцэрамі асталіся, што захочуць, тое і зробяць.

— Няма страху ўперадзе, калі страх ззаду,— пярэчыў барадаты дзед.— Хоць раз наямося хлеба ўволю. А ты гэта дарэмна не верыш Савету. Савет, браце,— сіла, народ! У бальшавікоў, кажуць, за галоўнага башкавіты чалавек стаіць, страх які вучаны, па-ўсякаму

гаварыць мажэ. Леніным завуць. Ён цяпер самы важны ў Расіі. Чуў? Гэта ж ён панапісваў тыя дзякрэты.

Вуліцаю, нібы з царквы, у стракатых андараках і спадніцах ішлі жанкі і дзяўчаты. Гаманілі, сакаталі адна перад адною.

— А бабачкі, які ж відны ды хлёсткі гэты Раманаў хлопец.

— Каб не куча дзяцей, сама б яго забрытала,— развесялілася Параска.

— От прыйдзе Амяллян, ён цябе лейцамі так спаласуе, што і не сядзеш.

— Ён у мяне рахманы,— сцішылаея, уздыхнула і зноў засумавала, успомніўшы свайго Амялляна, Параска.

— У цябе часам, Параска, чырвонае фарбы не асталося? — спытала высокая худая цётка Мар'яна.— Трэба ж хоць кавалак палатна пафарбаваць ды паЕесіць той сцяг на хаце.

— Пашукаю, цетачка. І я ж думаю фарбаваць. Так што прыносьце да мяне і сваё.

Назаўтра ў Карпілаўцы і ў Кавалях, у Рудні і ў Новай Дуброве прыбівалі да стрэх і вуглоў хат чырвоныя сцягі. Яны былі светлыя і цёмна-бардовыя, большыя і меншыя, з ношанага паркалю і з новага кужалю. Дзеці бегалі з канца ў канец вуліцы і выхваляліся:

— А наш леишы за ваш!

— Затое наш большы і паркалёвы.

— От і няпраўда, самы чырвоны на Парасчынай хаце.

5

Па змярканні Іван з Гэляю на параконцы ехалі з млына. Добра было сядзець побач на мяккіх мяхах яшчэ цёплай пытляванкі. Яны не вельмі спяшаліся: так хацелася хоць яшчэ трохі пабыць разам. Андрэй толькі ў млын пускаў дачку з парабкам, каб той часам не адсыпаў сабе пшанічкі або мукі. І не хацелася старому Ермаліцкаму, каб яны аставаліся ўдваіх, але шкода было дабра.

Іван паганяў коней, а расчырванелая на ветры Гэля, у зграбным паўкажушку, аблямаваным белай аўчынаю, у чаравіках з доўгімі халяўкамі і ў сівай канаплянцы, пазірала на чарнявага, дужага Івана. Ён моўчкі курыў і думаў сваю невясёлую думу. Не раз ужо наважваўся еысці з гэтага глухога хутара, наняцца хоць да самога чорта, ды трымала яна, як чарацінка, гнуткая, сінявокая, спрытная і такая пяшчотная Гэлька. Дзе гэта відана, каб шляхцянка ўпадабала бацькавага парабка і каб ён так прысох да яе. Ведае, што нічога з гэтага не выйдзе. Можа, і праўду кажа гаспадар, што бот лапцю не пара, што Гэльцы трэба жаніх не абы з якога роду, каб у яго і зямля

была, і добрыя стаеннікі, і дом як дом, і адзежа, адным словам — раўня. А што ў яго? Ні кала ні двара. У бацькі — хата на два акенцы, падлога з гліны, паўморга пясочку і поўная хата дзяцей. Праўда, час цяпер такі, што не разбярэш, хто чаго варты. У млыне ж гаманілі завознікі, нібыта зноў у Петраградзе пераварот быў і цяпер панскую зямлю будуць раздаваць беднаце. От каб жа!

Іван, апякаючы пальцы, смактаў недакурак і час ад часу нокаў на коней.

— Ну чаго зноў маўчыш? Дома ад бацькі хаваешся і тут як вады ў рот набраў,— прыхінулася да яго Гэлька.— Пра што думает?

— Пра што ж мне думаць? Адна ў мяне думка — пра гора нашае. Мяне прысушыла і сама сохнеш, а дзе нам дзецца, калі твае на мяне ваўкамі глядзяць. Хацеў бы кінуць-рынуць, сысці абы-куды, ды не магу. Дзень не бачу цябе, здэцца, як сляпы хаця-су. Ведаю, што не быць нам разам. Аддадуць цябе за шляхцюка якоганебудзь, і не пабачымся, мажа.

— Лепей у пельку галавою, чым ісці за нялюбага. Не за чалавека ж аддаюць, а за коней, за кароў, за зямлю, каб ірвацца на ёй, пакуль не выпрастаешся. От пабачыш, не паслухаюць — усё ім кіну, уцяку, у парабчанкі наймуся, а буду з табою.— Яна бліжэй прытулілася да Івана, схіліла на яго плячо галаву.

Колы грукаталі па карэннях лясное дарогі, саплі сытыя коні і ціха шумелі голыя верхавіны дрэў. Калі выехалі з лесу, сцямнела зусім. У змроку свяціўся, мігаў і расплываўся слабы агеньчык, глуха брахаў Пірат.

Каля дому Гэлі зрабілася маркотна і горка. Іх адзінокі хутар, асабліва пасля люднага млына, гаманы завознікаў, шуму вады і стукату колаў, здаваўся глухі, як магіла. Вырасла тут і людзей не бачыла. Яе равесніцы на попрадкі ходзяць, на вечарынках гуляюць, хоць і галодныя, ды вясёлыя, а яна толькі і гаварыла з каровамі ды авечкамі, век слухала бацькаву буркатню — усё яму мала, усё не так ды не гэтак. Толькі і радасці было, калі ў жніво наймалі дзяўчат і маладзіц з Кавалёў і Карпілаўкі, варылі вялікія чыгуны бацвіння, неслі на поле збанкі з квасам. А жанкі завіхаліся на загонах, часам спявалі працяжныя сумныя песні. А Гэля і спяваць не ўмела ні мужыцкіх, ні шляхецкіх. Дома не спявалі. Болей сварыліся ці маўчалі. От прыйдзеш дадому, бацька зноў будзе глядзець воўкам, бурчаць і вохкаць: ніхто яму не ўгодзіць, нікому ён не скажа. добрага слова.

Пад'ехалі да свірна. Стары прыйшоў з невялічкім закураным ліхтаром.

— Нешта ж доўга вы забавіліся, ледзьве дачакаўся, Думаў, можа, вось зламалася ці яшчэ якая трасца.

— Кал і ж завозна вельмі! — адказаў Іван.— Адны Нера гуды аж два вазы прыперлі, і ўсё шатраваць. Гавароўскія восем мяхоў навальдавалі, а з клункамі — каица-краю няма.

— Два вазы, кажаш, шатроўкі! Бач ты яго.— Стары пацмокаў губамі, памацаў праз мяхі, ці добра змелена.— Распрагай! — загадаў Івану.— А ты марш у хату.

— Я, тата, памагу мяхі пазносіць.

— Самі ўправімся, не зломкі.— Ён пачапіў ліхтар на цвік, забразгаў ключамі, знайшоў той, што трэба, і адамкнуў свіран.

Гэлю на парозе сустрэла маці.

— А дзіцятка маё, намерзлася ж нябоеь і нагаравалася.— Яна мітусілася па хаце і хітранька ўсміхалася. Гзля пачула, што ў каморы нехта ёсць, насцярожана прыслухалаея.— Каб ведала, каго нам бог паслаў, пешкі прыбегла б з таго млына.

У дзвярах паказаўся мужчына ў белай сподняй кашулі і ў галёшах на босую нагу. Ён зарагатаў:

— Не пазнала, не пазнала! — і кінуўся да Гэлі.

— Казік! — абняла яна брата. Маці, шчаслiва ўсміхаючыся, глядзела на іх.

— Я ж казала, што нейкая навіна будзе. Гэта ж з пятніцы на суботу сон мне сніўся, бытта іду ў хату, а яна адамкнёная і дзверы насцеж. Зладзеі, думаю сабе. Крыкнуць хачу, а голас адняло, губы, як змерзліся, і не варушацца. Увайшла, аж бачу — лётае па хаце вер а бейка і ў шыбіну стукаецца, вырвацца хоча. Пакруціўся, пакруціўся, фыр у дзверы і паляцеў. Кажу бацьку, навіна нейкая будзе, а ён, ведама, сваё: «Дурніцы дурное і вярзецца». А што ж, чыя праўда?

— Насаўсім, Казік? — за пытал а

— Адваяваўся, хогііць. Цяпер у арміі каміцетчыкі правяць, прапаршчыкі з унцерамі палкамі камандуюць. З палкоўнікаў пагоны здзіраюць. У нас штабскапітана Мару хі на на штыкі паднялі. Нашаму брату з імі не па дарозе. Няхай парызыкуюць, пагуляюць трохі ў свабоду. А там пабачым!

«Брат не паспагадае»,— надумала Гэля. А так спачатку ўзрадавалася, думала — заступіцца, паможа бацьку ўгаварыць, каб аддаў за Івана. І пасагу таго не трэба, хоць бы для прыклепу хвост які далі на разжытак.

Яна развязала пабялелую ад мучнога пылу канаплянку, скінула паўкажушок, прычасала светлыя гладкія валасы. У чорнай доўгай спадніцы, ружовай, з манжэцікамі, кофце з высокім станікам, Гзля

была настолькі свежая, румяная і прытожая, што брат ніяк не пазнаваў у ёй таго падлетка, якім яна была, калі ад'язджаў у юнкерскае вучылішча.

— Ну і вырасла, ну і пахарашэла.— Казік хітра ўсміхнуўся і, нібы жартуючы, запытаў: — Ад кавалераў, мабыць, адбою няма?

Гэля зачырванелася да вушэй.

— Трэба яны мне, як хваробе кашаль,

— Значыць, аднаго выбрала,— еіліўся жартаваць брат. Гэля маўчала, апусціўшы галаву. Яна бачыла, куды хіліць Казік. Усё ўжо расказалі! А прыкідваецца, выпытвае. І каб толькі не маўчаць, папрасіла:

— Мама, можа, малачка кубачак е, а то ў горле ад пылу, як таркаю, дзярэ.

— Чаму ж няма? Толькі падаіла.— Маці, не зачыніўшы дзверы, шоргаючы атопкамі, выскачыла ў сенцы. Унесла збанок сырадою, наліла ў паліваны кубачак.

— Прыйдзе тата, вячэрацьмем. А ты папі, папі, дачушка, пакуль тое будзе.

Гэля піла моўчкі. Маці глядзела то на яе, то на сына і толькі ківала галавою. Ёй не хацелася, каб зноў усчыналася сварка, не хацелася бачыць даччыных слёз у такі радасны дзень. А на сэрцы ўсё адно было нядобра. Можа, таму, што ў свеце пайшоў нейкі рэзрух і калатэча, а тут яшчэ з гэтай дзеўкаю няма ладу.

У сенцы ўвайшоў Андрэй. Каб было відна, адчыніў у хату дзверы, зняў з цвіка стары, пацягнуты сукном кажух, ска за ў жонцы:

— Дай там чаго яму з'есці, няхай папільнуе ў свірне. Ноч, хоць вока выткні, а галоднай навалачы цягаецца унь колькі. Без цара ды без закону ім толькі і лазіць па чужых свірнах. А пад кажухам будзе цёпла.

— Ён жа намёрзся, увярэдзіўся з мяхамі, зранку нічога гарачага ў роце не было. Хай бы паеў, як людзі,— заступілася за Івана Гэля.

— Не вялікі пан. Паставіць на скрыні і з'есць, Няма чаго ў чужую сям'ю лезці. Абыдземся і без яго. Можа, сваім і пагаварыць трэба, а тут чужы чалавек.—Андрэй націснуў на слова «чужы», дакорліва зірнуў на Гэлю, забраў кажух, парабкоўскую вячэру, ляпнуў дзвярыма і пайшоў.

— Нешта ж ты вельмі заступаешся за бацькавага парабка? — жорстка запытаў у сястры Казік.— Ці не закруціў табе галаву гэты кавалёўскі злыдзень?

— Хіба ж ён не чалавек, каб і за стол не пускаць? — з крыўдаю адказала сястра.

— Мужык! Гад з лазы! Які б ён ні быў, а я з ім за адзін стол не сяду.

— Ты ж не ведаеш яго, а гаворыш.

— І ведаць не хачу... І табе няма чаго на яго заглядацца,— секанўў Казік.

«О, гэты мудрэй за бацьку»,— падумала Гэля. Яна адчула, што вось цяпер ужо нешта вырашыцца, нешта перавернецца ў доме і ў яе жыцці. Івана прагоняць... Тады і ёй тут не жыць. Лепш сысці куды вочы глядзяць. Можа, разам падацца ў які двор... Але ўсюды цяпер неспакойна: паны некуды ўцякаюць, астаюцца адны аканомы... І шкода пакідаць сваю хату, абжытую і цёплую; шкода маўклівай, зацюканай маці. Яна ж дачцэ дабра зычыць, толькі баіцца сказаць... От вярнуўся брат, радавацца трэба, а ёй горка: чужы ён нейкі, колкі і злосны.

Гэля разам з маткаю ставіла на стол міскі з квашанай капустаю, з гарачай сопкай бульбаю, кроіла ружовае сала і лусты хлеба з вялікага бохана, пасыпанага чарнушкаю.

Бацька ўнёс з сянец трошкі адпітую пляшку мікалаеўскай гарэлкі, паставіў на стол, маці выцерла фартухом дзве тоўстыя рубчастыя чаркі.

— Пастаўце сабе і Гэлі,—загадаў Казік.— За столькі гадоў усе разам сабраліся, не грэх і выпіць.

Гэля толькі дакранулася да беражка, скрывілася, заціснула рот рукою і паставіла чарку на стол.

— Выпі з братам, хай вас бог беражэ,— лагодна сказаў бацька. Казік зноў наліў сабе і бацьку, падняў чарку, утаропіўся ў сястру.

— Калі ж бо вельмі горкая,— скрывілася Гэля, але ўсё ж выпіла.

Доўга, чмякаючы, елі. Кожны думаў свае і маўчаў.

— Як стары Перагуд маецца? — ні з таго ні з сяго запытаў Казік.

— Ліха яго не бярэ. Онь і сёння два вазы пшаніцы напытляваў, трох парабкаў дзержыць, кароў штук з восем, а сам па кірмашах на стаенніках гарцуе,— не хаваючы зайздрасці, адказаў бацька.— Хлопца, кажуць, за золата з акопаў выбавіў, дачку ў Бабруйск у гімназію адправіў. Жыве-е і не шманае!

— Трэ было б і нам сваю хоць трохі павучыць,— нясмела азвалася старая,— а то толькі тры зімы і пахадзіла, можа б, які добры чалавек тады трапіўся.

— Хай бы ты на ўсё выстарчыла,— агрызнуўся Андрэй.— А добры чалавек і так знойдзецца. Не зломак жа, і пасагу дамо... і-і-і забудзе пра гэтага галадранца. Заўтра ж турну, каб і смуроду не было.

Гэля апусціла галаву і выскачыла ў сенцы.

— Праўду бацька кажа, воўк казе не таварыш. Бач ты, разумны які, на хутар аблізваецца, на гатовенькае. Мужык мужыком, а дурнейшых за сябе шукае,— абурыўся Казік.

— От тое ж і я кажу. Праўда, сынок, праўда,— бубнеў асалавелы Андрэй.

6

У рэўкоме было накурана і людна. За доўгім стадом сядзела чалавек дзесяць мужчын: хто ў світцы, хто ў кажушку, у салдацкіх папахах і ў авечых шапках. Мужчыны слінілі алоўкі і заскарузлымі пальцамі выводзілі ў вучнёўскіх сшытках літару за літарай, радок за радком.

Максім Ляўкоў дыктаваў ім дэкрэты аб зямлі і аб міры, а яны старанна пісалі слова ў слова.

— Пачакай, пачакай, як ты кажаш? — перапытваў немалады селянін, не ведаючы, як напісаць «дэмакратычны» і што гэта значыць. Максім паўтараў, тлумачыў і дыктаваў далей.

Калі скончылі, з пакойчыка старшыні выйшлі Салавей з Малаковічам. Аляксандр спыніўся пасярэдзіне зборні і загаварыў:

— Мужчыны, усе мы былі салдатамі і ведаем, што вайна адразу не канчаецца. Саветы хочуць міру, але і за мір трэба ваяваць з панамі, афіцэрамі, легіянерамі Доўбар-Мусніцкага. Корпус гэтага генерала стаў на абарону паноў, салдаты польскага корпуса раз'ехаліся па маёнтках і ахоўваюць іх, разганяюць рэўкомы, бунтуюць у Бабруйску і ў Жлобіне. Не сягоння-заўтра могуць прыйсці да нас. Што будзем рабіць? Га?

— Бараніцца. Што ж яшчэ? — за ўсіх спакойна адказаў Мануіл Кавалевіч.

— А чым? — зноў запытаў Салавей.

— Ты прынёс вінтоўку? Прынёс. А я, думает, дурнейшы. Так і кожны,— выгукнуў Тарас Пальцаў.

— Знойдзем! У каго дубальтоўка, у каго ламанка. Нешта ж прынясём.

— Можа, што і лепшае знойдзецца,— загулі мужчыны.

— Добра, калі разумееце, што трэба. А трэба нам зараз жа мець сваю самаахову, атрады Чырвонай гвардыі. У каго ёсць якая зброя, патроны, порах, можа, хто гранаты прыпас ці што іншае, заўтра зранку з усім, што маеце, каб былі ў воласці. Так усюды і людзям кажыце.

— А што рабіць тым, у каго няма? — запытаў канапаты хлопец.

— Трэба шукаць. Цапільнам з кулямётамі не паваюеш. Патрасем шляхту, ва ўрангелеўскіх пакоях пашукаем.

— На футарах і гармату знойдзеш. Засцянковыя шэршні запаслівыя,— пажартаваў нехта.

— Адным словам, таварышы, так: бараніць сваю ўладу, свае правы прыйдзецца самім. Рэўком цяпер становіцца і рэвалюцыйным штабам. Ваенным камісарам будзе от ён,— Салавей паказаў на Пракопа,— таварыш Малаковіч, камандзір — Анупрэй Драпеза. У кожным сяле будзе аддзяленне, узвод, а можа, і рота набярэцца. Усе жывуць дома, а калі трэба, па загаду, як па трывозе, выступаюць. Ясна?

— Чаму ж не?

— Ясна!

— Мы ім дамо пытлю, няхай толькі паткнуцца! — гулі мужчыны.

Салавей папрасіў, каб асталіся члены РСДРП бальшавікоў. Астатнія мужчыны пачалі разыходзіцца.

Ішлі купкамі ў свае сёлы, неслі за пазухамі перапісаныя ў вучнёўскія сшыткі першыя дэкрэты і гаманілі ўсё пра адно :і тое ж.

— А ты думаў, не хварэючы, не балеючы, нарэжуць табе вал оку — і раскашуйся сабе?

— Дзе ты бачыў, так яны не аддадуць. Паваяваць прыйдзецца.

— І паваюем, а свайго не аддамо. Наша зямля.

— А чыя ж? Раз у дзякрэце запісана, значыць — наша.

У пакойчыку старшыні сабралася восем рудабельскіх бальшавікоў: худы, з запалымі вачамі, з пасмамі шэрых валасоў, дзюбаносы Якаў Гошка, высокі, з магутнымі шырокімі плячамі, з невялічкімі вусікамі на ружовым твары Максім Ус, чарнявы, заўсёды спакойны Лявон Адзінец, Максім Ляўкоў, Пракоп Малаковіч, у чорным бушлаце і шырокім матроскім клёшы, зусім яшчэ малады балтыйскі марак Зянон Рыговіч і разважлівы, хоць і малады, Нічыпар Званковіч.

Яны расселіся на лаўках каля сцен і чакалі, што ім скажа Салавей. А той агледзеў знаёмых з дзяцінства сяброў, успомніў парэпаныя пяты і пасіверыныя рукі, зрэбнікі, пафарбаваныя альховай карою, закарэлыя насы і толькі вачамі ўсміхнуўся. Цяпер перад ім сядзелі абветраныя дужыя мужчыны. Яны не раз глядзелі ў вочы смерці пад Сувалкамі і Баранавічамі, у некаторых яшчэ нылі раны ад нямецкіх куль і шрапнелі. Гэта яго самыя блізкія сябры і аднадумцы, першыя бальшавікі Рудабельшчыны.

Усе гэтыя думкі імгненна пранесліся ў галаве. Салавей абсмыкнуў палінялую гімнасцёрку, паправіў шырокую папругу і загаварыў спакойна і ціха:

— Таварышы, нас тут усяго восем бальшавікоў. Не многа, але мы ўжо арганізацыя, сіла. Максім,— звярнуўся ён да Ляўкова,— прыйдзецца пісаць пратакол.

Максім выцягнуў аркуш паперы, што засталася ад колішняй воласці, паспрабаваў, ці добра піша пяро, і акуратна, буйнымі круглымі літарамі вывеў: «Пратакол № I сходу Рудабельскай валячэйкі РСДРП бальшавікоў».

— Таварышы, нам прыйдзецца ваяваць не толькі з панамі і падпанкамі, не толькі з багатаю засцянковаю шляхтай, але і з узброенымі сіламі контррэвалюцыйнага корпуса Доўбар-Мусніцкага,— працягваў Салавей.— Цяпер кожнаму відно, что Часовы ўрад Керанскага стварыў гэты корпус для таго, каб яго рукамі душыць рэвалюцыю, ахоўваць панскія маёнткі і распраўляцца з бальшавікамі і беднатою. Відаць, і Мухель чакае не дачакаецца легіянераў, каб яны пільнавалі ўрангелеўскае дабро.

— Што ты! — перабіў яго Ляўкоў.— Мухеля даўно на свеце няма. Даўся ж ён табе ў знакі, што і мёртвага ўспамінаеш. Атруціўся Мухель на самым пачатку вайны. Прамантачыў панскія грошыкі, а ў дюрму садзіцца фанабэрыя не дала, усыпаў нешта ў чай, выпіў шклянку на вачах ва ўрадніка і апруцянеў.

— Цяпер тут, брат, гіцаль люцейшы за Мухеля. Адстаўны падпалкоўнік. Сам барон яго прывёз. Мікалаем Мікалаевічам завуць, а хвамілію ніхто і не ведае. Цюцька, якіх свет не бачыў,— дадаў Якаў Гошка.

— А я і не ведаў. Што ж, і гэты Мікалай Мікалаевіч не сядзіць склаўшы рукі. Нам трэба не дапусціць акупантаў у Рудабелку, трэба пакласці ўсе сілы, каб тут жыла Савецкая ўласць. А для гэтага трэба што?

— Падняць і ўзброіць народ,— дадаў Ус.

— Так-то яно так. А дзе ўзяць вінтоўкі, патроны, гранаты і хоць бы адзін кулямёт?

— Пашукаем, дык, можа, і знойдзем. У мяне е карабін і наган,— прызнаўся матрос.

— Хіба ў аднаго цябе? У кожнага нешта знойдзецца,— сказаў Званковіч.

— Заўтра з раніцы кожны ў сваім сяле выявіць усю зброю. Вечарам збярыце людзей, усё раскажыце ім, запішыце гатовых уступіць у атрады самаабароны. Я думаю так: легіянеры праз Глуск не пойдуць. Яны ж пехатою хадзіць не прывычныя. Прыкоцяць у Ратміравічы па чыгунцы. Значыць, нам трэба мець сваіх людзей на станцыі і недзе недалёка паставіць баявую груду такіх хлопцаў, каб маглі сустрэць як

трэба. Я пайду з імі. Жыць будзем у Огземлі. Людзі там нашы, бедната ўсё. Калі спатрэбіцца, памогуць. Згодны, хлопцы?

— А мяне возьмеш? — запытаў Раговіч.

— Возьмем, калі адзенеш світку і лапці абуеш, каб ніхто не пазнаў, што матрос.

Зянону не хацелася здымаць сваю форму, на якую ўсе так заглядаліся, але нічога не зробіш.

— І яшчэ адно, хлопцы. Трэба нам звязацца з Бабруйскім укомам. Цяпер разыходзьцеся, браткі, і за работу.

— Пачакай, Раманавіч,— падняўся Малаковіч.— Колькі нас сазнацельных бальшавікоў-парцейцаў, гатовых за рэвалюцыю ў агонь і ў ваду? Восем душ. Усе тут. Я думаю, етага мала.

— Канечне, мала,— падтрымалі яго.

— Што ж, людзей у нас добрых няма? Прыгледзецца толькі трэба, пагаварыць з чалавекам, і ён сам прыйдзе да нас. Узяць хоць бы Антона Кісяля ці Аляксандра Раговіча. Ды яны, яны ў пекла пойдуць за Савецкую ўласць.

— А Мацвей Калінковіч чым не бальшавік, хоць і беспарцейны? — дадаў Максім Ус.

— От я й кажу, трэба, каб у нас была добрая баявая парцейная арганізацыя.

— Я думаю, хлопцы, парцейнаю ячэйкай няхай зоймецца Пракоп Малаковіч, баявыя атрады арганізоўваюць Салавей з Драпезам, а ў рэўкоме, пакуль суд да дзела, Максім Ляўкоў пабудзе,— прапанаваў Якаў Гошка.

Так і парашылі. Максім Ус выйшаў з рэўкома разам з Зянонам Рыгоравічам. Ім было ў адну дарогу. Максім жыў у маленькай лясной вёсцы Грабінка, а Раговіч — у Старой Дуброве.

Прыцярушаная тонкім сняжком зямля зноў добра ўмерзла, закамянелі грудкі гразі, заледзянелі на дарозе каляіны. Высокі шыракаплечы Максім, у абмотках і салдацкім шынялі, спыніўся, адвярнуўся ад ветру, прыкурыў і яшчэ раз зірнуў на рэўком. Над дахам трапятаў чырвоны сцяг, трымцела і калыхалася ад ветру дрэўка. На хатах віселі большыя і меншыя, шырокія і вузкія чырвоныя палотнішчы.

— Бачыш, вісяць.

— Калі не будзем разявакамі, заўсёды вісецьмуць,— адказаў матрос, і яны спорнай хадою пайшлі на вуліцы. Ззаду затарахцелі колы, гулка зацокалі конскія капыты. Іх нагнала і пакацілася па дарозе лёгкая брычка, запрэжаная паркай сытых коней. За кучарам на глыбокім скураным сядзенні разваліўся Мікалай Мікалаевіч. Ён быў

важны і незалежны, у чорным казачыне, круглай рудой шапцы, сівыя вусы звісалі аж на каўнер. Ён ледзь павярнуў галаву, абвёў хлопцаў халодным позіркам, і брычка пакацілася па дарозе.

-— Колькі ж ён тут яшчэ будзе ездзіць? — запытаў Максім.

— Пакуль не дадзім па карку і не спорам з панскага седала.

— Як ты думает, куды ён ляціць, а?

— Мабыць, на Ратміравічы. Куды ж яшчэ па гэтай дарозе? Можа, паехаў прасіць, каб легіянераў паставілі ў двары, а можа, і так чаго,— спакойна разважаў матрос.

— Пачакай трошкі. Збегаю Аляксандру з Пракопам скажу. Гэта ж не так сабе ён паехаў.— І Максім, грукаючы па сцежцы падкоўкамі салдацкіх чаравікаў, вярнуўся ў рэўком.

7

На досвітку Салавей, а з ім яшчэ адзінаццаць чалавек, выйшлі з сяла. У некаторых на плячах вісели вінтоўкі і двухстволкі, у дваіх пры баку целяпаліся шаблі, на папругах калыхаліся падобныя на таўкачы, бляшаныя, з драўлянымі ручкамі гранаты. Ішлі па трычатыры чалавекі.

За ноч яшчэ паядранеў марозік. Нібы капусны ліст, парыпваў пад нагамі свежы сняжок. За чорнымі зубцамі лесу хаваўся тоненькі маладзік.

Салавей, прывычны да далёкіх пераходаў, ішоў панерадзе, лёгка і вельмі спорна. Якаў Гошка, заплятаючыся ў крыссі шыняля, ледзьве наспяваў за ўсімі. Калі добра Вывіднела, яны выйшлі з маладога асінніку на палявую дарогу. На ўзгорку паказаліся хаты, хлявы, азяроды і гіуні.

Хлопцы сталі вакол Салаўя. Ён ссунуў на патыліцу зялёную вайсковую шапку, правёў пальцам па маленькіх падстрыжаных вусіках і ціха, зусім па-сяброўску, сказаў:

— Яша з Анупрэем пойдуць прама на станцыю. Садзіцеся сярод людзей і маніце, колькі ўлезе. Можаце сказаць, што едзеце ў войска пасля ранения ці шукаеце фурманку, каб даехаць дадому. Часцей заходзьце да дзяжурнага, пытайцеся, калі прыйдзе поезд. Глядзіце і нюхайце, чым там пахне. А мы загуменнямі, агародамі, хто як, разыдземся па сялу. У кожнага ж тут ёсць ці сваяк, ці знаёмы. Я буду ў Пракопавага швагра. Калі што якое пачуеце на станцыі, адразу ж дасцё знаць. А к вечару і мы па адным, па два прыйдзем туды. Трэба, каб ніхто не ведаў, колькі нас і хто мы такія.

Дні позняй восені кароткія і шэрыя: адразу пасля паўдня пачынае змяркацца. Аляксандр, не разуваючыся, прылёг на палок за печчу —

мінулаю ноччу не спаў і ў гэтую наўрад ці засне. У сенцах вішчаў галодны парсюк, на дрывотні цюкаў сякераю гаспадар, на лаве маленькая мурзатая Манька калыхала анучную ляльку, спявала ёй «ката», крычала і біла за тое, што «не спіць», і зноў спявала.

Аляксандр ляжаў з заплюшчанымі вачыма, але сон не браў яго. «Якою ты будзеш, Манька, праз дзесяць гадоў? — думаў ён.— Будзеш вучыцца. Усе тады будуць вучыцца ў вялікіх новых школах. Бацька паставіць прасторную хату, з злектрыкаю, як у горадзе. Забрукуем вуліцы, зямлю ўробім, як пух, машыны будуць араць і сеяць. Эх, дажыць бы да тае пары, паглядзець бы на нашу Рудабелку, на гэтую мурзатую Маньку гэтак гадоў праз дзесяць?»

Непрыкметна ён нібы паплыў у сінім тумане. Ужо здавалася, не гаспадар грукае на дрывотні, а чуваць далёкія глухія стрэлы, трэба ўскакваць, сагнуўшыся, бегчы па полі, паўзці пад калючы дрот, страляць і некага калоць штыхом. Каго і за што? Невядома.

Праз нетрывалую дрглмоту ён пачуў, як у сенцах ляпнула клямка, нехта абабіў ногі і ўвайшоў у хату. Аляксандр сеў на палку, працёр вочы, але ў змроку не мог пазнаць чалавека, пакуль той не загаварыў:

— Ці е тут хто жывы?

— Тата на дрывотні, а мама ў хляве,— бойка адказала Манька.

— А дзядзькі ў вас ніякага не было?

Аляксандр пазнаў Цярэшку па голасу, саскочыў з палацяў і падышоў да яго.

— Каго вы шукаеце, дзядзька?

— Цябе, прысядацель.

— Адкуль жа гэта, на ноч гледзячы?

— Па соль у Ратміравічы бегаў. Шпігулянты туды прыязджаюць мянядь. А без солі якая яда? І бульбіну ў рот не ўваб'еш. Дык от хунты са тры разжыўся. Можа, да посту як і дацягнем. Думаў, на станцыі заначую, ды Анупрэй сюды выправіў. Кажа, каб ты конча пад раніцу быў там; ягамосцяў, кажа, чакаюць, дык старшыня хлебам-соллю сустракаць павінен.— І ён хітранька захіхікаў.— Добра, што зразу знайшоў цябе. А цяпер пайду ў каго-небудзь заначую.

— Дзякую, дзядзька, за навіну. А. на станцыі людзей багата?

— Чаго добрага, а людзей, як гразі... Ты скажы Анупрэю, што заходзіў Цярэшка і ўсё чын чынам пераказаў. Ну, памажы табе божа.

Стары патупаў у парозе, ускінуў на плечы мяшэчак, намацаў клямку і пайшоў.

...На досвітку група Салаўя была на станцыі. У невялікім драўляным будынку свяцілася толькі адно акно. У халоднай цёмнай зале на лаўках і проста на падлозе спалі мужчыны, кабеты і дзеці,

праходы былі завалены клункамі, куфэркамі, торбамі. Аляксандр зайіпоў да дзяжурнага. Стары, хударлявы, даўно не голены чалавек у чырвонай шапцы, драмаў над сталом. Каля тэлеграфіста гарэў ліхтар, павольна круцілася колца апарата, і з яго спаўзала вузенькая пакручастая стужка.

— Дзень добры, таварышы,— прывітаўся Салавей.

— Я ж вам казаў: калі будзе поезд, ніхто не ведае. Палучым дзяпешу, тады скажам. Ідзіце чакайце,— узлаваўся тэлеграфіст.

— А калі прыбудуць легіянеры?

Прахапіўся дзяжурны, палыпаў лупатымі вачамі і запішчаў асіплым фальцэтам:

— Хто ты такі, каб табе дакладваць?

— Старшыня Рудабельскага рэўкома. Прыбылі сустракаць гасцей.

Салавей перайшоў за парэнчы, стаў каля тэлеграфіста, спакойна і цвёрда загадаў:

— Апошнія дэпешы!

Дрыжачымі рукамі тэлеграфіст падаў тоўстую кнігу. Салавей пачаў чытаць тэлеграмы. Адна з іх:

«Са станцыі Беразіна выйшла дрызіна вайсковага назначэння. Аб прыбыцці далажыць начальніку станцыі Беразіна».

Ён адгарнуў некалькі старонак назад і ўбачыў уклеены лісток цупкай гербавай паперы, на ёй прыгожым пакручастым почыркам было напісана:

«Камандуючаму I польскім корпусам генералу Доўбар-Мусніцкаму.

Пакорліва прашу яснавяльможнага пана генерала ўзяць пад ахову Вашых доблесных войск усю маёмасць і маёнтак барона фон Урангеля. Маёнтак знаходзіцца ў дваццаці вярстах ад станцыі Ратміравічы, каля вёскі Рудабелка.

Поўнае ўтрыманне афіцэраў і салдат будзе забяспечана.

Ваш пакорны слуга,

*упраўляючы маёнткам Рудабелка,*
*М. М. Бістром».*

— Усё ясна! — Салавей злосна паглядзеў на тэлеграфіста.— Вы зрабілі злачынства перад рэвалюцыяй, адправіўшы гэтую тэлеграму. Дзе цяпер дрызіна?

Тэлеграфіст замітусіўся, закалацілася сківаца.

— Выйшла з раз'езда, праз гадзіну будзе.

Аляксандр адчыніў дзверы і паклікаў Якава:

— Пастаіш тут. Каб ні адзін з іх нічога не перадаваў. Не паслухаюць, сам ведаеш, што рабіць.

Каля станцыі ляжалі штабялі старых сапрэлых шпал. Сваіх хлопцаў Салавей схаваў за штабялямі, а сам пайшоў у памяшканне.

Праз вокны прабівалася слабае сіняватае святло. Твары здаваліся шэрымі, а вочы — глыбокімі чорнымі праваламі. Многія пасажыры паўставалі, длубаліся ў сваіх клунках і торбах. Румзалі дзеці. Дымілі самакруткамі мужчыны.

Аляксандр стаў пасярэдзіне невялічкага зальчыка:

— Паслухайце, таварышы, што я вам скажу,— пачаў ён.— Зараз з Бабруйска прыйдзе дрызіна з легіянерамі. Чаго яны едуць сюды? Запрасіў іх рудабельскі ўпраўляючы, каб не давалі дзяліць панскую зямлю, каб задушылі Савецкую ўладу. Мы іх тут як належыць сустрэнем. А вы, як толькі пачуеце першы стрэл, чым мацней крычыце «ўра!». Нікуды не выходзьце і адсуньдеся ад вокан.

— Мамка, я баюся,— заскуголіла дзяўчынка.

— Не бойся, дачушка, мы за печ схаваемся.

— Каб хоць якая бярданка была, дык і мы б вам падсабілі,— сказаў высокі дзед у белай свіце.

— Чым галасней будзеце крычаць, тым лепей падсобіце. Добра?

— Чаму ж не!

— Пакрычым!

— Гэта не цяжка.

Калі Аляксандр выйшаў, усе з трывогаю пачалі прыслухоўвацца і паглядаць у вокны.

— Чый гэта такі камандзір? — спытала старая кабета.

— Хіба ж не ведаеш? Рамана Салаўёвага сын.

— Ета мо той, што кажуць латышок?

— Эге, ён самы. У бальшавікі ўпісаўся. Пераварот, кажуць, рабіў, а цяпер у воласці за старшага.

— Чорт яго і разбярэ, якому цяпер богу маліцца: бальшавікі, палякі, ерманцы. А чаго таўкуцца, каб спытаў? Дажыліся, што і солі няма, а тут яшчэ ім глотку дзяры. «Ратуйце»,— крычала, а гэтак зроду не даводзілася.

— Калі трэба, бабка, кукарэку заспяваеш,— засмяяўся малады хлапец.

Доўга і трывожна яшчэ гаманілі, не адважваючыся выйсці за дзверы.

Адсоўваліся ад вокан, садзіліся на падлогу, хаваліся за вялікую, выцертую кажухамі грубку.

— Галубанькі, ідзе ж! Ой, хавайцеся, людцы,— адскочыла ад акна маладзіца і села на падлогу.

Напружана загулі рэйкі, затахкала жалеза аб жалеза, загрукаталі колы і сціхлі. Знадворку пачулася вясёлая гамана.

Да вакзала падкаціла зялёная дрызіна з прычэпам. На перон павыскоквалі салдаты ў жаўтаватых, з ангельскага сукна шынялях і рагатых канфедэратках. З-пад іх у многіх тырчалі чорныя кругленькія навушнікі. Бразгалі медзяныя кацялкі, грукалі падкоўкі — салдаты падскоквалі, стукалі абцас аб абцас, ляпалі сябе і адзін аднаго рукамі, з ратоў вырываліся струменьчыкі белай пары. Хоць і змерзлі, але ім было весела. Кожны марыў хутчэй дабрацца да маёнтка, ад'есціся на панскіх харчах, адлежацца ў цяпле, а можа, і зачараваць якую-небудзь маладзенькую пакаёўку.

Каля прычэпа стаяў прыгожы чарнявы паручнік, заглядаў у дзверы і прыспешваў тых, што не паспелі вылезці:

— Прэндзэй, прэндзэй, панове!

І тут, як пярун сярод яснага неба, над станцыяй пракаціўся залп. Ён разлёгся працяжным гулам у цішыні чыстага марознага рання. За ім грымнула рознагалосае «ўра!». Здавалася, сотні людзей зараз рынуцца з усіх бакоў. Грымнуў яшчэ адзін залп. І зноў зусім блізка пакацілася многагалосае і несуладнае «ўра!».

Польскія жаўнеры пападалі каля вагона, папаўзлі паміж коламі, аб рэйкі забразгалі кацялкі і карабіны. А з-за штабялёў шпал беглі ўзброеныя людзі.

Да прычэпа падляцеў чалавек з гранатаю ў руцэ, у шынялі і ў вайсковай шапцы.

— Рэнкі до гуры! — скамандаваў ён, падскочыў да паручніка і сарваў з яго карабін. Салдаты пападымалі рукі ўгору. А з дзвярэй вакзала валіў натоўп барадатых і безбародых мужчын, каб паглядзець, што там чаўпецца. Жаўнерам здалося, што іх акружае цэлая армія.

— Хто апусціць рукі і паварухнецца, будзе расстраляны на месцы,— скамандаваў Салавей.— Абяззброіць,— загадаў сваім хлопцам.

Легіянеры калаціліся ад перапуду і холаду. Іх пастроілі ў дзве шарэнгі і паставілі па камандзе «смірна». Якаў Гошка з Анупрэем пазбіралі карабіны і роўненька паставілі іх каля штабеля шпал, потым залезлі ў вагончык дрызіны і вынеслі адтуль дзве скрынкі з патронамі. Толькі цяпер жаўнеры расшалопалі, як іх ашукалі адзінаццаць вясковых хлопцаў.

Яны не ведалі, што з імі будуць рабіць: здзекавацца, біць ці, можа, нават пастраляюць. Вакол стаяла некалькі даволі маладых мужчын са стрэльбамі напагатове. Двое зносілі карабіны, пачапіўшы на сябе пісталеты з папругамі.

З вакзала вывалілі ўсе, хто там быў, і пасталі воддаль.

Да раззброеных легіянераў падышоў Салавей:

— Таварышы польскія салдаты! У вас няма ні сваіх маёнткаў, ні капіталаў, ні фабрык. Інакш вы не былі б радавыя салдаты. Вы сыны рабочых або сялян. Чаго ж вы прыехалі сюды, што вам тут трэба? Вашымі рукамі хацелі душыць нас, такіх жа гарапашнікаў, як вы і вашыя бацькі. У Расіі адбылася рэвалюцыя. Яна прынесла свабоду працоўнаму люду. Апамятайцеся, ідзіце за рэвалюцыяй, а не супраць яе. Плюньце на сваіх генералаў, едзьце дадому і жывіце, як людзі, аріііце зямлю, сейце хлеб.

Многія салдаты пачалі ўсміхацца, жывым бляскам загарэліся вочы — значыць, іх не збіраюцца страляць, ім нрапануюць ехаць дадому.

— Мы вас адпускаем з адной умоваю: калі вы вернецеся ў свой бандыцкі корпус і будзеце ваяваць супроць Савецкай улады, памятайце — кулі або шыбеніцы вам не мінаваць. Што скажа пан паручнік?

— После тэго, цо тутэй было, мы юш не жолнежы. Нас чэка велька кара вайсковэго сонду,— суха адказаў збянтэжаны і прыгнечаны паручнік.

— А як думаюць салдаты?

— Нігды, нігды не бэндзем! — адказала некалькі асмялелых галасоў.

— Чаго ж вас несла сюды нячыстая? — пачулася з натоўпу.

— Бач, як цяляты языкі аджавалі.

— Толькі аддай назад стрэльбы, яны нам пакажуць, адкуль ногі растуць.

— Умова такая: паварочвайце назад і да Бабруйска нідзе не спыняцца, каб часам нашы людзі вас яшчэ не запынілі,— загадаў Салавей.

— Пшэпрашам,— асмялеў паручнік,— нех пан лове, хто вы естэсце?

— Рудабельскі рэвалюцыйны камітэт. Так і перадайце вашаму генералу. Скажыце, каб і дарогу забыўся ў наш край. Мы тут і самі навядзём парадак... Па вагонах, марш!

Штурхаючы адзін аднаго, кінуліся легіянеры да дрызіны, кожнаму хацелася хутчэй ускочыць усярэдзіну, зашыцца ў куток.

Натоўп рагатаў і кпіў:

— От ета пакаштавалі панскіх прысмакаў.

— Уцякаюць, як падмеценыя,

А нейкі жартаўнік затупаў на месцы, нібы даганяючы. Апошнія легіянеры хапаліся за парэнчы дрызіны і куляліся ў адчыненыя дзверы.

Салаўёўскія хлопцы аж за жываты браліся. Дзядзькі адзін перад адным частавалі іх самасадам, хвалілі і распытвалі, адкуль і чые яны.

Анупрэй палічыў трафеі: дваццаць карабінаў, тры наганы і дзве скрынкі патронаў.

Салавей ссунуў шапку на патыліцу, як робіць кожны, закончыўшы важную работу, і падышоў да натоўпу.

— Дзякуем, што памаглі. Без вас бы нам не ўправіцца з гэтакай араваю. Выходзіць, што цяпер уся сіла ў вас.

Воддаль стаялі перапалоханыя тэлеграфіст і дзяжурны па стапцыі.

8

Ермаліцкія прагналі Івана на пачатку зімы. Андрэй адважыў яму мяшэчак жыта — от і ўся плата за парабкоўства.

— Ты ж толькі вельмі злосці не затойвай. Так яно скруцілася. Шэльма гэтая вінавата. І чым ты толькі, хе-хе-хе, яе прысушыў? — Андрэй набраў шуфель жыта, патрос над засекам і, нібы адступнога, сыпануў у няпоўны мех.— Так што мы з табою квіты, і жаліцца няма за што.

Іван дастаў з-за пазухі кажушныя рукавіцы, моўчкі паклаў свой заработан на маленькія саначкі і падаўся за вароты.

Ад'ехаўшыся да лесу, ён спыніўся, паглядзеў на хутар. Як тут усё агоркла яму! Даўно плюнуў бы на гэтую ласку, каб не яна. Ён дзівіўся, што ў такім воўчым кодлішчы ўрадзілася прыгожая, добрая і ласкавая Гэлька. Можа, таму такая, што радасці не бачыла ў гэтым бязлюддзі. Зімою хутар замяталі снягі, увосень па даху нудна барабаніў дождж, а яна сляпілася за кудзеляю ці скубла пер'е, а з вясны да замаразкаў пласталася на поліве, жніве ды на сене. Прасілася вучыцца — не пусціў, скнара! Гэля ўсім спагадала, жалілася часам, як ёй нудна тут. Потым неўпрыкметку палюбіліся, ды так, нібы хто любіснікам апаіў. От вярнуўся б, каб зірнуць на яе, ды дзе там, справадзілі ў засценак да цёткі, каб і не бачыла і не чула пра яго. Яшчэ гэты афіцэрык сыскаўся, каб яму пуста было. Ці не ўцёк, што хаваецца ад людзей? Але Хван падцікаваў, калі той бег за пуню. У бравэрку адзеўся, каб не пазналі.

Калі праўда, што зямлю наразаць будуць, узяць бы дзе якую дзесяціну, дзве. Можа, і лесу дадуць, хату агараць? От тады б зажылі з Гэлькаю! Каб толькі яе сілаю за якога шляхцюка не выпхнулі.

Іван яшчэ раз зірнуў на хутар, увагнуўся і пацягнуў саначкі.

...Прыцемкам да Ермаліцкіх пад'ехаў вазок, запрэжаны добрым стаеннікам. Андрэй загнаў у будку ХІІрата, вазок паставіў пад паветку, каня прывязаў у стайні да карыта з аўсом.

Ён ніяк не мог уцяміць, якая патрэба прывяла да яго самога Мікалая Мікалаевіча. Ніколі ж не быў, а то прыляцеў на ноч гледзячы. Са шляхтаю той вялікага хаўрусу не вадзіў. Так, вітаўся тады-сяды, а часцей не пазнаваў. Ведама, поўны гаспадар такога маёнтка, што хоча, тое і робіць. Толькі грошыкі кожны месяц у Петраград пасылае, раней самому Іваненку, а цяпер ягонаму зяцю, барону. Ведама, і сябе не крыўдзіць. Хто там важыў, колькі жыта ўрадзіла; хто мераў, колькі каровы малака далі, колькі спірытусу выгналі; хто лічыў, колькі свіней закалолі. От і раскашуецца. А цяпер, бач ты яго, сам прыджгаў; мабыць, нешта прыспічыла.

Андрэй увайшоў у хату. На кухні гарэла невялічка.я лямпа, а ў камору прасочвалася святло толькі праз адчыненыя дзверы. Там на доўгай драўлянай канапе сядзелі Мікалай Мікалаевіч і Казік.

— Чаго ж у той хаце лямпу не запаліш? — забурчаў стары на жонку.

— Запальвала, дык не хочуць.

— Так яно лепей, Андрэй Фядотавіч,— азваўся з цёмнае каморы ўпраўляючы і зноў прыглушана загаварыў Казіку: — Банда гэтага Салаўя-разбойніка ні ў якім разе не павінна ведаць пра нашу з вамі сустрэчу.

Мікалай Мікалаевіч весела захіхікаў, радуючыся сваёй дасціпнай прыдумцы. Ён тут ужо адчуваў сябе не госцем, а гаспадаром: падсунуў гнутае венекае крэсла і арыстакратычным жэстам прапанаваў старому садзіцца. Той прымасціўся на краёчку, нібы сам быў у гасцях. Мікалай Мікалаевіч працягваў ціха, але горача і катэгарычна:

— Не сёння-заўтра гзтае дзікае, выпушчанае на волю быдла ўварвецца ў маёнтак і па зярняці, па двічку расцягне ўсё, што набывалася вякамі. А потым возьмуцца і за ваш хутар. Але, але, возьмуцца! Вы сумняваецеся? Чытайце дэкрэт гэтых самазванцаў. А слова якое прыдумалі: дэ-крэт! Мужыччо, а ў інтэлігентаў гуляюць, на французскі прарнонс захварэлі. Тожа мне дэкрэтчыкі! Дык у гэтым дэкрэце так і пішуць, што ўсе панскія, удзельныя, царкоўныя і манастырскія землі з усёй маёмасцю пераходзяць у распараджэнне Саветаў, Разумееце, што гэта значыць? Саветаў! Савет галадранца з бандытам!

Казік некалькі разоў памыкаўся ўскочыць перад старэйшым па званні, хоць і без формы, афіцэрам. Мікалай Мікалаевіч велікадушна яго прытрымліваў за руку і казаў:

— Забудзем субардынацыю, мы ж, сябры, аднадумцы, пакуль што не на службе.

— Што ж вы прапануеце, Мікалай Мікалаевіч? — запытаў малады Ермаліцкі.

— Пакуль што бараніцца, а там... там наступаць.

— Вы яшчэ разлічваеце на легіянераў? На гэтых смаркачоў у канфедэратках? Збор дружыны, а не войска,— усхадзіўся Казік.— Пяцёра мужыкоў з бярданкамі раззброілі ледзь не ўзвод салдат. І гэта, называецца, армія?

— Што вы, Казімір Андрэевіч! Вас дрэнна інфармавалі. Там было каля сотні бандытаў. Разумееце? Іх ужо каля сотш!

— Праўду кажуць, пужаная варона і куста баіцца, так і гэтыя легіянеры. Назва гучная, а смеласці, як у мышанят — верабей катом здаецца. Мяшэчнікі ды бабы ім цэлаю арміяй здаліся.

Казік прагна курыў. А бацька, гледзячы на сына, думаў: «От арол. Самому Мікалаю Мікалаевічу пярэчыць, ды яшчэ як закручвае. Ну і хлопец!»

— Чым магу служыць, пан падпалкоўнік?

— Пазнаю сапраўднага афіцэра і рады, што не памыліўся,— нібы перад строем, сказаў Мікалай Мікалаевіч.— А служыць? Служыць — айчыне. Стаць на чале абаронцаў свяшчэннай уласнасці.

— Разумею. Але патрэбны людзі і зброя,— дзелавіта адказаў Казік.

— Я так думаю, што на кожным футары ў засцянкоўцаў ды ў любога самастаяцельнага хадзяіна знойдуцца стрэльба ці які там абрэз,— уставіў свае слова стары Ермаліцкі,— а людзі пойдуць на такое дзела. Каму ахвота аддаваць чорту лысаму сваё дабро.

— Дваццаць пяць вінтовак і дзесяць асёдланых коней даю я. Думаю, барон за гэта папракаць не будзе. Усё адправім на хутар Перагуда. Там вакол балоты, месца глухое і непрыкметнае. А вам, дарагі,— надпалкоўнік паклаў сухую руку на Казікава калена,— вам прыйдзецца паездзіць «у сваты». Чалавек вы халасты, конь у вас добры, вось і паедзеце па хутарах. І мы згуляем такое вяселле, чарцям будзе млосна.— Мікалай Мікалаевіч цешыўся сваім красамоўствам і дасціпнасцю.— За нас корпус генерала Доўбар-Мусніцкага. У Бабруйску, у Рагачове, у Жлобіне і на ўсёй гэтай тэрыторыі ўлада фактычна належыць яму. А неўзабаве ён і Мінск прыбярэ к рукам. Так што, калі, пан прапаршчык, марыце стаць палкоўнікам, трэба дзейнічаць.— Упраўляючы ўстаў.

— Я і спяшаўся сюды, бо ведаў, што фронт цяпер тут, а не там. Мужыкі страшней за немцаў. Але нічога, мы яшчэ з іх надзяром лыка,— тонам рапарта адказаў Казік.

— Значыць, заўтра пачынаем святую справу.— Упраўляючы працягнуў руку маладому Ермаліцкаму.

— Можа б, пан не пагрэбаваў з намі павячэраць? — замітусіўся Андрэй і кіўнуў Анэце, каб варушылася.

— Вялікае дзякуй. Не маю права затрымлівацца. Яшчэ трэба даць добры крук, каб ні адзін сабака не пранюхаў, куды ездзіў. Запражыце майго каня,— загадаў Мікалай Мікалаевіч, але спахапіўся і мякка паправіўся,— калі ласка.

Стары Ермаліцкі насунуў шапку задам наперад, ускінуў на плечы кансушок і пабег у стайню.

Казік хацеў правесці шаноўнага госця да вазка, але той папярэдзіў:

— Лепш не хадзіце. Мне здаецца, што з кожнай шчыліны глядзіць Салаўёва вока. І дамовімся: мы з вамі незнаёмыя і ніколі не сустракаліся.— Мікалай Мікалаевіч моцна пацісну Казікаву руку, пажадаў добрай ночы Анэце. Казік памог яму ўздзець вялікае футра, падаў шапку. На ганку чакаў Андрэй.

— А жарэбчык у вас важнецкі,-— пахваліў ён каня.— Малады, відаць, балаўнік.

Мікалай Мікалаевіч нічога не адказаў. Ён сеў у лёгкія саначкі, хвастануў каня ляйчынаю і выслізнуў з двара. Андрэй зачыніў браму, пастаяў, пакуль цені каня і седака не зніклі ў шэрай цемры зімовага вечара.

Зайшоў у хлеў, падкінуў каровам трусянкі, зачыніў вароты доўгай завалаю і замкнуў круглым, кавальскай работы замком. Пацягнуў, ці добра замкнёны, спусціў з ланцуга сабаку і пайшоў у хату.

Старая шморгала носам і прычытвала:

— Ой, баюся я, Казічак, што не знасіць табе галаванькі. Лепш не звязвайся з гэтым карпілаўскім ды рудабельскім гадаўём. Бач ты, сярод белага дня ў салдат стрэльбы паадбіралі. А ты з кім на іх пойдзеш? Хай бы сам гэты падпанак ішоў, дык цябе нацкоўвае. Ой не слухай, сыночак. Лепш пераседзь, перахавайся, пакуль гэтае ліха пройдзе.

— Што ты, старая, пляцеш? — не вытрываў Андрэй.— Даседзішся, пакуль з цябе апошнюю транту злупяць. Ужо гарцуюць па футарах, трасуць свірны — беднаце насенне збіраюць, сена ім давай, цялушка некаму твая спатрэбілася — аддай. А трасцы, а скулля не хочуць?! — разыходзіўся стары.— Вясною унь зямлю абразаць збіраюцца. А яна — «сядзі ціха». Ды я выпруцянею на мяжы, а свайго і вяршка не аддам. Хоць і стары, сам з абрэзам на іх пайду. От як!

Анэта смаркалася ў фартух і толькі божкала.

Ноччу Казік чуў, як круцілася і вохкала маці. Не спалася і яму. Чутно было, як бэльку тачыў шашаль, як у шыбіну біліся снежныя

крупы і рыпеў над студняю вочап. Ён перавярнуў гарачую падушку, паклаў бліжэй да краю наган, заплюшчыў вочы, а ў галаве круцілася мяцеліца думак. Яму хацелася хутчэй убрацца ў свой афіцэрскі мундзір, ускочыць на каня і павесці з хутароў сотні хлопцаў і мужчын на гэтыя бальшавіцкія кодлішчы, а там падыдзе армія, верная трону, сатрэ ў пэтлахі чырвоную погань, ускладуць прапаршчыку Ермаліцкаму на плечы пагоны з двума прасветамі, тады можна будзе пачынаць сапраўднае жыццё. Ён перабіраў у памяці ўсіх хутаран і засцянкоўцаў, што пойдуць за ім, падумаў, што без кулямёта ім не абысціся, але дзе яго ўзяць? Няхай Мікалай Мікалаевіч расстараецца ў Доўбар-Муеніцкага для «аховы маёнтка барона Урангеля», Разабраўшы, можна будзе прывезці ў возе пад сенам. Казік шкадаваў, што адразу не дадумаўся і не сказаў пра гэта.

9

Трое сутак круціла мяцеліца. Гнала ў полі доўгімі пакручастымі пасмамі снег, панамятала гурбы каля хат і парканаў, гула, скавытала, выла. Паперамятала дарогі — ні прайсці, н.і праехаць.

— Няйначай, чэрці ўскруціліся,— атрасаючы ў парозе снег, сказаў Раман.— Як ты, еынок, дабярэшся да тае воласці, Пакуль вядро вады выцягнуў, да кален замяло, а гэта ж пяць вёрст ісці, і вецер якраз напроці.

Аляксандр даядаў гарачую бульбу з тоўчаным льняным семем, запіваў малаком і па даўняй звычцы збіраў у рот крошкі з кужэльнага, яшчэ матчынай работы, а бруса. Мачаха, як магла, гадзіла пасынку, і не таму, што ён стаў у воласці нейкім там старшым, а любіла і шкадавала яго, як роднага сына. І як не шкадаваць? 8 маленства ж пагадавала чатырох Раманавых сі рот: хлопцы ўжо на сваіх нагах былі, а Марылька яшчэ ў калысцы кідалася. Меншыя хутка прывыклі да ма.чахі, звалі яе мамаю, а Ляксандра, хоць і слуха ўся, хоць і памагаў, а ўсё выкручваўся, каб ніяк не называць. Калі ж трэба было яе пагукаць і паблізу нікога чужога не было, зваў цёткай Ганнаю. Ведаў, што ёй рабілася крыўдна. Яна ж шкадавала сірот больш, чым іншыя родных дзяцей. Каторага з іх трэба было хвастануць паўрозамі, але не было таго, не было.

Аляксандр у дзяцінстве колькі разоў памыкаўся сказаць гэтай добрай жанчыне, што абмывала і а отмывала іх, «мама», але язык не слухаўся і гаварыў сваё: «цётка Ганна». А яна ж не збаялася пайсці на чацвёра чужых дзяцей за беззямельнага, але разумнага і добрага Рамана Салаўя. Гаравала разам з ім, лепшы кавалак берагла меншым — Косціку і Марыльцы. Усё гэта бачыў і разумеў Аляксандр. Але ён

добра помніў родную мамку, яе курляндскія песні і казкі, ведаў і любіў яе пявучую мову. Часам бегаў да маўклівага высокага дзеда Крыштана. Той смактаў піпку і падоўгу не спускаў палінялых вачэй з унука. Пэўна, пазнаваў у ім сваю нябожчыду Луізу. І гаварыў з Аляксандрам толькі па-латышску, нібы баяўся, што ўнук, выракшыся матчынае мовы, забудзе і пра маці.

Ці ж мог ён тады здрадзіць памяці маці і называць хоць і добрую, але чужую жанчыну так, як называюць толькі адзінага чалавека ў свеце,— мама.

А як вярнуўся з вайны, адразу назваў цётку Ганну мамаю. Тая аж заплакала...

Аляксандр устаў з-за стала, падзякаваў і пачаў збірацца.

— Нічога, тата. На фронце не ў такую завіруху спалі ў акопах, і чорт не браў. А тут да воласці рукою падаць.

Сястра пачала ўпрошваць, каб завязаў башлык, а мачаха дастала з пячуркі свае кажушныя рукавіцы, хоць і цеснаватыя, але ўсё ж цяплейшыя за салдацкія.

— На ноч не чакайце. Заначую ў воласці ці ў каго з нашых хлопцаў. Работы цяпер па самую завязку. Так што калі не прыйду колькі дзён, ведайце, што цэл. Трэба будзе трохі паездзіць па гэтых шляхецкіх засценках.

— Ой, сынок, глядзі. Звярэе шляхта. Талочацца, у госці пачалі часта ездзіць адзін да аднаго, шэпчуцца ды на мігах паміж сабою гавораць. А надоечы запыняе мяне Банэдык Гатальскі і пытае: «Ці скора, Раман, твой каміцетчык прыйдзе рабаваць нас?» Я і кажу: «Мой сын ніколі нікога не рабаваў і рабаваць не збіраецца. Народ яго, кажу, выбраў, дык ён і робіць усё па закону». А ён як наліецца крывёю ды як уехадзіцца: «Які там народ выбіраў? Мы ж не выбіралі. І Перагудаў там, і Плышэўскіх, і Ермаліцкіх не было. А мы хіба гавяда? Не народ?» Мы цябе, кажа, Раман, пашкадавалі, прытулак далі, у свой засценак пусцілі, зямлі ад сябе па шматку адарвалі, каб з голаду не апруцянеў, а ты, замест дзякуй, са сваім анціхрыстам хочаш на нас шворку закінуць і зашмаргнуць, дзяцей па свеце з торбамі пусціць. А трасцу, кажа! Лопне ваша слабода, яшчэ крывавымі слязьмі ўмыецеся.

Аляксандр слухаў, сцяўшы зубы. Толькі жаўлакі хадзілі на худым і вострым твары.

— Калі гэта ён?

— Учора ў абед. Вязу гэта я настрамачак вішаю, аж ідзе. Паздароўкаўся лагодна, нібы здзекуецца, і ўшчаў...

— Добра, тата, што сказалі. А напужаліся дарэмна. Яны ўжо нашых крывавых слёз папілі, хопіць. Кончылася іх свята. Ну, бывайце здаровы.— Аляксандр, сагнуўшыся, выйшаў з хаты і, грузаючы ў сумётах, падаўся ў воласць.

Марылька праз шыбіну доўга глядзела яму ўелед. Ёй рабілася страшна, што брат ідзе лесам адзін, што завіруха замятае яго сляды, што на іх сям'ю па-звярынаму зацята глядзяць усе засцянкоўцы. І раней тут Салаўям усе былі чужыя — ніхто не заходзіў у хату і іх не пускаў далей парога, а цяпер праходзяць унурыўшыся і нібыта не пазнаюць ні бацьку, ні Марыльку, ні мачаху. Здаецца, жыўцом праглынулі б. А вечарам выйдзеш з хаты, зірнеш на гэтыя трынаццаць прысадзістых дамоў за высокімі парканамі, пад бляшанымі дахамі, з шчыльна зачыненымі аканіцамі, і здаецца — за іх тоўстымі сценамі чаўпецца нешта нядобрае і страшнае. Вельмі ж боязна Марыльцы за брата.

А ён, трошкі падаўшыся наперад, ідзе ў завіруху, бо ведае, што ў воласці яго чакаюць дзяды і салдаткі, бязрукія і бязногія мужчыны з медалямі на шынялях, падрэзаных на анучы яшчэ недзе ў мазурскіх балотах. Чакаюць, бо вераць яму, бо хочуць памагчы, каб хутчэй усё было так, як напісана ў тых дэкрэтах.

Аляксандр на ганку воласці развязаў башлык, атрос шынель, абабіў чобаты.

На зборні, каля добра напаленай грубкі сядзелі Параска Кавалевіч і Мікодым Гошка. Жанчына крэсівам высякала іскры і дзьмухала на жоўтую грубку. «Няўжо салдатка з гора закурыла?» — падумаў Аляксандр, але ўбачыў заткнуты за папругу пусты рукаў Мікодымавага шыняля і ўсё зразумеў. «Добрыя нашы кабеты, спагадлівыя. Гора прывучыла іх і араць, і касіць, і лапці плесці. А дай такой Парасцы выгоду, прыбяры ў шаўковую сукенку ды капялюшык, выведзі на Неўскі — раты паразяўляюць... Цяпер жа ёй і яе дзецям патрэбен хлеб, трохі ярыны, каб увесьу абсеяцца...» Старшыня прысеў паміж Мікодымам і Параскаю, працягнуў чырвоныя закляклыя рукі да грубкі.

— Ну ж і мяце! — загаварыў Мікодым.— Зірнуў у акно, думаю — снегавік сунецца, а прыгледзеўся, аж — старшыня. І чаго табе ў тое Харомнае хадзіць? Начуй хоць у мяне. Любы цябе прыме.

— Гэта праўда, толькі старых з сястрою не хочацца крыўдзіць.

Параска слухала, апусціўшы прыгожыя вейкі, тольКі часам зіркала на Салаўя і зноў апускала вочы.

Потым утраіх зайшлі ў старшынёў пакой. Збоку за сталом, заваленым тоўстымі пражнураванымі кнігамі, сядзеў Максім Ляўкоў.

Ён гартаў кнігі і нешта выпісваў у школьны сшытак. Аляксандр павітаўся і пажартаваў:

— Сакратар не можа жыць без паперак. Ці не надумаўся рабіць рэвізію старой царскай воласці?

— Раблю. І самае цікавае — шнуравая кніга каморніцкага абмеру зямель нашай воласці,— ён адгарнуў шэрую вокладку з пакручастымі разводамі,— за 1910 год. У Ермаліцкіх і Перагудаў больш зямлі, чым у васьмідзесяці руднянскіх гаспадароў.

— Яно і без кніг відно,— уставіла жанчына.— Хіба ж зраўняеш нашы пяскі ды балаціны з тою, што шэршні пад сябе падгрэблі.

— Цяпер зраўняем, Параска. Ну, расказвайце, што вы з Мікодымам выявілі,— сказаў Салавей.

Мікодым выцягнуў з-за пазухі аркуш канторскай паперы, разлінаваны на два слупкі. Над адным было напісана насліненым алоўкам «каму», над другім — «што трэба». Пачаў чытаць і тлумачыць, Называліся прозвішчы ўдоў, салдатак, інвалідаў, спрадвечных парабкаў, у якіх не было ні каня, ні каровы, ні насення на вясну. Параска толькі ківала галавою ды часам дадавала ўголас:

— Ой праўдачка, ой бядота; мудрэй, як у мяне.

У спісах вельмі часта паўтараліся аднолькавыя прозвішчы: Кавалевічы, Гошкі, Падуты, Жулегі. Салавей часам перапытваў:

— Гэта каторы Кавалевіч, Кажушка ці Ёршык?

Мікодым называў мянушкі і чытаў далей:

— Трэба будзе ў кожным сяле аргашзаваць камітэты беднаты. Яны будуць Савецкаю ўладай на месцы. Няхай збяруць людзей і рашаюць, каму чаго і колькі даць. А цяпер трэба забраць усе лішкі збожжа ў панскім двары і ў засцянковай шляхты. Ссыплем у магазын і будзем раздаваць беднаце.

— Чакай, пакуль шляхта аддасць табе збожжа,— загаварыла Параска.— Лепей у ямах пагнояць ці ў пельку спусцяць.

— Хай паспрабуюць толькі! Кан-фіс-ку-ем,— па складах расцягнуў Салавей незнаёмае слова і тут жа паправіўся: — Сілаю возьмем.

— Узяць, можа, і возьмеш, а чым аддаваць будзеш? От прыпруцца легіёншчыкі ці яшчэ якая навалач, што тады,— выказала Параска свае трывогі.— Унь, кажуць, у Бабруйску палякі што хочуць, тое і робяць, і Саветы ад іх пахаваліся. Ты іх адзін раз папужаў, глядзі, каб яны табе гэта не прыпомнілі.

— Не бойся, Параска, не пусцілі і не пусцім. А тое, што плявузгаюць шляхцянкі на цвінтары, не слухай і другім не пераказвай.

—Хто тых шляхцянак слухае? Заўвіца мая ўчора з Глуска ад доктара ехала, дык у мяне начавала. Кажа, усё мястэчка гамоніць.

Балаголы, каторыя з барадамі былі, з Бабруйска папрыязджалі, дык родныя дзеці не и а знал і: шаблямі іх «канаркі» пагалілі, шампаламі спаласавалі і забралі ўвесь тавар. А Саветаў, і духу не чутно.

Усе ўважліва і насцярожана слухалі Параску, Задумаўся і Салавей. Можа, каб хто іншы плёў, не паверыў бы. А ў тым, што казала Параска, чулася нейкая праўда. Але нельга паказваць трывогі, неспакою. Аляксандр усміхнууся і пажартаваў:

— У генерала свае клопаты, у нас — свае.— Потым сур'ёзна дадаў: — Трэба хутчэй стварыць каМітэты беднаты і правесці канфіскацыю. А калі прыйдзецца сустракаць легіянераў, сустрэнем лепей, як той раз.

Параска з Мікодымам сабраліся ісці па камбедаўскіх справах. На развітанне Салавей параіў ім увечары сабраць свой камітэт і памеркаваць, колькі з каторага кулака можна ўзяць збожжа.

Калі выйшлі камбедаўцы, Аляксандр задумаўся.

Ен ведаў, што мяцежны генерал ім не даруе — абавязкова пашле сваіх салдат на Рудабелку. Ён чакаў вестак з Бабруйска, але іх не было, нічога не паведамлялі і хлопцы з Ратміравіч. А тут на табе, кажуць, Бабруйск захапіў польскі корпус. Відаць, павятовы камітэт у падполлі. Але гэта толькі кажуць. А як дазнацца пэўна? Трэба пакуль што самім прымаць нейкае рашэнне. І такое, каб ні на крок не адступаць ад дэкрэтаў рэвалюцыі.

На нейкае імгненне Салавей адчуў сябе адрэзаным ад вялікага свету. Газеты апошні час не прыходзяць; значыць, іх у Бабруйску перахопліваюць легіянеры мяцежнага корпуса; вестак з павятовага камітэта даўно няма; відаць, ніяк не могуць звязацца. А якія планы ў Доўбар-Мусніцкага? Кал і праўда, што захапіў Бабруйск, дык паспрабуе пашыраць сваю акупацыю і захоча з новай сілаю ўдарыць па Рудабелцы. З якога боку? Вядома, з чыгункі.

Ляўкоў нібыта ўгадаў, пра што думае старшыня.

— Што будзем рабіць, Аляксандр? Два дзесяткі польскіх карабінаў, штук пятнаццаць трохлінеек ды з паўсотні бярданак у нас ёсць. Збяром яшчэ тое-сёе. А ў іх армія, кулямёты, гарматы.

— І ўсё ж мы мацней за любую армію. Тыя не ведаюць, чаго яны хочуць і за што ваююць. Ты б паглядзеў, як легіянеры аддавалі нам карабіны. Нібыта радыя, што збылі іх. Ды якія яны там к чорту палякі! Католікі тутэйшыя, што і слова па-польску сказаць не ўмеюць, ад нямецкіх куль ратаваліся ў гэтым корпусе. А ў нас народ. Каму страляць няма з чаго — «ура» крычаць будзе. І гэта, брат, вялікая помач! Трэба сягоння і заўтра, Максіме, перавесці атрады бліжэй да станцыі. Салдаты нашы ў лапцях і ў світках ходзяць, так што іх ніхто

не пазнае. А калі трэба, з-за любога куста смалянуць. Адаб'юць паноў, рэзгіны на плечы — і пайшлі авечкам сена скубці. От тады і шукай іх. Перакажы Анупрэю з Пракопам, каб да раніцы чалавек паўсотні з гранатамі і вінтоўкамі адправілі на Ратміравічы.

К паўдню сцішылася завіруха. Выбліснула сонца, заіскрыліся сумёты і заваленыя снегам стрэхі. Па вуліцы, рыпаючы палазамі, папаўзлі вазы з дрыўмі, саломаю, сенам і з мяхамі амецяў. Аляксандр глядзеў на гэты нетаропкі рух жыцця і думаў, колькі яшчэ прыйдзецца пабіцца, праліць крыві, каб народ зажыў спакойна, па-людску, каб адчуў сябе гаспадаром сваёй зямлі. Рэвалюцыя толькі пачынаецца.

Але мучыла невядомасць. Тое, што расказала Параска, вельмі было падобна на праўду. Трэба параіцца з рэўкомаўцамі і нешта рабіць, тэрмінова, неадкладна. Анупрэй з Максімам Усам па сёлах арганізоўваюць атрады, раздаюць зброю і патроны, прызначаюць узводных. З імі, мабыць, і ваенком — Пракоп Малаковіч. Няўжо яны нічога не чулі і не ведаюць?

Дзверы прачыніліся, і ў пакой увайшоў незнаемы мужчына ў чорнай паддзёўцы, невысокі, але шырокі ў плячах. Круглы твар зарос густою, калматаю бародкай, а з-пад прыпухлых павекаў глядзелі вострыя пранізлівыя вочы. Ён прывітаўся, стоячы ў парозе, і запытаў:

— Дзе мне пабачыць таварыша Салаўя?

— Я Салавей. А што вы хацелі?

— Хацеў пазнаёміцца і перадаць прывітанне ад Платона Фёдаравіча.

Славей аж уздрыгнуў. Платон Фёдаравіч Равінскі — старшыня Бабруйскага укома — пасылаў яго сюды, абж*;аў дапамагаць і трымаць сувязь.

— Сядайце, таварыш. Хто вы і адкуль? Ці даўно бачылі Платона Фёдаравіча? — засыпаў незнаёмага пытаннямі Аляксандр. Той, не спяшаючыся, кінуў у кут торбачку з нейкім начыннем, скоса паглядзеў на сакратара і вельмі павольна пачаў:

— З Глуска прыйшоў да вас. А прозвішча маё Мазалеўскі.— Ён зноў зірнуў на сакратара і ўсміхнуўся. Ляўкоў аж ускочыў з месца:

— А каб ты скіс, Іван. Ну і змяніўся. Голас нібыта знаёмы, а аблічча—хоць забі, першы раз бачу, і толькі.

Яны павіталіся за руку, перакінуліся некалькімі словамі і селі.

— Дзялы такія, хлопцы. Доўбар-Мусніцкі са сваім корпусам акапаўся ў крэпасці, падняў мяцеж, заняў Бабруйск і рушыў на Асіповічы. Адмовіўся выконваць загады Савецкай улады і разагнаў Саветы. Уком пайшоў у падполле, а работу вядзе, як і раней. Таварыш Равінскі прыслаў нашага глускага хлопца, Міцю Жыжкевіча, каб вам

перадаць, што генерал не забыўся, як вы сустрэлі яго салдат, і хоча аддзякаваць — ударыць па Рудабелцы, І не абы-як — браняпоезд рыхтуе. У тупіку на Бярэзіне стаіць. Рамантуюць яго дэпоўскія хлопцы, ну і цягнуць, як толькі могуць. Можа б, яго ўжо і адправілі, каб не гэтая мяцеліца. Цяпер дарогу чысцяць. Так што хутка чакайце. Платон Фёдаравіч прасіў, каб і гэтых не горай сустрэлі. А яшчэ адрасок прыслаў: чайную па левую руку на Мураўёўскай, якраз супроць рынку, ведаеце? Калі хто з вашых зойдзе, еадзіцеся за крайні столік пры дзвярах. Спытае падавальшчыца, што прынесці, прасіце тузіну вараных ракаў. Яна адкажа: «Ракаў у нас не бывае». «Тады дайце тры шклянкі чаю без сахарыны». Чай яна прынясе, а пад сподачкам будзе пісулька, куды трэба ісці. Платон Фёдаравіч чакае вашых вестак. От і ўсе мае навіны,— закончыў Мазалеўскі.

Ён зірнуў на падлогу. Каля ног нацякла ладная лужына вады, ён адсунуўся, каб не прамачыць вялізных залатаных валёнак.

— Як жа ты дабраўся? — запытаў Ляўкоў.— Гэта ж добры гаспадар у такую нягоду і сабаку не выганіць.

— А я сам сабе гаспадар. Склаў капылы, дратву, вар у торбачку, сказаў дома, што пайду па засценках у заработка: каму падноскі падаб'ю, каму иовыя пашыю. З адным пад'ехаў да Касарыч, другі да Халопеніч падвёз, а тут і прайсці недалечка. Дома, хлопцы, мне аставацца няма як. Пазаўчора легіянеры ў Гарадку былі. Вілюга з рэўкомам выехалі ў Бярозаўку. Загад членам партыі — разысціся па. сёлах. Хто з капыламі, хто з нажніцамі, а хто з рымарскім начыннем пайшоў. Партыйная работа пераносіцца ў масы. А я да вас, калі прымеце.

Ён падышоў да свайго мяшэчка, хуценька развязаў яго, дастаў старыя парудзелыя халявы і нечакана для ўсіх выцягнуў два наганы з поўнымі барабанамі патронаў.

— Канечне, кулямёт было б лепш, але і так не з голымі рукамі прыйшоў.— Ён паклаў рэвальверы на стол,

Аляксандр сядзеў засяроджаны і пахмуры. Потым ён кінуў наганы ў шуфлядку і замкнуў яе. Мазалеўскі залыпаў вачамі.

— Ты што ж, раззбройваеш мяне, таварыш Салавей?

— Ужо раззброіў,— спакойна адказаў Аляксандр і паказаў на мяшэчак з начыннем.— Вунь твая зброя. Яна цяпер надзейней за наганы.

Не зразумеў Салаўя і Ляўкоў.

— Што ты, Аляксандр? Івана я ведаю не адзін год, гэта ж наш чалавек.

— А хіба кажу, што чужы? Партыйны білет, таварыш Мазалеўскі, здасі Малаковічу, а сам...

— Партыйнага білета я нікому не аддам,— ускочыў Мазалеўскі.

— Што вы абодва, як дзеці! Не можаце даслухаць да канца,— працягваў Салавей тым ж а спакойным тонам.— Пойдзеш са сваімі капыламі па кулацкіх хутарах і засценках. Шыць ты ўмееш?

-— А як жа. Якія хочаш. Галоўкі, выцяжкі, хромавыя, хохтовыя, з рантамі і з рыпам магу. Бацька быў шавец, і я з дзяцінства шылам кармлюся.

— То і добра. Работы табе хопіць. Шляхта фарсіць любіць. Пажывеш у адных, у другіх, сходзіш да Перагудаў, да Вінярскіх. Шыць шый, а чым там пахне, прынюхвайся. Зразумеў?

— Чорт яго ведае. Я думаў, партыйную работу якую даручыце, можа, разам з атрадам пайду.

— Гэта і ёсць партыйная работа. Нас ты не ведаеш і не бачыў. Лаяць можаш, колькі ўлезе. А маліцца ўмееш?

— «Ойча наш» і «Багародзіцу» ведаю.

— Не забывайся маліцца. Шляхта набожных любіць. Хоць сама д'яблу дагаджае, а богу моліцца.

Салавей глядзеў на глускага шаўца і чакаў, што той скажа.

— От ета ты хітра прыдумаў,— падняўся з месца Ляўкоў.— Зразу і я не расшалопаў. Аж тут план, страцегія.

— Разведку, значыць, даручаеш мне? — спытаў палагаднелы Мазалеўскі.

— Без разведкі ваяваць нельга. А ваяваць нам прыйдзецца яшчэ доўга і зацята. Адтуль легіянеры пруць, недабіткі белай арміі, тут шляхта прытаілаея, маўчыць, а зубы вострыць. Як толькі пачуюць, што белапалякі ідуць, усходзяцца і яны, з-за вугла ў спіну біць пачнуць. Дні тры пасланяйся па Каргіілаўцы і Кавалях. Можа, каму маршчакі залатаеш. Лепшага абутку тут няма. Разнясецца слава пра добрага шаўца, і шляхта сама цябе пацягне на хутары.

Салавей устаў. Толькі цяпер Іван Мазалеўскі разглядзеў яго з ног да галавы. Калі сядзеў за сталом, здаваўся высокім і шыракаплечым, а ўстаў — мужчына сярэдняга росту, шчуплаваты, звычайны сялянскі хлопец з добрай вайсковай выпраўкаю, Ён моцна пацісну́ў Івану руку і пажадаў поспехаў.

Іван перакінуў праз плячо мяшэчак і выйшаў з рэўкома. Над ганкам, цупкі ад марозу, трапятаў і патрэскваў чырвоны сцяг.

«А ў Глуску ўжо, напэўна, легіянеры»,— з трывогаю падумаў Мазалеўскі.

Байцы самаабароны жылі ў сваіх вёсках і на хутарах. Зранку калолі дровы, давалі каровам трусянку, косамі рэзалі сечку, насілі ў цэбрах паранку, латалі хамуты і мянялі ў санях закруткі. А прыбягаў суседскі хлопчык і казаў: «Анупрэй загадаў к вечару ўсім сабрацца»,— і яны кідалі ўсё, набівалі кішэні патронамі, збіралі ў торбачку харчы, чаплялі на плячо карабін або дубальтоўку, збіраліся ў хаце свайго ўзводнага. Тады завальваліся ў палукашкі і ехалі, куды было трэба.

...На хутары вярсты за паўтары ад Ратміравіч сабралася чалавек трыццаць узброеных мужчын з Рудабельскай самаабароны. Разышліся па двух хатах: грэліся, перакусвалі, курылі. Хто драмаў у запечку, а хто і байкі расказваў.

Анупрэй тлумачыў сваім байцам, што палякі прыедуць на браніраваным цягніку, каб захапіць уладу ў іх воласці.

— Задача такая,— казаў ён,— адбіць у легіянераў ахвоту ездзіць да нас, а калі пашанцуе — разжыцца яшчэ карабінамі і патронамі.

Многія зроду не бачылі бранявоезда, хоць і чулі, што яго ніякая куля не бярэ. Граната ўзарвецца, асколкі забарабаняць па жалезе, а ён і не шманае. Што ж ты яму зробіш з карабінам ці з нейкаю двухстволкаю!

Пра свае трывогі хлопцы сказалі камандзіру.

— Мы яго сюды і блізка не пусцім. У яго жалеза, а ў нас галовы ёсць на плячах. От і пабачым, хто каго абхітруе.

— А дзе ж Салавей? — спытаў нехта з байцоў.

— Можа, нас падтыкнуў, а сам схаваўся? — пачуўся ў змроку цеснай хаты нечы голас.

— Што ты там, смаркач, плявузгаеш? Лепш прызнайся, пачом дрыжыкі прадаеш,— заступіўся за таварыша Нічыпар Званковіч.— Ён, брат, на фронце не тое бачыў. Ягорыі абы-каму не даюць. А ў яго аж два, і медалёў цэлая жменя.

— Таварышы, Салавей тут. Усім сам камандаваць будзе,— супакоіў Драпеза. Мужчыны загулі і засыкалі на хлопца, што сапраўды спужаўся нябачнага браніраванага страшыдлу.

А Салавей, Пракоп Мілаковіч і Ляўкоў сядзелі ў Пракопавай хаце. На камінку, то затухаючы, то разгараючыся, трашчалі смалякі. З-за коміна час ад часу вытыркаліся дзве беленькія галоўкі і хаваліся зноў. Пракопава жонка на ўслончыісу каля прыпечка лузгала ў вялікае рэшата сухія струкі фасолі і так была занята сваёй работай, што здавалася, не бачыць і не чуе мужчын. А яны гаварылі ціха. Пракоп паглядаў у акно, відаць, некага чакаў.

— Ідуць,— узрадаваўся ён.

У сенцах мякка затупалі,— відаць, абутыя ў лапці ці ў валёнкі,—і ў хату ўвайшлі двое маладых хлопцаў. Адзін у доўгай суконнай свіце, падпяразанай чырвоным паяском з кутасамі, другі — у кароткім кажушку і аблезлай заечай шапцы.

Пракопіха адразу пазнала Сымона Вежаўца і Амяльяна Саковіча. Яны кожную зіму валілі лес ці пілавалі на станцыі дровы. Зямлі было мала, сем'і вялікія, от і хадзілі ў заработкі.

Яны паздароўкаліся і сталі ў парозе. Салавей выйшаў ім насустрач, пасадзіў побач на лаўку і запытаў, ці добрыя ў іх пілы.

— Точым, бо кормімся з іх,— адказаў Сымон і падумаў, ці не новы падрадчык прыехаў на работу наймаць.

— Та-ак, кажаце, пілы добрыя, і самі, бачу, не зломкі.

— А так што любую дзеравіну звалім, куды захочам,— набіваў сабе цану Амяльян.

— От і памажыце нам зваліць адну дзеравіну. Лепя нерам і завецца.

Хлопцы адразу не зразумелі, што ад іх хоча гэты чалавек у вайсковай гімнасцёрцы.

— Я — старшыня Рудабельскага валрэўкома. Нашага ваеннага камісара Пракопа Малаковіча вы ведаеце. Мы не павінны пусціць у нашу воласць легіянераў.— І, памаўчаўшы, запытаў: —Ці, можа, няхай прыходзяць?

— А на чорта яны нам здаліся? — адказаў Амяльян.— Толькі як ты іх не пуеціш, калі рукі голыя.

— Рукі ў нас не голыя. Бярыце пілы, і пойдзем са мною,— устаючы, сказаў Салавей. У след за ім падняліся і хлопцы.

— Вы толькі скажыце, таварыш прысядацель, што рабіць, а мы гатовы,— азваўся Вежавец.

— Прыйдзем на месца, усё раскажу.

Аляксандр апрануў шынель і выйшаў з хаты. Следам за ім падаліся Сымон з Амяльянам...

Маладзік хаваўся за густымі аблокамі і ніяк не мог прабіцца праз іх. Ноч была шаравата-сіняя. Снег іскрыўся на сумётах. Абапал расслізганай палазамі дарогі сінелі прыцярушаныя інеем прысады. Людзі пад высокім небам сярод прастораў белых палёў здаваліся маленькімі і мітуслівымі. Вакол было ціха-ціха. Але недзе за аб'інелымі лясамі, за марознай емугою ночы напэўна ўжо лязгалі колы браніраванай пачвары, у цёмных вагонах сядзелі салдаты ў канфедэратках і шынялях з ангельскага сукна. Куды і чаго іх гнала? Яны ніколі не бачылі тых людзей, якія жывуць на гэтай зямлі, якія прагнуць

свабоды, хочуць быць гаспадарамі свайго лесу. За што ў іх павінны страляць салдаты?

Не, яны і сёння сюды не прыйдуць, не павінны прыйсці. Аляксандр сцёбае ляйчынаю сівага коніка, рыпяць палазы, з-пад капытоў вырываецца снежная крошка.

Спыніліся ў лагчыне каля маладога хвойніку. Лейцы прывязалі за сук, падкінулі каню абярэмак сена, а самі палезлі на круты насып. Рэйкі цьмяна паблiскваюць, відаць, пачынаюць іржавець, бо цягнікі ходзяць рэдка. Ды і дзіўна, як яны яшчэ ходзяць наогул! Гаспадара чыгункі пакуль што няма. Толькі часам мяшэчнікі вязуць свае клуначкі солі і васьмушкі махоркі, каб абмяняць на бульбу і крупы. Ды вось ачмурэлы генерал гоніць сваіх «жалнежаў» на непакорлівых рудабельскіх мужыкоў.

А яны сапраўды непакорлівыя, ласкавыя ў любові і бязлітасныя ў нянавісці. Бо ўпершыню мужык адчуў, што ён чалавек, што ён сам можа выбраць сабе дарогу. Ён прагаласаваў за «мір народам», за «зямлю сялянам», за ўладу людзей, чые рукі ў мазалях, чые спіны спаласаваны бізунамі і густа пасолены потам. «Чаго вам хочацца, Панове? Чаго? Не чапайце нас, не гнявіце! Бо самы добры чалавек, калі ён у гневе,— бывае страшны. А ў душы мы мяккія і чулыя: перапёлчына гняздо ўбачым у траве і абкошваем яго. Але любы з нас раздзярэ пашчу кручанаму воўку і не пашкадуе таго, хто першы падняў меч. Куды вы лезеце, паны? Броні такой, як у нас, яшчэ свет не бачыў. А вы цягнік пасылаеце! Куды ён дойдзе? Ці падумалі вы?» — разважаў Салавей. А калі спыніліся, запытаў:

— Ну, што будзем рабіць, хлопцы?

Над замеценымі снегам берагамі нешырокай ракі выгнуўся мост на прысадзістых палях. Нічога не гаворачы, Сымон закруціўся ў світу і па сыпкім снезе з'ехаў пад мост, Амяльян следам пусціў пілу і ссунуўся сам.

Зашоргала, завішчала піла па настылым дрэве.

Аляксандр стуліўся за альховым заінелым кустом і пачаў углядацца ўдалечыню: нідзе ні агеньчыка, ні жывое душы, толькі чуваць, як шастае піла і сапуць пад мостам хлопцы.

— Можа, каторага падмяніць? — спытаў Салавей.

— Ты пазірай, камандзір, а што якое — свісні,— азваліся пад мастом хлопцы.

Калі падрэзалі ўсе палі, увагрэтыя, вылезлі на мост.

— От і ўсяго страху,— сказаў Амяльян.— Але ж і зацiскала, не пацягнуць. Мусілі па два рэзы рабіць.

— Развод малаваты,— растлумачыў Вежавец.— Прымай работу, таварыш старшыня.

— Ранічкаю легіянеры прымуць. А пакуль што дзякую вам ад рэўкома і ад Савецкай уласці вабчэ.

Калі вярнуліся ў вёску, Сымон сказаў Салаўю:

— Мы не толькі пілаваць умеем, таварыш старшыня, а і страляць мажэм. Вазьміце нас у свой атрад.

— А з чаго страляць будзеце?

— Такія сякія ламакі знойдуцца, там мо і чаго лепшага расстараемся.

Пад раніцу рудабельскі атрад раскінуўся ў кустах каля берага рачулкі. Салавей загадаў стаіцца, каб і духу не чутна было, страляць толькі па камандзе.

На марозе час цягнецца марудна: мерзнуць калені, заходзяцца рукі і ногі. Але нічога не зробіш, трэба цішком ляжаць і маўчаць. Усе ўглядаюцца ў цёмную сцяну лесу, прыслухоўваюцца, ці не гудуць рэйкі.

Цішыня.

Салавей ляжыць на левым флангзе, Драпеза — на правым. Абодва думаюць, чым усё гэта скончыцца. Калі легіянеры не заўважаць пасткі, цягнік узыдзе на мост. Ох і грукату ж будзе! Палезуць браніраваныя вагоны адзін на адзін, заскуголіць жалеза аб жалеза. Ламаючы парэнчы, рэйкі і апоры, усё паляціць пад лёд. Шкода толькі машыністаў... А калі агледзяцца? Прыйдзецца біцца. Можа, нехта загіне з гэтых хлопцаў, некага параніць. А тут і кавалка бінта няма. Неяк не дадумалі.

Але што гэта? Над лесам узвіўся дымок. Ён большае і набліжаецца. Зазвінелі рэйкі, чуваць прыглушаны адлегласцю гул. Усе без каманды ўзяліся за вінтоўкі, карабіны і стрэльбы, прытаіліся.

З лесу павольна выпаўзае нешта няўклюднае і шэрае. Дым вырываецца недзе з сярэдзіны саставу і адплывае белым воблачкам. Наперадзе сунецца металічная скрыня з дахам, як века дамавіны. Відаць байніцы і шчыліны. Праз іх, напэўна, углядаюцца чыесьці вочы.

Цягнік спыніўся за некалькі сажняў ад моста. Ён не адважваецца ўзысці на яго. Ад саставу аддзялілася невялічкая чорная постаць, такая чорная, што, здаецца, ад яе застаюцца цьмяныя плямы на снезе. Відаць, качагар. Ён падыходзіць да моста і глядзіць уніз.

«Эх, дурні, пілавінне не прысыпалі снегам»,— злуецца Сымон Вежавец. А яму так хацелася, каб гэтыя ашчэраныя жалезныя скрыні разам з мостам паляцелі ў прорву замёрзлай ракі.

Чалавек у чорным заходзіць збоку, спускаецца па адхоне, потым махае рукой назад і бяжыць к цягніку. З люка першага вагона вытыркаецца канфедэратка. Качагар спыняецца, задраўшы галаву, нешта гаворыць, паказвае рукамі і бяжыць к паравозу. Цягнік стаіць, нібы раздумвае, ісці ці не ісці. Пыхкае параю — і ні з месца.

З шэрых сталёвых вагонаў вылазяць трое легіянераў з белымі нашыўкамі на каўнярах. Наставіўшы карабіны, яны асцярожна ідуць к мосту.

— Эх, лупянуць бы па іх, каб пэтлахі паляцелі,— шэпча Якаў Гошка, сціскаючы вінтоўку.

— Не чхні! — злосна шыпіць Салавей.

Легіянеры ідуць асцярожна, відаць, адчуваюць, што нехта сочыць за імі, што на тым баку не так пуста, як здаецца. Яны нагінаюцца, аглядаюць мост, бо, напэўна, не вераць качагару. Ніхто з іх не адважваецца спаўзці на лёд. Яны боязка азіраюцца і, не апускаючы зброі, задам ідуць к цягніку, хапаюцца за парэнчы і ўжо з вагона махаюць машыністу ў той бок, адкуль прыехалі.

Запыхкаў, залапатаў паравоз, уздрыгнулі, заскрыгаталі жалезныя скрыні вагонаў і падаліся назад. З шчылін і люкаў бліснула полымя, праз нейкую долю хвіліны пракаціўся гулкі залп, затахкацеў кулямёт, ссякаючы дубцы ракітніку і асыпаючы іней з голых алешын.

Хлопцам хацелася адказаць дружным стрэлам. Камандзіры ледзьве стрымлівалі іх.

Цягнік нехаця, павольна пасунуўся назад. Салавей загадаў атраду адпаўзці ў лагчыну і ўсім устаць. Хлопцы атрасалі снег, ляпалі адзін аднаго рукавіцамі, тупалі. і скакалі на месцы.

— Ну ж і свярбела стрэльнуць,— прызнаўся Амяльян.

— Я іх, гадаў, на мушцы трымаў, пакуль у вагон не пахаваліся, так і карцела хоць аднаго ўлажыць,— клацнуў затворам Якаў Гошка.

— А што з таго? Ну забіў бы аднаго, другога, а колькі іх там было, ведаеш? У іх жа кулямёты, гарматы, патронаў цэлыя скрынкі. А ты з дубальтоўкамі ды карабінамі хацеў на браніраваны цягнік ісці. Палузалі б нас, як Пракопіха квасолю,— тлумачыў Салавей.— А так і сена цэла, і козы сыты. Дзе мала сілы, розумам бяры.

— Цікава, што яшчэ прыдумае генерал? — запытаў Ляўкоў.

— Так не пакіне, нешта прыдумае,— адказаў Салавей,— а тут і без яго клопатаў па самыя вушы.

Партызаны, радыя, што так усё абышлося, разыходзіліся і раз'язджаліся, хто на пасты ў Ратміравічы і ў Оземлю, а хто па сваіх вёсках і хутарах. Некаторыя шкадавалі, што нават і пастраляць не прыйшлося. Салавей даволі змрочна гаварыў ім:

— Усё толькі пачынаецца. Яшчэ агоркне страляніна. Біцца будзем да апошняга, а ніякай погані і блізка не пусцім.

Члены рэўкома зайшлі да Пракопа Малаковіча. У печы было ўжо выпалена, у хаце падмецена і прыбрана. Пракопіха паставіла на стол ладны чыгунок бульбы і гліняную місу кіслага малака.

— Ешце, мужчынкі, намерзліся ж і нагаладаліся.

Мужчыны селі, пачалі браць зверху гарэлікі, аскрабаць іх і са смакам есці. Першы загаварыў Салавей:

— Сілы ў нас невялікія, патронаў і вінтовак яшчэ меней, а генерал прэ і прэ. Чым будзем адбівацца, таварышы? Як будзем бараніць Савецкую ўладу?

— Я думаю паслаць нашых людзей у Мінск да таварыша Мяснікова. Няхай дадуць трохі зброі, патронаў, а можа, і на кулямёт разжывёмся,— прапанаваў Малаковіч.

— Хоць бы невялічкую гарматку далі, мы б ім тады паказалі, як трэба ваяваць,— усхапіўся Драпеза.

— От і збірайся ў дарогу, Анупрэй. Падбяры сабе хлопцаў, напішам паперу, возьмеце пару добрых коней, пад'едзеце, дакуль можна, а там прабірайцеся, дзе бокам, а дзе скокам. Не маленькія, галовы на плячах ёсць. Кудою лепш праехаць, падумаем разам. Члены рэўкома згодны? — епытаў Салавей.

— А чаму ж не? — даядаючы бульбу, адказалі мужчыны.

11

...Доўга дабіраўся Анупрэй Драпеза са сваімі хлопцамі да Мінска: пад'язджалі на платформах, залазілі ў салдацкія цяплушкі, мерзлі на паўстанках. Ніхто толкам не ведаў, куды і адкуль ідуць цягнікі. А яны ўсё ж час ад часу хадзілі.

Каля паўдня прыехалі рудабельцы ў Мінск. Вузкія вуліцы замецены снегам. На вакзале поўна салдат, жанчын, дзяцей, старых. Усе латоцца, крычачь, некуды бягуць, штурхаюцча. Плача маладая жанчына ў пачёртым паліто і старэнькім капялюшыку, на яе ніхто не зважае. На лаўках і пад лаўкамі спячь змардаваныя людзі, храпучь і чяжка дыхаючь адкрытымі ратамі. Наўкол смецче і бруд.

Анупрэй, Якаў Гошка, Нічыпар Званковіч і яшчэ трое карпілаўскіх хлопчаў, апранутыя ў кажушкі і світкі, хто ў валенках, а хто і ў лапчях, падаліся па Падгорнай вулічы шукаць Ваенна-рэвалюцыйны камітэт. Шыльдаў ніякіх не было, прыходзілася пытацца.

Нарэшце ўвайшлі ў вялікі зеленаваты дом. І тут, як на вакзале, поўна людзей, гамана і тытунёвы дым, па лесвічы ўніз і ўверх з паперкамі, з паўрозкамі тэлеграфных стужак снуючь вайсковыя і

чывільныя, за прычыненымі дзвярамі ляскаюць машынкі, нехта крычыць у тэлефон.

Анупрэй падышоў да салдачіка з чырвонай павязкай на рукаве і пачаў дапытвачча, дзе знайсчі Мяснікова. Той здзіўлена і нейк падазрона паглядзеў на вяскоўчаў і пачікавіўся, хто яны такія і што ім трэба ад Галоўнакамандуючага Заходнім фронтам.

— Толькі пакажы дзе, а што трэба, мы самі скажам,— настойваў Анупрэй.— Ты ж тут за днявальнага стаіш, от і кажы, калі ў чябе пытакщь. Хадзічь з двярэй у дзверы няма часу.— І ён паказаў рэўкомаўскую паперку.

— Смаліце, мужычкі, на другі паверх,— кіўнуў на лесвічу дзяжурны.

Усе рушылі следам за Анупрэем па вузкім цемнаватым калідоры. Іх абміноўвалі, а часам штурхалі паспешлівыя ваенныя, бурчалі, што сноўдаюцца тут усялякія.

У невялічкім пакойчыку ім насустрач падняўся маладзенькі хлапец з прыпухлымі чырвонымі вуснамі, гладка прычасаны на прабор, апрануты ў зялёны, занадта шырокі ў плячах фрэнч. Анупрэй, нічога не гаворачы, працягнуў яму паперку, напісаную Салаўём і Ляўковым. Той дачытаў просьбу рэўкома, зірнуў на мужчын, яшчэ раз на паперку, усміхнуўся, ветліва папрасіў хвіліначку пачакаць і, не зачыняючы дзвярэй, запрасіў у вялікі кабінет.

У пакоі сядзела некалькі ўжо немаладых вайскоўцаў, каля самага стала прымасціўся сівавусы каржакаваты дзядзька, падобны на паравознага машыніста. Калі ўвайшлі рудабельцы, усе сціхлі. Да іх падышоў яшчэ малады чарнявы мужчына ў суконнай салдацкай гімнасцёрцы, рухавы і вельмі зграбны. Падаў кожнаму руку, запрасіў сесці на пацёртую скураную канапу і раптам весела засмяяўся:

— Некалькі месяцаў назад на гэтай канапе сядзеў... хто б вы думалі? Сам Доўбар-Мусніцкі. А цяпер сядзяць рудабельскія партызаны, так, так, іменна партызаны, і просяць зброю, каб біць гэтага фанабэрыстага генерала. Вось дык іронія лёсу. Добра вы яго лупцуеце, таварышы, па-сапраўднаму, па-бальшавіцку. Зброяю мы вам паможам.— Ён звярнуўся да прысутных ваенных: — Як думаеце зручней іх узброіць, таварышы?

— У Васіля Віктаравіча ёсць, ды адтуль і бліжэй дабірацца да іх лясной рэспублікі,— параіў высокі вусаты вайсковец у кавалерыйскім шынялі.

— Сапраўды, гэта, бадай, зручней за ўсё.— Мяснікоў падышоў да стала, узяў аркуш паперы і пачаў хутка пісаць тоўстым сінім алоўкам. Перачытаў, заканнертаваў і зноў падышоў да канапы. Перадаючы

Анупрэю пакет, растлумачыў: — Зараз жа паедзеце ў Аеіпонічы. Туды толькі што адправіўся таварыш Каменшчыкаў. Атрымаеце трыста вінтовак. Як думаеце, пакуль што хопіць? — Рудабельцы заўсміхаліся.— Дзве паляныя гарматы, шэсць кулямётаў, патроны, снарады. Вось запіска ваеннаму каменданту вакзала. Ён вас адпра-

віць з першай аказіяй. Спяшайцеся, бо ў Асіповічах не вельмі спакойна.

Рудабельцы падняліся і пачалі дзякаваць.

— Гэта вам дзякуй ад рэвалюцыйнага ўрада Беларусь І перадайце сваім таварышам, каб трымаліся. Уздымайце на барацьбу суседнія воласці, народ пойдзе за вамі. А там у вас такая крэпасць — ні адзін чорт не дастане. Лясы, балоты — ваш саюзнік. Скажыце, а кулакі, ну багацеі мясцовыя, не спрабуюць выступаць супроць Савецкай улады?

— Дасюль яшчэ не вытыркаліся,— адказаў Анупрэй,— але ў засценках царскія афіцэрыкі туляюцца і ўраднік уцёк на далёкія хутары. Відаць, паспрабуюць агрызацца. Зброя ў іх ёсць. Але мы цяпер багацейшыя за іх. І сваё вока ў засценках маем.

— Перадайце таварышам Салаўю і Ляўкову, каб абавязкова трымалі сувязь з Бабруйскам. Уком там пакуль што ў падполлі, але дзейнічае... Ну, як казалі да рэвалюцыі, з богам, таварышы.— Мяснікоў правёў рудабельцаў да дзвярэй, развітаўся з кожным за руку.

12

Мароз адваліўся з ночы. Расталі шыбіны, закукарэкалі пеўні, пачарнела дарога, прыцярушаная саломаю і гноем, пацямнеў лес, толькі сям-там на хвоях яшчэ бялелі снежныя шапй. Хоць зіма была ў самай сіле, але першая адліга напомніла, што не за гарамі вясна, што трэба думаць, як лепей падзяліць панскую і шляхецкую зямлю, як заараць і пасеяць. Вясны чакае ўся агаладалая бедната. Яна спрадвеку марыць пра свой загончык і палоску сенажаці, пра свайго каня і кварту малака пазеляиельым за зіму дзецям. Рэвалюцыя дала зямлю, вярнула мужыкам права на ўсё, што вякамі забіралі ў іх камергер двара яго імператарскай вялікасці Іваненка, яго дзяды і бацькі, а незадоўга да Кастрычніка — сухарлявы барон Урангель.

Але ніколі ніхто не аддаваў нарабаванае без бою. Вось і трэба біцца, каб вярнуць здабытае мужычымі рукамі. І доўга яшчэ прыйдзецца змагацца, многа праліць крыві, каб дэкрэты рэвалюцыі сталі законамі для ўсіх.

Корпус Доўбар-Мусніцкага дайшоў да Пцічы і, кажуць, прэ на Мінск, а тут трэба ўтрымацца, адбіцца, перахітрыць, перамагчы, пакуль падыдзе Чырвоная гвардыя, і разам з ёю турнуць

фанабэрыстых легіянераў, каб і смуроду іх тут не было. Хутчэй бы прыехалі хлопцы з Мінска, тады б можна было ўзброіць усю беднату і так ударыць, што толькі б пер'е паляцела.

— Аляксандр Раманавіч, папытаць у вас хацеў,— перабіў думкі Салаўя чарнявы хлапец з цыганскімі вачамі. Ён сядзеў на ганку рэўкома і чакаў старшыню.

— А чый жа ты будзеш? — акінуў позіркам незнаёмца Салавей.— Павырасталі, што і роднага брата не пазнаеш.

— Кандратаў я, Кавалевіча Кандрата, можа, ведаеце?

—Хто Кандрата не ведае? А як жа цябе зваць?

— Іванам. Парабкаваў у Ермаліцкіх на футары, от і не бачылі мяне тут, а цяпер тыя ўзялі і прагналі.

— Чым жа ты не дагадзіў сваім гаспадарам?

Іван замуляўся, апусціў вочы і пачаў маршчаком чыркаць па мокрай маснічыне ганка.

— Любімся мы з іхняю Гэлькаю, замуж за мяне хоча, а старыя як дазналіся, адразу — на дыбкі і пратурылі мяне.

У Салаўя ад здзіўлення пакруглелі вочы.

— Шляхцянка за парабка замуж?

— Ат, якая яна там шляхцянка? Вырадак нейкі. Не ў бацьку ўдалася. Спагадае ўсім, сама, як парабчанка. А цяпер уцякла з дому. Справадзілі былі яе да цёткі на футар. Пабыла-пабыла трохі дый кажа: «дадому пайду», а сама не дадому, а ў Харомцы уцякла, да ахмістрыні ў нянькі нанялася, за харчы служыць. Стары ўжо да майго бацькі прылятаў. Аддай, кажа, дачку. А той ні сном ні духам нічога не ведае. Адчапіся, кажа, мне сваіх ратоў няма чым заткнуць. Пакрычалі, пасварыліся, той і паехаў. Так і не ведае, дзе Гэлька.

Старшыня рэўкома моўчкі слухаў Івана. Адны ваююць, мерзнуць, заліваюцца крывёю і паміраюць за зямлю, за свабоду, а гэтыя любяцца, пачынаюць жыццё, і таксама ў муках. І хто? Парабак і шляхцянка! Тут барацьба. Раней такога не чутно было. Відаць, нешта зрушылася ў душах людзей.

— Дык чым жа, хлопча, табе рэўком паможа?

— Пераказвала, каб прасіў хоць з дзесяціну зямлі і трохі лесу на хату. Як прыйдзе, мо тады і павянчаемся.

— За зямлю, браце, яшчэ пабіцца давядзецца з легіянерамі, з ермаліцкімі і перагудамі. Яны не тое што лесу на хату, дубца на пугаўё не дадуць выразаць. Адваюем, будзе вам і зямля і хата. Так і скажы ёй. Калі любіцеся, жаніцеся і жывіце на здароўе.

— А як жа, любімся.— Іван апусціў галаву і памаўчаў.— Яна добрая і цягавітая дзеўка.— Потым паглядзеў Салаўю ў вочы.— Калі

трэба біцца, дык я хоць цяпер. На ваўка з дубальтоўкаю хадзіў, дзіка на востраве ўлажылі, аж чатыры дранкулі ўсадзіў. А тут, мабыць, трэба большы калібер. Будзе з чым, дык і я ўпішуся ў ваша войска.

— А ты сам расстарайся. Трэба было пашукаць пад шляхецкім застрэшшам. Там-то пэўна е.

— А то няма? На цэлы ўзвод хапіла б. І Казік ягоны не з пустымі рукамі прыехаў. Ахвіцэрык!

— Дзе ён цяпер і што робіць? — адразу ажывіўся Салавей.

— Туляецца нечага, і ад мяне ўсё хаваўся. Так ні разу яго з морды і не бачыў. Цяпер, кажуць, асмялеў: па фальварках ды засценках лётае, нібы ў сваты. А каго сватае, ліха яго матары ведае.

— Гэта праўда, браце. Цяпер яму не да дзевак. Заварушыліся шэршні, раіцца пачынаюць. Так што наперад ідзі, а назад азірайся, каб шляхта з-за вугла не ўтнула. Яны на наш сцяг, як бык на чырвонае, глядзяць і зямлю капытом рыюць. Заравуць і кінуцца. Змікіціў, Іван, як зямелька дастаецца?

Іван пачынаў разумець, чаму хаваецца Казік, чаго ездзіць па засценках, за што ўзненавідзеў сястру і чаму, як толькі прыехаў сын, Андрэй прагнаў яго, Хвана, з свайго хутара. Баяцца, каб часам не ўбачыла чужое вока, што робіцца за тоўстымі сценамі.

— Так што, Іване, дабывай стрэльбу. А як, падумай. За Пцічою легіянеры стаяць, па сёлах шастаюць, часам адстаюць ад абозаў. Папалюй за каторым, от і карабін. А зброя цябе выручыць не раз. І дзесяціну сваю на першых парах будзеш з карабінам араць, каб назад Ермаліцкія зямлю і жонку не адабралі. А лесу на хату дамо і надзел нарэжам.

— Яно праўда. Захочаш сабаку выцяць — палку знойдзеш. Абы было што бараніць. Так і Гэльцы перакажу. Няхай прыходзіць.

Іван моўчкі патупаў на ганку і шпарка, нібы нешта ўспомніўшы, адразу заспяшаўся па раскіслай вуліцы.

У рэўкоме Аляксандра чакала Параска. Яна прыбралася, як на свята. Ладны кароценькі паўкажушок расшпілены, квяцістая хустка спаўзла на патыліцу, адкрываючы гладка прычасаныя чорныя валасы, на нагах — зграбныя чаравікі на гузіках. Відаць, усе гэтыя ўборы ад самага вяселля ляжалі ў скрыні неадзяваныя. Смуглявыя шчокі па-дзявочаму зардзеліся. У зрэнках чорных глыбокіх вачэй паблісквалі агеньчыкі, толькі каля вуснаў леглі глыбокія баразёнкі ад горкіх пакут, клопатаў і нястач.

Салавей хацеў пажартаваць, спытаць, куды гэта яна так прыбралася, але сумеўся ад думкі, што кабета, можа, упершыню адчула сябе патрэбным людзям чалавекам, якому абрыдла хадзіць у

зацёпканых рызманах. Ён прыхаваў усмешку, павітаўся і спакойна запытаў:

— Ну, як бедната варушыцца, Параска?

— А трохі варушыцца, хоць і на адных драніках сядзіць. Хадзілі мы гэта з Мікодымам ў Лаўстыкі і ў Рудню. Сабралі самую галечу, расказалі, як зямлю дзяліць думаем. Мікодым гаворыць, і я часам слоўца ўстаўлю. А людзям верыцца і не верыцца, што панская і шляхецкая зямля будзе іхняю. Баяцца тых легіёнаў. Кажуць, шампаламі пісяжаць за панскае дабро. Каму ж ахвота падстаўляць сцегнякі?

— Трэба, каб нас легіянеры баяліся, а не мы іх. Прывязуць хлопцы з Мінска трохі стрэльбаў, мы тады ім пакажам, у які бок уцякаць.

13

Рудабельскія «пaслы» ў Асіповічы так-сяк дабраліся на змярканні і адразу кінуліся шукаць Каменшчыкава. Ён сам толькі што прыехаў сюды, і ніхто не ведаў, дзе яго можна знайсці. Старая стрэлачніца тыцнула замасленым флажком у цемень:

— Шукайце унь там у тупіку вагон. Прыехаў учора нейкі камандзір, а той ці не той, самі дапытаецеся.

Доўга хадзілі рудабельцы па пуцях, хлюпаючы па расталым енезе. На іх пакрыквалі вартавыя: «Правальвай, правальвай, няма чаго тут лазіць». І яны ішлі далей. Нарэшце ў акне адзінокага вагона ўбачылі — гарыць свечка. Пастукаліся ў замкнутыя дзверы. Асіплы голас запытаў, хто і чаго трэба.

— Таварышу Каменшчыкаву запіска з Мінска.

Дзверы адчыніліся, і высунулася галава ў папасе.

— Відаць, цяжкая запіска, іпто столькі вас яе валачэ,— змрочна пажартаваў асіплы голас.— Хто з вас старшы, залазь сюды.

Анупрэй намацаў прыступку, ухапіўся за парэнчы і знік у вагоне.

У купэ было накурана і людна. Пры мітуслівым святле свечкі Анупрэй разглядзеў чалавек восем вайсковых. Яны сядзелі вакол стала, пра нешта спрачаліся і гаварылі ўсе разам. Пасярэдзіне стаяў невысокі чалавек у расшпіленым фрэнчы. Калі ён загаварыў, усе замоўклі.

— Корпус Доўбар-Мусніцкага Чырвоная гвардыя адціснула з-пад Рагачова. Цяпер з Бабруйска легіянеры рушылі на Мінск. Многія салдаты корпуса пад выглядам сялян пераходзяць нашы пазіцыі...— І тут ён заўважыў Анупрэя, перарваў сваю гаворку і звярнуўся да яго:
— Што скажаце?

— Мне таварыша Каменшчыкава.

— Слухаю вас.

Анупрэй моўчкі падаў канверт ад Мяснікова. Той прабег запіску вачыма, прыкусіў губу, задумаўся. Па яго постаці, па тым, як трымаецца і гаворыць, Драпеза адразу пазнаў нядаўняга афіцэра. На плячах фрэнча яшчэ не злінялі сляды ад пагонаў. «Ну, гэты знойдзе прычыну, каб не даць»,— падумаў Анупрэй і нечспадзявана пачуў:

— Добра, чым можам, паможам. Заўтра раніцаю ў шостым пакгаузе вас будзе чакаць таварыш Васільеў. Я яму ўсё перадам. Паможам і транспартам. Абы толькі ціха прайшла гэтая ноч.

Каменшчыкаў падышоў да стала, выдраў з блакнота аркушок паперы і размашыста напісаў: «Тав. Васільеў! Задавольце рудабельскіх партызан згодна разнарадкі т. Мяснікова», распісаўся і падаў Анупрэю.

— А пакуль што з майго рэзерву артымаеце асабістую зброю. Колькі вас? — Анупрэй сказаў, што іх шасцёра.— Значыць, шэсць вінтовак, па сотні патронаў і па тры гранаты выдасць вам дзяжурны. Начаваць прыйдзецца на вакзале, Больш няма дзе.

Драпеза шчоўкнуў стаптанымі абцасамі, прыклаў далонь да шапкі. Каменшчыкаў усміхнуўся і падаў яму руку:

— Пазнаю салдата. Жадаю поспеху вашым партызанам. Так і трэба. Само нічога не прыйдзе.

— Мы і не чакаем, таварыш камандзір. Абы было чым, дык мы любому дамо па загрыўку, а без струманту і гніду не заб'еш.

Камандзіры весела зарагаталі. Анупрэй па-вайсковаму крутнуўся, але загойдаўся язычок свечкі.

У калідоры дзяжурны выдаваў рудабельцам асабістую зброю. Анупрэй падаваў вінтоўкі і гранаты таварышам, патроны хлопцы ссыпалі ў торбачкі.

— Хоць за вайну намуляла плечы трохлінейка, а цяпер з ёю весялей і спакайней,— сказаў Званковіч.

Усе пайшлі следам за Анупрэем да вакзала. Там было людна і тлумна, як на кожным вакзале ваеннай пары.

Прымасціліся рудабельцы каля печы. Пад галовы паклалі мулкія торбачкі, захуталіся ў кажушкі, світкі і бравэркі. Змораныя за столькі мітуслівых і бяссонных начэй і дзён, яны адразу заснулі. Ні паравозных гудкоў, ні ляскату дзвярэй, ні гамонкі, ні лаянкі і крыкаў яны не чулі.

Далека за поўнач скаланулася падлога, нешта напялася і лопнула, як разадранае палатно, загрукатала, завухкала, затупалі сотні ног, зацокалі конскія капыты, затарахцелі кулямёты. Даляталі каманды, перасыпаныя густою лаянкай.

Свечка ў вакзале патухла. Людзі крычалі, хапалі свае клункі, душыліся каля дзвярэй, лямантавалі і енчылі, некуды беглі, прыгнуўшыся.

Анупрэй высадзіў прыкладам акно.

— Хлопцы, за мною!

Забразгалі вінтоўкі і патроны. Усе шасдёра выскачылі на перон і пабеглі ўслед за салдатамі.

— Трымацца разам! — крыкнуў Нічыпар Званковіч.

Яны выскачылі на чыгуначны насып. Па дарогах ляцелі кулямётныя тачанкі, а высока над галовамі нылі снарады і, вухкаючы, падалі недзе далека за станцыяй. Успыхвалі ружаватыя водбліскі, і асядала пад нагамі зямля. Куды бягуць людзі, што адбылося за гэтыя некалькі гадзін, рудабельцы не ведалі. Яны прысталі да нейкае часці, яе вёў той самы вусаты камандзір, якога яны нядаўна бачылі ў вагоне Каменшчыкава. Анупрэй толькі паспеў сказаць:

— І мы з вамі.

— Станавіцеся на левы фланг.— І зычна скамандаваў:— Пастроіцца. Ніякай панікі!

Заляпалі прыклады вінтовак, зашаргацелі па снезе ногі.

— Таварышы! Легіянеры прарвалі нашу абарону ў раёне Татаркі, хочуць захапіць Асіповічы і Мінск. Наша пазіцыя — з правага боку чыгункі на подступах да станцыі. На абарону рэвалюцыі шагам марш!

Апошнія ў калоне ішлі шасцёра рудабельскіх партызан. Закалыхаліся ў змроку штыхі, па дарогах зацокалі падковы, загрукаталі колы, пачуліся каманды, крыкі і лаянка.

На ўсходзе вухкалі гарматы, бліскалі цьмяныя маланкі разрываў, стракаталі і захлыналіся кулямёты. Здавалася, ад недалёкага бою памацнеў і нацяплеў вецер, памякчэў размешаны сотнямі ног снег, пасвятлела ў полі.

Недзе недалёка неба асвяцілася барвовым зарывам. Яно расло і яснела, вырываліся клубы шызага дыму і языкі зыркага полымя. Відаць, паблізу гарэла веска. Нарастаў гул страляніны, вухкалі разрывы снарадаў, даляталі прыглушаныя крыкі і лямант.

Развіднела. Рота вусатага камандзіра стрымлівала атакі легіянераў у хмызняку, непадалёк ад пераезда. А па дарозе грукаталі фурманкі з паранеными, храплі спуджаныя коні, адыходзілі і адпаўзалі салдаты. Злева праваліся койныя ўланы. Паблісквалі доўгія крывыя шаблі. Ужо было відно, што прарыў нічым не затуліш, што сілы няроўныя, а наперадзе яшчэ баі і баі. Трэба ратаваць кожнага чалавека, берагчы снарады і патроны.

У гэтым баі быў паранены Каменшчыкаў. Яго на дрызіне адвезлі ў Мінск. На папружцы, пачэпленай на шыю, няньчыў прастрэленую руку Якаў Гошка. Адарваны ад рукава зрэбны матуз набрак крывёю, завязаная далонь прыліпала да вінтоўкі, калі ён разам з усімі залягаў у прыдарожныя канавы і страляў па зеленавата-шэрых постацях легіянераў.

А яны беглі і паўзлі, нібы з разварушанага мурашніка, залягалі і падымаліся зноў. Падалі чырвонагвардзейцы, падалі і легіянеры на шэры снег, а з пералеску ішлі і ішлі новыя ланцугі ў зеленаватых шынялях.

Вусаты камандзір загадаў адпаўзаць на другі бок станцыі, у хвойнік, што пачынаўся за Асіповічамі. Неслі параненых на звязаных вінтоўках. Адыходзілі кароткімі перабежкамі, а рэдзенькі ланцужок байцоў прыкрываў таварышаў.

К паўдню на станцыі і па вуліцах мястэчка на адкормленых панскім аўсом конях гарцавалі ўланы. Паблісквалі доўгія палашы, бляшаныя аблямоўкі на казырках рагатых канфедэратак і густа заплеценыя галуны на каўнярах шынялёў і пагончыках.

Асіповічы займаў корпус Доўбар-Мусніцкага.

Адзін за адным ішлі на Мінск цягнікі, гружаныя ваенным дабром, паражнякі і цяплушкі, вывозячы параненых, салдацкія кухні і зброю. Машыністы і качагары пакідалі свае абжытыя куткі, жонак і дзяцей, каб толькі вывесці паравозы і саставы, якія належалі рэвалюцыйнаму народу.

Рота вусатага камандзіра спынілася на ўзлессі старога бору. Стагналі параненыя. Іх наспех перавязвалі анучамі, адарванымі ад споднік кашуль і нагавіц.

Рудабельцы развіталіся з новымі баявымі сябрамі, знялі шапкі, пастаялі над забітымі таварышамі, загналі па абойме ў вінтоўкі і рушылі лесам на поўдзень у свой бок.

На душы было горка. Шкода рабілася чырвонагвардзейцаў, што загінулі ў гэтым баі, і крыўдна — спазніліся на адзін дзень і не паспелі атрымаць зброю. А яе так чакае Салавей і ўсе рудабельскія хлопцы.

З чым яны прыйдуць? Чым будуць бараніцца ад легіянераў і шляхты? А тут яшчэ дайшла чутка, што наступав дзесятая армія кайзера Вільгельма. Гэта, відаць, і праўда. От чаму так асмялелі легіянеры.

— Прынясём дадому невясёлыя навіны, а там чакаюць вінтовак і кулямётаў,— разважалі Нічыпар з Анупрэем.

Шасцёра змучаных, агаладалых рудабельцаў, абмінаючы бальшакі і вялікія сёлы, ішлі ў свой лясны край.

## Частка другая

1

Лёд на рацэ папралізвала вада. У прамыінах віравала чорная плыкь і знікала пад парудзелым лёдам. Толькі яшчэ трымаўся прыцярушаны саломаю і гноем зімнік, але і па ім ужо не адважваліся ездзіць — на самай сярэдзіне яго пратачыла вада, паадставалі закрайкі, парудзеў і набрыняў каля берагоў снег. Ды і куды паедзеш, калі на тым баку ў панскіх маёнтках дымяць иаходныя кухні, па сёлах гарцуюць легіянеры — забіраюць у мужыкоў апошняе сена, трусяць кожную хату, выграбаюць са свірнаў насенне, рэжуць цялушак, страляюць падсвінкаў і паласуюць шампаламі кожнага, хто спрабуе што-небудзь схаваць або не даць салдатам мяцежнага корпуса.

Ціхая падталая Пціч, нібы граніца, падзяліла вёскі: у Бярозаўцы, Катцы, Харомцах, Халопенічах і ў Глуску стаяць легіянеры, а за ракою, над Рудабельскім валрэўкомам, трапеча на ветры чырвоны сцяг. Мікодым Гошка з Параскаю ламаюць галовы і спрачаюцца., як лепей падзяліць панскую і шляхецкую землі, чым памагчы ўдовам і сіротам. Салавей з Ляўковым лазяць па шляхецкіх хутарах — шукаюць на гарышчах вінтовак, абрэзаў і патронаў, забіраюць бярданкі і дубальтоўкі. Цяпер кожны патрон, жменька пораху, старая ламанка даражэй за хлеб: не сённязаўтра прышдзецца біцца, можа, памерці на беразе Пцічы, але не здацца, не пусціць ворага ў воласць, не аддаць назад панам зямлі, якую яшчэ так і не паспеў калупыуць сваім плугам рудабельскі хлебароб. Ён чакае вясны, спадзяецца мець свой надзел, верыць у сілу дэкрэта аб зямлі і міры. А ў яго хочуць зноў адабраць гэта права, зноў скруц.іць мужыка ў бараноў рог. Не, панове, будзем біцца, будзем стаяць на сваім, пакуль трываюць рукі, пакуль бачаць вочы. А памерці прышдзецца — дзецям аддамо свае стрэльбы — няхай бароняць зямлю і чырвоны сцяг над рэўкомам. Хопіць! Хто сам вылузаўся з ярма, таго назад не загоніш.

У воласці рабілася ўсё трывожней і трывожней: так-сяк з Асіповіч прыбіліся Салаўёвы пасланцы. Ірыйшлі і расказалі рэўкомаўцам, што нібыта легіянеры ўжо ў Мінску, што пайшлі ў наступление кайзераўскія дывізіі: немцы займаюць гарады і мястэчкі, асталёўваюцца грунтоўна і, відаць, надоўга. А з-за ракі легіянеры гатовы кожную хвіліну ўдарыць па воласці. І, мабыць, хутка ўдараць. Генерал не даруе рудабельцам раззброеных у Ратміравічах «жалнежаў», не забыўся ён і на бронецягнік. Не сцерпіць, што ў палескіх сёлах, як на маленькім астраўку, жыве Савецкая ўлада.

Гэта ўсё разумеў, пра ўсё гэта думаў Салавей са сваімі сябрамі. Вечарам яны сабраліся ў Кавалях, у хаце Максіма Ляўкова. Гарэла газнічка, трашчаў за печчу цвыркун, пахла паранкаю і надгарэлаю бульбай. На печы, звесіўшы босыя ногі, сядзеў чорнабароды Максімаў бацька Архіп, курыў падмарожаны самасад, слухаў, а часам і ўстаўляў слова:

— Акапацца трэба, хлопчыкі. Пазіцыя, яна па акопах дзяржыцца. Зямля чалавека ратуе. Корміць і поіць яго і ад смерці беражэ. Давайце на гарэлым балоце, якраз проці моста, акапаемся. Другое дарогі ў іх няма. У раку не палезуць. Пусцім у пастку і стукнем з трох бакоў. От пабачыще — мая праўда.

Салавей слухаў старога салдата японскай вайны і крэмзаў нешта на сіняй вокладцы вучнёўскага сшытка.

— А бацька праўду кажа. Глядзіце, хлопцы. От мост. Справа і злева залягуць два атрады, трэці перарэжа дарогу. Як толькі яны ўлезуць у гэты мех,— Салавей абвёў алоўкам тры бакі квадрата,— мы яго і завяжам. Уцякаць адна дарога — на мост. Тут мы ім дамо пытлю.

— Як пабягуць, каб з таго боку хоць пара гранат шарахнула па мосце,— сказаў Максім,— тады мех і завяжацца.

— Разумна. Надумаем і пра гэта. А заўтра досвіткам выводзьце свае атрады з рыдлёўкамі ў алешнік, няхай акопваюцца. Як, дзядзька Архіп, па зімніку яшчэ можна прайсці?

— Конна наўрад. А пехатою перабярэнтся: снег зляжаўся і ўмёрз,— адказаў Салаўю стары.

...Назаўтра досвіткам, сігаючы праз выбоіны, поўныя вады, па зімніку на той бок Пцічы перабіраліся Раман Салавей з дачкою Марылькай. За плячамі яны неслі па ношцы грэчкі. Калі і запыняць часам палякі, скажуць, што ідуць на крупадзёрку.

Але ніхто іх не запыніў. Легіянерам было не да таго. Яны ад'ядаліся на дармовых харчах у халопеніцкай пані, насілі з бровара свежанькі спірт, збіраліся вясёлымі кампаніямі, пілі, маркотна спявалі:

Вруць Ясеньку з тэй военкі, вруць...

Не хацелася ім падстаўляць галовы пад мужыцкія кулі, рызыкаваць жыццём, бо ніхто з іх толкам не ведаў, за што яны мусяць ваяваць. Сцерагчы панскія маёнткі яны ўмеюць. І пажыць на ўсім гатовым кожны ласы. Вечарамі ў прасторную залу панскага палаца афіцэры прывозілі маладых дзябёлых шляхцянак з суседніх хутароў і засценкаў, шчоўкалі перад імі абцасамі наваксаваных ботаў, звінелі шпорамі, аж да раніцы круцілі ў мазурках і вальсах расчырванелых шыракаклубых часовых нявест і паненак. На ноч выстаўлялі варту

вакол маёнтка і спакойна адсыпаліся. Афіцэры — у панскіх пакоях і флігелях, салдаты — у афіцынах і парабкоўскіх стадолах.

Калі паны яшчэ спалі, Раман Салавей зайшоў у кузню да Яніса Гайліса. Стары латыш звекаваў і аглух у панскіх кузнях, увагнуўся ад цяжкага молата, ссівелі галава і вусы ад клопатаў і нястач, і толькі вочы былі ясныя і добрыя, як у дзіцяці. Яніс ведаў Рамана з маладых год: яны разам парабкавалі ў маёнтку Іваненкі, па суседству карчавалі ляды і абодва некалі прыглядаліся да прыгожай вясёлай Луізы. А калі яна не паслухалася бацьку і пайшла замуж за Салаўя, Яніс не раз хацеў сустрэць камлюкаватага Рамана на 'вузкай лясной сцежцы, але ўсё ніяк не выпадала. Хацеў і пазбягаў гэтых сустрэч. Ён сцішыўся толькі, калі ажаніўся сам. І вось Луізы даўно няма на свеце. Павырасталі Раманавы і Янісавы дзеці. Цяпер у кожнага сваё гора. Раманаў Косцік уцякаў з румынскага палону, дапоўз да сваіх акопаў і загінуў у першым жа баі, а Янісаў Данат склаў галаву пад Перамышлем. Стрэнуцца старыя, пабядуюць, паўздыхаюць і разыдуцца. А цяпер не вельмі і сустрэнешся: Яніс — пад палякамі, а Раман на тым баку, у бальшавікоў, дзе ўсім камандуе яго большы сын.

Таму і здзівіўся Яніс, убачыўшы на парозе кузні Салаўя з Марылькаю.

— Лабдзіен.— Абое прывіталіся па-латышску, скінулі свае невялічкія ношкі ў парозе. Раман пацiснуў чорную шурпатую кавальскую далонь і адразу ўзяўся за абшмуляны сотнямі мужыцкіх рук кiёк, пачаў раздзімаць вялікі скураны мех. Загуў горан. Яніс ласкава пазглядзеў на невысокую зграбную Марыльку. Яна была трошкі цямнейшая за маці, а так — вылітая Луіза. Насупіў бровы і запытаўся ў Рамана:

— Чаго гэта вас прынесла нялёгкая? Убачаць легіянеры і ўсыплюць па «двадзесце пенць».

— Ты ж, можа, не падтыкнеш, адкуль мы? А на лбе ні ў кога не напісана, які ён: чырвоны ці белы. Маршчакі і світкі — адна хворма і тут і там... Гэта ж падгрэблі ў засеку трохі грэчкі ды ў крупадзёрку прынеслі.

Яніс глядзеў на Салаўя і ўсміхаўся ў жоўтыя пракураныя вусы.

— Ты мне, Раман, хоць цяпер галаву не дуры. Мы ўжо старыя, і дзяліць нам няма чаго.

Ён узяў мяшэчак. Ледзьве падняў яго і паважыў у руцэ. Пакруціў галавою і засмяяўся.

Марылька трывожна сачыла за кавалём.

Яніс моўчкі шуфлем разгроб кучу вугалю.

— Усё, што трэба,. можаш схаваць тут, а грэчку нясі на крупадзёрку.

Ён узяў гаечны ключ, выйшаў на двор, пачаў прыкручваць гайкі на старым возе і паглядаць на ўсе бакі.

Раман з дачкою дасталі з мяшэчка восем гранат, усе іх склалі ў адзін мех, зверху прысыпалі грэчкаю, завязалі і прыгрэблі вугалем. Убачыўшы ў акно, што ўсё гатова, у кузню ўвайшоў Яніс.

— Кажы, што далей рабіць.

— Прыйдзе да цябе чалавек з ключом на гэты замочак,— Раман дастаў з кішэні невялічкі замок ад куфэрка,— яму і аддасі. От і ўся твая работа. Ключ падыдзе, значыць, ён.

Салавей аддаў дачцэ ключ і памог ускінуць мяшэчак. Марыля выйшла з кузні і падалася ў суседнюю вёску.

Раман счакаў трохі, падзьмуў яшчэ ў мех, з дзвярэй паглядзеў на ўсе бакі і падышоў да каваля.

— Дзякую табе, Яніс.

— А ты не дзякуй. Не табе ж ласку раблю. Ды якая там ласка? Ну ідзі.— І стары Гайліс ні то абняў,

ні то штурхануў у плячук Рамана.— Калі запыняць, кажы, што быў у жончынага сваяка.

Раман, унурыўшы галаву, пайшоў да зімніка.

2

Начамі і досвіткамі капалі партызаны акопчыкі і ямкі ў хвойніку каля моста. Уздоўж рэчкі, за альховымі і ракітавымі кустамі мяняліся каразулы. На грудку свежай зямлі ўстанавілі кулямёт, адбіты ў легіянераў бярозаўскімі хлопцамі.

Усе атрады сабраліся ў Карпілаўцы і чакалі загаду Салаўя.

— Чаго нам сядзець? Наскочым на Халопенічы ноччу, і ўсе гэтыя жоўтыя «канарэйкі» аж заляскацяць,— патрабавалі самыя няўрымслівыя. Салавей супакойваў іх, казаў, што няма чаго без дай прычыны падстаўляць галовы пад кулі, пераконваў, што трэба драпежніка заманіць у пастку і даць яму так, каб і дарогу сюды забыўся.

Калі з-за ракі вярнулася Марылька і расказала, што ў Харомцы, Катку і Касарычы падыходзяць новыя атрады легіянераў, старшыня рэўкома сабраў усіх партызан каля воласці, ускочыў на пачарнелыя бярвенні, што ляжалі ля суседняй хаты, падняў руку, спакойна і цвёрда загаварыў:

— Таварышы, не сёння-заўтра найміты капіталу, белапольскія легіянеры, пойдуць на нашу воласць. У іх конніца, ангельскія карабіны, нямецкія кулямёты і гарматы, патронаў, як таго пяску. У нас зброі такой няма. Але мы верым, што пераможам, бо кожны б'ецца за сваю зямлю, за свабоду, за Савецкую ўласць. Хто стаў у нашы рады,

павінен ведаць, на што ён ідзе. Можа, і не ўсе вернуцца з гэтага бою, можа, мы страцім нашых таварышаў, але нам не страшна загінуць за лепшую долю.

У натоўпе пачалі ўсхліпваць жанчыны. Партызаны маўчалі, сціскаючы карабіны, трохлінейкі і дубальтоўкі. Пакалыхваліся авечыя шапкі і салдацкія кучомкі, віўся сіні дымок ад самакрутак і раставаў у шэрані мокрага веснавога дня.

— Таварышы,— зноў загаварыў звонкім і чыстым голасам Салавей.— Той, хто гатовы біцца за нашу Савецкую ўласць, няхай паслухае і падпіша партизанскую клятву. А хто не хоча ці баіцца, няхай ідзе да жонкі на цёплую печ.— Ён абвёў доўгім позіркам натоўп. Заварушыліся партызаны, пачалі азірацца, але не ўбачылі, каб хто выйшаў з натоўпу.

Салавей дастаў з кішэнькі пацёртага зялёнага фрэнча паперку, акуратна разгарнуў яе. Зняў шапку. Паздымалі шапкі Ляўкоў, Драпеза, Малаковіч. Скалануўся партызанскі натоўп: то адзін, то другі пачалі сцягваць старыя салдадкія кучомкі, авечыя шапкі і вайсковыя фуражкі. Вецер шкуматаў густыя чорныя і светлыя чубы, трапаў рэдзенькія касмылі на аблыселых галовах і сівыя грывы дзядоў. Салазей пачуў, як нейкая кабета шэптам спытала: «Бабанькі, можа, і хусткі трэба скідаць?» Зрабілася так ціха, што было чутна, як шамаціць паперка ў руках.

— Тады слухайце. «Я, ніжэйпадпісаны,— пачаў ён, адсякаючы кожнае слова,— клянуся гонарам і годнасцю вольнага грамадзяніна, што разумею важнасць узятага на сябе абавязку, ад якога залежыць вынік нашай барацьбы ў справе вызвалення пралетарскіх мае, якія пакутуюць у цяжкой няволі і рабстве, і свята абавязуюся прайсці абраны мною цярністы шлях. Усведамляючы рэвалюцыйны абавязак, я гатовы ахвяраваць сабою дзеля дасягнення мэты, дзеля вызвалення і аднаўлення ў нас Савецкай улады, падобна многім іншым папярэднім мне таварышам, якія дастойна памерлі ў няроўных баях... За здраду справе няхай мне будзе ўсеагульная пагарда і смерць».

Людзі маўчалі.

— Не сёння, дык заўтра легіянеры могуць напасці на нашу воласць. Рэўком уводзіць ваенную дысцыпліну. Усе атрады павінны быць гатовы ў любую хвіліну выступіць на абарону Савецкай улады,— закончыў Салавей.

Натоўп загаманіў, загайдаўся. Да бярвенняў падыходзілі маладыя і старыя, слінілі аловак, і кожны распісваўся, як умеў,— хто ставіў першую літару з хвосцікам, хто крыжык, граматнейшыя распісваліся за сябе і за суседзяў,— «па іх лічнай просьбе». Распісалася Аляк-

сандрава сястра Марыля, за ёю надышла камбедаўка Параска і паставіла тры тлустыя крыжыкі.

— Старшыня, ты б мяне камандзірам над бабскім батальёнам смерці назначыў,— пажартаваў Цярэшка. Але жонка таўханула яго ў карак:

— Сціхні, балабон.

— Камандзіры і члены партыі бальшавікоў, зайдзіце ў рэўком,— абвясціў Пракоп Малаковіч.

З натоўпу выйшла чалавек дваццаць. За імі патупаў і Цярэшка.

— Цябе ж яшчэ, дзед, у камандзіры не прызначылі. Батальён яшчэ не набраўся. Лепей ідзі дадому,— супыніў яго Максім Ус.

— Затое ў бальшавікі ўпісаўся. Пракоп жа казаў ісці ў воласць.

— Партызаны — гэта адно, а парцейныя — саўсім другое,— тлумачыў усміхаючыся Максім старому.

— Як так? Раз я за бальшавікоў, значыць — парцейны.

Калі камандзіры зайшлі ў воласць, Цярэшка пастаяў трошкі, махнуў рукою і вярнуўся да бярвенняў, дзе мужчыны яшчэ падпісваліся пад партызанскаю клятвай.

— Няўжо не ўсё адно? Раз упісаўся, значыць — бальшавік.

Так думаў не адзін Цярэшка: кожны, хто ўзяўся за зброю і распісаўся пад клятваю, лічыў сябе бальшавіком.

Яшчэ не развіднела. За ноч зямля падшэрхла, дубцы прырэчных кустоў абледзянелі і шаргацелі, як драцяныя. З таго берага быў чуцён тупат ног, конскіх капытоў і прыцішаныя кароткія каманды.

Паўтары сотні партызан залеглі непадалёк ад моста. Яны нрыціхлі ў акопчыках і ямках, паабтыканых маладымі елачкамі і альховым веццем. На правым фланзе камандаваў Салавей, на левым — Драпеза. За паўвярсты наперадзе дарогу перагарадзіў атрад Ляўкова. Старшыня рэўкома папярэдзіў,— без яго каманды ніхто не мае права нават паварушыцца. Пахла сырой зямлёю і мохам. Ад напружанага чакання ўздрыгвалі сківіцы і пальцы. Абвостраны слых лавіў кожны шоргат і гук.

Тупат нарастаў і набліжаўся. Зацокалі падковы па мосце, глуха загрукалі боты. Легіянеры хацелі неспадзеўкі ўскочыць у Рудабелку, заняць воласць, а што рабіць далей, кожны ведаў сам — бізуны былі са свінчаткаю, шампалы — пры кожным карабіне.

Паперадзе ехалі коннікі. На брылях канфедэратак блішчалі акантоўкі, дзынкалі доўгія зіхатлівыя палаты, рыпелі сёдлы, саплі сытыя коні. На мосце коннікі знялі карабіны. Пехацінцы зрабілі тое ж самае. Абапал дарогі, адразу за ракою, пачынаўся густы ельнік, а трошкі далей — векавы бор. Рассыпацца ланцугом па лесе было боязна,

палохала і лясная дарога. Таму, мабыць, неяк самі па сабе нацягваліся павады, запавольваўся крок, вочы пазіралі то ўлева, то ўправа. Камандзір з біноклем на шыі ад'ехаў убок, прапускаючы сваіх салдат і прыспешваючы іх кароткай камандай: «Прэндзэй, панове, прэндзэй!»

Калі прайшла паўз яго апошняя шарэнга пехацінцаў, ён прышпорыў сівага, у яблыкі, каня, але не вельмі спяшаўся на сваё месца наперадзе. Ехаў з боку калоны, узіраючыся ў гушчар. У лесе было ціха, толькі марудна і лена пагойдваліся і ледзь чутна шумелі цёмныя верхавіны хвой. Прыціхлі і легіянеры. Чмякалі каныты і падкаваныя боты, ламаючы храпу і ледзяныя шкельцы лужын на дарозе. Недзе зусім блізка нешта застукала, мабыць, дзяцел. Закугукаў крумкач на сухой яліне. Павесялелі маладыя чырванатварыя ўланы і легіянеры: лес як лес, і дарэмна палохалі іх паручнікі і капралы, што быццам за кожным кустом сядзіць «бандыт».

Пры самай дарозе стаяла некалькі шурак дроў. І раптам з-за іх проста ў лоб калоне ўдарыў залп. Пярэднія коні ўзвіліся на дыбкі і аселі, зляцеў долу адзін, другі, трэці ўлан, заднія наскочылі на іх, заляскалі затворы карабінаў. Але куды страляць, ніхто не бачыў, лупілі ў дровы і проста ў белы свет.

А параненыя ўланы і коні падалі адзін за адным. Легіянеры кінуліся з дарогі ў лес, і тут з абодвух бакоў, з ямак і акопчыкаў, прыкрытых ялінкамі і кустамі, пракаціліся залпы. Валіліся на зямлю забітыя, пазляталі са спуджаных коней жывыя. Адпаўзалі за тоўстыя камлі і несуладна адстрэльваліся.

Ламаючы сучча, па лесе ляцелі ашалелыя коні без седакоў. Здавалася, страляе кожнае дрэва і куст, кулі дзынкаюць аднекуль з зямлі. Конныя і пешыя апынуліся ў вогненнай пастцы. Адзіны паратунак — назад, на мост. Без разбору страляючы ў лясны гушчар, тоичучы сваіх, імчаліся ашалелыя і разгубленыя ўланы да Пцічы. Да моста рынуўся бязладны натоўп пехацінцаў, іх да парэнчаў прыціскалі коннікі. З правага боку засакатаў кулямёт. Легіянеры перапаўзалі ад куста да куста, бліжэй к рацэ. Як толькі коннікі даехалі да сярэдзіны моста, з таго, іхняга боку, паляцелі гранаты. Узвіліся коні, потырч пасталі перабітыя маснічыны, а ззаду перлі і перлі параненыя і смяртэльна перапуджаныя салдаты.

Затрашчалі падгнілыя парэнчы. На парэпаны, набраклы лёд сарваўся конь, чмякнуўся і не ўстаў. Сіліўся, матаў галавою і не мог скрануцца з месца. Пад ім правальваўся сточаны лёд, клекатала чорная вада. Без канфедзраткі і карабіна ўлан, што зваліўся з сядла, папоўз на лёдзе. З-за кустоў на мост упала яшчэ некалькі гранат. Яны

рваліся з грукатам і свістам, засцілаючы дарогу дымам. Пастка зачынілася.

Насціл на мосце быў разбіты гранатамі, тлелі парэнчы і прасмоленыя тарцы паляў. Камандзір нешта крычаў на пехацінцаў і махаў бізуном. Салдаты пераламанымі плахамі замошчвалі дзіркі, каб хоць па адным можна было перабрацца на той бок.

Страляніна сціхала. Партызаны шкадавалі патронаў. Варта было з кулямёта касануць па натоўпе на мосце, каб пакласці ўсіх. Але гэта ўжо была б не бойка, а расстрэл.

Салавей са свайго акопчыка сачыў, як гайдаюцца кусты на тым беразе ракі, і радаваўся, што ўжо ніхто не знойдзе тых касарыцкіх хлопцаў, што памагалі ім гранатамі з Гайлісавай кузні.

К паўдню сціхла ўсё. Легіянеры перабраліся на той бок, паставілі каля абгарэлага моста варту.

Партызаны па дарозе і ў лесе назбіралі штук трыццаць карабінаў, шабляў, паздымалі з забітых поўныя патранташы патронаў, палавілі спуцясаных коней, што разбегліся па хвойніку.

Калі змеркла, перанеслі трупы да моста. На кардоне, прымацаваным да слупа, напісалі: «Забірайце сваіх няшчасных ваякаў і не ганіце іншых на пагібель. Дарогу на Рудабелку забудзьце назаўсёды». І падпісаліся: «Рэўком і падраённы камітэт РКП».

У акопчыках і ў густых кустах каля ракі паставілі дазорцаў. Астатнія зняліся і рушылі дадому. На уланскіх конях ехалі параненыя партызаны Майсей Раговіч, Рыгор Надута і Макевіч Дзяніс. Іх тугімі кужэльнымі спавівачамі паперавязвала Параска. Калі і як яна апынулася ў лесе, ніхто не бачыў. Параска ладна сядзела ў сядле і прытрымлівала Дзяніса з прабітым навылёт плечуком.

— І трэба ж было табе вытыркацца? А каб у галаў?.. Пацярпі, Дзяніска, фершал зробіць, каб не балела,— суцяшала яна Макевіча.— Але ж затое от дык далі ягамосцям, што і дзесятаму закажуць.

— Анупрэй добра ўрэзаў з кулямёта, яны так і пасыпаліся,— успаміналі партызаны нядаўні бой.

— А шкода: маладзенькія ўсе, дурненькія і недзе маткі чакаюць,— уздыхнула Параска.

— Паглядзела б, як бы яны цябе пашкадавалі,— стогнучы, бурчэў Дзяніс.

3

Пасля бою партызаны не разыходзіліся з воласці — сядзелі ў зборні, курылі і гаманілі.

— Максім як пальнуў, гэты афіцэрык так і звіўся.

— Каторы Максім? — дапытваўся Цярэшка, не выпускаючы з рук доўгай стрэльбы. Світка падпяразана брызентавым паляўнічым патранташам, шапка заліхвацкі збіта на в уха.

— А ты, дзед, ці не соллю толькі страляў,— пакепліваў высокі, як шула, і заўсёды спакойны Максім Ус.— Я к усмаліш, гляджу — панкі толькі клубамі круцяць ды на той бок уцякаюць.

Усе зарагаталі. Але Цярэшка не разгубіўся.

— Гэта яны ад страху, а ў мяне па дзве дранкулькі ў кожным патроне. Як урэжу, так з капытоў далоў. Скажы ты мне, Максіме, хто гэта з таго боку бонбы на мост кідаў? Куды яны дзеліся, тыя людзі?

— Усё будзеш ведаць, хутка пастарэеш.— Ус павярнуўся і пайшоў у бакоўку да Салаўя.

У цесным пакойчыку на лаўках, на сталах і падваконні сядзелі камандзіры атрадаў і рэўкомаўцы.

— Яшчэ адзін такі бой, а там прыйдзецца адбівацца каменнямі і доўбнямі,— гаварыў Аляксандр.—

Патронаў мала, вінтовак на ўсіх не хапае. Што будзем рабіць, хлопцы?

— Каб расстарацца хоць бы яшчэ пару кулямётаў і скрынак пяць патронаў,— пачаў Драпеза.

— Можа, пазычыць у пана Доўбар-Мусніцкага? — сур'ёзна запытаў Максім Ляўкоў. Ён і жартаваў не ўсміхаючыся.

— Смех смехам, а з Бабруйскам звязацца трэба. Павятовы камітэт хоць і ў падполлі, а паможа.— Салавей чакаў, што скажуць рэўкомаўцы.

Дзверы адчыніліся, і з дзвюма вялікімі торбамі, перакінутымі цераз плячо, увайшоў Іван Мазалеўскі, яшчэ болей зарослы і разбрынялы. Ён скінуў каля дзвярэй клункі, з усімі павітаўся, сеў на краёчку лавы, дастаў бляшаную маслёнку з-пад ружэйнага масла, адкруціў вечка, натрое накрышанага самасаду і закурыў. Усе моўчкі глядзелі на яго.

— Жаліцца прыйшоў, таварыш Салавей,— пачаў глускі шавец.— Самі тут ваюеце, а я шэршняў абшываю, чаравічкі з высокімі халяўкамі шляхцянкам падганяю. Хіба ж я дзеля таго ішоў сюды?

— О, дык гэта ніштаватая работа, абы халяўкі даўжэйшыя былі,— пажартаваў Нічыпар Званковіч.

Хлопцы пырснулі смехам. Быццам не было нядаўняга бою з легіянерамі, быццам не па іх стралялі з карабінаў. Салавей падняўся з-за стала.

— Тут толькі свае, усе бальшавікі,— камандзіры і члены рэўкома. Так што можаш не апасацца. Расказвай, што там на хутарах. А наваявацца яшчэ паспееш.

Мазалеўскі шчыльней прычыніў дзверы, падумаў, як лепш пачаць.

— Лічы, уся засцянковая шляхта —бандзюкі. Добра, што хеўра Казіка Ермаліцкага не стукнула вам па патыліцы. Відаць, сюды патыкацца яшчэ не адважваюцца, а ў Ляскавічах разагналі рэўком, старшыню Анікея Ходку застрэлілі каля воласці. Шчасце яшчэ, што жонка з дзецьмі схавалася, дык яны, гады, хату спалілі.

Усе панура слухалі сумныя навіны партызанскага разведчыка. Ён доўга жыў у кулацкіх засценках. Пераходзіў з хутара на хутар, шыў боты, падбіваў падноскі, спаў у закутках за печчу, моўчкі сёрбаў зацірку на сваім варштаце. Што б ні гаварылі, ён прыкідваўся глухім.

«Што? Га? — перапытваў.— Гаварыце мацней, нічога не чую». І яму крычалі ў самае вуха. Тады ён ківаў галавою, часам усміхаўся, нібы ад радасці, што пачуў, зноў набіраў губамі бярозавыя шпількі і жалезныя цвічкі і маўчаў. Шляхцянкі пакепвалі з яго. Скажа каторая: «Іван, ідзі есці»,— а ён і не зварухнецца, ляскае сабе малатком, шмаруе варам дратву і вухам не вядзе. «От глухі цецярук»,— кпілі з яго.

А Іван лавіў кожнае слова, кожны гук, прыслухоўваўся і прыглядаўся, што рабілася на двары, у сенцах і ў клеці. Ноччу хроп і мармытаў «у сне», але чуў, пра што шэпчуцца гаспадары ў каморы, па ціхім стуку ў шыбіну пазнаваў начных гасцей.

Яны прыязджалі па авёс, забіралі абрэзы, тупалі і гаманілі ў сенцах, пілі самагонку. Гаспадар, ківаючы на запечча, супакойваў іх: «Не бойцеся. Глухі, як пень. От дашые боты і — з богам...»

З тыдзень абшываў Іван Андрэя Ермаліцкага. І не сам хадзіў набівацца — людзі нараілі гаспадару добрага шаўца, што зграбна шые і дзешава бярэ. Наказаў Андрэй, каб прыходзіў на ягоны хутар. Іван і пайшоў.

Дома былі толькі старыя. Анэта ўсё вохкала і пазірала ў акно, ці не ідзе дачка, хрысцілася на абразы і шморгала мокрым носам. Андрэй болей маўчаў, цэлымі днямі корнаўся ў аборы і свірне, некуды знікаў і з'яўляўся толькі к ночы.

Неяк пасля першых пеўняў у хату з двума бандзюкамі пастукаўся Казік. Увайшоў, азірнуўся, як ганчак, угледзеў капылы і начынне на зэдліку і адразу да бацькі:

— Што за чалавек?

— Шавец, сынок. З Глуска шавец. Старой валёнкі падшыў, мне саюзкі новыя ставіць. Рахманы чалавек і глухі, як пень. Не бойся, Казічак.

— Мы сваё адбаяліся. Няхай цяпер нас баяцца. Круцяцца, гады, бы падсмаленыя. У нас онь якая сіла! А яшчэ чалавек дваццаць прыбудзе, па Рудабелцы грымнем, паслухаем, як гэтыя салаўі завыюць. Ходку ўжо ўходалі ў Ляскавічах.

— Ляснулі, ляснулі,— раўнуў граміла ў суконным фрэнчы сваёй работы.

Іван Мазалеўскі не прапускаў ніводнай падрабязнасці, ніводнага слова, расказваў усё па парадку.

— А Казік — у афіцэрскім мундзіры і пагоны пачапіў. Пра сястру пытаўся. Кажа: «Злаўлю сучку, сам бізуном спаласую, каб не летала, а гэтага парабчука на першай асіне павешу сушыцца».

— Дзе ж яны хаваюцца? — запытаў Салавей.

— Як тыя каршуны: дзе начуюць, там не днююць. Болей загальскіх хутароў трымаюцца. У атамана дзеўка ў Падлузе е. Каля яе трэцца.

Салавей і ўсе рэўкомаўцы насцярожана слухалі, нават курыць перасталі. У Лявона Адзінца патухла цыгарка, прыклееная да ніжняй губы, і тырчала з рота, як гарохавы стручок.

— Анікея мы ім не даруем, і вабчэ з гэтай хеўраю шаршнюкоў трэба канчаць.— Жаўлакі кабухлі і захадзілі на абветраных скулах Салаўя, губы выцягнуліся ў тонкую нітачку.— Гэта ж дэлы ўзвод Мусніцкага ў нашым тыле. Учора забілі Анікея, а заўтра любога з нас могуць прыстукнуць.— Салавей паглядзеў на Ляўкова.— Бяры, Максім, хлёсткіх хлопцаў і абкладай хутары. Пакуль пераловіце шляхцюкоў, мы з Анупрэем і Пракопам будзем упраўляцца тут.

— Максімка, вазьмі мяне. Я гэтага Ермальчука як аблупленага ведаю,— папрасіўся Цярэшка.

— Бяры, Максім. Дзед будзе самы хлёсткі хлопец у тваім атрадзе,— пажартаваў Малаковіч.

— А што? І не зломак,— заказырыўся стары,— абстрыгу бараду, дык яшчэ ого-го!

— Дальбог, праўда. Ён бегае, што падмецены, і за маладзіцамі яшчэ ўлягае, бы малады жарабок,— ні то напраўду, ні то жартам сказаў Максім Ус.

Хлопцы засмяяліся. Цярэшка не ведаў, смяяцца яму ці пакрыўдзіцца на. Максімавы жарцікі. Ён ссунуў на патыліцы шапку і заліхвацкі расправіў увагнутыя старыя плечы.

— Бяру цябе, дзед, начальнікам разведкі,— згадзіўся Ляўкоў.

— Не, Архіпавіч, без стрэльбы не пайду. Няхай той вынюхвае, у каго нос доўгі, а я біцца. буду. Эх і ўрэжу ж гэтаму абскубанаму ахвіцэрыку. А начальніка З мяне не выйдзе.

4

Надвячоркам Гэля ўбегла ў Іванаў двор. Азіраючыся, абмыла ў лужыне чаравікі. Яна крадком ішла па гразкім полі, агародамі і загуменнямі, каб яе не ўбачылі тут; баялася, што бацька дазнаецца і сілком пагоніць дадому.

Іванаў двор малы і гразкі, здратаваны авечымі капытамі, закіданы гноем і трэскамі. Старая хата завалілася на адзін бок, саламяная страха зарасла зялёным мохам. Гэля падышла да шырокіх дзвярэй, павярнула закрутку. У цёмных сенцах ніяк не магла намацаць клямку. Дзверы адчыніліся з сярэдзіны.

— Прыгінайся толькі, каб не выцяцца,— пачуўся жаночы голас.

Гэля прывіталася і стала ў парозе, не выпускаючы з рук клуначак. Кандраціха адразу і не пазнала яе, бо не болей як разы са два бачыла на цвінтары разам са старой Ермаліцкаю. На хутар ні разу не хадзіла, а як прагналі Івана, ох і наслухалася ж ад карпілаўскіх і кавалёўскіх баб і пра сына і пра яго ўхажорку. «Хоць бы раз добра паглядзець, што там за цаца такая»,— гаварыла яна Івану, а той толькі адмахваўся.

— Праходзь, маладзічка, садзіся. Куды гэта бог, на ноч гледзячы, нясе?

— З Харомцаў іду, а куды, і сама не ведаю... Хацела Івана вашага прасіць, каб падвёз трохі.

Старая сумелася.

— А божа ж мой, ці не Андрэева ты. часам? Упоцемках я і не пазнала. А дзеткі ж мае... — Яна замітусілася па хаце.— Можа б, укусіла чаго з дарогі?

— Дзякуваць, я нядаўна ела.

Гзля села на лаўку, ссунула на шыю хустку, расшпіліла жакецік. Жанчыны доўга маўчалі, не ведаючы, што гаварыць. Пачала Кандраціха:

— І што гэта вы надумаліся, дзеткі? Затлумілі адно аднаму галовы і ходзіце, як ад чэмеру п'яныя... Дзе ж бачана, каб з такое выгоды ў зрэбнікі ды на нішчымніцу дзеўка пайшла! І бацьку не слухацца грэх... Хай бы ўсё было ладам ды складам, як у добрых людзей. А то не ведаю, што тут і казаць. Нядобра яно, дзеткі...

Гэля пачала нацягваць хустку і ўзялася за свой клуначак. Кандраціха ўсхапілася з месца.

— Што ты, дзіцятка, што ты? Хіба ж я вораг табе? Ці з хаты ганю? Шкода мне цябе, бо сама ўсё жыццё петуюея, як Марка ў пекле. Распранайся, будзь як дома. Зараз і Іван прыйдзе. Сохне па табе, учарнеў увесь. Можа, ад нуды сам сабе не рад, от і злыгаўся з гэтымі лесавікамі. З палякамі біцца хадзіў. А божачка, колькі я перакалацілася, пакуль там страляла ды грымела. Колькі выплакала. Аж прыйшоў, дзякаваць богу. І пара такая трывожная, а вам любошчы. Ох, дзеткі, дзеткі! Не будзе дабра ад твайго старога, не дасць ён збыту ні вам, ні нам.

— Нам і не трэба яго ласкі. Можа, з воласці дадуць які загончык, а там і хатку агораем, абы толькі разам.

— Хіба ж я вораг вам? Жывіце на здароўечка, каб толькі спакойна ўсё ды па-людску было, па закону, з бацюшкам ды з благаслаўленнем. Гэта ж цяпер пакруціліся маладыя, кажуць: «Бога няма і папа не трэба», а без бога ні да парога.— І, памаўчаўшы, дадала: — Баранчыка можна будзе зарэзаць, гарэлкі трохі выгнесці, каб усё па-людску было.

У Гэлі пасвятлела на душы. Яна адчула цяпло і ўтульнасць у гэтай пустой і цёмнай хаце. Доўга ці мала, але ёй прыйдзецца пажыць тут, упраўляцца каля гэтае печы, дагаджаць Іванавай маці.

— От пасля вялікадня і павянчаецеся. А цяпер не можна, дзеткі. І бацюшка ў вялікі пост на сябе граху не возьме. А там, можа, і бацька твой злітуецца, не вораг жа ён свайму дзіцяці. Можа, усё перакруціцца і launchedперетрэцца; глядзіш, як той казаў, і мука будзе.

— Мука ці будзе, а мукі хопіць,— уз дыхнула Гэля.— Тата кажа, лепш у дамавіне мяне бачыць, чым пад вянцом з Іванам.

— Люты ён, ой люты! — уздыхнула Кандраціха.— Не глядзіць ні вока ні бока. Ззамаладу ведаю яго: за грош бацьку роднага на крыжы разапне. А над дачкою, можа, і злітуецца, ты Ht у яго адна.

Старая не бачыла ўпоцемках, як беглі па Гэльчыных шчоках гарачыя слёзы, як яна сілілася праглынуць даўкі камяк. Таму і маўчала. Ёй было шкода сябе, горка і сорамна перад людзьмі.

На двары пачуліся тупат і прыцішаныя галасы. Рыпкулі ў сенцах дзверы, зашоргалі ногі аб дзяркач у парозе. Увагнуўшыся, у хату ўвайпіло двое мужчын.

— Добры вечар, калі е хто жывы,— прывітаўся незнаёмец.

— Чаго гэта вы, мама, сядзіце ўпоцемках,— пазнала Гэля Іванаў голас. Яна прыціснулася да сцяны і не варуніылася, толькі моцна затахкала сэрца, запалалі шчокі, а ў роце зрабілася суха-суха.

— Дзе ж ты газы набярэшся? — азвалася Кандраціха.

Яна затупала па хаце. Зашамацелі ў пячурцы сухія трэсачкі, мужчына чыркнуў запалку. У жоўтым святле Гэля ўбачыла абветраны

сухарлявы твар, глыбока запалыя вочы і пад вострым носам невялічкія вусікі. Кандраціха паднесла да запалкі лучынку, яна зырка ўспыхнула. Толькі цяпер Іван убачыў на лаве Гэлю, убачыў і разгубіўся, не ведаў, што гаварыць, што рабіць. Каб нікога не было, падхапіў бы яе на рукі, прыгарнуў да сябе, а цяпер...

— О, дык у вас госця! — загаварыў незнаёмец.

Толькі цяпер Кандраціха пазнала Раманавага сына, узрадавалася і крышку збянтэжылася.

— Праходзьце, старшыня, сядайце.— Яна запаліла лямпу, што вісела пад столлю, падкруціла кнот і кінулася выціраць фартухом лаўку.

— Гэлька, няўжо ты? Адкуль бог нясе? — падышоў да яе Іван.

— Хіба не бачыш, здарожылася, бедная,— адказала маці.— Няхай аддыхне ў нас, а там відаць будзе.

Салаўю стала ўсё ясна. Дык вунь яна якая Ермалічанка: бывае ж, што і ў змяіным гняздзе краска вырасце. Прыгожая! А на шляхцянку мала падобная.

Іван сеў побач з Гэляю. Звесіўшы кудлатую галаву, прагна курыў смярдзючы самасад. Кандраціха паставіла пасярод стала вялікую гліняную місу з кіслым малаком, на кужэльны абрус паклала паўбуханкі хлеба.

— На скаромненькае выбачайце ўжо. Неракусіце, што бог паслаў,— запрашала Кандраціха.

Іван узяў Гэлю за рукаў і пацягнуў да стала. Яна трохі ўпіналася і аднеквалася для прыклепу. А потым усе сёрбалі кіслае малако з аднае місы, елі крутую, з прыгаркамі прасяную кашу. Салавей пазіраў на Гэлю і Івана, думаў, як яны будуць добра жыць праз пяць, ад сілы праз дзесяць гадоў, і загаварыў:

— Ажэнім вас па-новаму, па-бадыпавіцку. Нарэжам самай лепшай зямлі, лесу дамо на хату. От і будзе першая савецкая сям'я ў воласці.

— Бацька не прызнае, калі па-новаму. Трэба, каб конча бацюшка павянчаў,— ціха азвалася Гэля,— а іначай усё роўна дадому павалачэ.

— Да вялікадня прыйдзецца пачакаць, а там відно будзе,— сказала Кандраціха.

— Няхай будзе і з папом, абы жылі добра. От разгонім легіянераў, хутарскіх бандзюкоў пераловім, і тады — зямля наша, лес наш, рэкі і лугі нашы. Толькі не лянуйся, усё будзе: школы пабудуем, зрэбнікі скінем, зажывём, як людзі. А пакуль што яшчэ не раз крывёю ўмыемся. Легіянераў трохі адагналі, а там немцы пруць. Наспявай толькі адбівацца ад погані.

— Дык што ж гэта будзе, Ляксандра, га? Няўжо пад ярманцам жыць прыйдзецца? Гэта ж нейкае боскае насланнё на нашу галаву. І што ім тут трэба? Чаго іх нясе нячыстая? — завойкала Кандраціха.

— Калі ўсе возьмемся дружна, і ад германца адаб'ёмся, цётка.

— Як жа ты адаб'ешся, калі ў яго сіла — арудзіі ды пілямёты, а ў нас што? Сахары ды дзедаўскія бярданкі. Ой, хлопчыкі, страшна мне за вас. Багародзіца, матка боская, заступіся і памілуй... — пачала хрысціцца старая.

— Ніхто не заступіцца, цётухна, і не памілуе, калі самі сябе не абаронім.

Салавей устаў, падзякаваў за вячэру і пачаў збірацца. Ён цяпер бачыў, што тут начаваць яму няма дзе і не хацеў замінаць маладым.

— Аставайцеся ў нас, таварыш старшыня, як-небудзь умесцімся,— не вельмі настойліва запрашаў Іван. Але Салавей сказаў, што яму яшчэ трэба зайсці да Пракопа, развітаўся і выйшаў.

Гэля з Іванам доўга сядзелі на лаўцы, шапталіся ды мілаваліся, а калі змарыў сон, яна палезла на печ да старой, а Іван да раніцы круціўся на палацях: думКі сляпіцамі лезлі адна за адною і не давалі заснуць.

Яшчэ не вывіднела, а Гэля ўжо сабралася ў дарогу. На прыпеку старая ўсмажыла яечню, наліла кубачак сырадою, паклала акрайчык хлеба і ўсё ўпрошвала, каб хаця ела. А калі дзеўчына ўзялася за клямку, прытулілася да яе і заплакала.

— Куды ж ты, мая ясачка, пойдзеш? А дай жа вам, божачка, здароўя, шчасцейка і доўгага веку. Шануй же сябе, дачушка, каб не прастыла бронь божа.

Іван, у шапцы і паўкажушку, стаяў маркотны. Ён не хацеў адпускаць Гэлю, але і трымаць не было як: дачуецца і тут жа прыляціць Андрэй, тады бяды не абярэшся. Звязе на хутар і ніывасілам выпра за якоганебудзь гугнявага шаршнюка. Хай лепей яшчэ пажыве ў Харомцах.

Яны разам выйшлі за дзверы і расталі ў перадсвітальным змроку.

5

У Рудабелцы быў рэўком, была Савецкая ўлада, а за Пцічою абдзіралі мужыкоў легіянеры і салдаты кайзера Вільгельма. У Ляскавічах і ў Загаллі пілі, рабавалі і здзекаваліся з людзей шляхецкія банды.

Жыць адрэзанымі ад свету болей не было як. Патрэбны былі парада, падтрымка, а галоўнае — зброя і патроны. Дзе іх шукаць? З кім параіцца, што рабіць далей? А ёсць жа павятовы камітэт

бальшавікоў. Трэба дабрацца да Бабруйска, адшукаць Платона Фёдаравіча.

Салавей успомніў пра чайную, ракаў і пра тры шклянкі чаю без сахарыны. Параіўся з Пракопам Малаковічам і Максімам Ляўковым.

— Трэба ехаць,— сказаў Максім,— без дапамогі нам доўга не пратрымацца.

Ехаць выпала Салаўю з Анупрэем Драпезам.

Дарогі расквасіла ранняя вясна. У лагчыне стаялі лужыны каламутнае вады. Ночы шклілі іх тонкім лядком, пад нагамі пахруствала храпа і шамацела леташняе лісце. Да Ратміравіч Аляксандр з Анупрэем дабраліся пехатою. На Салаўю была доўгая, падпяразаная вераўчынаю світа, старая бацькава шапка, на нагах — маршчакі з суконкамі, а ў руках пуга: калі хто стрэнецца і спытае, адказ быў гатовы: «Ці не бачылі часам буланага каня з лысінаю?» Анупрэй жа павінен быў казаць, што едзе ў бальніцу да бацькі. У яго і торбачка была за плячыма, нібыта з харчамі для хворага.

На станцыю прыйшлі ноччу і адразу згубіліся сярод пасажыраў, што спалі на лаўках і на падлозе. Тут ужо не страшна: ніякіх дакументаў ні ў кога не было, а калі спытаюць, хто і адкуль, можна казаць усё, што захочаш. На станцыі хлопцы ўпершыню ўбачылі новых акупантаў. У няроўным, мітуслівым святле закуранага станцыйнага ліхтара па мокрых маснічынах перона тупаў стары цыбаты немец. Вусы закручаныя, як у кайзера Вільгельма, на галаве каска з двума казыркамі і вострым шышаком на макаўцы, наперадзе — вялікі распластаны арол. Кароткі мышасты шынель гарбаціцца на спіне, гулка тупаюць падбітыя тоўстымі цвікамі падэшвы. Немец здаваўся вялізным гракам, што прыляцеў на чужое поле і дыбае ў адзіноце.

Заімжыў дробны веснавы дождж, папаўзлі па глыбах доўгія крывыя пісягі. Стары немец знік з перона, відаць, недзе схаваўся ад дажджу.

Салавей сядзеў з прыплюшчанымі вачамі, але не прапускаў ніводнага руху і ніводнага слова. Слых і зрок былі асабліва вострыя, а ў галаве, нібы туга заведзены гадзіннік, таропка стукалі і абганялі адна адну думкі. Ён думаў пра ўсё, аб чым не хапала часу падумаць дома: чаму падпісалі Брэсцкі мір і пусцілі немцаў, куды пераехала камандаванне Заходнім фронтам, што адбываецца ў свеце і як бараніцца ім, рудабельскім камуністам і партызанам, ужо не толькі ад мяцежнага белапольскага корпуса, а і ад рэгулярнай узброенай і добра вымуштраванай арміі кайзера, каго яны знойдуць у Бабруйску, што ім параяць і чым дапамогуць.

Анупрэй падклаў пад галаву мяшэчак і драмаў на падлозе каля сцяны. Яны былі нібыта незнаёмыя. Дагаварыліся садзіцца ў розныя канцы вагона, а ў Бабруйску сустрэцца ў чайной на базары.

Цягнік прыйшоў далека за поўнач. Толькі назва, што цягнік: некалькі цяплушак з павыломванымі дошкамі, пабітымі вокнамі, даўно не паленымі «буржуйкам!». Наперадзе, адразу за маленькім паравозам, ішлі тры пасажырскія вагоны. У іх мільгалі агаркі свечак, і здавалася, што там утульна і цёпла. Каля пасажырскіх вагонаў стаялі нямецкія салдаты і нікога ў іх не пускалі. А ў цяплушкі рвануўся натоўп мяшэчнікаў — штурхаліся і крычалі, хтоесьці некага падсаджваў, нехта некага спіхваў, сцягваў за каўнер. Усе лаяліся, крычалі і зміналі адзін аднаму, Перад кожным вагонам тузаўся, лаяўся і лямантаваў натоўп. А па пероне спакойна хадзіў, пасмейваўся і пацяшаўся стары немец з вільгельмаўскімі вусамі.

Салавей з Анупрэем убіліся ў апошні вагон. У ім было цёмна, холадна і людна. Мужчыны і кабеты сядзелі і ляжалі на нарах і пад нарамі, умошчваліся на падлозе і проста стаялі, прыпершыся да сцяны. Вагон гаманіў і сварыўся: спіхвалі клункі і адзін аднаго, гукалі знаёмых і аднавяскоўцаў. А калі пайшоў цягнік, усе патроху пачалі ўлагоджвацца і сціхаць.

Ехалі марудна і доўга, спыняліся на паўстанках і ў полі. Часам чуваць было нямецкае гергетанне, выкрыт і нейкія каманды, потым зноў калываўся і стукаў разгойданы «цялятнік». Людзі чухаліся, стагналі і мармыталі спраеонку.

Калі добра вывіднела, праз шчыліну ў сцяне Салавей бачыў рудую леташшюю траву, голы ракітнік, пасінелыя елачкі ўздоўж чыгункі і калюжыны, залітыя вясноваю вадой. Ён пазнаваў, дзе яны едуць, бо гзтую дарогу не раз пермераў па шпалах. Вось прагрукаталі каля Бярэзіны, відаць, як яна шырока разлілася і затапіла прыбярэжныя алешнікі і сцежары на лугах. Значыць, цягнік падыходзіць да станцыі. Зрабілася трохі трывожна: а што, калі немцы ці легіянеры надумаюцца трэсці кожнага, хто прыехаў, пачнуць выварочваць клункі, шукаць і вынюхваць. Непадалёк Салавей убачыў сівенысую, зморшчаную, як печаны яблык, бабульку. Яна цяжка дыхала і стагнала. Ён падсеў да яе і пачаў распытваць, куды яна і чаго едзе.

— Паміраць, мабыць, дзеткі. Як завалаю заклала.— Яна пастукала худымі парэпанымі пальцамі па грудзях.— От нараілі людзі паехаць да таго дохтура Марзона, а дзе яго шукаць, і не ведаю.

— Я, цётухна, якраз да яго і еду. Бацька мой там ляжыць, так што не бядуйце, давяду да самае бальніцы.

— А дай жа табе бог здароўя. Толькі ж я ледзьве клыпаю, можа, не захочаш валаводзіцца.

— Мне спяшацца няма куды. Дойдзем памаленьку.

Калі цягнік спыніўся і ўсе рынуліся да дзвярэй, Салавей падхапіў бабульчын клуначак, саскочыў з прыступак і намог злезці старой. Узяў яе пад пашку і асцярожна павёў.

Пры ўваходзе ў вакзал стаяла чалавек з дзесяць нямецкіх салдат. Яны абмацвалі кожнага позіркамі і валасатымі рукамі, пра нешта пыталіся. Большасць прапускалі, некаторых, з самым! вялікімі клункамі, адводзілі ўбок. Салавей спакойна ішоў, прытрымліваючы хворую бабульку, і зорка сачыў за Анупрэем: ґрапусцяць ці затрымаюць? Вось канапаты немец з шырокім бабскім тварам абмацаў ягоны мяшэчак, палопаў рукамі з-пад пахаў да кален, нешта буркнуў і падштурхнуў рукой да дзвярэй.

Аляксандру зрабілася весялей: а ў яго ёсць надзейны «пропуск». І ён яшчэ асцярожней павёў бабульку да дзвярэй.

Той самы немец, з жоўтымі, як у ката, вачамі, палопаў і яго па баках, зірнуў на бабку, грэбліва зморшчыўся і безнадзейна махнуў рукою. Праз людны закураны вакзал Аляксандр з хворою кабетай выйшлі на брукаваную плошчу. Каля слупа іх чакаў Анупрэй. У бальйіцу яны пайшлі разам. Хоць і мала было часу, але шкода пакідаць нямоглую старую, ды і небяспечна адразу ісці ў чайную: ліха яго ведае, можа, хто ідзе назіркам. А яшчэ і прымеркавацца трэба да новых парадкаў.

Раніцаю вуліцы пустыя, толькі па мокрым, закіданым гноем бруку ехала вялізная фура з гаршкамі ды штурхаў перад сабою каламажку стары дзядок у доўгім лапсердаку і круглай ярмолцы. Па тратуары, цокаючы падкоўкамі, ішоў хлёсткі, як бізун, нямецкі афіцэр, пабліскваді падобныя на пляшкі жоўтыя батфорты і мядзяны шышак на чорнай касцы. Горад быў той і не той. Стаялі знаёмыя Аляксандру дамы, платы і прысады, і дзіўна было бачыць на гэтых вуліцах салдат і афіцэраў, з якімі ён тры гады ваяваў. Цяпер яны хадзілі тут, як гаспадары. Ці надоўга? Як яно ўсё павернецца? Адно ведаў цвёрда: трэба трымацца да апошняга...

Даставіўшы бабульку ў бальніцу, Салавей з Драпезам мінулі спічастаі чырвоны касцёл, перасеклі Мураўёўскую вуліцу, выйшлі на Альхоўскую і падаліся да рынку. Тут стаяла некалькі настрамачкаў сена, на прыцярушаным саломаю бруку сівенькі дзядок разаслаў цырату і расклаў на ёй свой тавар — выцерты блакітны мундзір, капялюшыкі з пёрамі, сукенкі, мядзяныя падсвечнікі і яшчэ нейкую старызну. Ён прытупваў і тоненькім галаском заклікаў пакупнікоў:

Вот мундир для генерала.
Продаю на хлеб и сало.
Эти дамские обновки
Продаются по дешевке!

Аляксандр хітра ўсміхнуўся, торкнуў Анупрэя локцем:

— Можа, купім? Га?

— Хіба Цярэшку? — зарагатаў Драпеза.

Яны хадзілі паміж вазоў, столікаў і кабет, што прадавалі сахарыну, соль і цыкорый, прыцэньваліся і таргаваліся, але ўсё паглядалі на дзверы вялікага двухпавярховага дома з шыльдай: «Чай і домашние обеды».

Нарэшце завярнулі туды. У невялічкім зальчыку сядзела чалавек дзесяць вясковых дзядзькоў. Хто наразаў сала, хто сёрбаў рэдзенькую поліўку, хто піў каламутную цыкорыю. Усе маўчалі. Аляксандр з Анупрэем селі за свабодны столік, дасталі з торбачкі хлеб і кавалак вэнджанага кумпяка. Азірнуліся. З баковачкі, дзе бразгаў посуд і чутны былі жаночыя галасы, выйшла тоненькая дзяўчынка ў фартушку, карычневай сукеначцы з беленькім каўнерыкам, як у гімназісткі.

— Што загадаеце, Панове?

— Тузіну ракаў,— спакойна адказаў Салавей.

На яго зіркнулі прыгожыя чорныя вочы.

— Ракаў няма,— адказала дзяўчына.

— Тады тры шклянкі чаю без сахарыны.

Праз некалькі хвілін прыгажуня паставіла на столік тры шклянкі чаю. Пад адной з іх Аляксандр заўважыў маленечкую пісульку. Спрытна выхапіў яе і схаваў у кішэню.

Калі выйшлі з чайной, Салавей прачытаў: «Мінскі фарштат, 78. Спытаць, ці не трэба канюшына. Запіску знішчыць».

Ішлі доўга пустымі вуліцамі і завулкамі. Тут амаль не відно было йемцаў. Драўляныя хаты, сады і гароды хутчэй нагадвалі мястэчка або вёску: мыкалі каровы, на прызбах грэбліся куры, каля платоў рыліся парсюкі.

Вось і доўгая хата без аканіц. На сцяне — заржавелая бляшаная дошчачка: «Страховое общество «Россия», а пад ёю ад рукі выведзены нумар — 78. Без стуку ўвайшлі ў хату, прывіталіся і сталі ў парозе. На ўслоне сядзела старая яўрэйка і скубла пер'е.

— Ці не трэба вам канюшына? — спытаў Салавей.

Жанчына, не адрываючыся ад работы, паглядзела на іх і гукнула:

— Бэрул, кум а гер![1]

З дзвярэй выйшаў малады хлапец з рудаватым чубам. На ім была чорная касаваротка з белымі, як на гармоніку, гузікамі, на босых нагах — атопкі ад старых валёнак.

— Ці не трэба вам канюшына? — спытаў і ў яго Салавей.

Хлапец адчыніў дзверы ў другую палавіну і жэстам запрасіў незнаемых праходзіць. Калі зачыніліся дзверы, Аляксандр ціха сказаў:

— Мы з Рудабелкі, хочам пагаварыць з кім-небудзь з укомаўцаў.

— Сядайце, сядайце, таварышы. Кладзіце свае світкі от сюды, на канапу. А мы вас даўно чакаем. Малайцы, рудабельцы. Як там таварыш Салавей маецца?

Драпеза ўсміхнуўся, хацеў нешта сказаць, але Аляксандр апярэдзіў яго:

— Нішто жыве. Пакуль што ні легіянеры, ні немцы яшчэ не падстрэлілі. Бяда толькі — адбівацца няма чым. От і прыслаў нас сюды.

Гаспадар папрасіў хвілінку пачакаць і выскачыў на кухню, а калі вярнуўся, хлопцы ўбачылі праз акно, што жанчына, якая толькі што скубла пер'е, некуды пайшла з вялікім рэшатам у руцэ.

Праз паўгадзіны на старэнькім веласіпедзе пад'ехаў мужчына ў тужурцы і форменнай шапцы паштовага чыноўніка.

— Не бойцеся,— папярэдзіў гаспадар кватэры,— гэта таварыш Раеўскі.

У пакой увайшоў чарнявы хлапец. Яго прыгожы твар, шырока пастаўленыя вочы асвяціліся ўсмешкаю.

— Рад цябе бачыць, Аляксандр Раманавіч,— трос ён руку Салаўю.— Чулі пра вашы справы і даўно хацелі сустрэцца.— Ён павітаўся з Драпезам, потым з гаспадаром і сеў у куточку на канапе.

Аляксандр адразу пазнаў старшыню укома Платона Равінскага. «Ага, зразумела, цяпер яго называюць Раеўскім,— падумаў ён,— няхай будзе так. Раеўскі дык Раеўскі».

— Што ў вас новага, таварышы?

— Неяк яшчэ ліпім. А ці надоўга хопіць пораху, не ведаем,— адказаў Анупрэй.

— Пораху і вінтовак нам толькі і не хапае, таварыш Ра-ра...еўскі,— удакладніў Салавей.— І ведаць трэба, што робіцца ў свеце, на фронце і ў Маскве. А то сядзім, як тыя краты ў нары. Шляхта плявузгае, што бальшавікам прыйшоў канец, што ўся Расія будзе пад

[1] Бэрэ, хадзі сюды! (яўр.)

немцам. Газеты, лістоўкі патрэбны, арганізацыя і кіраўніцтва ваеннаю і партыйнаю работай. За тым і прыйшлі.

— І добра, што прыйшлі, таварыш Салавей.

Рудаваты хлапец голасна засмяяўся.

— Ну і канспіратары! Мне Салавей расказвае пра Салаўя, а я, дурань, і вушы развесіў...

— І правільна робіць. Цябе ён не ведае, ды і ты ж яму сваю візітную картку не даваў,— сказаў Раеўскі.— Прывялі іх сюды, мабыць, Розіны «ракі». Так, хлопцы?

— Ракі і канюшына,— засмяяўся Анупрэй.

— А адкуль ім ведаць, куды іх прывялі тыя ракі, да сваіх ці, можа, ў пастку. Назнаёмцеся хоць цяпер. Г'эта Барыс Найман, а цяпер яго прозвішча таварыш Новікаў... Заседжвацца нам няма калі. Барыс, схавай, калі ласка, мой веласіпед у сенцы.

Барыс на хвіліну выйшаў.

— Нямецкая акупацыя — справа часовая,— пачаў Платон Фёдаравіч.— Мы вымушаны былі падпісаць гэты кабальны дагавор у Брэст-Літоўску, каб выратаваць рэвалюцыю, каб мець хоць маленькую прадуху перад наступнымі баямі з імперыялістамі і контррэвалюцыяй. Так гаварыў таварыш Ленін на VII з'ездзе партыі. Штаб Заходняга фронту пераехаў у Смаленск, з ім у нас самая цесная сувязь. У Мінску і тут працуюць падпольныя камітэты. Савецкі ўрад нядаўна перабраўся ў Маскву. Партыя наша цяпер называецца «Расійская Камуністычная партыя бальшавікоў»,— інфармаваў Раеўскі.— Задача: мабілізаваць усіх рабочых і сялян на барацьбу з акупантамі, узброіць кожнага добраахвотніка, гатовага змагацца за Савецкую ўладу. Тое-сёе ў нас ёсць, і мы вам паможам і зброяй, і прыпасамі, і літаратураю. Будуць газеты і лістоўкі і на нямецкай мове. Распаўсюджвайце іх сярод салдат. Ім таксама агоркла вайна, хочацца дадому, да дзяцей, да жонак, да спакойнага жыцця. Многія нам спачуваюць, ёсць рэвалюцыййна настроеныя. На іх трэба і разлічваць.

— А ў нас яшчэ немцаў і духу не чутно,— азваўся Анупрэй.

— Няма, дык будуць. З легіянерамі вы легка справіліся. А тут армія, і не абы-якая армія. Дубальтоўкамі яе не спыніш. Пакласці лепшых людзей ні за панюх табакі — карысці мала. Так я кажу, Аляксандр?

— Дык што ж — рукі ўгору і здавацца? — усхапіўся Анупрэй.— 8 хлебам-соллю іх сустракаць? Падстаўляць пад бізуны спіны, жонак і дачок аддаваць на здзек? А трасцу ім! Біць гадаў будзем, пакуль патронаў хоніць.

— А не хопіць, што тады? Уцячэш у лес, а тых, што астануцца, няхай вешаюць і страляюць? — спакойна запытаў Раеўскі.

Увайшоў Новікаў.

— Дзе мала сілы, трэба браць розумам і хітрасцю, от і падумай, як і людзей зберагчы, і немцаў хутчэй вытурыць. А шапкамі закідаць не спяшайся, раз'ятрыш ворага і сам будзеш не рад. У нас тут кулямёты былі і сілы трохі болей, як у вас, і то пакуль што ў падполле пайшлі.

— Ты, Анупрэй, не спяшайся,— супакоіў Драпезу Салавей,— паслухай, а тады мяркуй.

— Што параіць вам? — працягваў Платон Фёдаравіч.— Пакуль што ў бой не ўвязвайцеся. Няхай займаюць маёнтак, а ў вёску яны і самі не вельмі палезуць. Партызанскія атрады выведзіце ў лес, у сёлах пакіньце сваіх людзей, у воласці пастаўце надзейнага чалавека. Каб немцы верылі яму, а ён служыў нам. Сачыць трэба, каб не расцягвалі народнае дабро, а сваволіць пачнуць, можна і ўдарыць знянацку. А гнаць іх начнём, тут ужо і вы будзеце не абараняцца, а иаступаць.

лупіць у хвост і ў грыву. Так я кажу? І ке толькі я, так думав уком, такой тактыкі трымаецца губернскі партийны камітэт.

— Правільная тактыка,— згадзіўся Салавей.— З пістаноўкамі супраць гарматаў не вельмі наваюеш. А сілы набярэцца болей, тады і ўдарым.

— Праз некалькі дзён буду ў вас. Там усё і вырашым. А што рабіць цяпер, скажа таварыш Новікаў. Толькі як надзейней дабрацца ў вашу лясную рэспубліку? — запытаў Платон Фёдаравіч.

— У вашай форме да Глуска вы свабодна даедзеце як паштовы чыноўнік,— пачаў Салавей.

— Не толькі форма, а і пасведчанне ёсць, з усімі пячаткамі.

— Тым лепш. Прыйдзеце на пастаялы двор, спытаеце балагола Шолама Гіцьку. Ён вас даставіць да Васі Падбярознага, а той зробіць усё што трэба.— Салавей падняўся.— Чакаем вас, таварыш... Раеўскі.— Ён усміхнуўся і моцна паціснуў руку Платону Фёдаравічу.

Праз хвіліну сіняя куртка і спіцы веласіпеда прамільгнулі за акном.

— Цяпер слухайце сюды,— пачаў Новікаў.— На Казначэйскай вуліцы ёсць маленькая крамка з вялікаю шыльдай: «Книжная торговля и писчебумажные принадлежности И. Агола». Зойдзеце туды і спытаеце: «Ці няма ў вас «Закона божага»? Калі старэнькі падслепаваты гаспадар скажа: «Закона божага» няма, а ёсць «Новы завет», перадайце яму прывітанне ад Новікава і лічыце, што самай свежай літаратурай вы ўжо забяспечаны.

З Мінскага фарштата хлопцы пайшлі на другі канец горада, да Салаўёвай цёткі. Там паскідалі свае світы, ацерабіліся, пачысціліся, пасёрбалі панцаковага крупніку з таранамі і падаліся на Казначэйскую вуліцу. Па ёй шнуравалі сытыя нямецкія афіцэры з доўгімі люлькамі. Некуды спяшаліся, бразгаючы пляскатымі зялёнымі кацялкамі, нямецкія салдаты, у іх за кароткімі халявамі паблісквалі круглыя алюмініевыя лыжКі. Казыралі радавыя вышэйшым чынам неяк нехаця, нібы зганялі са скроні надакучлівую муху. Там-сям пракідаліся шынялі колеру высушанага тытуню, канфедэраткі з блішчастымі брылямі, зіхацелі наваксаваныя боты легіянераў з корпуса Доўбар-Мусніцкага.

— Глядзі ты, знюхаліся ліса з воўкам і жывуць у адным лагле,— буркнуў Анупрэю Салавей, а сам падумаў: «Хоць бы не нарвацца на каторага з тых, каго папалохалі ў Ратміравічах. Часам пазнае — будзе табе новы і стары завет».

Як толькі здалёк паказвалася канфедэратка, Аляксандр падыходзіў да акна якой-небудзь крамкі або нагінаўся і папраўляў абору.

От, дзякаваць богу, «Книжная торговля и писчебумажные принадлежности И. Агола». Невялічкая крамка ўціснулася паміж высокім домам і нейкім цагляным лабазам з глухою сцяной. За акном на вяровачцы развешаны каляровыя кніжачкі і старыя велікодныя паштоўкі, размаляваныя анёламі, баранчыкамі і чырвонымі яйкамі, на падаконніку ляжалі тоўстыя альбомы з пазалочанымі абрэзамі і блішчастымі зашчапкамі.

Хлопцы пастаялі перад вітрынаю, хацелі разгледзець, ці няма каго ўсярэдзіне, апрача гаспадара, але нічога не было відно. Адчынілі дзверы і на нейкае імгненне аслупянелі — збоку, каля прылаўка, стаяў грузны немец і разглядаў раскладзеныя веерам велікодныя паштоўкі. Перад ім была тая самая чарнявая прыгажуня з біблейскімі вачамі, якая раніцаю ў чайкой падавала ім чай без сахарыны. Яна нешта весела шчабятала старому немцу ў акулярах, а той тасаваў раскладзеныя паштоўкі і задаволена ўсміхаўся.

У куточку сядзеў сівенькі дзядок і, водзячы па старонцы носам, чытаў тоўстую кнігу. Ён нават не паварушыўся. Дзяўчына толькі зіркнула на хлопцаў і зноў нешта зашчабятала. Аляксандр падышоў да прыўаўка і таксама пачаў разглядаць паштоўкі. Анупрэй спыніўся ў парозе. Тым часам стары дачытаў старонку і адклаў кнігу.

— І што бы ві хацелі ў нас пакупіць? — звярнуўся ён чамусьці да Анупрэя. Той не разгубіўся:

— Ці мала што нашаму брату трэба.

— Калі па кніжнай часці, дык чаму б і не,— ажывіўся дзядок.

— А як жа, па вашай. Можа б, якая трубка шпалераў знайшлася ды такія-сякія кніжкі для падшыванцаў, а то за вайну і яны адзічэлі. Няхай хоць бэкаць трохі навучацца. Пападзянка ўзялася паказваць літары, дык, можа, кніжак якіх у вас разжывёмся,— разгаварыўся Анупрэй.

Тым часам чарнавокая дзяўчына загарнула ў паперку выбраныя немцам паштоўкі, не лічачы, сунула ў шуфлядку маркі. Салдат шчоўкнуў падкоўкамі, казырнуў і весела развітаўся: «Тосвитания, фрау Роза»,— павярнуўшыся да старога, яшчэ раз казырнуў, сказаў «A.uf Wiedersehen»[1] і выйшаў з крамы.

Калі дзверы зачыніліся, Аляксандр спытаў у гаспадара:

— Ці няма ў вас «Закона божага»?

— Ёсць толькі «Новы завет»,— усміхнулася дзяўчына, якую немец назваў Рс-заю, і загаварыла, як з даўнімі знаёмымі: — Бачу, што вы таварыша Новікава знайшлі. А зараз вам будзе і «Новы завет».

Яна знікла ў дзвярах баковачкі, следам за ёю патэпаў і стары. Чуваць было, што яны пра нешта гаворацць па-яўрэйску. Праз некалькі хвілін Роза вынесла стосік тонкіх лісткоў, аддрукаваных на рускай і нямецкай мовах.

— Хавайце за пазуху,— шапнула яна.

Стары паставіў на прылавак перавязаныя шпагатам два невялічкія пачкі кніжак. Зверху ляжаў «Новы завет».

— Дома пагартайце кожную. Можа, што знойдзеце,— сказаў дзядок і падаў хлопцам маленькую вольготную руку, пажадаў ім шчаслівай дарогі, сеў у свой куточак і зноў пачаў «нюхаць» парудзелыя старонкі тоўстай кнігі.

— Выходзьце па адным і ў розныя бакі,— шапнула Роза.

— А гэты немец часам не цікуе за намі? — спытаў Аляксандр.

— Не бойцеся. Гэта наш немец,— супакоіла Роза.

6

Акупанты занялі Жлобін, Рагачоў, Шклоў, Магілёў, захапілі сотні гарадкоў і тысячы сёл ад Немана да Дняпра. Немцы гаспадарылі ў Мінску і ў Барысаве, Асіповічах і Бабруйску, Полацку і Мазыры. У Оршы ў кайзераўскіх ваяк хапіла сілы заняць толькі таварную станцыю, а пасажырскі вакзал застаўся савецкім. На ім вісеў чырвоны сцяг, на пероне дзяжурылі чырвонаармейцы і чэкісты, дзяжурныя прымалі цягнікі з Масквы і Смаленска і адпраўлялі іх назад у чырвоную сталіцу.

---

[1] Да пабачэння (ням.).

З зялёнага вагона разам з натоўпам салдат і міласэрных сясцёр, сялян і мяшэчнікаў выйшаў невысокі сухенькі мужчына ў кароткай чорнай паддзёўцы, пацёртай кепцы і ў добрых юхтовых ботах. Ён звярнуў у пусты гразкі завулак. На прызбе каля доміка з сінімі аканіцамі грэблася вялікая кура, хаваючы пад крылы маленькіх жоўценькіх куранятак. На плоце сохла некалькі паліваных гладышак, на акне ярка цвіў густы «агеньчык». Мужчына смела зайшоў у двор, нібыта ў ім быў ужо не раз, адчыніў дзверы і апынуўся ў чыстым светлым пакойчыку. На цвіку віселі пацёртая скуранка і хромавая шапка з чырвонаю зорачкай. Адкінуўшы паркалёвую фіранку, з бакоўкі выйшаў малады чарнявы мужчына са стомленым тварам, з прыпухлінамі пад вачамі. На ім была расшпіленая суконная гімнасцёрка, галіфэ са скуранымі леямі і дзіравыя шкарпэткі на нагах. Відаць, ён толькі што задрамаў і адразу прахапіўся, як толькі бразнула клямка.

— Мне начальніка пагранічнай Чэка, таварыша Рэвіна,— спытаў незнаёмы.

— Адразу падавай яму начальніка. А радавыя вам не трэба? — буркнуў у адказ гаспадар.— Ну, я Рэвін. Кажы, што далей.

— Тут усё напісана.— І чалавек падаў сіні пакет.

Рэвін яго акуратна расканвертаваў, дастаў аддрукаваную на машынцы паперку, прачытаў, паклаў пакет у кішэньку гімнасцёркі і загаварыў лагодна і ветліва:

— Распранайцеся, сядайце, таварыш Серабракоў, я зараз.

Ён знік за дзвярыма, завешанымі шырмай. Чуваць было, як стукае абцас аб падлогу, бразгае спражка. Праз некалькі хвілін Рэвін выйшаў прычэсаны, туга зацягнуты папругаю, у начышчаных ботах.

— Значыць, так,— пачаў ён, нібы працягваў даўно пачатую гаворку,— дакументы патрэбныя для вас ёсць. Запомніце, Пётр Міхайлавіч.— Цяпер вы — Павел Міхайлавіч Балашоў, слесар чыгуналіцейнага завода пана Вітушэўскага, мешчанін горада Бабруйска.

— Добра, што хоць бацькі аднолькава зваліся, а да астатняга прывыкну. Бабруйск ведаю добра, больш года праслужыў там у аўтамабільнай роце.

— Таварыш Кнорын абы-каго не пашле. І правільна, што яму даручылі арганізацыю партыйнага падполля на акупіраванай тэрыторыі. Ён-то добра разумеў, што адных немцаў трэба біць куляю, а другіх — словам. Старым салдатам надакучыла ваяваць і бадзяцца на свеце, яны рвуцца к сваім сем'ям, хочуць хутчэй вярнуцца да станка або да плуга. Многія спачуваюць нам і «не заўважаюць», калі мы пасылаем сваіх людзей, калі адпраўляем літаратуру, а часам і

зброю. На такіх немцаў у падпольшчыка павінен быць асаблівы нюх. А гад сустрэнецца — ніякай літасці яму! Усё гэта вам, мабыць, гаварылі ў Смаленску?

— З абстаноўкаю ў Бабруйску пазнаёмілі, патрэбныя адрасы помню. Толькі б дабрацца туды. Спадзяюся на вашу дапамогу.

— Білет да Бабруйска дастанем. А перайсці на той бок — раз плюнуць. Бывае, праўда, што прычэпіцца каторы салдат, пачне «цурукаць», а ты яму дзесятак марак у зубы — і адразу змоўкне. Тут нядаўна мы адпраўлялі ў Бабруйск газеты — «Правду», «Звезду», пачкі лістовак, «Rote Fahne», спецыяльна аддрукаваную ў Смаленску. Зверху, вядома, усё прыкрыта паркалём, хусткамі, таранамі, пачкамі тытуню. Здае гэты «тавар» таварыш Катловіч у багаж, а таможніку нешта стукнула ў галаву — прычапіўся: адкрывай кашы. А што значыць адкрыць кашы? Заваліць у сю справу і самому пайсці пад палявы суд. Выручыла мікалаеўская залатая пяцёрка — сунуў яе Катловіч таможніку, той і размяк. Загадаў салдатам пагрузіць кашы ў вагон. Вам якраз і прыйдзецца ехаць з таварышам Катловічам. Пад вечар ён будзе тут. Вязе новы тавар. Запомніце, прозвішча яго Антонаў. Антонаў Іван Ціханавіч. За ім, як за мураванай сцяною: трохі балбоча па-нямецку, нюх на небяспеку, як у добрага ганчака, праточыцца ў любую шчыліну. Ён вас звяжа з бабруйскімі таварышамі. А цяпер расказвайце, што там новага ў Маскве і ў Смаленску.

— Вясёлага мала. Галадае Масква, але працуе. Масы ідуць за Леніным, даюць бой меншавікам і «левым» камуністам. У Смаленску вераць, што акупанты доўга не пратрымаюцца, збіраюць сілы. Ды вы ж тут газеты чытаеце, не горш за мяне ведаеце, што робіцца на франтах і ў Маскве,— стомлена адказаў Серабракоў. Яму хацелася спаць. Галава была цяжкая, як бязмен, а наперадзе — напружаная ноч і доўгая дарога.

Рэвін кінуў на каналу маленькую падушачку, на стол паклаў два тараны, тоўстую лусту наздраватага хлеба з асцюкамі, паставіў пляшку з алеем на донцы.

— Перакусіце і да вечара адпачывайце, а я схаджу на станцыю. Работы ў нашага брата па самыя вушы: лезе ўсялякая погань з кантрабандаю і контррэвалюцыяй, от і прыходзіцца яе працэджваць.

Ён накінуў скуранку, сунуў у кішэню наган, папярэдзіў, што хутка прыйдзе гаспадыня, і выйшаў з пакоя.

Серабракоў пагрыз тарана, памачаў у алей хлеб, жменяю сабраў крошкі і расцягнуўся на цвёрдай кароткай канапцы. Вочы

заплюшчыліся, а ў галаве стукала: «Павел Міхайлавіч Балашоў, Павел Балашоў, Павел Міхайлавіч Ба-ла-шоў».

...Катловіч-Антонаў быў падобны на бойкага маладога купчыка: цэлулоідны каўнерык з загнутымі ражкамі, пікейная манішка, добры гарнітур у палоску і чаравікі з гетрамі выклікалі давер і павагу. І гаварыў ён так, што любы вушы развесіць.

— У нашым тарговым дзеле што глаўнае? Нюх. Цыкорыі няма, даставай цыкорыю, сахарын трэба —вязі сахарын, мыла, тараны — усё надавай. З рукамі адарвуць. Кушаць кажны жалаець. Вот і прыйшлося кармільцам галоднага вобчаства стаць. Благароднае дзела. Праўду я кажу?

Серабракоў слухаў вясёлага балагура, які аціраўся сярод мяшэчнікаў, палінялых буржуйчыкаў, і часам не верыў, што гэта — бальшавік і вопытны канспіратар. Ён дзівіўся, бачачы, як вялікія кашы «бабруйскага камерсанта», крэкчучы, цягалі ў вагон насільшчыкі пад самым носам чыгуначнай жандармерыі.

Перад пасадкаю паджары немец з густа засеяным буйнымі вяснушкамі тварам і з белымі парасячымі брывамі праверыў даволі пацёртае пасведчанне Балашова, буркнуў кароткае «geh!»[1] і ўзяўся за чарговы дакумент. Каля цягніка ўжо цiснуліся і штурхаліся людзі. На пероне ў двух цьмяных ліхтарах гарэлі газнічкі. Ледзьве былі асветлены і вагоны — здавалася, у цемені ночы нехта прарэзаў мутнааранжавыя вокны ў яшчэ далёкае світанне. Пахла паравозным дымам і мокрым бэзам» Балашоў спыніўся каля вагона і напружана глядзеў на адчыненыя дзверы вакзала: «бабруйскага камерсанта» не было. Балашоў занепакоіўся, пастаяў яшчэ некалькі хвілін і знік у натоўпе мяшэчнікаў, што з крыкам і лаянкай перліся ў вагон.

У самым канцы ён знайшоў незанятую верхнюю паліцу, ускінуў на яе маленькі фанерны чамаданчык і пачаў умошчвацца на начлег.

Тройчы блямкнуў станцыйны звон, раўнуў, зачухкаў паравоз, тузанула вагон, і ён пакаціўся ў цемень ночы. Цягнік грукаў, рыпеў і калываўся, як стары нямазаны воз, спыняўся на кожным паўстанку. Вагон гаманіў, спрачаўся, хрон, кашляў, задыхаўся ад густога цяжкага духу.

У Шклове, Магілёве і Жлобіне немцы правяралі дакументы, свяцілі ў твары ліхтарыкам, нібыта некага шукалі, выпорвалі з-пад лавак заспаных пасажыраў. Яны, ачмурэлыя ад цяжкага сну, доўга чухаліся і не разумелі, чаго ад іх хочуць, потым поркаліся ў запазухах, шукаючы свае білеты і мікалаеўскіх часоў пашпарты. Немцы чмыхалі

---

[1] Ідзі! (ням.).

насамі, бурчалі: «Es ist Schweine Gestank»[1], лаяліся адборнымі рускімі мацюкамі, иекага валаклі, штурхалі і ссаджвалі. Пасведчанне на імя Паўла Міхайлавіча Балашова, відаць, было беззаганнае, ды і выгляд яго ўладальніка не выклікаў ніякіх сумненняў.

Неўзабаве нехта яго пастукаў па назе. Павел Міхайлавіч падняўся і ўбачыў на праходзе Антонава.

— Пара ўставаць, землячок, скора будзем дома,— сказаў і пайшоў у тамбур. Балашоў, счакаўшы трохі, выйпіаў за ім. За акном пачынала світаць, прабягалі лясы і вёскі ў сіняй смузе, круціліся палі, мільгалі і знікалі рэчкі.

Антонаў стаяў каля акна і прагна курыў.

— Я трывожыўся, ці не адсталі вы ад цягніка. Як выйшаў з вакзала, так і згубіў вас.

— Са мной такога яшчэ не здаралася,— усміхнуўся Антонаў і шчыльней прычыніў дзверы.— Слухайце: у Бабруйску мы з вамі ке знаёмы. Ідзіце проста ў чайную. Пароль ведаеце. Вас паставяць на кватэру і звядуць з патрэбнымі людзьмі. Дзяўчыне, якая прынясе вам есці, шапніце: «Антонаў кланяўся вашаму тату». Гэта абавязкова.— І, памаўчаўшы, растлумачыў: —Трэба, каб мой тавар адразу трапіў да «пакупніка».

Ён моцна пацісну Балашову руку і выйшаў з тамбура.

Раніцаю Балашоў у чайной каля рынку еў селядца з бульбаю і піў густую горкую цыкорыю. Тут далі адрас яго будучай кватэры. Прыгожай дзяўчыне ён перадаў прывітанне ад Антонава, заплаціў за снеданне і пайшоў шукаць патрэбны яму дом на Сталыгіінскай вуліцы.

Праз некалькі дзён тым жа цягніком у Бабруйск прыехаў нямецкі камуніст Густаў Шульц. І ён заходзіў у чайную да Розы Агал, а потым зрабіўся вялікім «кнігалюбам» і часта ў кнігарні купляў паштоўкі, старыя гравюры, паперу і кніжкі. Густаў служыў у гарадской камендатуры, насіў спічастую каску і ладна падагнаны мундзір, часам у яго воку пабліскваў манокль, на руцэ целяпаўся кароценькі стэк. Хоць і быў ён у гадах, але заўсёды выглядаў франтам. У кнігарні старому Ёселю Агалу Шульц пакідаў акуратна запоўненыя пашпарты, з якімі ездзілі падпольшчыкі ад Оршы да Брэста, папярэджваў, калі і каму трэба знікнуць, а ў салдацкіх казармах усё часцей з'яўляліся аддрукаваныя на тоненькай паперы нумары газет «Rote Fahne» і «Roter Soldat», лістоўкі з заклікамі хутчэй вяртацца на радзіму, скінуць дынастыю Гогенцолернаў, стварыць новую сацыялістычную Германію.

---

[1] Свіны смурод (ням.).

Часам у магазіне «Книжная торговля и писчебумажные принадлежности» Павел Балашоў перадаваў Густаву Шульцу заданні і даручэнні падпольнага павятовага камітэта, забіраў пашпарты і бланкі прапускоў, выслухоўваў і запамінаў самыя свежыя навіны, планы нямецкага камандавання.

К чэрвеню на ўсіх заводах і заводзіках Бабруйска працавалі падпольныя бальшавіцкія ячэйкі, была створана партыйная група і ў друкарні на Мураўёўскай вуліцы, у ей друкаваліся адозвы Бабруйскага укома. Іх выносілі ў кашах з абрэзкамі паперы, а к раніды адозвы былі ў чайной і ў кнігарні Агала.

Выпіць шклянку чаю забягалі вучні з гімназіі і так званага палітэхнікума," заходзілі яны і ў кнігарню купіць сшыткаў або пёраў. А выносілі адтуль за пазухаю екрутачкі свежых лістовак. Яны траплялі ў сялянскія вазы на рынку, з'яўляліся на тратуарах і нават у саборы. Павятовы камітэт партыі заклікаў народ змагацца з рабаўнікамі-акупантамі, адбіраць у іх нарабаванае дабро, узбройвацца і ствараць партызанскія атрады.

Гэтыя лісткі шэрай і жоўтай паперы станавіліся выбуховымі і небяспечнымі. Кожны дзень то каля Качэрыч, то каля Глушы, то па дарозе з Падрэчча на абозы з жытам, парсюкамі і каровамі, забранымі ў вёснах, наляталі барадатыя, у світах і ў зрэбных кашулях мужыкі, стралялі над самымі конскімі вушамі, адбіралі ў перапалоханых салдат карабіны і заварочвалі фурманкі ў лес.

Аднаго разу каля Гарбацэвіч з васьмі нямецкіх салдат пасцягвалі боты, паздымалі штаны, мундзіры і каскі, а іх абулі ў свае лапці, аддалі прапацелыя зрэбнікі і ў такой «форме» адпусцілі. Камендант фон Тромэль лютаваў, аж вылузваўся ад злосці і тут жа выдаў загад: «Кожнага злоўленага бандыта расстрэльваць без суда і следства».

Па вуліцах горада шнуравалі патрулі і нарады палявой жандармерыі, хапалі падазроных, набівалі імі камеры турмы на Шасейнай вуліцы і казематы крэпасці. А ў чайной каля базару кожны дзень хто-небудзь пытаўся, ці няма ракаў, і прасіў тры шклянкі чаю без сахарыну, у магазінчыку «Книжная торговля и писчебумажные принадлежности» куплялі «Новы завет», на дзвярах гарадской управы і камендатуры з'яўляліся новыя лістоўкі, у казармах усё часцей знаходзілі «Rote Fahne», а інтэнданцкія атрады вярталіся з вёсак без нарабаванага дабра, без коней і карабінаў.

Маладым афіцэрам ветліва ўсміхалася прыгожая падавальшчыца фрэйлейн Роза, хадзіў па рынку з кошыкам у рудэ рабочы чыгуналіцейнага завода Павел Балашоў, заўсёды кудысьці спяшаўся на старым веласіпедзіку апрануты ў пацёртую тужурку паштовага

чыноўніка Платон Раеўскі. А з Оршы вясёлы балагур Ванька Антонаў зноў вёз тры вялікія карзіны з «новым таварам».

7

Вясна пахла нашатырным духам гною і гаркаватым пылам прырэчных вербаў. На платах і азяродах гарланілі і лапаталі крыламі пеўні. Падсыхала зямля і раніцамі ў нізінах дымілася сіняватай парай. Жанкі на гародах пляскалі грады, саджалі цыбулю і адбіралі насенную бульбу. Прыйшла пара сеяць. А дзе чые палосы, яшчэ ніхто і не ведаў. У рэўком талакою ўвальваліся ўдовы і безнадзельныя карпілаўскія дзяды.

— Доўга ты нешта длубаешся, Мікодым. Зямля перасыхае, і гной петрае. Дзяліць трэба, а то няўпраўка выйдзе. Картоплю садзіць пара, проса якую жменю ды грэчкі хоць трохі ўкінуць,— прыспешвалі старшыню.

— Дзе там перасыхае? Жужаль на полі. Толькі ў разору ступіш, як спутаны конь грузнеш,— апраўдваўся Мікодым.

Але назаўтра ад самага світання з Максімам Усам пачалі зачэсваць калкі і рабіць на іх залысіны. Звязалі двое вераўчаных лейцаў, змералі іх аблузаным жоўтым аршынам. Гукнулі Параску і пайшлі на панскія папары наразаць надзелы.

Толькі паспелі разы са тры нацягнуць вяроўку ды забіць першыя калкі, як з сяла павалілі людзі. Ніхто ім не загадваў, ніхто нічога не казаў, неяк жа дачуліся, што камбедаўскія каморнікі ўзяліся за работу, і шуснулі ўсе, як на той першы сход.

— Давай, Мікодымка, я пацягаю, а ты пішы ў свае метрыкі,— адразу аб'явіўся Цярэшка. Ад яго новых лапцей на вільготнай зямлі аставаліся роўныя клеткі. Стары наском раскалупаў грудку, узяў яе ў жменю і пачаў нюхаць.

— Мажа, панскім дзікалонам пахне? — не стрымаўся Максім Ус.

— Потам, братачка, потам,— спакойна адказаў Цярэшка.— А нарэжаш мне да тае дзічкі, пытляванкаю запахне. Ці не праўду кажу?

— Унь чаго захацеў! — загаманілі бабы.— Яму да дзічкі! А няшчасным сіротам пясочак.

— Ты наразай, Мікодым, а потым жэрабя пацягнем. Каб без сваркі,— загаманілі карпілаўцы.

Кандрат Кавалевіч пад'ехаў на кані з плугам і стаў каля мужчын.

— Ці не першы думает адсеяцца? — спытаў Андрэй Падута.

— А чаму б і не? — І, памаўчаўшы, дадаў: — Пакуль яны цягацьмуць гэтую ляйчыну, дык, можа, абарэм увесь надзел, каб

відно было, што заняты, адным словам,— наш. А тады і падзелім. А, мужчыны?

— Яно не зашкодзіць, Гані аж да жыта.

— Но-о! — тузануў Кандрат закудлацелага за зіму коніка. Той увагнуў галаву, напяліся пастронкі, і плуг урэзаўся ў мяккую зямлю. Баразна аж ільснілася за адвалам. Следам за Кандратам пайшло некалькі мужчын. Праз гоні Андрэй папрасіў:

— Дай мне патрымацца.

— Толькі глыбока не бяры, не пацягне, падла,— аддаючы плуг, сказаў Кавалевіч.

Як убачылі жанкі, што Кандрат паехаў з плугам, пахапалі жалезнякі, каб хоць трохі падлубаць сваю палоску.

А мужчыны па чарзе абворвалі добра вылежалы папар. Камбедаўцы на кожным надзеле забівалі калкі і на залысінах ставілі нумары. Пад вечар з вялікай Усавай шапкі кожны цягнуў сваё шчасце.

У рудабельскі маёнтак немцы прыйшлі цёплым дажджлівым ранкам. Па мастку цокалі капыты вялікіх ардэнскіх коней, грукалі зялёныя паходныя кухні, акупанты ўязджалі за высокі мураваны паркан з чырвонай цэглы.

Мокры пясок на дарозе,— як воспаю, збіты цвікамі падкаваных салдацкіх ботаў.

Ужо на дзядзінцы пастаўлены ў козлы вінтоўкі з кароткімі пляскатымі штыхамі. Пыхкаюць доўгія люлькі, гергечуць паважныя і павольныя салдаты. Старэйшыя выглядаюць стомленымі і абыякавымі, маладыя яшчэ жартуюць і завіхаюцца каля кухань, ходзяць па двары і па вялікім садзе, а высунуцца за вароты пакуль што не адважваюцца: наслухаліся ў Бабруйску і ў Глуску пра «лясных бандытаў» і трывожна азіраюцца на кожны куст.

Дні праз два з узводам нямецкіх салдат конна прыехаў малады гаспадар маёнтка барон Пётр Мікалаевіч Урангель. На ім была калматая бурка, накінутая на паходны, з генеральскага сукна мундзір, маленькія звонкія шпоры, насунутая да самых броваў зялёная шапка з кантамі. Сухі, падцягнуты, нервовы ў рухах гаспадар маёнтка зусім не быў падобны да пана: ён не ведаў, калі трэба араць і скародзіць, малаціць і сеяць, але заўсёды памятаў, што гэты белы палац з калонамі і вялікімі заламі, з ласёвымі рагамі і персідскімі дыванамі — яго ўласнасць, што палі і лясы на дзесяткі вёрст вакол маёнтка належаць яму. Маёнтак усе апошнія гады, аж да самага перавароту, даваў яму такі прыбытак, што ніколі не трэба было думаць пра грошы. Яны самі цяклі ў яго дом. Рудабельскі маёнтак барону Урангелю дастаўся ў пасаг ад камергера царскага двара Міхаіла

Васільевіча Іваненкі. Пасля вяселля барон з маладою жонкаю былі тут толькі адзін раз, а потым разам паехалі ў Таўрычаскую губерню, у шыкоўны маёнтак, запісаны на імя цешчы, якую да вянчання барон ужо называў «maman».

Цяпер Урангель хацеў замацавацца ў палацы і на гэтых землях, напомніць мужыкам, хто тут гаспадар. І вось іронія лесу — прыходзіцца разлічваць толькі на дапамогу штыхоў учарашніх ворагаў — кайзераўскіх салдат.

Барона на ганку сустрэў Мікалай Мікалаевіч. Ён за апошні час асунуўся, спахмурнеў і быў падобен на засцянковага шляхціца.

Яны адразу пайшлі ў вялікі кабінет.

— Дакладвайце абстаноўку, дарагі Мікалай Мікалаевіч,— з ветлівай нервовасцю патрабаваў гаспадар, разваліўшыся ў глыбокім крэсле.

— Вымушаны шчыра прызнацца, што становішча самае што ні на ёсць крытычнае, жабрацкае становішча, ваша светласць. Маёнтка, як такога, лічыце, даўно не існуе. Парабкі разбрыліся, нікога не слухаюцца, нічога не хочуць рабіць. Мітынгуюць, падзялілі вашы землі, пад мятлу вымелі збожжа са свірна. Мужчыны бадзяюцца па лесе са стрэльбамі. Адзіная надзея на волю боскую ды на армію кайзера Вільгельма.

— А вы, баценька, панікёр,— усхапіўся Урангель і спружыніста захадзіў па пакоі.— Гота, думаеце, усё? Думаеце, лапцюжны мужык утрымае ўладу і будзе дыктаваць свае дзікунскія законы? І на немцаў не вельмі спадзявайцеся,— загаварыў ён цішэй.— Рускае афіцэрства жыве і змагаецца. Мы яшчэ ўдарым так, што пыл паляціць і ад бальшавікоў, і ад гэтых часовых «вызваліцеляў». А вы не маеце права сядзець склаўшы рукі. Няўжо тут усе за бальшавіцкую камунію? Хіба заможныя гаспадары на хутарах не разумеюць, што іх чакае пятля, а дзяцей — торба? Што ж яны сядзяць і чакаюць, пакуль прыйдзе нячэсаны дзікун і сярод белага дня абдзярэ да ніткі?

Урангель яшчэ прабегся некалькі разоў з кута ў кут вялікага кабінета, спыніўся пасярэдзіне мяккага дывана і, адсякаючы кожнае слова, патэтычна дадаў:

— Калі б не вялікая місія выратавання Расіі ад гэтай пошасці, я тут навёў бы парадак. Кроў са слязьмі пырснула б з гэтага быдла. А пакуль што трэба ўмела павесці блізкіх нам людзей, самастойных гаспадароў, маладое афіцэрства, якое марыць пра генеральскія пагоны. Пры-ду-шыць,— ён сціснуў жылаваты кулак,— у самым зародку прыдушыць нават думку пра «равенство и братство»... Мужык ёсць

мужык, а пан ёсць пан. Улада належыць дужым і разумным абраннікам. А вы тут распусцілі нюні.

Мікалаю Мікалаевічу было крыўдна слухаць папрокі маладога пана. Ён жа чакаў падзякі, што збярог хоць тое, што можна было зберагчы. У глыбіні душы ён не столькі дбаў пра барона, колькі пра сябе. Не раз хацелася захапіць самае каштоўнае і знікнуць з гэтай прапашчай, завашыўленай і ўзбунтаванай Расіі. Уцячы куды вочы глядзяць: у Румынію, у Чэхію або ў Францыю. Купіць кавалачак зямлі і быць гаепадаром самому сабе, а не служыць усё жыццё чорту лысаму. Але загаварыў пра іншае:

— Асмелюся далажыць, ваша светласць, калі б мы распусцілі нюні, дык ад вашага маёнтка засталіся б толькі галавешкі. Не без майго ўдзелу на хутарах дзейнічае адборны атрад нашых людзей пад началам маладога прапаршчыка Казіміра Ермаліцкага і былога настаўніка Парфіра Плышэўскага. Тры валасці даўно пад іх кантролем. А рудабельскай бандзе Салаўя сам Доўбар-Мусніцкі не даў рады. Гэтыя галаварэзы раззбройвалі салдат, не прапусцілі ў Ратміравічы браніраваны цягнік, заманілі ў пастку і перабілі цэлы атрад легіянераў.

— Не палохайце! Пра «страхі» я наслухаўся па дарозе сюды,— нецярпліва перапыніў барон.— Давайце лепей падумаем, з чаго пачнём. К вечару падрыхтуйце спісы ўсіх, хто расцягваў маё дабро, хто дзяліў зямлю, і прад'явіце ім рахунак: у дваццаць чатыры гадзіны ўсё даставіць на месца. Вам ясна?

Мікалаю Мікалаевічу было настолькі ясна, што аж твар яго пасвятлеў. Вярнуць усё назад — тое самае, што вырваць з воўчых зубоў костку. А што на гэта скажуць рэўкомшчыкі? Яны ж недзе тут, пакуль што прытаіліся, думаюць. І не проста так, без бою, пусцілі сюды немцаў. Можа, заманілі ў пастку. Адным словам, спаць трэба не распранаючыся. А барону што? Накрычаў, загадаў і паехаў. Калі ўдасца, вядома, гэтыя салаўі-разбойнікі і яго могуць спраўна пачапіць на горную асіну.

— Без узброенай сілы, ваша светласць, нічога не зробіш,— асмеліўся ён прызнацца,— мужык азвярэў. Сілу трэба ламаць сілаю.

— Не палохайцеся. Нямецкія салдаты нам дапамогуць,— гаркнуў барон.

Мікалай Мікалаевіч выцягнуўся, як на парадзе.

— І яшчэ. Я хачу бачыць прапаршчыка і настаўніка. Падумайце, як гэта лепей зрабіць. А пакуль можаце ісці.

Мікалай Мікалаевіч знік за дзвярыма. Барон некалькі разоў прайшоўся па пакоі. Праз акно ўбачыў паджарага нямецкага афіцэра. Ён, ляскаючы кароценькім стэкам па наглянцаваных крагах, ішоў у

палац. Барон пабег яму насустрач, каб, нібы незнарок, сустрэцца ў вестыбюлі.

— Гут морген, гер командант,— весела і бесклапотна прывітаўся з ім барон. Той змушана ўсміхнуўся конскай усмешкай, паказаўшы доўгія жоўтыя зубы, і запрасіў у свой кабінет на першым паверсе.

«Хто ж тут, нарэшце, гаспадар? — з абурэннем падумаў Урангель.— Калі б мы з табою сустрэліся дзе-небудзь пад Сувалкамі, я з цябе б зрабіў рэшата, а пакуль... пакуль трымайся, генерал!»

Камендант прапанаваў барону садзіцца побач, на канапе.

— Я вымушаны прасіць пана каменданта дапамагчы вярпуць маю маёмасць, раскрадзеную бандытамі, і наогул навесці парадкі ў навакольных вёсках: пара канчаць з бандытамі і давесці мужыку, што ён — мужык...

— Армія не ёсць паліцыя, пан барон. І ўсё ж мы паможам вам. Але перш за ўсё — кантрыбуцыя. Хлеб, масла, сала неабходны імперыі. Мы будзем браць і пасылаць у фатэрлянд. А нам і вам павінны памагаць самі мужыкі.

— Як? — здзівіўся Урангель.

Камендант хітранька засмяяўся.

— Трэба выбраць самакіраўніцтва. Нацкаваць адзін на аднаго, і няхай сабе грызуцца і памагаюць нам.

Назаўтра Мікалай Мікалаевіч з трыма салдатамі ездзіў вярхом на кані ад хаты да хаты і загадваў збірацца ў маёнтак на сход.

У панскі двор ішлі толькі старыя і кабеты: ліха яго ведае, што там загадаюць. Але ніхто дабра не чакаў. На дзядзінец перад пакоямі ступалі маўклівыя і панурыя мужчыны, кожны стараўся стаць воддаль, схавацца за нечую спіну. Прыйшло некалькі ўдоў. Сярод іх была і Параска, босая, у зрэбным андараку, палінялай хустачцы, завязанай пад бараду.

Калі сабралася чалавек сорак, на ганак выйшлі нямецкі камендант і сам барон у расшпіленым кіцелі, без пагонаў, з чорнымі, нібыта прыклеенымі валасамі, сухарлявы і тонкі, як хлудзіна.

Многія «свайго пана» бачылі ўпершыню. Можа, каб не навалакліся германцы, так бы ніколі і не ўбачылі, што гэта за фрукт — барон Урангель.

Рыжавусы немец з конскімі зубамі падняў руку і загаварыў панямецку. Потым змоўк і паглядзеў на барона. Той выйшаў наперад, абвёў усіх маленькімі, глыбока запалымі вочкамі.

— Пан камендант гаворыць: нямецкае камандаванне патрабуе паслушэнства і павагі да арміі яго імператарскай вялікасці Вільгельма другога, Супраціўленне распараджэнням улады будзе раецэнена як

бунт. Бунтаўшчыкоў у часе вайны расстрэльваюць. За напад ці замах на нямецкага салдата вінаватыя і іх пасобнікі будуць пакараны смерцю, а вёска спалена.

Зноў загаварыў немец. Барон толькі ківаў галавою. Калі камендант спыніўся, пачаў адразу перакладаць:

— Расія Германскай імперыі вінна вялікую кантрыбуцыю. Бальшавіцкія галадранцы плаціць не маюць чым. Таму кожны сялянскі двор павінен здаваць нямецкай арміі хлеб, масла, сала, мёд, лён. Дадам ад сябе: хто паслухаўся бунтаўшчыкоў і забраў хоць адну парушынку з майго маёнтка, павінен усё вярнуць на месца. Чуеце? Заўтра ж! Хто не выканае, няхай яго дзеці праклінаюць бацьку за тое, што асіраціў іх.

Камендант нецярпліва зірнуў на пана, паляпаў па руцэ стэкам і загаварыў зноў.

— Усе распараджэнні нямецкага камандавання,— перакладаў барон,— будуць перадавацца праз валаснога старасту. Ім будзе ваш чалавек, які не знюхаўся з бальшавікамі, у якога вялікая сям'я і ёсць свая зямля.

— Міхала Званковіча,— шапнула Параска Мікодыму Гошку, а той, не варушачы губамі, пераказаў суседу.

— Ноччу хадзіць сурова забараняецца, пераходзіць з вёскі ў вёску можна толькі па спецыяльным пропуску, выдадзеным нямецкай камендатурай і воласцю. Дык хто варты быць старастам? — запытаў барон.

Нехта ззаду выгукнуў:

— Міхал Званковіч няхай будзе!

— Але ж, чалавек самастаяцельны,— падтрымалі.

— І футар мае добры.

Барон пашаптаўся з упраўляхочым. Той паціснуў плячыма і развёў рукамі.

— А можа, хто больш варты? — запытаў пан.

— Лепшых у нас няма. Няхай Міхал будзе,— загуў пракураным басам Мікодым, а за ім і ўвесь невялікі натоўп.

Так і абралі Міхала Званковіча старастам. А людзі разыходзіліся панурыя і змрочныя.

8

Маладыя і старыя, хто з кошыкам, хто з лубянай каробкаю, хто з аброццю за плячыма, з Карпілаўкі, Рудні, Кавалёў і Лаўстыкаў ішліляснымі сцежкамі, прабіраліся хмызнякамі і балацінамі на Зайдаў хутар. На ўзлессі была невялікая палянка, зарослая пабялелым ціпцам

і званцом. Сюды і сыходзіліся «грыбнікі» і «ягаднікі». Садзіліся купкамі, курылі пякельны самасад, перакусвалі і пацііху гаманілі. Калі сабралася чалавек семдзесят, з хаты, што стаяла на самым узлессі, выйшлі рэўкомаўцы і з імі нейкі незнаемы малады хлапец у сіняй сацінавай кашулі, саматканых штанах і залатаных ботах. Хоць і апрануты па-тутэйшаму, але ніхто яго не ведаў.

За паўвярсты, а дзе і за вярсту ад хутара Анупрэй Драпеза расставіў варту. Калі ў круг выйшлі Салавей, Ляўкоў, Пракоп Малаковіч і той незнаемы хлапец, усе прыціхлі. Салавей зняў шапку.

— Таварышы! — пачаў ён.— Рэўком сабраў вас сюды, каб пакуль што не вельмі настыраліся з немцамі і не пралівалі дарэмна людское крыві. Людзі нам яшчэ спатрэбяцца для наступных баёў. А Савецкая ўласць была, ёсць і будзе. У рэўком вы выбралі невялікіх паноў, не конча нам сядзець за сталамі, можна і за пнём вырашыць усе нашы справы. Выбралі вы валаснога старасту. А раз выбралі, дык слухайцеся яго. Міхал Званковіч шкоды вам не зробіць. Так я кажу, мужчыны?

— Не, бронь божа!

— Дзе ты бачыў, каб такі чалавек... — загулі ў адказ мужчыны.

— Ведалі, каго выбіралі,— падміргнуў Салаўю Мікодым Гошка.

— Значыць, што Міхал загадае, трэба споўніць. А то расшалопаюць немцы, што людзі старасту не слухаюць, і паставяць замест яго якога-небудзь шляхцюка ці эсэра.

— І то праўда,— выгукнуў стары Цярэшка,— барані божа, шэршань уссядзе, дык з-пад яго не вылужышся. Няхай лепш будзе свой чалавек.

— А цяпер, мужчыны, вам нешта хоча сказаць старшыня павятовага рэўкома таварыш Ра... таварыш Раеўскі. Тое, што ён скажа, запомніце, а што ён быў тут — забудзьцеся.

Хлопец у сацінавай кашулі стаў побач з Салаўём і таксама зняў шапку. Шырока расстаўленыя вочы пад густымі брывамі лагодна свяціліся, на галаве тырчалі коратка падстрыжаныя чорныя валасы.

— Таварышы рудабельцы! Той, хто думае, што немцы тут будуць вечна, памыляецца. Савецкая ўлада была вымушана заключыць у Брэсце мір з германцамі, каб спыніць вайну, сабрацца з сіламі і турнуць іх так, каб і смуроду не было. Раз іх пусцілі, дык трохі пацерпім і паглядзім, чаго яны вартыя. А забудуцца, што ў гасцях, дадзім ім так, што свае бліскучыя спічакі разам з галовамі пагубляюць.

Тут сабраліся бальшавікі-парцейцы і чырвоныя партызаны, дык ад вас ніякіх сакрэтаў няма. Акупанты акупантамі. Яны — як трэскі на вадзе, пабоўтаюцца, і рака іх выкіне, а Савецкая ўлада жыве

скрозь — у Маскве і ў Петраградзе, у Смаленску і ў Бабруйску, і тут, у Рудабелцы. Рэўком часова пайшоў у падполле, каб сабраць болей сілы, лепей узброіцца і ў любы час быць гатовым ударыць па ворагу. З воласці вы не павінны выпусціць ніводнага зярняці.

Не ўсе немцы аднолькавыя. Сярод салдат ёсць рабочыя і сяляне, ім абрыдла вайна, і яны хочуць скінуць кайзера Вільгельма. Яны не толькі спачуваюць, але і дапамагаюць нам. Пастарайцеся такіх перацягнуць на свой бок. Нямецкія камуністы перадалі нам сваю газету «Ротэ фанэ», што значыць «Чырвоны сцяг». Трэба яе непрыкметна распаўсюдзіць сярод салдат. І яшчэ адно я вам хачу параіць. Солі, газы, мыла купіць у вас няма дзе. А ў Бабруйску ўсё ж дастаць можна. Праз валаснога старасту папрасіце каменданта, каб дазволіў вам сарганізавацца ў кааперацыю. Ваш надзейны чалавек будзе ездзіць у Бабруйск і прывозіць усё што трэба.

— А сярнічкі там ёсць? — запытаў Цярэшка.— І каб хоць трохі дзёгцю, а то перады, як сабачая скура, трашчаць.

— Будуць сярнічкі і дзёгаць, дзядзька Цярэшка,— супакоіў старога Ляўкоў. А Пракоп Малаковіч хадзіў сярод людзей і раздаваў кожнаму большыя і меншыя лісткі. На адных было напісана буйнымі літарамі: «Ко всем гражданам оккупированной Белоруссии». Меншыя былі засеяны дробнымі, вельмі ж пакручастымі літарамі. Няйначай, нямецкімі. Гэтыя трэба было падсоўваць салдатам.

Тут жа Пракоп абвясціў: хто хоча запісацца ў бальшавіцкую партыю, няхай падае заяву яму.

— А як я не ўмею пісаць? — запытаў Цярэшка.

— Папрасі граматнага, а потым і самога навучым.

— Вучыць вучы, толькі на грэчку, Пракопка, не стаў,— не сунімаўся стары.

Партызаны смяяліся з Цярэшкавых кепікаў, усміхаліся і рэўкомаўцы.

— А як пісаць, таварыш Малаковіч? — запытаў Іван Кавалевіч.

— Яшчэ і ты, смаркач, у парцію лезеш,— ускочыў Цярэшка.— Трымайся лепш за шляхцянчыны кумпякі, дык, можа, Ермаліцкі табе галагуцкага пеўня ў пасаг дасць.

Іван пачырванеў і апусціў галаву. Некаторыя засмяяліся, бо прывыклі смяяцца, што б ні сказаў Цярэшка, другія засыкалі на старога, каб змоўк.

Салавей нахмурыў бровы, яго тугія загарэлыя шчокі пачырванелі, нібы дзед не Івана, а яго папракнуў шляхцянкаю.

— А ці ведаеце вы, дзядзька Жулега, што тая шляхцянка выраклася багацця, кінула засценак і бацькоў. Брат — бандыт, а яна

горнецца да нас. Пішы, Іван, заяву. Абедзвюма рукамі галасую за цябе. А там і першае савецкае вяселле .згуляем.

Пракоп раздаў аркушы паперы ў касую лінейку, агрызак хімічнага алоўка.

Грамацеі, прымасціўшыся хто да нянька, хто, падклаўшы стосік лістовак, пачалі пісаць заявы ў Рудабельскую ячэйку РКП бальшавікоў ад сябе і «за няграматнага... па яго лічнай просьбе».

Праз паўгадзіны Пракоп Малаковіч сабраў дваццаць восем заяў, напісаных насліненым хімічным алоўкам, падпісаных дзе прозвішчамі, дзе крыжыкамі.

— Таварышы, лістоўкі пастарайцеся да раніцы расклеіць на прысадах і платах, газеты падкіньце нямецкім салдатам. Гэта першае заданне маладым бальшавікам,— сказаў Салавей.— А цяпер разыходзьцеся па адным, па двох. Пашукайце грыбоў, пашчыпайце чарніц, каб ніводзін сабака не ведаў, дзе вы былі і каго бачылі.

Мужчыны бралі свае кошыкі, каробкі і аброці і разыходзіліся па лесе.

А на Заечым хутары яшчэ доўга раіліся рудабельскія рэўкомаўцы з Платонам Фёдаравічам Равінскім. Ён прыехаў сюды з пропускам, выпісаным Густавам Шульцам на імя Фёдара Раеўскага.

Ён тлумачыў, як павінна дзейнічаць кааперацыя, казаў, што ў Бабруйску трэба звяртацца да таварыша Ліакумовіча, а ён ужо забяспечыць усім, што трэба. А галоўнае — ствараць і ўзбройваць партызанскія атрады, перацягваць нямецкіх салдат на свой бок, а кайзеравых служак узяць у такія абцугі, каб яны і хадзіць баяліся па гэтай зямлі.

— Сувязь з павятовым камітэтам трымайце праз чайную і кніжную краму. І мы будзем час ад часу наведваць вас. Любы дакумент і пропуск вам дастанем. Так што, таварышы, вышэй галовы. Да поўнай перамогі застаецца нядоўга. А там пачнецца новае жыццё. Глядзіце, каб ні немцы, ні свае не расцягвалі і не руйнавалі маёнтка. Там жа ўсё зроблена рукамі вашых дзядоў і бацькоў і належыць вам.

— Туды нядаўна, Платон Фёдаравіч, прыехаў малады пан, барон Урангель, і спаганяе з мужыкоў усё, што забралі з яго свірнаў,— перабіў Равінскага Ляўкоў.— Грозіцца, што будзе страляць тых, хто не паслухаецца яго загаду.

— Сам ён нічога не зробіць, а немцы наўрад ці згодзяцца быць панскімі катамі. Можа, варта яго пужануць, каб гэты барон паляцеў вон.

— Прыстукнуць яго, гада, трэба. Гэта ж такі выжлятнік: свет абыдзі, другога не знойдзеш. Каб даў яму волю, ён бы тут нарабіў... — загуў густым басам Максім Ус.

— Ты яго прыстукнеш, а колькі можа асірацець сямей з-за аднаго нягодніка. Немцы азвярэюць і пачнуць распраўляцца з непавіннымі людзьмі. Папалохаць можаце, каб з'ехаў хутчэй,— раіў старшыня павятовага камітэта.

О, каб ён ведаў тады, што гэты самы барон Урангель стане атаманам белагвардзейскіх галаварэзаў на поўдні Расіі, што крывавы след за ім працягнецца

праз Крым і Чорнае мора, ен бы сам параіў, а то і загадаў Максіму Усу ці Анупрэю Драпезу «прыстукнуць» гэтага барона.

Трохі памуляўшыся, з лаўкі ўстаў Нічыпар Званковіч, выцягнуў з-за пазухі складзены ў чатыры столкі аркушок паперы.

— Тут майго дзядзьку Міхала выбралі валасным старастам, прымусілі нібыта быць нямецкім ганчаком. А ён чалавек сумленны і от напісаў заяву, каб і яго прынялі ў бальшавіцкую партыю. Не ведаю, што думаеце вы, а я прыняў бы. Наш ён чалавек.

— Думаем тое, што і ты,— весела адказаў Салавей.— Каб Міхал быў не наш, ніхто б яго ў старасты не выбіраў. Воласць была бальшавіцкаю, бальшавіцкаю і асталася. Так ці не, хлопцы?

— Давай сюды заяву,— працягнуў руку Малаковіч.— Хто за тое, каб прыняць Міхала Званковіча ў партыю камуністаў-бальшавікоў?

Разам з усімі прагаласаваў і старшыня павятовага рэўкома.

Пад вечар ён хуценька сабраўся ў дарогу. Цімох Валодзька ўпрыцемку запрог маленькага мышастага коніка, укінуў у палукашак травы і павёз галоўнага павятовага камуніста па аднаму яму вядомых лясных дарожках.

За паўвярсты паперадзе фурманкі ішоў па лесе Максім Ус з наганамі і гранатай, а назіркам шасталі па кустах Нічыпар Званковіч і Лявон Адзінец...

...Назаўтра новы валасны старшыня папрасіў дачку панскага вінакура Лізу, каб схадзіла з ім да нямецкага каменданта і ператалумачыла таму ўсё, што ён мае сказаць.

На дзядзінцы дымілася паходная кухня, а каля яе стаялі ў чарзе салдаты з медзянымі кацялкамі. Кухар у даўно не мытым каўпаку боўтаў чарпаком у катле і разліваў у кацялкі густы рысавы суп. На дошцы, пагладзенай на дзве цагліны, ляжалі кантовыя бляшанкі з галетамі. Кожны браў блішчасты карабок і з поўным кацялком адыходзіў у цень ліпавых прысад. На ганку ў расшпіленым мундзіры стаяў камендант і глядзеў, як сілкуецца яго войска. Заўважыўшы,

што маладзенькая статная дзяўчына ў доўгай спаднічцы, белай блузачцы і саламяным капялюшыку з нейкім мужчынам ідзе да яго, камендаит хуценька зашпіліуся на усе гузікі, насунуў на лоб лакіраваную каску з двума казыркамі і прыняў важную паставу.

Міхал Званковіч адвесіў нізкі наклон, Ліза толькі кіўнула прыгожай галоўкай і нешта залапатала панямецку.

— Растлумач яму, што мужчыны хочуць згарнізаваць каапера-цыю, вазіць з Бабруйска мыла, газу, соль, каб тут зрабіць хоць якую невялічкую крамку, і просяць у пана каменданта дазволу.

Камендант выслухаў, што яму пераказала Ліза. Рудыя вусы зава-рушыліся, як у прусака, захадзілі густыя бровы, падобныя на вусы. Ён стаў гаварыць, нібы лаяцца.

— Пан камендант кажа, што сяляне павінны здаваць арміі кай-зера Вільгельма хлеб, сала, масла, мёд і палатно. А стараста абавязаны выдзеліць падводы і далажыць пану каменданту, у каго што можна ўзяць.

— Падводы загадаць не штука, а хлеба ды сала гадоў на дзесяць назапашана на хутарах у Перагудаў, Гатальскіх, Ермаліцкіх ды Вінярскіх. Чаго ж? Можна і паказаць, дзе яны хаваюць дабро. А мужыкі даўно нішчымніцу ядуць. Адкуль у іх той хлеб ды сала?

Ад таго, што ніяк не магла перакласці слова «нішчымніца», Ліза аж пачырванела.

— Спісы, у каго ёсць хлеб, я дам. А як нашчот капераціі, спытай у яго.

Яшчэ паўпінаўся трохі камендант, але Міхал яго ўпрасіў. Можа, тут і Ліза памагла сваімі прывабнымі шэрымі вочкамі і румянымі шчокамі з залацістым пушком каля вушэй. Камендант сказаў, што на першы сход пайшчыкаў прыйдзе сам разам з перакладчыцай.

І сапраўды прыйшоў. У школе за вузенькімі партамі і проста на падлозе сядзелі барадатыя і сярэдняга веку мужчыны, асобна каля печы стаяла чалавек дваццаць кабет і маладзіц. Палавінка сонца яшчэ вісела над лесам і залівала пакой чырвоным бляскам. Па вуліцы ў хмары рудога пылу ішла з пашы чарада кароў. Чутно было, як ляскае пастух доўгаю пугай і кляне лысух і рагуль.

Камендант увагнуўся ў нізкіх дзвярах, каб не збіць гаышака на блішчастай касцы, атрос з мундзіра пыл і пайшоў да стала. Следам за ім убегла Ліза. Жанкі скоса паглядзелі на яе. «Не была б то адна кроў, бач, як дагаджае»,— шапнула Мікодыміха Парасцы.

Камендант сеў за стол і паманіў пальцам валаснога старасту. Міхал стаў побач і нeяк сарамяжліва загаварыў:

— Гражданы вобчаства, мужчыны і бабы, сядзім мы пры лучыне і самі закурэлі, як галавешкі. Газы няма. І солі, каб прысаліць які гаршчок, нідзе і драбочка не знойдзеш. Як пахне мыла, ужо і бабы забыліся.

Відаць, Ліза дакладна перакладала прамову старасты, бо камендант усміхаўся і ківаў галавою.

— Калі ж мы згарнізуем капярацыю, збяром паі, выберам крамніка, казначэя і ўсю ўправу, можна будзе тое-сёе даставіць з Бабруйска.

— Хоць бы трохі анучы адмыць ды вошы на дзецях выпрудзіць.

— Бацвіння няма чым прысаліць,— загаманілі бабы.

З апошняй лаўкі падняўся высокі бялявы Пракоп Малаковіч. Мужчыны пераглянуліся, зашапталі:

— Бач ты яго, і не баіцца.

— А чаго яму баяцца, ён жа не канакрад які.

— Няхай навалач гэтая нас баіцца, а мы ў сябе дома. Вось так!

— Сціхніце вы,— сыкнула на іх Параска.

Пракоп гаварыў спакойна і разважліва:

— Што каапярацыя нам трэба, кожны ведае. Дык каб доўга не гаварыць, давайце выберам праўленне, казначэя там, прадаўца. Збяром паі, і няхай едуць у Бабруйск. Я думаю, лепшага казначэя, як Мікодым Гошка, нам не знайсці, а крамнікам няхай быў бы хоць Цімох Валодзька. Хлопец ён малады, вёрткі. Адным словам, свой чалавек. Ну і Сцяпан Жынко, як граматнейшы, над імі за старшага. А як вы думаеце?

— Думаем так, як і ты,— з другога канца выгукнуў Лявон Адзінец. А Ліза, седзячы побач з вусатым немцам, усё шчабеча яму на вуха, усё пераказвае, хто што гаворыць.

З-за апошняй лаўкі высунуўся доўгі, як жардзіна, Аверкаў Каленік. Шэрыя валасы звісалі аж на каўнер крамнага пінжака. З маленства ён падаваў кадзіла папу і сам збіраўся пайсці ў боскія служкі. А як закруціла вайна ды рэвалюцыя, узлаваўся на ўвесь свет, зашыўся на бацькавым хутары. У нядзелю і на прастольныя святы спяваў на клірасе і часам, калі не было дзяка, чытаў «Апостала». А цяпер здурэў, ці што? Выскачыў, бы Піліп з канапель, ды як ляпне:

— Няхай паненка перакажа гаспадзіну каменданту, што тут сабраліся адны бунтаўшчыкі і рэўкомшчыкі:, і Пракоп, і Лявон Адзінец, і Параска, і той жа хвалёны Мікодым. Хапайце іх і вяжыце!

Усім аж дух заняло ад нечспадзеўкі. Ліза пабялела ў твары, азірнулася на бакі. Камендант яе запытаў:

— Was sagt dieser Bauer?[1]

Дзяўчына нахмурыла бровы, нібы падбірала патрэбнае слова, потым усміхнулася і перараказала:

— Er sagt Produktionsgenossenschaft das ist gut[2].

Ніхто не зразумеў, што яна сказала. Усе са страхам

чакалі, што будзе рабіць камендант. А ён заківаў блішчастаю каскай, заварушыў цупкімі рудымі вусамі і праз жоўтыя конскія зубы прабурчаў адзінае зразумелае слова:

— Gut! Seher gut[3].

Хтосьці Каленіка так тузануў за пінжак, што той аж язык прыкусіў. Некалькі галасоў прашаптала: «Юда, хрыстапрадавец!» І ўсе змоўклі, нібы нічога і не было.

Так, як і прапанаваў Пракоп, у кааперацыю абралі Цімоха Валодзьку, Мікодыма Гошку і Сцяпана Жынко. У былой манапольцы вырашылі зрабіць краму. Камендант дазволіў раз на тыдзень збіраць праўленне і кожны месяц — сходы пайшчыкаў, выпісаў пропуск ездзіць у Бабруйск па тавары.

Рудабельская кааперацыя заварушылася на другі ж дзень. Малады, малы, як вузельчык, і вельмі ж спрытны Цімох Валодзька толькі што сыскаўся з нейкага далёкага салдацкага шпіталя і цяпер, згаладалы па рабоце, прыбіваў паліцы ў краме, збіраў па хатах мяхі пад соль, запісваў, што каму прывезці. Мікодым хадзіў з двара ў двор і спаганяў паі, каб было, як ён казаў, за што рукі зачапіць.

Ахвоті а дзядзькі ехалі ў падводы па тавары для кааперацыі. З пропускам рудабельскай камендатуры іх нідзе не затрымлівалі нямецкія патрулі. Валодзьку ывават дазволілі браць з сабою карабін, каб адбівацца, калі часам нападуць «бандыты».

У Бабруйску Валодзька прыязджаў на склад, адабраны рэўкомам у купца першай гільдыі ў самым пачатку рэвалюцыі. Гаспадар некуды з'ехаў, а складам так і загадваў бальшавік Ліакумовіч, у свой час прызначаны загадчыкам прададдзела. Склад стаяў на Бярэзінскім фарштаце, далека ад людскіх вачэй. Бабруйчане забыліся, а немцы і не чулі пра яго існаванне. Густаў Шульц выдаў Ліакумовічу паперу з пячаткамі гарадской управы, якая сведчыла, што склад належыць таварыству сельскіх кааператываў. Гэта сцвярджала і шыльда, прыгожа размаляваная загадчыкам. Ліакумовіч, чалавек інтэлігентнага выгляду, з пышнымі, заўсёды дагледжанымі вусамі, у белых манжэтах і каўнерыку, сядзеў у маленькай баковачцы і выпісваў

---

[1] Што кажа гэты селянін? (ням.)

[2] Ён кажа, што кааперацыя — гэта добра (ням.).

[3] Добра, вельмі добра (ням.).

тавары, а ў складзе варочалі скрынкі Барыс Найман і Шолам Агал. Яны пад мыла закладвалі мяшэчкі з порахам, піраксілінавыя шашкі, абоймы патронаў, запакоўвалі пачкі газет, якія прывозіў з Оршы Катловіч, лістоўкі, аддрукаваныя ў Бабруйску, і нумары «Rote Fahne».

Апрача ўсяго гэтага Валодзька пачаў прывозіць з Бабруйска карабіны, наганы і гранаты. Ахоўнай граматай у яго быў пропуск рудабельскага каменданта.

Звычайна, калі прыбывалі новыя тавары, збіралася «пашыранае праўленне кааперацыі». Прыходзілі Салавей, Ляўкоў, Малаковіч і Адзінец. Нібыта незнарок заходзілі камандзіры партызанскіх атрадаў — Максім Ус, Нічыпар Званковіч і Анупрэй Драпеза. Тут праводзіліся пасяджэнні рэўкома і партыйнай ячэйкі, раіліся камандзіры атрадаў, раздаваліся лістоўкі і газеты. А калі часам заходзіў нямецкі патруль, Сцяпан Жынко паказваў камендантаву грамату — дазвол раз на тыдзень збіраць цраўленне кааперацыі. Часам салдат частавалі «шнапсаМ» з панскага бровара і салёнымі гуркамі.

Салавей трохі ўмеў гаварыць па-нямецку і тлумачыў салдатам, што іх ашукаў кайзер, што яны не павінны крыўдзіць такіх жа сялян, як яны, што ім трэба хутчэй вяртацца дадому, скінуць Вільгельма і ўзяць уладу ў свае рукі. Салдаты задумваліся, бо кожны хацеў хутчэй вярнуцца да сям'і. Яны прагна накідваліся на лістоўкі, якія знаходзілі ў сваіх кішэнях, чыталі ў газеце артыкулы Карла Лібкнехта і натхнёныя прамовы Розы Люксембург.

У казарме тоненькія лісткі, напісаныя на роднай мове, пераходзілі з рук у рукі, іх хавалі ў сенніках і падушках, імі дзяліліся з таварышамі, як навінамі з дому.

Камендант ніяк не мог уцяміць, хто прыносіць у казарму гэтую «камуністычную заразу». Ён злэена рваў на дробныя шматкі лістоўкі і газеты, тупаў нагамі, рассякаў паветра кароценькім стэкам і крычаў:

— Нават куры не баяцца іхніх пагроз. А салдаты кайзера былі заўсёды верныя прысязе і айчыше.

Камендант пасылаў у вёскі і на хутары атрады салдат. Яны выграбалі з засекаў і кадоўбчыкаў жыта, з гарыхнчаў сцягвалі падсушаныя кумпякі, усё складалі на фурманкі, вызначаныя старастам.

Галасілі бабы, умольвалі хоць на зацірку пакінуць мукі, пашкадаваць іх дзетак. А салдаты пі быта не чулі і не разумелі іх галашэння.

Барон Урангель даводзіў каменданту, што трэба завярнуць абоз у яго двор і ссыпаць усё ў панскія свірны. Бо гэта яго дабро, нарабаванае мужыкамі і бандытамі. А камендант выконваў загад свайго камандавання — збіраў кантрыбуцыю натурай. На кожную фурманку ён даў па салдату і адправіў першы абоз у Ратміравічы.

Падводчыкі ішлі каля вазоў, салдаты ляжалі на мяхах і смакталі доўгія люлькі. Колы рыпелі па глыбокім пяску, шумелі старыя замшэлыя сосны, і шчабяталі звонкія лясныя птушкі.

Калі абоз уехаў у густую путчу, каля самай дарогі прагрымеў залп. Спалоханыя коні рвануліся ў лес, перакуліўся адзін, другі воз, разам з мяхамі пассоўваліся немцы, не паспеўшы ўхапіцца за свае карабіны. А іх ужо акружыў атрад — чалавек за сорак узброеных маладых барадатых мужчын. Адстрэльвацца і супраціўляцца не было сэнсу. «Што можа зрабіць дзесяць салдат з такою вялікаю бандай? Загінуць? За што і дзеля чаго? Каму ж ахвота паміраць?» — думалі перапалоханыя немцы. Яны паднялі рукі.

Партызаны лавілі коней і заварочвалі на вузкую лясную дарогу, збіралі кінутыя салдатамі карабіны, здымалі з папруг цесакі і высыпалі з патранташаў патроны. Потым немцаў паставілі па два чалавекі ў рад.

Да іх падышоў смуглявы, сярэдняга росту мужчына і, мяшаючы слова па-руску, слова па-нямецку, лагодна і ціха загаварыў:

— Вы хацелі пакінуць нашых дзяцей без хлеба. Выходзіць, бандыты вы, хоць ваш камендант бандытамі лічыць нас. Мы — партызаны, мы абараняем свае сем'і, сваю зямлю ад бандытаў і ворагаў. Ідзіце спакойна назад. Ніхто вас не зачэпіць. А каменданту перадайце, што не дадзім адсюль ні аднаго зярняці. Вас сотня, а нас тысячы. Усе мы былі салдатамі і ўмеем добра страляць,— Ён усміхнуўся, выцягнуў з-за пазухі пачак нямецкіх лістовак і раздаў кожнаму па некалькі штук.— Auf Wiedersehen[1]. — Прыставіў далонь да казырка палінялай салдацкай шапкі.

Салдаты павярнуліся, нібы па камандзе, і ціха, час ад часу азіраючыся, патупалі па пыльнайляснай дарозе. Калі трохі адышліся і ўбачылі, што ніхто за імі не ідзе, прыпусціліся ледзь не подбегам.

— Заварочвай на Зайцаў хутар! — загадаў Салавей.— Няхай кожны разбірае сваё, а шляхецкае раздадзім сіротам і ўдовам.

Весялей пакаціліся колы па цвёрдай ляснай дарозе. Следам ішлі партызаны. У некаторых на адным плячы вісела свая стрэльба, а на другім — нямецкі карабін. Максім Ус падперазаўся двума поўнымі патранташамі. Хлопцы расказвалі, як хто страляў, колькі забраў патронаў, хваліліся новымі карабінамі.

Пад вечар таго ж дня раззлаваны бездапаможнасцю нямецкага камандавання барон Урангель загадаў закласці яму брычку, сказаў, што едзе ў госці да харомецкай пані. Паклаўшы пад сядзенне нейкія

---

[1] Да пабачэння! (ням.)

скрыначкі і шкатулкі, ён накінуў калматую бурку, ускочыў на абшмулянае скуранoе сядзенне і памчаўся рыссю па пыльнай дарозе.

Калі ўскочылі ў лес і брычку затузала на выбоінах і карэннях, барон адно крычаў фурману: «Паганяй!» Замыленыя коні толькі сцішыліся, калі праехалі халопеніцкі мост. Барон азірнуўся назад, з палёгкаю ўздыхнуў, нібы выскачыў з пасткі. Яму шкода было пакідаць маёнтак, але не хацелася рызыкаваць жыццём, неабходным «для выратавання Расіі».

Ён пераначаваў у Харомецкім маёнтку. Там яго чакалі Казік Ермаліцкі і Парфір Плышэўскі. Пра што яны гаварылі, ніхто не ведаў. Раніцою баронава брычка паехала па дарозе на Бабруйск.

Болей у Рудабелцы барона Урангеля ніхто не бачыў. Толькі Максім Ус доўга яшчэ шкадаваў, што выпусцілі яго жывым.

9

Пры немцах Андрэй Ермаліцкі нарэшце сыскаў дачку на фальварку і, нібы блудную авечку, прыгнаў на хутар. Хацеў адхвастаць ляйчынаю, але старая коршакам кінулася да яго, упала на калені, накруціла вяроўчыну на рукі ды як залямантуе:

— Лепш мяне, калі хочаш забі, а дзіця не дам няславіць. Хто ж яе возьме пасля такой сараматы? От пабачыш, сам будзеш прасіць, каб хоць Іван узяў.— І ўмаліла-такі. Адступіўся стары. Дні тры пратрымаў Гэльку ў каморы і выпусціў: трэба ж некаму даіць кароў, секчы свінням зелле, палоць проса, і канюшыну касіць пара.

Ад сына, відаць, ужо помачы не чакай: скруціўся з дому, разлайдачыўся, распіўся. Недзе па загальскіх хутарах з такою ж хеўраю, як і сам, сабакам сена косіць. Бунтуе, усё некаму грозіць. З карабінамі ды з наганамі ездзіць, не наваяваўся яшчэ! Андрэй гатоў быў аставацца пад германцам, абы толькі жыць спакойна давалі. Дык не, трасца іх матары, тухлая немчура! Прыгнала іх нялёгкая, аж сюды дапялі — жыта выграблі са скрыні, кумпякі паздымалі ў клеці. Колькі не бажыўся, што не бальшавік ён, а яны лыпаюць вачыма, як тыя совы на світанні, гергечуць, ды толькі зубы выскаляюць. Казік бы ім паказаў, каб са сваімі хлопцамі прыскочыў. Шукай ветру ў полі: гарцае недзе па ўдовах, як маладзенькі кныр.

Але ж і немцы трасцу спажылі. Кажуць, Салаўёва банда ўсё падчыстую адабрала.

Ад гэтых думак яшчэ большая нуда і злосць разбірала старога Ермаліцкага. Бальшавікоў ён ненавідзеў смяртэльнаю нянавісцю, можа, не так ненавідзеў, як баяўся іх парадкаў. «От пойдуць, бронь божа, немцы, тады зноў гэтыя Салаўі ды Ляўковы ўсходзяцца забіраць

зямлю, абразаць хутары, каб іх разачка рэзала. Няўжо Казік з Плышэўскім дапусцяцца, каб іх бацькоў гэтыя антыхрысты з торбаю пусцілі? У іх жа сіла! А Плышэўскі — галава, вучыцель яшчэ мікалаеўскі».

Трывожыла старога Ермаліцкага і Гэлька. Ён гатоў нават узяць прымака, але каб толькі шляхецкай пароды. Выгадней, канечне, прымака, можна пасагу не даваць і мець лішняга работніка. Абы толькі не гэтага злыдня!

А Гэлька стала рахманая і маўклівая, як авечка,— ад відна да цямна таўчэцца ў аборы і на полі, ды яшчэ і ў лес адскочыць, прыхваткам чарніц поўнае вядзерца набярэ. Маці не нарадуецца і не нахваліцца ёю.

Падаіла яна неяк досвіткам кароў, абула маршчакі, ухапіла вядзерца і кажа:

— За Гарэлым балотам ягад аж чорна, збегаю — пазбіраю.

І пайшла.

Але ні ў абед, ні на вячэру не дачакаліся Ермаліцкія дачку. Кінулася старая ў куфар, аж там — ні белага плацця, што яшчэ летась к вялікадню пашылі, ні чаравікаў на гузіках няма. Так і села каля куфра Анэта.

— Едзь, бацька, шукай. Ці не замуж гэтая дурніца збегла.

Але Гэлю ўжо нельга было вярнуць.

Даўно яна прыхавала пад вываратам клунак з падвянечным плаццем і хромавымі чаравічкамі, а калі ўвайшла ў лес, паклала яго ў вядро і пабегла ў гушчар. Абрасілася па высокім папаратніку і багунніку, зайшла за ядлоўцавыя кусты, сцягнула прапацелую кофтачку, скінула спаднічку. Азірнулася — ці часам не бачыць хто. Колкая галінка казытнула па голых плячах, ранішнім халадком абдало ўсё цела. На яе глядзелі замшэлыя вывараты і дуплаватыя дубы. Слёзы заказыталі ў горле — не падружкі і не маці адзяюць яе і заплятаюць пад вянец, не качаюць каравая і не спяваюць вяселльных песень. Толькі сосны шумяць ды яшчарка з трухлявага пня пазірае на маладую. Гэля нацягнула цеснаватае белае плацце, зграбныя чаравікі сціснулі растаптаныя за лета ногі. Склала свае транты ў вядзерца і пайшла да паваротькі, туды, дзе стаяла разбітая маланкаю хвоя. Ішла, крадучыся і азіраючыся, як злодзей. Так яно і было — яна крала сваё каханне ў лютага бацькі, у азвярэлага брата, што асіраціў Анікеевых дзетак, што рабаваў і забіваў ні ў чым не вінаватых людзей і туляўся па лясах і глухіх хутарах, як кручаны воўк. От, здаецца, свае кроўныя, а як яны агорклі ёй лютасцю і прагай, як іх ненавідзела і баялася Гэлька. Яна бегла па густым чарнічніку, высока паднімаючы прыпол сукенкі,

каб часам не запырекаць яго пераспелымі ягадамі. Слёзы самі каціліся па гарачых шчоках. Гэля іх не выцірала, а толькі час ад часу лавіла перасохлымі губамі.

Вось відна і дарога. У кустах фыркнуў конь і зашапацела прасвечанае сонечным слупам лісце. Гэля пабегла хутчэй, пераскокваючы праз пянькі і ламачча, збіваючы мухаморы і сыраежкі. З-за куста выйшаў Іван у наваксаваных ботах, у картовым пінжаку, у чорнай шапцы з блішчастым казырком. Ён пабег ёй насустрач, абняў, прытуліў, а пацалаваць не адважыўся — яшчэ ж не жонка.

— Прыйшла? От добра. І я толькі пад'ехаў. А старый не кінуцца?

Каля каня стаяў намнога старэйшы за Івана яго швагер і альховаю галінкай адганяў сляпнёў і мух з конскай морды.

— Давай, маладая, свой пасаг,— замест прывітання пажартаваў ён, узяў вядзерца з Гэлінымі трантамі, паставіў у перадок і прыкрыў свежанакошанай травою. Паправіў посцілку на возе, зацугляў каня.

— Калі хочаш украсці нявесту, дык барздзжэй паганяй,— сказаў ён Івану і ўскочыў у перадок. Маладыя паселі на посцілку. Заляскаталі колы па лясной дарозе, аб'язджаючы вёскі і бітыя гасцінцы.

З паркалёвай хустачкі Іван дастаў фату і вяночак з цупкіх белых кветак. Гэля намацала пад каўнерыкам іголку з доўгаю ніткай і пачала прЫіныватць вяночак да фаты.

Ляснымі дарогамі яны праехалі вёрст з дваццаць, аж у Лучыцы, і спыніліся каля цвінтара невялічкай драўлянай царквы. Наўкол нікога не было. У пяску, каля канавязі, грэбліся папоўскія індыкі, ды ў густым лапушніку рохкаў сыты падсвінак. Гэля сядзела адна на возе, а Іван са шваграм пабеглі ў папоўскі дом. Яны ўжо даўно згаварыліся з бацюшкам і заплацілі наперад тры пуды жыта.

Неўзабаве Гэля ўбачыла старога замшэлага попіка ў белым палатняным падрызніку і ў парудзелым ад часу саламяным капелюшы. За ім клыпаў у атопках на босую нагу гарбаценькі званар з безбародым тварам. Ён бразгаў цэлым перавяслам ключоў у руцэ, а следам ішлі Іван і ягоны швагер.

Адамкнулі царкву і пайшлі ўсярэдзіну. Іван прыбег да воза, узяў Гэлю за руку і павёў у цёмныя дзверы. У прытворы яна надзела фату з вяночкам і нясмела ўвайшла ў паўзмрок халаднаватай царквы. Каля аналоя гарэла адна свечка. На століку Гэля ўбачыла два мядзяныя пярсцёнкі, відаць, адкаваныя карпілаўскім кавалём з тоўстага мікалаеўскага пятака. Калі поп заспяваў: «Вянчаецца раба божая...» —над Гэлінаю галавой Іванаў швагер падняў бліішчасты вянец, падобны на царскую карону, а над Іванам трымаў вянец гарбаценькі званар. Пацалавалі халодны крыж, пацалаваліся з Іванам, надзеў поп ім на

пальцы тугія мулкія пярсцёнкі, перажагнаў вялікім евангеллем у аксамітных корках.

Вось і ўсё. Цяпер муж і жонка. А што далей? Ці адступяцца бацька і Казік? Ці дадуць спакойна жыць, няхай у беднасці, але так, як хоча сэрца? Ці дадуць з'есці нішчымніцу, не душачыся слязьмі? Гэля ледзь стрымалася, але не заплакала. Зняла ў прытворы фату, загарнула ў паркалёвую хустачку, і, ужо не хаваючыся ні ад кога, маладыя паехалі па шырокім гасцінцы ў Іванаву хату.

Старая Кавалевічыха, выціраючы хусцінкаю вочы, сыпанула ў сенцах маладым на галовы жменьку жыта і павяла ў хату.

— Прыгінайся, дачушка, каб не выцяцца.

За сталом у ружовай сацінетавай кашулі сядзеў Іванаў бацька, а поруч з ім увесь рэўком — Салавей, Ляўкоў і Малаковіч. Збоку на лаве — старэйшы Іванаў брат Атрахім і трое меншых хлопцаў.

Маладых пасадзілі на покуць, Гэлька зноў надзела фату, расчырванелася і ўсім усміхалася добрымі яснымі вачамі. У хаце было цемнавата, але агню не запальвалі — і вянчанне і вяселле былі таемныя, без музыкі і песень, без шумнае бяседы.

— Як толькі выкурым немцаў, мы такое вам вяселле закруцім, уся Карпілаўка ходарам пойдзе,— пазіраючы на маладых, казаў Салавей.— Хоць вы і павянчаліся, а мы вас усё роўна ў рэўкоме запішам, зямлі нарэжам самай лепшай, каня дамо, пару кароў —і жывіце на здароўе. А жыццё будзе такое, што нікому і не снілася.

—Дзе ж ты кароў тых набярэшся, Ляксандра? — хітра прыжмурыўшыся, спытаў Кандрат.

— Ці мала іх, дзядзька, у панскіх ды ў шляхецкіх аборах? Хто іх нагадаваў? Мужык? Мужыку яны і дастануцца.

— Хопіць вам, мужчынкі, гаманіць,— паднялася з рубчастаю чаркай у руцэ Кандраціха,— лепей выпіце з маладымі, каб ім добра жылося, елася ды пілося.

Усе чокнуліся з маладымі і выпілі разведзенага чарнічным сокам спірту з панскага бровара.

Крыху падпіўшы, Кандрат усё бубнеў на вуха Пракопу Малаковічу:

— Гэта ж трэба такая фацэцыя: Андрэй Ермаліцкі — мой сват. Трасцу! Я ўжо цяпер перад ім шапку не зніму, хоць ты зашмаргніся. Сват — значыць раўня. А Іван... што Іван? Не жаніўся — тры анучы, і ажаніўся — тры анучы. Адно, што дзеўка хвацкая! З такою не прападзе. Яна ж і дома варочала ўсю работу.

Як добра змерклася, госці разыходзіліся па адным. А маладых Кандраціха павяла спаць у свіронак, бо ў хаце было цесна і людна.

А назаўтра ранічкою каля Кандратавага двара спыніўся сівы стаеннік у яблыкі, і з лёгкай каламажкі злез каржакаваты і злосны Андрэй Ермаліцкі. Ён паляпаў у маленькую шыбіну пугаўём:

— Гэй, хто там е?

З сянец выйшаў босы Кандрат у залатаных зрэбніках.

— Ці не прыбілася да цябе мая блудная авечка? Свет аб'ехаў. Кажуць, тут яна.

— Авечак нямашака, а нявестку бог даў.

— Бог яму даў! Украў, зладзюга! Дзе яна? От я яе зараз — пугаю, каб сверб прайшоў.— І ён забегаў па двары, нібы кручаны.

Ад злосці хвастануў пугаю па акне, дзынкнула і рассыпалася шыбіна. З хаты выскачыў старэйшы Кандратаў сын Атрахім. Ён высмыкнуў пугаўё з Андрэевай рукі і сціснуў так за плячук, што той аж прысеў.

— Вон адсюль, пагань шэршань, каб і смуроду твайго не было,— гаркнуў ён на бацькавага «свата».

Ермаліцкі адразу пацішэў, але не здаўся.

— Зладзеі, убіўцы, дзіця роднае забралі, каб вам пуста было. Дзе ты там е? Марш дадому, сучка!

— Я табе зараз як суну, дык ты і пашчэнкі не збярэш,— замахнуўся абеіверанным кулаком Атрахім.

— Сыночак, не займай ты яго,— выскачыла з сянец Кандраціха.— Чаго, сваток, ужо так вытрэнчвацца? Няхай жывуць на здароўе. Венчаныя ж яны, венчаныя, муж і жонка ўжо. Зайшлі б лепш у хату ды пагаманілі, як людзі.

— Каб яна агнём пайшла твая хата. Якія там людзі? Старцы паганыя, на чужое дабро пагналіся. Трасцу вам, а не пасаг.— І ён скруціў куртатую дулю.— Ні шэлега не дастанецца. Няхай зараз жа аддае сукенку і чаравікі хромавыя. Чуеш? Дзе ты там туляешся?

Гэля ўсё чула, седзячы ў свіронку на цёплай пасцелі. Яна скруціла вянчальнае плацце, ухапіла зграбныя чаравічкі, якія абувала ўсяго разы са два, і ўсё выпхнула праз акенца, выпіленае ў бервяне свіронка.

Бацька адразу падскочыў да сцяны, ухапіў Гэльчыны ўборы і пачаў іх жмякаць у руцэ.

— А, от дзе ты, распусніца! — зароў ён ад злосці.— Марш дадому, блудніца! — затупаў Андрэй.

— Вы мяне толькі нежывую можаце забраць. А так не гнявіце бога і не смяшыце людзей, тата,— усхліпваючы, азвалася Гэля.

Стары Ермаліцкі аслупянеў з разяўленым ротам, потым тупнуў нагою.

— Пракляну нягодніцу! І вы ў мяне яшчэ паплачаце, гады! Ведзьмакі-і-і! Апаілі дурніцу любіснікам, цешцеся цяпер!

Ён павярнуўся да форткі, падняў з зямлі раменную дугу, а ў другой руцэ цягнуў па пяску белае плацце. Перакуліўся ў вазок і пачаў ад злосці хвастаць сівага стаенніка.

Гэля сядзела на ложку ў доўгай кужэльнай кашулі і горка плакала.

10

Ледзь не кожны тыдзень рудабельскія каапературыўшчыкі ездзілі ў Бабруйск па тавар. Ліакумовіч не шкадаваў ім ні мыла, ні газы, падкідаў трохі солі, часам даваў паркалёвых і канапляных хустак, а то і скрутак якое-небудзь «чортавае кожы» на штаны. Прывязуць Цімох з Мікодымам ці Сцяпанам скрынкі і мяхі, зачыняцца ў краме і пачынаюць шныпарыць: пад мылам — порах схаваны, пад запалкамі — патроны ляжаць, а з солі выцягваюць некалькі загорнутых у сальныя анучы наганаў. Раскладуць лістоўкі і газеты, напісаныя па-нашаму і па-нямецку. І... пайшоў гандаль. Глядзіш — за паўдня ўсё і разнеслі. Лістоўкі і патроны найбольш забіраў Раман Салавей: накідаюць яму ўсяго добрую торбу, зверху прыкрыюць кавалкам паркалю, пакладуць пару брускоў мыла — і патупаў стары. А куды ўсё дзецць, яму не трэба было пытаць.

Потым ідзе Архіп Ляўкоў, за ім — Андрэй Падута. Глядзіш, раніцою не толькі ў Карпілаўцы ці ў Рудні, а вёрст за дваццаць ад іх на платах вісяць лісткі, падпісаныя Бабруйскім павятовым камітэтам РКП(б): «Не давайце нямецкім акупантам вывозіць народнае дабро, раззбройвайце салдат, стварайце партызанскія атрады».

І зноў каля халопеніцкіх мастоў і ў Гатавіцкай пушчы грукаталі залпы, хлопцы і дзядзькі ў лапцях і світках, як прывіды, выскоквалі з лесу, заварочвалі фурманкі, забіралі ў салдат карабіны, а іх са звязанымі рукамі гналі назад. Немцы не вельмі супраціўляліся: ім і самім абрыдла гэтая валтузня, яны ведалі, што тут яны ненадоўга, а з дому даходзілі чуткі, быццам і там бунтуе народ.

Усё часцей у казармы і ў хаты, дзе стаялі немцы, траплялі невялічкія газеткі, У іх камуністы заклікалі нямецкі народ скінуць кайзера Вільгельма, як рускія скінулі цара, забраць панскія землі і заводы, пачаць будаваць новае жыццё ў вольнай Германіі. Салдаты чыталі і перачытвалі гэтыя лісткі, хавалі іх ад афіцэраў, шапталіся паміж сабою і не спалі начамі ў чужой, незразумелай і беднай лясной старане.

Яны неахвотна ехалі збіраць кантрыбуцыю, неахвотна ішлі вартаваць воласць і бадзяцца ноччу па сяле, каб епакойна спалі камендант і афіцэры. За сябе салдаты не вельмі баяліся. Партызаны папярэ-

джвалі, калі яны не будуць супраціўляцца, ніхто іх не зачэпіць. Так яно і было кожны раз. Толькі ўбачаць на дарозе ўзброеных сялян, адразу падымаюць рукі ўгору. Адстрэльвацца няма сэнсу, бо мужыкоў з вінтоўкамі заўсёды разы ў тры больш, чым канвою пры самым вялікім абозе. Толькі зірнеш, а партызаны сунуцца з-за кустоў і спераду, і ззаду, і з бакоў. Куды тут дзенешся? Ды многія і самі разумелі, што салдат ператварылі ў рабаўнікоў, што нельга забіраць хлеб у такіх жа сялян, як і яны самі, што трэба падтрымаць рускую рэвалюцыю, а не душыць яе. Адным словам — думай, салдат, як табе дажыць да сустрэчы з роднымі, а. яе кожны чакаў з тыдня на тыдзень, з дня на дзень.

Ідуць ноччу па сяле тры-чатыры салдаты з карабінамі. Бачаць, у хаце зырка гарыць лямпа, рыпае гармонік, бухае бубен з бразголкамі. Трэба ж паглядзець, што там такое. Зойдуць, грозна спытаюць: «Кто ест козяін?» — а дзяўчаты ўжо адсоўваюцца на лаўцы, даюць месца, сыплюць у жменю гарбузікі, запрашаюць на вальс.

Ну як тут быць суровым, калі сінявокая Дуня так падобна на ягоную Тэрэзу ці Марту? І хлопцы лагодна запрашаюць: «Korn, Kamerad, танчыць». Як утрымаешся? Аддае маладзейшы салдат патрымаць карабін таварышам, бярэцца за гарачы стан, кладзе руку на тугі. плячук і грыміць падкаванымі ботамі, аж лямпа трасецца. Глядзіш, і другі падахвоціўся, а старэйшы сядзіць на лаве, абняўшы тры карабіны.

Выйдуць на вуліцу, палезе каторы ў кішэню па запальнічку, а там ужо нешта шамаціць. Прыйдзе ў казарму, паглядзіць, аж — свежая газетка. А ў ёй пішуць, што ў Баварыі бастуюць панскія парабкі, у Мюнхене рабочыя выйшлі на вуліцы з чырвонымі сцягамі і віталі рускую рэвалюцыю.

Нямецкія камуністы заклікаюць салдат вяртадца на радзіму і пазярнуць штыхі супраць паноў і фабрыкантаў. От тут і разбярыся салдату! Прачытае і хочацца з некім параіцца, разам падумаць. Цішком ткне газетку суседу, свая ж, нямецкая. «Паглядзі, інто пішуць. Выходзіць, і дома неспакойна. Ды і жонка намякала ў лісце, што бурліць народ».

Так і ходзіць з рук у рукі лістоўка ці газета, якая невядома адкуль трапіла ў салдацкую кішэню.

Камендант зелянее ад злосці, што наўкол дзейнічаюць нейкія варожыя сілы, што яны пранікаюць не толькі ў казарму, не толькі ў салдацкія галовы, а дабраліся да яго ўласнай кішэні.

Ён не ведае, што рабіць, бо амаль нічога не ўдаецца вывезці на станцыю і аднравіць у Deutschland. «Бандыты» перапыняюць усе

абозы і раздаюць дабро тым, у каго з такімі цяжкасцямі ўдалося яго знайсці і забраць. А салдат на чарговую «аперацыю» даводзіцца гнаць сілаю. Усе яны нечага шэпчуцца і адразу змаўкаюць, як толькі з'яўляюцца афіцэры.

Камендант забараніў на сяле ўсялякія «зборышчы» і ігрышчы. Толькі праўленне кааперацыі мае дазвол раз на тыдзень збірацца ў краме або ў школе. Колькі разоў у краму заходзіў патруль, ды і сам камендант не-не і зазірне на пасяджэнне: сядзяць, гамоняць, нешта падлічваюць, а то і сварацца, кураць такі самасад, што аж лямпа ўсхліпвае. Паслухае, паслухае ён, нічога не разбярэ і пойдзе. Разы са два прыводзіў ён да «кааператараў» Лізу. Яна перакладае, колькі селядцоў прадалі, колькі хустак і солі, што трэба прывезці, з каго спагнаць паі.

Апошнім разам, калі камендант, махнуўшы рукою, пайшоў за дзверы, старшыня падраённага камітэта партыі бальшавікоў і валрэўкома Аляксандр Салавей усміхнуўся і сказаў:

— Працягнем, таварышы, партыйны сход. Наша арганізацыя стварыла свае ячэйкі ў Лучыцкай, Парыцкай, Ляскавіцкай і Глускай валасцях. Усе члены партыі і чырвоныя партызаны маюць такую-сякую зброю і гатовы біцца, а калі трэба, дык і памерці за ўласць Саветаў. Але, таварышы, павятовы камітэт папярэджвае, каб не было неарганізаваных, непатрэбных нападаў на немцаў. Многіх мы ўжо схілілі на свой бок, яны не толькі нам спачуваюць, але часам і памагаюць. Згодна ўмове з нашым урадам немцы хутка павінны выйсці з Беларусі. Толькі трэба іх адправіць з тым, з чым яны прыйшлі. Не даць ніводнай парушынкі. Думаю, гэта нам удасца. Але, таварышы, вы ж ведаеце, што ў Загальскіх балотах, ды і тут па хутарах яшчэ лазяць шляхецкія бандзюкі — Казік Ермаліцкі, Плышэўскі, браты Перагуды і ўся іх хеўра. Яны ўжо нямала забілі нашых людзей. А як толькі акупанты выедуць, от пабачыце, з'явяцца сюды. Цяпер немцы ахоўваюць Беркаў, Мёдухаў, Харомнае і Сераброн — усе котлішчы шэршняў. А як толькі пачнём дзяліць іх зямлю, прыйдзецца стукнуцца лбамі з гэтаю шляхецкаю зграяй. Так што перадайце сваім хлопцам, калі дзе каторага запарвуць, хай судзяць так, як яны асудзілі Анікея.

Потым Салавей паведаміў, што ў тую нядзелю ў Гатавіцкім лесе, каля «цудатворнай» капліцы, будзе вялікае набажэнства. От там можна і сабрацца ўсім камандзірам атрадаў, узводаў і партыйцам-бальшавікам.

...Як толькі наступаў маладзік, да крынічкі, над якою стаяла замшэлая каплічка, з'язджаліся і сыходзіліся людзі за дваццаць і за

трыццаць вёрст. Ішлі калекі і сляпыя са сваімі немачамі, жанчыны і дзядзькі, старыя і дзеці. Вакол капліцы рассаджваліся барадатыя лірнікі і абшарпаныя жабрачкі. У царкве правілі аж тры папы: спявалі, хрысцілі, свянцілі ваду, з пратэсамі хадзілі вакол крыніцы. Збіраліся сюды хлопцы і дзяўчаты. Пастаяць трошкі ў царкве і разыходзяцца купкамі па лузе ды па дубняках. Пасля гэтых набажэнстваў і траплялі кашэвіцкія дзяўчаты замуж у Карпілаўку ды ў Курын, а рудабельскія — у Ляскавічы ці ў Забалацце.

Пры немцах каля капліцы ўжо не было ранейшых кірмашоў, не прадавалі ні ружовых пернікаў, ні доўгіх цукерак з кутасамі. А народу збіралася шмат. Адны — каб памаліцца за душу «убиенного раба божия», другія — набраць святой вады ад ліхаманкі ці ўроку, іншыя — пабачыцца з братам ці сватам, пагаварыць з кумам, якога даўно не сустракаў. А маладыя, як казалі вясковыя бабулькі,— каб пакруціць хвастамі.

Апошні час да капліцы хадзілі «недавяркі» і «кааператыўшчыкі», лузалі гарбузікі, смяяліся, пілі свянцокую вадзічку і бадзяліся па лесе.

У гушчар ляснымі сцежкамі прыходзілі Салавей з Ляўковым, Пракоп Малаковіч з Лявонам Адзінцом. Вакол іх лажыліся на траву хлопцы з Каткі і Зубарэвіч, Шкавы і Завалёнаў. Для прыклепу ставілі пляшку, раскладалі лусты хлеба з салам, каб часам якінебудзь Каленік не расшалопаў, што і тут сабраліся «рэўкомшчыкі», або калі наскочыць нямецкі афіцэр з патрулямі,— няхай усэ выглядае, як у людзей.

Камандзіры ўзводаў расказвалі, хто яшчэ запісаўся ў партызаны, колькі ёсць вінтовак і дубальтовак. Але ўсе ў адзін голас жаліліся, што мала патронаў і пораху.

Хлопцы за пазухі расгііхвалі свежанькія лістоўкі, аддрукаваныя ў Смаленскай і Бабруйскай друкарнях ці адціснутыя на шапірографе. Збіраліся невялічкімі кампаніямі і разыходзіліся хто куды. У розныя бакі ішлі рэўкомшчыкі. Начаваць ім на адным месцы не выпадала: Харомнае, дзе Аляксандраў бацька арандаваў зямлю, было гняздом лютых шляхцюкоў, там кожны гатоў быў Раманавага сынка жыўцом падсмажыць на ўласным мезенцы. Таму Аляксандр дзе дняваў, там не начаваў. Толькі Марылька і ведала братаў прыстанак. Прыходзіла часам да яго, прыносіла чыстую кашулю, а калі-нікалі і скварку.

Пад восень разам з Цімохам Валодзькам на кааператыўнай фурманцы Аляксандр паехаў у Бабруйск. Пропуск яму выдаў валасны стараста Міхал Званковіч і сказаў:

— Тут, браце, усё па форме. Хоць да самога Вільгельма едзь, ні адзін сабака не гаўкне.

І праўда, ехалі як мае быць. Разы са тры спынялі нямецкія патрулі. Гляне каторы на вялікую сінюю пячатку з арлом, ткне назад цупкую карталюшку, буркне: «Fahr!»[1] —і зноў ляскочуць колы па выбоінах і лужынах шляху.

У Бабруйску Цімох паехаў на склад да Ліакумовіча, а Салавей злез каля знаёмай чайной. За сталамі сядзела некалькі вясковых дзядзькоў са сваімі торбамі. Пілі чай гаманкія бабруйскія рамізнікі і мурзаты чыгуначны качагар. З баковачкі зіркнулі прыгожыя чорныя вочы тае самае Розы, якую Аляксандр бачыў і тут і ў кнігарні старога Агала.

Яна спачатку па дышла да качагара, паставіла перад ім талерку бульбы з селядцом, потым пачала змятаць крошкі са стала, за якім сядзеў Аляксандр. Яна ледзь прыкметна ўсміхнулася яму і шапнула:

— Каля могілак на Інваліднай вуліцы, у доме чатырнаццаць, спытайце, ці не трэба дровы. Калі пацікавяцца, якія, адкажыце — грабовыя.— А праз хвіліну прынесла дзве шклянкі цыкорыі, сунула ў кішэньку маркі і знікла за шырмачкай.

Аляксандр выпіў абедзве шклянкі горкай цыкорыі, выйшаў з чайной і падаўся ўніз па Скобелеўскай вуліцы. Каля лазні завярнуў на гліншчы і нарэшце выбіўся на вузкую брудную вулачку. Як толькі ён увайшоў у цёмныя сенцы, дзверы з хаты адчыніліся, і Аляксандр адразу пазнаў рудаватую чупрыну Барыса Наймана. Ён стаяў з намыленай шчакою і з брытваю ў руцэ. Аляксандр узрадаваўся яму, як роднаму брату.

— Калі прывёз грабовыя дровы,— садзіся,— паціснуўшы руку, пажартаваў Барыс.— Навіну чуў? У Германіі рэвалюцыя. Так, так, рэвалюцыя. Самая сапраўдная. Вільгельм уцёк некуды за мяжу. Берлін бурліць, дэманстрацыі, мітынгі, створаны саветы, армія развальваецца. А тут генералы трымаюць гэтыя весткі ў сакрэцэ ад салдат.

Ён рукавом сдёр мыла з недаголенай шчакі і выбег у другі пакой. Адтуль вярнуўся са стосікам лістовак.

— Вось, трымай!

Салавей узяў яшчэ ліпкія сінія лісткі, спісаныя ад рукі нямецкімі літарамі. Зверху ён прачытаў: «Genossen Soldaten!»[2]

— Гэта зварот павятовага камітэта да нямецкіх салдат. Мы віншуем іх з рэвалюцыяй, заклікаем хутчэй вярнуцца дадому і стаць на абарону рэвалюцыйнай Германіі. Тут жа і патрабаванне да камандавання — выканаць умовы дагавору і да кастрычніка месяца

---

[1] Едзь! (ням.)
[2] Таварышы салдаты! (ням.)

вывесці войскі з нашай тэрыторыі. Лістовачка гэтая нам дорага абышлася. Таварыша Балашова ведаеш?

— Як жа не ведаць Паўла Міхайлавіча!

— Схапілі яго ноччу. Сядзіць у крэпасці. Х шапірограф на кватэры знайшлі. Мы з ім разам друкавалі. Я панёс адзін пачак сюды, а раніцай хацеў забраць астатняе. Толькі сабраўся, а там ужо, кажуць, у сенцах два немцы сядзяць. Чакаюць, хто прыйдзе. Але не дачакаюцца. Так што забірай і ідзі секчы грабовыя дровы.

— А як жа таварыш Балашоў? Хто навёў на яго? Гэта ж трэба ведаць! — захваляваўся Салавей.

— Павел Міхайлавіч маўчаць умее. А правакатара ці шпіка знойдзем. І судзіць будзем па законах рэвалюцыйнага сумлення.

— Як бы мне пабачыцца з таварышам Ра... — Аляксандр ніяк не мог прывыкнуць даўно знаёмага Равінскага называць іншым прозвішчам.

— З таварышам Раеўскім пакуль што сутракацца небяспечна табе і яму. Нямецкае камандаванне нібы з ланцуга сарвалася, баіцца, каб ад нашай агітацыі салдаты не паднялі на штыхі сваіх камандзіраў. Палявая жандармерыя скрозь нюхае, як гайня ганчакоў. Але скакаць ім засталося нядоўга. У жніўні ў Смаленску праходзіла абласная канферэнцыя падпольных арганізацый Літвы і Беларусі. На яе ад нас і ездзіў якраз таварыш Балашоў. Там створаны краявы падпольны камітэт. Рашэнне такое: гнаць немцаў з нашай тэрыторыі, не дазваляць ім рабаваць сялян і панскія маёнткі. Маладых хлопцаў прызыўнога ўзросту вербаваць у Чырвоную Армію.

— Завербаваць завярбуем, а куды іх дзенем, тых добраахвотнікаў? — перабіў Барыса Салавей.

— Слухай сюды: з Смаленска прысланы спецыяльныя людзі. І ў вас ёсць такі чалавек. Касарычы ведаеш?

— Ды ў мяне палавіна атрада — касарыцкія.

— От і добра. У Касарычы паехаў Косця Пінчук. За каго ён сябе выдае, няважна. З ім звяжыся і пачынай падбіраць надзейных чырвонаармейцаў. А таварыш Пінчук ведае, куды іх і як пераправіць. — Найман устаў з крэсла.— Што рабіць, ты ведаеш. Абстаноўка ясная. У наступны раз прыедзеш, будзеш жаданым госцем. А цяпер знікай. Ідзі за цагельню, а там глінішчамі выбірайся ў горад. Больш нікуды не заходзь і не будзь разявакаю.

Салавей распіхаў лістоўкі за падкладку саматканага суконнага фрэнчыка і за пазуху, развітаўся з Барысам і зараслаю пераспелымі каноплямі мяжою пайшоў у глыбокае глінішча.

Дадому ён ехаў на рагожных кулях з таранамі. Цімох сядзеў у перадку і хваліўся, чаго яму напакаваў Ліакумовіч:

— Каб ірванула ўсё, што пад намі, не тое што нас, ад каня вухналя не знайшоў бы.

Яны разы са тры заварочвалі ў густы хмызняк, скублі з нечых стагоў сена, кармілі каня і самі грэліся пад стагамі.

Было пахмурна і золка. Насохла і пачарнела атава, вецер гнаў вузкае лазовае лісце, і часамі здавалася, што няма ні баёў, ні немцаў, ні шляхецкіх бандаў. Над галавою — нізкае хмарнае неба, а наўкол лугі з высокімі прысадзістымі стагамі і цішыня.

Калі ўехалі ў панскі лес, заімжыў ціхі позні дождж. Салавей накрыўся вялікаю шарачковаю світай, каб не замоклі лістоўкі над фрэнчам. Яны мелі большую сілу, чым уся Цімохава здабыча, схаваная над таранамі і мылам. Наступалі рашаючыя дні: гнаць немцаў, раздаць унодзям зямлю, пачаць новае волькае жыццё. Прыйшла пара дзейнічаць.

Не даязджаючы да сяла, Салавей саскочыў з воза.

— Ну, я пайшоў,— сказаў Цімоху,— а ты сёння спраўней «гандлюй» і перакажы ўсім нашым, каб пад вечар збіраліся на Заечым хутары. Чуеш?

— Чую, таварыш камандзір.

Цімох хвастануў ляйчынаю па мокрых клубах каня і паехаў у вёску.

Постаць Салаўя знікла за голымі кустамі ў мітульзе дробнага дажджу.

У той жа дзень пасля паўдня ўжо кожны нямецкі салдат ведаў, што прыйшоў канец дынастыі Гогенцолернаў, што ў Германіі ргзалюцыя.

— Каму цяпер служыць? — пыталіся яны адзін у аднаго і перадавалі аддрукапаиыя на шапірографе лістоўкі тым, хто іх яшчэ не паспоў прачытаць.

Камендант аж лопаўся ад злосці.

— Хлусня, бальшавіцкая правакацыя! Зараз жа сабраць і здаць мне паганую брахню! Хто занёс сюды гэтую заразу? Абшукаць вёску і даставіць мне бунтаўшчыкоў.

Салдаты не варушыліся. Адны змрочна маўчалі, другія не хавалі сваёй радасці.

Афіцэры бегалі па дзядзінцы і збіралі пакамечаныя сінія лісткі, выварочвалі салдацкія кішэні, але там ужо нічога не было. Кожны адказваў:

— Падняў на зямлі, прачытаў і кінуў.— І тут жа наіўна пытаўся: — Хто ж цяпер будзе правіць Германіяй?

— Кайзер Вільгельм другі,— агрызаліся афіцэры.

Камендант адчуваў, што трапіў у пастку, што наўкола дзейнічаюць нябачаныя бальшавіцкія сілы, але дзе, хто яны? Няўжо тыя няўлоўныя бандыты, што перапыняюць абозы і раззбройваюць салдат? Мала ім гэтага, дык яшчэ тлумяць галовы салдатам арміі «яго імператарскай вялікасці». Пакуль што ніякіх новых указанняў ад вышэйшага камандавання няма. Значыць, трэба дзейнічаць, як было загадана. Але з вёсак нічога нельга вывезці, значыць, трэба пагрузіць тое, што ёсць у маёнтку. І салдаты пацягнулі з панскіх свірнаў на параконныя фуры і на паходныя двухколкі мяхі жыта і грэчкі, кубельцы з салам, пакацілі з бровара бочкі «шнапсу», з пакояў выцягвалі персідскія дываны і пуховыя падушкі. Рабілі яны гэта весела і спорна.

А Урангелеў упраўляючы, разгублены і перапалоханы Мікалай Мікалаевіч, бегаў па двары ад воза да воза і толькі крычаў: «Was machen Sie»?[1] Камендант З ім гаварыць не захацеў. Ён загадаў усё гэтае дабро пад самым узмоцненым канвоем раніцою адправіць на станцыю, пагрузіць у вагон і пад аховаю даставіць у Германію. На ноч вакол маёнтка выстаўлялася самая вялікая варта.

А ў гэты час у хаце Архіпа Ляўкова сабраўся ўвесь Рудабельскі рэўком.

— Хопіць агітаваць, таварышы, пара дзейнічаць.— І Салавей расказаў пра ўсё, аб чым даведаўся ў Бабруйску.— Захапіць воласць, не даць немцам вывезці нарабаванае дабро і патрабаваць, каб зараз жа вывелі войска з Рудабельшчыны — такая задача на гэтую ноч і раніцу. Я прапаную такі план: атрад Максіма Ляўкова раззбройвае варту ў валаснай управе і займае Карпілаўку, у гэты час атрад Нічыпара Званковіча ідзе на Новую Дуброву, Максім Ус са сваімі хлопцамі зоймуць Лескі. А мы з Анупрэем захопім маёнтак. Паспрабуем дагаварыцца з камендантам. І папярэдзьце хлопцаў, каб абышлося без крыві. У Германіі рэвалюцыя, многія салдаты — левыя сацыял-дэмакраты і камуністы. За што ж іх забіваць? Ды і самім гінуць няма сэнсу. А там, дзе страляюць, куля не пытаецца, хто ты і колькі ў цябе дзяцей.

— Сярод немчыкаў е такія хлопцы, што хоць ты іх у зводныя бяры,— азваўся Максім Ус.— Самі гэтага рудога каменданціка на растанцовым крыжы разапнуць.

---

[1] Што вы робіце? (ням.)

— Атрады збіраюцца на Заечым хутары. Узбройваюцца, хто чым можа. Каб відно было, што і мы не з голымі рукамі,— загадаў Пракоп Малаковіч.— А цяпер кожны сваёю сцежкаю — на хутар!

...На той самай паляне сабраліся сотні чатыры мужчын з карабінамі, дубальтоўкамі, драбавікамі, у каго тырчаў наган за папругаю. А дзед Цярэшка пачапіў цераз плячо доўгую стражніцкую шаблю з раменным кутасікам. Каб не цягалася па зямлі і не біла па пятах, прытрымліваў яе рукою. Шапка ў яго з'ехала на адно вуха, рэдзенькая бародка задралася ўгору. Глядзяць на яго маладзейшыя і ўхмыляюцца, а ён пахаджвае ад аднаго да другога, часам высмыкне шаблю і выхваляецца:

— Калі хочаш, пабрыю; на, памацай, як агонь. На трох брусках даводзіў. Запусціў Мініч. Няйначай, стражнічыха кормнікам зелле секла.

— Ты цяпер, дзед, як генерал Скобелеў. Глянуць немцы і — куды каторы,— пажартаваў Ус.

— Няма чаго выскаляцца, Максімка, Тут стараешся, каб як лепей, а яму ўсё смешкі з дзеда Цярэшкі. Гэта ж не абы-якая сашка, гэта, калі хочаш, баявая трахвея. Не ўцэліў тады ў гэтага злыдня сякераю, і ты паленаваўся прабегчыся, каб пераняць рудога сабаку, дык от ускочыў з гарачкі ў яго фацеру і забраў етую мешалку. Трахвей, браце. Бач, і з кутасікам.

Мужчыны дабрадушна смяяліся з гаваркога і заўсёды пацешнага Цярэшкі.

На паляну выйшаў Аляксандр Салавей. На ім быў вайсковы фрэнч, падпяразаны шырокаю папругай, зялёная, яшчэ з мікалаеўскага войска шапка, а на раменьчыку чырвоная стужка, няйначай, Марыльчын каснік.

Гамана адразу сціхла. Усе бліжэй падыходзілі да Салаўя. Абапіраючыся на стрэльбы, курылі і слухалі, што скажа старшыня рэўкома.

— Таварышы партызаны і рэвалюцыйнае сялянства! Нямецкай акупацыі прыйшоў канец. Па дагавору з Савецкім урадам немцы павінны ўжо ачысціць тэрыторыю Беларусі. Але камандаванне адцягвае вывад войск. Відаць, мала яшчэ набраліся ў нашых сёлах. Яны цяпер выграбаюць усё ў панскім маёнтку, забіраюць кароў і коней, каб везці ў Германію. Хіба ж гэта панскае дабро?

— Вядома, наша! — загуло некалькі галасоў.

— Раніцою мы прапануем немцам ачысціць воласць і пакінуць усё, што яны нарабавалі.

— Біць гадаў трэба! А вы цацкаецеся з імі, просіце ды ўгаворваеце. Прадаліся германцу, таварышы камісары, немчуру шкаду-

еце,— закрычаў, праціскаючыся з натоўпу, малады кучаравы матросік.— Калі баіцеся, я павяду. Хто за мною, мужчыны? — Ён расплікнуў бушлат, паказваючы паласатую цяльняшку, выхапіў наган, гатовы адразу рынуцца ў бой.

— Заткніся, ваяка,— згроб матросіка за плячук ледзь не ўдвая большы за яго Максім Ус.

Партызаны глядзелі, што з гэтага будзе.

— І адкуль ты такі сыскаўся, што трашчыш, як старыя порткі? — падышоў да яго, трымаючыся за шаблю, дзед Цярэшка.

— Цішэй, мужчыны,— супакойваў Салавей.— Тут таварыш Ступень кажа, што мы прадаліся немцам...

— Ат, балбоча дурань абы-што. Няма чаго слухаць,— загуў Мікодым Гошка.

— Яму хочацца страляць, абы кроў лілася. А мы хочам жыць на вольнай савецкай зямлі. І нямецкія салдаты няхай жывуць. Яны ж такія рабочыя і сяляне, як і мы. Дома ў іх дзеці. і жонкі. У Германіі адбылася рэвалюцыя, Вільгельма болей няма, Сярод салдат ёсць сацыял-дэмакраты і камуністы. У каго ж мы будзем страляць? У каго будуць страляць яны? Зброю мы не выпусцім, але яна павінна быць у разумных руках. Прымусяць страляць, будзем страляць. Але не забывайцеся, што ў іх кулямёты, вінтоўкі, гарматы. А што ў нас? Толькі мы тут гаспадары, за намі праўда і сіла. Страляць толькі ў крайнім выпадку. А цяпер слухайце.— Салавей выцягнуў з кішэні аркуш паперы і пачаў чытаць:

— «Загад № 1 Рудабельскага валаснога рэвалюцыйнага камітэта. 23 лістапада 1918 года.

У дзве гадзіны ночы на 24 лістапада атраду Максіма Ляўкова выступіць у Карпілаўку, абяззброіць ахову валасной управы і ўстанавіць Савецкую ўладу. Атрад Максіма Уса зойме вёску Лескі. Атрад Нічыпара Званковіча — Новую Дуброву. Атрадам Драпезы і Салаўя заняць маёнтак барона Урангеля.

Ва ўсіх вёсках устанавіць Савецкую ўладу і арганізаваць камітэты беднаты, якія павінны падзяліць панскую і шляхецкую землі».

І адразу ўсе загаманілі.

— От ета справядліва.

— Так даўно трэ было.— Цярэшка падступіўся да Івана Кавалевіча.— Забярэш цесцеў футар і раскашавацца будзеш.

— Хай ён задушыцца тым футрам,— адказаў Іван.

Атрады пачыналі разыходзіцца. Мужчыны, стукаючы лапцем аб лапаць, ботам аб бот, хаваліся за разлапістыя яліны ад сівернага

ветру, што працінаў сухім холадам і гнаў на небе сівыя хмары з белымі грабянцамі.

Не ведаў толькі крыклівы матросік Ступень, да каго прыткнуцца. Яму самому хацелася камандаваць. Але што адзін зробіш?

— Станавіся, Аляксей. Пойдзем на Лескі.

Матрос паслухаўся Уса і моўчкі стаў у строй.

Атрады зніклі ў лесе. Толькі шаргацела пад нагамі мёрзлае лісце, патрэсквала ды хвастала па спінах яловае вецце. Паляна апусцела.

...Ноччу ўсхадзіўся вецер. Карпілаўка спала глыбокім сном, толькі сям-там брахалі сабакі ды рыпелі над студнямі вочапы. У цемені мігцеў і калыхаўся адзіны агеньчык. На яго асцярожна рушыла з паўсотні партызан на чале з Ляўковым. Астатнія абкружылі вёску, каб часам з яе не выскачылі патрулі і не паднялі трывогі.

На ганак валасной управы ўзышоў стараста і пагру» каў у дзверы.

— Wer ist hier?[1] — пачулася з сярэдзіны.

— Адчыні, гэта я, стараста. Ну, Міхал Званковіч. Хіба не ведаеш? Камендант паслаў.

За дзвярыма прагрукалі падкаваныя боты, зарыпела завала, незадаволена забурчаў спрасоння салдат. Як толькі дзверы адчыніліся, у калідор ускочыў Максім Ляўкоў з наганам у руцэ і ўхапіў салдата за папругу. Вінтоўка яго стаяла прыпёртая да стала. Немец спалатнеў і пачаў паднімаць рукі ўгору.

— Не бойся, камрад. Wir sind Kommunisten. Sie fahren nach Hause nach Deutschland[2],— спакойна загаварыў Максім, падбіраючы нямецкія словы, якія ён трохі помніў з школьных часоў. Следам за ім зайшло чалавек восем мужчын з карабінамі і стрэльбамі. Маленькі і жвавы Цімох Валодзька адразу падбег да стала і ўхапіў карабін. Немца пасадзілі ў кут. Ён больш за ўсё здзівіўся, што сярод «бандытаў» убачыў прадаўца з крамы, увішнага і ветлівага хлопца з доўгім носам і чорненькімі мышынымі вачамі. Пазнаў ён яшчэ некалькіх хлопцаў, якіх сустракаў на вечарынках, і крыху супакоіўся.

— Прымай, таварыш Ляўкоў, воласць. Здаю ў поўным парадку,— сур'ёзна сказаў Званковіч.

Неўзабаве партызаны прывялі яшчэ чатырох раззброеных немцаў і пасадзілі побач з валасным каравулыіым.

Іван Кавалевіч аж захліпваўся, расказваючы пра сваю першую баявую аперацыю:

---

[1] Хто тут? (ням.)

[2] Мы камуністы. Едзьце дахаты, у Германію (ням.).

— Стуліўся ён, небарака, пад Марцінавым гумном, каўнер наставіў і дрэмле. А мы ці-і-і-хенька падкраліся, за ветрам яно не чутно, наставілі чатыры рулі ды як гаркнем: «Здавайся!» Ён так і сеў.

На зборні, у калідоры і ў пакоях грэліся, курылі і гаманілі партызаны. Вакол валасці стаяла варта. Па беразе Нератоўкі і на мосціку паміж маёнткам і вёскаю расцягнуўся партызанскі ланцуг. Усе чакалі світання, Раніцай будзе відаць, як усё павернецца і чым кончыцца.

Максім Ус больш верыў сваім вачам, чым чужому слову. Таму і хадзіў у разведку заўсёды сам. Атрад яго без бою заняў Лескі. Выставілі дазоры на вуліцы і за аселіцаю, а чалавек з паўсотні разам з камандзірам лесам выйнілі на шлях, які вёў з маёнтка на Ратміравічы. Партызаны ведалі: пакуль не развіднее, немцы нікуды не выязджаюць. А глыбокай восенню світае позна, вось і чакалі.

— Лепей сустракаць, чым даганяць,— гаварыў Максім. А сам усё выходзіў на шлях і прыслухоўваўся, ці не рыпяць колы і ці не ржуць коні.

— Такі разведчык за вярсту відзён,— жартавалі хлопцы.—Ты б хоць трохі ўгінаўся, Максім, а то шапку саб'юць.

— Бацька новую купіць,— пасміхаўся камандзір.

І вось у сінечы халоднага світання на бальшаку закалываліся дугі, замыкалі прывязаныя да вазоў каровы. Доўгі абоз асцярожна ўязджаў у лес. За фурманаў былі салдаты з карабінамі на плячах. Яны ехалі крадучыся, нават не нокалі на коней, не гаварылі паміж сабой. Гэта былі пераважна пажылыя людзі, відаць, прывычныя да работы на конях і на зямлі. Па сярэднім возе на мяхах сядзеў малады афіцэрык. Як толькі абоз уехаў у партызанскі ланцуг, з-за прыдарожных хвояў і ядлоўцавых кустоў, нібыта з-пад зямлі, вырасла цэлая армія ўзброеных сялян. А ў страху вочы вялікія. Афіцэрык саскочыў з мяхоў і ўхапіўся за кабуру. Максім так грымнуў яму ў карак, што той носам заараў мокры пясок. Партызан наступіў яму каленам на спіну, намацаў кабуру і так ірвануў, што яна адскочыла ад папругі разам з вушкамі. На кожнага салдата навальвалася па двое, а на некаторых і па трое партызан. Хлопцы Максіма Уса наскочылі так неснадзеўкі і ціха, што ніхто і войкнуць не паспеў. Коні з перапуду храплі і спрабавалі вылузацца з хамутоў, рыкалі і ўпіналіся прывязаныя да вазоў каровы. Максім адною рукой, нібы тое кацяня, падняў і паставіў афіцэрыка, памахаў далонню перад руляю нагана — «Страляць не трэба» — і скамандаваў:

— Паварочвай!

Салдат пасадзілі на вазы, далі ім у рукі лейцы, а самі з вінтоўкамі ў руках пайшлі побач. У многіх на плячах вісела яшчэ па карабіну.

Пад'язджаючы да маёнтка, партызаны ўбачылі каля брамы вялізны натоўп людзей. У пярэдніх радах стаялі ўзброеныя хлопцы з атрада Салаўя і Драпезы, а за імі — карпілаўскія дзяды, кабеты і пранырлівыя хлапчукі — усім хацелася паглядзець, «як партызаны будуць выганяць немцаў».

Брама адчынілася, і абоз уехаў на прасторны дзядзінец. Усавы хлопцы паадвязвалі кароў, і тыя, нібы з разніцы, памчаліся да аборы.

Павыпрагалі коней. Перад ганкам стаяла чалавек пятнаццаць партызан. Тут былі Ляўкоў, Лявон Адзінец, Пракоп Малаковіч, Нічыпар Званковіч. Да каменданта туліліся чатыры афіцэры, насупраць іх стаяў Аляксандр Салавей.

Ліза, у чорным палітончыку і ў клятчастай хусцінцы, умасцілася на сярэдняй прыступцы, паміж Салаўём і камендантам.

— Па ўмове, заключанай Савецкім урадам, вы павінны былі ачысціць усю занятаю тэрыторыю к пачатку кастрычніка,— гаварыў Салавей.— Сёння дваццаць чацвёртае лістапада, а вы не думаеце выязджаць. Забіраеце наш хлеб, вывозіце кароў. Гэта — рабаўніцтва, пан камендант. Мы не хочам праліваць ні вашай, ні сваёй крыві. А ў нас дастаткова зброі і людзей, каб прагнаць вас сілаю.

Ліза таропка, каб нічога не прапусціць, усё пераказвала каменданту. Той стаяў прама, як тычка, хмурыў бровы і варушыў закручанымі ледзь не да самых вушэй вусамі.

— Я — салдат і падпарадкуюся толькі свайму камандаванню. Будзе загад адступіць — адступім, не — не,— адсек камендант.

— У вас ужо няма камандавання. Вы павінны выконваць загады рэвалюцыйнай Германіі і Савецкага ўрада,— парнуў у самае балючае месца Салавей. Камендант аж затупаў нагамі.

— Гэта правакацыя! Вы сваімі паганымі ліcткамі разлажылі маіх салдат.

— Вашых салдат чакаюць дома. Тут ім няма чаго рабіць,— спакойна адказаў Салавей.— Рэвалюцыйны камітэт катэгарычна патрабуе сёння ж вывесці ўсе войскі з маёнтка і з усіх вёсак воласці. Мы катэгарычна забараняем рабаваць народнае дабро. Любая спроба што-небудзь вывезці будзе спынена зброяю партызан.

Як толькі Ліза пераклала, твар каменданта скрывіўся ад лютай нянавісці і бяссільнай злосці. Ён ужо не верыў у сваіх салдат: яны, як тыя ягняты, здаваліся нартызанам без адзінага стрэлу, дрыжалі за сваю скуру. Але і яму яна была дарагая. Што за сэнс гінуць ад мужычае кулі ў дзікай лясной старане. І адразу згадзіцца з гэтым спакойным і ўпэўненым «камісарам» не дазваляла афіцэрская фанабэрыя. Камендант мармытаў, што павінен узгадніць з камандаваннем,

даводзіў, што ўрад Беларускай народнай рады просіць нямецкія войскі ахоўваць парадак на занятай ім тэрыторыі.

— У нас ёсць адзін урад, Савецкі. Ад яго імя мы і патрабуем сёння ж к пяці гадзінам вечара ачысціць Рудабельскую воласць. Партызанскія атрады не скрануцца з месца, пакуль не выйдзе апошні нямецкі салдат. Ідзіце. Ніхто вас і пальцам не кране. Не паслухаецеся, прымусім сілаю.

Салавей дачакаўся, пакуль Ліза пераклала яго апошнія словы і, не слухаючы адказу каменданта, павайсковаму павярнууўся і пайшоў да брамы. Следам рушылі яго таварышы.

Каля свірна хлопцы згружалі з фурманак мяхі з жытам і лаяліся.

— Хай бы гэтыя бугаі і цягалі.

— Бач ты, панасыпалі, як завязаць.

— Памажы, а то чаго добрага кіла выскачыць.

Тут жа круціўся і Цярэшка, прытрымліваючы сваю шаблю.

— Скінуў бы, дзед, бо пяты ўсе пааббіваеш,— жартавалі хлопцы.

— От як пойдуць гэтыя ірады, бабе аддам падпалку шчапаць. А пакуль не маю права.

Ён спрытна паддаваў на плечы вялікія мяхі, падсабляў узыходзіць на прыступкі, насіў доўгія скруткі дываноў.

— Ці не хочаш ты, дзед, ключнікам прыстроіцца? — запытаў Максім Ус.

— А чаму б і не? Якраз служба па маіх гадах.

Калі Салавей выйшаў з двара, уздоўж дагляданай сцяны стаялі, пастроіўшыся, атрады Ляўкова, Званковіча і Уса. Не разыходзіўся і натоўп сялян.

— Ну як? Што ён там нагергетаў? — наперабой пыталіся ў Салаўя і ў тых, што разам з ім выйшлі з двара.

— Недзе дзенуцца. Будуць вымятацца,—коратка адказаў старшыня рэўкома.

Да яго праціснулася расчырванелая Параска і горача зашаптала на вуха:

— Сцяг у мяне ў скрыні схаваны. Можа, няхай мужчыны павесяць.

— Ой і малайчына ж ты, Параска. Скажы Івану Кавалевічу. Хлопец ён спрытны. Бяжы, даражэнькая, не мерзні.

— От каб ты так заўсёды казаў,— шапнула яна і пабегла.

Аляксандру зрабілася шкода гэтую маладую прыгожую ўдаву. Горнецца яна, бы дзіця, што чэзне без цяпла і ласкі. Але цяпер і думаць нельга пра свае справы, і ёй галаву няма чаго тлуміць. Трэба спярша адваяваццa, жыць пачаць па-новаму, а там — відаць будзе.

Падшыванцы паўздзіраліся на высокі мураваны паркан, паўтыркалі насы паміж прантамі брамы і адзін перад адным расказваюць, што робіцца на двары.

— Носяць нейкія клункі.

— Да кухні з кацялкамі бягуць.

— Сядлаюць коней.

Пасінее каторы, спаўзе па настылай цэгле, аж другі просіць падсадзіць і пнецца на тое месца.

Пасля паўдня адчыніліся вароты. На буланым стаенніку выехаў змрочны камендант, верхам праехалі афіцэры, следам па мёрзлай тугой храпе пратупалі падкаваныя боты салдат.

Бразгалі прывязаныя да папруг кацялкі, рыпелі за плячамі вялікія ранцы, Следам цягнуўся абоз. На перадках сядзелі пажылыя салдаты. Некаторыя, азіраючыся, махалі на развітанне рукамі, нешта гаварылі. Натоўп стаяў маўклівы і нерухомы. Калона знікала паміж голых таполяў доўгай панскай алеі.

Калі прагрукаталі паходныя кухні, з якіх яшчэ ішла пара, Салавей пазваў Уса.

— Табе даручаецца ахоўваць маёнтак і ўлічыць ўсё, што там засталося. Нікому не даваць ніводнай парушыны, пакуль не размяркуе камбед.

Натоўп і партызаны разыходзіліся. Калі ўзышлі на ўзгорак за панскім садам, людзі ўбачылі, як над воласцю пругка трапятаўся чырвоны сцяг.

11

Рэўкомаўцы ўсю ноч не спалі. Цімох Валодзька з крамы прынёс кварты тры газы, пазносілі лямпаў і засвяцілі ва ўсіх пакоях, У зборні і ў калідорах еядзелі людзі з вінтоўкамі і проста так. Ніхто не хацеў разыходзіцца, хоць многія намерзліся і натупаліся за дзень. Цярэшка зняў з пляча сваю шаблю, заткнуў яе за тонКі саматканы паясок, каб не целяпалася і не біла па пятах. Двойчы прыбягала яго старая, цягнула за каўнер.

— Ідзі, пустадомак, дахаты! От чмут стары, цягаецца за маладымі, абы толькі нічога не рабіць. Палкі дроў дома няма, а ён гарцае з гэтай мешалкаю.

— Я, можа, пры дзеле састаю,— упінаўся дзед, выводзіў жонку на вуліцу і адразу вяртаўся назад.

З пакойчыка, дзе сабраліся рэўкомаўцы, выйшаў Аляксандр Салавей. Ён быў узрушаны і вясёлы.

— Як лічыце, мужчыны, рэўком ніхто не распускаў? Ён быў і працаваў у падполлі. А цяпер у нас работы прыбавілаея, Дык мы ось так раскінулі свае абавязкі. Я, пакуль суд да дзела, астануся за старшыню. Максім Ляўкоў будзе валасныш камісарам, Мікіта Падута няхай загадвае зямельным аддзелам, Нічыпар Званковіч — лясным, Лявон Адзінец — прадуктовым. Малаковіч Пракоп будзе ваенкомам, за сакратара — Сымон Гашынскі, Максім Ус — упаўнаважаны па ўчоту панскіх маёнткаў і шляхецкіх хутароў.

— А зямлю хто дзяліцьме? — запытаў Іван Кавалевіч.

— Камбед у нас ёсць: Мікодым Гошка, Параска, і вось дзядзьку Цярэшку дамо ім у помач.

— Увесь век бяда мною камандавала, а цяпер, трасца яе матары, я ёю пакамандую,— папраўляючы шаблю, ускочыў Цярэшка.

— Ён за каморніка будзе,— пацяшаліся мужчыны.

За акном пачуўся конскі тупат. Нехта саскочыў з каня. У асветленую дзвюма лямпамі зборню ўвайшоў і аж заплюшчыўся заляпаны граззю хлопец у залатаным паўкажушку. Салавей адразу пазнаў Сымона Вежаўца, таго самага, з якім яны падпілоўвалі мост каля Ратміравіч. Сымон быў партызанскім вокам на станцыі — пра ўсё, што там рабілася, пераказваў Салаўю або Ляўкову. Увайшоў, сказаў «добры вечар».

— Які там вечар? Зараз пеўні баб пачнуць будзіць,— азваўся нехта з цёмнага кута.

Сымон падышоў да Салаўя.

— Ну, дык мы ўсё зрабілі, як вы казалі. Два вагоны адчапілі. А што ў іх, не ведаем, пломбы вісяць. Немцы толькі паўлазілі ў поезд, не паспеў машыніст свіснуць, як мы з Амяльянам — пад вагон. Крук слабкі-слабкі буў, мы яго скінулі і стаім. Зачахкаў паравоз і паехаў. Кажуць, у гэтыя вагоны ўсяго навалаклі з Халопеніч, з Харомцаў і што па сёлах назбіралі.

— А на каго ж ты кінуў вагоны? — запытаў Салавей.

— Амяльян з нашымі хлопцамі вартуе. Дык от прыехаў, каб забіралі ці што рабілі.

— Пашлём туды Лявона Адзінца. Гэта па яго часці. Дазнаецца, што чыё, раздасць людзям, а гханскае — у вобчы кацёл. Ты пачакай трошкі, Сеня. Зараз дадзім табе некалькі паперак. На станцыі і ў сёлах налепіш, каб людзі ведалі, што ў Рудабелцы Савецкая ўласць і ва ўсіх вёсках Саветы.

— Толькі каб з пячаткаю былі.

— Будзе і штамп і пячатка, таварыш Вежавец,— супакоіў Сымона Салавей.

За сталамі сядзелі Ляўкоў, Адзінец і Гашынскі і на аркушах тонкай паперы пісалі адозвы валаснога рэвалюцыйнага камітэта.

— Стаўце, хлопцы, штамп і пячаткі, каб усё было па форме,— параіў ім Салавей.— А ты, Лявон, бяры з сабою чалавек пятнаццаць добрых хлопцаў і смаліце ў Ратміравічы. Там Сымон з Амяльянам адчапілі ад нямецкага цягніка два вагоны з нарабаваным дабром. Разбярыся, што чыё. Людское раздай людзям, а панскае вязі ў камбедаўскі склад, пакуль што да Цімоха ў краму.

Раніцою партызаны з мандатамі і лістоўкамі валрэўкома раз'ехаліся па сёлах, ачышчаных ад акупантаў. Яны збіралі сялян, расказвалі, што ў Рудабельскай воласці адноўлена Савецкая ўлада, з мясцовых партыйцаў-бальшавікоў стваралі кіруючыя тройкі, выбіралі камітэты беднаты.

Над саламянымі стрэхамі зноў затрапяталі чырвоныя сцягі. Хто жартам, а хто і ўсур'ёз гэты раён на палескай зямлі называў «Рудабельскай Савецкай Федэратыўнай Рэспублікай».

А ў любы бок, кіламетраў за трыццаць ад Рудабелкі, яшчэ стаялі немцы. Яны былі ў Бабруйску і ў Мінску, Гомелі і Калінкавічах, у Рэчыцы і ў Мазыры. Ездзілі па вёсках і маёнтках, стралялі кормнікаў і надворных парсюкоў, выграбалі засекі, нават забіралі ручайкі з напрадзенаю воўнай.

Ва Урангелевым маёнтку Максім Ус пераважваў жыта і грэчку, перапісваў кароў і цялушак у вялікую прашнураваную кнігу, бо панскі аканом, Мікалай Мікалаевіч, папаліў усе паперы і некуды знік у тую ж ноч, як адступілі немцы. Мужчыны з Максімавага атрада наводзілі парадкі ў Парэччы, Бярозаўцы, Харомцах і Халопенічах: ставілі сваіх загадчыкаў, перадавалі ім ключы ад усяго дабра, што не паспелі захапіць паны і не далі вывезці немцам.

Было клопату ўсім. Да ваенкома Пракопа Малаковіча прыйшоў з Касарыч той самы Кастусь Пінчук, пра якога казаў Салаўю Найман. Пінчук служыў у Смаленскім ЧК і па заданні штаба Заходняга фронту прыехаў у сваю вёску: Чырвонай Арміі трэба былі свежыя сілы, маладыя байцы.

Кастусь Пінчук дабіраўся да Бабруйска праз Оршу тою ж дарогай, што і ўсе падпольшчыкі. Начаваў у Рэвіна, памагаў грузіцца «камерсанту Антонаву», а з Бабруйска з паперкаю, выданаю Густавам Шульцам, прыехаў дадому «на папраўку пасля хваробы». Першых ён адправіў у Смаленск зусім яшчэ маладых хлопцаў Фаму Каберніка і Міколу Юневіча, а за імі з Касарыч і Заракушы знікла яшчэ чалавек пятнаццаць добраахвотнікаў. У бабруйскай чайной ім давалі «прапускі» да Оршы, а там — толькі перайсці з вакзала на вакзал, абмінуць патруля,

і праз некалькі дзён хлопцы ў абмотках і ў такіх-сякіх шынялях з мікалаеўскіх складаў, з бляшанымі чырвонымі зоркамі на шапках ужо маршыравалі па смаленскіх вуліцах і з прысвістам спявалі «Чубарыкі-чубчыкі» і «Вы не вейцеся, чорныя кудры».

З «Рудабельскай рэспублікі» трэба было адправіць на фронт маладых і адважных хлопцаў, і не адзін дзесятак. Дачуліся ў Рудні, Кавалях, Лаўстыках, у Смыковічах і ў абедзвюх Дубровах і пайшлі да ваенкома з торбачкамі сталыя мужчыны і хлапчукі,

— У цябе ж і вусы яшчэ не растуць. Ну які з цябе салдат? Бяжы лепей дадому, каб маці паўрозамі не адхвастала.

— Дык і ў вас жа, дзядзечка, няма вусоў,— апраўдваўся чарнавокі хлапчук у новых лапціках і шарачковай світцы.

А Малаковіч з Пінчуком тлумачылі, як не проста праз нямецкія заставы дабрацца да Оршы, а там — падстаўляць галовы пад варожыя кулі.

Да слёз пакрыўджаныя хлапчукі вярталіся дадому. Некаторыя гатовы былі самі паехаць у любую часць. Але як і куды прабірацца, ніхто не ведаў — наўкол яшчэ стаялі немцы. Былі яны ў Бабруйску. А ваенком разам з Шнчуком кожны дзень markрознымі дарогамі — каго праз Глуск, каго праз Ратміравічы і Парычы — адпраўлялі добраахвотнікаў у Чырвоную Армію. Калі выехала больш за паўсотні абстраляных хлопцаў, знік і Кастусь Данілавіч Пінчук. Ён сустракаў землякоў у Смаленску, распытваў, як яны дабіраліся, трывожыўся, ці не «заваліўся» хто. Самых адважных і кемлівых рэкамендаваў на службу ў ЧК.

У лясы вакол Бабруйска збіраліся партызаны з Гарадка, Бортнікаў, Віктараўкі і Глушы. Падышлі з Рудабелкі атрады Салаўя і Драпезы. У кожным з іх было чалавек па восемдзесят адборных узброеных партызан. Атрады абкружылі горад, пераймалі на дарогах нямецкія часці, затрымлівалі абозы, адбіралі коней і зброю, бралі ў палон афіцэраў, прарываліся на станцыю, на Бярэзінскі фарштат і паднімалі такі пярэпалах, што немцы пачалі баяцца кожнага ў саматканай світцы і ў кароценькім кажушку. Калі вакол горада сабралася каля чатырох тысяч чалавек, падпольны павятовы рэўком папярэдзіў нямецкае камандаванне, што ў распараджэнні рэўкома знаходзіцца дваццаць пяць тысяч узброеных партызан, і патрабаваў неадкладна ачысціць горад, не вывозіць народнага дабра, тэлефонных і тэлеграфных апаратаў, вызваліць усіх палітычных зняволеных.

Паспешна грузіліся фурманкі і вагоны, на дварах і вуліцах валялася салома, вытрасеная з сеннікоў, каля ганка камендатуры гарэлі груды паперы. Горад пусцеў на вачах. Немцы адступалі маўкліва і змрочна. Калоны салдат былі падобны на этапы асуджаных. Афіцэры

ішлі з панурымі галовамі, грукалі паходныя кухні, нібы пахавальная працэсія, цягнуліся абозы. Для адступлення былі адкрыты ўсе дарогі. Кожны салдат адчуваў, што з-за маўклівых, прыцярушаных снегам хвой і елак у спіну пазіраюць вочы партызан і чорныя зрэнкі вінтовак. Таму прыспешвалі крок, каб хутчэй выйсці з гэтага таямнічага і небяспечнага акружэння.

Яшчэ са станцыі Бярэзіна не адышоў апошні эталон з нямецкімі салдатамі, яшчэ афіцэры мітусіліся на пероне, крычалі і пагражалі дзяжурнаму, каб не марудзіў з адпраўкаю, як на вакзале з'явіліся Платон Равінскі, Барыс Найман, толькі што вызвалены з турмы Балашоў, ужо апрануты ў чорнае паліто і кепку Густаў Шульц.

Старшыня рэўкома ўскочыў на скрынку і падняў руку. Заціхлі ў вагонах губныя гармонікі, замоўкла гамана на пероне. Салдаты пасталі паўкругам каля прамоўцы. Афіцэры загадвалі разыходзіцца па вагонах, але салдаты стаялі як глухія.

— Таварышы нямецкія салдаты, рабочыя і сяляне свабоднай Германіі! Бабруйскі рэвалюцыйны камітэт бальшавікоў віншуе вас з рэвалюцыяй у вашай краіне. Вяртайцеся на радзіму, скіньце абрыдлыя шынялі і кайзераўскія каскі, хутчэй завяршыце пралетарскую рэвалюцыю і стварыце сваю рабоча-сялянскую дзяржаву.

Кожнае яго слова перакладаў Густаў Шульц і закончыў ад сябе:

— Es lebe die deutsche Revolution! Glücklicke Reise, Genossen![1]

Натоўп салдат, нібы па камандзе, сотнямі глотак крыкнуў «ура!», замахаў рукамі і шапкамі, павольна пачаў разыходзіцца па вагонах. Рэўкомаўцы стаялі на пероне, пакуль не крануўся цягнік. З незачыненых дзвярэй і вокан цяплушак выглядалі пасвятлелыя твары салдат, яны махалі рукамі і нешта крычалі, ужо заглушанае пыхканне паравоза і грукатам вагонаў. З апошняга вагона вытыркнуўся і затрапятаў маленькі чырвоны сцяжок.

Горад, здавалася, пасвятлеў і павесялеў. Над ганкам беленькага аднапавярховага доміка на Пушкінскай вуліцы вісеў чырвоны сцяг, а на кавалку фанеры на дзвярах сінім чарнілам было напісана адно слова «Рэўком».

Па вуліцах хадзілі барадатыя і проста даўно не голеныя партызаны з Нямецкімі карабінамі і трохлінейкамі, з драбавікамі і двухстволкамі; на папружках, як бляшаныя таўкачыкі, целяпаліся гранаты. Апрануты былі хто ў што. Світкі, лапці, кажушкі, аўчынныя і заечыя шапкі. Следам хадзілі хлапчукі, забягалі напора д, каб паглядзець на тых, што прагналі немцаў.

---

[1] Няхай жыве нямецкая рэвалюцыя! Шчаслівай дарогі, таварышы! (ням.)

На ўсіх скрыжаваннях вуліц, каля рынку і ў гарадскім садзе збіраліся натоўпы гараджан, у многіх на грудзях былі чырвоныя банты. Людзі віншавалі адзін аднаго, пацiскалі рукі партызанам, запрашалі ў госці. То там, то тут пачыналіся стыхійныя мітынгі — людзям хацелася нагаварыцца, хацелася, каб пра іх думкі і пачуцці ведалі ўсе.

Хоць дзьмуў халодны колкі вецер, гонячы пачарнелае лісце і крупінкі першага снегу, натоўпы не разыходзіліся. Усе нечага чакалі, сустракаліся з даўнімі знаёмымі, якіх не бачылі ўсю акупацыю, і гаварылі, гаварылі на поўны голас, не баючыся і не азіраючыся.

Па Мураўёўскай і Скобелеўскай вуліцах беглі расхлістаныя, расчырванелыя і мурзатыя хлапчукі і на ўсю сілу крычалі: «Ідзе Чырвоная Армія», «Чырвонаармейцы ідуць». Натоўпы рушылі на Мінскую вуліцу. Людзі строіліся ў калоны, аднекуль з'явілася некалькі чырвоных сцягоў, зробленых на скорую руку. Над галовамі заблішчалі медзяныя, даўно не чышчаныя трубы, завухкаў вялікі турэцкі барабан і забразгалі звонкія літаўры. Невялічкі аркестр пажарнікаў, збіваючыся ў align="" разнагалосіцы, зайграў «Варшавянку». Людзі падхапілі песню. У натоўп гараджан уліваліся партызаны.

Перад аркестрам ішлі члены рэўкома, учарашнія падпольшчыкі і толькі што вызваленыя з крэпасці бальшавікі. Наперадзе калоны з'віўся партрэт Карла Маркса, нацягнуты на вялікі ліст фанеры. Яго нёс слесар з завода Вітушэўскага Гарасім Адзярыха.

А насустрач па Мінскай вуліцы, глуха тупаючы стаптанымі ботамі, паблікваючы цьмянымі штыкамі, у горад уваходзіў сто пяцьдзесят трэці полк Чырвонай Арміі. Паперадзе ехаў на кані невялічкі камандзір, у кубанцы, сіняй венгерцы і чырвоных галіфэ з хромавымі леямі. Над калонаю калыхаўся вялікі сцяг палка. На ім паўкругам жоўтымі ніткамі было вышыта: «Лучше погибнуть в неравной борьбе, чем гибнуть, покорно отдавшись судьбе». А ў сярэдзіне круга — «Да здравствует власть Советов!»

Салдаты былі апрануты ў шынялі, у зацухмоленыя ватоўкі, папахі, кубанкі., зялёныя шапкі. У пярэдніх радах ішлі абутыя ў боты і чаравікі з абмоткамі, а далей шлёпалі ў лапцях і атопках.

На рагу Мураёўскай і Мінскай вуліц ад імя рэўкома чырвонаармейцаў вітаў Пётр Міхайлавіч Серабракоў. Многія яго ведалі і раней як Паўла Балашова.

Салдат павялі ў толькі што вызваленыя казармы бабруйскай крэпасці. Нават па абліччах было відно, што ў палку сабраны людзі самых розных нацыянальнасцей. Былі прыгожыя чарнавокія венгры і маленькія, нібыта сонныя, кітайцы, чубатыя казакі і рослыя бялявыя латышы. Да самых варот крэпасці побач з камандзірам беглі хлапчукі

— у матчыных жакецiках i безрукаўках, у вялікіх шапках, што спаўзалі на вочы і кірпатыя насы, у атопках з асінавымі падэшвамі і ў бацькоўскіх вялізных ботах. Хлапчукі прайшлі дзесяткі вёрст, сустракаючы з паходаў і праводзячы ў бой Чырвоныя палкі.

Увечары ў пустых пакоях павятовага рэўкома сабраліся ўчарашнія падпольшчыкі, прыйшлі бальшавікі з чыгункі і заводаў горада, тут былі і камандзіры партызанскіх атрадаў. Старшынёй рэўкома выбралі Платона Равінскага, намеснікам — Пятра Серабракова, старшынёй ЧК — Барыса Наймана, ваенным камісарам — Пракопа Малаковіча. Тут жа было вырашана пакінуць у Бабруйску Аляксандра Салаўя. Яму даручылі арганізаваць каравульны батальён і камандаваць ім.

— А як жа наша воласць?— запытаў ён.

— Там ёсць Максім Ляўкоў, Нічыпар Званковіч, Лявон Адзінец. Ды ў вашай «рэспубліцы» любы можа быць старшынёй рэўкома і ваенным камісарам, там і беспартыйныя — сапраўдныя бальшавікі,— пераконваў яго Равінскі.— Рудабелка — самая надзейная апора нашага павета.

Так і астаўся Аляксандр Салавей камандзірам другога Бабруйскага каравульнага батальёна. Яму адвялі так званыя чырвоныя казармы. Зайшоў у іх камандзір, зацісnуў пальцамі нос, паглядзеў на запаскуджаную падлогу, пабітыя шыбы, на горы саломы і смецця і толькі пакруціў галавою.

Назаўтра па спісу рэўкома салдаты другога каравульнага батальёна сабралі да казармы чалавек восемдзесят купцоў, гандляроў, былых царскіх стражнікаў і чыноўнікаў. На некаторых яшчэ былі запыленыя чорныя кацялкі, шубы з аблезлымі бабровымі каўнярамі, зялёныя шынялі з кантамі і абшытымі сукном гузікамі. Дні два назад яны яшчэ адзін аднаго называлі панамі, а цяпер маўчалі, кожнаму хацелася схавацца за нечую спіну, быць непрыкметным, прыкінуцца няшчасным. Чаго іх «оды сабралі — ніхто не ведаў. Кожны чакаў самага горшага, успамінаў свае грахі і калаціўся: «Хоць бы не дазналіся бальшавікі».

Да іх падышоў падцягнуты, у старым шынялі, чыста паголены невысокі камандзір.

— Грамадзяне, салдаты Доўбар-Мусніцкага і былога кайзера Вільгельма пакінулі вам спадчыну — вось палюбуйцеся на яе. Усіх акупантаў вы сустракалі хлебам-соллю, цішком плакалі, калі яны адыходзілі адсюль. Каму, як не вам, прыбіраць пасля сваіх жаданых гасцей? Бярыцеся за венікі, мётлы, анучы і вёдры і пачынайце прывучацца да карыснай працы. За старшага будзеце вось вы.— Салавей паказаў на тлустага, у залатых акулярах на пасінелым носе,

мужчыну.— Як толі.кі закончыце, камандзір аддзялення адпусціць вас дадому.— Ён павярнуўся і хутка пайшоў за вароты.

Нехаця, нібы саромеючыся адзін аднаго, няўмела браліся чыноўнікі, купцы першых гільдый і былыя ўраднікі за рыдлёўкі і дзеркачы, закасвалі рукавы і калошы штаноў і пачыналі вымятаць і скрэбці чорную, заваленую смеццем і брудам падлогу.

А ў Салаўя клопатаў было па самую шапку: чалавек дваццаць яго салдат зусім босыя — ад ботаў засталіся толькі халявы, а ступакі абкручаны караўкамі, хто ў падвязаных аборамі старых галёшах, хто ў разбітых лапцях. З ордэрам павятовага камітэта ён паслаў групу чырвонаармейцаў на рынак і ў шаведкія майстэрні горада. Яны тлумачылі шаўцам і гаспадарам крам, што многія чырвонаармейцы разутыя, і прасілі дапамагчы батальёну абуткам. Адны ўпіналіся, іншыя аддавалі без слова, хто пару, а хто і дзве — ботаў, пашытых на продаж. Пад вечар хлопцы прынеслі паўсотні пар новенькіх юхтовых і хромавых чобатаў. Яны блішчалі наглянцаванымі перадамі і халявамі, пахлі свежай скураю.

— А гэта для вас, таварыш камандзір,— сказаў мала ды венгр з сінімі парахавымі плямамі на твары і падаў Салаўю зграбныя хромавыя боты з «рыпам».

— Мае яшчэ з месяц вытрымаюць. Аддай іх лепей онь таму хлопцу, што ходзіць у атопках. Яму і пафарсіць не пашкодзіць — малады.

Падабутыя, паголеныя салдаты новага батальёна рассяляліся ў чыстай, хоць і халоднай казарме. У дальнім кутку паставіў свой ложак і Салавей.

— Мы для вас, таварыш камандзір, гэтую баковачісу пабелім і столік знойдзем,— угаворвалі салдаты.

— Чаго ж гэта мне аднаму жыць? З людзьмі цяплей і весялей. Разам жыць і разам ваяваць.

Салавей не расставаўся са сваімі салдатамі, еў з імі з аднаго катла, пісаў пісьмы за тых, хто яшчэ сам не навучыўся, расказваў пра рэвалюцыю і пра бальшавікоў. А то падсядзе увечары да хлопцаў на ложак і зацягне:

Вихри враждебные веют над нами...
Темные силы нас злобно гнетут.

І цягнуцца да песні, як да агеньчыку, байцы з усяе казармы. І ўжо звонкія і прастуджаныя галасы падхопліваюць:

В бой роковой мы вступили с врагами,
Нас еще судьбы безвестные ждут.

Калі замоўкне песня, сцішаныя чырвонаармейцы пазіраюць на свайго камандзіра. А ён сядзіць задумёны, па-хатняму свой. Потым паднімае адно брыво:

— Эй, хлопцы, як бы мне хацелася сустрэцца з вамі гэтак гадоў праз пяць або дзесяць. Паглядзець, якія вы станеце.

— А чаму ж не? І сустрэнемся. Я адсюль блізенька жыву. Нас тут колькі? Чалавек дваццаць падрэцкіх. От і прыязджайце, з усімі і пабачыцеся,— пачаў запрашаць Салаўя Сцяпан Герасімовіч.

— Отвоюемся, к нам на Волгу припожалуйте. Сядем на зорьке в камышах, а там уток — туча темная. Приволье, степи. Рыбу только ленивый не берет,— загаварыў асіплым голасам аддзялком Паласухін.

На Салаўя пазіралі дзесяткі сініх, шэрых і чорных, як вугаль, вачэй. Каго толькі не было ў яго батальёне! Саратаўцы і масквічы, венгры і латышы, палякі і кітайцы, сотні са дзве добраахвотнікаў з бабруйскіх майстэрань і з суседніх вёсак. Трэба было іх навучыць хадзіць строем, страляць з вінтоўкі, перапаўзаць пад варожым агнём, днём і ноччу ахоўваць горад, склады, масты і абодва вакзалы. Вось і матляўся цэлымі днямі камандзір то на пляцы перад казармаю, то правяраў каравулы, а ў вольны час любіў уголас памарыць пра будучае, каб кожны ведаў, за што ён ваюе.

— Пабіць мы іх паб'ём. Хоць і галодныя і разутыя, але паб'ём. Нас мільёны, лічы, уся Расія з бальшавікамі, у Германіі рэвалюцыя, адтуль яна, глядзі, пакоціцца і ў другія землі. Адваюемся, і такое ў нас жыццё пачнецца, што і не снілася нікому. Зямля — наша, заводы — нашы. Саху з сявенькаю — на сметнік. Машыны будуць араць і сеяць. Вучыцца ўсе пойдуць. Прыеду ў твой Саратаў і спытаю, а дзе тут прафесар таварыш Паласухін? Тады і я, можа, на аграномa выб'юся. З маленства люблю зямлю. Хочацца, каб ніхто не быў жадзён кавалку хлеба.

Часам да камандзіра прыходзіў яго бацька. Невялікі каржакаваты дзядок у пацёртым рудым кажушку. Прыносіў у торбачцы гасцінцы з дому — жытнія куханы, засушаны сырок, рукавок падсмажаных гарбузінаў, рукавіцы з двума пальцамі, каб можна было страляць, і рудабельскіх навін на ўсю ноч.

Хадзіў ён і на вучэнні з сынавым батальёнам. А аднойчы, збіраючыся дадому, папрасіў:

— Даў бы ты мне, сынок, якую стрэльбу, хоць невялічкую.

— Нашто яна вам, тата?

— Г-э-э-э, нашто? Шляхцюкі, як кручаная гайня, па футарах і па лесе гарцаюць. У Сераброне іх цэлая шайка таўчэцца. На Лучыцкую воласць напалі, у Ляскавічах зноў страляніну зачалі. І да нас, у

Харомнае, залятаюць. На конях, з шаблямі і стрэльбамі ездзяць. Ці не хочуць яны толькі ў Рудабелку сунуцца? Дык і мне, старому, адбівацца нечым жа трэба. Дай, сынок, не зашкодзіць. І ў дарозе яно спакайней.

З дазволу ваенкома Салавей выдаў бацьку нямецкі карабін, сотню патронаў і паперку з пячаткаю павятовага рэўкома «на права нашэння агнястрэльнай зброі».

12

«Усім, усім, усім. Другая тульская брыгада ў Гомелі падняла контррэвалюцыйны мяцеж. Сілы рэўкома крайне абмежаваныя. Неадкладна высылайце ўзброеныя часці на падаўленне мяцяжу.

*Старшыня рэўкома — Камісараў,*
*старшыня ЧК — Ланге».*

Чыталі і перачытвалі трывожную тэлеграму Равінскі, Серабракоў і Малаковіч. Кожны спадзяваўся паміж радкоў знайсці хоць якія-небудзь падрабязнасці: хто і калі падняў мяцеж, якія сілы ў мяцежнікаў? Спрабавалі звязацца з Гомелем, але кожны раз тэлеграфістка адказвала: «Сувязі няма».

Нарэшце пазванілі з Магілёва. Гаварыў старшыня губвыканкома Сурта. Яго голас заглушалі гул і свіст, голас то прападаў, то прабіваўся зноў і ўсхвалявана патрабаваў: «Зараз жа адпраўляйце самыя надзейныя часці ў Гомель! Самыя надзейныя, чуеце?! З Магілёва выехала школа курсантаў. Дзейнічаць трэба хутка і энергічна». Затрашчала і загуло, нібы з вуліцы ў трубку ўварваўся ведер, што гайдаў за акном чорнае вецце старой таполі, шаргацеў па шыбах буйнымі кроплямі дажджу і камякамі мокрага снегу.

Горад спаў, захутаны вільготнай цемраддзю золкай сакавіцкай ночы. Па вуліцах час ад часу праходзілі патрулі, хлюпаючы па снежнай калатушы.

У мокрым шынялі і запырсканых да кален ботах у рэўком хутка ўвайшоў камандзір другога каравульнага батальёна Аляксандр Салавей. Яго задубелы ад ветру твар блішчаў ад дажджу, а на брывах іскрыліся і дрыжалі дробныя кропелькі.

Равінскі нервова круціў ручку насценнага телефона і патрабаваў начальніка чыгуначнай ЧК.

— Алё! Алё!— крычаў ён.— Зараз жа ад імя рэўкома патрабуйце ў начальніка станцыі, каб падрыхтаваў эталон для адпраўкі ў Гомель. Так, у Гомель! Вагонаў дзесяць — дванаццаць. Меней нельга! І падбярыце добраахвотнікаў сярод сваіх людзей для барацьбы з бандытамі.

Ужо ведаеце? Атрымалі тэлеграму? А больш нічога невядома? На світанні састаў павінен адправіцца.— Ён заўважыў Салаўя, кіўнуў яму і нрацягнуў руку.— Да Жлобіна шлях навінен быць свабодны. Рэўком на вас ускладае адказнасць.

У пакоі ўжо былі начальнік гарадской ЧК Найман, начальнік міліцыі Сянкевіч і члены рэўкома.

— Вось і камандзір атрада ёсць,— убачыўшы Салаўя, сказаў Серабракоў і падаў яму тэлеграму з Гомеля. Той прабег яе вачыма і хацеў нешта запытаць.

— Больш нічога не ведаем. Якія сілы ў мяцежнікаў, хто іх узначаліў, што адбываецца ў горадзе, пакуль што дазнацца не ўдалося. Сувязі няма. Адбярыце чалавек дзвесце пяцьдзесят самых надзейных байцоў. Да вас далучацца добраахвотнікі з гарадской і чыгуначнай Чэка, з міліцыі і першага батальёна. Таварыш Малаковіч выязджае разам з вамі і ўзначаліць Жлобінскі баявы ўчастак. Туды паехалі курсанты Магілёўскай школы чырвоных камандзіраў.

— Бярыце самых свядомых і надзейных чырвонаармейцаў, бо контррэвалюцыйныя галаварэзы не скугіяцца на абяцанні, выстаўляюць самыя прынадныя праграмы, абы толькі перацягнуць да сябе няўстойлівыя элементы,— тлумачыў Равінскі.— Каля Оўруча на Мазыр спрабуюць прарвацца пятлюраўцы. Іх павінны былі стрымліваць байцы тульскай брыгады, а яны чамусьці апынуліся ў Гомелі і паднялі мяцеж. Ні ў якім разе нельга адкрыць дарогу пятлюраўскім бандам на Гомель. Тут вырашае лес кожная гадзіна. Рыхтуйце байцоў і зброю. Чым хутчэй, тым лепш.

Салавей уважліва слухаў старшыню павятовага рэўкома, а ў думках перабіраў ужо, каго ўзяць са свайго батальёна. Людзі ў яго былі розныя: і латышы, і венгры, некалысі немцаў прыбілася, былі і палякі, а больш свае, тутэйшыя, і рудабельскіх нямала — Анупрэй Драпеза, Дзям'ян Пархімовіч, Ціт Тоўсцік, Фама Кабернік. На іх, як на самога сябе, можна спадзявацца.

Да Салаўя падышоў Малаковіч.

— Паднімай, Ляксандра, сваіх. Бярыце болей патрона ў, гранаты, кулямёт і на першы час — харчы. А я на станцыю прывяду табе падмацаванне. Прыедзем на месца, там разбяромся, што рабіць і як дзейнічаць.

— Ну, я пайшоў.

Салавей крутнуўся праз левае плячо і ледзь утрымаўся, каб не казырнуць, ляпнуў стаптанымі абцасамі разбітых ботаў і знік за дзвярыма.

У вагоны грузіліся на світанні. Пад раніцу мокры снег падшэрх і пашарэў ад сажы і соцень салдацкіх ботаў. На адхонах чарнелі праталіны, з-пад сітаватага снегу тырчала леташняе бадылле, неба было цёмна-ліловае і халоднае. На пуцях стаялі разбітыя таварныя вагоны з аблезлымі нямецкімі надпісамі. У «галаве» састава сіпеў і пыхкаў прысадзісты паравоз з доўгім, як халява, комінам. З яго валіў густы чорны дым — дровы, відаць, былі сырыя, і гэта вельмі непакоіла Салаўя.

— Колькі мы будзем, Пракопе, на такой клячы цягнуцца да Гомеля?— запытаў ён у Малаковіча.

— У Жлобіне памяняем паравоз. Ты пастаў у помач качагару пару хлопцаў. Няхай шуруюць і глядзяць, каб машыніст жвавей варушыўся.

У вагоны апошнія селі камандзіры. Паравоз сіпата загуў, зачухкаў, напяўся, зарыпелі старыя разгайданыя «цялятнікі» і павольна пакаціліся па рэйках, мінаючы Цялушку, Чырвоны Бераг і Малевічы.

Эшалоны з магілёўскімі курсантамі і добраахвотнікамі з Рагачова ўжо стаялі ў Жлобіне і чакалі адпраўкі на Гомель. Камандзіры сабраліся да каменданта баявога ўчастка Пракопа Малаковіча.

Разам з начальнікам школы ўвайшоў чалавек у скураной куртды, падпяразанай патранташом. Яму ўдалося прарвацца з Гомеля, каб далажыць губкому партыі, што адбылося ў іх горадзе. Ён паспешліва расказваў камандзірам:

— Васемнаццатага сакавіка шэсцьдзесят сёмы і шэсцьдзесят восьмы палкі другой Тульская брыгады выступілі пад Оўруч на Пятлюраўскі фронт. У палках прытаілася шмат белых афіцэраў. Салдацкі паёк і так слабы, а яны яшчэ знарок яго кожны дзень уразалі. Шапталі салдатам, што ў Чырвонай Арміі іх чакае галодная смерць, што Калчак, Дзянікін і Пятлюра не сёння-заўтра задушаць Савецкую ўладу і перавешаюць усіх камуністаў. Заклікалі кідаць фронт і вяртацца дадому, на цёплую печ. Начальнікам гаспадарчай часткі палка быў царскі афіцзр Стракапытаў. Ён і пасадзіў чырвонаармейцаў на галодную норму. А камандзір палка Мачыгін падбухторваў самых адсталых салдат, каб арыштаваць камандзіра брыгады Ільінскага і камісара Сундукова і выдаць іх Пятлюру, а самім кідаць фронт і ехаць у Тулу. Узбунтаваўшыся, пятнаццаты батальёи захапіў цягнік і пачаў мітынгаваць у іншых палках. І там знайшліся белыя афіцэры. Эталоны мяцежнікаў прыбывалі на станцыю Гомель-Палескі; да іх далучылася чацвёртая брыгада асобнага артылерыйскага дывізіёна. На фронце з камбрыгам засталося чалавек дзвесце верных рэвалюцыі чырвонаармейцаў і бронецягнік. Яны і стрымліваюць

наступ пятлюраўцаў. А мяцежнікі захапілі вакзал, пачалі арыштоўваць камуністаў, здымаць нашы пасты і патрабаваць, каб іх адправілі ў Тулу.

Старшыня павятовага камітэта таварыш Хатаевіч якраз перад гэтым выехаў у Маскву на VIII з'езд парты!, а члены рэўкома, павятовага камітэта і работнікі Чэка вырашылі ўгаварыць мяцежнікаў вярнуцца на фронт. Пускаць узбунтаваную араву на Тулу ніяк нельга, бо ў Бранску толькі што пракаціліся контррэвалюцыйныя мяцяжы, а гэтыя галаварэзы маглі падпаліць іх зноў.

Таварыш Камісараў, рэдактар газеты Білецкі, продкамісар Селіванаў і кіраўнік чыгуначнікаў Валодзька пайшлі на Палескі вакзал, каб пагаварыць з мяцежнікамі. Іх сустрэлі кулямёты і штыхі. Павятовы камітэт вырашыў супраціўляцца, каб не даць мяцежнікам злучыцца з пятлюраўцамі.

— А якія сілы ў рэўкома? Колькі яны могуць яшчэ пратрымацца? — запытаў Салавей.

— Сілы самыя нязначныя: інтэрнацыянальны атрад Чэка ды чалавек трыста так-сяк узброеыых камуністаў. Ёсць і такія, што ўпершыню ўзяціся за вінтоўку. Вось, лічы, і ўсе сілы. На каравульны батальён надзея слабая — і туды пракраліся мяцежпікі... А ці трымаюцца нашы яшчэ, невядома. Мяцежнікі адразу выпусцілі з турмы чалавек чатырыста бандытаў і зладзеяў. Пачаліся разбой і грабяжы, разгул крымінальнікаў.

Рэўкомаўцы і чалавек трыста камуністаў занялі гасцініцу «Савой» і, як могуць, абараняюцца. Ў іх адзін кулямёт і вельмі мала патронаў.

Бандыцкія кіраўнікі абвясцілі сябе «Паўстанцкім камітэтам Палесся» і ў пракламацыях напісалі, што Савецкая ўлада ў Гомелі скінута. Вось палюбуйцеся.— Ён выцягнуў з кішэні скуранкі пакамечаны лісток шэрай паперы і працягнуў Малаковічу. На ім было надрукавана буйнымі літарамі:

«Сего 24 марта я, по избрании повстанческим комитетом, принял на себя обязанности командующего войсками гомельской группы, восставшими против правительства большевиков и Ленина.

*Командующий 1-й армией Народной республики — Стрекопытов».*

— Ну, гады! — скрыгатнуў зубамі Салавей.— Мы яму капыты па самы хвост павыкручваем. Цяпер усё ясна! Даёш Гомель!

Састаў з двума паравозамі прагрукатаў па мосце за Дняпро.

На палях снегу амаль не было, толькі ў разорах ды ў канавах ляжала мокрая калатуша, падобная на аўсяны кісель. І неба праяснілася: густы волкі вецер зганяў з яго нізкія сівыя хмары.

На пляцоўцы перад паравозам стаялі тры чырвонаармейцы з вінтоўкамі ў руках і ўглядаліся ў далечыню чыгуначнага палатна. Цягнік мінаў раз'езды і станцыі, нідзе не спыняючыся. Салаўёвы байцы падкідалі ў топку дровы і падвясельвалі машыніста: «Круці, Гаўрыла!», «Дуй на ўсе застаўкі!» І той круціў. Цягнік імчаўся праз густую шэрую слату.

Над вечар спыніліся на невялічкай станцыі У за. Было мокра і золка. У зацішку, за платамі і пакгаузамі загулі, запалалі вогнішчы. Мокрыя шынялі чырвонаармейцаў курыліся параю, а няголеныя твары ў святле полымя здаваліся мядзяна-чырвонымі.

Салавей выправіў групу разведчыкаў у напрамку Касцюкоўкі, а сам пераходзіў ад вогнішча да вогнішча, гаварыў з чырвонаармейцамі і камандзірамі, правяраў зброю, падбадзёрваў маладых байцоў і з нецярплівасцю чакаў навін ад разведкі. Што там робіцца ў Гомелі? Як можна хутчэй дапамагчы таварышам?

А ў Гомелі разрастаўся і бушаваў мяцеж. Выпушчаныя з турмы крымінальнікі грамілі магазіны, склады і кватэры, па цёмных вуліцах горада швэндаліся хеўры п'яных зладзеяў, гарланілі непрыстойныя песні і бязладна стралялі.

Гасцініца «Савой» зрабілася цытадэллю рэўкома. Сюды прыбягалі работнікі міліцыі, Чэка, чырвонаармейцы каравульнага батальёна.

Мяцежнікі наступалі на цэнтр. Ужо занялі Лібаўскі вакзал, па Замкавай, Магілёўскай і Кавальскай вуліцах падыходзілі да «Савоя». Яны здымалі, абяззбройвалі і проста забівалі патрулёў, прыціскалі к Сожу рэдзенькія ланцужкі міліцыі і чэкістаў, захапілі будынак Чэка і тэлеграф.

Стракапытаў адразу адбіў тэлеграму за № 1078:

«Всем железнодорожникам по всей сети российских железных дорог. Военная власть большевиков в Гомеле низложена. Движением руководит повстанческий комитет. Арестовывайте членов Чрезвычайных комиссий, комиссаров и всех врагов народа. Не пропускайте большевистских эшелонов. Если нужно, разрушайте пути, осведомляйте население и действуйте смело и энергично.

Осведомляйте на станции Гомель-Полесский повстанческий комитет».

А камітэт гэты ўзначальвалі белыя афіцэры — камандзір палка Мачыгін, царскі палкоўнік Сцёпін, Страна пытаў і група эсэраў, якая трымала сувязь з эсэраўскім цэнтрам і даўно рыхтавала контррэва-

люцыйнае паўстанне. Яны хацелі злучыцца з белымі арміямі Дзянікіна, Пятлюры і Калчака ў супольным паходзе на Савецкую рэспубліку.

Адсюль жа, з гарадскога тэлеграфа, Мачыгін пазваніў у «Савой». Да тэлефона падышоў старшыня рэўкома Камісараў. У трубцы ён пачуў нізкі асіплы голас:

— Паўстанцкі камітэт прапануе зараз жа здацца на літасць пераможцаў. Супраціўленне не мае ніякага сэнсу. Колькі вас, фанатыкаў і дурняў? Паўтары сотні? Вы ж і вінтоўкі трымаць не ўмееце. Калі праз дзесяць хвілін не прыдуць вашы парламенцёры з белым сцягам, пачынаем абстрэл гасцініцы ўсімі агнявымі сродкамі. Чуеце? Чакаем дзесяць хвілін.

— Вы дачакаецеся не белага сцяга, а бясслаўнай пагібелі за сваю здрадніцкую авантуру,— спакойна адказаў Камісараў.— Апамятайцеся і спыніце бандыцкі разгул. Пашкадуйце салдат, якіх вы ашукалі. Рэвалюцыйная Расія вам гэтага не даруе.

М'ачыгін агідна вылаяўся і кінуў трубку. Праз дзесяць хвілін па «Савоі» грымнуў першы залп. Сыпаліся разбітыя кулямі шыбы, ляцеў тынк і руды цагляны пыл. З трэцяга паверха засакатаў кулямёт. На скрыжаванні Магілёўскай і Кавальскай вуліц пачалі падаць скошаныя мяцежнікі, з вокан гасцініцы грымелі вінтовачныя стрэлы. «Савой» адбіваўся. Камуністы вырашылі трымацца да апошняга патрона. Яны з хвіліны на хвіліну чакалі дапамогі з Бранска, Магілёва, Бабруйска і Смаленска. Час ішоў, патронаў станавілася ўсё меней і меней, у скрынцы заставалася толькі чатыры кулямётныя стужкі.

Білецкі заўважыў, што на дах суседняга дома некалькі мяцежнікаў цягнуць кулямёт. Кароткая чарга з «Савоя» як ветрам змяла іх адтуль. Стракапытаўцы адыходзілі і хаваліся за дамы. Афіцэры размахвалі пісталетамі, лаяліся і гналі салдат на вуліцу.

У пакоях гасцініцы стагналі параненыя, канаў прабіты навылёт бандыцкай куляю загадчык цэнтрадруку Фішбейн, падалі знясіленыя і галодныя камуністы, але «Савой» трымаўся ўсю ноч.

Раніцою Стракапытаў загадаў біць па гасцініцы з артылерыі. Са свістам і грукатам снарады ўрываліся ў вокны, крышылі. тоўстыя сцены. Гінулі байцы, кідаліся і трызнілі параненыя. З Троіцкай вуліцы пачаў біць мінамёт. Увесь час стракаталі кулямёты мяцежнікаў, якія спрабавалі ўварвацца ў будынак, але з праломаў вокан, з балконаў грымелі стрэлы абаронцаў «Савоя». Яны перайшлі на другі наверх. Параненыя Ланге, Камісараў і Білецкі не пакідалі байцоў. Камандаванне яны перадалі былому палоннаму, нямецкаму камуністу Фрыдрыху Краўзе.

Скончыліся патроны, і кулямёт замоўк. З прабітай столі валіліся цэлыя пліты тынкоўкі разам з дранкаю, праз аконныя правалы свісталі вецер і кулі стракапытаўцаў. Параненых выносілі на першы паверх, перавязвалі разадранымі гасцінічнымі прасцірадламі і ўціральнікамі. А Краўзе, прытуліўшыся да падаконніка, без промаху страляў па мяцежніках. Ён перапаўзаў ад аднаго да другога праёма, нібыта га вора чы сам з сабою, камандаваў: «Па бандытах, агонь!» і лаяўся па-нямецку і па-руску. Каманды абаронцаў «Савоя» мяняліся праз кожныя паўгадзіны. Густыя залпы прарэджвалі строй мяцежнікаў. Яны адпаўзалі ў брамы, хаваліся ў пад'езды.

Па гасцініцы зноў уда рыла артылерыя, кулямёты секлі шквальным агнём. Супраціўленне слабела — не было патрона ў, людзі паміралі ад вялікай страты крыві, а жывыя ледзьве трымаліся, знясіленыя голадам і бяссонніцай.

Фрыдрых Краўзе ўсё біў і біў па мяцежніках. Яму прастрэлілі вуха. На шчацэ і на шыі запяклася кроў. Бінтаваць не было калі. Побач з ім, ледзь дыхаючы, стралялі Ланге, Камісараў, Білецкі, Аўэрбах і Бочкін. Параненым і зусім знясіленым было загадана непрыкметна праз двары і завулкі прабірацца да Сожа, ратавапда ў рабочых кварталах горада.

У «Савоі» стрэлы сціхалі. З пад'езда выйшаў высокі бялявы мужчына ў расхлістанай чыгуначнай куртцы. Ён спыніўся і падняў левую руку.

— Хачу гаварыць з камандзірам.

— А хто ты такі?— запытаў афіцэр, які паспеў начапіць пагоны і крыж-накрыж перацягнуцца рамянямі.

— Член павятовага камітэта ад чыгуначнікаў Валодзька.

— Гаварыць гавары, толькі не агітуй, а пікнеш, заткну глотку.— І ён памахаў вялізным маўзерам.

— Вы акружаны Чырвонай Арміяй. Не павялічвайце сваіх злачынстваў, за іх вам прыйдзецца адказваць. Мы спынім супраціўленне, калі вы абяцаеце адпусціць параненых і ўсіх, хто застаўся ў гасцініцы.

— А ты не больна страшчай, камісарык,— вызверыўся афіцэр.— Што ты скажаш, як твая армія стане пад нашы сцягі і — «даёш Маскву». А вы? На халеру вы нам здаліся? Бяззбройных біць бог не вяліць, а ў палон браць — лішняя марока. Вылазьце, не зачэпім. Так, робя?

— Пушчай вылазяць,— гаркнула некалькі п'яных галасоў.

Валодзька, намагаючыся, каб хаця не пахіснуцца, пайшоў у «Савой». Страляніна сціхла. Праз некалькі хвілін, падтрымліваючы адзін аднаго, кульгаючы, абапіраючыся на кійкі ад штораў, выходзілі

ўчарнелыя, параненыя, з перабінтаванымі галовамі абаронцы «Савоя» — рэўкомаўцы, работнікі Чэка, камуністы з чыгункі і заводскіх ускраін. Усяго чалавек шэсцьдзесят. Астатнія па адным, па два паспелі пратачыцца праз вузкі завулак у суседнія сады і двары.

Раз'юшаныя бандыты і выпушчаныя стракапытаўцамі з турмы крымінальнікі стаялі па абодва бакі Румянцаўскай вуліцы, за іх спінамі туляліся ашуканыя салдаты з наіўнымі сялянскімі тварамі і літасціва глядзелі на скрываўленых, знясіленых і абшарпаных людзей, што, кульгаючы і трымаючыся адзін за аднаго, выходзілі з гасцініцы. Яны памкнуліся павярнуць на Магілёўскую вуліцу, але той самы афіцэр, што гаварыў з Валодзькам, крыкнуў: «Ацапіць!»

Бандыты абкружылі абаронцаў «Савоя», залязгалі затворамі і пачалі біць прыкладамі і ножнамі шабель па забінтаваных галовах і плячах.

Старшыня Чэка Ланге кульгаў і ледзьве трымаўся на нагах, а крымінальнікі і азвярэлыя салдаты штурхалі і паролі яго штыхамі, білі і лаяліся.

— Апамятайцеся, калі вы яшчэ людзі! Вы здрадзілі народу, рэвалюцыі і нават свайму слову. Што вы робіце?— спрабаваў суняць раз'юшаных мяцежнікаў Камісараў.

Афіцэрык падскочыў да яго і сунуў у твар ручкаю нагана. Па шчацэ пабег струменьчык крыві, а вока заплыло сіняй пухлінаю.

Б'ючы і штурхаючы, іх павялі па Румянцаўскай вуліцы ў турму. З вокан і з двароў баязліва пазіралі людзі, многія крадком выціралі слёзы, іншыя стараліся запомніць адзічэлыя аблічны катаў, каб пазнаць іх, калі ласпрабуюць выкруціцца ад расплаты за здраду.

А к Гомелю падыходзілі чырвонаармейскія часці — з Смаленска прыбыў атрад на чале з губернскім ваенкомам Язэпам Адамовічам, каля Нова-Беліцы пачынала абстрэл мяцежнікаў Бранская дывізія. Салавей са сваімі байцамі заняў маёнтак Прудок, вярсты за чатыры ад горада. Адсюль відаць дахі і дымкі над камінамі, чуваць гул і страляніна. Да бабруйскага батальёна далучылі рагачоўскі і жлобінскі атрады, пераважна людзей маладых, апранутых вельмі страката: лапці і доўгі шынель, хромавыя боты і кароткія кавалерыйскія венгеркі, флоцкі бушлат і стаўбунаватыя папахі.

Разведчыкі далажылі, што ўскраіна горада занята ланцугамі мяцежнікаў і ўтыкана кулямётнымі гнёздамі Яны ж прывялі двух да смерці перапалоханых стракапытаўскіх салдат. Невялічкі, з русяваю бародкай і бязбровымі вачыма дзяцюк шморгаў носам, біў сябе ў грудзі і енчыў:

— Далібог, д'ябал папутаў. Мы што? Як тыя авечкі. Куды баран, туды і мы следам. Хіба ж мы супроць Саветаў? Камандзіры кажуць: «Здраднікі не пушчаюць дадому, біце іх...» Ну дык мы і таго...

Салавей, можа, упершыню ў жыцці вылаяўся:

— Бар-р-ран. Усе вы бараны бязмозгія! На сваіх падняліся! Супроць рэвалюцыі, супроць свабоды пайшлі.

Палонных абшукалі і падалі Салаўю дзве паперкі — два пасведчанні. У іх было сказана, што іх прад'яўнікі з'яўляюцца байцамі 1-й паўстанцкай арміі. Побач з подпісам Стракапытава стаяла вялікая сіняя пячатка з двухгаловым арлом пасярэдзіне.

— Ого, уяад і царскі герб прышлёпнулі, толькі арол пакуль што без кароны. От за што вы ваюеце!— І ён патрос перад мокрым носам спалоханага салдата паперкамі склаў іх і схаваў у верхнюю кішэньку фрэнча, кіўнуў Драпезу: — Ты іх, Анупрэй, прывёў, ты і разбірайся. Адумаюцца, выкладуць усё, як на споведзі, можаш памілаваць, а не — няхай трыбунал рашае, кіруючыся рэвалюцыйным сумленнем. Вядзі!

Паваліў густы мокры снег, сляпіў вочы, слізкімі камякамі спаўзаў за каўнер. «От цяпер у гэтай крутаверці і рвануць на варожыя пазіцыі»,— падумаў Салавей і паклікаў камандзіра далучанай у дарозе роты.

— Ваша рота займае левы фланг уздоўж чыгункі. Нечаканым ударам зламаем абарону праціўніка і прарвёмся ў горад...— Салавей асекся: камандзір роты глядзеў некуды ўбок, нібы і не слухаў яго.— Вам ясна?— спытаў Салавей.

— Ясна-то ясна, але ваш загад выканаць не магу.

— Як гэта не магу?

— А так. Адыдземся, Аляксандр Раманавіч, пагаворым.

— Вы што, здурэлі? Пра што мне з вамі гаварыць? Якія ў нас могуць быць сакрэты? Выконвайце загад!

— Не магу. Салдаты адмаўляюцца страляць у такіх жа сялян, як і яны. Ды і вы ж, здаецца, сялянскі сын.

— Што гэта, здрада? — закрычаў Салавей.

Да камандзіра роты падышло і стала кругам шасцёра здаравіл, з кулакамі, як кавальскія молаты.

— Калі не хочаш слухаць мяне, камандзір, яны растлумачаць,— кіўнуў на салдат асмялелы ротны, пераходзячы на зняважлівае «ты».

— Што гэта? Пагроза?— спакойна запытаў Салавей і, ні на кога не зважаючы, пайшоў да пуні. Там стаялі групкамі салдаты. Курылі і паціху гаманілі, жавалі глёўкі хлеб, хтосьці прышываў гузік да цупкага мокрага шыняля. Камандзір батальёна заўважыў, што ў роце былі

пераважна маладыя вясковыя хлопцы. Такіх, вядома, можна павярнуць, куды хочаш. Ён весела, па-свойску, паздароўкаўся з імі, стаў на пустую скрынку і ціха загаварыў:

— Тут ваш камандзір кажа, што рота не хоча ваяваць за Савецкую ўладу. Гэта праўда, таварышы? — Усе паўставалі са сваіх месцаў і абкружылі Салаўя, але ніхто не адказаў на яго пытанне.— Белыя афіцэры ашукалі салдат і паднялі мяцеж. Яны забіваюць нашых братоў — гомельскіх рабочых і камуністаў, а вы збіраецеся памагаць забойцам. Чаго яны хочуць? Адабраць зямлю, якую нам дала Савецкая ўлада, і зноў пасадзіць на яе паноў. От паглядзіце!— Салавей дастаў з кішэнькі дзве паперкі і падняў над натоўпам: — Зноў царскі арол! Вось пасведчанні, адабраныя ў стракапытаўскіх мяцежнікаў. Глядзіце! А вы калшце, свае. Каму свае, а каму ворагі!

— Гэта ротны кажа,— пачуліся галасы з натоўпу.

— А, вунь яно што!

— Шаптаў кожнаму: «За сялян Стракапытаў, мужыцкую ўласць абяцаў».

— Прадаўся, гад, буржуям, і нас хацеў пад манастыр падвесці.

Над натоўпам ляснуў глухі стрэл. Салавей саскочыў са скрынкі. Левае крысо шыняля было прабіта. Здаравенны салдат сунуў кулаком у пашчэнкі ротнаму, той аж грымнуўся вобземлю, ускочыў і кінуўся за пуню. Тут жа яго адразу схапіла некалькі дужых рук.

— Пачакай, гаспадзін афіцэр,— прабасіў той самы здаравіла, што зваліў яго з ног,— што ты цяпер заспяваеш?

Афіцэрыка ўцягнулі ў цэнтр круга. З разбітай скіЕІцаю, увесь дрыжучы, стаяў ён перад Салаўём.

— Браточкі,— заскуголіў ён,— і вы, Аляксандр Раманавіч, даруйце. Нячысцік папутаў.

— Гэта мы ўжо чулі ад стракапытаўскіх бандытаў. А што з ім рабіць, рашайце самі, таварышы. Камандзірам у вас будзе селянін з Рудабелкі Анупрэй Драпеза. Гэтага, ды і вас болей «нячысцік не пагхутае». Зараз жа ўсім пастроіцца. Прапаную выбраць трыбунал і судзіць здрадніка па законах рэвалюцыйнага часу.

Былому ротнаму звязалі папругаю рукі. Суд быў кароткі і справядлівы.

Зноў паваліў густы мокры снег. Ен прыцярушыў сцежку ў хмызняк, па якой павялі мяцежнага афіцэрыка. А праз паўгадзіны рота над камандаю Драпезы залягла каля чыгуначнага насыпу: Малаковіч і Салавей хацелі прарваць варожую абарону і заняць заходнюю ўскраіну горада.

Бабруйскі батальён, магілёўскія курсанты, рагачоўскія і жлобінскія добраахвотнікі падняліся ў атаку. Толькі яны ўскочылі на чыгуначнае палатно, як па іх секануў густы шквал кулямётнага агню. Упала некалькі чырвонаармейцаў. Здавалася, варожая абарона стаіць суцэльнай сцяной. Затрымліваоца на буі было самагубствам, і Салавей загадаў адпаўзці за насып. Трэба зберагчы кожнага чалавека, не дапусціць непатрэбных ахвяр. Атака захлынулася, і паўтараць яе не было сэнсу. А еядзець склаўшы рукі — злачынства перад рэвалюцыяй, перад таварышамі, якія гінулі ў горадзе.

Салавей вырашыў перапаўзці ў невялічкі алешнік, абысці мяцежнікаў збоку і закідаць гранатамі. Але кулямётны агонь зноў прыціснуў іх да зямлі і прымусіў адступіць назад. Тады Аляксандр Раманавіч разам з Пракопам Малаковічам вырашылі сабраць самых надзейных камандзіраў, камуністаў і работнікаў Чэка.

— Лоб у ворага цвёрды, і яго адразу не праб'еш,— сказаў ён на гэтай кароткай нарадзе,— а губляць людзей шкода ды і неразумна.

— Што ты прапануеш? Можа, адступіць? — рэзка спытаў Малаковіч.

— Адступаюць толькі баязліўцы і шкурнікі, а дзе не хапае сілы, там выручае хітрасць і смеласць. Хто са мною пойдзе ў горад?

Многія глядзелі на Салаўя і нічога не разумелі Ён заўважыў гэтую разгубленасць і растлумачыў:

— Мы крадком прашыемся ў Гомель і ўзарвём варожае кубло з сярэдзіны. Нажахаем мяцежнікаў, закруцяцца яны, як шкурат на агні, тады легка будзе прарвацца нашым часцям. А пакуль што забаўляйце іх — пастрэльвайце час ад часу.— Ён памаўчаў і абвёў усіх стомленымі падабрэлымі вачамі.— Ну дык хто?

Падняліся Гурскі, Шолам Агал, Кроль, Тараевіч, Дзям'ян Пархімовіч,— усяго дваццаць сем чалавек.

На вуліцы гусцеў змрок. Паміж нізкіх калматых хмар цьмяна паблісквалі дзве-тры далёкія зоркі, шумеў вецер у голым веццi прысад.

Праз паўгадзіны ўсе дваццаць сем чалавек прыйшлі да свайго камандзіра і не пазналі адзін аднаго: у світах, падпяразаных вераўчанымі путамі, у палапленых кажушках, бравэрках, дзіравых аблезлых шапках, на нагах — лазовыя лапці і маршчакі.

У каго торба вісела праз плячо, як у старца, у каго за спіною целяпаўся зрэбны хатулёк.

— Цяпер і родная маці не пазнае,— радаваўся Салавей, гледзячы на сваіх хлопцаў, і яны ўсміхаліся, пазіраючы адзін на аднаго. Камандзір кожнаму расказаў, як яму прабірацца, што гаварыць, калі хто запыніць, і што рабіць у горадзе.

Адна трупа рушыла да ракі. Лепш за ўсё было прайсці па крутым узбярэжжы Сожа, паміж ракітавых кустоў. Ішлі па два, па тры і па адным. Другая трупа знікла ў густым ельніку каля чыгуначнага палатна.

Электрычнасці ў горадзе не было. Толькі там-сям у вокнах мігалі жоўтыя квадраты святла. Дамы былі трывожна прыцішаныя, нібы вымерлі і апусцелі. На цёмных вуліцах дралі глоткі п'яныя бандыты, грукалі ў зачыненыя дзверы, лупілі прыкладамі ў гулкія жалюзі крамак. Чуліся несуладныя песні і лаянка. Страшэнны жаночы крык, здавалася, разрываў густое вільготнае паветра.

Салавей прабраўся на Лібаўскі вакзал. На пероне гарэў закураны ліхтар. Салдаты цягнулі ў вагоны нейкія скруткі, завязаныя ў брудныя прасціраддлы, кулі мукі, скрынкі, жаночыя футры. Падобны на вахмістра вусаты салдат надзеў на стаўбунаватую шапку чорны кацялок, а праз плячо перакінуў доўгую сукенку з карункавымі фальбонамі.

П'яныя салдаты крычалі, мацюкаліся, штурхаліся, адбіралі адзін у аднаго нейкія транты, хапаліся загрудкі. Гармідар стаяў на вакзале і ў вагонах. Ніхто ні на кога не зважаў, і Салавей шкадаваў, што не прывёў сюды цэлы ўзвод. Ён разам з Шоламам Агалам адышоўся за пусты вагон, выцягнуў з-пад крыса світкі бляшаную гранату і шпурнуў яе ў адзіны ліхтар на пероне. Грымнуў выбух.

На вакзале пачаўся страшэнны пярэпалах: лямантавалі параненыя, адны выскоквалі з вагонаў, другія лезлі ім насустрач, збівалі з ног. Хтосьці бабскім голасам крычаў: «У ружжо!» Мяцежнікі кruціліся, бы злоўленыя зладзеі, не ведаючы, куды ўцякаць. Некаторыя рванулася на плошчу, але і там грымелі выбухі. Здавалася, што ўвесь горад заняты чырвонымі. Паніка расла. У цемры мітусіліся бандыты, кідалі нарабаванае дабро, душачыся, сцягваючы адзін аднаго, лезлі ў вагоны, стралялі самі не ведаючы куды і ў каго. Цягнік ужо крануўся з месца, а ўслед яму паляцелі гранаты. Бліснуў і прагрымеў выбух. Ніхто не мог уцяміць, што адбываецца, як прарваліся ў горад бальшавікі. Выбухі і страляніну ў горадзе пачулі заслоны і пачалі адыходзіць к чыгунцы, якая вяла на Рэчыцу. З кароткімі перастрэлкамі ў горад уваходзілі смаленскія, бабруйскія і бранскія часці. Многія і не здагадваліся, хто ім расчысціў дарогу ў Гомель, а каб і ведалі, адразу б не паверылі, што дваццаць сем адважных хлопцаў, апранутых у лапці і світкі, вырашылі лёс усёй аперацыі.

Мяцежнікі ўцякалі на Рэчыцу і Калінкавічы. А ў горадзе расла паніка: мітусіліся, кідаліся з вуліцы ў вуліцу апантаныя салдаты. Было ясна адно: Гомель захапілі чырвоныя, але дзе яны? У завулках ірвуцца

гранаты, з ускраін даносяцца страляніна і гулкае «ўра», і яшчэ большы страх апаноўваў мяцежнікаў.

Тараевіч са сваімі хлопцамі ўбачыў каля казармы чатыры гарматы, запрэжаныя конньмі. Чырвонаармейцы з наганамі ў руках і з гранатаю напагатове ўскочылі ў двор. Там нікога не было. Яны асядлалі коней і з грукатам памчаліся насустрач сваім, што наступалі на горад з Прудка.

Гарэла вежа на палацы князя Паскевіча, падпаленая снарадам мяцежнікаў. Высока ўздымаліся клубы дыму, гайдалася злавеснае барвовае полымя. У яго зарыве людзі і коні здаваліся вогненна-чырвонымі ценямі.

Трупа Лагвіновіча прарвалася ў парк. Хвастала пругкае мокрае вецце, ногі коўзаліся па збуцвелай леташняй траве. Чырвонаармейцы беглі к палацу, каб хоць далей не пусціць агонь. Каля ўвахода стаяў вартавы. Убачыўшы людзей, ён падняў вінтоўку і заляскаў затворам.

— Стой, страляйт будэт,— закрычаў ён.

Хлопцы спыніліся. Ліха яго ведае, можа, стаіць ачмурэлы стракапытавец і смальне не думаючы.

— Імем рэвалюцыі, рукі ўгору! — скамандаваў Лагвіновіч.

Вартавы паставіў вінтоўку і, хістаючыся, пабег насустрач чырвонаармейцам.

— Тафарыш, страляйт не нада. Я — Ваня,— плаксіва заенчыў ён.

Хлопцы ўбачылі невялічкага кітайца з чырвонай зоркаю на шапцы. Як ён трапіў сюды, хто яго паставіў?

— Сафет паставіў, сафет снімайт. Хілеб, хілеб, тафарыш,— ён прыкладаў худыя пальцы да вуснаў,— Ваня кушы, кушы хочыт.

Усе са здзіўленнем глядзелі на яго.

Высветлілася, што перад самым мяцяжом гомельскі гарнізон выставіў тут вартавога, і ён прастаяў без сну і ежы некалькі сутак. Чырвонаармейцы давалі яму хлеб, прыгаворваючы: «Маладзец, Ваня»,— а ён усміхаўся нейкай вінаватай усмешкаю, адшчыпваў глёўкі мякіш і павольна жаваў.

Хлопцы з групы Лагвіновіча пачалі тушыць вежу палаца. З суседніх дамоў прыбеглі людзі з вёдрамі і сякерамі, аднекуль прыцягнулі даўжэзны бусак, драбіну і пажарную кірку. Полымя пакрысе цямнела і захлыналася дымам, а ўнізе, па бруку, грукаталі двухколкі: на бераг Сожа прабіваліся групы мяцежнікаў. Над горадам стаяў гул, чуліся несуладная страляніна і крыкі.

Да групы чырвонаармейцаў падбег сівавусы чыгуначнік.

— Браткі, хутчэй у турму, там забіваюць таварышаў!

Лагвіновіч з узводам байцоў цёмнымі вуліцамі кінуліся да турмы. Яна гула сотнямі галасоў. Свяціліся закратаваныя вокны. Чырвонаармейцы прыкладамі збілі замкі. Ледзьве трымаючыся на нагах, з камер выходзілі скрываўленыя і змардаваныя людзі.

— Членаў рэўкома некуды павезлі.

— Мабыць, на Палескі вакзал.

— Ратуйце іх! — гаварылі толькі што вызваленыя вязні.

Але ратаваць ужо не было каго. На Палескім вакзале пасля доўгіх катаванняў стракапытаўцы расстралялі Білецкага, Камісарава, Ланге, Сундукова, Аўэрбаха, Бочкіна, Песіна і яшчэ некалькіх абаронцаў «Савоя». Забітых пазнавалі толькі па вопратцы. Чырвонаармейцы перанеслі іх у халодны гулкі вакзал. Паставілі ганаровую варту.

Бранскія, бабруйскія і магілёўскія часці абкружалі і даганялі злачынцаў. Аляксандр Салавей са сваімі людзьмі захапіў бронецягнік, на паравозе паставіў чырвонаармеўцаў і рушыў следам за бандытамі на Рэчыцу.

У святле туманнага вільготнага рання на адхонах чырвонаармейцы ўбачылі трупы голых скрываўленых і знявечаных людзей — на спінах павыразаны пяцікутныя зоркі, павыколваныя вочы, грудзі навылёт прабітыя штыхамі. Няшчасных палонных мяцежнікі на хаду скідалі з цягніка. Гэта быў жахлівы крывавы шлях. Многія маладыя чырвонаармейцы, не саромечыся камандзіраў, выціралі слёзы, да крыві кусалі губы.

— Што яны нарабілі! Біць іх, гадаў! Жыўцом здзіраць скуру!

Салавей змрочна маўчаў, толькі перакатваліся на шчоках тугія жаўлакі, і думаў, што ў гібелі гэтых няшчасных, нікому не вядомых байцоў ёсць і іх віна — недзе прамарудзілі. Каб не валэндаліся з тым ротным ды не ўгаворвалі, а прарваліся ў горад адразу, жылі б і рэўкомаўцы і гэтыя пакутнікі. Хацелася хутчэй нагнаць мяцежнікаў, ударыць так, каб ад іх толькі пыл закурэў, знайсці завадатараў і спагнаць з іх за ўсё. Але хто завадатар? Стракапытаў? Наўрад у яго хапіла б смеласці на такі бунт. Не, імі хтосьці кіруе, нейкая сіла штурхае ў пекла злачынстваў. Усе мяцяжы і паўстанні, усе пятлюры і калчакі, кулацкія бунты і банды крымінальнікаў — работа адных рук.

А што там дома? Як бацька, Марылька, хлопцы? Ці не дакацілася і туды водгулле гомельскага мяцяжу? Не можа быць, каб Казік Ермаліцкі з перагудамі ды плышэўскімі без бою аддалі камбедаўцам зямлю, каб іх банды так і туляліся па Загальскіх хутарах.

Салавей праз шчыліну ў заржавелай бранi глядзеў на прыдарожныя лясы, на сёлы, што ўзбягалі шэрымі хатамі на ўзгоркі, і ўспамінаў дом, родных і блізкіх. Думаў: «Як толькі адваюемся, падамся на якія-

небудзь курсы, падвучуся на агранома, прыеду дахаты, і будзем на панскай і шляхецкай зямлі гаспадарыць камунаю». Успомнілася і Параска. Як яна глядзела на яго апошні раз! Кончыцца гэтая калатэча, будзе і ў яе шчасце.

Аляксандр адагнаў непатрэбшчыну думак. Цяпер было не да іх. Цягнік падыходзіў да Рэчыцы. Салавей лічыў, што мяцежнікі яшчэ тут, і загадаў салдатам падрыхтавацца да бою. За імі ішоў эшалон з бранскімі і смаленскімі атрадамі. Бронецягнік расчышчаў дарогу.

Але стракапытаўцаў на станцыі не было, не было іх і ў горадзе. Чыгуначнікі раеказалі, што паўгадзіны назад на Васілевічы адышло дзевяць эшалонаў з мяцежнікамі. Было ясна, што цяпер яны шукаюць ратунку: будуць спрабаваць прабіцца на поўдзень да Пятлюры, а каму не ўдасца, разбрыдуцца па лесе, пачнуць рабаваць вёскі, граміць валасці, нападаць на актывістаў. Трэба спяшацца, каб перахапіць мяцежнікаў, не даць ім прарвацца ў лясы. Але і ехаць на поўную хуткасць небяспечна: можна наскочыць на разабраныя рэйкі або на завалы на дарозе.

Паказаўся мост цераз нешырокую рэчку Ведрыч. Толькі праскочыць яго, і — Васілевічы. Але каля моста стаіць чалавек і махае шапкаю. Бронецягнік спыніўся. Салавей разам з машыністам пабеглі насустрач барадатаму чыгуначніку.

— Мост падпалілі зладзюгі, каб ім пуста было. Мы тут збольшага атушылі. Так што самі глядзіце, ці вытрымае.

Салавей з машыністам узышлі на абгарэлы насціл. Канцы прысыпаных вільготным пяском шпалаў яшчэ дыміліся, але пачарнелыя зверху палі стаялі моцна.

— Паціху праедзем,— сказаў машыніст і барзджэй пабег да паравоза.

Калі праз мост перапоўз апошні эшалон, чырвонаармейцы з кулямётамі і вінтоўкамі пачалі выскокваць з вагонаў. Яны нацянькі абыходзілі Васілевічы з тылу, а бронецягнік адразу рвануўся да станцыі, забітай мяцежнікамі. Па варожых вагонах секанулі кулямётныя чэргі, грымнула невялічкая гармата. Стракапытаўцы паспрабавалі адстрэльвацца. Большаець жа з іх адыходзілі і адпаўзалі к лесу, хаваліся ў нізкарослым алешніку. Як толькі яны адарваліся ад прыцэльнага агню бронецягніка і паспрабавалі прарвацца ў густы хвойнік, іх сустрэлі вінтовачныя залпы, засакатаў кулямёт. Мяцежнікі падалі, скошаныя кулямі, жывыя прыпадалі да зямлі і адпаўзалі назад у кусты. Хтосьці спрабаваў адстрэльвацца, але стрэлы былі выпадковыя і несуладныя. Нарэшце з алешніку вытыркнуўся разадраны рукаў, прывязаны на доўгую палку,— белы сцяг. Агонь сунімаўся. Стракапытаўцы кідалі

зброю і вылазілі з кустоў з паднятымі ўгору рукамі. Многія падалі на калені, енчылі і прасілі літасці.

— Даруйце, браточкі! Афіцэры нас загубілі.

— Мы ж і не думалі супроць сваіх.

— Як шалудзівых авечак, пагналі нас золатанагоннікі.

— Спіртам залілі вочы і ачмурылі.

Салавей з Адамовічам шукалі Стракапытава і ягонага каменданта палкоўніка Сцёпіна. Але іх і след прастыў. Як толькі выскачылі з вагона, паабсякалі гужы на дзвюх фурманках, нават і хамуты не паспелі паскідаць, паўскоквалі верхам і падаліся ў гушчар. За імі кінуліся дзесяткі тры афіцэраў ды крымінальнікі, што лютавалі каля «Савоя» і на гомельскіх вуліцах.

Палонныя складалі зброю, нарабаванае ў горадзе дабро і панура станавіліся ў калону, ачэпленую канвоем. Некаторыя ўсхліпвалі і шапкамі размазвалі на брудных тварах слёзы.

Салавей з агідаю і нейкім затоеным шкадаваннем глядзеў на іх, цёмных і непісьменных людзей, ашуканых іх жа ворагамі, ворагамі рэвалюцыі.

— Вінтоўкі мы чысцім, а людзям прачышчаць мазгі яшчэ не маем часу,— нібыта разважаючы сам з сабою, гаварыў Салавей Малаковічу.— А цёмнага чалавека куды хочаш павернеш. Зброя зброяю, таварыш камісар, толькі ваяваць трэба і словам.

Надвячоркам чырвоныя атрады вярталіся ў Гомель. На першым эталоне трапятаўся закураны, з мазутнаю плямай, невялічкі чырвоны сцяг. Каля яго, за парэнчамі паравоза, стаялі два чырвонаармейцы, падпяразаныя кулямётнымі стужкамі, з вінтоўкамі наперавес. Яны ўглядаліся ў вузкія каляіны дарогі, у набраклыя веснавымі сокамі пералескі, у высокае лілаватае неба. Чырвонаармейцы гаманілі і спявалі ў цяплушках. За імі ішлі маўклівыя эталоны з палоннымі. На кожным тормазе ехаў чырвонаармейскі канвой.

Апошні грукатаў на рэйках бронецягнік. Ім камандаваў Аляксандр Салавей. Ён прытуліўся да халоднай мулкай сцяны. Ныла ўсё цела, як пасля цяжкай работы, самі заплюшчваліся вочы, і здавалася, яго ахутвае вільготны, вогненна-аранжавы туман. Выплываюць знаёмыя твары, бязгучна ўзрываюцца гранаты, а ляскат колаў уяўляецца бясконцаю кулямётнаю чаргой.

Ён то прачынаўся, гаманіў і жартаваў з камандзірамі і байцамі, то зноў правальваўся ў туманную мітусню ўспамінаў і сноў.

Раніцою прыбылі ў Гомель. На Палескім вакзале, дзе нядаўна быў штаб мяцежнікаў, чырвонаармейцаў сустракаў старшыня павятовага камітэта таварыш Хатаевіч. Ён толькі што вярнуўся з VIII з'езда

партыі. Мяцеж пачаўся і быў ліквідаваны, калі ён быў у Маскве. Разам з Хатаевічам прыйшлі перабінтаваныя змучаныя абаронцы «Савоя», якім пашанцавала вырвацца жывымі. Яны віталі чырвонаармейцаў і дзякавалі за вызваленне горада.

Камандзіры акружылі Хатаевіча.

— Ну, як там у Маскве?

— Што гаварыў на з'ездзе таварыш Ленін?

Ён коратка адказаў на пытанні. Потым горача і ўсхвалявана загаварыў:

— Стракапытаўскі мяцеж — не выпадковы бунт былых царскіх афіцэраў. Гэта толькі адно звяно ў ланцугу вялікай варожай змовы. Мяцяжы і пагромы па загаду контррэвалюцыйнага цэнтра адначасова пачаліся ў розных мясцінах краіны. Па суседству з намі, у Барзнянскім павеце Чарнігаўскай губерні, разгарэлася кулацкае паўстанне. Яго паднялі зсэры, а бандамі камандуе царскі палкоўнік Сякіра. Наш рэвалюцыйны абавязак дапамагчы чарнігаўскім таварышам ліквідаваць кулацка-эсэраўекае паўстанне. Вы стомлены баяМі з мяцежнікамі. Але час не чакае. Жыццё барзнянскіх камуніетаў, рабочых і сялян у небяспецы. Бандыты паляць вёскі, расстрэльваюць бальшавікоў і вясковых актывістаў.

Салавей падняў руку і зычна скамандаваў:

— Бабруйскі батальён і прыдадзеныя да яго атрады, па вагонах!

Праз гадзіну цягнік з чырвоным сцягам на паравозе адыходзіў на Бахмач.

13

Лясы адбягалі далей і далей. Яны здаваліся блакітнымі рысачкамі паміж звільжэлаю зямлёй і шэрым небам. Недзе далека пры палявых дарогах тырчалі адзінокія таполі, мільгалі хутаркі і доўгія сёлы з беленькімі цэркаўкамі.

Усё часцей за вокнамі ў павуцінні голых садкоў праплывалі мазанкі пад чарацянымі стрэхамі, у ярах паблісквалі азярынкі веснавое вады. Пачыналіся зацягнутыя сіняватай смугою стэпы. Там-сям, нібы купкі снегу, бялелі чароды гусей, каля самай чыгункі спутаныя коні грызлі сухое бадылле леташніх траў. Стэпы дыхалі гаркавата-п'яным чадам вясны і вільгаццю набрынялай зямлі. Прасторы павольна плылі, як вялікая карусель, мяняючы колеры і краявіды. Часам прабівалася сонца, і ў вокны вагона ўрываліся шырокія снапы пыльнага святла, падсіненага воблачкамі тытунёвага дыму.

Чырвонаармейцы драмалі, дзе хто прымасціўся. А Салавей не адрываўся ад акна. Яго трывожылі і клікалі пахі вясны, бязмежныя

прасторы ледзь-ледзь зарунелай зямлі — усё тое, што ён так любіў з маленства. Але не толькі захапленне цягнула яго да акна — ён ні на хвіліну не забываўся, што адказвае за кожнага байца свайго батальёна, што недзе іх чакае бандыцкая засада і трэба быць гатовым у любую хвіліну рынуцца ў бой.

Цягнік спыніўся на невялічкай станцыі Макашына. «Няўжо не хапіла дроў ці вады?» — падумаў Салавей і выскачыў з вагона. Каля паравоза стаяў доўгі, як тычка, дзяжурны і нешта гаварыў машыністу. Аляксандр падбег да іх.

— Прыехалі, таварыш камандзір,— спакойна сказаў сівавусы машыніст.

— Куды прыехалі? Нам жа трэба на станцыю Доч,— гарачыўся Салавей.

— На гэтую Доч ужо ўссеў сукін сын Антонаў.

Пачцівы дзяжурны ў пенснэ стаяў навыцяжку.

— Мы прытрымалі ваш цягнік, каб папярэдзіць, што мінулай ноччу Доч занялі бандыты. А яны здатныя на ўсё.

— Многа іх там?

— Пэўна не ведаю. Але з раніцы па тэлефоне мацюкаюцца і пагражаюць. Нядаўна з Бахмача прыйшоў цягнік. Машыніст казаў, што ў вакзале не засталося ніводнае шыбіны, на пероне расклалі вогнішча, скубуць гусей, б'юцца і скачуць «казакі» Антонава, рабуюць пасажыраў. Дык глядзіце самі. Мы павінны папярэдзіць.

Салавей прыкусіў ніжнюю губу, насупіў бровы, Маўчалі дзяжурны і машыніст.

— Што вы ў бліжэйшы час адпраўляеце ў той бок?

— Платформы з баластам,— Дзяжурны выцягнуў вялікі гадзіннік на ланцужку.— Пойдуць праз гадзіну пятнаццаць хвілін.

— Ясна,— адказаў Салавей і загадаў машыністу паставіць эталон на запасны пуць, а сам з дзяжурным пайшоў у вакзал. Ён адбіў тэлеграму ў Гомель, каб Малаковіч прыслаў у Макашына атрад магілёўскіх і смаленскіх курсантаў.

Праз гадзіну Салавей з Тараевічам, апранутыя ў прамасленыя курткі, штаны і шапкі тармазных кандуктараў, чакалі цягніка з баластам. Як толькі ён падышоў да станцыі, абодва ўскочылі на тормаз апошняй платформы.

У самыя рызыкоўныя разведкі Салавей заўсёды хадзіў сам. Ён верыў у сваё шчасце, бо ўмеў вылузацца з любое пасткі: прыкінецца то недалужным мужычком, то сквапным мяшэчнікам.

За прыдарожнымі елачкамі цягнуліся бяскрайнія палі з яшчэ празрыстымі гайкамі і адзінокімі дзічкамі. Тут ужо былі зелянейшая

трава і цяплейшы ветрык, а ў спіну прыгравала сонца, затканае рэдзенькаю павуцінкаю бялявых воблакаў. Неба праразалі імклівыя ластаўкі, на адхонах длубаліся вялікія бліскучыя шпакі, але за лязгатам колаў не было чутно ні іх ціўкання, ні песень. А Салавей так любіў цішыню палёў і птушынае шчабятанне, пах раллі і падсохлага гною. Ранняя вясна растрывожыла яго сялянскую душу.

Апошнюю платформу тузала і кідала з боку ў бок, матляла, як паўрозу на ветры. Паравоз асіпла раўнуў, платформы збіліся «з нагі» і заляскаталі несуладна і павольна.

— Пад'язджаем! — крыкнуў Салавей Тараевічу, згроб з парэнчаў жменю паравознай сажы, нацёр ёю рукі, патрымаўс5і за твар і стаў яшчэ болей падобны на мурзатага чыгуначніка. Тое ж самае зрабіў і Тараевіч. Яны паглядзелі адзін на аднаго і весела засмяяліся.

Цягнік запавольваў хаду. Паказалася станцыя. У прысадзістым вакзальным будынку свішча ведер, на пероне валяюцца галавешкі і абгарэлая салома, але ні песень, ні крыкаў не чуваць. Відаць, бандыты нацешыліея, нагуляліся і недзе ў зацішку, паадкідаўшы хвасты, спяць. Убачылі трох дзецюкоў з кароценькімі абрэзамі ў руках. На дваіх смушкавыя кучомкі, на трэцім — шапка з гайдамацкім шлыкам. Мабыць, вартавыя. А дзе ж астатнія і колькі іх?

Паравоз спыніўся каля вадакачкі і пачаў смактаць ваду з доўгага хобата. Салавей з Тараевічам саскочылі на вільготны пясок, дзеля прыклепу адчынілі заслонКі на буксах, пастукалі па рысорах і колах і падышлі да дзябёлай грудастай стрэлачніцы, прывіталіся.

— Адкуль гэта ў вас «запарожцы»?

— Цэ ж скажэнні бандзюкі з Шаповаловкі. Пілы, пілы, жінок, як цых курчат, ловылы, а тэпэр сплящь, шчо б воны нэ повставалы. А чы тры дурні стэрэжуць.

— А цябе часам не спаймалі? — усміхнуўся Тараевіч.

— Трасцачку ім. У мэнэ свій козак е.

— Багата іх тут? — запытаў Салавей.

— Та ні. Можа, якіх з трыццаць і будэ. Куркулі всэ. У Борзні, там богацько, та в Шаповаловці шайка стоіць, а тут ні.

— А Борзна адсюль далека? — пацікавіўся Салавей.

— Хіба ж вы не тутэйшыя?

— З Канатопа,— адказаў Тараевіч — Бежанцы мы.

— Можа, у шайку хочатэ? Там всіх бэруць. Погуляетэ, докі головы не паскручуюць. А до Борзны верстыв з дэсять будэ, нэ більш. Ідыць, як хочатэ.

Хлопцы падзякавалі за параду, развіталіся з кабетаю і пайшлі назад уздоўж састава. На іх ніхто не зважаў. Абышлі загшошаны,

зарыганы вакзал. На лаўках спала некалькі «казакоў». У кутку прымасціўся чубаты дзяцюк з пісягом праз усю шчаку. Прыхінуўшыся да яго, спала нейкая пакамечаная маладзіца.

Салавей пашкадаваў, што кінуў састаў у Макашыне. «Куркулёў» можна было перавязаць, як сонных куранят. А пакуль дабярэшся назад ды вернется сюды з чырвонаармейцамі, ачухаюцца і паспрабуюць агрызацца. Лішні клопат. Тэлеграфаваць адсюль нельга — невядома за каго начальнік станцыі. Ды і нідзе не відаць яго. Пэўна, зашыўся пад печ з перапуду. Значыць, трэба хутчэй вяртацца. Але як? На чым? Яны яшчэ пасланяліся па станцыі, пагаварылі з вартаўнікам вадакачкі, наслухаліся ад яго розных жахаў, што робяцца ў Борзне і ў Шапавалаўцы.

Пад вечар на тормазе таварна-пасажырскага цягніка разведчыкі вярталіся назад.

У Макашыне да батальёна Салаўя далучыліся атрады магілёўскіх і смаленскіх курсантаў. У цяплушках стала цясней і весялей. Землякі і даўнія знаёмыя гаварылі пра баі ў Гомелі і каля Васілевіч, успаміналі сяброў, што загінулі каля «Савоя».

Дзяжурны папярэдзіў станцыю Доч, што адправіўся таварны цягнік на Бахмач. Ад Макашына да захопленай бандытамі станцыі нават на сырых дровах ехаць не болей як гадзіны паўтары. Салдаты разам з качагарамі шуравалі топку і ўсё часцей угляд аліся ў вечаровы змрок. Здавалася, наўкол бязлюдная пустэльня, і толькі, як прывіды, праплываюць чорныя прыдарожныя елачкі.

Наперадзе мільгануў агеньчык семафора, пацішэў грукат, тузануліся вагоны, заляскалі буферы. У цяплушках не запальвалі газовак, каб здавалася, што ідзе сапраўдны таварны састаў.

У святле закуранага ліхтара паказалася постаць дзяжурнага, воддаль стаяла некалькі бандытаў з абрэзамі.

Калі састаў спыніўся, чырвонаармейцы пачалі выскокваць не на перон, а на другі бок цягніка. Нехта з бандыцкіх вартавых стрэліў, каб папярэдзіць сваіх. Дзяжурны патушыў ліхтар і папоўз пад вагон. Ён не адразу ўцяміў, што адбылося, і толькі, калі пачуў тупат соцень ног і кароткія загады камандзіраў, вылез з-пад вагона.

— Таварышы, іх там чалавек трыццаць,— калоцячыся, мармытаў ён,— не бойцеся, іх чалавек трыццаць. Толькі з абрэзамі.

З вагона прасакатаў кулямёт, грымнула «ўра», і чырвонаармейцы пачалі абкружаць будынак з павыбіванымі вокнамі. Бандыты сігалі праз платы, туляліся за пунямі, беглі куды каторы, каб толькі якнебудзь выскачыць у цёмнае поле. Чуліся выпадковыя несуладныя

стрэлы і крыкі — п'яныя адразу працверазелі, рызыканты беглі, як зайцы...

Салавей загадаў дзяжурнаму запаліць у вакзале святло. Усе ўбачылі паламаныя лаўкі, лужыны на падлозе. Хоць і былі выбіты вокны, у зале трымаўся цяжкі агідны дух.

Чырвонаармейцы прывялі раснатланую кабету. Яна дыхала густым перагарам самагону, выцвілыя вочы глядзелі дзіка і палахліва. Салавей адразу пазнаў тую, што днём драмала на плячы бэйбуса з пісягом на шчацэ.

— Думалі, бандыт за студняю схаваўся, глядзім, аж баба,— расказвалі чырвонаармейцы камандзіру.

— А можа, казак у спадніцы. Давай праверым,— рагаталі хлопцы.

— Сказылыся, чы шчо? Одарка я. Ішла від сусідкі, аж чую стрыляюць і бэжуць онтоновці, я за колодзеж і схавалася.

— Куды ж уцёк твой ухажор з рассечанай мордаю? — спакойна запытаў Салавей. Адарка зальшпала вачыма, шморгнула кірпатым носам, паспрабавала заплакаць.

— Він жа мэне, під ляворвертам сюды прывіў. Ссільнічаў пры всіх, а тэпэр уцік. У яр воны побіглы. Ловыть іх, скажэніх. На Борзну хочуць пробытыся.

Валаводзіцца з п'янаю бабай не было калі. Салавей пакінуў чалавек дзесяць канвойных, здаў ім Адарку, а сам з байцамі выскачыў за дзверы. Далека і зусім блізка чулася страляніна, заліваліся брэхам сабакі, хлюпала пад ботамі гразь.

Чырвонаармейцы абкружылі станцыю і вёску, два ўзводы пабеглі следам за бандытамі ў глыбокі яр.

Неба паружавела на ўсходзе, у парадзелым змроку паказаліся дрэвы, кусты і постаці салдат. Каля яра ляжала некалькі забітых бандытаў. Астатнія, прыціснутыя да ўзгорка, пакідалі абрэзы. Сярод іх быў і «казак» з пісягом праз усю шчаку.

Да Салаўя падбег камандзір узвода Пачуліс.

— Што будзем рабіць, таварыш камандзір?

— Вядзіце на станцыю і здайце канвою. Там гэтага «гайдамака» Адарка чакае.

— Бісава баба! — злосна працадзіў той і цвыркнуў праз зубы слінаю. Чырвонаармейцы звязалі бандытам рукі іхнімі ж папружкамі.

— Чаго крутыш? І так не ўтэчу,— агрызнуўся той жа здаравіла з шрамам на твары. Бандытаў павялі на станцыю, а Салавей з батальёнам рушыў на Шапавалаўку.

Ужо добра вывіднела. Батальён ланцугом расцягнуўся па гразкім полі. Байцы кацілі кулямёты, трымалі пад пахамі зараджаныя він-

тоўкі. На ўзгорку паказалася вялікае сяло: соткі з паўтары прысадзістых мазанак стаялі паміж садгоў і тапалёвых прысадаў. Шапавалаўка, відаць, яшчэ спала — ні дымку, ні жывое душы не відаць. Чырвонаармейцы залеглі вакол сяла. Да крайняй хаты падышлі Салавей з Тараевічам. Яны былі ў шынялях і ў замасленых чыгуначных шапках. Што за людзі, ніхто адразу і не здагадаецца. Асцярожна пастукалі ў маленькае акенца. За шыбінаю паказалася сагнутая постаць заспанага дзеда з сівой барадою.

— Відчыні, дзіду,— па-ўкраінску азваўся Салавей.

Ляпнула клямка, з дзвярэй выйшаў ускудлачаны стары ў палатняных споднiках і ў кажушнай камізэльцы.

— Чого тобі? — буркнуў ён.

— Чэрвоных тут не було? — спытаў Салавей.

— А вы хто ж будэтэ?

— Війско батькі Пэтлюры,— адказаў Аляксандр.

— Гэ, булы та сплылы. Всіх пэрэдушылы на станцыі і ў Борзні. І я штук з дэсяць порэшыв.

Тараевіч выхапіў наган. Салавей сціснуў яго руку.

— Адставіць, таварыш Гараевіч.

Стары змікіціў, што сказаў не тое, што трэба, упаў на калені і залямантаваў:

— Брэшу, брэшу, таварышы, нікого я нэ бачыв. Догодыть хотів. Пэрэмішалысь тэпэр і білы, і чэрвоны, і жовты, і сыні. Сын мій, Грыцко, у Шчорса служыць. Пошкадуйтэ старого. Набрэхаў сам на сэбэ, чого і нэ снілося.

— Уставай, стары,— падняў яго за худое плячо Салавей,— і пакажы нам хату атамана.

— По ліву руку, біля колодэжа, зэлэнаю бляхою крытая. Він сам з куркулям! ў Борзні. Там іх вэлыка сіла, і полковнік Сікіра з імі. А тут тількі жінкі да дзіты. Прямо ідыть,— не сунімаўся стары. Яго вузлаватыя рукі калаціліся, і сам ён яшчэ болей змізарнеў і ўвагнуўся.

Салаўю аж шкода зрабілася яго. Было відаць, што ён не «куркуль» і не бандыт.

— Ідзі, дзед, у хату і скажы бабе, што ты стары брахун. Так і скажы!

— Ей жа ж богу нэ брэшу. По ліву руку хата.

Салавей пакінуў засаду ў хаце атамана Антонава, і чырвонаармейцы рушылі на Борзну.

Гарадок стаяў на беразе невялічкай рэчкі. На тым баку бялеў малады бярэзнік, напалову затоплены веснавой паводкаю. Пад нагамі шамацеў леташні прымяты жнеўнік. Ужо відаць царква з блакітнымі

купаламі і блішчастымі крыжамі. Раптам ударылі званы, трывожна, як на пажар.

— Які сёння дзень? — пацікавіўся Салавей.

— Пятніца,— адказаў маладзенькі баец.

— Да бою ...тоўсь! — пакацілася на полі каманда. Чырвонаармейцы разгарнуліся шчыльным ланцугом, наперад выкацілі кулямёты.

Вярсты за тры ад горада іх сустрэў густы вінтовачны залп. Байцы залеглі. Шэсць кулямётаў накрылі бандыцкі ланцуг у неглыбокім яры. Кулі дзынкалі над галовамі антонаўцаў, не даючы ім зрушыцца і падняцца. Некаторыя паспрабавалі адпаўзаць назад, але іх прашывалі кулямётныя чэргі. За сцяною агню рухаўся ланцуг чырвонаармейцаў.

А званы гулі і гулі, склікаючы з суседніх хутароў бандыцкія шайкі. На ўскраіне гарадка мітусіліся стракатыя постаці, але лезці пад шквал кулямётнага агню не адважваліся. Бандыты пачалі адпаўзаць па лагчыне, шукалі ратунку ў канаўках і залітых вадою ямках, некаторыя спрабавалі перапаўзці да невысокага кургана, што стаяў ля дарогі, але так і заставаліся ляжаць у полі. З лагчыны адстрэльваліся з абрэзаў і вінтовак. Стрэлы чуліся ўсё радзей і радзей — адным удалоея перабрацца да ракі, другія засталіся ляжаць у яры.

Чырвоны батальён падышоў да гарадка. Тут яго сустрэў моцны вінтовачны агонь, з царкоўнай званіцы засакатаў кулямёт. Бандыты супраціўляліся. Яны стралялі з-за дамоў і парканаў, з гарышчаў і вокан. Параненыя чырвонаармейцы не пакідалі строй. Рота магілёўскіх і смаленскіх курсантаў, якою камандаваў Тараевіч, абышла Борзну з тылу і адрэзала адступленне бандытам. Па званіцы ўдарылі кулямёты. Антонаўцы, як падсмаленыя, хаваліся куды каторы, некаторыя кінуліся да рэчкі, але пераправіцца праз паводку не было на чым. Задоўга да канца бою Антонаў з палкоўнікам Сякірам у невялічкім чоўне пераплылі на другі бераг і зніклі ў бярэзніках.

Пасля паўдня страляніна сціхла зусім. Абяззброеных бандытаў прыводзілі на плошчу каля царквы. Іх клялі і лаялі мясцовыя мужчыны і кабеты, кідаліся да тых, што рабавалі і здзекаваліся з іх у дні п'янага разгулу.

З турмы выйшлі сорак тры камуністы. Іх не кармілі і не давалі. Вады, збівалі да крыві, выкручвалі рукі і ламалі рэбры. Падтрымліваючы адзін аднаго, яны прыйшлі на плошчу, дзе сабралася ледзь не ўся Борзна.

На сярэдзіну плошчы выйшаў змардаваны, з вялікім сіняком пад вокам сівавусы мужчына. Ён зняў з палыселай галавы шапку і нізка пакланіўся чырвонаармейцам.

— Вялікае вам дзякуй, хлопцы, за вызваленне. Кулакі і зеэры закатавалі нашых лепшых таварышаў: старшыню рэўкома Івана Піліпавіча Грыцэнку, ваенкома Палійчука і многіх адданых рэвалюцыі бальшавікоў. Іх мы не забудзем, а бандытам не даруем.

Хтосьці падаў прамоўцу невялічкі чырвоны сцяг. Ён яго высока падняў над галавою:

— Родзяньска влада жыла і будэ жыты на Украіне!

Да прамоўцы падышлі яго таварышы, вызваленыя з турмы камуністы, узяліся за рукі і, накульгваючы, памагаючы адзін аднаму, пайшлі па вуліцы да будынка рэўкома. Побач з імі ішоў Салавей,

## Частка трэцяя

1

Нехта ціха пастукаў у шыбіну. Счакаў і пастукаў яшчэ.

— Каго там нялёгкая носіць па начах? — забурчала старая.— Архіп, выйдзі, глянь.

Пачуўшы ў хаце гаману, за акном азваўся знаёмы голас:

— Адчыніце, гэта я, Раман.

— Я сам, тата,— ускочыў з ложка Максім Ляўкоў і босы, у палатняных споднiках, кінуўся ў сенцы. Грукнула завала.

У сенцы ўвайшоў каржакаваты Раман Салавей.

— Не прасні Савецкую ўласць, сынок,— не вітаючыся, буркнуў ён з парога.— Паднімай людзей, хлопча.

Максім упоцемках пачаў хуценька апранацца. Падняўся і ўжо нацягваў боты яго бацька.

— Яшчэ завідна ў Харомнае прыехалі верхам Казік Ермаліцкі, Плышэўскі і Перагуды. Усе з вінтоўкамі і шаблямі, а каля рэчкі сотні з паўтары шляхцюкоў са стрэльбамі, торбы хлебам і салам напакавалі. Сюды збіраюцца ісці — бальшавікоў, кажуць, вешаць і камунію разганяць. Марылька мая сама чула, як яны адзін перад адным выхваляліся і зубы выскалялі. Прыбегла, пераказала мне. Я — за рэзгіны ды гародамі, бытта сена з адзёнкаў збіраць. Туляўся па хмызняках, пакуль змерклася, а потым у лес убіўся, тут яны мяне, думаю, трасцу знойдуць. Пакуль прыгробся сюды, дык і ноч настала. Так што барзджэй падымайце людзей, мужчыны. Да раніцы яны будуць тут.

Максім асядлаў невялічкага мышастага коніка і паскакаў у Карпілаўку, а Раман з Архіпам будзілі мужчын у Кавалях і Лаўстыках. Праз гадзіну чалавек з паўсотні з вінтоўкамі, бярданкамі і двухстволкамі хлюпалі па калатушы веснавой дарогі ў Рудабелку. А там ужо сабраліся карпілаўскія і руднянскія мужчыны. Карней і Цімох Валодзькі прывялі чалавек пятнаццаць узброеных хлопцаў. Яны звечара прыбеглі ў Дуброву з Лучыцкай воласці прасіць у рудабельцаў падмогі. Шляхецкая банда разграміла іх рэўком, застрэліла старшыню і сакратара і заняла воласць. Хлопцы трохі адстрэльваліся, але хіба ўстоіш перад такой зграяю. От і ўцяклі ў Рудабельскую рэспубліку, дайшлі да Дубровы і прысталі. А як толькі пачулі, што і тут трэба біцца, адразу — за стрэльбы і да воласці.

— Разгуляліся шэршні,— расказвалі лучыцкія хлопцы.— І не толькі па сёлах. Унь і ў Гомелі бунт паднялі. Там дні тры ішла страляніна, з гарматаў па рэўкому смалілі мікалаеўскія афіцэры. Дык і шаршнюкі

засцянковыя асмялелі. Залыоць самагонкаю вочы і, як ваўчыная гайня, лютуюць. Ні малога ні старога, ні вока ні бока не глядзяць.

Лучыцкіх хлопцаў прыняў у свой атрад Максім Ус. Высокі, плечы, як два кавадлы, рукі ні ў адны рукавіцы не лезуць, а на твары сарамяжая дзіцячая ўсмешка, кароткія вусікі, як прылепленыя, шынель ледзьве прыкрывае калені. Ен ідзе паперадзе свайго атрада па загуменні.

— От тут і заляжам. Без каманды не вытыркацца і не страляць. Падпусцім шэршняў як найбліжэй і тады ўлупім у лоб.

Хлопцы прымошчваюцца за гумнамі, за ёўнямі і варывенькамі. Лявей ад іх залеглі карпілаўцы і руднянцы. Імі камандуе маленькі і юркі Цімох Валодзька, той самы «каапературыўшчык», што яшчэ пры немцах навазіў сюды гранат і патронаў. Ён углядаецца ў веснавы світальны туман. За прыгуменнямі — пясчаны ўзгорак, там-сям тырчаць кволыя хвойкі, а за імі — на грудку — вясковыя клады. Маўкліва стаяць цёмныя сосны; бярозкі, нібыта абпырсканыя зеленаватаю расой, вось-вось расправяць клейкія лісточкі. Наўкол ціха-ціха. У небе дагараюць апошнія бледныя зоркі, над лесам яснее ўсход.

Увагнуўшыся, па загуменні ідзе Максім Ляўкоў. Саматканы суконны фрэнч падпяразаны шырокай папругаю з двума патранташамі, з~за яе тырчыць наган, у руках нямецкі карабін, палінялая салдацкая шапка насунута на лоб.

— Трымайцеся, хлопцы. З Бабруйска і Глуска ідзе помач: адбілі тэлеграму ў ЧК. Найман выехаў,— зашаптаў ён Максіму Усу. Той пераказаў суседу.

У хмызняку, на кладах, мільгануў агеньчык і патух. Відаць, нехта чыркнуў запалку. Потым заварушыліся кусты. На пясчаным узгорку паказаўся бандыцкі ландуг. Ён то вытыркаўся, то хаваўся за нізкімі хвойкамі. Шляхцюкі, відаць, хацелі знячэўку ўскочыць у Рудабелку, калі людзі яшчэ не паўставалі, захапіць воласць і перабіць камуністаў. Яны тут ведалі кожную хату, кожнага пазнавалі ў твар. Не ведалі толькі, што іх ужо чакаюць.

Як толькі бандыты выйшлі з хвойніку, Ляўкоў крыкнуў «плі» і націснуў на курок карабіна. Грымнуў залп з вінтовак, наганаў і бярданак. Шляхцюкі пападаль адпаўзлі ў хвойнік і адказалі зладжаным залпам. Дзынкалі кулі, упіваліся ў сцены гумнаў і свірнаў, адколвалі трэскі з платоў. Нельга было падняцца з зямлі. Іван Кавалевіч памкнуўся падпаўзці да шула варот, але куля штурханула яго ў плячо, ён войкнуў і зваліўся ў вільготны пясок. Максім Ус адной рукою адцягнуў яго за свіран, перавязаў рану шкуматам кужэльнай кашулі.

Бледны Іван моцна сцяў зубы, дыхаў з клёкатам, а на вуснах пухірылася ружовая пена.

— От і адпомсцілі шэршні табе за Гэлю,— прашаптаў Максім. Ён загадаў хлопцам аднесці Івана ў зацішак і хутчэй везці да фельчара, а сам вярнуўся ў атрад.

Страляніна не змаўкала. Было відно, як бандыты за хвойкамі перапаўзаюць на правы бок, каб зайсці з тылу. Па іх стралялі хлопцы з атрада Валодзькі.

— Насунемся назад, бліжэй да свірнаў, каб выманіць іх на гала,— перадаваў Ляўкоў па ланцугу.

Ускрай вёскі густа ляпіліся хаты. За імі лягчэй можна было схавацца, каб зберагчы людзей. Партызаны адышлі бліжэй да вёскі. Бандыты ўзрадаваліся, што чырвоныя адступілі, і пачалі займаць іх ранейшую пазіцыю. Боем камандаваў Парфір Плышэўскі. Некалі ён быў настаўнікам, на вайне дaслужыўся да штабс-капітана, і яму, старэйшаму па чыну і ўзросту, Казік Ермаліцкі перадаў сваю банду, а сам круціўся пры ім, як ліслівы шчанюк. Плышэўскі, схаваўшыся за гумном, усе каманды перадаваў праз веставых. Атаман не мог рызыкаваць жыццём і не вытыркаўся туды, дзе свісталі кулі. Ён ведаў, што на Мазыр наступав Пятлюра, а калі яны захопяць Рудабельскую воласць і злучацца з асноўнымі сіламі паўстанцкага камітэта Палесся, ён тут будзе гаспадаром і тады пакажа «свабоду» ляўковым, салаўям і ўсім гэтым сухарэбрым злыдням.

Плышэўскі спадзяваўся, што вось-вось яны возьмуць верх, Ён хацеў загадаць Казіку, каб той вёў сваіх людзей праз цвінтар бліжэй да воласці. Але блізка якраз нікога не было. І раптам з-за хлява выскачыў невялічкі мужычок у раешпіленым фрэнчыку, з дубальтоўкаю ў руцэ. Плышэўскі, здаецца, яго не бачыў раней.

— Адкуль ты?

— З Гатка,— схлусіў той, бо ведаў, што ўся шляхта з гэтага засценка падалася ў Казікаву банду.

— Бяжы хутчэй да Казіка і скажы...

А той перахапіў стрэльбу і, не цэлячыся, смальнуў у грудзі Плышэўскаму. Яго штурханула назад, сагнуліся калені, нібыта збіраліся ўкленчыць, і ён ніцма шмякнуўся на зямлю, прымінаючы леташняе сухое бадылле. Афіцэрская шапка скацілася ў разорку, на вялікай кішэні фрэнча праступілі цёмныя плямы. А вочы яшчэ лыпалі, разяўлены рот хапаў паветра.

Мануйла Кавалевіч, прыгінаючыся, загуменнямі бег да сваіх, стрэлы грымелі каля цвінтара, а на яго ніхто не зважаў, як і тады, калі прakрадаўся на «камандны пункт».

Шляхцюкі адпаўзалі к глінішчу. Ус шыбануў у іх гранатаю. Нехта крыкнуў: «Парфіра забілі!» Ахопленыя панікаю бандыты пераскоквалі цераз трупы і спаўзалі ў глінішча, сігалі ў густы ельнік, прыгінаючыся, беглі куды каторы. З боку Рудні іх абышоў атрад Цімоха Валодзькі і ўдарыў з тылу. Апынуўшыся ў пастцы, шляхцюкі паднімалі ўгору рукі, кідалі стрэльбы і крычалі:

— Браточкі, злітуйцеся, не сіраціце дзетак!

— Граху на душу не бярыце.

— От ета «браточкі» знайшліся! У ваўчынай зграі вашы браточкі. Ану, вылазьце!

— Хлопцы, пакуль суд да дзела, не чапаць,— сунімаў сваіх байцоў Максім Ляўкоў.

Страляніна сціхала ў сяле. Загнаных у глінішча бандытаў абкружыў атрад Максіма Уса. Засцянкоўцы стаялі, хаваючыся адзін за аднаго. Цімох са сваім атрадам кінуўся ў хвойнік даганяць Казіка і яго хаўруснікаў. Бандыты ляцелі, як ласі, ламаючы сучча, не паспяваючы адстрэльвацца. На ламаччы і на сухім леташнім верасе там-сям ляжалі падстрэленыя шляхцюкі. Але Казіка сярод іх не было.

За хвойнікам пачынаўся стары панскі лес. У ім не тое што чалавека, стога не знойдзеш.

— Эх, шчанюка гэтага праваронілі, разявакі,— лаяўся Цімох.— А мне так хацелася пагаварыць з Ермальчуком.

— Мы яго, гада, з-пад зямлі дастанем,— суцяшалі хлопцы свайго спрытнага камандзіра.

Вярнуўшыся ў сяло, убачылі, што ў цагляны свіран на дзядзінцы панскага двара вядуць чалавек трыццаць захопленых бандытаў. Рукі пазвязваны папругамі і вяроўкамі. Многія цягнуцца без шапак, расхлістаныя, перамазаныя глінаю і крывёю. Следам валіць натоўп кабет і дзядоў, бягуць дзеці. Мужчыны маўчаць, з нянавісцю пазіраюць на бандытаў, кабеты лаюць і клянуць іх:

— Каб вы апруцянелі, гады печаныя!

— Не падушылі вас маткі маленькімі, убіўцаў.

— Дайце нам гэтых выжлятнікаў, мы з іх скуру на бубен паспускаем,— крычаць жанчыны.

Іх супакойвае Максім Ляўкоў:

— Цішэй, таварышы! Прыедзе ЧК і разбярэцца па ўсіх законах. Мы ж не бандыты, каб самасудам караць.

— А бандзітам можна нашых забіваць? Га-а? — не сунімаюцца жанкі.

Палонных заводзяць у пусты свіран. Скугоча доўгая жалезная завала.

Вакол свірна становіцца варта. Натоўп пачынае разыходзіцца. Толькі малыя аж да вечара таўкуцца на дзядзінцы. Яны гуляюць у «чырвоных» і «зялёных». Большыя ловяць меншых, звязваюць ім лазінамі рукі і саджаюць пад старыя роспускі з перабітай воссю. Тыя з плачам вырываюцца. Хлапчук з закарэлым носам, у доўгай салдацкай ватоўцы, крычыць:

— Я так не гуляю. Давайце мяняцца. Цяпер мы будзем чырвоныя.

Над сялом, над бэзавымі кустамі і вербалозамі плыве зеленаватая смуга. Таўкуцца камары. Усё сцішылася. За аселіцай, на ўсіх дарогах ходзіць варта. Каля валасці з вінтоўкаю стаіць Лявон Адзінец. Чуваць, як цёплы вецер лапоча палотнішчам сцяга над вільчыкам рэўкома.

Ноччу з Глуска нрыехалі на фурманках дзесяць міліцыянераў і тры рэўкомаўцы. Яны спыніліся ў валасці. Трохі перакусілі і пайшлі змяняць на пастах рудабельцаў: думалася, што Казік з рэшткамі банды паспрабуе вызваліць арыштаваных. А раніцою конна прыбыў узвод чырвонаармейцаў і з ім старшыня Вабруйскага ЧК таварыш Найман. На ім скураная куртка, перацягнутая папругаю і партупеяю, пры боку драўляная калодка з маўзерам, на штанах пацёртыя хромавыя леі. Ён спрытна саскочыў з сядла і з камандзірам узвода пайшоў у рэўком. У зборні сядзела чалавек дзесяць мужчын. Цярэшка расказваў, як ён даганяў Ермаліцкага.

— Улажыў бы яго, дальбог, улажыў бы, каб не такі густы ельнік. Ды як на тое ліха зачапіўся за ламачыну, ледзь лабаціну не раскроіў. А ён, як заяц, скочыў убок, і след прастыў, от няхай Цімох скажа, калі не верыце.

Гамана змоўкла, калі ўвайшоў незнаемы камісар. Ён павітаўся з кожным за руку, а ўбачыўшы старога Рамана, доўга не выпускаў яго далонь.

— Сын прасіў кланяцца вам, таварыш Салавей.

— Як ён хаця там?

— Герой, сапраўдны герой. Разграміў адно за адным два бандыцкія паўстанні.

— Порсткі вельмі ж,— ні то з пахвалой, ні то з дакорам сказаў Раман.— Баюся, ці зносіць ён сваю галаву?

— Разумная галава, бацька, не прападзе нідзе,— супакоіў Найман і абняў старога за плечы.

Да іх падышлі Ляўкоў і Лявон Адзінец. Яны прывіталіся з Барысам, як даўнія прыяцелі.

— На вуліцы не пазнаў бы цябе,— аглядаючы зграбную падцягнутую постаць старшыні ЧК, сказаў Ляўкоў.— Ну што будзем рабіць з гэтымі бандзюкамі?

— Колькі вы іх пераняли?
— У Глінішчы дваццаць пяць чалавек ды ноччу яшчэ шасцёх на хутары з канюшыны павыпорвалі. І стары Ермаліцкі з імі. Два наганы трымаў напагатове, але стрэліць не паспеў. Шкода толькі, сынок яго, Казік, сабака кручаны, як у ваду кануў. А па ім асіна даўно плача. Ён самы вараціла.
— Калі вараціла, значыць, звязаны з контррэвалюцыйным паўстанскім цэнтрам.
— Выходзіць, так. Хоць як яны ні пнуцца, а толку мала. Зямлю аддаваць не хочуць, дык няхай парадь у ёй косці.
Пасля паўдня каля валасці на ўзгорку паставілі стол і доўгую лаву. Пагаласка, што будуць судзіць бандытаў, абляцела Карпілаўку, Рудню, Кавалі і Лаўстыкі. Людзі кідалі работу і спяшаліся да рэўкома. Яны шчыльна станавіліся паўкругам, расказвалі пра ўчарашняе, пра тое, як старыя і малыя хаваліся ў гумны і ў ямы з-пад бульбы, каб часам не чыркануда дурная куля. А старая Тэкля забілася пад печ і закрылася заеланкаю, а вылезла — дачка як залямантуе: «Чорт! Чорт!» — ды ходу з хаты. Такі ўжо чалавек: толькі міне бяда, ён ужо і смяяцца здатны. Успаміналі, як Мануйла Кавалевіч з дубальтоўкі забіў бандыцкага атамана.
Пад нагамі круціліся дзеці. Большыя паўзлазілі на паркан, паўздзіраліся на прысады, каб лепей было чутно і відно.
— Вядуць, вядуць! — як галчаняты, закрычалі яны.
Усе павярнуліся і прыціхлі. Па пясчанай вуліцы чырвонаармейцы з вінтоўкамі наперавес вялі звязаных бандытаў. Большасць, без шапак, расхлістаныя, у падраных кашулях і фрэнчах, з плямамі засохлай гліны на штанах і ботах, ішлі нехаця і панура. Спалатнелыя твары здаваліся шэрымі, а вочы глядзелі долу. Былі маладыя сытыя шляхцюкі і мужчыны ў гадах, з густой шчэццю на тварах. Былі знаёмыя, з недалёкіх засценкаў, і нейкія нетутэйшыя, рудыя, васпаватыя, з ацесляватымі тварамі, і чорныя, як цыганы. Вочы зіркалі затраўлена. Паперадзе з вялікім пісталетам у руцэ ішоў бабруйскі камісар у расшпіленай скуранцы. Боты запыленыя, рудаватыя валасы выбіліся з-пад шапкі і прыліплі да змакрэлага лба.
Як толькі бандытаў узвялі на ўзгорак, натоўп падаўся назад. Найман падышоў да стала і неяк па-свойску ціха загаварыў:
— Таварышы, перад намі трыццаць адзін бандыт. Гэта не проста рабаўнікі, што забіраюць з клеці муку або сала з кубельца. Яны хацелі адабраць у нас свабоду, заваяваную рэвалюцыяй, адабраць зямлю, асіраціць дзяцей, жонак пакінуць удовамі. Калі б ім хоць на дзень удалося захапіць валасць, яны б зрабілі тое, што ў Лучыцах і

Капаткевічах,— стралялі б і вешалі камуністаў, палілі б іх хаты. Усе кулацкія банды выконваюць загады контррэвалюцыйнага цэнтра. А ён падняў мяцеж у Гомелі, кулацкі бунт у Чарнігаўскай губерні, ашукаў полк, які павінен быў затрымаць банды Пятлюры. Чырвоная Армія разграміла мяцежнікаў і бандытаў. З імі геройскі змагаўся ваш зямляк Аляксандр Раманавіч Салавей. А вашы партызаны разграмілі і гэтую банду. Плышэўскага правільна асудзіў таварыш Мануйла Кавалевіч, а Казіміра Ермаліцкага з-пад зямлі дастанем і аддадзім вам на суд. Цяпер што будзем рабіць з гэтымі?

— Судзіць гадаў! — адказалі галасы.

— Які там суд? Асіна па іх даўно плача,— закрычаў Цярэшка.

— Каго выбераце ў суддзі? — запытаў Найман.

— Лявона!

— Параску!

— Якава Гошку! — закрычалі ў натоўпе.

— Давяраеце ім?

— Давяраем! — адказаў натоўп.

Суддзі паселі на лаўку. Усе сціхлі. Чакалі, што скажуць падсудныя. Лявон Адзінец у кожнага пытаў прозвішча і імя, адкуль родам і колькі гадоў. У адказ чуліся знаёмыя прозвішчы: Перагуд, Гатальскі, Гавароўскі, Вінярскі і назвы засценкаў — Мёдухаў, Беркаў, Харомнае, Серaброн. Наперад выйшаў Андрэй Ермаліцкі. Глянуў з-пад навіслых броваў белымі, як у варанай плоткі, вачамі:

— Людцы добрыя, хіба ж вы мяне не ведаеце? Я ж і мухі, колькі жыву, не пакрыўдзіў. Памагаў чым мог. А камісары з торбаю ў белы свет захацелі пусціць, зямлю апісалі, тры каровы ў сваю камунію залыгалі. Дык от самастаяцельныя хадзяевы і выправіліся ў воласць, каб якога парадку дабіцца, а па нас страляць ушчалі. Ішлі ціха, мірна, а раз смаляць з дубальтовак, адбівацца трэба. Ну і таго... гэтага, от так тая неразбярыха і палучылася. Ніякія мы не бандзіты, бронь божа, Пагаварыць з Максімам Архіпавічам ішлі.

Не вытрывала Параска.

— «Ціха, мірна»,— перадражніла яна.— А вінтоўкі нашто бралі ды цэлыя скрынкі патронаў? Можа, аддаць рэўкому неслі?

— Твая праўда, Параска. Паздавацца надумаліся гэтыя ламачыны.

— Тут маліцца пара, а ён, як той паганы цюцька, яшчэ адбрэхваецца,— стоячы напярэдзе, абурайся Цярэшка.

Лявон Адзінец ляпнуў далонню па стале:

— Кажы суду праўду, як капаткевіцкіх і лучыцкіх камуністаў забівалі. Што ж, вы і з імі пагаварыць ішлі?

— Які ты суд, самазванец? Калі хочаце судзіць, вязіце ў Бабруйск, у фармальны суд, хай ён разбярэцца. А вас не прызнаём. Тожа мне аблакаты!

Апошнія словы старога Ермаліцкага заглушыў гул натоўпу.

— Вас уся воласць судзіць. І твая дачка судзіць. Ці не ты яе зрабіў удавою, гад? — ускочыў Адзінец.— Хто яшчэ з бандытаў хоча гаварыць?

Ступіў крок наперад малады, з канапатым тварам Гатальскі і загаварыў ціха, нібы на споведзі:

— Што вінаватыя, то вінаватыя. Каемся. Але не ва ўсіх адна віна, Плышэўскі, каб яму зямля колам, ды от сынок яго, Казічак, збілі нас з панталыку і ўсім верхаводзілі. А мы што? Больш хаваліся, чым стралялі. Так што злітавацца прашу нада мною і маімі дзеткамі.— І ўпаў на калені.

— Перад кім, дурань, кленчыш? Устань! — гаркнуў падобны на варону высокі шляхцюк.— А судзіць вязіце ў Бабруйск, каб суд па ўсёй хворме быў.

Да стала падышоў старшыня павятовага ЧК.

— Хітраваць вам ужо няма калі, панове. А судзіць вас справядлівы суддзя. Вось ён.— Найман абвёў рукою натоўп.

Аднекуль з сярэдзіны праціснуўся невысокі, даўно не голены чалавек і стаў пасярод круга. Ён абвёў позіркам бандытаў і спыніўся на старым Ермаліцкім.

— Мяне то вы, мабыць, помніце. Онь і галоўкі маёй работы яшчэ не знасіліся, І помніце, як ваш сынок ноччу са сваімі бандзюкамі хваліўся, што яны ў Ляскавічах забілі Анікея Ходку, як палілі яго хату, як яшчэ тады збіраліся ісці на Рудабелку.

— Юда, хрыстапрадавец! Нажэрся майго хлеба, каб цябе чэрві жэрлі,— прастагнаў Андрэй.

— Хутар Ермаліцкага, таварышы суддзі, быў прыстанкам усяе бандыцкае шайкі. Я там быў і ўсё бачыў сваімі вачыма.

— Пакляніеія, ірад, на евангеллі! — крыкнуў Ермаліцкі.

— Клянуся імем рэвалюцыі,— адказаў Іван Мазалеўскі і пайшоў у натоўп.

Суддзі выслухалі кожнага. Бандыты «каяліся» і прасілі літасці, калаціліся і румзалі. Праз паўгадзіны Лявон Адзінец чытаў напісаны на аркушы з вучнёўскага сшытка прысуд:

«Імем Беларускай рэспублікі, кіруючыся рэвалюцыйным сумленнем, народны суд Рудабельскай воласці ўдзельнікаў кулацкай банды, якая спрабавала звергнуць Савецкую ўладу,— пасля ішоў пералік усіх прозвішчаў — прысудзіў...»

Памаўчаўшы, ён голасна, па складах сказаў толькі адно слова.

Бандытаў акружылі чырвонаармейцы і глуская міліцыя. Натоўп расступіўся, даючы дарогу.

А чыстае веснавое неба праціналі вастракрылыя ластаўкі, на высознай таполі клекатаў бусел, і ў жаўтавата-зялёных воблаках патаналі вербы.

Бандытаў вялі ў глінішча.

2

Пад вечар, калі трохі адвалілася гарачыня, на вялікі брукаваны двор казармы другога бабруйскага батальёна ўвайшоў невысокі дзядок з берасцянай вярэнькаю за плячыма.

— Вам каго, папаша? — неяк картава спытаў вартавы, ды і абліччам ён быў не падобны на тутэйшых людзей: чарнявы, з круглымі цыганскімі вачамі, шчокі, хоць і брытыя, але адліваюць густой сінявою.

— Камандзір мне ваш патрэбен, таварыш Салавей Ляксандра. Скажы, сынок, з Рудабелкі да яго прыйшлі.

Вартавы паказаў, куды трэба ісці, і прапусціў старога. Ён увайшоў у доўгі гулкі калідор. Пахла кіслым салдацкім духам, анучамі і таранамі. На нізкіх рудых дзвярах крэйдаю напісана: «Камандзір». Стары пацягнуў за клямку, увайшоў у цьмяны пакойчык і прывітаўся.

— Добры дзень, тата,— выскачыў з-за стала Аляксандр, пацісную яго тугую шурпатую далонь і пачаў здымаць з плячэй цяжкую вярэню.— Сядайце, адпачывайце, я зараз.

Перад камандзірам стаяў высокі хударлявы хлапец.

— Дык колькі ў цябе грошай, таварыш казначей?

— Больш за паўпуда будзе. Хіба іх палічыш. ТольКі на гэтыя грошы шпікулянты і глядзець не хочуць. На жыта, на соль, можа б, што і выменяў.

— Чырвонаармейцаў абуць трэба. Босы салдат, як спутаны конь. Бяры аддзяленне, прайдзіцеся па крамах, па шаўцах. Раскажыце, што белапалякі насядаюць. Калі зноў не хочуць падстаўляць зады пад «двадзесце пенць», няхай памагаюць Чырвонай Арміі. Плаці, колькі папросяць. Чаравікі, боты — усё згадзіцца. Табе ясна, Сцяпан?

— Ясна, таварыш батальённы.

— Ідзі. Каб паслязаўтра ўсе былі абутыя.

Казначэй Сцяпан Герасімовіч выйшаў з пакоя.

— Крута, сынок, з людзьмі гаворыш.

— Час такі круты, тата. Ой, круты! Белапалякі ідуць на нас. Вільня пад імі ўжо. Баранавічы занялі, на Мінск пруцца.

— Няўжо пусціце і сюды?

— Сіла ў іх вялікая: ерапланы, танкі, пушак колькі хочаш...

— Што ета яшчэ за танькі такія? — перабіў яго бацька.

— Гэта... як вам сказаць? Цэлая жалезная хата на калёсах. Паўзе, куды захоча: лес — па лесе ідзе, канава — цераз канаву прэцца і лупіць з пушак і кулямётаў. А яе штыхом не прапораш і куля не бярэ.

— Адкуль толькі ўсё бярэцца на беднага чалавека?

— Адкуль? Ангельцы ды амерыканцы напладзілі гэтай пошасці. От і асмялелі панкі. Дабро сваё вярнуць хочуць.

— А трасцы ім не хочацца? Мы і танькі тыя і манькі іх у багне патопім. І вы трымайцеся, хлопцы.

— Ну, як там дома? — запытаў Аляксандр.

— Шэршняў патаўклі трохі.

— Казаў мне Найман. Добра вы іх прыціснулі. Шкода, што мяне там не было.

— Самі ўправіліся, бачыш. Дружок твой, Максім, онь які гарнізатар! Старыя і малыя за стрэльбы ўзяліся. Цярэшка, той правае вока зажмурыць і дае, і дае. Пра Мануйлу ж чуў? От ета ўсмаліў. Івана толькі Кавалевіча шкода і маладзіцу яго. Не нацешыліся, не намілаваліся яшчэ, а ўжэ, бедная, удавіца. Цераз дзевяць дзён, як пахавалі гаспадара, хлопчыка нарадзіла. Іванам, кажуць, завецца.

Аляксандр уважліва слухаў навіны, нібы ўвачавідкі бачыў старога Цярэшку, Мануйлу з пістаноўкаю і ўсіх хлопцаў. Успомнілася жабрацкае вяселле Гэлькі з Іванам. Тады верылася ў іх доўгае шчасце. А цяпер адна, з дзіцём на руках. І вярнуцца няма куды. Дый такая не вернецца ніколі. Ён прыкусіў ніжнюю губу, прыплюшчыўся.

— Вы ўжо, тата, там скажыце, каб памаглі кабеціне. Няхай камбед пастараецца.

— А як жа. Дзве каровы і вала з хутара пригнали Усю яе адзежу і цэлы воз дабра Параска прытарабаніла. Толькі не цешыць яе нічога. Плача. Не галосіць — самі слёзы цякуць.— Бацька падняў вечка вярэні, выцягнуў ладны брус, загорнуты ў кужэльную анучку, дастаў камяк масла ў капусным лісце, рукавок гарбузікаў.— Старая з Марылькаю тут гасцінцаў табе напакавалі, дык бяры, паскаромся трошкі, а то ўчарнеў на нішчымніцы, аж скура да касцей папрысыхала.

— На жывых касцях мяса нарасце.

Аляксандр падняўся, папрасіў бацьку трошкі пачакаць, забраў гасцінцы і выйшаў за дзверы. А калі праз паўгадзіны яны ішлі па двары казармы, над паходнай кухняю стаяў моцны казытлівы дух падсмажанага сала. Стары Раман пачмыхаў носам.

— Выходзіць, нейкую затаўку да прыварка і вам даюць. Унь як смачна пахне.

— А як жа, даюць трохі.

Раман прыжмурыўся, хітра зірнуў на сына.

— Шылам мора, сынок, не нагрэеш. З'еў бы сам, дык толк быў бы, а так кожнаму і панюхаць не дастанецца.

— Некалі ж самі казалі: «З'еш хоць вала — адна хвала, а пакрысе, ды ўсе». Няхай хоць панюхаюць.— І яны пайшлі ў сынаву баковачку ў доўгай казарме з адсырэлай і аблезлай скляпенчатай етоллю.

Раман Салавей жыў у сына з тыдзень. Хадзіў на вучэнні, глядзеў, як маршыруюць «адзін лапаць, другі бот», шлёпаюць апоркі, заслухоўваўся, як галасісты запявала зацягваў:

Вы не вейцеся, чорныя кудры,
Над маёю бальной галавой...

Яму хацелася ўгледзець спевака, але сотні глотак падхоплівалі песню, выцягваліся няголеныя худыя кадык!, весялей тупалі стаптаныя абцасы і маслакаватыя ступакі, абутыя ў апоркі і маршчакі. Ён любаваўся падцягнутым ладным сынам, пазіраў на моцныя смуглыя скулы, на глыбока запалыя вочы.

— Вольна-а-а! Разыдзіся,— камандаваў Аляксандр.

Чырвонаармейцы закурвалі, прыкручвалі дротам падноскі, збіраліся вакол камандзіра. Відаць было, што ён ведае кожнага: распытвае, што пішуць з дому, жартуе з імі, як роўны. Падышоў да іх і Раман. Чырвонаармейцам падабаўся стары, яны весела жартавалі, успамінаючы панцаковую кашу з рудабельскім салам.

— Паедзеце дадому, не баўцеся ж вельмі, прыязджайце хутчэй...

— І вярэньку не забудзьцеся...

— Павячэраў тады, нібыта дома пабыў,— гаворыць з белымі брывамі румяны хлопец.

— Ад тваёй маскі і так прыкурваць можна.

Усе рагочуць, сарамяжа ўсміхаецца і ружовашчокі хлопец.

Раман Салавей доўга развітваўся з сынам. Спрабаваў пракаўтнуць даўкі. камяк і маўчаў, каб не паказаць слёзы. Адно толькі і сказаў:

— Беражыся, сынок, ты ж адзін у мяне ды Марылька яшчэ. Дзеўка што? Выскачыць замуж, і хвамілія звядзецца. Глядзі, не вельмі лезь на ражон.

— Не бойцеся, тата,— весела суцяшаў Аляксандр.— Я загавораны. Ні адна куля не ўзяла. А Максіму і ўсім нашым перакажыце, каб лтодзі і стрэльбы былі напагатове.

Ён даў бацьку невялікі пачак жоўтых, шурпатых, з асцюкамі лісткоў. На іх буйнымі літарамі было надрукавана:

«Грамадзяне! Цёмныя сілы ў асобе польскіх паноў і легіянераў пагражаюць заваёвам рэвалюцыі. Усе, каму дарага справа рэвалю-

цыі, запісвайцеся добраахвотнікамі ў Чырвоную Армію для абароны Савецкай улады ад белапольскіх легіянераў!

*Бабруйскі павятовы камітэт*
*Камуністычнай партыі (бальшавікоў)*
*Ваенны камісарыят».*

— Значыць, зноў біцца?

— Адбівацца трэба. Лезуць, як мухі на мёд. Будзем неяк бараніцца, а там і па загрыўку дамо.

— Глядзі ж, сынок, сіла салому ломіць.

—Што ж, уцякаць ад іх?

— Ад ваўка ўцякаеш, на мядзведзя наскочыш. А беражонага і куля беражэ.

Яны нязграбна і сарамяжа абняліся.

...Раман вёз дадому сумныя навіны і думы: зноў трэба брацца за стрэльбы. А як жа зямля? Яна чакае рук і ласкі, сумуе па плузе і па насенні, па жніўнай песні. Жыта, як гай, вакол маёнтка. Камунары сеялі, былыя панскія парабкі. Няўжо яго патопчуць боты легіянераў і тыя страшныя «танькі»?

І думаў пра сына. Адзін астаўся ў яго. Косцік з Петракам даўно пароць чужую зямельку, а гэты каторы год усё ваюе. Каб не перлася погань, жыў бы сабе дома, хату б сваю агоралі, зямлю палучылі. Нявестка ўжо была б, а там і ўнукі пасыпаліся б. Няма такой дзеўкі, каб не заглядалася на яго Аляксандра. А Параска аж млее. Дзіва што! Хто на такога хлопца не ласы?

Хоць бы вярнуўся жывы. Стары намацаў за пазухаю цупкія шурпатыя «ахвішкі», падклаў пад галаву вярэньку, хацеў задрамаць, але думкі лезлі, як сляпні: «Ось дык парадую Ляўкова навіною! Той завіхаецца з рэўкомаўцамі ды камбедаўцамі ў камуне — сталоўку зрабілі, дзяцей кормяць задарам, людзей падвясельваюць, а тут на табе — зноў біцца, уцякаць і даганяць, страляць і паміраць».

Перад самымі Ратміравічамі ў вагоннай задусе і тлуме Раман усё ж заснуў.

А ў Бабруйску станавілася ўсё трывожней. Ваенком Пракоп Малаковіч ледзьве паспяваў прымаць добраахвотнікаў з валасцей. Прыходзілі ў лапцях, з палатнянымі торбачкамі маладзенькія камсамольцы і нядаўнія салдаты ў зліняльных гімнасцёрках, у абмотках і шынялях з мікалаеўскімі гузікамі. Усіх трэба было разбіць па ротах, хоць збольшага абуць і адзець, маладзенькіх — навучыць трымаць вінтоўку, слухацца каманды.

Камандзіры ад відна да цямна маршыравалі з новымі Чырвонаармейцамі па Бярэзінскім фарштаце, вучылі калоць мяхі з пілавіннем і адбівацца прыкладам.

У батальён Салаўя далі роту добраахвотнікаў. Ён сам хадзіў на вучэнні з імі. Засмяг і выпетраў на сонцы, нават вочы пасвятлелі і запалі глыбей. На змярканні вярталіся ў казарму каля белай царквы, што ў канцы Мінскай вуліцы. Калыхаліся штыкі, курыўся пад нагамі пыл, і звінела песня, якую запяваў камандзір:

Взвейтесь, соколы, орлами,
Полно горе горевать...

Спявалі з прысвістам, з гіканнем, цвёрда ляскаючы па бруку падкоўкамі і стаптанымі чаравікамі.

Чэрвеньскім світаннем у Бабруйск прыбыў агітцягнік «Кастрычніцкая рэвалюцыя». Прыехаў Міхаіл Іванавіч Калінін. У павятовым рэўкоме ён гаварыў з камуністамі і камандзірамі Чырвонай Арміі пра аб'яднанне савецкіх рэспублік для барацьбы з сусветным імперыялізмам, заклікаў спыніць наступ белапольскіх легіёнаў.

А пад вечар чырвоныя батальёны рушылі на Шасейную вуліцу. Каля зялёнага рэстаранчыка з драўлянымі карункамі над балконам збіраліся бабруйскія ліцейшчыкі, гарбары і краўцы. Зручнейшага месца, бадай, і не было: шырокая вуліца магла змясціць самы вялікі натоўп, а колішні рэстаранчык Зельдовіча стаяў на ўзгорку і адусюль быў відзён.

На балкон выйшлі малады чарнявы Равінскі, крыж-накрыж падпяразаны рамянямі, высокі і шыракаплечы Пракогі Малаковіч і ў нязменнай скуранцы Барыс Найман. З імі — невысокі мужчына, гадоў пад сорак, у клінку бародкі там-сям прабівалася сівізна, пабліскваді акуляры. І постаццю і абліччам ён нагадваў вясковага настаўніка або каморніка. Натоўп адразу сціх. Да парэнчаў падышоў старшыня павятовага рэўкома.

— Таварышы,— пачаў Равінскі.— Савецкая краіна ў небяспецы. Белыя банды Калчака і Дзянікіна спрабуюць задушыць рэвалюцыю, а сусветны капітал узброіў белапалякаў. Яны ідуць на нас, каб адабраць зямлю, фабрыкі і заводы, каб зноў нас зрабіць парабкамі і нявольнікамі. Ці можам мы дапусціць гэта?

— Не дапусцім! — загуў натоўп.

— Біцца да апошняга!

Потым да парэнчаў падышоў Міхаіл Іванавіч Калінін. Ён загаварыў спакойна і ціха. Натоўп адразу змоўк. Было чутно кожнае ягонае слова. Гэтыя спакой і ўпэўненасць перадаваліся ўсім. Калінін гаварыў

пра нястачы і рэзрух у рэспубліцы, пра складанае становішча на франтах, але ў яго словах гучала вера ў перамогу.

— Я не сумняваюся,— казаў ён,— што ва ўсе цяжкія моманты на Заходнім фронце Расія будзе вас абараняць. Мы ўступаем у паласу сапраўднага аб'яднання. Гэты саюз дасць нам магчымасць перамагчы нашых ворагаў і ўмацаваць уладу савецкіх сацыялістычных рэспублік.— І закончыў:—Усё для фронту, таварышы! Усе на фронт, і мы пераможам!

Угору паляцелі шапкі, як веснавая навальніца, над натоўпам пракацілася дружнае «ўра». Байцы другога батальёна трыкутнікам склалі вінтоўкі. На іх ускочыў Аляксандр Салавей.

— Таварышы чырвонаармейцы, наш абавязак перад рэвалюцыяй, перад народам зараз жа ісці на фронт і змагацца, не шкадуючы сіл і жыцця. Другі інтэрнацыянальны каравульны батальён да бою гатовы! На Заходні фронт, таварышы. Мы пераможам!

За ім падняўся камандзір першага батальёна Сцяпан Жынко і далажыў пра гатоўнасць абараняць заваёвы рэвалюцыі.

Пракоп Малаковіч не стрымаўся, пацісну ў за локаць Равінскага.

— Нашы, рудабельскія.

Пасля мітынгу старшыня ЦБК разам з Равінскім і

Малаковічам паехаў у Гарбацэвіцкую воласць. Міхаіл Іванавіч хацеў паглядзець, як працуюць рэўкомы і камбеды.

Раніцою батальён пастроіўся на пляцы. На кожным — скатка, нібы труба духавога аркестра. Да папруг прытарочаны гранаты і кацялкі, з халяў і абмотак тырчаць алюмініевыя і драўляныя лыжкі, за плячыма целяпаюцца брудныя салдацкія мяшэчкі, а ў каго і зрэбная торбачка на почапках. Салдацкі скарб вядомы: змылачак, голка з ніткаю, запасныя анучы ды жменя сечанага самасаду.

Строяцца ўзводы і роты. На фурманкі грузяць коўдры і набітыя сенам падушкі, чапляюць да воза паходную кухню.

Салавей, чыста паголены, загарэлы, падцягнуты, нераходзіць ад роты да роты, прыспешвае байцоў, але не мітусіцца. Вайсковая палінялая шапка крыху малаватая яму, таму і спаўзае на патыліцу, адкрываючы на высокім ілбе светлую палоску, фрэнч з вялікімі кішэнямі прастарнаваты і карабаціцца пад рамянямі.

— Батальён, на-пра-ва! — камандуе ён.

Усе павярнуліся, а адзін як стаяў, так і стаіць. Чырвонаармейцы штурхаюць яго, шэпчуць: «Направа, цяцера». А ён ні з месца — стаіць слуп слупом і толькі моргае белымі, нібы ў парсюка, вейкамі. Салавей павольна падыходзіць да яго.

— Таварыш Парчук, мабыць, не чуў каманды.

Падбягаюць ротны і ўзводны. Ротны крычыць:

— Чырвонаармеец Парчук, направа!

— Не крычыце,— супакойвае яго камбат.

— Не магу направа, таварыш камандзір, так как есць разуты.

Ён падняў нагу ў разбітым ушчэнт чаравіку. З-пад запыленай ададранай галоўкі вытыркнуліся голыя брудныя пальцы.

— Во, неба кажа — абуты, а зямля — босы.

Байцы, што стаялі побач, засмяяліся, не стрымаў

усмешкі і Салавей.

— З голымі пятамі ўцякаць толькі, а мы ж наступаць едзем.

— Толькі наступаць. Здымай атопкі!

Парчук прыкленчыў і пачаў длубацца ў вузлах вераўчаных завязак.

Нахіліўся і камбат. Ён спрытна сцягнуў боты і падаў Парчуку.

— Абувай і не затрымлівай батальёна. Добра накручвай анучы, каб не мулялі. І шагам марш.

Чырвонаармейцы спачатку пазіралі скоса, а потым без каманды павярнуліся і загаманілі:

— Жывадзёр, сярод белага дня камандзіра разуў.

— Таварыш камандзір, я ж — не таго. Мне не трэба вашыя. Хай камптэнармус пашукае.

— Абувай, абувай і тупай.

Салавей стаяў босы на цёплых камянях брукаванага двара. Парчук не ведаў, што рабіць. Ён міргаў белыМі вейкамі і маўчаў.

— Барзджэй, барзджэй! — прыспешваў камандзір.

— Такі і бацьку роднага разуе,— абураліся чырвонаармейцы.— Душу д'яблу закладзе, гад печаны.

Парчук яшчэ паспрабаваў аднеквацца і апраўдвацца, але боты ўсё ж абуў, свае атопкі заткнуў пад скатку. Батальён рушыў з двара на станцыю.

— Запявалы, на сярэдзіну,— скамандаваў Салавей.

Закалыхаліся штыкі, сотні галасоў падхапілі: Смело, товарищи, в ногу...

Песня гучала, як прысяга. Выпрасталіся спіны байцоў, вочы глядзелі некуды далёка-далёка.

А спераду і з бакоў аж да самага вакзала беглі тыя самыя мурзатыя хлапчукі, што заўсёды сустракалі і праводзілі чырвонаармейскія часці.

3

Над жытам, над прыдарожным ракітнікам слаўся густы пыл. Сонца зацягнула тонкая бялявая смуга. Прывялі травы, хіліліся рамонкі і званочкі, ціпец і быльнёг шамацелі пад нагамі, як дрот. У пыльным воблаку калыхаліся вінтоўкі, глуха тупалі сотні салдацкіх ног.

Толькі што чырвонаармейцы пакінулі трывожна прыцішаны Мінск. Здавалася, людзі сціснуліся, змізарнелі, чакаючы нейкай страшнай навалы. Яны моўчкі ўскладалі вялікія клункі на балагольскія дрогі, спяшаліся, некуды ехалі, а куды —самі добра не ведалі.

Чырвонаармейцы ішлі насустрач белапольскай арміі, каб перагарадзіць ёй дарогу, затрымаць, не пусціць далей. Да бабруйскіх батальёнаў далучыліся барысаўскі, два навагрудскіх і мінскі стралковы полк. Папоўненыя, але далека не поўныя, яны ішлі на Прылукі. Падыходзячы да сяла, прапацелыя, запыленыя байцы падцягваліся і запявалі песню. Да веснічак выходзілі пажылыя кабеты, выбягалі з выгаралымі, як саламяныя стрэхі, галоўкамі хлапчукі, дзяўчынкі трымаліся за матчыны спадніцы і крадком пазіралі на войска.

Прывалы рабілі каля студняў. Рыпаў калодзежны вочап, бразгалі кацялкі і булькалі біклажкі. Да байцоў падыходзілі маладзіцы, распытвалі: «Ці часам не бачылі дзе майго», называлі імёны і прозвішчы. Знаходзіліся жартаўнікі і пачыналі выскаляцца:

— А хіба ж мы чужыя? Выбірай любога!

— Міргні толькі, цэлы ўззод прыбяжыць.

Маладзіцы сарамяжа адварочваліся і адмахваліся ад нахабнікаў. Байчэйшыя агрызаліся:

— Чаго добрага, стаднікаў хапае, а гэтым галапузым бацька трэба.

Старыя кабеты прыціскалі да грудзей вялікія, спрацаваныя рукі, круцілі галовамі.

— Калі ж гэта людзі наваююцца?

— Таўкуць, таўкуць адзін аднаго.

— А божачка, няўжо зноў паноў пусціце? — І выносіл хто збанок халоднага малачка, хто кварту ўкіслага бярозавіка або цёплы скавароднік.

З сярэдзіны вуліцы чулася каманда: «Стро-о-ойся!» Над платамі паднімаўся пыл, вырастаў частакол штыхоў і гайдаўся то ўлева, то ўправа.

Ззаду ляскаталі двухколкі з вайсковым скарбам, грукаталі доўгія параконныя фуры і закураныя паходныя кухні.

Батальёны займалі фронт ад Прылукаў да Астрашыцкага Гарадка. Капалі акопы, на ўзгорках рабілі кулямётныя гнёзды, а ў ярах — бліндажы.

Салавей цэлымі днямі быў са сваімі байцамі. Калі бачыў, што каторы вельмі ж упрэў, абыякава казаў:

— Дай трошкі размяцца, каб кроў не застойвалася,— браў кароценькую лапатку і так спрытна адразаў роўныя цаглінкі дзёрну, так загладжваў бруствер. Нібыта ўсё жыццё толькі тым і займаўся.

— Лоўка ў вас палучаецца, таварыш камбат,— падахвочваў баец.

— Я, брат, за мікалаеўскую вайну перакапаў зямелькі больш, чым было яе ў князя Радзівіла... Люблю дух свежай раллі, а прыходзіцца капаць акопы.

Часта ён памагаў і белаброваму Парчуку. Той лыпаў вачыма і, як пакрыўджанае дзіця, жаліўся:

— Праходу не даюць, таварыш камандзір. За вярсту крычаць: «Не муляюць?» Я ж не хацеў, таварыш... Аляксандр Раманавіч.

— Няхай смяюцца,— весела адказваў Салавей,— абы мы з табою былі абутыя.— І ён ляпаў па высокіх халявах сваіх ботаў.

Накапаўшыся за дзень, чырвонаармейцы ў адзежы спалі ў пунях, на гарышчах, на свежым сене. Камандзір кожную ноч хадзіў з байцамі ў разведку, правяраў дазоры, а на світанні ўжо быў на нагах. Разам з усімі сёрбаў з кацялка рэдзенькі прасяны крупнік, збіраў у далонь крошкі і асцюкі глеўкага аўсянага хлеба і сыпаў у рот.

Батальён умацоўваў подступы да горада. Салавей падвясельваў байцоў, а сам нудзіўся і кожны вечар хадзіў да камандзіра палка, азызлага і занадта ж спакойнага «ваенспеца».

— Мы ж не інвалідная каманда, каб длубацца ў зямлі. За дваццаць вёрст адсюль ідуць баі, а мы адлежваемся па свірнах. Не будзе загаду, здымемся самі,— настойваў Аляксандр Раманавіч.

Нарэшце зняўся ўвесь полк і заняў пазіцыю паміж Ракавам і Койданавам. У першую ж ноч каля Старога Сяла разам з разведчыкамі Салавей залёг у алешніку. Сярод балацінкі пакручаста бегла вузенькая крынічка. Па карце ён дазнаўся, што гэта Пціч. І адкуль толькі бярэцца? Здаецца, жменяю вычарпаеш, а яна сабе бяжыць, прабівае дарогу паміж карэнняў і гліны, праточвае каменні, шырэе і набіраецца сілы. Вунь якая яна шырокая ў Глуску і каля Рудабелкі! От так і яны, пачыналіся з ручаінкі, а цяпер ужо ніхто не спыніць. «Лепей не станавіся ўпоперак дарогі — змыем, каб і знаку не было!»

Роснае лісце казытала шыю, пахла скошанай травою, мокрым лугам, недзе кігікаў драч — ноч жыла сваімі пахамі і гукамі. А камандзір прыслухоўваўся да іншых гукаў, углядаўся ў цемрадзь, чуў, як білася сэрца, як дыхалі яго разведчыкі. Толькі ён хацеў падняцца на ўзгорак, як здалося, што на ім зашапацела жыта, глуха затупалі капыты, бразнулі цуглі. Салавей наструніўся, прыпаў да зямлі і

ўгледзеў, як над жытам падняліся тры цьмяныя постаці, выплылі конскія галовы. Варухнуліся і яго байцы.

— Ні з месца,— шапнуў камандзір.

Коннікі асцярожна з'язджалі ў нізіну, дратуючы роснае жыта. «Не, гэта не начлежнікі,— пераканаўся Аляксандр,— за спінамі — карабіны, на галовах — рагатыя канфедэраткі. Іх трое, нас пяцёра».

Абкружыўшы белапольскіх разведчыкаў, чырвонаармейцы залеглі. Грымнуў залп. Адзін жаўнер знік у жыце, а конь, як ашалелы, памчаўся ў нізіну. Двое прыгнуліся і закруціліся на месцы. Яны хапаліся за карабіны, прышпорвалі коней, а тыя, аглушаныя неспадзеўнымі стрэламі, узвіваліся на дыбкі.

— Страляць ніжэй,— крыкнуў Салавей.

Конь асеў разам з седаком. Другі салдат зваліўся з сядла і папоўз па жыце. Чырвонаармейцы, расхінаючы пацяжэлыя мокрыя каласы, беглі да польскіх разведчыкаў. Падняўшы рукі ўгору, маладзенькі капрал паўтараў:

— Пан, стшэляць не тшэба.

— А чаго цябе нячыстая сюды прыгнала? — І Парчук замахнуўся прыкладам.

— Адставіць! — крыкнуў Салавей.— Лепш бяжы лавіць коней.

Забітага прывязалі да сядла, палонным звязалі рукі і павялі лугам у вёску.

...Праз два дні наблізіліся баі. Спачатку глуха гулі гарматы, недзе сакаталі кулямёты, а пад вечар з бярозавага гайка вылецела конніца. Як маланкі, бліскалі шаблі, пад капытамі гула зямля. Батальён Салаўя заняў толькі што выкапаныя акопы, напружана чакаў, каб наблізіліся коннікі. Калі ўбачылі запененыя конскія храпы і раменьчыкі пад уланскімі падбародкамі, грымнуў залп, затахкаў кулямёт. Узвіліся сытыя стаеннікі, праз галаву паляцеў адзін, другі, трэці жаўнер.

А з лесу імчаліся і імчаліся новыя эскадроны. З акопаў ляцелі гранаты, уздымаючы фантаны зямлі і дыму. Камандзіру ўжо не трэба было крычаць: «Агонь!» — чырвонаармейцы і без каманды стралялі суладна.

З бруствера ссунуўся прабіты навылет Парчук, у вузкай траншэі стагналі параненыя. Над акопамі прасвістаў адзін, потым другі снарад. Яны падалі і рваліся за вёскаю. Потым загарэлася пуня. Яе ніхто не тушыў. Усе людзі сышлі ў лес.

Дзень і ноч грымеў бой. Радзелі чырвоныя батальёны. Параненых адпраўлялі ў Мінск, забітых хавалі ноччу каля дарог, на вясковых кладах і проста ў полі. Сёлы пераходзілі з рук у рукі па некалькі разоў на тыдзень.

Смаліла сонца, трэскаліся губы ад смагі, павекі апухалі ад бяссонніцы. Поле бою пакідаў толькі той, каго выносілі.

Байцы бачылі свайго камандзіра то за кулямётам, то ён ускокваў з гранатаю над бруствером, то першы бег у штыхавую атаку.

— Адчаянны,— гаварылі пра яго.— На той вайне два Ягорыі меў. За гэтую і чатырох мала.

Легіянеры насядалі і насядалі. Адкуль столькі бралася іх, укормленых, апранутых, як на парад, з гарматамі, кулямётамі, з новенькімі карабінамі і доўгімі бліскучымі палашамі?

— Адкуль? Паўсвета іх корміць і адзяе. Прыдушыць нас хоча Антанта. Але мы жывучыя,— тлумачыў чырвонаармейцам Салавей. Ён прыдумляў хітрыя засады і манёўры, але пасля кожнага бою людзей станавілася меней і меней. А тут яшчэ камандзір палка захварэў на тыфус. Яго адвезлі ў шпіталь. Сабраліся ротныя і батальённыя і, доўга не думаючы, выбралі камандзірам Аляксандра Раманавіча.

Увесь ліпень чырвонаармейцы наступалі і адступалі. Ужо капалі акопы і магілы на ўскраінах горада. Учарнелі, паабдзіраліся байцы і камандзіры — не ведаючы, і не пазнаеш, дзе каторы,— агаладалі, абвашывелі. Закарэлыя чорныя бінты спаўзалі на вочы, і не было калі іх перавязаць.

З Мінска ўжо выехаў штаб Заходняга фронту, за ім ад'язджалі ў Смаленск розныя ўстановы і канцылярыі, па дарогах на Ігумен і на Пухавічы ўцякалі бежанцы. Апусцелы горад быў закіданы абгарэлай папераю, зляжалаю ў матрацах саломаю і смеццем. Усё часцей і гусцей біла па Мінску артылерыя.

На ўскраінах загараліся драўляныя домікі. Узнімаліся слупы чорнага дыму. Над горадам стаяў гул, падобны на пахавальны плач.

Дзесяты Мінскі полк, якім камандаваў Салавей, стрымліваў пілсудчыкаў на Лагойскім тракце, біўся каля татарскіх агародаў і паступова адыходзіў на Козырава. Камандзір учарнеў і выпетраў, з кожным днём рабіўся больш рашучы і злосны.

— Запамінайце дарогу,— гаварыў ён ,— па ёй нам наступаць.

А пакуль што сілы былі няроўныя. Трэба берагчы кожнага салдата і кожны патрон, каб не пусціць пілсудчыкаў далей, каб сыны вярнуліся да мацярок, мужы — да жонак, бацькі — да дзяцей.

Салавей ведаў, як цяжка траціць блізкіх, шкадаваў кожнага байца, як роднага брата. Ён разумеў, што Мінск ім ужо не ўтрымаць, але і нельга ворага пускаць далей. Эх, каб сюды сотні са дзве рудабельцаў, пушак ды снарадаў хоць трохі, яны б ворагу паказалі, куды яму бегчы.

Баі ўжо ішлі на вуліцах. Легіянеры занялі вакзал і выйшлі на ўскраіну. Салавей адвёў рэшткі палка ў защитны гай каля Лапіч. Полк перадаў свайму земляку і другу Сцяпану Жынко, а сам ушчаміўся на нейкую платформу з рэйкамі і паехаў у Асіповічы. Ён спадзяваўся папоўніць батальён камсамольцамі.

Але гарадок быў амаль пусты: там-сям споўдаліся бабулькі ды сівенькія дзядкі, з-за веснічак паглядалі прыцішаныя дзеці. У ваенкамаце чалавек з дзеравяшкаю замест нагі пхаў паперы ў вялікі мех з-пад солі.

— Нічым памагчы не магу. Каго мог, адправіў,—адказаў ён.— Загадана ўсё адвезці ў Бабруйск.

На дзвярах валаснога камітэта камсамола вісеў кавалак фанеры з размытым хімічным надпісам: «Усе пайшлі на фронт».

У полк Салавей вяртаўся адзін. Імжыў цёплы дождж, шапацелі даспелыя аўсы, а недзе на захадзе вуркатаў гром. Прыслухаўся. Не, не гром — біла артылерыя.

4

Жыта даспела рана: толькі налілося і адразу запалавела, пайшло гайдацца сівымі хвалямі. У нізінах пацяжэла, сагнулася, а на буі ды на пясочку тырчалі каласы, як тыя макаўкі. Камунары завіхаліся на жніве. Павыцягвалі панскія жняяркі, прыладзілі да косграбелькі і з ранішняй расою клалі напрост супольна пасеянае жыта. У камуну папісаліся спрадвечныя панскія парабкі. Заводзіць сваю гаспадарку ніяк не выпадала, не было за што рукі зачапіць: ні кала ні двара, ні ступы ні таўкача. А тут усё на месцы: і коні, і плугі, і жняяркі асталіся. Жні і звозь у свіран — усё агульнае, усё наша.

На мураваным шуле вісеў «Дэкрэт аб арганізацыі савецкіх гаспадарак». Ён абавязваў усе арганізацыі «аказваць садзеянне і дапамогу сельскагаспадарчым вытворчым камунам, таварыствам і суполкам, якія перайшлі да сумеснай апрацоўкі зямлі, працоўным арцелям і іншым аб'яднанням». Дэкрэт падпісалі старшыня Савета народных камісараў У. Ульянаў (Ленін), кіраўнік спраў Саўнаркома У. Бонч-Бруевіч, сакратар Саўнаркома Л. Фоціева 15 лютага 1919 года.

Рудабельскія камунары ведалі на памяць гэты дэкрэт: сам Ленін загадваў памагаць ім. Калі што трэба было, ішлі ў рэўком да Максіма Уса, і ён пад распіску з панскіх пакояў выдаваў камунарскай сталоўцы буфеты, крэслы, сталы, талеркі і лыжкі. Абедалі ўсе разам, з дзецьмі, з жонкамі. Здавалася, сабралася адна вялікая сям'я, вясёлая і працавітая. У «панскіх» талерках з пазалочанымі беражкамі боўталася

сівенькая зацірка, грудкамі ляжала прасяная каша з гарбузом, у блакітныя кубачкі кухар разліваў густое халоднае малако.

— Што гэта за мерка ў цябе? — абураўся Цярэшка.— Поп на прычасці і то болей дае.

— Можа, пан Цярэшка загадае падаць смажанага рабчыка, цвібель-клопс і шампанскае,— пацешна схіляўся перад ім колішні панскі падкухцік.

— Жары тых клопаў сам, а чалавека накармі, каб гэтая злыбяда не боўталася ў чэраве, бы ў пустой біклазе.

— От каб дзед так у работу ўлягаў, як каля місы,—уставіла Параска.

— А хто ж пад бабкаю будзе лапці сушыць?

Усе весела смяяліся, а дзед тупаў на сваё месца, не перастаючы бурчаць.

Потым камунары ўставалі з-за сталоў і гаманкой талакою ішлі ў поле. Дзеці круцілі перавяслы, кабеты вязалі снапы, Цярэшка спрытна складаў іх на воз. Рыпелі колы на палявых дарогах, раслі тарпы ў доўгім свірне, на таку гула конная малатарня, і спорным дажджом сыпалася цёплае зерне. Жанчыны, завязаўшыся да самых вачэй хусткамі, адкідалі салому і адграбалі збожжа.

У свіран прыйшоў Максім Ус. Ён быў загадчыкам прадуктовага аддзела рэўкома і цэлымі днямі ездзіў па былых маёнтках, засценках і хутарах рэквізаваць муку, крупы і сала для Чырвонай Арміі. Сам адвозіў у Ратміравічы і ў Бабруйск, здаваў каптэнармусам часцей, а ў рэўком прывозіў так-сяк накрэмзаныя распіскі.

— Максім занудзіўся без работы,— жартавала Параска.— Можа, хоча ў прывод падпрэгчыся, а то Буланы прыстаў.

— Ці не па табе, удавіца, ён сохне, што прыляцеў сюды,— намагаўся перакрычаць малатарню Мікіта Падута.

Максім толькі ўсміхнуўся і падміргнуў Парасцы, ссунуў на патыліцу вайсковую шапку з цёмнымі плямамі поту, насупіў густыя бровы, аж вочы зрабіліся вузенькія, бы шчылінкі.

— Зараз жа трэба арфаваць і хутчэй везці ў Бабруйск. Чырвоная Армія б'ецца з легіянерамі, а хлеба няма.

— Няўжо да Бабруйска дапяла гэтая зграя? — спалохана спытала Параска.

— Бабруйск пакуль што наш, от ён і просіць есці.— І Максім падаў Парасцы паперку.— Бярыся, таварыш камбед, спаўняць загад рэўкома. А прыйдзе старшыня, аддасі яму гэтую цыдулку.

Параска адышлася ўбок, паклікала свайго Васілька, каб пачытаў. На вялікай сіняй паперцы было напісана:

«Камуністычная партыя (бальшавікоў). Рудабельскі валасны камітэт.

8 жніўня 1919 года.

Старшыні камуны ў маёнтку Рудабелка.

Валасны рэўком прапануе вам адпусціць і даставіць у горад Бабруйск не пазней 10 жніўня 50 пудоў жыта, 20 пудоў мукі, 3 пуды солі для вайсковых часцей Чырвонай Арміі.

Падстава: адносіна Бабруйскага аддзела забеспячэння ад 3 жніўня 1919 года № 1451.

*Старшыня рэўкома М. Ляўкоў,*
*Заг. аддзела харчавання М. Ус».*

Параска пастаяла з хвіліну, зняла хустку, выбіла з яе пыл, падвязала «бабачкаю» і шпарка пабегла па дварах.

— Бабанькі, памажыце трохі пакруціць арфу, жыта конча трэба,— прасіла яна кожную, з кім сустракалася.

— Нашто яно табе так спатрэбілася? — пыталіся кабеты і, пачуўшы Парасчын адказ, ішлі да свірна і да поўначы арфавалі збожжа для «бедных салдацікаў».

Параска круціла корбу, засыпала ў кош, адцягвала поўныя мяхі, а з галавы не выходзіў Аляксандр. «Як ён там? Ці жывы хаця? Пабачыць толькі, і то лягчэй было б. Можа, і яму перападзе луста нашага хлеба. Хай бы хоць успомніў, падумаў. От сказаў бы толькі слова, у вір пайшла б за ім. Але дзе там! Хіба такі скажа?» Яна задумвалася і ўжо не бачыла ні мяхоў, ні кучы жыта, не чула, як тарахціць арфа і гудзе малатарня.

Ноччу мужчыны на чатырох фурманках павезлі «салдацкі паёк» у Бабруйск.

Пад самым горадам ішлі баі, Бабахалі гарматы, за Бярозаю гарэлі сёлы, па вуліцах везлі параненых чырвонаармейцаў. Салаўя ў горадзе рудабельцы ўжо не знайшлі. Казалі, ён разам з ваенкаматам выехаў недзе аж пад Смаленск фарміраваць новыя часці. Вяртаючыся дадому, падводчыкі яшчэ доўга чулі гул бою, бачылі злавесна-барвовае зарыва на небасхіле. Хутчэй паганялі коней, каб адарвацца ад вайны, каб не чуць яе грукату, не бачыць полымя пажараў. Але хіба ж уцячэш. калі яна коціцца следам? Няўжо дапрэ і ў іх лясны край? Зноў прыйдзецца брацца за стрэльбы, бараніць адваяваную зямлю, і так ужо густа палітую крывёю.

Прыехаўшы дадому, падводчыкі пра ўсё расказалі Максіму Ляўкову. Той моўчкі слухаў горкія навіны і адразу ўвечары сабраў камуністаў і членаў рэўкома, камбедаўцаў і былых партызан. Прамова яго

была кароткая і простая. Ён гаварыў, што ўзброеныя Антантай банды Пілсудскага занялі Мінск і падышлі да Бярэзіны. У баі пад Бабруйскам снарадам забіла нашага земляка, камандзіра батальёна Сцяпана Жынко. Пачуўшы гэта, стары Цярэшка, не здымаючы шапкі, перахрысціўся: « Царства яму нябеснае».

— У нябеснае царства, дзед, вароты шырокія, а за зямное яшчэ біцца трэба,— сказаў Максім Ус.

— Усё ты мяне падсякаеш, як таго печкура на верхаводцы. Біцца дык біцца, каб іх паралюш разбіў. Чаго ім, злыдням, тут трэба?

— Каб ты зноў парабкам быў,— ужо лагодна адказаў Максім.

— А выхваяюць яны! Паспытаўшы салодкага, горкае і калом не ўваб'еш. Цяпер і дурань ведае, за што яму стаяць.

— Дык што будзем рабіць, мужчыны? — запытаў Ляўкоў.

— Бараніцца,— загулі мужчынскія галасы.

— Станем сцяною на Пцічы — і ні з месца!

Ляўкоў прыплюшчыў вочы.

— Каб так лёгка рабілася, як гаворыцца. Чырвоная Армія не ўстаяла пад Мінскам, мабыць, ужо здала і Бабруйск. Можа, і ненадоўга, але здала. А як бараніцца з дубальтоўкамі?

Падскочыў малы, юркі Цімох Валодзька.

— У мяне ад «каперацыі» тры вядры патронаў асталося, скрынка піраксіліну і паўмяха гранат. Вінтоўкі і карабіны, лічы, у кожнага пад страхою тырчаць. На першым часе адаб'ёмся, а там і ў панкоў разжыцца можна будзе.

— Праўду кажа Цімох,— падняўся шыракаплечы Лявон Адзінец. Пра яго сілу ведала ўся воласць: мядзведзя паборае, учэпіцца за біла — конь ні з месца. Пакладзе на калёсы Лявон дзеравіну — вязі смела, не падужае — лепш і каня не запрагай. Як усе дужыя людзі, ён быў заўсёды лагодны і спакойны. А тут разышоўся: «Лепш памерці, а не аддаць тое, што столькі год заваёўвалі. Ці, можа, зноў ісці ў парабкі да Урангеля? Ён цяпер за атамана ў белых, а барані божа, прыедзе, скуру да касцей здзярэ. Я думаю, таварышы, трэба сёння ж падзяліць усіх на атрады, выбраць камандзіраў, а як толькі паткнуцца сюды легіёны, біць, не шкадуючы ні іх, ні сябе. Мы загінем, хай хоць дзеці нашы па-людску жывуць. Хто за камандзіраў будзе,— пытаецеся? Ігнат Жынко і Андрэй Пуцята чым не камандзіры? А ўзводнымі Максіма Уса і Цімоха Валодзьку назначыць. Па сёлах разведчыкаў адправіць. Каго? Хоць бы Марыльку Салаўёву. Гэтую дзеўку чорт і ў мяху не спаймае. Падшыванцаў да радні пусціць, няхай прынюхваюцца. Калі што якое, сюды перакажуць. Ну, а Максім Ляўкоў усім верхаводзіць будзе.

— Ты, Лявонка, як той Саламон, разважлыў. Лепш і не прыдумаеш,— не стрымаўся Цярэшка.

— Папраўдзе, Лявон добра ўсё распланаваў,— пасвятлеў у твары і ўсміхнуўся Ляўкоў.— Збірайце мужчын, камандзіры. Разыходзьцеся па сёлах, пагаварыце, каб кожны ведаў сваё месца.

— А бабы хіба зломкі? — ускочыла Параска.— Ці ж я сваім галапузым ліхадзей? Пішы і мяне, Андрэй Сцяпанавіч,— звярнулася яна да Пуцяты.— Пакуль страляць навучуся, кашаварыць буду, кашулі і зрэбнікі вашы мыць. Можа, і па лесе бадзяцца прыйдзецца, дык і я дармаедам не буду.

Праз тыдзень у кожным атрадзе ўжо было чалавек па дзвесце. Партызаны занялі Старую Дуброву: злева — шлях за Пціч, справа за двое гоней ад сяла пачынаўся лес, глухая панская пушча — зялёная крэпасць, пераплеценая непрыкметнымі сцежкамі. У яе нетры, на глухі востраў, зарослы асінамі, дубняком і ляшчыннікам, штодня хадзілі мужчыны з узвода Максіма Уса. Яны валілі асіннік і ельнік, калолі яго на доўгія плахі. У адной высякалі «вуха», у другой выразалі шып і ставілі вялікія буданы. Накрывалі іх дзёрнам, яловымі лапкамі, а то і мохам.

— От і фацеры на зіму е,—любаваўся работаю Максім Ус.— Калі часам выкураць з Дубровы, адсюль будзем смаліць у ягамосцяў.

На востраў прывезлі скрыню мукі, мяшэчак солі, нават кацёл, выдраны з панскай кухні. Пра тое, што робіцца на востраве, ведалі толькі рэўкомаўцы і хлопцы з Усавага ўзвода.

Знікла з Харомнага і Салаўёва Марылька. Сказала, што ідзе за раку ў водведкі да цёткі. Цішком пагаварыў Ляўкоў і з пастушкамі, што ганялі тавар на лукавіны каля Пцічы.

— Калі што якое запрыкмеціце, пасылайце падпасвіча. Няхай барзджэй бяжыць у алешнік да нашых пастоў, а мы ўжо тут ведацьмем, што рабіць,— тлумачыў хлапчукам старшыня рэўкома.

Разы са тры з Пеpакалля прыходзіла маленькая, кульгавенькая Ліна, Марыльчына стрыечная сястра. Абчапляецца торбамі, накладзе ў іх акрайцаў і скарынак, кіёк возьме і шкандыбае, дзе па дарозе, дзе па раллі — ні даць ні ўзяць убогае жабрачаня. Зойдзе да Парaскі, рызманы паскідае, не дзеўчына — лялька: вочы сінімі іскаркамі гарaць, валасы льнянымі хвалямі на плечы збягаюць. Падкурчыць скалечаную ножку на ўслончыку і слова ў слова пераказвае, што загадала перадаць Марыля.

— У Касарычах, Харомцах і ў Парэччы легіянеры стаяць. Не многа, чалавек па дваццаць. Афіцэр у парэцкага папа ў доме жыве, з пападзянкамі пад ручку ходзіць, а ноччу ўсё каравулы правярае. Сы-

скаўся ж і Казік Ермаліцкі; казалі, у Харомцах каля вахмістра аціраецца. Усё лазіць па балоце ды на рэчцы броду шукае, каб як цераз Зацішша сюды палякаў правесці. З лесу неспадзеўкі думаюць наскочыць на вас.

Калі прыходзіла Ліна, Параска насылала свайго большанькага Васілька па дзядзьку Максіма або Лявона. Часцей прыходзіў Адзінец і так ужо ўсё выпытваў, нібы дапрос знімаў: і дзе ў іх пасты стаяць, і колькі кулямётаў у кожнай вёсцы, і як з людзьмі абыходзяцца.

Раніцою Ліна зноў нацягвала свае лахманы, крыжнакрыж чапляла торбы. Параска непакоілася, каб не схапілі яе палякі.

— На той бок каля хутара на чоўне стары Кашпар перавязе, а там не зачэпяць — жабрачка, латышка, а нас яны чамусьці сваімі лічаць,— І Ліна, кульгаючы і ківаючыся, ішла з сяла.

Партызаны верылі дзяўчыне і рыхтаваліся сустрэць белапалякаў каля Зацішша. Расставілі пасты, цікавалі на кожнай лясной сцежцы. Цішыня была трывожная. З-за ракі даходзілі чуткі, што ў маёнткі і сёлы прыходзяць новыя часці, па полі гарцуюць уланы, сякуць лазу і выхваляюцца, што вось так паздымаюць галовы ўсім «рудабельскім бандытам» і вызваляць ад бальшавікоў маёнтак барона Урангеля. Але канчалася лета, а яны нешта не спяшаліся ісці на Рудабелку.

Калі адшумела жаўталісце і марозікі прыхапілі палі і дарогі, эскадрон уланаў ноччу заняў Зацішша, неспадзеўкі хацеў ускочыць у воласць, арыштаваць рэўкомаўцаў і адкрыць дарогу пяхоце.

Але партызанскія вочы і вушы былі за ракою ў кожным сяле і на кожным хутары. Атрад Ігната Жынко сабраўся ў хмызняку, каля гнілое багністае канавы. Яна зарасла аерам і лапухамі, зверху зашэрхла тонкім лядком. Над канаваю вісеў хісткі жардзяны масток. Толькі праз яго можна было перапраўіцца на Рудабелку. Узвод Цімоха Валодзькі перайшоў на той бок, адкуль павінны былі ехаць уланы, і залёг у кустах ракітніку. Максім Ус са сваімі хлогіцамі астаўся на другім беразе канавы. Яны ў самым пачатку мосціка пакінулі некалькі жардзін, на сярэдзіне рассунулі іх так, каб конскія ногі якраз праваліваліся паміж імі, а ў канцы зусім паскідалі жардзіны. Самі ланцужком рассыпаліся ўздоўж канавы, пахаваліся за пажоўклым чаротам і хмызняком. Гэта яны звалі «Салаўёўскай засадай».

Нудна шапацела сухая асака, нібы серп аб серп скрыгатала чаратовае лісце, па небе вецер гнаў раскудлачаныя хмары. За імі то хаваўся, то выбліскваў тоненькі халодны маладзічок, і тады ўся балацяная нізіна залівалася сіняватым святлом. Цягнуліся доўгія цені ад кустоў, паблісквалі тонкім цёмным лядком лужыны і канава.

Па скаванай першымі замаразкамі дарозе гулка зацокалі капыты. З лесу папаўзла, закалыхалася доўгая калона коннікаў. Маладзічок асвятляў блішчастыя рулі карабінаў, зіхатлівыя страмёны і шпоры. Уланы ехалі ціха і асцярожна. Як толькі першыя коні ступілі на жардзіны мастка, з ракітніку бліснула полымя, цішыня разарвалася, як настылае прасціpăдла. Коні рвануліся наперад, заднія адскочылі ўбок, узняліся на дыбКі, каб пераскочыць канаву, і, ламаючы тонкі лядок, з усяго размаху ляцелі ў густы жужаль. Пярэднія правальваліся паміж жардзінамі на мастку, біліся аб іх пысамі, тузаліся, сілячыся ўстаць. Жаўнеры хапаліся за карабіны, але залп ззаду, нібы страшэнны віхор, пагнаў коней да канавы, і яны з разгону ўвальваліся ў густую сцюдзёную твань. Спераду ўдарыў узвод Максима Уса.

Лямант, стогны і крыкі, здавалася, далятаюць аж да неба. А маладзічок выплываў паміж касмылёў хмарак і здзіўлена пазіраў, як б'юцца і паміраюць на зямлі людзі.

У гнілой канаве булькалі і храплі коні. Нехта сіліўся выпаўзці з жужаля, хапаючыся за сухі чарот. Несуладна стралялі ўланы і рудабельцы.

Калі ўсё сціхла, партызаны перакінулі цераз канаву знятыя з моста доўгія жардзіны; зыбаючыся на іх, нахіляліся, пераразалі рамяні і выцягвалі з жужалю слізкія карабіны. Ад марозу яны блішчалі, як зашклёныя.

Каля самага берага, па пахі ў багне, ляжаў Казік Ермаліцкі. Рукі прымерзлі да рудое асакі, каўнер новенькага мундзіра быў заліты крывёю.

Пасля бою каля канавы партызаны акрыялі духам, паемялелі, сталі больш дзёрзкія. А тут якраз аднекуль з-пад Капаткевіч прабіваўся да сваіх эскадрон чырвоных коннікаў і завярнуў у Рудабелку.

— Нашы прыйшлі! Нашы прыйшлі! — бегучы па вуліцы, крычалі дзеці.

— Шапкі з пікамі, і на сёдлах усе! Далібог, от з такімі пікамі.— І хлапчукі над галовамі падымалі пальцы.

Кабеты, старыя і малыя высыпалі на вуліцу. Маладзіцы на прыпечках смажылі яечні з вялікімі скваркамі і радаваліся, што зноў прыйшлі свае і не пусцяць цяпер сюды белапольскую навалач.

Камандзір эскадрона, невысокі, з пабітым воспінамі тварам дзяцюк сядзеў у рэўкоме, расказваў, як яны прабіваліся па варожых тылах, і дзівіўся, што тут няма белапалякаў.

— Як толькі паткнуцца сюды, мы іх адразу ў праваслаўную веру перакручваем,— пасміхаўся Максім Ус.— Вадохрышча ім у канаве зрабілі.

— А цяпер трэба па Парэччы ўдарыць,— прапанаваў Андрэй Пуцята.— Я там кожную сцежку ведаю. Нашы атрады зойдуць з тылу, а чырвоная конніца — з фронту.

— Памагнём,— згадзіўся камандзір эскадрона.

За ноч стары Кашпар цераз раку з ледзянымі закрайкам! перавёз на чоўне атрад Андрэя Пуцяты на правы бераг. Партызаны знікалі ў прырэчных кустах, хвойнікамі і гаямі прадзіраліся ў лес, што падыходзіў да самага Парэчча. Абышлі вёску і залеглі. Наўкол было пахмура і ціха. Вецер гнаў колкі прамёрзлы пясок, як шротам біў у твары і запарушваў вочы. Вёска маўкліва стаяла на ўзгорку, над саламянымі стрэхамі тырчала беленькая званіца царквы. Паміж голых прысад відзён бляшаны дах папоўскага дома. Партызаны ведалі, што там кватаруюць афіцэры, а салдаты занялі школу і жывуць па хатах. Трэба іх выкурыць з вёскі, але так, каб сваім людзям не нарабіць ніякае шкоды.

Андрэй Пуцята разлічыў, што на світанні чырвоная конніца праскочыць мост і наблізіцца да Парэчча. Ён прыслухаўся.

— Дзядзька Цярэшка, паслухай і ты, здаецца, тупаюць.

Стары ссунуў на адно вуха заечую аблавушку і лёг на разору.

— Эге ж, Андрэйка, чуваць.

— Атрад, плі! — скамандаваў Пуцята.

Грымнуў і пакаціўся, нібы вялікая пустая бочка, гучны залп. То ў адным, то ў другім канцы вёскі адказалі стрэламі. Відаць, ачухалася варта. Да партызан даляталі крыкі, словы каманды, лямант. І раптам на тым баку вёскі пакацілася густое шматгалосае «ўра!». На ўзгорку паказалася конніца, заблісkалі шаблі, захраплі коні. Расхіналіся і трапяталі на ветры стаўбунаватыя шлемы. У розных канцах вёскі бухалі несуладныя стрэлы. Жаўнеры выскоквалі ў расхлістаных мундзірах, без шапак, у адных шкарпэтках; як апантаныя, пераскоквалі праз платы, хаваліся за адрынамі і хлявамі. Некаторыя на неасёдланых конях вузкаю вуліцай памчаліся за могілкі, у малады сасоннік. Каля царквы засакатаў кулямёт і перагарадзіў дарогу ў вясковую вуліцу.

Чырвонаармейцы асадзілі коней, спусціліся ў нізіну і пачалі абкружаць Парэчча. Партызаны паўзлі да гародаў, кароткімі перабежкамі пракрадваліся паміж кустоў, што раслі на куп'істым поплаве, каб з тылу прарвацца на вуліцу і заткнуць зяпу кулямёту, які прыкрываў адыход сваіх. Легіянеры, нібы з дзіравага меха, сыпаліся з другога канца вёскі і знікалі ў хвойніку. Дарогу ім перарэзала чырвоная конніца, засвісталі клінкі, загрымелі стрэлы.

Па разорах да царквы паўзлі Карп Жулега і Апанас Раговіч. Яны ўскочылі на цвінтар і залеглі за бэзавымі кустамі. Грымнулі два

гранатныя выбухі, і кулямёт змоўк. Партызаны палезлі праз платы, пабеглі па садках і гародах на вуліцу. Яшчэ сям-там з-за хлявоў і хат адстрэльваліся жаўнеры.

Дзед Цярэшка ніяк не паспяваў за маладымі. Ссунуўшы на вуха аблавушку, ён выскачыў з-за высокага агрэставага куста і ўбачыў за адрынаю жоўты мундзір.

— Стой, пся крэў! — крыкнуў стары, падхапіў вінтоўку, але з-за вугла грымнуў стрэл. Дзеда штурханула, ён закруціўся на месцы, ухапіўся за твар і павольна пачаў асядаць на цвёрдую граду з мерзлымі храпкамі ссечанай капусты.

Яго знайшлі пасля таго, як скончЫўся бой. На рэдзенькай бародцы запяклася кроў, незаплюшчаныя вочы глядзелі ў халоднае шэрае неба.

Разгром партызанамі і чырвонай конніцай парэцкага гарнізона нагнаў страху на белапалякаў. Па вёсках папаўзлі чуткі, што з Гомеля прарваўся полк Чырвонай Арміі і разам з рудабельскімі партызанамі вызваляе цэлыя воласці і гарады, вось-вось прыйдзе сюды. Людзі чакалі вызвалення, мужчыны па адным, па два знікалі з вёсак.

Белапольскае камандаванне занепакоілася: адкуль узялася чырвоная конніца? Можа, з гэтай небяспечнай палескай зоны пачынаецца планамернае наступление чырвоных? Па тым, што расказвалі некалькі ўцекачоў з Парэчча, цяжка было хоць што-кольвек зразумець: у страха вочы лупатыя і лыжка здаецца лапатаю.

Паляцелі трывожныя тэлеграмы ў Бабруйск і ў Мінск. У адказ на іх прыбывалі часці ўланаў і пяхоты, палявая жандармерыя і артылерысты. Яны спыняліся ў Глуску. Заходзілі ў хаты па тры, па пяць чалавек, заганялі гаспадароў у запечча, а самі ўмошчваліся на ложках, у куце навальвалі цэлую гару сёдлаў і амуніцыі. Усё мястэчка прапахла конскім потам і дымам паходных кухань.

Знятыя з фронту часці ад'ядаліся і адсыпаліся перад паходам на Рудабелку. У мястэчка прыязджалі на маляваных вазках дзябёлыя шляхцянкі ў доўгіх футрах з жоўтымі лісінымі каўнярамі, у высокіх боціках на гузіках і да раніцы скакалі з афіцэрамі мазуркі і паланезы, гулялі ў фанты з пацалункамі, стараліся размаўляць «па-польскему», хоць іх польскую гаворку варшавякі і пазнанцы разумелі толькі пятае цераз дзесятае.

А Іван Мазалеўскі з шавецкім начыннем зноў пайшоў па сёлах. Цяпер ён ламаў галаву, як прабіцца ў Рудабелку, каб пераказаць, што збіраецца вялікая сіла жаўнераў. Бадзяючыся па хутарах, ён сустрэў Марыльку, Салаўёву сястру.

5

Цэлы месяц з рэштткамі свайго батальёна Аляксандр Салавей маршыраваў па вуліцах маленькай Сычоўкі. Днём чырвонаармейцы паролі штыхамі мяхі з саломаю, стралялі па мішэнях, а вечарамі латалі гімнасцёркі і шынялі, падэшвы густа падбівалі цвічкамі з пляскатымі галоўкамі і спявалі песні латышскія, венгерскія, беларускія і польскія. З латышамі Салавей гаварыў на матчынай мове, з беларусамі — на бацькавай, польскую трохі помніў з маленства ад шляхцюкоў. Цяжэй было з венграмі. Яны добра разумелі каманду, ведалі, што трэба рабіць, калі ім што даручаюць, а вось пагаварыць з кожным байцом па душах камандзір не ўмеў. А як жа камандаваць, калі не ведаеш, хто чым жыве, пра што думае, чаго сумуе ці радуецца. Салавей часта ездзіў у Смаленск у штаб Заходняга фронту і ва Упрафарм[1] патрабаваў, каб хутчэй батальён адпраўлялі на фронт, даводзіў, што нельга ў такі час адседжвацца ў ціхай Сычоўцы.

— Не спяшайцеся, таварыш Салавей,— супакойвалі яго ва Упраўленні фарміравання,— вы яшчэ пакажаце сябе.

— Я ж не клоун, каб паказваць сябе. Я бальшавік і не маю права страляць па мішэнях і патрашыць сеннікі, калі гінуць нашы людзі.

— Скажу па сакрэту,— гаварыў начальнік упраўлення, лысаваты мужчына з выпраўкаю і манерамі бы лога афіцэра,— мы фарміруем полк чырвоных камунараў. Ён адправіцца на барацьбу з белалатышамі. Якраз вашы стралкі і будуць вызваляць родную зямлю. Камандзірам палка прызначаны ваш зямляк, бабруйчанін Іван Варфаламеевіч Царук. Вось так, Аляксандр Раманавіч.— Начальнік ветліва ўсміхнуўся і ўстаў.— Зайдзіце ў штаб фронту і атрымайце загад аб пераводзе ў Смаленск.

Праз два дні інтэрнацыянальны батальён уліўся ў полк чырвоных камунараў. Заўсёды падцягнуты Салавей цяпер быў асабліва паводзелавому напружаны, заклапочаны і энергічны. Ён даставаў палявыя карты, гутарыў з ротнымі камандзірамі, асабліва часта заходзіў у латышскую роту, распытваў, хто адкуль родам, доўга гаварыў з латгальцамі, па карце вымяраў дарогі ад Дзвінска да Люцына і Рэжыцы, запісваў латышскія назвы вёсак і хутароў. Гаворачы з байцамі, Салавей бачыў разбітыя чаравікі, лупатыя латкі, не ў кожнага былі рукавіцы ці пальчаткі.

Па цёмных вуліцах Смаленска свістала завіруха, здувала з узгоркаў сыпучы снег, бразгала бляхаю дахаў, гула ў зубцах крамлёўскай сцяны. У такую сцюжу разуты салдат шмат не навоюе. Гэта непакоіла

[1] Упрафарм — Упраўленне фарміравання арміі.

Салаўя. Ён прыйшоў да камандзіра палка і далажыў, што яго батальёну трэба восемдзесят шэсць пар абутку.

— Каб толькі восемдзесят шэсць! — сумна адказаў Царук.— На полк патрэбна сама меней пар чатырыста. А дзе іх узяць? Пачакай, зараз прыйдзе загадчык гаспадаркі. Паслухаем, што скажа Муляўка.

Увайшоў высокі мужчына ў кароткім шынялі, у абмотках і выцертай папасе. Увесь твар Муляўкі быў збіты воспаю, на месцы броваў тырчала некалькі рэ-

дзенькіх валасінак. Ён выслухаў камандзіра палка, памаўчаў і спакойна адказаў:

— Трэба ехаць у Маскву.

— Там для нас назапасілі і толькі чакаюць цябе.

— Можа, і не назапасілі, а даць дадуць.

— Хто гэта табе дасць? — пачынаў злавацца Царук.

— Таварыш Ленін дасць,— адказаў Муляўка.

— Ты што, з раніцы п'еш?

— Я з Уладзімірам Ільічом два гады разам у ссылцы быў. Ведае ён мяне. Даложаць — прыме і выслухае, а калі выслухае, паможа.

— Гм, а ты не прыдумляеш? — памякчэў Царук.

— Што тут прыдумляць, Іван Варфаламеевіч. Каб было дзе дастаць, хіба б стаў турбаваць Уладзіміра Ільіча ў такі час?

— Чаму ж ты раней не казаў, што разам у ссылцы быў?

— А чаго хваліцца? Так што выпісвайце дакументы, давайце пару чалавек у помач. Калі пашанцуе, будуць чаравікі.

— Каго ж табе даць?

— Ёсць у мяне пракідныя хлопцы,— ажывіўся Салавей.— Казначэй Сцяпан Герасімовіч і камандзір узвода Лукашэвіч.

— Прысылай іх сюды,— сказаў Царук.— І сам прыходзь.

Выпраўляючы хадакоў у Маскву, камандзір палка папярэджваў:

— Вы ж хоць вельмі там у вочы не лезьце. Клопатаў у таварыша Леніна па самую званіцу Івана Вялікага, і не да чаравікаў яму цяпер. Дасць — добра, а не, захапіце грошай, можа, чым на Сухараўцы разжывецеся.

— Грошай у мяне цэлая торба,— пахваліўся Герасімовіч.

— Глядзі, каб не свіснулі,— папярэдзіў Царук.

— А я іх ніколі не пільную, таварыш камандзір. Заходжу ў вагон і кідаю пад лаўку. Спытае каторы: «Чаго гэта, салдацік, напакаваў?» «Бланкі,— кажу,— плечы ўварвалі. Вайна ідзе, а тылавыя пацукі канцылярыю развялі».

— Ой, хлопча, глядзі, каб не знайшлося разумнейшага за цябе. Пільнуйцеся таварыша Муляўкі. Ён чалавек бывалы. Што скажа, тое і рабіце.

Пасланцы крутнуліся і выйшлі з пакоя. За вокнамі скавытаў вецер і гнаў сухі сыпучы снег. У казарме было холадна і цёмна, густы іней іскрыстай поўсцю захутаў сцены. Камандзір палка сядзеў за сталом у белым казловым паўкажушку і ў кубанцы. За кожным словам з вуснаў вылятаў струменьчык пары.

— Белая латышская армія падышла да Асвеі, наступав на Дрысу. Наша задача не толькі спыніць наступление, але адкінуць белалатышоў назад, замацавацца ў раёне Рэжыцы. Вашаму батальёну даручана абысці ворага з тылу і нанесці першы неспадзяваны ўдар. Будзеце прабірацца па тылах, на Невель, Ідрыцу і Себеж. Калі там не ўдасца прайсці, кіруйцеся на Ізборск. Полк завяжа баі з фронту, прарвём кальцо белякоў і злучымся недзе вось тут.— Царук ткнуў у блакітны кружочак на карце. Салавей знайшоў яго на сваёй трохвёрстцы і адзначыў кружочкам невялікае возера Рэзна.

— Ваша латышская рота будзе весці разведку з большым поспехам, чым хто іншы. Ды і ў штабе ведаюць, што Салавей не ўмее адступаць. Калі пашанцуе, падабуемся і — у бой. Вы верыце, што Муляўка што-небудзь прывязе?

— Калі толькі ёсць у Маскве, даб'ецца. Гэты чалавек абы-што гаварыць не ўмее. Стары бальшавік. Царскія турмы і ссылкі прайшоў. Пэўна, і Леніна ведае.

— Можа, і ведае, але ці ведае Ленін яго? — засумняваўся Царук.

— Нават калі і не ведае, дапаможа. Не для сябе ж чалавек стараецца, для фронту,— пераконваў камандзіра Салавей.

Назаўтра на двары казармы Аляксандр убачыў бацьку і вачам не паверыў.

— Адкуль вы, тата? — кінуўся ён да старога.

— Гэ, браце, доўгая песня. Гляджу я гэта і думаю сабе, чаго тут столькі бэйбусаў назбіралася — морда ў морду, а ў нас старыя і бабы ваююць ды ад вас помачы чакаюць.

— Не, усё ж скажыце, як вам удалося столькі прайсці і цераз фронт прабрацца?

Стары Раман хітра ўсміхнуўся і падміргнуў сыну:

— На шапку-невідзімку разжыўся. Дзе скокам, дзе бокам, дзе дурнем прыкінуся, дзе ў шчыліну пратачуся, от і прабіўся цябе адведаць. Дай, думаю, схаджу, пагляджу, як тут сынок ваюе. А ты нішто, спраўны. Быў бы ў нас добры камандзір.

— А хіба ў вас няма?

— Чаму няма? Максім Ляўкоў у воласці і над усімі атрадамі вараціла; Андрэй Пуцята, Ігнат Жынко за камандзіраў. Даём трохі пытлю панкам. Але і ты быў бы не лішні.

Раман расказваў сыну пра першыя бai з белапалякамі, пра разгром Парэцкага гарнізона, пра смерць Цярэшкі, пра тое, як Марылька і Ліна памагаюць партызанам. Але так і не расказаў, як двойчы пераходзіў праз лінію фронту і як думае дабірацца дадому.

— А я і не думаю,— адказаў Раман.— Можа, і мне знойдзецца месца ў вашым палку. Хоць за кашавара буду.

Дні тры ўгаворваў Аляксандр бацьку, каб вярнуўся дахаты. Пераконваў, што бai будуць цяжкія і доўгія, што не ў яго гады ваяваць у рэгулярным войску. Ён даў старому паперку за подпісамі і пячаткамі штаба, каб каменданты і камандзіры часцей садзейнічалі Раману Аляксандравічу Салаўю перайсці лінію фронту для вядзення рэвалюцыйнай работы ў тыле ворага.

Развітваючыся каля цяплушкі, у якой ехалі чырвонаармейцы пад Оршу, бацька з сынам моцна эбняліся. Раманаў кажух пах знаёмым хатнім духам, калючая барада напомніла, як у маленстве яна казытала шчокі, калі Аляксандр залазіў да бацькі пад коўдру пагрэцца. Успомніліся сябры, што адстойваюць Савецкую ўладу ў Рудабелцы. Прыгадаліся цёмныя Парасчыны вочы, выразна пачуўся голас нябожчыка Цярэшкі, і так зрабілася шкода старога, што аж зашчымела пад сэрцам.

Аляксандр падсадзіў бацьку ў гаманкую, ледзь асветленую агаркам цяплушку, папрасіў чырвонаармейцаў прытуліць старога.

Праходзячы па пероне, Салавей пачуў знаёмыя галасы і глухі грукат. Каля апошняга вагона чырвонаармеец з вінтоўкаю ў руках пакрыкваў на кожнага:

— Правальвай, правальвай, не затрымлівайся!

«Няўжо Сцёпка?!» — узрадаваўся Салавей. Насустрач паднялася вінтоўка.

— Праходзь направа! — крыкнуў вартавы.

— Чаго добрага, яшчэ здуру і стрэліш,— спакойна адказаў камандзір.

— Хлопцы, Аляксандр Раманавіч тут! — узрадаваўся Герасімовіч.

— От гэта малайцы,— ускокваючы ў вагон, ускрыкнуў Салавей і пачаў выкідаць звязаныя па некалькі пар чаравікі і боты. Яны пахлі дзёгцем і скураю, рыпелі і з грукатам падалі на платформу.

Муляўка з кута выцягнуў тры вялікія скруткі, абмацаў падлогу, ці не засталося дзе чаго.

— Ну, усё. Добра, што паспелі.

Толькі яны выскачылі з вагона, паравоз прарэзліва раўнуў, зачухкаў клубамі пары, і цягнік павольна пакаціўся па прыцярушаных снегам рэйках.

— Я пабягу па сані,— сказаў Муляўка,— а вы тут пільнуйце.— І, пераскокваючы праз пуці, знік у замеці.

Пільнаваць на платформе асталіся ўтрох.

— Расказвайце, як гэта вам удалося? — карцела Салаўю хутчэй пра ўсё дазнацца.

— Прыехалі мы ў Маскву раніцай. Горад завалены снегам. Бачым, рамізнік стаіць; падыходзім, думаем— хутчэй даедзем. А ён ні блізка: конь, кажа, аташчаў і траіх не давязе. Пайшлі пехатою.

— Хіба я ў цябе пытаюся пра рамізніцкага каня? Ты мне скажы, Леніна бачылі? — не стрымаўся Салавей.

— Бачылі, бачылі, таварыш камандзір,— супакоіў Лукашэвіч.— А Сцёпка іначай не ўмее расказваць.

— Калі такі разумны, сам расказвай,— пакрыўдзіўся Герасімовіч.

— Прыйшлі, гэта значыць, да Крамля,— пачаў Лукашэвіч,— вартавы стаіць, дакументы правярае. Паказваем свае мандаты. Глядзеў, глядзеў, потым тузануў за дрот. Чакаем. Прыходзіць разводзяшчы. Таварыш Муляўка так яму проста і кажа: «Далажыце, гэта самае, Уладзіміру Ільічу, данясенні з фронту прывёз

Іван Муляўка і просіць прыняць». Памуляўся разводзяшчы. Можа, кажа, хто другі прыме? «Не, толькі да таварыша Леніна».

— Хваліўся, а і сам на рамізніцкага каня ўссеў,— перабіў Лукашэвіча Сцяпан і болей не даў яму рота раскрыць.— Адным словам, таварыш камандзір, прывёў нас курсант у вялізны палац, загадаў шынялі і зброю здаць і павёў. Па лесвіцах, па калідорах нейкіх вядзе, за дзвярыма машынкі, як тыя кулямёты, ляскаюць. Уваходзім у вялікія дзверы, У пакоі ціха-ціха. Жанчына нас сустрэла, на столік газет, журналаў паклала. Чытайце, кажа, а сама — у кабінет. Выходзіць і просіць трошкі пачакаць. Сядзім, чакаем. А потым з дзвярэй — шась і проста да нас ідзе і ўсміхаецца невысок!, быстры чалавек. Ага, сам таварыш Ленін. Я яго адразу пазнаў. Ну, выліты, як у газеце. Падае ўсім руку, а Муляўку нашага за плечы трасе. «Пазнаю, пазнаю,— кажа,— Іван... не падказвайце... Аляксеевіч. Прашу».— І паказвае на кабінет. А мы і не ведаем, ісці ці сядзець. Вось ён,— Сцяпан кіўнуў на Лукашэвіча,— смыкнуў мяне за рукаў, мы, дурні, і асталіся. Доўга не было Муляўкі. Пра што яны там гаварылі, хлусіць не буду, не чулі. Потым выходзіць, аж рабацінне свеціцца ад радасці. Паперкаю трасе. Потым у дарозе расказваў, як Уладзімір Ільіч дазнаўся пра наш полк, дык, праўда ці не, нібыта кажа таварышу

Муляўку: «Раз вы чырвоныя камунары, даем вам яшчэ тры скруткі чырвонага сукна камандзірам на галіфэ». Вось яно.— Герасімовіч носцам ткнуў у закручаныя рагожай цюкі.

Па снезе, перамешаным з пяском, зарыпелі сані,— Муляўка непадалёк ад вакзала запыніў фурманку.

— Колькі ўсяго тут? — пацікавіўся Салавей.

— Хопіць. Чатырыста пар палучылі.

У завірушным снежні 1919 года праз Невель і Себеж батальён Салаўя прабіраўся па варожых тылах. Белалатышы займалі Дзвінск, Краславу і Асвею. Яны намагаліся пашырыць фронт на паўночны ўсход да рэчкі Сіняй.

Спыніць іх, адкінуць назад і злучыцца з асноўнымі сіламі палка павінен быў інтэрнацыянальны батальён Аляксандра Салаўя.

Чырвонаармейцы ішлі супраць ветру. Мяцеліца гула і хвастала жорсткім снегам, сляпіла вочы, упіналася ў грудзі. А байцы, падобныя на снежныя слупы, сунуліся насустрач ветру і ворагу. У снежнай крутаверці нічога не было відно: куды ні зірнеш — ляціць мітуслівая завея, шуміць у высокім перамёрзлым трысці і ломіць крохкія чараціны. Батальён выбіўся на возера. Зіма яго закавала тоўстым лёдам і заваліла глыбокім снегам.

Спыніліся ў невялічкай прыазёрнай вёсачцы. На платах зімавалі старыя падраныя сеці, каля хлявоў і свіронкаў ляжалі перавернутыя чаўны і лодкі. Адразу было відно, што тут жывуць рыбакі. Вяскоўцы стрымана і насцярожана глядзелі на салдат.

— Ліха яго разбярэ, дзе свае, дзе чужыя,— казаў дзед з зялёнаю ад тытуню барадою.— Тут латышы і там латышы. Таўкуць адзін аднаго. А за што, каб спытаў, і самі не ведаюць.

— Не, дзед, — пярэчыў камісар Ясюнас.— Ведаем, за што. Мы за латышскі народ ваюем, за яго свабоду, а тыя за кучку паноў, якія хочуць нас упрэгчы ў плуг, асядлаць і паганяць яшчэ.

Увечары камісар нацягнуў на сябе зрэбнікі, абуў лапці з суконкамі, вераўчынаю падперазаў світу, для прыклёпу заткнуў за пояс сякерку, нібы прадухі прасякаць на возеры, і падаўся на той бок. Ён вырас ў Латгаліі і ведаў гэтыя мясціны, умеў добра гаварыць па-латышску і па-беларуску, таму і папрасіўся ў разведку.

Салавей да раніцы чакаў свайго камісара. Было боязна за Ясюнаса і трывожна ад маўклівай невядомасці. А завея круціла другія суткі. Страшна нават выткнуцца з цёплай хаты. І ўсё ж камандзір падняў батальён і павёў на той бок возера.

Не дайшлі і да сярэдзіны, як вецер данёс шаргаценне, гул і абрыўкі выкрыкаў, падобных ні то на лаянку, ні то на каманду.

Батальён Салаўя доўгім ланцугом залёг у пухкім снезе, што сыпаўся за каўнер, лез у рукавы, набіваўся ў чаравікі, раставаў і поўз халоднымі струменьчыкамі па целе. Але ляжаць за сумётамі было зацішней і ўтульней, чым на буі.

У замецi ўжо выразна чуліся галасы і бачылася нейкае няўлоўнае мітушэнне. Яно напаўзала бліжэй і бліжэй, хоць у снежным шквале яшчэ нікога не было відно. Трэба стаіцца, замерці, каб не пачуў вораг.

Як толькі ў парадзелай мітульзе завірухі паказаліся ледзь прыкметныя постаці белалатышскіх салдат, ім проста ў лоб секанула бліскавіца шчыльнага вінтовачнага агню. Забітыя падалі ў снег, нібы правальваліся ў бездань, жывыя рванулiся назад, грузнучы і блытаючыся ў высокіх сумётах.

Батальён з крыкам «ура» падняўся ў поўны рост і кінуўся следам. Рэха страляніны з возера дакацілася да Асвеі. Рэшткі белага гарнізона кідалі ўсё і адступалі на Краслаўку.

Зморaныя чырвонаармейцы прыпыніліся ў невялічкім маёнтку. Трэба было адпачыць і агледзецца, каб не трапіць у нерат. Вораг адкаціўся за пералескі і хмызнякі. Узводныя расстаўлялі баявую ахову, разводзілі. пасты.

Да чырвонаармейцаў падышоў высокі худы мужчына ў рызманах, разбітых лапцях. Ён пазіраў чыстымі, па-дзіцячы наіўнымі вачыма. Сцягнуў з лысай галавы шапку, пачаў нешта мэкаць, паказваць рукою, па-каталіцку жагнацца ўсёю далоняй і некуды клікаць. Хоць чалавек быў нямы, але настойлівы. Ён ухапіў узводнага за рукаў і пацягнуў да касцёла. За імі пайшло некалькі чырвонаармейцаў. Невялікі беленькі касцёл стаяў на ўзгорку, вакол яго раслі старыя ліпы. Каля касцельнай сцяны байцы ўбачылі страшэннае відовішча. На снезе стаяў голы, нібыта зашклёны, чалавек. На спіне глыбокаю ранай запяклася і заледзянела пяціканцовая зорка. Адно вока было выбіта і заплыло крывавым камяком, другое мутна пазірала з глыбокай тугою і папрокам.

— Гэта ж наш камісар Ясюнас! — крыкнуў узводны.

Байцы паздымалі шапкі і стаялі, як знямелыя. Такога яны ніколі не бачылі: парэзанага кінжаламі, прапоранага штыхамі камісара целяшом выгналі на мароз і аблівалі вадою, пакуль ён не зайшоўся. Вось і стаіць, як помнік мужнасці, як абвінавачанне азвярэлым катам...

Калі на касцельным узгорку хавалі Ясюнаса, арганіст расказаў Салаўю, як нябожчыка, апранутага ў світу і ў лапці, затрымалі за аселіцаю белыя салдаты, распыталі і хацелі адпусціць, але нарваўся афіцэр і пацягнуў чалавека ў лапцях у плебанію. Там нехта пазнаў

яго. Казалі, той юда ведаў яго некалі яшчэ да вайны, нібыта нават вучыліся разам. І пачаўся допыт.

— І вось так ён скончыўся,— сумна сказаў арганіст.

На сыпкія камякі мёрзлай зямлі ўзышоў камандзір батальёна і загаварыў па-латышску.

— Вайна ідзе даўно, але такое зверства мы бачым уперпіыню. Неразумныя людзі скажуць: латышы замучылі латыша. Няпраўда! Гэта звяры знішчылі добрага, чулага чалавека, які хацеў свабоды і шчасця для сваёй зямлі і для латышскага народа. Мы павінны не толькі адпомсціць за смерць таварыша Ясюнаса. Вызваліць гарады і сёлы Латвіі ад наймітаў капіталу, ад бандытаў і галаварэзаў — наш абавязак. Паклянёмся выканаць яго,— закончыў Салавей па-руску. І ў адказ грымнулі галасы латышоў, беларусаў, венграў, палякаў:

— Клянёмся!

— Клянёмся! — падхапіла рэха.

...Раніцою батальён выступіў з надзеяю прарваць абарону праціўніка, злучыцца з асноўнымі сіламі палка і вызваліць ад белай арміі Рэжыцу.

За ноч сціхла завея. Пацягнула цёплым адліжным ветрам. Снег набракаў вільгаццю, намакалі чаравікі, дубянелі ногі, і дрыжыкі працінalі аж да самай патыліцы.

Цяпер Салавей высылаў разведку невялічкімі групамі, яны прыкрывалі і падтрымлівалі адна адну.

Вярсты за дзве ад лесу праходзіла лінія варожай абароны. Яна замыкала кола, у якое трапіў полк чырвоных камунараў. Пра гэта дазнаўся Салавей ад сваіх разведчыкаў. Абставіны і задачы мяняліся. Трэба было нечакана напасці на белых. Узняць сярод іх паніку, разарваць кола і разам з палком ужо не прабівацца з акружэння, а наступаць, граміць белалатышоў па ўсім фронце.

Занятая белымі веска стаяла за невялічкім узгоркам у зацішнай нізіне. З яе і збіраўся камандзір пачаць прарыў. Наўкол было бела і ціха, сыпаўся лёгкі іскрысты сняжок, прыцярушваючы шапкі і плечы. Батальён стаіўся ў лесе. Раскладваць агні было забаронена. А холад працінаў навылет. К вечару зноў браўся марозік і люта хапаў за ногі ў намоклых за дзень чаравіках.

Ыа змярканні мароз прыціснуў яшчэ мацней. Чаравікі і боты грукалі, як каменныя, і пакрываліся белаю ігліцай інею. Чырвонаармейцы тупалі ўсё жвавей і жвавей, ляпалі па спінах рукамі, хукалі ў дзіравыя рукавіцы. Здавалася, заледзянелыя яловыя лапы, мігатлівыя сняжынкі і нават высокія колкія зоры — усё працінае вострым холадам схуднелыя салдацкія спіны.

У поўнач Салавей з латыіпскай камуністычнай ротай пайшоў на вёску, занятую белымі. Астатнія дзве роты прыкрывалі флангі.

У вокны сонных хат паляцелі гранаты, успыхвалі вінтовачныя залпы, тарахцелі кулямётныя чэргі. Паднялася страшэнная паніка.

Белалатышы вырашылі, што іменна тут прарываецца акружаны полк, зняліся з акопаў, каб затуліць прарэшыну, кінуліся на помач сваім, але іх у полі спыніў шквал кулямётнага агню — білі абедзве роты, пакінутыя Салаўём на флангах.

Да раніцы варожае кола было разарвана больш як на пяць вёрст. Неспадзеўны ўдар з тылу так напалохаў белых, што ім здалося — на прарыў ідзе цэлая дывізія. У бой увязаліся перадавыя часці акружанага палка чырвоных камунараў.

А з варожага акружэння выходзілі абозы, параненыя, тыфозныя і абмаролiаныя чырвонаармейцы. Абмарожаных было шмат. Іх адпраўлялі ў Ідрыцу і ў Себеж.

Адыход прыкрываў батальён Салаўя.

Апошнім з акружэння прабіваўся настылы і гулкі бронецягнік. На крутым пад'ёме з рэек сышла платформа. Байцы інтэрнацыянальнага батальёна скінулі яе пад адхон, паўмошчваліся хто куды і на цягніку вырваліся з варожага кола.

Пасля адліжных дзён і марознай штурмавой ночы з палка выбыла трыста шэсцьдзесят абмарожаных байцоў, многіх зваліў тыфус, параненых развезлі па тылавых шпіталях.

Рэшткі палка чырвоных камунараў зліліея з чатырыста семдзесят шостым палком пяцьдзесят трэцяй дывізіі.

6

Пасля каляд вызверыліся маразы. Аж страляла па завуголлі. Перад заходам сонца неба налівалася чырванню, сняжынкі мільгалі ружовымі, сінімі, зялёнымі агеньчыкамі, а над лесам падымаўся вясёлкавы слуп.

— Гэта боскі знак на няшчасце, на пакуты і на слёзы,— боязна пазіралі кабеты і жагналіся.

Трывожна ў гэтыя дні было і ў рэўкоме. Не слуп на небе палохаў Максіма Ляўкова: пераказала Салаўёва Марылька, што ідзе на іх вялікая сіла, з коннідаю і пушкамі. І з Парыч пераказалі: «Наступаюць з Мазыра легіянеры, сцеражыцеся».

Як тут усцеражэшся ад гармат і кулямётаў? Але і здавацца не выпадала. Белапалякі дачакаліся, калі Пціч укрылася тоўстым лёдам і калі маразы закавалі балоты і азярыны, а на снезе відаць нават

сарочы след. Вось і падцягнулі сілы, каб прыдушыць бальшавіцкую воласць.

Рэўком цяпер быў падобен на баявы штаб. Усім кіраваў Максім Ляўкоў. Атрад Ігната Жынко размясціўся непадалёк ад ГІцічы, узвод Цімоха Валодзькі заняў Карпілаўку і Дуброву, Максім Ус з хлопцамі — Кавалі і Лаўстыкі. Добра, што ў кожным узводзе было па кулямёту, па скрынцы патронаў, а ў кожнага партызана — вінтоўка або карабін і за папружкаю пара гранат.

У атрады прыйшлі старыя і падлеткі, за зброю ўзяліся ўсе камуністы. Параска прывяла ў рэўком чатырох удоў.

— Дай, прысядацель, бабам хоць па якой ламачыне, абы страляла.

У самой за плячыма вісеў новенькі карабін. Кажушок Параска падперазала шырокай папругаю з двума патранташамі.

— Не баламуць жанок, Параска,— сунімаў яе Ляўкоў,— няхай смокчуць сабе кудзелю. Не бабскае ета дзела ваяваць. Табе сядзець дома не выпадае, што праўда, то праўда. Хоць на дзень ускочаць палякх — не здабраваць. Шляхецкую .і панскую зямлю дзяліла? Дзяліла. Камунаю запраўляла? Запраўляла. Значыць, ратуйся. А вы, маладзічкі, ідзіце дадому, малыя ўжо недзе скуголяць.

Параска засталася вартаваць рэўком. На зборні яна грэлася каля цёплай грубкі, часам выходзіла на ганак, чула, як лапоча залубянелы на марозе сцяг, і зноў успамінала Аляксандра. Дзе ён цяпер? Ці жывы хоць? Калі ўжо так няймецца, хай бы дома ваяваў. Цяпер усе ваююць, у любым засценку, у кожным куточку. А яго недзе носіць па свеце. Тут бы хоць на вачах быў... От прысушыў! Іii ўдзень, ні ноччу з галавы не ідзе...

Раніцою слаўся марозны туман. Досвітак быў сіні, і снег здаваўся сінім. Звонка, нібы драчыны крык, рыпелі дарогі і калодзежныя жураўлі. Раптам, як гром сярод яснага неба, цішыню світанку разарваў гулкі гарматны стрэл і пакаціўся над заінелымі лясамі і ціхім аснежаным полем. Нешта гахнула, аж зыбанулася зямля. Такога яшчэ Параска не чула. Яна тройчы стрэліла ўгору, але яе сігналу ўжо ніхто не чуў — ішоў бой на ўзлессі каля Пцічы, сакаталі кулямёты каля Смыковіч і Лесак, па Дуброве біла артылерыя. Пачалося!

Здавалася, грыміць і калоціцца ўся зямля, бліскае сухім зеленаватым бляскам. Параска падцягнула цяжкую драбіну, прыставіла яе да ганка, порсценька ўзбегла па ёй і ўзялася адрываць кіёк, на якім трапятаўся сцяг. Цвікі заржавелі і не паддаваліся. Яна цягнула, тузала кій з боку ў бок. Нарэшце з піскам, нібы плачучы, вылезлі цвікі з ыамёрзлых дошак. Параска зняла з кійка цупкае палотнішча, склала яго ў некалькі рэдзяў, схавала пад кажушок, замкнула дзверы воласці

і берагам Нератоўкі пабегла ў Карпілаўку. Там залёг узвод Цімоха Балодзькі. Нешта ж вельмі зрабілася светла. Параска азірнулася і ледзь не ўпала. Злева і справа калыхаліся і шугалі зыркія вогненныя слупы з чорнымі кутасамі дыму. Гарэлі Дуброва і Кавалі. Стаяў доўгі прарэзлівы гул, яго заглушалі гарматныя выбухі і вінтовачныя стрэлы. А над лесам узыходзіла вялікае чырвонае сонца, у бяздонным небе плылі і раставалі лёгкія хмурынкі, на голлі блішчаў густы іней, ён палахліва асыпаўся ад кожнага вінтовачнага стрэлу. Параска ледзь не выскачыла пад партызанскія кулі.

— Назад! Куды цябе гоніць! — крычаў невялічкі ростам, але галасісты Валодзька.

Параска ўпала, сцягнула з пляча карабін і некуды стрэліла. Яе пругка тнула ў плячо, сэрца білася так моцна, што здавалася, ад яго ўдараў калоцяцца рукі і дрыжыць усё цела. Па шорсткім снезе Параска адпаўзала назад, бліжэй да партызанскага ланцуга. Цяжка было разабраць, дзе страляюць свае, а дзе — легіянеры. Артылерыя біла аднекуль з Завалёнаў і толькі па Дуброве. Відаць, нехта падтыкнуў, дзе стаяць партызаны, таму і садзяць снарад за снарадам.

З ветрака, што стаіць на кавалёўскім полі, стракоча польскі кулямёт. У чыстай марознай сінечы, як свечкі, гараць хаты ў Дуброве, Лаўетыках і Кавалях. Партызаны пасоўваюцца да лесу, але не бягуць, не ўцякаюць, хоць сілы і не роўныя, хоць курчацца і канаюць на снезе прабітыя варожымі кулямі таварышы. Не ўстаў і не паварушыўся Майсей Раговіч, распластаўся на цвёрдым шарпаку Віктар Вотчыц, ткнуўся тварам у невялічкі сумёт Васіль Званковіч.

Можа, з дзееятак легіянераў скасіў Грыша Макавецкі, ускочыў, каб кінуць гранату, і кінуў-такі, але адразу ўхапіўся за жывот, перагнуўся, нібы зламаны ветрам, закруціўся на месцы. Другая куля скасіла яго.

Упершыню на Парасчыных вачах адзін за адным паміралі маладыя хлопцы. Яна іх ведала з маленства. І так проста, у адну хвіліну, няма ні Васіля, ні Віктара, ні Рыгора. Слёзы душылі яе. Параска страляла з адчаем і адпаўзала з узводам на Рудню. Там недалёка і лес.

Чуваць была страляніна ў Старой і Новай Дубровах. Гэта адбіваўся ўзвод Максіма Уса.

— Адыходзіць на Шкаву,— загадаў камандзір.

А па вуліцы ўжо беглі легіянеры. Яны то выскоквалі, то знікалі за хмарамі дыму. Роўна, як свечкі, у цішыні марознага дня дагаралі саламяныя стрэхі, асядалі счарнелыя сцены падпаленых хат, як сухія рэбры, тырчалі чорныя кроквы. Яны скручваліся, хіліліся набок, асядалі і падалі. Ніхто не тушыў пажару, ніхто нічога не выносіў,

нічога не ратаваў. Людзі пазашываліся ў склепы, паўцякалі ў лес, пахаваліся на поплаве ў стажках сена.

Наўкол ішла страляніна. Легіянеры ў вогнішчы пажару кідалі гранаты. Яны рваліся са страшэнным грукатам, раскідваючы ў розныя бакі галавешкі.

Высокі маншы Максім Ус прыціснуўся да сцяны стопкі і без промаху біў з вінтоўкі па жаўнерах. Яго ўзвод прабіваўся ў хвойнік, што рос непадалёк ад вескі Максім, відаць, хацеў, прыкрываючы адыход хлопцаў, падпусціць бліжэй легіянераў, шарахнуць у іх гранатаю, а самому за азяродамі праскочыць у хмызняк, а там і да лесу рукой падаць.

Але Максіма заўважылі пілсудчыкі і пачалі страляць толькі па ім. Кулі дзынкалі і глуха білі ў пачарнелую сцяну стопкі.

— А трасцу! — крычаў Максім і страляў, страляў. Вось нешта штурхнула назад і апякло, гарачыя струменьчыкі пабеглі па руцэ і пад паху. Ён шчыльней прыціснуўся да вугла, прыцэліўся і стрэліў, але раптам страшэнны боль разануў па рабрыне, закруціліся снег і полымя над хатамі, у вачах паплылі белыя, ружовыя, сінія кругі. А Максім шчыльней прыляпіўся да вугла, не выпускаў вінтоўкі, хоць і не бачыў, куды страляе.

Белапалякі пачалі акружаць камандзіра. Ён ужо не адстрэльваўся, але ўсё яшчэ стаяў, прыпёршыся шырокімі плячыма да сцяны. Пад нагамі дымілася лужына крыві. Асцярожна падкрадаліся легіянеры. Ім хацелася схапіць партызана, хоць параненага. Калі яго акружылі і паручнік крыкнуў: «Рэнкі до гуры!» — Максім Ус не паварушыўся. Ён так і стаяў, прыпёршыся плячом да сцяны. Боты прымерзлі, вінтоўка звалілася ў снег.

Легіянеры ўпершыню ўбачылі чалавека, які памёр стоячы.

А атрады кароткімі перабежкамі прабіваліся к лесу. Людзі правальваліся ў глыбокі снег, ад холаду і стомы дранцвелі рукі, ледзьве варушыліся сцягнутыя марозам губы. Але партызаны стралялі і паўзлі, паўзлі і стралялі. Снег паружавеў ад водбліскаў далёкіх і блізкіх пажараў, неба было ў чырвоных падпалінах.

Каля руднянскіх могілак засакатаў кулямёт. Па ім ударылі з вінтовак, і ён захлынуўся. Хлопцы з узвода

Валодзькі з двух бакоў папаўзлі да могілак. Кулямётчык канаў, але яшчэ хроп на снезе. Прыгінаючыся, за кустамі ўцякала трое легіянераў. Партызаны хацелі «касануць» па іх з кулямёта, а ён, як на тое ліха, замёрз. Не кідаць жа яго чорту лысаму. Зачапілі і пацягнулі за сабою.

У лес уваходзілі на змяркaнні. Было відно, як у Карпілаўцы, Дуброве і ў Смыковічах дагараюць хаты і свірны. Ні крыкі, ні гул пажару не даляталі сюды. Толькі шумелі прыцярушаныя снегам хвоі, атрасаючы з галін густую замець. Па лесе перагукваліся партызаны :

— Амяльян, дзе ты?

— Карп, ты жывы?

— Карпілаўскія, сюды!

Камандзіры збіралі сваіх партызан. У кожным узводзе некага не далічваліся. Не верылася, што загінуў Максім Ус, што засталіся ляжаць на снезе маладыя таварышы. А яшчэ раніцою яны смяяліся, частавалі адзін аднаго самасадам, беглі, стралялі, паўзлі па полі.

Стомленыя, галодныя партызаны туліліся спінамі да хвояў і моўчкі адпачывалі. У кожнага дома асталіся свае. Што з імі? Можа, на селішчы дагараюць галавешкі, а бацьку, маці, жонцы і дзецям няма куды прытуліцца...

На пянёк ускочыў Максім Ляўкоў. Па ім быў падраны кажушок, вялікая авечая шапка і старыя падшытыя валёнкі. З-за папружкі тырчалі наган і дзве гранаты. Да старшыні пачалі падыходзіць партызаны.

— Таварышы,— ціха пачаў ён.— Сёння мы страцілі многіх сяброў. Легіянеры паляць нашы хаты, здзекуюцца з блізкіх. Мы не ўстоялі перад гарматамі і кулямётамі, але і не здаліся. Будзем збіраць сілы, каб хутчэй выбіць ворага з нашай воласці. Адпомсцім за таварышаў, вызвалім нашы сем'і ад панскіх здзекаў. У лесе ёсць у нас некалькі буданоў, але ў іх у такую халадэчу не ўседзіш. Можа, вясною яны нам і спатрэбяцца, а цяпер пойдзем у Граб'ё, апамятаемся, падумаем, што будзем рабіць.

— Чаго там думаць? Адна ў нас работа,— выгукнуў маладзенькі высокі Амяльян Падута,— біцца за Савецкую ўласць.

Да Ляўкова працiснулася Параска. Яна з-за пазухі дастала скрутачак у белай хусцінцы і падала Максіму:

— На, старшыня, схавай. Можа, скора спатрэбіцца.

Ляўкоў развязаў хустачку. У яго руках было чырвонае палотнішча рэўкомаўскага сцяга. Ён падняў яго высока над галавой.

Па цёмным лесе, прадзіраючыся праз гушчар, праз замеценыя снегам вывараты, правальваючыся ў сумёты, ішлі партызаны шукаць сабе прыстанку.

У вёсках галасілі жанчыны па забітых сынах і мужах, па братах і каханых. Плакалі замурзаныя і закураныя пагарэльцы, просячыся ў хату да радні або да суседзяў.

А пад вечар пайшлі па дварах «канаркі». Так адразу празвалі палявую жандармерыю з жоўтымі аколышкамі на канфедэратках. Вушы белапалякі закрывалі чорнымі аксамітнымі навушнікамі, у кішэнях насілі маленькія бляшаныя грэлкі з запаленым усярэдзіне вуглем. Ад іх заўсёды пахла прыпаленай воўнаю.

«Канаркі» не ішлі абы-куды, а заварочвалі толькі ў тыя хаты, на якія нехта падтыкаў. Бо адкуль бы ім ведаць, дзе хто жыве, колькі ў каго сыноў і дзе яны.

Наводзіла жандараў засцянковая шляхта. А тыя ўрываліся ў хату, сцягвалі з печы старых дзеда ці бабу, свістаў бізун, чуліся крыкі і енкі.

Вельмі ж ужо лютаваў канапаты, з тлустай мордаю Зігмунд Смальц. Ён не глядзеў ні вока ні бока: так хвастаў шомпалам, што аж пырскала кроў.

Чалавек сорак збітых мужчын і кабет сагналі да валасці. Яны панура чакалі, што ім скажуць, куды пагоняць далей. Наўкол салдаты з карабінамі рыпалі падкаванымі ботамі па ўтаптаным снезе. На ганак выйшаў куртаты камендант з бурачковым тварам. Ён нават не паглядзеў на людзей, што стаялі перад ім.

— Ежэлі вашы галганы не пшыдуць до гміны і не жуцяць зброю, іх ойцы і маткі бэндуць растшэляны.

За спіною каменданта стаяў шыракаплечы, з рудымі вусамі, у пацягнутым фабрычным сукном футры шляхціц з Харомнага — Фэлік Гатальскі. Ён лыпаў жоўтымі вачыма і выскаляў пракураныя конскія зубы:

— Вам зразумела, што кажа пан камендант?

Натоўп маўчаў. Нехта ў самай сярэдзіне сказаў го-
ласна і выразна;

— Зразумела, юда, што па табе вяроўка плача.

— Маўчаць, гады,— узвіўся Гатальскі, прызначаны войтам гміны.

— Як жа мы скажам сынам, каб кідалі зброю, калі нас заарыштавалі? Ты адпусці, дык мы сходзім і скажам,— выткнуўся наперад Андрэй Падута.

— Пашукай дурнейшага за сябе, можа, ён і адпусціць. А тваім бандытам перакажуць і без цябе,— агрызнуўся новы войт.

К вечару заложнікаў адправілі ў Бабруйск і пасадзілі ў крэпасць. Але не сунімаўся Смальц. Ён ездзіў па сёлах, вынюхваў, дзе ёсць бальшавікі і партызаны.

У Гаці Смальц знайшоў жонку Лявона Адзінца Ульяну. Яго ўразіла прыгажосць вясковай маладзіцы. У яе вялікіх чорных вачах бліскалі агеньчыкі нянавісці, а смуглявы твар быў спа койны і горды. Гэта

яшчэ больш злавала панскага ката. Спачатку ён ветліва і мякка дапытваўся, дзе яе камісар.

— Захварэў на тыфус, і адвезлі ў бальніцу,— спакойна адказала Ульяна.

— Ілжэш, сука! — узвіўся Смальц.— Ён учора быў тут! — І з усяе сілы хвастануў бізуном. Тонкі канец, як змяя, абвіўся вакол шыі. Смальц рэзка смыкнуў бізун да сябе — на шыі наліўся крывавы рубец.— Ну! — закрычаў жандар.

Ульяна моўчкі, з глыбокаю нянавісцю, глядзела на яго, а калі зноў узвіўся бізун, з усяе сілы плюнула ў агідны, разапрэлы ад спірту і лютасці твар.

Бізун са свінчаткаю на канцы хвастаў маладзіцу па твары, па руках, па спіне. Ульяніна маці на каленях кінулася да Смальца.

— А паночку, злітуйся! Калі так крыві захацелася, забі лепей мяне, а яе не чапай. Дзіця ў яе будзе.— І ўчапілася сухімі рукамі ў бізун. Жандар носцам жоўтага бота так грымнуў ёй у грудзі, што старая адкацілася пад прыпечак.

Босую Ульяну ён выбалак на двор, зваліў у снег, мясіў нагамі ў жывот і ў грудзі, пакуль няшчасная не залілася крывёю і не страціла прытомнасць.

Смальц выцер аб снег скрываўлены бізун і запырсканыя крывёю рукі, сплюнуў і пайшоў з двара.

На чацвёрты дзень Ульяна апрытомнела, папрасіла піць і ледзь чутна прашаптала разбітымі губамі: «Ратуйце Лявона!» На змярканні яна сканала.

А Лявона ў тыфознай гарачцы вёз ягоны дзядзька Пятро ў Смыковічы. Спадзяваўся там як-небудзь перахаваць, а можа, і пераправіць да сваіх у Гомель. Пятро стараўся ехаць нацянькі, далей ад бітых гасцінцаў. Калі сустракаўся хто ды пытаў, адказваў: «Парадзіху да бабкі вязу» або: «Старая занядужала, еду рады шукаць».

Укрыты посцілкамі з галавою, Лявон ляжаў моўчкі. Часам чуваць было, як яго калоцяць дрыжыкі, як ён скрыгоча зубамі. Дзядзька шчыльней прыкрываў хворага сенам, падтыкаў посцілкі і ехаў далей.

За Карпілаўкаю, на ўзгорку, насустрач выскачылі чатыры ўланы. Следам за імі на ўласным гнядым стаенніку ехаў Фэлька Гатальскі.

— Стой, сконт едзеш, стары? — спытаў улан.

Пятро сцягнуў шапку, пакланіўся.

— Старую вязу да шаптухі, паночак. Баюся, каб на возе не кончылася.

Наперад праціснуўся Фэлька.

— А ты пакажы сваю старую,— загадаў ён.

— Калі ж вельмі калоціць яе. Злітуйся, паночак, не чапай,— заенчыў Пятро.

Фэлька пад'ехаў да саней, перагнуўся ў сядле і дзяржаннем бізуна адгарнуў посцілкі.

— А пся крэў...— І ён з усяе сілы агрэў старога бізуном па спіне.— Панове, то есть камісаж, большэвік,— аж заекатаў Гатальскі.

Фурманку з хворым Лявонам Адзінцом завярнулі назад. З гадзіну трымалі на марозе каля гміны. Потым два конныя канваіры пагналі на Глускі шлях.

Мароз аж лускаўся: трашчала ў лесе сучча, дарога рыпела, як нямазаныя калёсы. Заінелы конік выдыхаў слупы густое пары і трусіў не вельмі спорнай хадою. Канвойных на сёдлах, відаць такі, добра даймаў холад. Яны бізунамі падганялі каня, але ў таго спрыту хапала толькі на некалькі сажняў, і ён зноў абыякава валюхаўся з боку на бок.

Асабліва прыпякаў мароз у полі. У старога Петрака заледзянелі вусы і барада, рукі, як граблі, ледзьве трымалі лейцы. Ён прыслухоўваўся, ці дыхае Лявон, і ў думках ужо развітваўся з ім — калі не застрэляць адразу, дык заморацць холадам і голадам.

У такую сцюжу і ў здаровага душа вылазіць, а гэты ледзьве хаўкае.

У Глуск прыехалі ноччу. Тыфознага пабаяліся пуекаць у гміну і ў пастарунак, што быў пры воласці. Зноў доўга трымалі на двары, а потым выйшаў высокі, як хлудзіна, паліцыянт, пасвяціў электрычным ліхтарыкам, адчыніў дзверы доўгае пустое стайні і загадаў «камісара» пакласці туды.

— Як, жывога чалавека, у такі мароз? — абурыўся Пятрок.

— Мільч, мільч, пся маць,— закрычаў паліцыянт.

Стары выграб з палукашка сена, кінуў яго ў кут, трасучыся ад плачу, памог пляменніку дайсці да гэтага смяротнага лагла, прыкрыў пасцілкаю, перахрысціў, як нябожчыка, і, захлынаючыся слязьмі, ціха сказаў:

— Прашчай, Лявонка.

Зарыпелі вялікія дзверы, бразнуў і заскрыгатаў замок. Пятрок ускочыў у пустыя сані, хвастануў лейцамі заінелага коніка.

Назаўтра, як добра ўвіднела, начальнік жандармерыі загадаў вывезці і закапаць акалелага бальшавіка, каб часам не распаўзлася зараза.

Праз некалькі хвілін прыйшоў той самы доўгі паліцыянт і далажыў:

— Ен жывы. Просіць піць.

— Жывы? — здзівіўся начальнік.— Пачакаем да вечара.

І вечарам Лявон быў жывы. Быў жывы і назаўтра і на трэці дзень. Толькі распухлі і пачарнелі на руках пальцы, а нагамі ён ужо не мог паварушыць.

У жандармерыі толькі і гаварылі пра жывучага рудабельскага камісара, хадзілі паглядзець на яго. Лявон ціха стагнаў і трызніў у гарачцы, клікаў Ульяну, прасіў дзядзьку Петрака, каб паганяў хутчэй. Калі рыпалі дзверы, ён замаўкаў і толькі ціха-ціха прасіў піць.

На трэці дзень у стайню зайшоў сам начальнік. Ён загадаў падняць посцілку. Паліцыянт кійком ссунуў яе з Лявона. Счарнелыя тоўстыя пальцы набрынялі, як налівачы. Але камісар быў жывы. Гэта здзівіла начальніка. Трое сутак на такім марозе не вытрываў бы і здаровы чалавек, а гэты ўстаць не можа, а жыве. І начальнік загадаў зараз жа адвезці арыштаваиага ў Бабруйск і здаць у бальніцу: «Проста для цікавасці, для вопыту. Што за конскае здароўе!»

Паліцыянты тут жа, каля воласці, падхапілі фурманку, падагналі яе да стайні, узвалілі Лявона на сані і павезлі. Абмарожаныя рукі і ногі торгалі, пяклі, балелі, як свежыя раны, нарывалі, як скулле. Лявон кусаў губы і маўчаў, чакаючы пагібелі,— адзінага збавення ад нечалавечых пакут. На марозе жар меншаў, і ён думаў пра Ульяну, дзе яна, што робіць? Хоць бы яе не зачапілі. Успамінаў таварышаў: як там кончыўся бой, хто адалеў, а хто загінуў? Чуў толькі, як білі гарматы, у сёлах гулі пажары, ведаў, што партызаны адступілі ў лес. А што далей?

«А далей,— думаў Лявон,— зайдуся на гэтай сцюжы ад тыфусу, голаду і холаду, вывернуць з саней у канаву ваўкам, от і ўсё». На змену адчаю прыходзіла надзея: «Не, не можа быць, каб усё. Трэба датрываць хоць да Бабруйска. Можа, з бальніцы ўдасца наказаць таварышам. Там жа, пэўна, нехта астаўся ў падполлі. Толькі б датрываць...»

І Лявон збіраў апошнія сілы, раўней дыхаў, прыслухоўваўся, як тахкае сэрца, як доўга і нудна звініць у вушах. Ён то правальваўся ў дрыготкую цемру, нібы на дно бяздоннай ракі, то зноў выплываў, чуў, як рыпяць палазы і хрупаюць па настылым снезе падковы.

Да Бабруйска ён усё ж датрываў. У бальніцу прыехалі ноччу. Памкнуўся ўстаць, але так і зваліўся назад — ногі былі, бы чурбаны.

Санітары ўнеслі Лявона ў калідор, хацелі сцягнуць чобаты, але яны папрымярзалі да ступакоў. Рукі ў цяпле зайшліся да крыку, нібы тысячы іголак пазаганялі пад пазногці. Канваіры паклікалі доктара, нешта яму гаварылі, пісалі нейкую паперу і, упусціўшы клубы холаду, шумна выйшлі з бальніцы.

Як толькі зачыніліся дзверы, невялічкі рухавы доктар імкліва падышоў да хворага. Над Лявонам нахіліўся малады твар з рэдзенькай бародкаю, праз тоўстыя шкельцы акуляраў здзіўлена глядзелі вялікія цёмныя вочы.

— Адкуль? Прозвішча? Імя? Па бацьку?,

Лявон ледзь чутна адказваў.

— Значыць, з Рудабелкі? — перапытаў Марзон.— Та-ак. Ясна. Прыйдзецца ратаваць, Лявон Яўхімавіч,— суцяшаў доктар.

Марзона ведалі не толькі ў Бабруйску. Маладому хірургу верылі, на яго спадзяваліся ў кожнай воласці, у кожнай вёсцы навета. «Калі доктар Марзон не дасць рады, дык і божа не паможа,— гаварылі ў далёкіх і блізкіх сёлах.— Вельмі ж свойскі чалавек. Бідаць, не гханскага заводу».

Уладзімір Восіпавіч уею ноч не адыходзіў ад Адзінца. Хвораму ставілі банкі, абкладалі грэлкамі, паілі гарачым малаком, расціралі цела і рабілі ўколы. Счарнелыя рукі балелі да крыку, нага гарэла агнём і торкала тысячам! іголак. Доктар круціў галавою і злосна бурчаў нейкія незразумелыя словы:

— Вандалы, гуны, узурпатары! Што яны зрабілі з чалавекам! А быў жа Геркулес.— Потым звярнуўся да Лявона: — Мне загадана вылечыць вас. Вылечыць і аддаць жандармерыі. Апляці гаршчок і аддай дурню разбіць.

Ад гарачкі і страшэннага болю Лявон не ўсё чуў і не ўсё разумеў, што гаварыў доктар. Але ўжо верыў у яго дабрату і справядлівую сілу.

— Толькі прыйдзецца аперыраваць, можа, нават адняць нагу. Вы згодны?

— Хоць зарэжце, абы не мучыцца,— працадзіў Лявон.

На другі дзень панеслі Адзінца на аперацыю. Нага і пальцы былі сінія, як пераспелыя слівы.

— Ампуціраваць.

Доктар і яго памочнікі дзівіліся трываласці і цярплівасці гэтага чалавека. Каб не пачалася гангрэна, прыйшлося адняць левую нагу трохі ніжэй калена, ампуціраваць пальцы на другой назе і на абедзвюх руках.

— На сяле гэта ўжо не работнік, але жыць будзе,— спачуваў і разам з тым радаваўся Марзон.

Калі Адзінец трохі ачуняў, да яго на ложак падсеў доктар:

— Ну, як сабе адчуваем?

— Палегчала трохі,— адказаў Лявон.

— Ды і вы палегчалі, прыйшлося трохі падкараціць вас. Што скакаць будзеце, не абяцаю, а з кійкамі цяпер многія ходзяць. Вы маладзец, Лявон Яўхімавіч: такое не кожнае жалеза вытрымае.

— А рудабельскі бальшавік выцерпеў. Цяпер таіцца няма чаго — падтыкнуў паскудны шэршань. Так што вы, доктар, каля мяне не вельмі завіхайцеся. Усё адно крышка.

— Не плявузгайце глупства, таварыш Адзінец,— узлаваўся Марзон і выбег з палаты.

Адно слова «таварыш», а як яно ўзрадавала Лявона, як захацелася верыць у паратунак, спадзявацца на гэтага невялічкага жвавага доктара.

Адзінец тады яшчэ не ведаў, што ў 1917 годзе доктар Марзон працаваў у Земскім Саюзе разам з Міхаілам Васільевічам Фрунзе. Потым пераехаў у Бабруйск, стаў старшынёй дэмакратычнай земскай управы, увесь час дапамагаў падпольшчыкам і партызанам. Не ведаў, што не так даўно белапалякі арыштоўвалі Уладзіміра Восіпавіча, але на абарону доктара падняўся ўвесь горад.

Цяпер адно слова «таварыш» было падобна на пароль, па якім свае пазналі сваіх, верылася, што доктар Марзон не аддасць яго на здзек і пагібель.

Лявон ляжаў адзін у маленечкай палаце, бо адначасова быў тыфозным і хірургічным хворым. Ён нудзіўся ў адзіноце, хацелася пагаварыць, можа, даведаўся б што-кольвек пра сваіх, а тут ён бачыў санітарку, сястру, якая ўмела так далікатна здымаць бінты, ды часам забягаў доктар і радаваўся, што хворы ідзе на папраўку, што добра зарубцоўваюцца швы, што трымаецца амаль нармальная тэмпература.

— А калі зойдзе хто староннi, ляжыце з заплюшчанымі вачыма і не варушыцеся,— папярэджваў Марзон.

Разы са два прыходзіў у бальніцу паручнік з палявой жандармерыі, цікавіўся, ці не ўцёк іх падвопытны бальшавік. Доктар казаў яму, што становішча хворага безнадзейнае, што ў дадатак да тыфусу і абмаражэння ў яго цяжкая пнеўманія. Ён прыводзіў паручніка ў палату, паднімаў коўдру, паказваў забінтаваныя куксы і абыякава махаў рукой. Аднаго вечара доктар зайшоў у палату, прычыніў дзверы і ціха сказаў:

— Платон Фёдаравіч кланяўся вам.

Адзінец памкнуўся ўстаць.

— Ц-с-с! — прыклаў палец да вусікаў Марзон.— Нічога не пытайцеся. Лепш слухайце. Сёння ноччу мы развітаемся. Што б з вамі

ні рабілі, маўчыце. Памятайце, вы — труп, і трымайцеся, як труп. А далей будзе ўсё добра.

Калі наступіла ноч, на двор ціха ўехала фурманка і спынілася каля морга. У палату зайшлі два санітары з насілкамі. Лявону зрабілася крыху страшна, што яго ў адной бялізне панясуць на холад, што наперадзе нейкая невядомасць. Суцяшала толькі адно імя — Платон Фёдаравіч.

Санітары ў ложку нацягнулі на яго штаны і фуфайку, асцярожна паклалі на насілкі, зверху прыкрылі прасціпою і панеслі па вузкіх бальнічных калідорах. З суседніх палат выглянула некалькі хворых, якіх не браў сон.

— Што, абмарожаны богу душу аддаў? — спытаў чарнявы насаты дзед.

— Адмучыўся! — адказалі санітары.

— Царства яму нябеснае,— перахрысцілася жанчына, захутаная ў коўдру. Ад тупату і рыпення дзвярэй папрачыналіся многія хворыя, праз прапалінкі ў шыбінах яны бачылі, як адчынялі дзверы «трупярні», уносілі насілкі, як выходзілі адтуль санітары.

Толькі ніхто не бачыў, як з другіх дзвярэй морга Платон Равінскі і Шолам Агал вынеслі Лявона Адзінца, паклалі яго на сані, закруцілі коўдрамі, прыкрылі кажухом і па цёмных закавулках і пустырах павезлі за пераезд на кватэру старога чыгуначніка Уладзіміра Стрэле.

А раніцой уся бальніца ведала, што ноччу памёр абмарожаны камісар.

У моргу ляжаў труп пакалечанага цягніком чалавека з забінтаванымі куксамі, якраз як у Адзінца.

7

Партызан набілася ў кожную хату пад самую столь. Сушыліся світкі, анучы і рукавіцы. У кутах цьмяна паблісквалі запацелыя стрэльбы. Спалі покатам на палках, на печы, на падлозе, трызнілі і кідаліся, камандавалі і ўсхліпвалі спрасонку.

Днём і ноччу за вёскаю хадзіла варта, а наўкол шумела заінелая цёмная пушча. На дубах, як бляшанае, шапацела леташняе лісце, вецер гнаў слупы снежнага пылу, па самыя стрэхі замятаючы замшэлыя пахілыя хаткі.

У Граб'і жыла адна галеча, а ў беднаты заўсёды прасторна і хапае месца падарожнікам і начлежнікам. От пакуль што і прытуліліся тут абодва рудабельскія атрады. Граб'ёўскія гаспадыні саджалі партызан за стол, ставілі чыгун бульбы, місу квашанай капусты або тоўчанае льняное семя.

Неяк надвячоркам у хату, дзе жылі камандзіры атрадаў, прыйшоў Раман Салавей. Мабыць, не было такой шчыліны, куды не пратачыўся б гэты стары. А тут усё пад бокам, і сцежка кожная з маленства знаёма. Схадзіць з Харомнага ў Граб'ё — тое самае, што з хаты ў сзіронак. Не распранаючыся, сеў на лаву, паглядзеў на Максіма Ляўкова.

— Селішча тваё, Максіме, куродымам найшло. Вернется, падзякуй Фэльку Гатальскаму. Ён на ўсіх падтыкае. Старыя твае прыляпіліся да футара Якава Гошкі. Дык не бядуй, перакідаюцца да вясны. Горай, што багата людзей пазабіралі ў заложнікі і пагналі ў Бабруйскую крэпасць. Ульян Жынко і Рыгор Кавалевіч не змаглі ісці, іх тут яса зразу і рашылі. А ўсіх астатніх, як бараноў, навязалі і шампаламі пагналі. Пераймалі і Лявона Адзінца. Ён і так ледзь дыхаў, дык у Глуску, казалі, кінулі ў стайню, каб зайшоўся ад холаду.

Кожны распытваў у Рамана пра сваіх, і ён аднаго суцяшаў, другому казаў горкую праўду.

— От седзіцё тут і не чуеце, як на вас расстаўляюць пастку. Акружыць хочуць і парашыць усіх да аднаго. Дык не зявайце. Пільнуўце Смыковіцкую дарогу.

— Добра, дзядзька Раман, не празяваем. А вам, можа, спакайней было б астацца з намі? І Марылю сюды б забралі. Бо шляхта ўсё роўна збыту не дасць.

— Вы ж, можа, доўга тут адседжвацца не будзеце, прыйдзеце нас ратаваць? Толькі збірайце болей сілы. А так не ўстоіце. Іх там, ведаеце, колькі?

— Ну? — спытаў Ляўкоў.

— Як мух на падле.

Раман закінуў за плечы берасцяную вярэньку, нацягнуў аблезлую аблавушку і пайшоў.

Партызаны занялі ўсе дарогі, паставілі за вёскаю трафейныя кулямёты і чакалі ночы. Мароз працінаў навылет. Вакол месяца разбегся вялікі белы круг, высыпалі буйныя зоры, з хвояў звісалі доўгія блакітныя бароды. Было чуваць, як зрываліся з галін і падалі камякі снегу, як ад марозу палусквала суччa.

Узвод Цімоха. Валодзькі прытаіўся за аенежанымі кустамі. Хлопцы ўглядаліся ў зіхатлівую лясную дарогу, нерарэзаную чорнымі ценямі елак, прыслухоўваліся да кожнага шолаху настылай да звону ночы.

Недзе далека, нібы ў пальцах крухмал, зарыпела дарога. Гукі набліжаліся і рабіліся выразныя.

На паваротку паказаўся конь, запрэжаны ў настрамачак саломы. На возе сядзела тры чалавекі, чацвёрты ішоў з лейцамі ў руках. Калі

фурманка параўнялася з партызанскаю засадай, хлопцы неспадзеўкі выскачылі з-за кустоў. Трое адразу шуснулі з воза і кінуліся ў лес. Нехта бразнуў затворам.

— Не страляць — прахрыпеў узводны.— Даганяйце і бярыце, як хочаце, толькі не страляць!

Чалавек шэсць кінулася за ўцекачамі. Толькі трашчала сучча ды сыпаўся з галін снег. Да фурмана падскочыў былы матрос Зянон Раговіч:

— Што вязеш?

Нягеглы шляхцюк увесь калаціўся, аж трэслася рэдзенькая казлінная бародка.

— А братацка, не ведаю. Самі яны накладалі. Пад саломаю, здэцца, нестацка ёсць. Я ж не вінаваты, жывасілам у падводы пагналі...

— Нябось, мужыка на такое дзела не ўзялі, шэршань гугнявы,— лаяўся Цімох Валодзька, перакульваючы сані з саломаю.

На снег пападалі скручаныя, як вужакі, кулямётныя стужкі і два тупарылыя кулямёты. Хлопцы іх адразу адцягнулі і паставілі за кусты абапал дарогі. Згрэблі ў бакі салому, каб і знаку не было.

— Ты от што, пакуль цэл, садзіся і, не азіраючыся, паганяй у Граб'ё. Спытаюць нашы, скажы ўсё, як было.

Шляхціц ускочыў на сані, сцебануў лейцамі заінелага коніка і памчаўся па дарозе, аж снег закурэў.

У лесе грымнуў стрэл, потым другі. Відаць, адстрэльваліся легіянеры, што пасаскоквалі з воза. Глухім рэхам азваліся далёкія стрэлы ў розных канцах пушчы.

— Ну, пачынаецца. Чуеш, бяруць у клешчы! — сказаў Цімох Валодзька Раговічу.

— Трасца іх возьме! — ускіпеў матрос. На ім з-пад кажушка стракацела паласатая цяльняшка, а чорныя флоцкія штаны пухірамі звісалі над кароткімі халяўкамі старых падшытых валёнак.

На кані прыскакаў малады, тоненькі, як дубчык, Амяльян Падута і перадаў загад Ляўкова: «У бой не ўвязвацца. Атрадам адыходзіць на Парычы. Пакінуць заслоны па шэсць чалавек. Прыкрываць адыход кулямётным агнём!»

Разам з добраахвотнікамі ахоўваць дарогу астаўся былы матрос.

Бой завязаўся толькі пасля поўначы, калі асноўныя сілы партызан даволі далёка адышлі па лясных сцежках.

Як толькі на паваротак выткнуліся жаўнеры, Раговіч секаниў па іх густою чаргой, паводзячы з боку на бок кароткай рулькаю кулямёта. Месяц зацягнуўся аблокамі, цені расплыліся, таму і тыя і другія стралялі ў белы свет, як у капейку. Партызанскі заслон не вельмі

спяшаўся адыходзіць, а белапалякі не надта насядалі: ваяваць з дзядамі ды з кабетамі было прасцей і бяспечней, чым адкрыта лезці пад партызанскія кулі.

Кулямёты сакаталі злева і справа ад Раговіча. Значыць, сапраўды легіянеры хацелі неспадзеўкі акружыць вёску. Каб не папярэдзіў стары Салавей, так бы і накрылі абодва атрады. А цяпер не дагоняць, ды яны і не вельмі рвуцца даганяць.

Партызанскія заслоны памалу адыходзілі ў лес. Страляніна сціхала, пакуль не змоўкла зусім.

Рудабельскія партызаны лясамі адыходзілі на Парычы, а там, за Бярэзінаю, ужо стаяла Чырвоная Армія. На яе помач і спадзяваліся рудабельцы: патроны канчаліся, вінтовак на ўсіх не хапала, мала было і людзей. А белапалякі толькі ў Рудабелку прыгналі паўтары тысячы салдат, прыкацілі гарматы і штук трыццаць кулямётаў. От і паспрабуй іх адолець. Хоць з восені ў лесе і паставілі буданы з плашак, але ў такую халадэчу ў іх не ўседзіш. Параіліся камандзіры паміж сабою і вырашылі на зіму прабівацца за Бярэзіну.

Ідучы, па самыя пахі грузлі ў снезе, мароз абпальваў насы і шчокі, яны чарнелі і аблузваліся, распухалі ад холаду пальцы, заядалі вошы, голад падцягваў жываты і круціў перад вачамі зорную мітульгу. А партызаны ішлі і ішлі лясамі, спадзеючыся акрыяць, набрацца сіл, узброіцца і, як толькі сыдзе снег, ударыць па легіянерах і назаўсёды ачысціць сваю воласць.

Максім Ляўкоў прыпыніўся, пачакаў фурманку, на якой ехала Параска. Яна па самыя вочы захуталася саматканаю хусткай, пасівелай ад інею.

— Ты часам, Параска, не ведаеш, куды дзеўся наш рэўкомаўскі сцяг? — запытаў Максім.

— Чаму не ведаць? Тут ён.— І яна правяла кажушнаю рукавіцай па высокіх грудзях. Ляўкоў усміхнуўся.

— А я падумаў, што ты на нішчымніцы так раздалася. Ну, маладзец. Беражы, хутка спатрэбіцца.

За Бярэзінаю абодва атрады ўліліся ў восьмую дывізію шаснаццатай арміі.

Партызаны адпарыліся ў вясковых лазнях, аблаталіся, падабуліся ў вайсковых капцёрках, да шапак папрышпільвалі чырвоныя зорачкі, адзеліся ў гімнасцёркі, таму-сяму выдалі шынялі і ўсіх залічылі на вайсковы паёк. Разам з чырвонаармейцамі рудабельцы трымалі абарону, хадзілі ў разведку, часам наляталі на суседнія гміны і пастарункі. Параска, прыкідваючыся то бежанкаю, то варажбіткаю, дабіралася аж да рудабельскіх хутароў. Аднойчы і да Бабруйска дапяла.

Вярнулася, а землякоў абрадаваць не было чым: усіх рудабельскіх заложнікаў «канаркі» расстралялі ў крэпасці.

Слёзы змешваліся з пякельным гневам, з прагаю хутчэй адпомсціць за смерць і пакуты, вызваліць родзічаў і блізкіх ад шомпала і бізуна.

Партызаны чакалі вясны.

А ў воласці разгулялася шляхта. Людзі глядзелі і казалі: «Ускруцілася гайня, як перад пагібеллю». У мясаед у кожным засценку гулялі такія вяселлі, што аж дым курэў. Па тры дні пілі і елі, «да памрацэння гловы» скакалі мазуркі і падэкатры. На масленіцу з гіканнем і свістам у лёгкіх саначках у абдымку з пазнанцамі і прыгожымі ўланамі каталіся расчырванелыя шляхцянкі. Яны знарок прыязджалі ў Карпілаўку пафарсіць перад «мужыччом». Хоць і не ўмелі, але стараліся гаварыць «по-польскему». Шулякі ўжо называлі сябе Шулякоўскімі, Шпакі — Шпакоўскімі. Шапялявыя шляхцючаняты ўжо старанна расказвалі вершык:

— Кто ты естэсь?
— Поляк малы.
— Які знак твуй?
— Ожэл бялы.

Няхай бы гулялі сабе ў «паньства», хай бы цешыліся. Але павыпаўзалі колішнія бандзюкі з банды Казіка Ермаліцкага і Плышэўскага, наняліся ў паліцыянты, гарцалі па сёлах услед за Смальцам, паласавалі бізунамі і шампаламі блізкую і далёкую партызанскую радню, выграбалі з хат усё да каліва. Вынюхвалі, вышуквалі, чыю б яшчэ душу прадаць пану каменданту.

З хаты Рамана Салаўя шляхцюкі не спускалі вачэй: ведалі, што стары ходзіць да партызан, можа, і за фронт цягаецца. На дзень, другі прыйдзе дамоў, аташчалы, увесь пакамечаны, крутнецца і зноў знікае на некалькі тыдняў. Даўно некуды сышла і ягоная Марылька. У хаце ўпраўляецца адна Ганна. Дзень і ноч таўчэцца і маўчыць: не пажаліцца нікому, ні з кім не загаворыць — адна і адна.

Колькі разоў прыходзіў да яе паліцыянт Сымон Гавароўскі, то просьбаю, то грозьбаю дапытваўся, куды дзеўся стары. А Ганна ўсміхнецца толькі:

— Маладзейшую паляцеў шукаць.

Паліцыянт лясне бізуном па халяве ды як гаркне:

— Не высканяйся мне! Кажы праўду!

— Далібог, Сымонка, пасварыліся. І каб было за што? Эт, так, за пусты мех, а ў мяху смех. Дык усердзіўся і ўпрочкі стары дурань падаўся.

— Куды падаўся? — дапытваўся Гавароўскі.

— Хіба ж гавораць, калі ўпрочкі ідуць? Свет вялік, сцягнуўся некуды.

— А дачка дзе?

— Была ў сабакі хата, а ў мяне дачка... Вырасла, разумная стала, мачаха ёй ніяк не ўгодзіць. Мабыць, да цётак пайшла ці, можа, служыць у двары.

Як ні старалася Ганна, а Гавароўскі слаба верыў ёй: усё вынюхваў, шныпарыў, лазіў, цікаваў. Гэта ён увёў у вушы жандарам, што Салавей набраўся панскага дабра і цяпер на ім раскашуецца ягоная жонка, а сам у «бандыты» падаўся. Наляцела жандармерыя ў Раманаву ўбогую хату, пачалі. ўсё варочаць дагары нагамі, выкідаць з куфэрка андаракі, кофты і кабацікі, кужэльныя бабскія кашулі. Жандар стаяў у дзвярах, а Сымон так усё трос, што аж пара з яго валіла. Ганна, склаўшы рукі, сядзела каля акна і не варушылася. Ёй здалося, што нешта мільганула ў двары. Глянула і ледзь не ссунулася з лавы, на нейкую хвіліну адняло мову, пацямнела ў вачах: яна ўбачыла Марыльку. Увойдзе ў хату — і прапала. Няўжо не здагадаецца? Пад паветкаю ж стаяць жандарскія коні. «Дай, божа, ёй розум»,— прашаптала Ганна.

— Што, клянеш, старая ведзьма? — пачуў шэпт Гавароўскі.

— Не, дзякую, што хоць транты ператрасеш, а то мне ўсё не было часу,— спакойна адказала Ганна, а сэрца ў яе калацілася як асінавы ліст. Яна прыслухоўвалася, ці не ляпне клямка, ці не адчыняцца дзверы. Адчыняцца, значыць,— пагібель...

А Сымон пааддзіраў дошкі на палку, перакуліў рэшата з пер'ем, узлаваўся і садануў у яго носцам. Пух разляцеўся па хаце, абляпіў яго суконную паддзёўку, папрыставаў да шыняля жандара. Той дзьмухаў і адмахваўся ад пуху, нібы ад летняй заедзі.

Сымон мацюкнуўся і выйшаў у сенцы. Следам павалокся і жандар. «Ну, цяпер канцы?» — падумала Ганна. Але ў сенцах і на падворку было ціха. Дзверы з хаты паліцыянты накінулі адчыненымі. Ганна перагрэблася праз парог, як побач ударыў стрэл. Старая так і асунулася, а па вушах разануў свінячы піск. Потым зноў стрэлілі, і ўсё сціхла. Ганна схапілася за вушак, устала і ледзьве выпаўзла з сянец. Сымон з хлява выцягваў скрываўленага падсвінанчка і валок на сані. З гумна вынес тры мяхі жыта і ўскінуў на воз.

Ганна, склаўшы рукі, прыперлася да сцяны. Ёй нічога не было шкода, бо з дня на дзень чакала рабаўнікоў і змірылася з думкаю пра самае горшае. Адно яе непакоіла: «Дзе ж Марылька?»

Калі выязджалі з двара, Сымон памахаў пісталетам і прыгразіў:

— Усё адно знойдзем, пся крэў!

Ганна зачыніла пусты хлеў, замкнула гумно, хадзіла і ўсё азіралася, а праходзіла каля паветкі, аж чуе, нехта шэпча:

— Мама, не бойцеся, гэта я.

— А божачка, божачка, злітаваўся-такі. Дзе ж ты, дачушка?

— Ідзіце, я зараз,— пачулася з-пад карчоў, складзеных пад паветкаю.

Хутка Марылька ўскочыла ў хату. Жанчыны моцна абняліся і заплакалі.

— Гэта ж я прыйшла папярэдзіць тату, каб сышоў з дому, аж наскочыла на ірадаў. Бачу, уцякаць няма куды, дык я пад карчы зашылася.

— Што ж цяпер рабіцьмем, дачушка?

— Сыдзем, пакуль не позна. Усё адно жыць не дадуць. А прыйдуць нашы, тады вернемся. Вы ідзіце ў Залессе да радні, а ў мяне свая дарога.

Увечары жанчыны забілі аполкамі дзверы і разышліся куды каторая.

Ранняй вясною, калі падсохлі груды, распушыліся вербы і заціцькалі сініцы ў набраклых гаях, Раман Салавей з партызанскіх хутароў, дзе ён туляўся ўсю зіму, выправіўся адведаць Ганну. Ішоў ён узлессем каля самага Харомнага, і захацелася зірнуць на сваё селішча, пабачыць, што асталося ад яго гаспадаркі, ці хоць цэлая хата. Якраз была страсная субота, кожны збіраўся святкаваць, пяклі паскі, фарбавалі яйкі, а многія, мабыць, з велікоднымі каробкамі паехалі ўжо ў царкву да ўсяночнай. Каму ён цяпер у галаве? Пройдзе загуменнем, зірне, і дай бог ногі.

А выйшла, што ў «ката няма свята». Толькі перакінуў Раман нагу цераз пералаз, аж перад ім, нібы з-пад зямлі,— Сымон Гавароўскі.

— Ні з месца, бальшавіцкая морда,— прахрыпеў ён, выцягваючы з кабуры рэвальвер.

— А-а-а, Сымон,— спакойна адказаў Салавей.— Я ж думаў, цябе гаспадары хоць у свята з ланцуга спускаюць, аж, выходзіць, ты маю хату і ў вялікдзень пільнуеш.

— Цябе, гада, ад самае зімы пільную.

— Чаго мяне пільнаваць? Я не золата, ніхто не ўкрадзе. Ты б лепш сваю шкуру пільнаваў. Ой, па ёй даўно асіна плача.

— Мільч, пся крэў! — гаркнуў Сымон і сунуў старому паміж лапатак руляю рэвальвера.— Марш у жандармерыю, там пагаворыш.

— Ты б, можа, хоць папалуднаваў, а то да Хвойні блізкі свет, аташчаеш, бронь божа,— спакойна пакеплівае Раман з тлустага

крываротага паліцыянта. А Сымон аж падскокваў ад злосці, штурхаў старога ў каршэнь і гыркаў. Ён не павёў яго вуліцаю, а загадаў ісці загуменнямі да дарогі на Хвойню. Там была жандармерыя і стаяў гарнізон, а ў Рудабелцы белапалякі чамусьці не захацелі ці не адважыліся асталёўвацца.

Да Хвойні ўся дарога — лесам. Мокрая, слізкая, з каламутнымі лужынамі, замшэлымі вываратамі, ядлоўцавымі зараснікамі абапал. Усё жывое набракала сокам, выпроствалася, зелянела, збіралася забуяць шчодрым красаваннем. Пераляталі з галінкі на, галінку вёрткія дразды, лушчыў хвою спрытны дзяцел.

Раман глядзеў, слухаў, прынюхваўся да пахаў клейкіх пупышак, веснавое вады і смаловага духу. «Няўжо болей не пабачу, не пачую, не прайду па гэтай дарозе? Самога пацягнула ў пастку. І трэба ж было! Столькі гадоў таланіла, з якіх толькі закрутак не выкоўзваўся, а тут на табе, дома, каля сваёй хаты, ускочыў у сіло. Гэты юда не паспагадае, не адумаецца, а я ж яго на сваю галаву некалі з пелькі выцягнуў. Выходзіць, папіхнуць трэба было. Каб жа тое ведаў. Маленькі быў. Хто б думаў, што з гэтага губатага смаркача такі жывадзёр вырасце».

— І доўга ты мяне праводзіць будзеш? Га, Сымоне?

— Ідзі, ідзі,—агрызнууўся паліцыянт.

— Вярнуўся б сабе дадому, заўтра ж вялікдзень, разгавеўся б, як людзі, і я, можа б, свянцовага яечка з'еў. А пасля свята і забраў бы, калі табе, хрэснічак, так няймецца.

— Мільч, стары галган,— агрызнууўся Сымон.—

Бач ты яго, у радню набіваецца.— І ён перадражніў:— «Хрэснічак»!

— А то не? Забыўся хіба, як з пелькі цябе высмыкнуў? От і дасюль зямлю з маёй ласкі гнюсіш. Каб ведаў, што з цябе выйдзе, кіем папіхнуў бы і патрымаць не паленаваўся.

Сымон узбеляніўся, нібы яго шылам парнулі.

— Ах ты, бальшавіцкая морда! — завішчаў ён і так стукнуў Раману ў спіну, што той ледзь не паляцеў потырч, але ўхапіўся за маладзенькую рабінку, утрымаўся, крутнуўся назад і рынуўся на Сымона. Хацеў выбіць у таго рэвальвер. Але, мабыць, ужо не было ў Рамана ранейшага спрыту. Гавароўскі трохі адбегся, затупаў на месцы, ускінуў рэвальвер. Стары адскочыў убок і толькі паспеў крыкнуць «пачакай!», як Сымон націснуў курок. Пырхнулі з галінак дразды, узвіўся і прарэзліва закігікаў сіваграк. Па лесе пакацілася глухое рэха.

Раман спатыкнуўся каля абымшэлай трухлявай калоды і павольна асеў на зямлю. Гавароўскі стаяў з паднятым рэвальверам. Яму здалося, што стары хітруе.

— Паднімайся, чуеш? — Сымон асцярожна пачаў падкрадацца да калоды, каля якое ніцма ляжаў Салавей. Спыніўся за два крокі. Зрэзаная пісягамі маршчын шыя збялела, як папера; пажоўкла і звяла адкінутая назад рука. На кволай траўцы Сымон убачыў кроў.

Ён расшпіліў фрэнч, павярнуўся і ледзь не бягом падаўся назад. Адышоўшыся, яшчэ раз азірнуўся.

Якраз у гэтую ноч, калі ў кожнай царкве правілі ўсяночную, рудабельекія партызаны перапраўляліся праз Бярэзіну ў родныя лясы. Толькі што сышоў лёд. Гула вялікая імклівая вада, ад ракі цягнула холадам, а цемра была, што хоць вока выпары. Такая ноч якраз і трэба была партызанам.

А белапалякі радаваліся, што з каляд не чутно на Рудабельшчыне партызанаў: часці адвялі пад Бабруйск, а тут пакінулі толькі гміну, некалькі паліцэйскіх пастарункаў і палявую жандармерыю. Хадзілі пераможцамі і гаспадарамі аж да самага вялікадня. Ім і не снілася, што якраз на ўсяночную атрады Максіма Ляўкова, Андрэя Пуцяты і Ігната Жынко вярталіся ў дрымучую пушчу і асталёўваліся ў лясных буданах.

Ляўкоў паглядзеў, як па-гаспадарску завіхаюцца з сякерамі хлопцы, і абурыўся:

— Ці не зімаваць тут збіраецеся? Кіньце дурную работу! Ночы дзве паначуем, агледзімся, ударым па воласці, выкурым палякаў і — дадому.

— І то праўда,— згаджаліся хлопцы і апраўдваліся,— калі ж бо рукі без работы свярбяць.

Каля маленькага будана ў чыгунным казане Параска варыла пшонны крупнік. На неабструганым кіёчку, прыбітым да будана, вісеў крыху палінялы рэўкомаўскі сцяг. Кабета перахапіла вясёлы позірк камандзіра.

— Перасушваю, а папрасую ўжо дома. Хутка ж над воласцю павесім.

— Хутка, Параска. І цяпер назаўсёды. Не сённязаўтра Чырвоная Армія ўдарыць па ўсім фронце, а тут мы паможам. Так што хутка і дзетак сустрэнеш.

— Дай жа, божа. Падраслі, мабыць, за зіму. Ці пазнаюць хоць?

— Дзе ж яны цяпер?

— У маці на футары кідаюцца. Картопля е, дык што ім адходзіць? А сэрца ўсё ж ные. Толькі б здаровенькія былі.

Параска нудзілася па дзецях, па сваёй хаце і думала, думала пра Аляксандра Салаўя. Гэта ён перавяркуў усё яе жыццё. Здаецца, паклікаў бы, у агонь кінулася б за ім.

Яна ціха ўздыхала і часам малілася за яго.

На другі дзень вялікадня партызанскія разведчыкі дазналіся, што нехта застрэліў старога Рамана і ён дагэтуль ляжыць пры дарозе. Ноччу атрад Андрэя Пуцяты акружыў Хвойшо. Цішком знялі варту, і за якой паўгадзіны ад жандармерыі і пастарунка нічога не асталося. Ляўкоў у тую ж ноч захапіў Рудабельскую валасць, а Ігнат Жынко са сваім атрадам выбіў узвод легіянераў з маёнтка.

У сярэдзіне мая 1920 года ў валасці ўжо не асталося ніводнага акупанта. Партызаны перайшлі Пціч, баі грымелі паміж Зацішшам і Ражанавам, а праз Парэчча на дапамогу партызанам ішла Чырвоная Армія. Яна пачала наступаць па ўсім фронце. Скаланулася, захісталася, зрушылася, як веснавая крыга, узброенае, апранутае і адкормленае Антантаю войска. Яно пакідала беларускія мястэчкі і вёскі, гарады і гарадкі. Легіянеры ўскоквалі ў хаты, хапалі ўсё, што можа спатрэбіцца ў дарозе,— слоікі з мёдам, свежыя і вэнджаныя шынкі, сала, масла, яйкі. Адыходзячы, палілі за сабою масты. Яны баяліся лясных дарог: бярэзнікі і хвойнікі стралялі па акупантах,— партызаны адбівалі абозы з нарабаваным дабром.

Конніца і двухколкі ляцелі напрасткі па густым закаласелым жыце: так было смялей. Цягнуліся чорныя дарогі ў зялёным палявым моры — утаптаныя ў зямлю сцяблінны сіліліся і не маглі ўстаць, іх зноў і зноў дратавалі капыты уланскіх коней, цяжкія колы абозаў і пехацінскія боты.

Хлебаробы ўціралі слёзы жалю, крыўды і ўласнага бяссілля. Той, чые палоскі траплялі пад капыты і колы, адразу станавіўся жабраком.

Над гасцінцамі і палямі курыліся воблакі густога пылу, небасхіл зацягваўся дымам далёкіх і блізкіх пажараў — пілсудчыкі спаганялі злосць на саламяных стрэхах убогіх хацінак і замшэлых свіронкаў. У спёку яны палалі, як свечкі.

З кожным днём легіянерам прыходзілася прыспешваць крок: Чырвоная Армія гнала іх па ўсім фронце ад Дняпра да Прыпяці. Былі вызвалены Слуцк, Бабруйск, Асіповічы, Мазыр. У ліпені пілсудчыкі пакінулі Мінск. А следам ляцела чырвоная конніца: «Ура! Даёш Аршаву!»

Упарта тупала прапыленая і прапацелая пяхота: чаравікі, боты, пабітыя лапці мясілі пыльныя гасцінцы Беларусі. Сёлы частавалі байцоў хлебам і квасам, чарніцамі і агуркамі. Падцягваліся роты і ўзводы, напіналіся асцюкаватыя, даўно не голеныя кадыкі, і над палявымі прасторамі, над здратаваным жытам ляцела паходная песня.

Вызвалены Навагрудак, Ваўкавыск, Гродна. Беласток чырвоных байцоў сустракаў хлебам-соллю. Старшыня часовага рэвалюцыйнага кам.ітэта Польшчы Юліян Мархлеўскі горача вітаў чырвоныя палкі: «Не для таго ўступаюць у Польшчу нашы рускія браты, каб яе заваёўваць,— гаварыў ён.— Цяперашнюю вайну ім навязаў польскі ўрад. Яны змагаюцца перш за ўсё за мір для сябе, бо толькі мір дасць ім магчымасць вярнуцца дамоў, магчымасць пабудаваць новы лад».

З конным корпусам Гая па дарогах Польшчы ехаў і камбат Аляксандр Салавей. Ён радаваўся, што ідуць апошнія баі, што к восені гэтыя зморанья вайною хлопцы вернуцца ў свае вёскі, возьмуцца за плугі і сявенькі. Прыйдзе дадому і ён. Агоркла наступаць і адступаць, у спёку і ў сцюжу начаваць у полі, столькі гадоў ваяваць. А пакуль што... пакуль што трэба першаму ляцець у атаку, заходзіць у тыл ворагу, калі трэба, хадзіць у разведку. Яго бачылі ў самых гарачых сутычках.

Чым глыбей Чырвоная Армія заходзіла ў Польшчу, тым баі станавіліся цяжэй і цяжэй. Пілсудскі мабілізаваў усіх здольных трымаць зброю. Антанта дала гэтую зброю і на чале польскай арміі паставіла французскага генерала Вейгана.

Чырвоныя палкі ў кожным баі трацілі людзей, коней і зброю. Абозы з боепрыпасамі і харчаваннем адсталі недзе далека ў тылах. Ужо былі відаць агні Варшавы, а Пілсудскі пасылаў у бой усё новыя і новыя сілы. То тут, то там белапалякі прарывалі фронт. На Вісле часці Чырвонай Арміі выцягнуліся ў тоненькі ланцужок, не маючы рэзерваў, не замацаваўшы занятый рубяжы. Кожны дзень раслі ахвяры, і, не вытрымаўшы націску намнога большых сіл, Чырвоная Армія адступіла.

Пад восень у рэўком прынеслі заклееены хлебным мякішам канверт. Хімічным алоўкам на ім было напісана: «Рудабелка, Бабруйскага павета, Раману Салаўю».

З вясны Рамана не было на свеце. Ганна з'ехала да свае радні ў Залессе, як у ваду канула і Марыля. Адны казалі, што і яе разам з бацькам застрэліў Сымон Гавароўскі, другія — што забілі каля Бярозаўкі. А пэўна ніхто нічога не ведаў. Аддаваць пісьмо не было каму. Пакруціў яго ў руках новы старшыня Ігнат Жынко.

— Каму ж аддаць? — запытаў у сакратара Карпа Жулегі.

— Каму ты аддасі? Разарві, ды пачытаем,— прапанаваў Драпеза,— можа, што пра Аляксандра дазнаемся. Каторая пара — ні слуху ні духу... Як у пельку боўтнуў, і знаку няма.

Ігнат разарваў канверт. На цупкай жоўтай паперы бойкім почыркам з пісарскімі кудзеркамі было напісана:

«Паважаны дзядзька Раман Салавей!

Пісьмо пушчана 29. VIII. 1920 года. Піша Вам таварыш Вашага сына, камандзір роты 472-га палка, Сцяпан Герасімовіч.

Мы з Аляксандрам Раманавічам служылі ў бабруйскім каравульным батальёне, былі разам у Смаленску, білі белыя банды каля Асвеі і Рэжыцы, з корпусам таварыша Гая наступалі на Варшаву. Які адважны камандзір быў Аляксандр Раманавіч, ведае ўвесь наш корпус.

Раніцою 15 жніўня таварыш Салавей А. Р. і яшчэ шэсць коннікаў прыкрывалі абоз з раненымі байцамі. На іх наляцеў цэлы ўзвод уланаў, і пачаўся няроўны бой. Доўга біліся чырвонаармейцы. Дзевяць уланаў паклалі яны, але з усімі справіцца не хапіла сілы. Калі загінулі таварышы, Аляксандр Раманавіч адбіваўся адзін. Але ўланы наляцелі з усіх бакоў і пасеклі камандзіра. Нават каня яго парубалі шаблямі.

Аляксандра Раманавіча мы пахавалі ў маладым хвойніку каля мястэчка Кольна. Гэта аж на той бок Немана. На магіле ўкапалі бярозавы слупок і на ім напісалі імя і прозвішча.

Вельмі не плачце, дарагі дзядзька Раман. За смерць таварыша Салаўя мы адплоцім сусветнаму капіталу.

Нізкі паклон ад усіх баявых сяброў Вашага сына.

Камроты *С. Герасімовіч*».

Пісьмо выпала з Ігнатавых рук. Ён моўчкі апусціў галаву. Нехта цяжка ўздыхнуў:

— І такіх смерць не мінае!

— Не смерць, а ворагі нашы.

Каля парога Гэля трымала на руках чарнавокага хлопчыка ў палатняным каптурыку. Па прыгожым твары маладзіцы цяклі слёзы. Параска загаласіла і выскачыла з валасці.

Над ганкам трапятаў трошкі палінялы за лета той самы чырвоны сцяг, які некалі Аляксандр прынёс у салдацкім мяшэчку.

Нізка над пыльным полем павісла барвовае сонца. Блішчалі барозны тлустай, перавернутай плугамі раллі. Не ведаючы, куды кінуцца, Параска вузкай мяжою пабегла за сяло. Цупкае сухое бадыллё хвастала ногі, слёзы і сонца сляпілі вочы.

На мяккай раллі роўным ланцугом ішло чалавек дваццаць сейбітаў, без шапак, у чыстых палатняных кашулях. Яны спорна махалі рукамі, і зярняты, нібы кроплі залатога дажджу, падалі на зямлю. Здавалася, сейбіты ідуць у зіхатлівым коле вялікага сонца. Следам у ружаватым пыле калываліся постаці баранавальшчыкаў. Параска падбегла да свайго Васілыса. Маленькі запылены мужычок у зрэбных

штоніках ледзь паспяваў за канём. Параска хацела выцерці слёзы, але толькі размазала іх па шчоках.

— Ты чаго, мама?

— Прыбегла паглядзець, як ты тут упраўляешся.

— Не, плакала чаго?

— Ад радасці, сынок. Бач, зямлі цяпер колькі ў нас. Слабоду заваявалі, і ты ўжо работнікам стаў.

— А болей яе ніхто не адбярэ? — паганяючы каня, запытаў Васілёк.

— Хіба ж ты аддасі каму? — ідучы побач з сынам, запытала Параска. Васілёк памаўчаў.

— Хто гэта аддасць?

Параска ўсміхнулася, узяла з сынавых рук лейцы.

Калі зайшло сонца, камунары дасеялі жыта.

1966-1967 гг.

## БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА

Сяргей Грахоўскі нарадзіўся 24 верасня 1913 года ў в. Нобель былога Пінскага павета Мінскай губерні (цяпер Ровенская вобл., УССР).

У 1914 годзе разам з маці пераехаў у м. Глуск. Там скончыў сямігодку. У 1930-1931 гадах працаваў рабочым на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце.

Друкавацца пачаў у 1926 годзе ў дзіцячым часопісе «Беларускі піянер», а затым у бабруйскіх і рэспубліканскіх выданнях.

У 1935 годзе скончыў літаратурны факультэт Мінскага Вышэйшага пецінстытута імя Горкага. Працаваў на Беларускім радыё, настаўнічаў у школах на Случчыне і ў Новасібірскай вобласці.

С. Грахоўскі — аўтар зборнікаў верша ў «Дзень нараджэння» (1959 г.), «Чаканне» (1960), «Табе зайздросціць сонца» (1963), «Памяць» (1965), «Тры вымярэнні» (1967), «Зазімак» (1976), «Зачараванасць» (1978). С. Грахоўскаму належаць кнігі прозы: зборнік апавяданняў «Які вялікі дзень» (1966), аповесці «Рудабельская рэспубліка» (1968), «Гарачае лета» (1974), «Ранні снег» (1975), «Суровая дабрата» (1977). Многія кнігі паэзіі і прозы С. Грахоўскага выходзілі ў выдавецтвах Масквы і ў перакладзе на мовы братніх народаў. Некалькі кніг паэзіі і прозы адрасавана самым маленькім і юным чытачам.

Па аповесці «Рудабельская рэспубліка» на кінастудыі «Беларусьфільм» створана мастацкая карціна, у Дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Я. Купалы і Гомельскім абласным тэатры пастаўлены спектаклі па гэтай аповесці. С. Грахоўскі шмат працуе над перакладамі паэзіі і прозы.

## ЗМЕСТ



**Грахоўскі С.**

Дзве аповесці: Ранні снег. Рудабельская рэспубліка.— Мн.: Маст, літ., 1980.— 448 с., 1 партр. — (Б-ка беларус. прозы). У пер.: 1 р. 80 к.

Змест кнігі складаюць аповесці «Ранні снег» і «Рудабельская рэспубліка». У першай раскрываецца лёс інтэлігента, які прайшоў праз цяжкія выпрабаванні Вялікай Айчыннай вайны, а другая — праўдзівы расказ пра гераічнае мінулае палескай вёскі Рудабелкі, яе людзей.